Васіль Ткачоў

# ТАК І ЖЫВЁМ, БРАТ

*Аповесці*
*Апавяданні*
*Маленькія былі*

г.Мінск,
«Мастацкая літаратура», 2013

У кнігу ўвайшлі лепшыя апавяданні і аповесці пісьменніка Васіля Ткачова – лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, прэміі імя Васіля Віткі і расійскай прэміі Баяна

Пераважная большасць твораў – пра людзей, якіх у народзе мы называем “дзівакамі”, аднак без іх, як лічыць аўтар, не такім цікавым было б наша супярэчлівае жыццё.

З цікавасцю пазнаёміцца чытач таксама з аповесцямі “Участковы і фокуснік”, “Гульня”, “Пост” і “Да неба камень не дакінеш”.

Пісьменніка цікавяць характары шчырыя, сумленныя, здольныя з адказнасцю жыць і працаваць. Усе героі гэтага аўтара нясуць у сабе багаты свет дабрыні і адданасці бацькоўскаму куту, вернасці роднай беларускай зямлі.

Адзін з крытыкаў назваў Васіля Ткачова майстрам сюжэта. У гэтым можна пераканацца, пазнаёміўшыся з яго новай кнігай.

.

# Аповесці

## УЧАСТКОВЫ І ФОКУСНІК

Прысвячаю Валянціну Чэпелаву

1

Ну, вось і дачакаліся, здаецца, у Хутары новага настаўніка. Нарэшце. Гэта, нагадзіцеся, падзея – колькі гадоў запар нагадваў дырэктар мясцовай школы раённаму аддзелу адукацыі, што задыхаюцца яны тут без філолага, і – урэшце перамог: учора ранкам патэлефанавалі з райцэнтра, каб сустракалі Івана Валянцінавіча Шэпелева. Як і прасілі. Назвалі нават прыкметы: высокі, русявы, у акулярах – так што не пераблытаеце. Павесіўшу трубку, дырэктар Саксонаў ухмыльнуўся: «З кім тут блытаць? З бабкай Суклетай ці з дзедам Цыганком?» І, задаволена пацёршы далонь аб далонь, крэкнуў і строга загадаў сам сабе: « Сустрэць, як і належыць!» Крама – цераз дарогу, ён скоса глянуў на ўваходныя дзверы: адчынена. Так, значыць, п’е не п’е, а пляшка павінна стаяць на стале. Як бусел на адной назе: гэта наш, беларускі, пейзаж. З дарогі і перакусіць належыць. Тым больш што халасцяк – вечна галодны, канешне ж, што воўк у піліпаўку. Саксонаў уявіў, як сустракае ён новенькага, вядзе да сябе на кватэру, і яны знаёмяцца – малады настаўнік і стары, але таксама, прабачце, халасцяк. Якое супадзенне, браткі! Але ж халасцяк ён, праўду кажучы, малады: толькі сёлета адправіў ён сваю кабету ў горад – дзе ўзяў, як кажуць, там і паклаў. Дужа відна тут, у вёсцы, усім было, чым яна займалася, хоць і настаўніца таксама... Там, у горадзе, прасцей – поўна людзей, затрэцца, згубіцца. Шкада сына, але малы будзе пад наглядам дзядулі з бабуляй. Гэта суцяшала. Саксонаў зрабіў сёлета і другі, не менш важны, крок у сваім жыцці: як толькі адправіў жонку з сынам, аддаў кватэру – двухпакаёвую, з усімі выгодамі – матэматыку Кручкову, у якога двое дзяцей, а сам перайшоў жыць да бабкі Суклеты. На такое не кожны адважыцца. Тым больш дырэктар. І хоць кажуць, што двойчы ў адну раку не ступіш, ён ступіў: тут, у Суклеты, кватараваў, калі прыехаў у Хутар настаўнічаць – таксама пасля інстытута, як вось і нейкі Шэпелеў у акулярах. Адна розніца, што Шэпелеў – адзін. «Шчаслівы» – усміхнуўся сам сабе Саксонаў і патупаў у краму.

2

У аўтобусе, што калываўся на выбоінах, побач з Шэпелевым сядзеў учасковы Баравы Яўген Ягоравіч. На ягоных запыленых пагонах было па дзве малюпасенькія зорачкі, а чырвоныя шчокі палалі здароўем – як і кожнага разу, калі ён ездзіў у раён на нараду. На каленях участковы трымаў поліэтыленавы пакет, у якім – хочаш ты таго ці не – на вочы новаму настаўніку лезлі бохан хлеба цаглінкай, круглы слоік селядцоў, шматок варанай каўбасы і лупаты кантэйнер для яек. Участковы раз-пораз папраўляў пакет, падцягваў яго бліжэй да жывата, шморгаў носам і вадзіў круглай, бы гарбуз, галавой па баках: цікавіўся, хто едзе, з якім настроем, што вязе. Шэпелеў адчуваў, што міліцыянер хоча завязаць з ім гамонку, але – дзівосы! – не адважваецца. На міліцыянера гэта не падобна. Тады папытаў сам :

– Далёка яшчэ, таварыш лейтэнант, да Хутара?

– Ды не,– ажывіўся ўчастковы. –Тут блізка. Дык да нас, значыць?

– Так.

– А з якімі мэтамі?

– Працаваць. Настаўнічаць.

Участковы падаў руку, патрос далонь Шэпелеву:

– Будзем знаёмы: участковы.

І назваў прозвішча, імя сваё і па-бацьку. Тым жа самым адказаў і настаўнік. Таму дарога да Хутара падалася не такой дрогкай. Участковы распавёў пра сябе, малады настаўнік—таксама. Першаму ў два разы больш гадоў, чым Шэпелеву. Мясцовы. Хваліўся, што людзі яго паважаюць, таму што баяцца. Жанаты. Мае двух сыноў. Абяцаў пазнаёміць з жонкай, яна ў яго працуе ў мясцовым клубе загадчыцай.

– А як ажэнішся, то пазнаёміш са сваёй жонкай і ты мяне,– папярэдзіў участковы іікнуў: праўду гамоніць, не інакш.

Шэпелеў на гэта нічога не адказаў. Аднак участковы не пакрыўдзіўся -- і так багата чаго пра яго ўжо ведаў. Скончыў толькі што ВНУ, адзіны сын у бацькоў, вясковых настаўнікаў. Калі сабраўся паступаць у педінстытут, то маці, скрыжаўшы рукі на грудзях, не ўхваліла – наадварот, была супраць: «Лепш, сынок, ідзі на трактарыста...» Сын тады не мог аніяк зразумець маці –ганарылася б, што сабраўся працягваць яе справу, а яна? Ён не паслухаўся, паступіў на філалагічны. І вось цяпер едзе ў вёску з цікавай і

загадкавай назвай Хутар. Быццам здагадаўшыся, што да вёскі малады настаўнік ставіцца насцярожана, участковы патлумачыў:

– Не думай, дружа, што калі Хутар – то гэта хутар і ёсць на самай справе. Не хаваю, не: раней і сапраўды тут было ўсяго тры двары. Але тое раней – мала хто і помніць. Сёння ж наша вёска вялікая, ды і школа ж сярэдняя. А гэта пра многае гаворыць. Ці не так?

Пэўна, так.

А вунь і вёска паказалася на пагорку. На сонцы ярка блішчэў купал царквы. Участковы, і гэта добра бачыў настаўнік, усміхнуўся куточкамі вуснаў:

– Прыехалі, чаго не ўбачылі!

А траха памаўчаўшы, папытаў:

– Дык куды ты, вучыцель? Мо да мяне? Замацуем нашу сустрэчу, так бы мовіць, а? Табе ж усё роўна трэба некуды ісці, бо ў нашым Хутары пакуль ты чалавек чужы. Набываць аўтарытэт будзеш, каб сваім стаць. Падсоблю, калі слухацца станеш.

– Я не супраць.

– Дамовіліся.

Аднак планы ўчастковага разбурыў дырэктар Саксонаў, які страчаў аўтобус на прыпынку. Участковы гэта адразу зразумеў, і, набліжаючыся на таго, не хаваў радасці:

– Гэта я табе, Паўлавіч, прывёз настаўніка. Паглядзі, які мацак. Да таго месца, адкуль ногі пачынаюцца, жардзінай не дастанеш. Прымай, Паўлавіч! Сустракай!

Саксонаў падаў Шэпелеву руку, яны пацiснулі адзін аднаму далоні.

– Чакаю, чакаю,– на твары дырэктара пазначылася шырокая ўсмешка.–Не помню ўжо, колькі гадоў. Але – багата. Так што – прашу да мяне. І вы таксама, Ягоравіч.

– Да цябе дык да цябе,– сумеўся спярша участковы, але ход падзей яго, падалося, задаволіў цалкам.– Каб і не запрасіў, Паўлавіч, скажу табе шчыра, то я ўсё роўна пацёгся б да Суклеты ці, дакладней сказаць, да цябе. Пасля гораду мне карціць заўсёды пасядзець сярод разумных людзей. Так што ганарыцеся і бойцеся. Я ваш раб на сёння. Дык што, патупалі?

– Патупалі,– кіўнуў дырэктар і зашоргаў сандалетамі па гравійцы.

Участковы ўсю дарогу сыпаў слоўцамі, а малады настаўнік толькі слухаў: разумеў, што пакуль яму тут рана шырока разяўляць рот.

Каб чаго не падумалі.

3

У той жа дзень увесь Хутар вырашаў стратэгічную задачу – дзе будзе жыць новы настаўнік. У апошні час жыллё не будуецца, а ў тым, што для настаўнікаў некалі згарбузавалі падрадным метадам, не ўцiснуцца. Дзед Цыганок (ён некалі, калі малым быў, прычапіўся да табару, што стаяў на поплаве перад вёскай, што ледзь бацька выманіў яго адтуль, таму і пайшло – Цыганок ды Цыганок, ён трохі і падобны на цыгана—такі ж чорны), выклаў у мясцовай краме сваю версію:

– Дзілектар змарозіў тут, што кварцеру аддаў. Дурань, хоць і граматны. Раскідон. Скажы каму – не павераць. А так ён бы жыў у сябе, як і жыў, а ў Суклеты хлапцу-настаўніку было б зручна. I школа блізка, і Суклета ўжо без гэтых кварцірантаў, гавораць, жыць не можа. Цягне яе, бачце, да разумных людзей – і ўсё тут. Яна з імі агульную мову знаходзіць. Ну, калі б, да прыкладу, я прыхінуў да сябе кварціранта? Пра што я б з ім баіў? Прывёў чалавека ў хату – пагаварыць жа трэба, а ў мяне вузкая спецыялізацыя – вясковая, ад баразны і плуга дакумент. А Суклета ўмее-е-е, яна спецыяліст па настаўніках шырокага профілю.

З Цыганком пагадзіліся ўсе, хто быў у краме. У Суклеты было б настаўніку добра. Але ж там – занята, там жыве сёння самы галоўны настаўнік. Так што ад варот паварот. Нехта з мужчын кіўнуў на крамніцу Лізку:

– Узяла б хлапца сабе. Нічогі! Прыгожы-ы!

Крамніца Лізка хмыкнула, страсаючы цукар з саўка ў цалафанавы пакет:

– Вельмі я яму трэба з хвастом!

Хвост у Лізкі сапраўды маеццца – двое дзетак ажно, а муж недзе сабакам сена косіць. Калі не прапаў зусім. Як паехаў па доўгі рубель гадоў колькі назад, то не слыху, ні духу. Напарнік, Колька Шалапут, які з ім быў у Маскве на заробках, кажуць, быццам перадаў Лізцы, каб не чакала. «Ён з армянамі палаяўся, тыя вывелі яго з вагончыка, і больш Хлебарэза (у арміі рэзаў на кухні хлеб на ўвесь полк) ніхто не бачыў...» Мо і праўду гаварыў? Але ж п'яны быў Колька, як цюцька, калі балаболіў. Ці мала пад градусам чаго можна нагаварыць? А цвярозы не бывае. Не падкараўуліць.

Землякі зразумелі, што Лізка ім тым хвастом заткнула раты, таму зачахлі на нейкі момант, пра соль ды хлеб пагаманілі, а тады ўсё ж вярнуліся да ранейшага—ну калі хвалюе іх, людзей, дзе жыць будзе чалавек. Не пад голым жа небам. Не на дварэ ж.

– Павёў да сябе дзілектар,– сказаў, перакульваючыся, бы качка, з адной нагі на другую, стары Цыганок. – Не прагоніць. А там самі разбяруцца. І ўчастковы там. Баравы можа да любога з нас прывезці і загадаць: настаўнік будзе жыць там, дзе я сказаў! І што ты яму зробіш? У вочы плюнеш? Глядзі, каб самому безікі не заляпіта тым, чым пляваў. А? Ці няпраўду кажу?

У Хутары ведалі, што Цыганок гаворыць заўсёды толькі праўду, нават калі і хлусіць, таму пагадзіліся адзінадушна: а што ж яшчэ, калі не яе, матухну?

Неўзабаве крама апусцела, толькі адна Лізка падфарбоўвалася перад люстэркам.

На ўсякі выпадак.

4

Выпілі па чарцы. Прыгубіла крышачку і Суклета – больш за кампанію, яна заўсёды так рабіла: не адмаўляецца, калі запрашаюць да стала, ёй галоўнае пасядзець і паслухаць, а паколькі старая і сапраўды ўжывала толькі «адзін грам», то яна была жаданым госцем за сталом. І да таго ж заўсёды шчодрым – у яе і капустачка і агурочак знойдуцца да прынесенай кватарантам ці ягоным спадарожнікам каўбаскі або кансервы.

Закусваючы, участковы нахвальваў перш-наперш дырэктара школы Саксонава, потым старшыню сельсавета Ахрэмчыка, абмінуў старшыню калгаса Каляду, бо той у апошні час зусім адбіўся ад рук: задраў нос, нуль увагі на прадстаўніка ўлады. Не помніць ужо ўчастковы, калі ласаваўся калгаснай свежынай. Не даражыць сяброўствам, не даражыць. Быць не можа, каб калі-небудзь не спатрэбіўся яму Баравы. «Тады заспяваеш у мяне Лазара!» – прыгадаў ён сваю любімую пагаворку, аднак услых не асмеліўся яе агучваць. Услых участковы сказаў наступнае:

– Трымайся мяне і вось яго, Саксонава. Я правільна гавару, дырэктар?

–Усё, як кажуць, у кропку,– кіўнуў той і праглынуў скрылёк сала.

– Я абы- чаго не гутару. Рыбак? Паляўнічы?

Шэпелеў пакруціў галавой: і не рыбак, і не паляўнічы.

– Навучым. Адукуем. Прасцей простага. А даруй, настаўнік, што ты можаш? Тваё, так бы сказаць, хобі? Ну, вучыць дзяцей. Раз. А што ў нас на два ў меню?

Малады настаўнік не зводзіў вачэй з участковага, і хоць Суклета заўважыла участковаму: «Чаго ты прычапіўся да хлапца, Ягоравіч?»,

той махнуў у яе бок рукой, не зважаючы на словы, падрыхтаваўся пачуць: давай, кажы, натапырвай розум. Шэпелеў успомніў пра кантэйнер з яйкамі, які выглядваў з поліэтыленавага пакета ўчастковага ў аўтобусе і папрасіў дазволу нешта там узяць.

– Калі ласка! У чым справа?– дазволіў участковы.

Шэпелаў узяў у кантэйнеры яйка, пастараўся зрабіць гэта так, каб ніхто не заўважыў, што ён там узяў, вокамгненна схаваў яйка ў кішэні і паказаў усім рукі:

– Нічога няма?

– Няма,– за ўсіх адказаў участковы.

– А зараз? – і ў руцэ настаўнік трымаў яйка, і дастаў ён яго аднекуль з-пад пахі так хуценька і спрытна, што ніхто і вокам не паспеў міргнуць.

– Паўтары!– загадаў участковы. – Прашляпіў. Буду больш уважлівым. Ну, ну. Цікава. Адкуль ты яго узяў? І вы, грамадзяне, сачыце. Суклета, чуеш? Паўлавіч! Так, глядзім!

Настаўнік зноў выцягнуў яйка. Участковы лыпаў вачыма, шукаў спагады ў дырэктара і старой, але і яны разводзілі рукамі: нічога не зразумелі і прасілі паўтарыць. Ён паўтарыў разоў колькі фокус, але так спрытна маніпуліраваў рукамі і целам, што зноў ніхто нічога не зразумеў. А Суклета папытала:

– Сынок! Сынок, дык табе ж цаны няма! Ты хоць гэта разумееш? У мяне ж ужо і куры павыводзіліся, то і не буду зоводзіць: мяса я не ем, з маімі зубамі толькі кашу маннную добра жаваць, а яек і ты можаш нарабіць. Прыходзь хоць кожны дзень... і шпурляй яйкі. Я не скнара, мне багата не трэба – дзесяць адразу зможаш зрабіць? Мне тады надоўга хопіць.

Шэпелеў рассмяяўся і нічога не адказаў.

– А вось яшчэ адзін фокус,– паглядзеў настаўнік на вяскоўцаў.

– Ну, ну,– участковы падсеў бліжэй да фокусніка. – Пачынай.

– Пачынаю. У мяне, як вы бачыце, нічога ў руках няма. Так?

– Не сляпыя,– зноў адказаў за ўсіх участковы.

–А зараз?– пасля таго, як павадзіў Шэпелеў па пінжаку, дзе ў яго быў рад вялікіх гузікаў, паказаў металічны рубель.

– Паўтары!

– Калі ласка!– І настаўнік неўзабаве зноў трымаў на далоні рубель.

Як? Адкуль? Усяго, здаецца, пабачылі гэтыя людзі, а вось такіх фокусаў – не, не даводзілася. Калі толькі па тэлевізары. Дык то ж – па тэлевізары, там і абдурыць могуць. А ён жа, фокуснік, вось тут, побач з табой за сталом, з адной бутэлькі горкія кроплі п’юць, з адной

талеркі скрылікі сала і агурочкаў нанізваюць на відэлец. І, глядзі ты, не прызнаецца, не выдае сакрэтаў! Асабліва распаліўся участковы, ён аніяк не мог змірыцца з тым, мабыць, што нейкі зялёны настаўнік, смаркач, круціць перад ягоным носам фокусы, а ён, як дурань, толькі лыпае вачыма. Нават падумаў, што як учасковы ён – нуль, слабак слабаком, і праўду,мусіць, гаварыў адзін яго знаёмы міліцыянер: «Бяруць дурняў на работу, а патрабуюць, як з разумных».

Участковы нікому не прызнаўся, што калі вярнуўся дахаты, то спярша перабіў кошык яек, а потым паадрываў з мундзіра ўсё гузікі – спрабаваў паўтарыць фокус з рублём, але ў яго нічога не атрымалася. Жонцы казаў:

– Асвою фокус, я увесь райаддзел тады на вушы пастаўлю! Паказчыкамі не вазьму, дык вазьму фокусамі. Чуеш, Анюта? Не хочаш слухаць. А дарэмна. Я вось што табе скажу: з гэтым новенькім настаўнікам я павінен пасябраваць, быць на кароткай назе. Што і будзе зроблена.

5

На другі дзень пра яйкі і металічны рубель гаманіў увесь Хутар. Паколькі вясковым цэнтрам вуснай інфармацыі была ўсё тая ж крама, дзе людзі не толькі атаварваліся, але і набіраліся патрэбнай ім інфармацыі, то там і адбыўся маленькі сход, на якім стаяла адно пытанне – дзе будзе жыць малады настаўнік? Дзед Цыганок быў найбольш катэгарычны:

–Вазьмі такога, то ён табе бяды наробіць.

–Як гэта?– не разумела Лізка.

– А вельмі проста. Коса глянеш на яго ці блін нясмачны падсунеш, то на слівах не слівы вырастуць, а якія-небудзь воўчыя ягады. Ці, калі ўжо на тое пайшло, куры пачнуць не яйкі несці, а якія-небудзь жалуды. Вось і грызі іх. Як дзік той. Не, мне хай прыплоцяць, а такога кватаранта нізашто не пушчу далей парога. А вы як хочаце!

Памаўчалі. Па праўдзе кажучы, недзе ж трэба жыць настаўніку. Адну ноч ён пераначаваў у Суклеты, але ж пастаянна там жыць не выпадае: жыць з дырэктарам, з начальнікам,-- даруйце!.. Гэта людзі разумелі. І перабіралі кандыдатуры, хто б мог прытуліць настаўніка. Чалавек, па ўсяму бачна, добры, талковы. Але ж – фокуснік. І трэба было яму паказваць-дэманстраваць свае глупствы. Ну, знайшоў бы вугал, тады ўжо і прызнаваўся, што рукі ў яго не такія, як у астатніх. Дык не ж – нецярпелася яму, блазнюк!

У самы разгар спрэчкі ў краму зазірнуў участковы.

– Пра што гамонім?– строга папытаў ён і пацікавіўся ў Лізкі, ці ёсць у яе вось такія гузікі – адзін паказаў ёй.

Крамніца адмоўна крутнула галавой, на што участковы заўважыў:

– Шкада. Завоз у вас, мушу заўважыць, нікудышны.

– Гэта ж міліцэйскія гузікі, навошта яны нам?– здзівілася Лізка.

А дзед Цыганок папытаў – ён заўсёды цікавіўся, калі што-небудзь не разумеў:

– А дзе ты, Ягоравіч, гузікі пагубляў? Ці не фокуснік паадшчыкваў?

І стары хехекнуў.

На што ўчастковы прытупнуў нагой:

– Цыц!

Калі ўчастковы знік, у краме зноў загаманілі пра фокусніка. Карцела ўсё ж паразважаць, хто яго узяў бы на кватэру, і па меркаваннях усіх, такіх быццам і не знаходзілася. Сам сабе нашкодзіў калі ж чалавек.

Прыйшла Суклета, павіталася, а калі дзед Цыганок папытаў, што робяць дырэктар і новы настаўнік, то яна адказала:

– Шукаюць кватэру.

Дзед Цыганок пацікавіўся:

– А ты б сама, маладзіца, яго ўзяла?

– А ты?

– А што я?

– А што я?– і старая патупала з крамы.

– Вось і пагавары з ёй,– плюнуў услед дзед Цыганок.–Халера, а не баба! Сярод разумных людзей увесь век жыве, то ўжо з намі, простымі смертнымі, і размаўляць не жадае. А ну яе! Ці ў нас сваіх клопатаў мала? Нешта мы пра настаўніка думаем? У яго самога галава на плячах ёсць –і няроўня нашай. Не прападзе. Зваж, Лізка, халвы. Нешта мяне на халву пацягнула. Ды пайду дамоў. А то дзень бындаю, што той сабака бяздомны.

Неўзабаве ў краме засталася адна Лізка, і яна зноў круціла носам і шчокамі перад люстэркам. А раптам новы настаўнік зазірне ў краму? Усе толькі пра яго і гамоняць, а хоць бы глянуць на яго адным вокам. Што там за цаца такая? Тым больш, што высокі, прыгожы, кажуць. І плюс да ўсяго яшчэ і фокуснік. А ёй, Лізцы, даўно хацелася нейкіх фокусаў... Х-хі !..

6

Участковы Баравы прыходзіў у краму не за гузікамі. Гэтых гузікаў хапае і дома. Пасля ўчарашняга ў яго страшэнна, нават шалёна балела галава, а як палячыць яе – не ведаў. Заначка засталася ў райцэнтры, прасіць у жонкі дарэмна: на пахмелле кабета не ахвяруе ніколі, хоць на калені плясніся перад ёй. Ісці да Суклеты? Хоць і міліцыянер, а ўсё роўна няёмка: што падумаюць дырэктар і фокуснік? Не, не справа гэта. Заставаўся адзін варыянт – крама, вэксаль. Лізка выручыць. Прытупаў, а там, у краме, поўна народу, і як заўсёды гэты дзед Цыганок. Пры ім не папросіш – разнясе па ўсёй вёсцы. Ды і астатнія таксама адкусяць палец, толькі пакладзі ў рот. А калі зайшоў участковы ў краму, то, убачыўшы столькі людзей, разгубіўся і не знайшоў сказаць нічога іншага, як папытаць пра гузікі. Мог бы і пра яйкі.

Таму адразу ж з крамы ўчастковы выйшаў на працу. Канкрэтна. Ён дастаў з кішэні свісток з гарошынкай усярэдзіне, лёгенька падзьмуў у яго: парадак. Агледзеўся па баках. Як толькі ўбачыў на вуліцы хлапчука, зноў падзьмуў у свісток. Хлапчук спыніўся, паглядзеў на ўчастковага, а калі той памахаў яму, каб ішоў да яго, паслухаўся.

– Што? Г-гы...– глядзеў на ўчастковага бяззубым ротам хлапчук.

– Свіснуць хочаш?

– Калі дасце.

– На.

Хлапчук свіснуў так гучна і працягла, што ажно участковы заткнуў вушы: уго! І вярнуў свісток.

– А яшчэ хочаш?

– Можна.

– Дам свіснуць добра, калі і ты мне нешта зробіш карыснае...

– А што ?– зацікавіўся хлапчук.

– Пакаж, дзе бацька самагон хавае.

– А што будзе яму?

– Малы, малы, а хітры. Хвалю хітрых. Бацьку, пытаеш, што будзе? А нічога. Вып’ю шкляначку-другую, пагладжу твайго татку па галаве, а ты насвісчашся на ўвесь год наперад. Дамовіліся?

– Дайце падумаць.

– Думай.

– У пуні ў бочцы з зернем, а зверху сена.

– Больш канкрэтна.

– Перад сенам у куце... Куфайка зверху.

– Свішчы. Давай, давай яшчэ трохі. Малайчына. У цябе добра атрымліваецца. Падыходзь і заўтра – дам свісток. Ну, а цяпер вярні мне яго, бо ты дужа моцна дзьмеш... здаецца, што тая гарошына ў маёй галаве кідаецца з кута ў кут, як азвярэла ўсё роўна. Відаць, паснедаў добра.

Перш, чым браць накірунак да пуні з самагонам, участковы завітаў дадому, узяў у клеці спідометр з матацыкла, які ўжо колькі год вісеў на цвіку, працёр нейкай анучкай пыл і, схаваўшы яго пад мундзір, адправіўся «на баявое заданне». Гаспадар самагону, нехлямяжы насаты дзяцюк Мірон быў дома, нешта габляваў пад паветкай, а калі ўбачыў на падворку ўчастковага, крыху разгубіўся: не кожнага дня той прыходзіць да яго.

– Самагон ёсць? – папытаў, нават не павітаўшыся, участковы.

Мірон разгубіўся яшчэ больш, нават злёгку задрыжэлі губы, таму адказаў не адразу, а толькі перавёўшы дых і сабраўшыся з думкамі і сіламі:

– Адкуль, Ягоравіч?

– Хлусіш.

– Дык каб жа ў мяне быў той самагон, як ты кажаш, я б хіба быў такі пануры?

– Быццам і праўда. Але ты п’еш умела. Так што паказвай, паказвай, дзе ён схаваны, праклятых. Чуў, пачалася аперацяя «SOS»? Самагон аддай сам. Не, то кепска, іншы раз трэба газеты чытаць.

– Праскочыла міма...

– Але тут, у цябе, спадзяюся, міма я не праскочу. Ці не так? Ну дык дзе самагон?

– Шукай, Ягоравіч. Паказвай ордэр на вобыск, і – уперад. А я пагляджу, як знойдзеш. Ордэр ёсць?

– Я табе пакажу такі ордэр, што ты ... нічога бачыць не захочаш. Ордэр яму паказвай. Буду я за ім ездзіць у раён. Ты ведаеш, Мірон, колькі мне каштуе адна паездка туды? Не, то і ведаць не трэба.– Ён выцягнуў з-пад мундзіра спідометр, паклаў яго на далонь і, трымаючы фантастычнае прыстасаванне для палахлівых на далоні, асцярожна, нетаропка паруліў да хлеўчука. – Туды, туды паказвае... Адчыняй дзверы, Мірон.

– Адчынены.

– Гэта добра. Так, так... – пераступіўшы нізенькі парожак, участковы апынуўся ў хлеўчуку і адразу ж глянуў у кут перад сенам і ўбачыў куфайку...–Калі верыць майму прыбору, а гэта не абы-якая рэч, то самагон вось тут, пад куфайкай. Прыбор рэагуе толькі на

самагон. Сам пакажаш ці мяне прымусіш калупацца ў бочцы з зернем, Мірон?

Мірон здаўся. Участковы яшчэ доўга сядзеў у яго за сталом, апахмяляўся, баіў байкі, а потым чамусьці дастаў з кішэні свісток і працягнуў яго гаспадару хаты:

– Свіснуць хочаш?

Мірон, пачуўшы такое ад участковага, ледзьве не зваліўся з лавы, на якой сядзеў.

– Паўтараю пытанне: свіснуць хочаш?

– Пытання не разумею,– сабраўшыся з духам, вымавіў Мірон. – Я што, дзіцёнак? Ці міліцыянер? Не першы і не другі. Так што, Ягоравіч, прабачце – не па адрасу.

– Разумна: не па адрасу,– пагадзіўся участковы. – А ты, свісток, малайчына: сёння сваю справу зрабіў, адпачні ў маёй глыбокай кішэні. Можа так быць, што і заўтра спатрэбішся. Не магу ж я сёння ведаць, што з маёй галавой будзе заўтра. Яшчэ раз выказваю свайму свістку падзяку: дзякуй, свістуля. Маеш права адпачыць. Ну, мне пара.

Мірон праводзіў участковага задумлівым позіркам і ніяк не мог зразумець, чаму ён дзякаваў свайму свістку, за якія такія заслугі?

Паспрабуй тут разбярыся…

## 7

У той час, калі ўчастковы вяртаўся дахаты ад Мірона і мумкаў сабе пад нос нейкую мелодыю, дырэктар і новы настаўнік хадзілі па вёсцы і шукалі хату, дзе б мог спыніцца апошні. Трэба паспяшацца – верасень на носе, і ў настаўніка, акрамя ложка, павінен быць стол, на якім бы ён рыхтаваўся да ўрокаў, правяраў сшыткі і які б яго карміў. Але пакуль усюды хадакі атрымалі ад варот паварот, і што заўважыў Саксонаў, людзі неяк насцярожана пікіравалі вачыма Шэпелева, стараліся размаўляць коратка і нялюба, каб хутчэй зачыніць дзверы. А Манька, самая, бадай, вясёлая вясковая кабета, перш, чым пусціць гасцей на падворак, загнала курэй у хлеў, толькі тады бразнула вочапам на брамцы, прасунула лахматую галаву і запрасіла зайсці:

– Калі ненадоўга…

А пачуўшы ад дырэктара пра мэты візіту, развяла рукамі:

– Я, людзі добрыя, і ў галодныя часы кватарантаў не трымала. Не прывучаная. Не люблю, калі нехта ў мяне пад нагамі блытаецца, яй-богу. Як хочаце, так і думайце. Калі я адна ў хаце… ну, сваіх я не лічу, то што хачу, тое і раблю. І пукнуць магу. А так – чужое…

Саксонаў адчуваў сябе няёмка, і каб не марнаваць час, папрасіў прабачэння ў Манькі, і неўзабаве яны апынуліся зноў на вуліцы і меркавалі, куды пайсці, куды падацца. Якраз у гэты момант каля іх прачыкільгаў дзед Цыганок. Павітаўся, для чаго адбіў лёгкі паклон і змахнуў з галавы зашмальцаваны картуз:

– Гонар маю вітаць сярэднюю адукацыю! Ну, і куды ж шлях трымаем, калі не сакрэт?

Хітрун стары, га! Ведае ж, што «сярэдняя адукацыя» шукае жытло, але каб зачапіцца каля настаўнікаў, пачаў здалёк. І пачуў тое, на што і спадзяваўся.

– Не бяруць на кватэру вось Івана Валянцінавіча,– Саксонаў кіўнуў на маладога настаўніка.– Хоць у школе вугал яму адбудоўвай. Разумею, што гэта несур’ёзна, але іншага выйсця пакуль не бачу. Памагай, дзед!

– Тут, браткі, дзед вам не памагаты, – стары паправіў картуз на галаве. – А чаму не бяруць?

– Самім цікава.

– А я быццам здагадваюся.

– Ну, ну.

– З-за хвокусаў.

– А яны пры чым тут?

– Як жа. Насцярожана нашы людзі заўсёды ставіліся да розных жулікаў... Настаўнік – быццам бы сур’ёзны чалавек, правераны, аднак жа – хвокуснік... з той пароды, атрымліваецца, з іхняй. А такіх людзей у Хутары не любяць, ой і не любяць, шаноўныя! Так што дарэмна,Іван... як цябе там па-бацьку... забыўся, аднак, ты раскрыў свае хвокусы. Яны і шкодзяць табе.

Шэпелеў зарагатаў, а за ім – і Саксонаў. Толькі дзед Цыганок лыпаў вачыма і не знаходзіў, што на гэты раз адказаць настаўнікам. І перш, чым пачыкільгаць далей, ён сказаў ім каратка і зразумела:

– Вось такія хвокусы, ядры іх маць!

А дырэктар супакоіў Шэпелева:

– Нічога, Валянцінавіч. Калі што, то будзем жыць пад адным дахам. Памесцімся.

Ды няўжо ж, месца ён, Шэпелеў, многа не зойме, і старой Суклеце гатаваць ежу што для аднаго чалавека, што для двух – розніцы, пэўна ж, вялікай няма, аднак яркіх фарбаў у такой перспектыве настаўнік не бачыў – ён не ўяляў сваім суседам, ды яшчэ такім блізкім, самога дырэктара школы. Гэта, відаць, ужо замнога. Перабор.

Ён думаў так да таго часу, пакуль яны ішлі да новай хаты, абранай, узважыўшы ўсе плюсы і мінусы, для чарговага візіту. Саксонаў сам грукаў у дзверы ці крычаў, вытыркнуўшы галаву над парканам, а Шэпелеў стаяў, як заўсёды, крыху ўзбоч. На гэты раз дырэктар не грукаў і не крычаў, а піхнуў дзверы нагой, і яны апынуліся ў вялікіх і светлых сенцах, а тады ж адразу і ў хаце.

– Прабач, Ягоравіч, за тое, што так знянацку ўварваліся,– апраўдваўся Саксонаў і, не дачакаўшыся слоў у адказ ад гаспадара хаты, сеў на табурэтку, а другую падстаўляў настаўніку.– Ведаеш, чаго зайшлі?

– Здагадваюся,– лагаднеў твар у Ягоравіча, мажнага мужчыны прыкладнага такога ж веку, як і дырэктар школы, і, як заўважыў Шэпелеў, быў ён чалавекам, відаць, дабрадушным і спагадлівым.

– Дарэчы, пазнаёмцеся,– Саксонаў устаў.– Пацісніце рукі.

Ягоравіч і настаўнік так і зрабілі. Цяпер Шэпелеў ведаў, што завіталі яны да мясцовага ветурача, і толькі зараз ён адчуў, што ў пакоі стаіць такі пах, бы дзе-небудзь на ветэрынарным участку . І яшчэ прыгадаў ён, як учора ўчастковы за чаркай баіў, быццам ветэрынар Ягоравіч як вып’е, то, калі ідзе па вуліцы, ад яго разбягаюцца ў розныя бакі ўсе мясцовыя сабакі і пеўні, бо ён абяцаў тым – і не раз! – кастрыраваць. Ягоравіч не выпускаў, бываючы пад «мухай», з рукі скальпель, махаў ім, паграджаў.

Успомніўшы пра ўсё гэта, настаўніку цяжка было паверыць, што такі з выгляду дабрак мог выдрасіраваць сваім п’янымі выкрутасамі сабак і пеўняў, але ж і ведаў таксама, што гарэлка здольна на ўсё.

– Не падумай, што мы прыйшлі да цябе прасіцца,– працягваў далей Саксонаў. – Не, не таму завіталі. А завіталі таму, што я ўжо розуму не прыкладу, да каго яшчэ можна схадзіць.

– Дзе былі, у каго?– зацікавіўся Ягоравіч.

– У дзеда Цыганка і не пыталіся. Ды ён і сам жыве... не жыве, а кульгае. Манька? Былі, былі. Пра яе не буду. Добра, што і не пагадзілася. Як у яе жыць, калі і дачка маладая і сама яшчэ ого-го-о? Ну яе, Маньку! Хавошка кажа, што паміраць сабралася. Яе справа. Варка чакае сына з горада – за п’янку выгналі з завода, а жонка выперла яшчэ раней, то куды яму дзецца? Вядома ж, да маткі прыедзе. Карэньчакавы кажуць, што ніколі не трымалі раней кватарантаў і не хочуць рабіць гэтага цяпер, калі старыя сталі. Ну, здаецца, і ўсё?

– Здаецца, так,– пагадзіўся настаўнік.

– Я б узяў, але ж...– развёў рукамі Ягоравіч.

– Ды не, пра цябе і размовы не можа быць,– запратэставаў Саксонаў.

– Чаму? Я што, зусім аўтарытэт згубіў?– пакрыўдзіўся Ягоравіч, і яго твар паружавеў. – Дык не думайце так. Хай сабакі мяне баяцца, пеўні шмыгаюць у падваротні, калі мяне яшчэ здаля запрыкмецяць, але з людзьмі я агульную мову магу знаходзіць. Праўда, з жонкай сваёй, з Лідусяй, не атрымалася кансенсусу. Настаўнік, пэўна, не ведае, што развёўся я. Пакуль не паразумнеў... Аднак жа Лідуся не хоча вяртацца, а мне і не трэба. Цікава, чаму я не магу ўзяць цябе, Іван Валянцінавіч, на кватэру? Патлумачу: сабраўся жаніцца. Пакуль – ша, але не сёння-заўтра вас запрашаю ў сваты. Паедзем у суседняе сяло. У якое? Пакуль –маўчок. Навучаны. Не трэба балаболіць раней часу. Людзі нашкодзяць. У нас не ўмеюць радавацца чужой радасці. Падпсуюць. І вокам не міргнуць. Так што, шаноўныя мае, наперадзе ў мяне мядовы месяц...

– Зразумелі,– удыхнуў-выдыхнуў Саксонаў і першы падняўся з табурэткі.–Ну, будзь, Ягоравіч.

– Спадзяюся на вас,– Ягоравіч пагрозліва памахаў на гасцей пальцам. –Тады шапну. Чакайце. Толькі не падвядзіце. Абяцаеце?

– Абяцаем,– і за сябе, і за настаўніка адказаў дырэктар.

Аднак слова стрымаць не заўсёды ўдаецца чалавеку, бо не ўсё, пагадзіцеся, залежыць ад яго.

8

Кватэрнае пытанне пакуль вырашана не было, але ж і настаўнік не жыў пад голым небам – як і меркаваў Саксонаў, Суклета супраць не была, каб Шэпелеў пакуль пажыў таксама ў яе, але папярэдзіла:

– На двух едакоў у мяне надоўга круп не хопіць...

Мужчыны гэты тонкі намёк зразумелі. Суцяшала, што ёсць час наперадзе, каб настаўніку рэабілітаваць сябе ў вачах хутаранцаў, даказаць нарэшце ім, што ён хаця і фокуснік, але ж чалавек рахманы, бяскрыўдны, і кватэру падшукаць.

А заняткі ў школе тым часам пачаліся. І пасля першага ўрока ў клас забег нечым усхваляваны загадчык фермы Палазкоў, аддыхаўся і тузануў Шэпелева за рукаў:

– Ты фокуснік?

– Я настаўнік,– спакойна адказаў Шэпелеў.

– Так, так. Асноўная твая праца, наколькі я разумею, тут, у школе. Але ж па сумяшчальніцтву, кажуць, фокуснікам працуеш.

– Хто кажа?

– Людзі.

– У вас людзі, гляджу, усё бачаць. Ды Бог ужо з імі. Што вы хацелі?

– Выручы, Валянцінавіч. Век не забуду. На ферме прапалі тры мяхі камбікорму.

Настаўнік хмыкнуў:

– Па гэтаму пытанню звяртайцеся да ўчастковага.

– Звяртаўся. А як жа ты думаеш. Толькі ён адпасаваў мяне да цябе: настаўнік, кажа, назаве табе злодзеяў.

– Участковы пусціў вас па няправільным следзе. Даруйце, але я нават людзей не ведаю ў вашым Хутары, акрамя таго ж участковага і дырэктара школы. Вы ж павінны ведаць, хто тут у вас на што здольны. Адны могуць на гармоніку граць, іншыя печы кладуць, нехта самагон любіць, а нехта – сцібрыць тое, што не там ляжыць.

Палазкоў папярхнуўся, а калі адкашляўся, зноў тузануў настаўніка за рукаў:

– Увесь фокус у тым, што ўкрадзенае якраз і ляжала там, дзе яму і належала ляжаць. Так што маёй віны тут няма. Выручай, настаўнік. Магарыч з мяне.

– Даруйце, але вам дапамагчы я не магу,– Шэпелеў памкнуўся ісці, але Палазкоў зноў прытрымаў яго за рукаў. – Ну што вам трэба ад мяне, фермер?– адмахнуўся настаўнік.

– Прыціснуць іх, гадаў, да пазногця ! Вось што!

– Дык прыціскайце. А я тут пры чым?

– Эх, настаўнік! – Палазкоў зусім, здаецца, расчараваўся ў новым настаўніку, пра якога столькі баек хадзіла па вёсцы, і выйшаў з класа. – А я думаў!.. А ты такі, як і наш участковы...

На ферме ж Палазкоў паклікаў да сябе кармачоў Кандрацьку і Валодзьку, паставіў іх перад сабой на стойцы «смірна» і строга сказаў:

– Ну што ж, дарагія мае, нарэшце вы папаліся! Даскакаліся! Я ж папярэджваў! Вы што, думаеце, я жартаваць буду? Не, ніколі! Ніколі, панове! Вы выведзены на чыстую ваду, і выведзены дзякуючы новаму настаўніку Івану Валянцінавічу, які адразу ж абрысаваў мне злодзеяў, а потым я мог убачыць вас у люстэрку, што вісіць прама ў гардэробе ў школе. Не выкруціцеся! Прызнавайцеся, хто купіў у вас камбікорм? Ну! Хутчэй, хутчэй!

Кандрацька паскроб за вухам, прызнаўся:

– Ды Маньцы збылі, каму ж яшчэ.

– Ага,– шморгнуў носам Валодзька.

– За колькі?

– Мех – бутэлька.

– «Мех – бутэлька». А жывёліна галодная. Вам не шкада яе? Чаму вочы апусцілі? Эх вы, бессаромнікі! Падаю ў суд.

Злодзеі ўзмаліліся, а Кандрацька нават упаў на калені:

– Не губі, таварыш загадчык. У мяне ж сям'я. Дзеці ў мяне.

Як і раней, Палазкоў дараваў. Усё ж – землякі. Але папярэдзіў:

– Апошні раз каб!..

Кандрацька і Валодзька паабяцалі абліць настаўніка-фокусніка варам у калгаснай лазні...

Увечар, стрэўшы Шэпелева на вуліцы, Палазкоў прызнаўся яму, што выкарыстаў яго імя, дзякуючы чаму і адшукаў злодзеяў. Настаўнік заплюшчыў вочы, прастагнаў:

– Усё, мне канец! Бо я трапіў, здаецца, у самы сапраўдны цырк!

9

Дзень, калі ветурач Ягоравіч павінен быў ехаць у суседнюю вёску Баравікі ў сваты, надышоў так непрыкметна, як надыходзіць самы звычайны, будзённы дзень. Была ноч – стала раніца. Пракукарэкалі пеўні ў Хутары, забразгалі даёнкамі жанчыны, праваркаталі трактары і грузавікі.

Вышэй галаву, Хутар!

Ды вось бяда, настрой не ў кожнага быў на належным узроўні. У тым ліку і ў Ягоравіча. Толькі цяпер, раніцай, ён даведаўся, што не можа паехаць у сваты самы галоўны сват – дырэктар школы Саксонаў. Аўтарытэт. Ужо адно ягонае з'яўленне ў хаце нявесты рабіла б поўны ажур, аднак на дырэктара ўчора вечарам, калі ён вяртаўся з працы на кватэру, напалі нейкія невядомыя людзі, насунулі яму на галаву мех і надавалі кухталёў. Сляды нападзення былі бачны на твары і пад правым вокам. Пацярпелы не паспеў звярнуцца ў міліцыю, хоць і збіраўся, яго апярэдзіў участковы. Ён прыйшоў у хату Суклеты з першымі пеўнямі і паспачуваў Саксонаву. Супастатаў паабяцаў знайсці, але для гэтага пацярпелы павінен гаварыць толькі праўду, і праўду.

– Слухаю, Паўлавіч,– участковы прымасціўся за сталом і нацэліўся запісваць усё, што будзе нагаворваць яму дырэктар. – Па парадку. Ну, ну.

Саксонаў спярша не хацеў расказваць участковаму, не давяраў яму, бо колькі было такіх выпадкаў у іхняй вёсцы, а нешта не прыпомніць, каб знайшоў калі злачынцу Баравы. Наробіць грукату – і ўсё ападзе потым ціішынёй на вёску, забудзецца. Але ж і разумеў,

што ўпарціцца дарэмна, участковы настаіць на сваім ўсё роўна, так што няма чаго марнаваць часс. Саксонаў думаў звярнуцца адразу ў райаддзел, скокнуць цераз галаву участковага і гэта б было, з яго пункту гледжання, разумным крокам. Але ён вымушаны і галіцца, бо ў школу ж трэба, хоць і выгляд такі, і апавядаць Баравому пра ўчарашняе:

– Іду, значыць, са школы. Насвістваю. Настрой добры. Строю планы. А варта было мне ўзяцца за клямку веснічак, як адкуль ні вазьміся... мех на галаву, і адразу ж пасыпаліся кулакі. Нібы яны былі ў тым мяху, а потым мех развязаўся і ўсе яны, кулакі, абрынуліся на мяне.

– Усё?

– Усё.

– На каго падазрэнне падае ў цябе самога, Паўлавіч?

– Пытанне складанае. Быццам бы да чужых жанчын не шастаю. Не лаюся з людзьмі. Наадварот, дапамагаю, калі каму трэба, пісьмо напісаць ці скаргу якую... Служу людзям. Таму падазраваць нікога не бяруся.

– Так, так, так,– участковы барабаніў пальцамі па стале. – А не мог замах на жыццё прызначацца нашаму маладому настаўніку за ягоныя фокусы, а ты, як кажуць, патрапіў пад гарачую руку. Га?

Саксонаў задумаўся.

– Дарэчы, дзе ён, фокуснік?– страляў па хаце позіркам Баравы. – Не бачу.

– Пайшоў па грыбы. У яго першага ўрока няма.

– Зразумела. Ну што ж, з горада, каб напасці на цябе, Паўлавіч, бандыты не прыедуць – цяпер паліва дарагое, трэба шукаць нягоднікаў сярод сваіх. Абяцаю знайсці.

– Паабяцаць няцяжка,– уздыхнуў Саксонаў.– Я вось абяцаў Ягоравічу быць за свата, а як з такім выглядам паедзеш у Баравікі? Не атрымліваецца. Тут хоць бы сваіх дзяцей у школе не перапалохаць.

Успомнілі пра ветурача, а ён тут як тут: лёгкі на ўспамін. Ледзь толькі глянуў Ягоравіч на дырэктара, пахіснуўся – яму адразу зрабілася кепска: сёння ж у сваты ехаць! –

– Спакойна, – супакоіў Ягоравіча ўчастковы. – Бязвыхадных сітуацый не бывае. Што-небудзь прыдумаем. А думаць трэба пачынаць неадкладна. Ясная справа, што Паўлавіч ужо не сват. Я – участковы, мяне кожны сабака ведае як аблупленага і не з самага лепшага боку. Не набіваюся па гэтых прычынах сам на галоўнага

свата. Таму сыдзе за свата малады настаўнік. Высокі, прыгожы. І ў акулярах. Салідны, адным словам, чалавек. Плюс – фокуснік. Ён з любой сітуацыі вывернецца. А з такім чалавекам не прападзём і мы. Як вы ўжо здагадаліся, я таксама паеду, буду збоку, на падхваце. Не сапсую свята. Як, Ягоравіч, лічыш?

Ягоравіч пагадзіўся:

– На бязрыб'е, як кажуць, і рак рыба… Сёння едзем.

– Сёння дык сёння. А пакуль я пашукаю тых нягоднікаў, якія сапсавалі твар паважанаму чалавеку. Пайшлі, Ягоравіч.

– Пайшлі, Ягоравіч.

І два Ягоравічы, участковы і ветурач, зачынілі за сабой дзверы ў Сукленціну хату. А паколькі яны яшчэ крочылі па вуліцы разам, то ўчастковы хутка і выдаў злачынцаў. Гэта ж вясковыя п'янтосы Кандрацька і Валодзька, кармачы з фермы. Ягоравічу паспеў пахваліцца Палазкоў, што з дапамогай фокусніка-настаўніка ён прыцiснуў да сцяны злодзеў, і тыя, паверыўшы, што іх і сапраўды паказаў у люстэрку яму настаўнік, здаліся. Абяцалі адпомсціць. І вось –атрымлівайце… Ну, правільна: пераблыталі, тут і гаварыць няма чаго, дырэктара з фокуснікам.

Настрой у Баравога быў лепш не прыдумаеш: хораша як дзень пачаўся – і ў сваты едзе, і злачынства, мяркуйце, раскрыў. Засталіся дробязі – дапытаць Кандрацьку і Валодзьку, а гэта ён умее рабіць, бо ў прафесіі даўно. А вунь і яны, вунь, злачынцы! Толькі што гэта? Убачыўшы на вуліцы ўчастковага, адразу звярнулі ў вулку, схаваліся. Такія паводзіны кармачоў яшчэ больш усялілі веру ў Баравога, што менавіта яны аддубасілі дырэктара школы замест настаўніка-фокусніка.

– У мяне не схаваецеся!– пагразіў ім кулаком участковы. – Вось вярнуся са сватоў і адразу за вас прымуся. Такія фокусы ў мяне не праходзяць!

10

У Баравікі паехалі на легкавіку. Ягоравіч выкаціў з хлеўчука старэнькі «Масквіч», абмёў яго венікам, бо легкавік нагадваў чалавека, які доўга спаў у паточанай мышамі саломе.

– Загружайцеся,– загадаў Ягоравіч і першы сеў за руль.

Побач з ім па рэкамендацыі ўчастковага заняў месца сват, а на заднім сядзенні прымасціліся сам участковы і гарманіст Колька.

Паехалі. Было цёмна, на небе выпырхнулі зоркі, мігцелі-стракацелі, і хоць у легкавіку свяціла ўсяго адна фара, і тое бліжняя,

даехалі без прыгод. Усе прыгоды пачаліся пазней. Вёска рана ідзе на спачын, і таму ніводнага акна не свяцілася, як гэта не дзіўна – павінны ж чакаць хоць у той хаце, дзе жыве нявеста. Ягоравіч зусім разгубіўся, цемра, якая абвалакла ўсё навакол, зусім збіла яго з панталыку.

– Не зразумеў,– сказаў Ягоравіч і спыніў легкавік. – А ў якой жа хаце, прабачце за не дужа сціплае пытанне, жыве мая абранніца, таксама ветурач Насця? Здаецца, другі дом ад крамы? Колька, загляні ў другу дом.

Колька паслухаўся. Але вярнуўся з нічым.

– Спяць і не адчыняюць,– паведаміў ён.

Участковы параіў шукаць сваю нявесту самому Ягоравічу і папракнуў таго, што так позна прыехалі.

– Такія спрвы трэба рабіць удзень, пры святле,– параіў ён.– А то можа ўсё сарвацца, што было б непажадана.

– Калі ж удзень спраў набралася – не адарвацца.

– Важнейшай справы, чым сватацца, няма. Запомні, Ягоравіч.

Ягоравіч падзякаваў участковага за карысныя парады і нырнуў у цемру. Як гэта не адчыняюць? Хто каму? І па якім праве? Другі дом ад крамы... Так, вось ён. Сабакі ў цёткі Аксінні, у якой кватаруе Насця, няма. Можна ісці смела. Рашуча. Ягоравіч мінуў двор, сенцы і апынуўся ў хаце. Кволым голасам папытаў:

– Ёсць хто жывы?

Як не чуюць. Але ж каб нікога не было, то вісеў бы на дзвярах замок. Зашчапкі таксама на дзвярах няма. Тут нешта не так. Ягоравіч зрабіў яшчэ колькі крокаў наперад, заадно прыкідваючы, дзе тут які выключальнік, і грымнуўся некуды ў невядомасць... Колькі ляцеў, не помніць, але ён нават не паспеў спалохацца. Хоць – не, спалоўася, відаць, бо гучна падаў голас, і з сенцаў крычма выпырхнула бабулька, кінулася на вуліцу.

– Ратуйце! Злодзеі! Рабуюць! – узняла яна лямант, і участковы першы выбраўся з легкавіка.

Баравы загадаў старой, якая пранеслася міма яго:

– Стаяць! Я участковы! Стаяць!

Ён здагадаўся, што лавіць тут нікога не трэба, таму быў смелы і рашучы.

– Вядзі да сябе!– загадаў старой участковы і запрасіў усіх, хто быў у «Масквічы».– Панятыя, за мной!

Шэпелеў і Колька, несучы з сабой гармонік, патупалі за перапалоханай да смерці бабуляй і як ніколі смелым участковым.

– Хто ацэніць нашу працу?– скардзіўся участковы, не прамінуў, як заўсёды, пахваліць сябе.– Такіх не знойдзецца. А як у пекла якое – то давай, участковы, лезь, ты ж міліцыянер. Вось і цяпер... Хто скажа, якая зброя ў бандыта? Пісталет, кулямёт? Шандарахне – і ўсё, рабі дамавіну. А слязу пусціць толькі жонка, і тое наўрад. Ну, дадуць медаль. Пасмяротна. А мне якая карысць? Я, дарэчы, яе апусціць у шклянку з гарэлкай не змагу – так і не абмыю. Запальвай, цётка, святло!

– Ага! – старая ледзьве намацала ў цемры выключальнік, і калі запалілася лямпачка, з ямы, што была пад падлогай, выкарабкаўся Ягоравіч, мурзаты, страшны...

– Вось ён!– торкнула пальцам на ветурача старая. – Трымайце! Лавіце! Гэта ж я па патрэбе за вугал пакуль схадзіла, ён і залез, гад. Арыштоўвайце, таварыш участковы! Бярыце яго!

Аднак участковы, Шэпелеў і Колька так гучна пачалі смяяцца, што старая нічога не магла зразумець, толькі лыпала вачыма. Потым усё ж здагадалася, што ў яму трапіў ветурач з Хутара, раней, калі не было ў Баравіках Насці, то колькі разоў звярталася і старая да Ягоравіча. Таму яна таксама смяялася бяззубым ротам разам з усімі, падала шчотку, каб той зноў падфранціўся – выпацкаўся, бы дзіця. Старая якраз сабралася падрыхтаваць яму, пара было капаць бульбу, і Ягоравіч плюхнуўся ў рэшткі чарназёму, што быў занесены мінулай восенню туды з клубнямі...

Нявеста і сапраўды жыла ў другой хаце ад крамы, але ж Ягоравіч патрапіў у першую. І як ён так апраставалосіўся? Быццам і лічыць да трох умее, а такі канфуз атрымаўся. Папрасіўшы ў старой прабачэння, сваты падаліся па неабходным адрасе. Толькі ж чаму і там няма святла? Ці спаць палеглі? Ці яшчэ што? Павінна ж чакаць Насця! Павінна ж, калі ўсё сур'ёзна!

А Насця і чакала. Яна сядзела на лаўцы перад хатай з сяброўкамі, якімі паспела абзавесціся, і ўсё бачыла. Гарэла і лямпачка ў першым пакоі, толькі акно было завешана шчыльнай фіранкай, і таму яно не сачылася на падворак.

– Прымайце сватоў! – падаў голас участковы і пасвяціў ліхтарыкам, шукаючы ў змроку нявесту.– Каторая наша будзе? О, ды тут усе прыгожыя, хоць другі раз жаніся! Дык што, запрашаеце ў хату?

– Заходзьце, калі ласка!– распарадзілася Насця, і ўсе зашоргалі ў хату, дзе нічога не напаміналa, што тут рыхтаваліся сустракаць гасцей. Аднак неўзабаве за сталом не хапала месцаў – прыйшлі суседзі, нават вясковы святар Еўдакім.

І ўсё было хораша, усё было па-людску. Настаўнік не паказваў фокусы, а хваліў Ягоравіча, якога ўсяго два разы бачыў і пра якога ведаў, што ён заўсёды носіць з сабай скальпель і абяцае, калі вып'е, кастрыраваць усіх хутаранскіх сабак і чамусьці пеўняў, хоць і не ўяляе, што маглі зрабіць кепскае яму вясковыя гарлапаны. Ну, хай бы сабака—дык той можа шкуматнуць за калашыну... Нявеста дала згоду ўпрыгожыць халасцяцкае жыццё Ягоравіча, і хоць розніца ў гадаў паміж імі была значная, на гэта ніхто не звяртаў увагі – артысты ды вучоныя розныя і не такую розніцу маюць, а жывуць жа неяк, а мы што –горшыя? А з каманды падтрымкі нявесты хвалілі Насцю. Так, участковы, фокуснік і ўсе астатнія даведаліся, што яна не толькі ўмее палоць градкі, але сама доіць карову, варыць-парыць і нават не курыць і не п'е. Канешне, што зусім не ўжывае алкаголь, не дужа добра: а з кім жа яму цяпер, Ягоравічу, чарку браць? З участковым хіба? Але ж трэба тупаць да яго, а добра было б, каб напарнік жыў побач з табой, сядзеў насупраць за адным сталом.

Шэпелева больш здзівіла у гэтай хаце, што напаўняюць чарку і святару. Усе падымаюць чарку, і святар Еўдакім таксама. Усе выпіваюць, і ён.

– Свой мужык,– шапнуў настаўніку ўчастковы.

– Я ўжо бачу...

Выпілі. А чым закусвае яго светласць? Святар жа пазначыў некалькі разоў фігуркай з трох пальцаў парсючка, прашаптаў:

-–Пераводжу парася ў карася...

І падчапіў відэльцам кавалак смажаніны.

Ягоравіч паабяцаў забраць Насцю да сябе ў самы кароткі тэрмін, а працаваць, сказаў, будзе яна ў Баравіках. Нічога, паездзіць. Ці на ровары, ці вось, калі захоча, хай атрымлівае дакументы і бярэ «Масквіч». А што з адной фарай, і то бліжняй, то яшчэ лепш – будзе засветла спяшацца дадому. А ён, Ягоравіч, не стоміцца чакаць яе. Нават калі і спозніцца. Бо любіць. Ці кахае. Розніцы вялікай не бачыць.

– Я б забраў Насцю ў Хутар, але суседзяў крыўдзіць не буду,– важна і горда апавясціў Ягоравіч. – Няхай адзін ветурач будзе вам. Я так рашыў. Ну, а цяпер мой сват Іван Валянцінавіч пакажа вам фокусы. На развітанне.

Пачуўшы пра фокусы, настаўнік ікнуў:

– Мне пачулася?

Участковы сказаў, што ён і сам бы з задавальннем паглядзеў фокусы і на ўсякі выпадак прабег пальцамі па гузіках, а потым падаў настаўніку яйка, якое ўзяў на талерцы:

– Калі ласка, Валянцінавіч! Зрабі два ці тры...

Аднак настаўнік нагадаў, што ўжо позна, а ў яго заўтра першы ўрок. Пара было вяртацца. Толькі гэта не ўсе разумелі. І настаўнік паказаў ўсё ж фокус –пайшоў спаць, пакінуўшы ўсіх за сталом. Участковы кіраваў застоллем, і, зморанны за дзень, Шэпелеў чуў, што участковы сёння раніцай раскрыў у Хутары вельмі сур'ёзнае злачынства, за што яму, пераканаы, дадуць сама мала медаль... А потым рыпаў гармонік, чулася тупацце ног, і складвалася ўражанне, што нехта варушыцца пад канапай, на якой разлёгся Шэпелеў.

Пад ранне настаўніка раскатурхалі, і яны вярнуліся ў вёску якраз у той час, калі яна прачыналася.

Браў разгон новы дзень.

11

Праспаўшыся, участковы Баравы правёў допыт Кандрацькі і Валодзькі, тыя пад неаспрэчнымі доказамі прызналіся, што гэта сапраўды былі яны, але адразу ж дружна папрасілі прабачэння, бо зусім не збіраліся калашмаціць яны дырэктара школы Саксонава, а хацелі правучыць фокусніка. За што, той ведае.

– Не месца фокусам у нашым жыцці!– сказаў Кандрацька.

– А я кажу: месца! – не пагадзіўся з ім участковы. – А пакуль я камандую тут парадам, то будзе так, як і трэба. Зразумелі, шалудзіўцы?

Кандрацька і Валодзька паказалі ўсім сваім выглядам, што зразумелі. Участковы доўга таптаўся яшчэ перад мясцовым крыміналітэтам, бо не мог вырашыць, хоць і даўно ў прафесіі, што з імі рабіць. У раён адвезці? Яму заўвагу зробяць, як так, скажуць, давёў ты на сваім участку справы, што ўжо дырэктара школы – падумаць толькі! – таўкуць кулакамі. Ды і крымінальную справу завядуць. А калі не заводзіць тую справу, то навошта везці? Але ж тады трэба іх неяк пакараць сваёй уладай. А якая яна, улада ў участковага, што ён можа?

Разважаючы пра ўсё гэта, участковы Баравы сам таго не заўважыў, як нарадзілася ў яго ідэя арыштаваць Кандрацьку і Валодзьку і пасадзіць у склеп. Ён так і зрабіў. Аднак узняў лямант усё той жа загадчык фермы Палазкоў, бо няма каму рабіць замест іх, і участковы падаў яму ключ:

– Адмыкай, калі так дужа трэба. Але спярша трэба было папытаць у дырэктара, ці згодны ён?

– Дараваў, дараваў Паўлавіч,– часта затрос галавой Палазкоў. – Сам хадзіў да яго. На парукі ўзялі хлопцаў. Больш не будуць!

У той дзень участковы паставіў кропку ў яшчэ адной крымінальнай справе, і таму настрой у яго быў добры : парадак перш за ўсё, і няхай усе ведаюць, хто тут стаіць на яго варце.

Вось так!

12

Настаўнік Шэпелеў на першым жа ўроку ўспомніў, што яго ўчора прасілі ў сватах паказаць фокусы, але тады не было ў яго настрою, і настрой гэты з'явіўся толькі сёння. І таму дзень ён пачаў з фокусаў. Ледзь пераступіўшы парог класа, ён загадаў усім вучням глядзець толькі на яго і глядзець надзвычай уважліва, засяроджана. Вучні паслухаліся. А потым настаўнік папрасіў дзённікі ў трох вучняў і паставіў ім дрэнныя адзнакі.

– Вы сёння не падрыхтавалі хатняе заданне. Я не памыліўся?

Тыя прызналіся: так, не падрыхтавалі. Больш таго, усе яны ахвотна растлумачылі, чаму не падрыхтаваліся да заняткаў. Адзін хварэў, другі ездзіў у лес па дровы з бацькам, а трэці ўвогуле забыўся, што трэба было вучыць верш на памяць.

– Вось гэта фокуснік дык фокуснік!– разявіў на перапытку рот адзін з невукаў, Сашка Баравы. – А я не верыў!

Паколькі Сашка Баравы быў сынам участковага, то Баравы-старэйшы, паглядзеўшы ў сынаў дзеннік, адразу зрабіў сур'ёзны твар, насупіўся і сабраўся нанесці візіт Шэпелеву.

– Як жа так? Мы ж з ім разам ехалі, былі, панімаш, і ў сватах, а ён сыну «двойку» ўляпіў! Такія фокусы ў мяне не праходзяць!

І ўчастковы патупаў да фокусніка.

Фокусы, падобна на тое, у Хутары будуць працягвацца...

*2000 г.*

**ГУЛЬНЯ**

1

Амаль у адзін і той жа час з пункту «А» ( Чарнігаў) у пункт «Б» (Гомель), і насустрач, выехалі два чалавекі: дацэнт факультэта славянскіх моў Чарнігаўскага універсітэта імя Т.Р.Шаўчэнкі Васіль Будзёнаўскі і дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта імя Ф.Скарыны Віктар Ярась, абодва былі ў строгіх касцюмах, пры гальштуках і абодва з'яўляліся прызнанымі паэтамі, членамі творчых саюзаў сваіх незалежных з нядаўняга часу краін. Васіль Будзёнаўскі ехаў у госці да Віктара Ярася, а Віктар Ярась – да Васіля Будзёнаўскага. Славяне сябравалі. І даўно. Таму пра паездку адзін да аднаго нават не дамаўляліся, яны рабілі гэтак і раней, сабраліся... і паехалі. «Няхай Васілю будзе сюрпрыз!», «Няхай Віктару будзе сюрпрыз!» Колькі разоў так яны ўжо рабілі, і нічога – прамашак не было: заўсёды сустракаліся, як і мае быць, на належным узроўні. Поціск рук, абдымкі, а з моцных напояў не бралі ў рот ні кроплі. Плюньце таму ў вочы, калі кажуць, што паэты п'юць занадта, меры не ведаючы, як вярблюды перад спёкай – прызапас. Гэтыя не п'юць. Ні кроплі. Для многіх, мусіць, і сапраўды цікава – а навошта ж яны тады збіраюцца, ездзяць у госці адзін да аднаго? Што, ім больш няма чаго рабіць? А яны ездзяць, бо ім, відаць, нешта ж во цікава разам. І не лічаць сябе дзівакамі.

2

Васіль Будзёнаўскі білет на аўтобус купіў загадзя, бо ведаў: у суботу шмат гандляроў-торбачнікаў стараецца трапіць у Гомель, аўтобус жа, як вядома, не гумавы. Жадаючых паехаць да беларусаў на базар было зашмат і на гэты раз. Што вязуць браты-украінцы братам-беларусам? Вядома ж: сала, алей, марачнае і таннае віно, маргарын, сметанкавае масла, а таксама – шкарпэткі, майкі, трусы... Усяго патроху. А выгода, мусіць жа, нейкая ёсць, калі не ўперціся з-за іх у той аўтобус такім вось сціплым і – не яго бяда! – вядомым людзям, як паэт і выкладчык Васіль Будзёнаўскі. У Гомелі, дарэчы, ёсць праспект Краўчука –дарога ад чыгуначнага ( а побач і аўта) вакзала да цэнтральнага гарадского рынку: некалі паабапал яе стаялі гандляры з Украіны і прапаноўвалі розны тавар. Перайменаваць праспект з выпадку змены прэзідэнтаў не паспелі – ужо калі быў абраны Кучма, то гандляваць там забаранілі, і сябры-суседзі абляпілі, дзе толькі можна, гарадскі рынак, а найбольш пранырлівыя ўцёрліся і

асяродак. Праспект жа Краўчука і сёння існуе – у памяці хоць, аднак усё ж...

Перш, чым заняць сваё законнае месца ў аўтобусе, Васіль Будзёнаўскі памеўся выручыць хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце, узяў у таго чатыры пляшкі віна. Тых пляшак паэт не бачыў, яны былі ў цэлафанавым пакеце, да таго ж яшчэ і ў газеціне, на якой ён паспеў угледзець сваё прозвішча, і здагадаўся, што гэта апошні нумар абласной «маладзёжкі», дзе на гэтым тыдні надрукавалі падборку ягоных вершаў. Хлапец у кепцы і з прарэхай у роце такія ж пакеты перадаў яшчэ двум чалавекам, і ўсім шчыра дзякаваў, а то, казаў, мытня не прапусціць, а гэта ягоны хлеб. Не віно, канешне ж, а чаўночны гандаль. Яму пайшлі насустрач. Васіль Будзёнаўскі не надта разбіраўся ва ўсім гэтым, а людзям дапамагаць любіў, хоць іншы раз яму гэта дорага каштавала. І заракаўся ж не рабіць больш такога, аднак забываўся на гэта чамусьці адразу, варта было звярнуцца да яго зноў каму-небудзь: «Вы, шаноўны, не змаглі б мне?..»

Неўзабаве аўтобус закалываўся на выбоінах, якіх з'явілася чамусьці многа ў апошні час на прывакзальнай плошчы, і пакіраваў па маршруце. Пасажыры памалу суцішыліся, і амаль усе яны былі заняты сваімі дробнымі справамі: адны снедалі, іншыя перакладалі з сумкі ў сумку, з пакета ў пакет розныя скруткі, пакецікі, пакункі... І так амаль усю дарогу, пакуль будуць ехаць да мытні, корпаліся, бы жукі. Адчувалася, што яны хвалююцца. І яшчэ тое, што амаль усе яны старыя знаёмыя. Паміж сабой.

Васіль Будзёнаўскі пaспрабаваў заснуць – не атрымалася, галаву таўклі розныя думкі, ён адчуваў радасць ад прадстаячай сустрэчы з беларускім сябрам. Успамінаў і сваё жыццё. Нешта лагодзіла душу, нешта пакідала прыкры, прагорклы напамінак. Але ж жыццё ішло, ідзе і будзе, трэба спадзявацца на тое, ісці. Выдаў адзінаццаць кніжак вершаў, вырасціў сына, а цяпер песціць-гадуе ўнука. Выкладае ва ўніверсітэце. Праўда, за кандыдацкую нават не браўся. А навошта? Што новага, карыснага, патрэбнага людзям, разважаў, ён скажа? Атрымоўвалася – нічога. Тады навошта псаваць і свой час, і час людзей? Лепш напісаць кніжку вершаў. Гэта ў яго выходзіла добра, а трэба рабіць заўсёды тое, што атрымоўваецца. Да таго ж і выкладчыкам ён быў ад Бога – на яго лекцыях студэнты адсутнічалі толькі па нейкай важнай прычыне. Мала хто ведаў, што Васіль Будзёнаўскі пераклаў на сваю родную мову Біблію. Цалкам. Пакуль ён не надрукуе яе, мала хто, мусіць, і паверыць. А ён зрабіў такую

працу! Уяўляў, як пахваліцца Віктару Ярасю, і той вохне ад здзіўлення: няўжо?! Так, братка-беларус, так.

Была і яшчэ адна мэта ў паэта і навукоўца – набыць у Гомелі мінеральных угнаенняў. Хоць кіло з дзесяць. На дачныя соткі сыпануць трэба, а то ж каравяк дорага каштуе і купіць сёння з ягонымі грашыма не па кішэні. Перад самой мытняй Васіль Будзёнаўскі папытаў у таго хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце:

– Кажуць, там ёсць угнаенні. Комплексныя. На базары ў пакетах. Не сустракаў, часова?

Адказ быў няпэўны:

– Бачыў, везлі. А дзе бралі... мабыць жа, там.

Хлапец у кепцы і з прарэхай у роце раптам затрымаў позірк на твары Васіля Будзёнаўскага, сабраў на пераноссі ў пучок маршчыны, і нясмела, але гучна папытаў:

– Пачакайце, вы не паэт?

– Паэт.

– А я вас адразу успомію, толькі сумняваўся... Можна ж было і памыліцца. Дай, думаю, лепш прыгледжуся. І не памыліўся! Вы да нас прыходзілі ў інтэрнат... вершыкі чыталі.

– Раней багата хадзілі. І ў інтэрнаты, і ў школы, і у ПТВ, у вёскі ездзілі. Было!

– А цяпер чаму ж?

– Каму мы там трэба? Цяпер у нас заахвочваецца той, хто размаўляе не на роднай мове, а на якой-небудзь замежнай – пераважна, на англійскай... Во тых сёння прывячаюць хлебам-соллю. І парсючка засмаляць.

Да хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце не дайшло пра замежныя мовы, ён, разважаючы пра нешта сваё, яшчэ раз паказаў суседу па салоне ў аўтобусе шчыліну ў роце, і на пэўны час замоўк. Каб не маўчаць, Васіль Будзёнаўскі кіўнуў на пакет, што мясціўся каля ягоных ног, і пацікавіўся:

– Дык што, і праўда, з гэтага жывеш?

Той адказаў амаль адразу:

– Шурой празвалі. Ведаеце такога спевака?

– Не,– пакруціў галавой Васіль Будзёнаўскі.– Не чуў.

– Бяззубы.

– А-а!

– То і ў мяне ж зуба няма. Ды спераду. Як і ў яго. А дзе на зуб грошы возьмеш? Добра, каб хоць адзін... А то ж поўны рот гнілых.. Тых не бачна... Во і цягаюся з гэтымі пляшкамі, каб грошай сабраць...

Калі служыць на Новую Зямлю пасылалі, то былі ўсе зубы... Не пойдзеш жа ў ваенкамат. Каб стрэбаваць. Там пашлюць. Яшчэ і ў спіну плюнуць.

– А ты схадзі, схадзі,– параіў Васіль Будзёнаўскі.

– Жартуеце?– зноў паказаў яму бяззубы рот хлапец.

– А ідаць, і так...

– Засмяюць.

– Могуць. І праўда—могуць.

Стоп: мытня. Пасажыры аўтобуса суцішыліся, і неўзабаве прапаршчык- пагранічнік, паказаўшыся спераду, загадаў падрыхтаваць пашпарты для праверкі. Калі ласка. Працэдура знаёмая. Ён моўчкі разглядваў пашпарты, вяртаў іх уладальнікам, а загаварыў толькі, калі ў ягоных руках аказаўся пашпарт, які падаў яму Васіль Будзёнаўскі. Пагранічнік зверыў картку па пашпарце, зноў паглядзеў на яго, загадаў:

– Выходзьце. У вас чужы пашпарт.

– Як – чужы?!– не паверыў спярша Васіль Будзёнаўскі, а калі той апынуўся ў ягоных руках, усё зразумеў: гэта быў пашпарт жонкі. У адно імгненне ён ўявіў, як вяртаецца назад, пашкадаваў, што не сустрэнецца з Віктарам Ярасем, і не менш – што не прывязе комплексных угнаенняў. Кранты ўраджаю.

Тым не менш, настрой у Васіля Будзёнаўскага – ён і сам здзівіўся гэтаму –быў на належным узроўні, і ён, выйшаўшы з аўтобуса і не зважаючы на спачуванні пасажыраў, што свідравалі яго вачмі, трымаў жончын пашпарт на выцягнутай руцэ, не адрываў ад карткі позіркі і артыстычна прызнаваўся жонцы ў каханні:

– Бачыш, маё сэрцайка, як моцна я цябе кахаю! То што я табе раней гаварыў? Вось цяпер вер. Нават пашпарт твой узяў замест свайго... А чаму? Што, табе і гэта не цікава? Выбачай. Бо картка ў тваім пашпарце прыклеена. А я без цябе ні кроку! Хоць з самой, хоць з карткай, каханне маё! Да сустрэчы. І даруй, што вяртаюся без азотных, калійных і фосфарных угнаенняў.

3

Віктар Ярась займаў два сядзенні ў шыкоўным «Ікарусе»: на першым сядзеў сам, а на тое, што было бліжэй да акна, паставіў сумку. У сумцы была новая кніжка вершаў, выдадзеная на сродкі спонсараў, і гасцінцы ўнуку Васіля Будзёнаўскага Багданчыку, якога ён бачыў усяго адзін раз, але які яму нечым дужа падабаўся: кемлівы, жывенькі хлопчык. Мо таму яшчэ так хінуўся Віктар Ярась да

Васілёвага ўнука, што ён і сам марыў пра такое шчасце, але гэтым пакуль пахваліцца не мог. У чым, пэўна ж, вінаваты і сам. Хоць шмат што залежыла і ад абставін... Але ж абставіны ствараў і ён сам. Як атрымалася, адным словам, так атрымалася. Прычына адна і банальная, чаму ў яго пакуль няма ўнучыка, пра якога марыў, з якім спадзяваўся размаляць толькі на беларускай мове—як Васіль з Багданчыкам на ўкраінскай: позна ажаніўся. Вучоба ва ўніверсітэце ў Мінску, потым, калі іх, групу шчырых студэнтаў, адлічылі быццам бы за яркае праяўленне нацыяналізму ( запатрабавалі, каб усе лекцыі чыталіся на роднай мове), з цяжкасцямі і не без дапамогі Максіма Танка ўладкаваўся ў Гомельскі ўніверсітэт, потым працаваў у раённай газеце, на тэлебачанні, пакуль, нарэшце, не знайшоў сябе ва ўніверсітэце. Пачаў выкладаць. Абараніўся. Пісаў вершы. Паэтычны набытак не багаты, хоць друкуецца шмат: кніжкі выходзяць рэдка, вельмі нават, бо, разважае Віктар – і справядліва!– каб працаваў дзе-небудзь бліжэй да выдавецтваў, а лепш у самім ім, то усё было б лацвей. А та-а-ак! Пшык справа. У апошні час ён нават не заходзіць у кнігарні, хоць раней любіў гэты занятак: пагартаць кніжкі, якія яшчэ пахнуць свежай фарбай, нешта набыць для хатняй бібліятэкі. А цяпер... толькі сабе нашкодзіць – сапсаваць настрой, завітаўшы ў кнігарню, і можна. У выдавецтваў у пашане адны і тыя ж паэты – і ў першую чаргу, абскакаўшы нават класікаў, самі выдаўцы. Завалілі кнігарні сваімі тамамі. Ні сумлення, ні... Што гэта яшчэ можа адсутнічаць у такіх людзей? А трасца яго ведае! Загрудкі б узяць ды трасянуць, як гэта ў вёсках мужчыны разбіраюцца, калі знойдзецца які разумнік і абдурыць іншага. Дык не возьмеш. І характар не такі, і рукі пэцкаць не хочацца. Хоць, калі так пойдзе далей, можа быць і нешта больш страшнае... Знойдуцца паэты, якія умеюць пісаць не толькі вершы... Знойдуцца... Усё гэта прарастае – хоць і кволым пакуль парасткам, але прарастае – адтуль, з нябліскай даўніны, калі людзі, не зважаючы на кроў, змагаліся за кавалак хлеба. Бо хацелі есць.

А калі не хацелі?

Іншы раз і Віктару Ярасю хацелася папярэдзіць такіх літаратурных нахабнікаў: бойцеся, сцеражыцеся! А потым, калі пачынала забывацца тая кніжная крама, заваленая тамамі саміх выдаўцоў, супакойваўся памалу, астываў... і заракаўся больш не рыфмаваць, але ненадоўга: не з тых людзей ён, каб не пісаць. Каб не пісаць?.. Някляеў усё ж паэт ад Бога – выдаў нядаўна: у нас няма прычын, каб не піць... А ў яго, у Віктара Ярася, была прычына, каб не

пісаць... Толькі не пісаць ён ужо не мог. Нават і цяпер, седзячы ў аўтобусе, падбірае рыфму, мумкае нешта сабе пад нос, а на паперу запісвае: «На дне Дняпра – якіх дуброў дубы, якіх вякоў, што лісцем адшумелі? На бераг іх выцягваюць, нібы часоў знямелых і душу, і цела...»

Ад чаго ўжо адбрыкваецца дык адбрыкваецца Віктар Ярась – гэта ад сустрэч з чытачамі. Па-першае, тыя не самі яго клічуць, а звычайна бібліятэкі, і на сустрэчах збіраюцца аматары літаратуры, якія нават і не чулі раней яго прозвішча, не кажучы ўжо, што чыталі нешта. Сядзяць тады, у носе калупаюцца... Брыдка! Ну, а па-другое, цяпер час не той, каб бясплатна ездзіць, лічыць Віктар Ярась. Хопіць, мінуў час бясплатных выступаў. Яму нават не заўсёды ганарар высылаюць за публікацыі, а цяпер жа, па горадзе праехаць... грошы плаціць трэба. Бохан хлеба можна купіць. Ёсць і трэцяя прычына, па якой вядомы паэт цураецца сустрэч. Хто звычайна кліча? Бібліятэкары. А калі трэба было сабраць – прыдумаў жа нейкі д’ябал і такое! – тыраж на кніжку, тыя заказалі ўсяго пяць асобнікаў ягонага зборніка вершаў на вобласць. Вядома ж, зборнік не трапіў у выдавецкі план. Цяпер поўнае табу на выступы. Нават калі клічуць сябры- калегі. Ці, да прыкладу, акцёр драматычнага тэатра і яго даўні знаёмы Уладзіслаў Драбавікоў. Гэты дык чалавек увогуле цікавы. Паэт слабы, а са сцэны вершы быццам бы гучаць, людзі прымаюць. Звычайна ён сваю сустрэчу з чытачамі пачынае так: «Я, сябры, паэт пад даты...» Тыя глядзяць на яго павесялелымі вачамі: быццам і праўда кульнуў горкай ці чаго там, прыкметна. Малайчына, што прызнаецца. Шчыры чалавек. Свой. А ён тут жа іх супакойвае: «Пішу вершы пад даты... Да Новага года... Да Восьмага сакавіка.... Да Першамая... Да дня Перамогі...» Гэта выклікае ажыўленне ў зале. Кантакт са слухачамі знойдзены.

Незадоўга да гэтай паездкі ў Чарнігаў Віктар Ярась надрукаваў у часопісе «Маладосць» артыкул «Прэлюдыя да спрэчкі», якая нарабіла ляманту ў літаратурным асяродку. Ён асмеліўся скласці спіс са ста паэтаў, выстраіў іх па рангу, а такое не ўсім падабаецца. Многія палічылі, відаць, што павінны яны быць хоць і не першымі, дык бліжэй да гэтага, а ні ў якім выпадку не ўсярэдзіне, хоць і залатой, а тым больш у канцы. А што тады было казаць тым паэтам, якім і зусім не знайшлося месца ў той табліцы, якую нехта нават параўнаў з Перыядычнай сістэмай Мендзялеева, у якой, праўда, 105 элементаў і не без іроніі раіў Віктару Ярасю дабавіць яшчэ пяцёра паэтаў. Паэты заварушыліся! У газетах з’явіліся водгукі – больш злыя, калючыя.

Нехта прапаноўваў нават Саюзу пісьменнікаў вырабіць бірачкі з нумарамі і абавязаць усіх жывых паэтаў і паэтак насіць паверх портак ці спадніцы на правым баку бірачку. Зайшоў той ( ці зайшла) у рэдакцыю літаратурнага выдання, а ў яго на бірачцы нумар ажно 85. «Ну вядома, слабак ці і зусім графаман, пайшоў прэч!»

І гэтак далей. Адзін ляп усё ж і сапраўды быў у артыкуле Віктара Ярася – ён назваў старэйшую паэтэсу, якая яшчэ жыве, у ліку памерлых. Таму напісаў ёй асабіста пісьмо, папрасіў прабачэння і пажадаў доўгага жыцця... А на астатняе маглі крыўдаваць ці не паэты і паэткі – гэтая іхняя справа. Віктар Ярась ганарыўся, што разварушыў хоць трохі літаратурнае жыццё ў краіне, якое ў апошні час набыло аморфнасць і нейкую закасцянеласць. Хопіць спаць у шапку. Па ранжыры – станавіся-я-я!

З прапановай да Васіля Будзёнаўскага скласці спіс са ста лепшых паэтаў Украіны, аналагічны ягонаму, Віктар Ярась і ехаў у Чарнігаў...

На мытні праблем не было. Паказаў пашпарт, што ў сумцы... Тое ж самае прарабіў і на ўкраінскай мытні. І раптам ёкнула ў Віктара Ярася сэрца: ці не Васіль Будзёнаўскі?! Ён, здаецца! Трымае на выцягнутай руцэ пашпарт і, ніяк, чытае вершы? Пакуль стаіць аўтобус, Віктар Ярась выслізнуў з яго, але папярэдзіў жанчыну, якая сядзела наперадзе, што ён хутка будзе, каб не ад'ехалі без яго.

Тая паабяцала выканаць просьбу.

4

Драматург і празаік Ягор Барханаў выехаў з Гомеля ў напрамку Чарнігава на гадзіну пазней, чым Віктар Ярась, але паколькі ехаў ён з суседам на ягоным легкавіку, той выбраўся да сваякоў і выпадкова прагаварыўся, то да беларускай мытні дабраліся амаль аднačасова. Ягор Барханаў вёз п'есу ў тэатр, хоць і ведаў, што гэта дарэмная праца – ягоны твор ніхто там і не разгорне, не тое, што нехта возьмецца за чытанне. Але вёз. Калі напісалася п'еса, то яе ж трэба некуды падзець. І для шафы адзін экземпляр маецца, хваляваца нечага. Хопіць для усіх. Не хапае толькі што пакуль для гледачоў... Хоць некалькі разоў п'есы Ягора Барханава прабіваліся на сцэну, і тады пра яго пісалі ў газетах, бралі інтэрв'ю для радыё і тэлеэкрана. «Добра пачынаеш,-- заўважыў адзін вядомы драматург. – Гэтага табе не даруюць...» Хто не даруе,чаму і навошта? Тады ён не задумваўся над гэтымі пытаннямі, а ўспомніць пра ўсё значна пазней...

І вось цяпер ён, дзівак, спадзяваўся чамусьці на суседзяў-украінцаў.

5

Якраз у той час, калі ён размаўляў з карткай, на якой была выява жонкі, Васіля Будзёнаўскага пазнаў малады чырвонашчокі і крыху куртаты мытнік:

– Ба, паэт! Я ж вас па тэліку бачыў! І не раз! Не памыляюся?

Васіль Будзёнаўскі пацвердзіў:

– Так, так. А вы ж, ніяк, на мытні робіце?

– І шчэ скажаце! Ну а дзе ж? Тут!

– А мяне не пускаюць.

– Куды?

– У Гомель. Раней…

– Няма таго што раньш было. У беларускай, здаецца, так песні спяваецца. І што здарылася?

– Пашпарты перабблытаў. Замест свайго жончын узяў. Яны ж аднолькавага колеру – сінія. Што, нельга жанчынам падабраць іншы было? А мне цяпер вось хоць стой, хоць падай… Ужо тут і ехаць засталося. Парай што, добры чалавек? А я табе па тэліку прывітанне перадам. Рукой памахаю. І прозвішча назаву.

Мытнік зарагатаў:

– Ой, не! Што-небудзь іншае, толькі не гэта. Цярпець не магу, калі у Якубовіча прывітанні шлюць. Дык чым жа вам дапамагчы? Паслухай, паэт: я еду у Чарнігаў, давай падкіну, а тады зноў, калі востра трэба, сядзеш на аўтобус… і ўсе праблемы. Га?

– Дай падумаць хвілінку,– папрасіў Васіль Будзёнаўскі.

– Падумай. Я-та вас ведаю, а на беларускай мытні затрымаюць.

– А калі ім пазваніць туды? – зацікавіўся Васіль Будзёнаўскі.

– Так не робім. Раз пазвоніш, два… і будзем гэтым займацца… будзем толькі што і ведаць, як адзін аднаму услужваць… А нам нельга. Навошта тады мытні рабілі? Служба такая, брат паэт. Нічога не паробіш.

Васіль Будзёнаўскі схаваў пашпарт нарэшце ў кішэню, сказаў гучна і хлёстка:

– А хрэн вас ведае, навошта і сапраўды парабілі гэтыя мытні? Ездзілі ж… І было нам усім добра. І было хораша. Дык не – парабілі! Гульня нейкая дарослых людзей. Ну няма ж граніц! Няма! На паперы толькі… А галоўныя ігракі тыя ж самыя, кажуць, вакол Гомеля і Чарнігава катэджы фугуюць – будзь ласкаў!..

Мытнік яго ужо не слухаў – махнуў рукой і патупаў да турнікету: там спыніўся чарговы аўтобус, і яму належала паглядзець, што вязуць пасажыры…

І ў гэты самы час Васіль Будзёнаўскі і Віктар Ярась сустрэліся позіркамі, доўга глядзелі адзін на аднаго і нічога не разумелі. «Хіба Віктар? Ды не, адкуль ён тут можа ўзяцца? Гэта ж яшчэ наша тэрыторыя...». «Васіль? Васіль, здаецца. Але, пачакай. Быццам падобны ён на сябе, быццам і не. Пацікаўлюся. Па галаве не ўдарыць». На ўсялякі выпадак Віктар Ярась крактануў, паўшэптам прамовіў:

– Васіль?

У адказ пачуў:

– Віктар?

Паэты пачалі камячыць адзін аднаго, бы дзеці. Смяяліся ад шчасця і тузаліся, тузаліся і смяяліся. Пасажыры, што дзівіліся на іх з аўтобусаў, якія ішлі з пункта «А» у пункт «Б», і наадварот, глядзелі на гэтых мужчын і на тварах некаторых з іх свяціліся шчаслівыя ўсмешкі.

6

На гэтай мытні ў мінулым годзе крыху асарамаціўся Ягор Барханаў. Чарнігаўскай абласной пісьменніцкай арганізацыі споўнілася тады трыццаць год, і яго запрасілі на юбілей. Калі вяртаўся назад, то на аўтавакзале да яго звярнуўся хлапец у кепцы і з прарэхай у роце і папрасіў выручыць – правесці праз мытню чатыры бутэлькі віна. Усяго чатыры. Дробязі. Хіба цяжка? І калі яшчэ славянін не выручаў славяніна! Якраз у той самы момант Ягор Барханаў успомніў прыгожа выштукаваны паліраваны стол з фігурнымі ножкамі вішнёвага колеру, які стаяў у хаце дзеда Якава. Стол той меўся ў дзеда з трыццатых гадоў, калі на Украіне шалеў голад. Ён, пэўна ж, выратаваў ад смерці не адно жыццё. Бо дрэва есць толькі шашаль, а хлеб – людзі.

– Давайце ваша віно, – паглядзеў на хлапца Ягор Барханаў, і ўзяў з ягоных рук цяжкаваты цэлафонавы пакет.

– Вам жа ўсё роўна – адзін дыпламат. Думаю, не абцяжарыў...

– І я так думаю.

Але так не думаў супрацоўнік мытні. Калі толькі спыніўся аўтобус, у яго заглянуў вусаты дзядзька ў форме, і адразу яго твар зрабіўся строгім, а голас быў жорсткім і непадступным:

– А, гэта вы! Усе знаёмыя твары. Так, так, зразумела. Узяць рэчы – і праз залу!

Людзі доўга снаўдаліся ў пакоі, які, адчуў Ягор Барханаў, тым добра знаёмы, а потым паступіла каманда па адным з рэчамі

заходзіць у іншы пакой – да вусатана мытніка. Аднак неўзабаве чарга парушылася, бо мытнік – той самы, што вымеў усіх з аўтобуса – прыдзіраўся, да чаго толькі можна было, некалькі чалавек зусім павярнуў назад, а людзі напіралі, напіралі, бо хто з нас любіць стаяць ў чарзе! Хоць у краме, хоць у аўтакасе... хоць дзе! Нават, здавалася, і там, дзе нічога добрага не абяцалася ім, усё роўна б лезлі, напіралі, абы толькі быць першымі...

Тых, у каго не было ніякіх рэчаў, адразу адпусцілі. У Ягора Барханава – віно ж, і хоць ён патрацiў гадзіну на доглядзе рэчаў, быў задаволены, што ўлез у гэтую справу. Іначай як бы ён паўдзельнічаў у гэтай гульні, дзе з аднаго боку былі пасажыры, з іншага – вусаты мытнік. Трэба было бачыць. У думках пісьменнік дзякаваў хлапцу ў кепцы і з прарэхай у роце, што той падсунуў яму гэты цэлафанавы пакет. Вось ужо мытнік і паздзекваўся над пасажырамі! Як таго жадаў. Стараўся паказаць сваю эрудыцыю, але не зусім атрымлівалася. Высока задзіраў нос. Глядзеў на пасажыраў зняважліва, з пагардай, бы на людзей, нікуды не вартых... А людзі, а людзі гатовы былі лізаць яму, задаволенаму, ідаць жа, жыццём і сваім становішчам, чаравікі... толькі б адчапіўся, толькі б не адабраў што-небудзь, а яшчэ горш—не павярнуў назад.

Калі Ягор Барханаў паставіў пакет з віном на стол, мытнік глянуў на яго, папытаў:

– Што?

– Чатыры бутэлькі віна.

– Пакажы мне таго чалавека, віно якога правозіш, дзядзька.

– Я магу правесці праз мяжу чатыры бутэлькі віна?

– Можаце і больш.

– Дык у чым справа?

– Пакажы мне таго, чыё віно!

– Быў на свяце пісьменніцкім, там далі – у падарунак,– схлусіў Ягор Барханаў, не міргнуўшы і вокам.

– Дьаставай.

Неўзабаве бутэлькі ляжалі на стале – паставіць іх было немагчыма, бо на кожную нацягнуты старэнькія, дзе-нідзе з дзіркамі, шкарпэткі. Каб не разбіліся ў дарозе. Толькі цяпер Ягор Барханаў зразумеў, што... папаўся. Хто ж будзе прэзентаваць табе віно, абутае ў старыя шкарпэткі? Пашкадаваў пісьменніка і мытнік, а напаследак сказаў:

– Ідзіце, толькі больш не бярыце ні ў кога рэчы для перавозкі. Мая вам парада.

– Улічу, прыслухаюся,-- паабяцаў той і адразу ж пасля мытні вярнуў той цэлафанавы пакет хлапцу ў кепцы і з прарэхай у роце, за што не атрымаў нават «дзякуй».

Ён сказаў тое ж слова яму сам. Хоць гаспадар чатырох бутэлек віна не здагадаўся, канешне ж, за што.

Яшчэ вось што запомнілася тады Ягору Барханаву.Усе «пацярпелыя» тады на мытні вымушаны былі набыць адзін з апошніх нумароў спецыялізаванага часопіса. Ці не «Мытнік Беларусі»? Нешта блізкае да гэтага. Па дву рублі, здаецца, за экземпляр. Людзі, а гэта ж у асноўным украінцы, насіліся па мытні, шукаючы грошы, вытрасалі адзін з аднаго тыя рублі. Канцэрт, дый годзе! Ягор Барханаў тады падумаў: а чаму б не распаўсюджваць, да прыкладу, так «Беларускую лясную газету»? Трэба падказаць будзе галоўнаму рэдактару Анатолю Зэкаву, каб параіў леснікам уручаць самавольным парубшчыкам замест штрафу квіткі на падпіску газеты – яна б, пэўна, была лідэрам сярод усіх выданняў.

Праязджаючы па ўкраінскай мытні, Ягор Барханаў убачыў, як абдымаюцца, камечаць адзін аднаго два мужчыны. Так робяць футбалісты, калі заб’юць гол. Пачакайце, гэта ж!.. Так, так, Ягор Барханаў не памыліўся: ён пазнаў– хто гэта, і папрасіў суседа, каб той спыніў легкавік.

Неўзабаве яны абдымаліся ўжо утрох.

Аўтобусы і легкавік паехалі далей сваёй дарогай, а Васіль Будзёнаўскі, Віктар Ярась і прымкнуўшы да іх Ягор Барханаў сядзелі ў лесе і адзначалі сустрэчу. Вырашылі, што нікуды ехаць больш не трэба. Наездзіліся. Хопіць. Ім будзе добра тут, падалей ад мытні і мытнікаў, ад гарадскога тлуму... І пілі віно, якое дастаў з дыпламата Ягор Барханаў. Гуляць дык гуляць. Паэты спярша ўпарціліся, прасілі не адкаркоўваць бутэльку, аднак Ягор Барханаў нагадаў ім словы вядомага украінскага паэта Максіма Рыльскага: «Калі я ўспамінаю пра дружбу славянскіх народаў, у мяне адразу рука цягнецца да чаркі...»

А класікаў трэба паважаць.

*2001 г.*

# ПОСТ

## 1

Калі з'явіўся тут гэты пост – дакладна ніхто не помніць. Адны кажуць, што пасля чарнобыльскай аварыі, іншыя сцвярджаюць, пазней – калі разваліўся СССР: побач мяжа з Расеяй, дык каб прыглядаць за рухам людзей з адной краіны ў другую. Руху, праўда, тут асаблівага няма, бо ўвесь транспарт, вядома ж, ідзе па галоўнай магістралі, якая адсюль кіламетрах у пятнаццаці. Але ёсць будка, на пастку дзяжураць некалькі міліцыянераў, побач стаіць легкавік, і калі з'яўляецца рэдкая аўтамашына, з будкі выходзіць – як на гэты раз – сяржант Філанчук, нібы не ведаючы, куды прытыкнуць жазло, гуляе ім, быццам яно для яго не зусім абавязковая і патрэбная рэч, і толькі калі аўтамашына пад'язджае зусім блізка, тады ён надзіва энергічна, лёгка, прывычна і спрактыкавана пускае жазло ў ход: стоп, разумнік, куды сабраўся! Аўтамашына спыняецца, міліцыянер падыходзіць да акенца, з якога выглядвае кудлатая галава кіроўцы Сірацюка – той, крыху запунсавелы ад хвалявання, стараецца паказаць яму рэдкія зубы.

– Дакументы! – працягвае руку да акенца міліцыянер, а сам адвярнуўся, не глядзіць нават на кіроўцу, і дарэмна той стараўся-паказваў яму рэдкія зубы – а больш і не было, пэўна ж, чаго. – Куды едзеш?

– Дак у пуцявым напісана ж...

– Папрашу не дакаць, я з табой дзяцей не хрысціў.

– Выбачайце.

– Калі даведаюся, што праедзеш у Расею – пеняй на сябе. А пакуль давядзецца аштрафаваць...

– За што?

– Хіба ж няма за што? Машына ёсць - знойдзем.

– Толькі з рамонту...

– А ты, бачу, разгаворлівы. Вылазь з кабіны. Хутчэй, хутчэй! – міліцыянер раптам перадумаў, не стаў лазіць на сядзенне, каб праверыць тармазы, як спярша хацеў, а толькі загадаў: – Налі бензіну. – І, не дачакаўшыся адказу, гукнуў у бок будкі: – Косцік, нясі каністру!

Косцік, заспаны і не менш кудлаты, чым гэты кіроўца, выкуліўся з будкі, зашоргаў у іх бок, шырока пазяхаючы.

– Няма ў мяне бензіну, – баючыся, што гэта можа кепска для яго скончыцца, прашаптаў кіроўца. – Толькі даехаць... Там абяцалі наліць...

– Маць тваю, га! І паспаць не дадуць! – Косцік мацюкнуўся, плюнуў і падаў каністру напарніку. – На. Ды спярша ўзнавай, ёсць паліва ці не, а тады трывож.

– Цэлы будзеш – не здохнеш, – узяў каністру міліцыянер, паглядзеў на кіроўцу. – Назад ехаць гэтай дарогай будзеш?

– Не ведаю, – неакрэслена павёў плячыма кіроўца.

– Будзеш! На зваротнай дарозе нальеш. І бяры там пабольш. Ясна?

– Быццам што і так, – ціха прамовіў кіроўца. – Дак што мне, ехаць?

– Ну, раз усё зразумеў правільна... Трымай дакументы.

Ужо калі грузавік крануўся з месца, міліцыянер, бы схамянуўшыся, махнуў жазлом, каб спыніўся, перакінуў праз борт каністру: "Хай толькі не верне мне яе. Поўную". А сам зайшоў у будку, неўзабаве вярнуўся з шыльдай, прымацаваў на кол, дзе чорным па белым было напісана: "Небяспечная зона. Грыбы і ягады збіраць забаронена!" З усяго размаху ўторкнуў кол у зямлю і гыркнуў Косціку, якога не было відаць з будкі:

– Для якога хрэна пісаць было? А калі хто прыпрэцца ў грыбы? Што тады, пень?!

Косцік паказаўся ў дзвярах і, падцягнуўшы штаны, паглядзеў у бок лесу, перад якім стаяў, крыху нахіліўшыся, усё той жа кол з шыльдай, папярэджваючай, што нельга збіраць у лесе.. І спытаў сам у сябе:

– Нешта іх доўга няма? Засранцы!..

2

Яўген Паўлавіч Атрохаў збіраўся ў грыбы. Была не раніца, самы спрыяльны час для грыбнікоў, не – дзень якраз пакаціўся недзе на другую палову. Тут сказалася прафесійная звычка, мусіць: гэты чалавек усё жыццё працаваў настаўнікам, апошнія дзесяць гадоў быў дырэктарам школы, а збіраць грыбы не заўсёды выпадала... Зранку – школа, хапала клопату. Аднак усё ж не мог жыць Атрохаў, каб не ўзяць кошык і не збегаць у лес. Хоць некалькі разоў на тыдзень. Асабліва, калі была залатая пара восені – бабіна лета. Як вось і цяпер. Грыбы клікалі. І хоць жонка, дабрэйшая і мудрая Вольга Пятроўна, таксама настаўніца-пенсіянерка, палохала яго высокай радыяцый і

папярэджвала, што ў лес яго ніхто не пусціць, бо, чула, там выставілі міліцэйскі пост, ён не паслухаўся. "Хто гэта мяне не пусціць у мой лес?" Накінуўшы на плечы лёгкі дажджавічок, Атрохаў узяў свой грыбны кошык, чамусьці толькі сёння агледзеў, што ён у яго нікуды няварты, трэба сплесці новы, і паціху пасунуўся ў напрамку Плоскага – калі і ёсць грыбы, то толькі там. Надзіва грыбная мясціна.

А вунь – і праўда! – будка нейкая стаіць, падобная на вагончык. Побач таўчэцца міліцыянер. Жонка ведала, што казала: "Але навошта ён тут? Хіба няма куды міліцыянтаў падзець? Напладзілі іх, канешне, багата... Заняць жа нечым трэба. Месца ў нас тут ціхае, глухамань. Даішнікі? Дык які тут рух – з дзесятак машын за дзень, мусіць, і пройдзе. Калгасныя стаяць – няма паліва і запчастак. Прыватнікі таксама не багачы – паліва многім з іх, зноў жа, не па кішэні. Дзіўны пост. А, можа, яны, міліцыянеры, у ролі мытнікаў ці пагранічнікаў? Побач жа – Расея... Паспрабуй тут зразумей".

Атрохаў вырашыў абмінуць гэты пост, хоць яму і карцела спярша бліжэй падысці да будкі, папытаць у міліцыянераў, навошта яны тут, але ён цвяроза падумаў, што яны ўсё роўна яму праўду не скажуць, і махнуў рукой: пайду міма, наўскасяк, а то, чаго добрага, і сапраўды пачнуць чапляцца і не пусцяць у лес. Ды не там было – міліцыянер, што таптаўся каля будкі, заўважыў яго, гучна крыкнуў: "Сюды!" І трошкі цішэй: "Куды прэшся, казёл?!" Але Атрохаў пачуў і апошнія словы, павярнуў галаву на крык, тыцнуў сабе ў грудзі пальцам, папытаў на ўсялякі выпадак, хоць было і так усё зразумела: "Я?" Міліцыянер не прамарудзіў з адказам: "А хто яшчэ тут ёсць? М... мудак?"

Давялося звярнуць да будкі.

– Ну і куды, дзед, топаеш? – сустрэў яго, набычыўшыся, сяржант Філанчук.

– У грыбы.

– Куды, куды? – нахіліў галаву наперад сяржант Філанчук.

– А вы што, кепска чуеце? – глянуў на каржакаватага сяржанта Атрохаў і раптам насцярожыўся: – Філанчук? Вы, прабачце, Філанчук?

Насцярожыўся і міліцыянер:

– Дапусцім. Але гэта да справы не адносіцца. Паварочвай, дзед, назад. Чуў?

Не, якраз гэтага ён і не чуў. Перад вачыма, як вось і цяпер, стаяў гэты самы Філанчук у яго кабінеце, шморгаў носам і раз-пораз выціраў нос рукавом кашулі. На дырэктара не падымаў галавы.

– Скажы мне, Міколка, навошта ты залез у стаматалагічны кабінет і забраў там усе цацкі? – спытаўся тады ў яго Атрохаў. – Сабраўся, відаць, зубным доктарам стаць?

– Не-е...

– Дык а з якой мэтай ты пайшоў у гарпасёлак за дзесяць кіламетраў, разбіў шкло, залез у кабінет, выграб усе інструменты, якімі доктарка лечыць людзям зубы?

– Не ведаю... Палез...

Больш размаўляць з ім не было патрэбы. Паабяцаў, праўда, Атрохаў, калі такое паўторыцца, асабіста надраць яму вушы, ды і выпусціў з кабінета. Ці не ў пятым класе тады вучыўся гэты самы Міколка Філанчук? Бацькі яго потым набылі ў гарпасёлку дамок, пераехалі, а дзеці жартавалі: гэта каб Кольку было бліжэй да зубнога кабінета.

І вось гэты самы Філанчук не пускае яго, былога дырэктара, у лес. Атрохаў кашлянуў. Філанчук зрабіў выгляд, што не чуе. Што ж, нічога не паробіш: такі, значыць, ён чалавек – не прызнае земляка і дырэктара. Гэта бывае... Атрохаў і раней заўважаў, што бывае – асаблівыа тады, калі былы двоечнік ці проста паскуднік ўварвецца ў такое асяроддзе, дзе не трэба вялікага розуму, а дастаткова ўсяго папкі ў руках ці пагонаў на плячах... У такіх выпадках Атрохаў хацеў сказаць ім, каб пачулі, але не хапала смеласці, і ён задавольваўся ўнутраным гневам: "Дурні! Усё ж гэта пройдзе... Усё гэта часова... Ды і навошта ж так думаць пра сябе звысоку, быццам ты ўзяў Бога за бараду. А што да галавы, то яна на плячах застанецца. Яна – не пагон: той або сарвуць, або прымусяць гэта зрабіць... Галаву пашкадуюць, пэўна ж: і дурню яна патрэбна, галава. Замест яе качан капусты не ўсторкнеш. Але ж колькі фарсу ў чалавека, колькі пыхі! Гляньце хоць бы на гэтага Кольку, на гэтага "стаматолага"!

– Дык мне што, ісці ў лес? – спытаў Атрохаў.

– Не паложана, я сказаў! – сяржант Філапчук сплюнуў, чамусьці дастаў пісталет з абшарпанай кабуры, пакруціў яго і так, і гэтак перад тварам, зазірнуў у вочка ствала, фукнуў туды. – Не паложана! Я, здаецца, панятна выражаюсь? А? Ну, і чаму ж маўчыце?

Перш, чым нешта сказаць гэтаму Філанчуку, Атрохаў зноў успомніў яго малым недарэкам, калі той напрасіўся на лета даглядаць школьных трусоў - адзін час модна было ў школах трымаць гэтых вушастых прыгажунчыкаў. Атрымлівалася няблага: і дзеці былі заняты справай, не туляліся без занятку ўсё лета, і – зноў жа – маглі зарабіць і для сябе нейкую капейчыну, і для школы. Травы ж хапае.

Усё ішло добра, а пазней, перад новым навучальным годам, на школьнай ферме забілі трывогу: пачалі прападаць трусы. Спярша адзін, потым другі, трэці... Хто паквапіўся? Дзверы ж на ноч зачынены. Ключ ад замка толькі ў настаўніка Шульгі. Шыбка ў акенцы, што перад самым падстрэшкам, цэлая. А потым самі ж дзеці і за руку зламысніка: хадзі сюды, хлопча! Гэта быў усё той жа Міколка, яшчэ, праўда, не стаматолаг, але недалёка ад таго... Дык як жа ён іх краў? Побач з хляўчуком зрабілі прыбіральню – глыбокую, з пагабляваных дошак, – да новага навучальнага года. Вось ён і выкарыстоўваў туалет - непрыкметна, пакуль кармілі трусоў аднагодкі, ухітраўся засунуць аднаго з іх у кош, вынесці ў туалет, апусціць у яму, а ўвечары, калі зусім цямнела, шчаміўся ў ачко, выцягваў труса і нёс дахаты. І так тры разы. Пакуль не ўцікавалі...

І вось цяпер ён, гэты трусалоў - "стаматолаг" не пускае яго, Атрохава, у лес. Хоць што ён можа зрабіць, калі і не паслухаецца, калі не будзе звяртаць увагі на ягоныя крыкі-пагрозы? Страляць пачне? Наўрад. Хоць, магчыма, і асмеліцца... Каб жа ведаў, якая ў яго інструкцыя. Ды і чаму гэта раптам міліцыя не пускае ў лес? Што ёй у рэшце рэшт, больш няма чаго рабіць? Вунь колькі гвалтаванняў, разбояў... нават у вёсцы стала небяспечна жыць, асабліва старым людзям – урываюцца ў хаты падонкі ў нейкіх шкарпэтках на мордах, забіраюць пенсіі. Яшчэ падзякуй Богу, калі толькі забяруць, калі не да крыві даходзіць... Цяпер час жудасны. А ў тых, старых, і моцы няма адбіцца, як і няма каму заступіцца за іх. Міліцыя тут вось, на гэтым пасту, а ў вёсцы, каб абараніць чалавека, старога і нямоглага, іх і повідам не відаць. Тэлефонаў таксама няма – як правіла, заўсёды не хапае колькі метраў нейкага там кабелю альбо двух слупоў.

– Я сказаў: не прайдзеш! – сяржант Філанчук схаваў назад у кабуру пісталет, і на ўсялякі выпадак падсунуў яго траха бліжэй да жывата, а потым адвярнуўся ад Атрохава, прыбіў прыдарожны пыл, і ўжо калі павярнуўся да Атрохава, зашпільваў прарэху на штанах. – Мне за вас адказваць не хочацца. Я салдат: сказалі не пускаць у лес, я і не пускаю. Скажуць пускаць, я і пушчу. Я, можа, даражу. Яны на дарозе не валяюцца. А ты, дзед, хочаш сказаць, што мяне ведаеш?

– Я ж Атрохаў... Яўген Паўлавіч.

– Нешта чуў. Было.

"Можа, нагадаць яму пра зубны кабінет?!" Але гэтую думку Атрохаў адагнаў ад сябе, справядліва падумаўшы, што лепш не напамінаць чалавеку, калі ён у пагонах, аб такіх ягоных, а то яшчэ, чаго добрага, не так зразумее. Адметнае ж, нешта значнае пра

Міколку нічога не прыгадвалася, як ні стараўся. Тады ён сказаў коратка і зразумела:

– Дырэктар школы з Асінаўкі.

Сяржант Філанчук не адразу прызнаўся, што помніць, што ведае... Чамусьці ён саромеўся гэтага, нават стараўся не сустракацца з Атрохавым позіркам, і ўсё пaглядаў і паглядаў на той слуп з шыльдай, дзе было напісана, што грыбы і ягады збіраць забаронена. Прапанаваў нават закурыць, але Атрохаў падзякаваў і не ўзяў з пачка, працягнутага ў ягоны бок, цыгарэту. Філанчук закурыў сам. Пыхкаў дымам, керхаў, бы стары дзед, а сказаў надзіва спакойна і ветла:

– Паколькі вы мой былы дырэктар... цяпер я ўспомніў, хоць, маць часная, і пастарэлі вы, скажу праўду!.. То тым больш прапусціць вас у лес не магу. Здароўе, дарагі мой, на першым плане, і хто, як не я, ваш былы вучань, павінен дбаць пра гэта, вот скажыце мне? Ніхто не ходзіць у лес і вам не раю.

– А каму ў нас хадзіць? – паглядзеў на Філанчука Атрохаў. – Адзін я і застаўся, хто на нагах больш-менш. Ёсць, праўда, чалавекі два мужчыны маладзейшыя за мяне але яны ніколі ў той лес па грыбы не хадзілі і да радыяцыі.

– І жывуць жа! – ухапіўся за пачутае ад Атрохава Філанчук.

Былы дырэктар адказаў не адразу:

– Жыць можна па-рознаму. Але ж, схадзіўшы ў лес, не памру і я. Колькі прайшло пасля аварыі гадоў? Правільна: багата. А што ядом? Што? Нам чыстыя прадукты прывозяць? Хто? Калі? Пакажыце мне таго чалавека, я расцалую яго. Пакажыце. Усё з агарода, з пашы нашай жа, што побач з лесам. І грыбы я кожны год збіраю. А калі збіраю, то і ем. Ды і чаму ж вы цяпер сталі тут? Дзе раней былі? Хто гэты пост прыдумаў? Так што, Міколка, дазволь мне...

Філанчук, убачыўшы, што былы дырэктар памкнуўся было ісці ў лес, зароў не зусім чалавечым голасам, на шыі ажно выперліся жаўлакі, а вочы набрынялі чырванню, роўна як і шчокі:

– Стой!

Атрохаў, хоць і быў атэістам, усё ж на ўсялякі выпадак перахрысціўся:

– Даруй, госпадзі!.. Што гэта з чалавекам?

Нечакана паказаў рукой на лес:

– Там нехта крычыць, Філанчук! Чуеце! Дзяўчына! Кліча на падмогу!..

Філанчук жа нават не глянуў у той бок, адкуль данесліся абрыўкі мальбы аб дапамозе, а сказаў, нібы ён служыў не ў міліцыі, а дзе-небудзь у далёкім ад яе ведамстве:

– З майго боку ў лес ніхто не заходзіў. Я пільна стаю. Пра другіх не ведаю. А калі хто, можа, і прадраўся, што я не ўмеціў, то няхай цяпер пакрычыць.

– Дык радыяцыя не кусаецца, не драпаецца, таварыш Філанчук? – тузануў сяржант за рукаў Атрохаў. – Што вы скажаце? Вы ад мяне не адварочвайцеся, не адварочвайцеся!..

Філанчук рашуча павярнуўся, дыхнуў гарачынёй у твар былому дырэктару:

– А ў нас – і кусаецца, і драпаецца! Так што шуруй адсюль, дзед, пакуль не позна! Я табе зразумела гавару?! А пра школу мы потым пагаворым. Бяры свой кошык і знікай, а то позна будзе.

3

Як не кожнага дня на пост прыходзіла бабка Сцепаніда. Амаль бяззубая, маленькая, заўсёды мурзатая, яна віталася з першым патрапіўшым на яе вочы міліцыянерам, ставіла на ганак вядзерца, папраўляла хустку на ўскудлачанай галаве. Міліцыянер паглядаў на вядзерца, паціраў далонямі, усмешліва пераводзіў позірк на старую:

– Пароль?

Сцепаніда ўсіхалася - падобна на тое было, што гульня з паролем ёй падабалася, – і прыгадвала, які ж ён, той пароль. Ага, так-так-так: можна называць.

– Дзесяць яек, – прыгадвала Сцепаніда. – Больш не было. Адно сама выпіла. Па дарозе. Дужа піць захацелася. А было адзінаццаць. Таму не так скора назвала пароль. Пакуль палічыла.

– Усё роўна малайчына, цётка, – міліцыянер браў вядзерца, знікаў з ім у вагончыку, неўзабаве вяртаў яго, а як толькі Сцепаніда папытала, калі ж яны разлічацца за яйкі, што прыносіла раней, міліцыянер супакоіў: – За гэта, бабка, не хвалюйся. Прынось яшчэ. Адразу і разлічымся.

– Прынясу. Можа, хлопцы, у вас якая газета старая ёсць? – нясмела папытала Сцепаніда. – На растопку.

– Знойдзем, – сказаў мілцыянер і схаваўся ў вагончыку, але неўзабаве вярнуўся, падняў руку з газетай над сабой. – А за газету, цётка, разлік асобны.

– Што трэба? – не разумела, чаго патрабуе міліцыянер Сцепаніда.

– Праспявай пару прыпевак, га? – разяўляў рот міліцыянер і клікаў напарніка. – Сярога, выходзіць! Ой, умора зараз будзе. Толькі што-небудзь новенькае давай. Без халтуры. Ну, смялей, смялей. Слухаем.

Старая, відаць, лічыла за гонар, што гэтыя высокія людзі хочуць паслухаць не каго-небудзь, а менавіта яе, таму забывалася пра плату за яйкі, якія выдурваюць у яе нахабныя гаспадары гэтага вагончыка, і калі з'яўляўся напарнік, шамкала бяззубым ротам:

Што ж вы, дзеўкі, не паёце?
Я стара і то пяю.
Што ж вы, дзеўкі, не даёце?
Я стара і то даю.

Сцепаніда часта міргаючы вейкамі, смяялася разам з міліцыянерамі, смаркалася ў падол сукенкі.

– Прымаецца! – задаволена фырчэў міліцыянер. – Ну, што там у нас далей? Дамаўляліся на дзве прыпеўкі. Напамінаю: толькі не паўтарацца. Цяпер газеты дарагія, так проста не адробішся. Паехалі!

– Не трымае мая галава ўжо нічога, маладыя начальнікі, – гаварыла Сцепаніда. – Думала, думала, што ж праспяваць яшчэ – і не магу прыдумаць. Хоць во! Слухаеце?

– Давай, давай!

– Пра любоў, – Сцепаніда паправіла хустку, узяла вядзерца ў рукі, быццам падрыхтавалася даваць лататы, калі прыпеўка не будзе даспадобы. – Пра любоў. Слухаеце? Пачынаю: "І тут баліць, і там баліць... Толькі там не баліць, дзе мой мілы шавяліць".

– Сышоў, – прызнаецца Сцепаніда. – Даўно сышоў. У белы свет. Дзяцей не было па яго віне, я папракаць пачала, ён не вытрымаў і прапаў. Кажуць, недзе ў Сібіры... А чаго ён туды запёрся? Калі ж і яго, Лісаўца майго, вінаваціць не трэба было з-за дзяцей. На трахтары рабіў і ўвесь час бочку з ядахімікатамі цягаў. Усё ён ды ён. І паразіўся. Не спасобны стаў. А тады тую бочку ніхто з трахтарыстаў не браў - баяліся. Во не помню, ці ўгаварылі каго? Мусіць, і не.

Той, што Сяргеем зваць, дапытваецца, як жа яна, Сцепаніда, жыла без мужыка, а старая толькі смяецца сваім бяззубым ротам і хітра адказвае:

– Жыла...

– А ці быў у цябе, бабка, мілы? – смеючыся, пытаюцца міліцыянеры.

Першы міліцыянер – для Сцепаніды яны ўсё аднолькавыя – нарэшце паглядзеў на гадзіннік, загадаў старой:

– Ідзі, цётка, дахаты. А праз два дні прыходзь. Можа, грошы выдадуць нам. – І ён падміргвае Сяргею. – А то начальнік прыедзе, угрэе нам. Начальнік у нас стро-о-гі.

Сцепаніда тупае ў вёску, на самым ускрайку сустракаецца з Атрохавым - той хадзіў па старых могілках (яшчэ пры Пятры І, кажуць, там хавалі салдат пасля бою са шведамі, а цяпер на тых ледзь прыкметных узгорках раслі рэдкія дрэвы – колькі бярозак і ялін) і шукаў, няйначай, грыбы. Сцепаніда павіталася з ім, ёй таксама цікава стала, што ж гэта ён робіць там, Паўлавіч. Падышла, папытала. Сакрэту не было, як не было тут і грыбоў, якія ён шукаў... Калі Сцепаніда задаволілася пачутым і сабралася ўжо ісці, Атрохаў папрасіў яе затрымацца, доўга глядзеў ёй у вочы – Сцепаніда ажно міргаць пачала, часта-часта, – і сказаў шчыра і пранікнёна:

– Больш яйкі на пост не насі, Міканораўна. Лепш сама з'еш. А пра пост той я ліст, куды трэба, напісаў...

Сцепаніда залякнулася ажно, пачуўшы пра яйкі, прыкінулася дзівачкай:

– А хто вам сказаў, Паўлавіч, пра тое?

– Людзі ўсё, дзякаваць Богу, ведаюць. Не сляпыя. Так што паслухайся мяне. Не насі больш яйкі. Не трэба. А то панясеш, а іх ужо няма... Беражы абутак.

4

У вагончыку іх было двое: сяржант Філанчук і Косцік, таксама сяржант. Трэці, аматар папіць чужыя курыныя яйкі міліцыянер, прозвішча якога было Халікаў, пацёгся ў лес, але не грыбы збіраць...

Ці то мясцовыя шафёры ведалі пра сцежкі-дарожкі і абміналі яго, а такіх магчымасцей у іх мелася нямала, усе сцежкі-дарожкі яны ведалі, ці нешта іншае, але з самай раніцы ніякага руху на дарозе не было, і паставыя сумавалі. Філанчук зрэдку выходзіў на дарогу, чакаў хоць нейкую аўтамашыну, але прагрукатаў толькі дзядок на калёсах. Сяржант хацеў зрабіць яму заўвагу, каб трымаўся правага боку, а тады перадумаў, махнуў рукой і зацёгся ў вагончык. Косцік ляжаў на тапчане, самгнуўшы вочы: драмаў.

– Спіш? – папытаў Філанчук.

Косцік не адказаў – не хапіла, відаць, сілы: навальваўся на яго, мусіць, самы што ні ёсць сон, і ён баяўся, паварушыўшы губамі, спужнуць яго.

– Спі, – дазволіў Філанчук, пасядзеў трохі на табурэце, пагартаў кніжку вершаў, маленькую і тонкую, і прапанаваў Косціку, які, мабыць, і не чуў яго. – Хочаш, я табе вершы прачытаю? Не? Не буду. Калі не хочаш... Не свярбіць, то навошта часацца? У мяне сусед – паэт. Яго раней па тэлевізары паказвалі, а тады перасталі: нешта не тое, кажуць, ляпнуў. Прагналі. А ён можа! У газеце рабіў, і калі адзін заваліў яго сваімі опусамі, дык мой сусед не вытрымаў, шпурнуў тыя вершы яму ў морду і прагнаў з кабінета: лепш пі гарэлку, толькі не пішы! Можа так сказаць, сусед мой, што паэт? Ці прыдумалі? А я думаю, што можа. Я, праўда, з ім блізка не трымаюся, але тады-сяды вітаемся. Ён на мове размаўляе - па-беларускаму... – Філанчук пагартаў кніжку, паглядзеў на Косціка, які драмаў і пыхкаў, бы імбрык. Захроп! Добра, пахрапі, а я на дарозе буду...

Філанчук чамусьці зноў, як перад Атрохавым, выцягнуў з кабуры пісталет, круціў яго на ўказальным пальцы, наводзіў на вагончык, на шыльду, што забараняла ісці ў лес грыбнікам і ягаднікам, і яму так карцела пастраляць, што прама няўсцерп. Ён жадаў нават, каб нехта паспрабаваў напасці на гэты пост, і тады б Філанчук паказаў, дзе ракі зімуюць!..

Аднак ахвотнікаў напасці на пост не знаходзілася, і гэтая акалічнасць пачынала раздражняць Філанчука, бо надта свярбелі рукі, а як пачасаць іх – ён, бедалага, не ведаў.

5

Кіроўца Сірацюк прыехаў у сваю вёску Антонаўка з фіктыўным пуцявым лістом. Добра, што на пасту сяржанту патрэбны быў бензін, таму асабліва не прыглядаўся. І цяпер вось у кузаве "газона" ляжала парожняя каністра на дваццаць літраў, і Сірацюк, кроў з носу, пастарацца абавязкова напоўніць яе палівам, іначай... Ён нават не хацеў уяўляць, што тады будзе яму - страшна падумаць. Тыя хлопцы жартаваць не любяць. Але ж не так проста расстарацца сёння ў Антонаўцы на паліва: дэфіцыт. На калгаснай запраўцы робіць, праўда, сваячка Каця, але яна баіцца згубіць сваё: старшыня паабяцаў, калі хоць адну кроплю пусціць налева, адкруціць галаву, што азначала – пакладзі ключы. Старшыню зразумееш – на паліва няма грошай, калгасу багата хто павінен за малако і мяса, але доўг вяртаць ніхто і не думаў, а тут заканчваецца ўборачная, яна пажэрла ўсё, што толькі было можна, далёка наперад. Так што на сваячку Сірацюк не разлічваў. А яшчэ ж трэба было і ў сваю машыну нешта заліць – не вада ж колы круціць. І чаго, папытаць бы, не заехаў на

заправачную, што пры выездзе з горада? Гэта цяпер лёгка дакараць сябе, а тады проста пашкадаваў грошай, захацеў зэканоміць – у вёсцы, палічыў, можна ў мясцовых шафёраў купіць паліва значна танней, і ён рабіў так часцяком. Ды яшчэ гэтыя нахабныя: калгас упершыню застаўся без паліва, якое раней лілося тут ракой. А бензін патрэбны – для таго і прыехаў на машыне, каб зрабіць пару рэйсаў у лес па дровы, бо старым трэба дапамагчы, каб узімку было ім цёпла ў хаце. На машыне ці без яе, але дровы - ягоны клопат, так ужо сталася. А тут не тое што вярнуцца назад у горад праблема, у лес не з'ездзіш: міліцыянеры чакаюць жа сваю каністру, і не паражняком, вядома. Сірацюк думаў-гадаў, што гэта там за паставыя такія - даішнікі, падобна а мо і не, можа які экалагічны пост ці яшчэ што там, цяпер навыдумлялі гэтых міліцыянтаў процьму – і не мог даўмецца, але ў адным быў цвёрда перакананы: школа ў іх адна, таму экзамен трэба ўсё ж здаваць, не ўвільнеш. Каб яшчэ хоць гэтую каністру не падсунулі... бляха-муха!

У каго не пытаўся наконт бензіна Сірацюк, чуў адно кароткае, але пякучае, бы з патэльні знятае, слова: няма! Не мог выручыць і бацька, толькі пацiскаў плячыма, чухаў патыліцу. Але не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Прыехаў у Антонаўку бліжэй к вечару таксама на службовым "газоне" сусед Валік Семчанка, у адным горадзе жывуць і працуюць, і сур'ёзна зламаўся: паляцела хадавая. А бак поўны. Дамовіліся зліць бензін, а пакуль Семчанка будзе рамантавацца, што-небудзь прыдумаюць. А з'ездзіўшы ў лес, Сірацюк дапаможа яму. Можа і так атрымацца, што давядзецца ехаць у горад па паліва, аднак жа пропускам туды павінна стаць поўная каністра. Хоць можна было і аб'ехаць. Можна – іншым, таму ж Семчанку, толькі не Сірацюку, бо трапіў у сіло моцна. Не, каб жа аб'ехаць, як іншыя. Дурань! Пцьфу!..

У лес рашылі ехаць на грузавіку, адразу пілаваць і загружаць дровы, ды там хапае і гатовага ламачча, будзе відаць, а потым адна брыгада павязе лес у вёску, а другая будзе нарыхтоўваць. Паехаць у лес падахвоцілася некалькі мужчын, якія туляліся без занятку, таму рабочых рук хапала.

І паехалі.

6

Можна сказаць так пра гэты пост: ён створаны для таго, каб людзі бачылі, што ёсць міліцыя, што яна працуе... каб, як кажуць, карась не драмаў. Так, браткі, так. Нават дзед Міхей, збіраючыся ў бальніцу да

сваёй бабкі, паглядзеў, ці ёсць затычкі ў колах, праверыў, ці ўсе спіцы. Адной, праўда, не было, аднак стары махнуў рукой: а мо і не звернуць увагі на пасту, не грузавік жа! А калі набліжаўся Міхей да вагончыка, адчуў, што хвалюецца. Во, хвароба на яго, як чалавек гэты злеплены! Ну хто ён міліцыі? Пенсіянер, бяззубы і сухі, як трэска, у чым толькі і душа трымаецца, тут і жыць засталося... А як убачыў міліцыянера каля вагончыка, затрымцелі лыткі. Стары паспачуваў шафёрам: тым і сапраўды не пазайздросціш. Гэта ж трэба мець такую моц той міліцыі, што баішся яе страшней, чым смерці. І праўда ж: скажы, што заўтра загавееш, Богу душу аддасі, і толькі паціснеш плячыма, уздыхнеш-выдыхнеш: пара дык пара. І ўсяго. А тут – лыткі трымцяць!..

Калі дзед Міхей наблізіўся да паста, сяржант Філанчук паказаў яму знак рукой: стоп! Стары паслухаўся, а сам падумаў: "Што яму, анціхрасту, трэба?" Міліцыянер загадаў пад'ехаць бліжэй. Пад'ехаў. Ні слова ні паўслова не сказаўшы, сяржант агледзеў калёсы, на якіх сядзеў, падклаўшы пад мяккае месца бярэмя сена, Міхей.

– Твой транспарт трэба, – сказаў сяржант, узяў у старога лейцы. – Адпачні пакуль, дзед.

Міхей заўпарціўся:

– Э-э-э, куды!? Мне некалі! У бальніцу еду, да бабкі сваёй. Аперацыю зрабілі ёй. Вітаміны вязу.

– Бабка пачакае, – сяржант Філанчук сядзеў ужо на месцы дзеда Міхея, а той таптаўся, нічога не разумеючы, каля калёс, атрасаючы рэшткі сена з портак. – Адпачні. Я скора. Пяць хвілін туды, пяць назад... У лес з'езджу. У туалет. А то ў нашым не павярнуцца. Не хвалюйся, стары. Пасядзі. Там, у будцы, Косцік спіць, разбудзі яго, дзед. Разбудзі, чуеш!

Дзед Міхей махнуў галавой і папярэдзіў міліцыянера, каб не замардаваў каня, бо ён для яго - само жыццё, і калі што здарыцца, крый Божа, стары такога не перажыве. Але той нічога яму не адказаў, а шлёгнуў каню па распаранай спіне лазінкай, што тая ажно пераламілася:

– Нэ-э-э!

Косцік, калі яго пакратаў за рукаў Міхей, злёгку здрыгануўся, але не адразу расплюшчыў вочы, а калі глянуў на старога, уставаць не спяшаўся: прыходзіў у сябе, разбіраўся, дзе ён і што ён. Ачуняў нарэшце. Лыпнуў вачыма, ускочыў:

– Выпіць хочаш?

– Вып'ю, – пагадзіўся стары. – Тым больш, што калі баба з бальніцы лаяцца пачне, скажу, што з міліцыянерам піў. Даруе. Гэта з Цімкам ці з суседам Язэпам калі клюкнем, то яна на дыбкі, бывае, становіцца. А з вамі даруе, акурат так. Яшчэ і пахваліць: глядзі ты, і міліцыянер цябе ўважыў! Не абы хто!

Косцік нічога не гаварыў, толькі пазяхаў, шырока разяўляючы рот і дэманструючы белыя, як часнок, зубы, корпаўся ў невялічкай шафцы – неўзабаве на століку з'явілася пачатая пляшка гарэлкі, дзве чаркі, цыбуліна, некалькі яек і скрылікаў сала. Забулькаў у чаркі, загадаў Міхею:

– Куляй, дзед.

– Кульну, – стары, не раздумваючы асабліва, выпіў гарэлку – яна аказалася не з крамы, а была самаробная.

– Пайшла? – праглынуўшы пітво, папытаў у старога міліцыянер.

– Як брахня па сялу... Фу-у! Добрая. І сала смачнае.

– На халяву, дзед, і воцат салодкі. Яшчэ будзеш?

– Доза, доза! – замахаў рукамі на міліцыянера Косціка Міхей. – І за гэтае дзякуй. Колькі і жыву, а з міліцыянерамі п'ю першы раз. Не падпускалі блізка. А на канцы веку, бач ты, і пашэнціла, ядры тваю ў корань! Самасадзіку не пагрэбуеш майго, га?

– Тут не чадзі, – толькі і сказаў Косцік, выйшаў на ганачак, павагаўся на мысках чаравікаў, прычыніў за Міхеем дзверы, які прасунуўся паўзбоч яго, і больш не ўважыў таго ніводным словам.

Маўчаў і стары, толькі раз-пораз паглядаў на лес, дзе колькі часу назад знік сяржант на ягоным кані...

Пакуль не вяртаецца.

Пяць хвілін, мусіць быць, даўно мінула?

7

У лесе, недалёка адыходзячы ад дарогі, дзятва ўлетку зрабіла будан, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі - у асноўным гарадскія, што прыехалі на вакацыі да дзядзоў і бабуль – бавілі вольны час. Калі яны праектавалі сваё збудаванне, а потым збівалі і звязвалі дротам і драпіравалі духмяным сенам, не думалі, вядома, што робяць секс-шоп для дарослых дзядзькаў. Атрымалася ж так. Першым агледзеў будан усё той жа сяржант Філанчук, калі сярод белага дня ў яго нерат трапіла прыгажуня Волька, якая акурат каля паста вылезла са спадарожнай, што кіравала якраз міма яе Антонаўкі. Дзяўчына падала гаспадару чырвонага "жыгулёнку" грошы, той не ўзяў – не сквапны аказаўся, а мо таму, што да легкавушкі падыходзіў сяржант

міліцыі: залякаўся. Гаспадару "жыгулёнка" давялося пачысціць крыху свае кішэні, а потым толькі Філанчук адпусціў яго. Перад гэтым Вольку папрасіў затрымацца... Тая паслухалася. Скончылася ўсё тым, што яны апынуліся ў лесе, сяржант, убачыўшы будан, ад здзіўлення – прыемнага, трэба разумець – ледзь не страціў мову: лепш і не прыдумаеш. На газеціне паскрыліў кілбасу, гурок, дастаў з торбачкі бутэльку віна. Дзяўчына спярша ўпарцілася, а потым забылася, відаць, што і яна ехала дадому... Пасля на змену заступіў Косцік. Затым зноў ён, сяржант Філанчук.

Дзяўчына пайшла дадому ранкам, а Косцік, праводзячы яе вачыма, брыдка плюнуў:

– Прастытутка! Бервяно! Вучыцца яшчэ ды вучыцца!..

Філанчук жа, пачуўшы яго, паабяцаў:

– Навучым!

– Давядзецца-а! – зарагатаў Косцік і падказаў Філанчуку ўбіць кол з шыльдай, якая б забараняла збіраць у лесе грыбы і ягады, а то, маўляў, сам разумееш, не дзіця, пра будан шмат людзей будуць ведаць, ды і зазірнуць цікаўныя ў самы непатрэбны момант могуць – што тады? Такога нельга дапусціць! Будан – наш!

У той дзень да будана сяржант Філанчук пад'ехаў на кані, а Сцяпан Пырх, чалавек сталага веку, разважлівы і адумны, які падмеўся бацьку Сірацюка дапамагчы прывезці з лесу дроў, прытупаў на сваіх дваіх: спазніўся на грузавік. Ідучы паўз будан, Пырх убачыў каня дзеда Міхея, паклікаў старога, але замест яго з будана выглянуў сяржант Філанчук, спадылба глянуў на Пырха:

– Вон адсюль! Ну!

Пырх, хоць і не з палахлівых, але з міліцыяй вырашыў не звязвацца, нічога не адказаў, а моўчкі пашоргаў па жухлай восеньскай лістоце на тое месца, дзе павінен быць грузавік з людзьмі. Аднак яго слых, колькі ішоў, рэзаў прыцішаны дзявочы воклік, які ўхапіў ён краем вуха пры падыходзе да будана, і быццам бы яшчэ наступныя словы: "А, між іншым, ты мне згвалтаваў... Ты!.." Голас той яму здаўся знаёмы, ён недзе чуў яго, але чый - не мог даўмецца, хоць трэсні. Во каб глянуў на твар дзяўчыны – адразу б сказаў... А так заставалася толькі гадаць-думаць... Вісіць на языку, а сплюнуць не атрымліваецца. Цьфу ты!..

Усё гэта не давала спакою Пырху, і, апынуўшыся на дзялянцы, дзе звінела бензапіла і стукалі сякеры, ён адчуў, што ўзмакрэла спіна, пераняло дых - як не заслупіла.

– Фу-у! – выдыхнуў ён, прыхінуўшыся да сасны. – Мужыкі! Мне здаецца, што ў будане робіцца нешта не тое... Схадзіць трэба. Хто са мной?

Мужчыны насцярожана глядзелі на Пырха, перакідваліся кароткімі позіркамі паміж сабой, і, здавалася, нічога не разумелі. Што ён, Сцяпан, за бязглуздзіцу вярзе? Дык, здаецца ж, цвярозы. А ў будане?.. Праўда, там і раней, кажуць, маладыя людзі цешыліся. Але хто бачыў? Не, трэба, трэба нарэшце падпаліць гэты будан к чортавай матары, ды і ўся размова на тым!

– Што, смелых няма? – зноў глядзеў на мужчын, чакаючы, Пырх.

– Схадзіць яно можна... – неяк няпэўна зморшчыўся яго равеснік Котаў. – Дык а дровы? Чаго мы ў лес прыехалі? Буданы пільнаваць?

Пырх не здаваўся:

– Дровы пачакаюць.

– Дык як, мужыкі? – папытаў Котаў.

Нехта прапанаваў перакурыць, а жадаючыя, калі такія ёсць, могуць схадзіць сабе і на экскурсію да будана. На здзіўленне Пырха, за ім пайшлі ўсе, акрамя бацькі Сірацюка: ён застаўся пры машыне і торбе з выпіўкай і закуссю. З машынай нічога не здарыцца, а вось торбу могуць прыхапіць...

Каля будана па-ранейшаму стаяў конь, прывязаны лейчынай да дрэва, а з міліцыянераў нікога відаць не было. Вусціішна. Але цішыня трымалася нядоўга, яе парушыў гнеўны голас сяржанта Філанчука – з будана:

– Вон адсюль, я сказаў! Ну-у! Пальну-у!

Людзі не рухаліся, стаялі, думалі, што ім рабіць далей. Няўжо і сапраўды можа стрэліць? Гэта справа няхітрая. Але ж за страляніну без дай прычыны па галоўцы не пагладзяць. Ці могуць прапусціць міма вушэй і вачэй? Але і стрэліць можна па-рознаму – у паветра, у чалавека. Няўжо... у чалавека асмеліцца? Але за што?

Патрабаванне з будана паўтарылася:

– Вон адсюль! Тры разы не паўтараю-ю!..

Сірацюк памахаў на мужчын рукой, каб схаваліся, а сам падкраўся да будана ззаду і чыркнуў запалкай – полымя адразу ж пачало лізаць вострымі язычкамі сухое сена, шуганула ўгору, і не паспеў Сірацюк падбегчы да мужчын, як завішчэла ў будане дзяўчына, а неўзабаве выскачыла адтуль у чым маці нарадзіла, губляючы транты, на якія наступала нагамі, бо тыя, наспех схопленыя, цягнуліся па зямлі... Дзяўчына спалохана зіркала па баках, а калі зразумела, што нікога паблізу няма, похапкам пачала

апранацца. За ёй выляцеў з будана сяржант Філанчук, але ён быў апрануты па ўсёй выпраўцы – не мітусіўся і таму паспеў зацугляць сябе нават у партупею. Адразу ж адвязаў каня, ускочыў на калёсы і агрэў жывёліну лейчынай на баку:

– Нэ-э!

Дзяўчына кінулася ўслед, на хаду трапляючы нагой у чаравік:

– А я?! Пашка-а! А я?!

Сяржант Філанчук нават не азірнуўся. Пырх жа сказаў у бок дзяўчыны з непрыхаванай непрыязню:

– Сука! А я чакаю яе дома бульбу капаць... Няхай бяжыць услед. Пайшлі, мужыкі, лес пілаваць... на дровы...

8

Пост ліквідавалі ў тую ж восень. Калі былы школьны дырэктар ішоў ужо з новым кошыкам па апошнія восеньскія грыбы, то прачытаў на вагончыку напісанае вялікімі аршыннымі літарамі – белым колерам: "Прыбралі сабак – прыбярыце і будку!"

Жартаўнікі, аднак!..

*1993 г.*

## ДА НЕБА КАМЕНЬ НЕ ДАКІНЕШ

1

Добра, здаецца, ведаю я сваіх землякоў, а не перастаю іншы раз здзіўляцца: быццам толькі і знаюць яны, што хлебчык вырошчваць, дзетак песціць-гушкаць, а калі час падаспее – і ў салдаты іх праводзіць, а потым сустракаць такім жа парадкам, з чаркай і з крыкліва-пісклявым гармонікам, але, бывае, нахопіцца ў іхнім жыцці, як той віхор сярод белага дня, такая сітуацыя, што ахнеш-охнеш, насмяешся і наспачуваешся, паспявай толькі слёзы прамакаць насоўкай. І тады ўся мая Гута жыве адчуваннем нечага новага, свежага, смачнага. На тварах людзей – заўсёды сур'ёзных і заклапочаных – запальваюцца, бы лямпачкі ўвечар, лагодныя ўсмешкі. Гэта ж добра, што так. Вось тады і я зайдрошчу землякам, нават, прызнаюся, крышачку шкадую, што жыву-таўкуся ў гарадскім тлуме. Але, дзякаваць Богу, не забываецца гэты маленькі куточак бацькоўскай зямлі, і чым жывуць людзі – жыву і я, а яшчэ ўмудраюся расказаць пра іх іншым.

Як вось і на гэты раз.

Гатовы паслухаць?

2

Кінамеханік і паштальён Мішка Арынавіч – ён дзве пасады займае ў нашай Гуце – і сам ніколі не мог, пэўна ж, падумаць, што пуцёўка на курорт, якую ў тэрміновым парадку ўручыў яму прафсаюз на адным, вядома ж, з працоўных франтоў, пераблытае ўсе карты, з ног на галаву паставіць вёску. Атрымалася ж якраз так. Адпраўляючыся ў Адлер, Арынавіч, паколькі чалавек ён адзінокі, прыглядаць за хатай і свойскай жыўнасцю даверыў Трафіму Кіпціку, дэманстраваць у клубе кіно – Ігнату Амерыканцу, а разносіць паштовую карэспандэнцыю прысобіў Ягора Чапуху. Размеркаваўшы, такім чынам, абавязкі, Арынавіч падняў запэцканую шклянку, глянуў на мужчын, у руках якіх было тое ж, што і ў самога, гучна і афіцыйна сказаў:

– Сябры мае! Аднавяскоўцы і аднадумцы! Думаеце, лёгка мне, забяры яго д'ябал, ехаць у той Адлер, каб ён спрах? А трэба. Трэба, браткі! Прафсаюз уважыў мяне як перадавіка вытворчасці, а перадавікамі, самі разумееце, не нараджаюцца. Імі становяцца. І хіба ж я, вось вы скажыце мне, вінаваты, што стаў ім... гэтым... як яго?

–Перадавіком,– падказаў Амерыканец.

–Правільна ... перадавіком,– падхапіў Арынавіч, ён часцяком не ўспамінаў словы, што павінны ісці наперадзе, калі выпіваў звыш нормы. –Дык вы ўжо выбачайце, што ўзваліў на вашы кволыя плечы лішні клопат, але ж Мішкапачастуе вас яшчэ больш, чым сёння, калі вернецца...

– Вяртайся, Мішка, жывы і здаровы,– пажадаў Кіпцік і потайкам хлюпнуў носам.

– Я вам, забяры яго д’ябал, прывязу з таго курорту, вы толькі добра глядзіце тут, каб камар носа не падтачыў, закусіць не скрыль сала прагорклага, а які-небудзь далікатэс,– паабяцаў Арынавіч і пахіснуўся, але яго падтрымаў Чапуха.

– Стаяць!– сказаў Чапуха і вылаяўся.

– У мяне ўсё,– уздыхнуў Арынавіч, па чарзе пацалаваў кожнага з мужчын – па тэлевізары ён бачыў, як гэта робіцца – і не з першай спробы падхапіў чамадан з зямлі, што валяўся на гарышчы з таго часу, калі Мішка ездзіў вучыцца ў горад на кінамеханіка, а цяпер вось і спатрэбіўся. – Чакайце. Мішка, забяры яго д’ябал, на тым курорце спраў наварочае і вам раскажа. Ну, мужыкі, трымайцеся тут, а я, так і быць, адчальваю. Пара. Пара ў шлях дарогу-у-у!..

Арынавіч, стараючыся ступаць цвёрда і непахісна, пачыкільгаў у бок крамы, дзе на крузе спыняецца аўтобус. Кіпцік, Амерыканец і Чапуха ўспомнілі пра шклянкі, у якіх было, пераглянуліся і моўчкі пракаўтнулі пітво.

За Мішку.

3

Раніцай наступнага дня Кіпцік адразу ж прытупаў на свой аб’ект – двор Арынавіча. У галаве камары таўклі мак. Пасля учарашняга. Бывае. На тое і мужык – перахварэць трэба. Але тое, што ён ўбачыў, не ідзе ні ў якое параўнанне з галаўным болем. На Кіпціка касавурыліся, бы жывыя, выбітымі шыбамі вокны. Каля будкі, з якой звычайна выглядваў прагны да людской ласкі лянівы сабака Швагер, ляжаў на траве ланцужок, падобны на бікфордаў шнур, які хтосьці перарэзаў. Гэта яшчэ паўбяды ў параўнанні з курамі, якія, усё роўна як хмаркі на чыстым небе, ляжалі па ўсім двары.

Схопішся тут не толькі за галаву. Шыбы выбіты... Куры атручаны... Сабака Швагер даў лататы...

– Хто-о-о? – затрос кулакамі Кіпцік. – Забіць вас мала-а-а! Хто-о-о? Не быць казе на вазе. Аднойчы даверылі адказны пост – і на табе,

апраставалосіўся. Ну, што я чалавеку скажу? Як у вочу гляну? А збіраўся ж... як і належыць дакласці. Па ўсёй страявой выпраўцы. Як у арміі. Па статуту. – Ён прыняў стойку «смірна», прашоргаў затым па зялёнай траўцы страявым крокам, спыніўся, прыклаў руку да скроні. Пакольні адзін палец не выпраміўся, Кіпцік разагнуў яго левай рукой. – Таварыш Арынавіч! За час твайго курорту здарэнняў не адбылося! Куры нанеслі два вядры яек... па кулаку кожнае. Не, ты не падумай, Амерыканцаў індык тут не пахадзіў. Добра, што верыш. Хата, значыць, у поўным парадку. Сабака спіць у будцы, на чужых і розных падазроных – шчэрыць зубы і гырчыць. – Але ўспомніўшы, што адбылося, Кіпцік зморшчыўся, махнуў рукой і апусціў азадак на лаву. – І трэба ж!.. Каб знаў, што ўпаду, ляснуся, то сеў бы. Сеў бы, гэта факт. Хоць на табурэт, хоць у лужу... У лужу? Гм, у лужу... Я што, дурань?

– А то хто ж ты?! – укацілася на падворак Груня, вырачыла на мужа вочы. – Я цябе пасаджу! У такую лужу, паразіт, што не ўстанеш! А божачкі! І пярнатых! А божачкі! Што ж гэта будзе? І зваліўся ж ты на маю галаваньку, Кіпцік праклятушчы!

Кіпцік, скасіўшы вочы, глянуў на жонку, паспрабаваў прытупнуць нагой, але пабаяўся, і толькі ціха сказаў:

– Ш... ша. Ш... ша.

А Груня, не звяртаючы на мужа ўвагі, екатала:

– І павылазілі б у мяне вочы, калі я за цябе замуж у сельсавет ішла! Колькі жыву ад мук-страданняў не пазбаўлюся! З даўгоў не вылезу! Знімай штаны!

Ад пачутага Кіпцік ікнуў і паморшчыўся:

– Ты што? Ты што?

– Знімай!

– Я ж, Грунечка, пільна вахту нёс, – здрэйфіў Кіпцік, бо ведаў, што з ягонай Груняй жартачкі кепскія. – Не спаў. Не. Ага.

– Брэшаш!

– Клянуся, сонейка маё!

– Каб не дрых – усцярог бы!

Кіпцік прытворна скрывіўся, развёў рукамі:

– Не атрымалася – вось... Але стараўся. Заўваж: стараўся! Адно вока заўсёды цёр, каб яно з другога прыклад не брала. Так-так, Груня. Павер, сонейка...

– Ці ты, можа, не ў гэтай хаце адно вока цёр? У Лідкі, можа, цёр? – Груня выпяла грудзі, прытупнула нагой, чаго пабаяўся зрабіць

колькі хвілін назад сам Кіпцік, замахнулася праўшой. – Ну, у каго пытаюць? Язык праглынуў?

– Што ты! Што ты!

– Знімай штаны!

– Ох і смала ж ты, жоначка! Ну навошта знімаць штаны? – Кіпцік таптаўся на адным месцы, паказваў вачмі на браму і рэдзенькі паркан. – Светла... Дзіркі ж вунь...

Але ж хіба Груні што дакажаш, і яна працягвала сваё:

– Навошта, пытаеш, знімаць штаны? То скажу, так і быць: я імі вокны затыкну-заканапачу. «Светла», «Дзіркі ...». Ты пра шыбкі думай!

– Не хопіць маіх штаноў... партак.. ага. Гэта каб тваю спадніцу ўзяць. Яе б хапіла. З гакам, – выдыхнуў з сябе Кіпцік.

– Ой, людзі!–З лёгкім дакорам заківала галавой Груня. – Ён яшчэ і хвост петушыць, Кіпцік мой. Вы чулі? Ой, людзі! Адны ж страты... з табой, а не жыццё! Цьфу!

Нічаго не паробіш, трэба ісці на прэмірэнне. І Кіпцік, хоць і з цяжкай галавой, гэта разуммее:

– Ты... ягадка мая балотная... кветачка палявая... не псуй нервовую сістэму... а ўсё астатняе – прыкупім. Усё прадаецца, а нервы ў вялікім дэфіцыце. Ёсць у краме і шкло, і... і...

Жонка ж на яго, здаецца, зусім не зважала, яна, хутчэй за ўсё, прыкідвала, у што абыдзецца для сям'і мужавага вартаніўцтва і ад гэтай думкі жанчыне было млосна.

– А божачкі! – скрыжаваўшы на грудзях рукі, соўгалася па двары Груня. – І навошта Мішку Арынавічу іх столькі разводзіць было, нясушак тых? Адзін жа жыве, адзін! А навошта яму таго сабаку пляшывага было трымаць? На маю, на маю галаваньку. Колькі б ён сам тых курэй і яек з'еў? Каго карміць збіраўся?

– Горад! Хвала і слава Арынавічу! – торкнуў угору рукой Кіпцік, а другой круціў у кішэні жонцы дулі.

– Менш гавары – больш пачуеш, – уладарна сказала Груня.

– Гавары не гавары – труба дзела, – паморшчыўся Кіпцік. – Труба. Хоць сікісь-накісь, хоць накісь-сікісь. Ну што цяпер – паміраць?

– Ты памрэш! Ты мяне хутчэй у труну загоніш!

– Я ж... Я ж, Грунечка, люблю цябе... ага... кахаю нават...– Кіпцік пацалаваў паветра. – Усім сэрцам.. душой...

Груня раздражнёна затрэсла галавой:

– Дзе яно, тваё сэрца? А душа? Эх ты, Кіпцік! Марнатравец ты . Шалапут.

– Во, во, дагаварылася, – крыва ўсміхнуўся Кіпцік. – Ды дай мне толькі зубы ўставіць. Ух! Я табе тады ўсю маладосць вярну. Ага.

Груня падставіла да вуха мужа сваё:

– Што-што-што?

Кіпцік адвярнуўся:

– А ты пра шкло нейкае. Пра курэй. Пра Швагра. Ды хай яно ўсё гарам гарыць! Адкінулі капыты – туды ім і дарога!

– Не, вы чулі? Вось так і ўсё жыццё. Зробіць – і выкіне. Раскідон!

– Хто гэта раскідон? Я? Гаўкай ды не кусай. Мне, думаеш, соладка, калі так вось усё... кісь-накісь... Шурупіць трэба. А ты жменямі соль на балячку... Эх, жыццё!

– Соль? Я табе падсыплю яшчэ і не таго. Вось прыйдзем толькі дадому...

– А я не пайду!

– Чаго ж так?

– Ты мне сюды дыету прынось, а я з вахты ні на крок. – Кіпцік прытупнуў нагой, нібы цвік убіў абцасам. – Тут стаяць буду. Падпільную, нікуды ён не дзенецца, супастата. Ён жа не ўсё яшчэ пашкодзіў. Дах цэлы, на верандзе вунь шыбкі цалюткія... прыйдзе. А я яго – цап! І за каўнер! Ідзі, ідзі, галубчык, сюды! Давай, давай! Злачынцу заўсёды цягне на тое месца, дзе набедакурыў. Ты мне, Груня, сюды харч пастаўляй, сюды...

– А курэй скубі і еш, – сказала Груня і патупала на веранду.

Кіпцік моўчкі склаў курэй у кучу.

– А тут што робіцца! А тут! – пачуў ён пагрозлівы жончын голас з веранды. – А бутэлек! Не пераступіць! Дык вось ты чым тут займаўся, вартаўнік ліпавы?

«Трэба было б прыбраць», – падумаў Кіпцік, а жонцы крыкнуў:

– Ды не мае гэта! Не мае!

– Ты прызнаешся. Як рабіць што карыснае – язва, а жлукціць – масцір. Дыету яму сюды прынось... Я пакажу табе дыету – усё астатняе жыццё ікацца будзе.

– Якая цешча, такая і дачка, – буркліва сказаў Кіпцік.

– І каньяк грузінскі піў! І каньяк!

– Ад сабакі блін не з’ясі.

– Адзін сурагат. І адкуль жа тваймy здароўю быць, п’яніца ты з першай шарэнгі?

Бутэлькі паляцелі на падворак. Кіпцік сеў каля кучкі курэй, закурыў, і працягваў весці перапалку з жонкай:

– І кот бы піў, каб хто наліў.

– І колькі іх выкідваць можна? Ай-я-яй! Вось ты тут чым займаўся, вартаўнік без стрэльбы. Каб на цябе радыкуліт да язвы ў прыдачу! Каб на цябе сто хвароб адразу прыляпілася!

– Што мне сёння, то табе заўтра.

Груня выглянула з веранды:

– А гэтую прыгожую пляшку дзе ўзяў? У нашай краме такіх спакон веку не вадзілася. Чаму маўчыш? У цябе пытаюць!

– Я ж кажу: не мае, – лагодна мовіў Кіпцік. – Я што – у горадзе калі быў?

– Няўжо Мішка так п’е? – уразілася Груня і прыціхла.

– Не ведаю, – паціснуў плячыма Кіпцік. – У сведках не лічуся. І сваіх не выдаю таксама. Ляжаць – няхай ляжаць. Есці не просяць. Вось прыедзе Мішка, здасьці пляшкі – і купіць курэй. А ты расквакталася-раскудахталася. А хочаш і я здам. Адважуся – і здам.

Гэтая ідэя спадабалася Груні:

– А што? І здай, і здай, Кіпцічак, Атрахімка мой...

Кіпцік паскроб за вухам, сумна сказаў:

– Мая тут усяго адна...

– Усё ж піў?

– А я што – святы? І рот у мяне ёсць. Бачыш? – разявіў рот.

– Няйначай самая вялікая бутэлька – твая? Вось гэтая?

– Мая маленькая. Чакушка, – прыплюснуў вока Кіпцік.

– Каму галаву тлуміш? Дзе ты бачыў, каб цяпер маленькія выпускалі? Дзе? Піць дык піць. Піце, людзі, атруту. Хутка пачнуць, відаць, у трохлітровых слоіках гарэлку прадаваць. Як сок бярозавы. Во ўжо дзе мужыкам радасці будзе – пакуль жа дно не ўбачыце...

Кіпцік пасмялеў:

– Цябе спыніць ці сама на тормаз націснеш? Ты лепш бы схадзіла ў краму. Нядобра ўсё ж атрымліваецца...

– Ты пра што? – насцярожылася Груня.

– Жывыя істоты куры. Памянуць трэба. Памянем, а тады я і прыкапаю іх. Чын па чыну. Ну, чаму стаіш?

– Маўчаў бы ўжо, ёлуп! Маўчаў бы! Такога натварыў, а яшчэ і язык у роце варочаецца! Хапае ж во сумлення!

– На тое і вір: калі і ўмелага закруціць, а калі і няўмелага на бераг выкіне.

І раптам, як гэта часта бывае ў апошнюю хвіліну, Груні прыйшла ідэя. Чарговая. Яна ўспляснула рукамі:

– Кіпцічак мой! Пачакай! Не спяшайся! Пачакай, родненькі! Ты ніяк курэй закапаць надумаўся?

– Ну. Акурат так.

– Не дазволю!

– А што, ты іх есці будзеш? – тут ужо сур’ёзна спытаўся Кіпцік.

– Выклікай міліцыю, няхай акт складаюць, злачынцаў шукаюць, – цвёрда і пераканаўча сказала кабета.

Кіпцік не на жарт задумаўся:

– А што? Але не, не трэба, мусіць. Атрад, думаеш, іх тут, злачынцаў? Я сам яго знайду...

– Ты?! – жонка нават засмяялася.

– Знайду– не адступаў Кіпцік.

– Не смяшы курэй... Цьфу! Людзей не смяшы. Ты знойдзеш. Ты зубы свае раніцай шукаеш, а ці заўсёды сам знаходзіш? Сышчык!

– Калі захочаш выцяць сабаку, то друк знойдзеш, – сказаў Кіпцік і ўспомніў пра сабаку, пачаў клікаць. – Швагер! Швагер! На-на-на!

– Слухай сюды, «на-на-на», – тузанула мужа за рукаў Груня. – Рабі так, як я табе раю: бяры, Кіпцік, адну чубатку, для экспертызы, сядай на аўтобус і ляці ў міліцыю. Ну, уявім, знойдзеш ты сам? І што далей? Пальцам крывым сваім паківаеш – і ўсё, увесь разлік. Ударыць нават нельга. Пысу намыліць. Закон не на тваім баку. А так яны, міліцыянеры, прымусяць злачынцу і за курэй заплаціць, і за шыбкі. Зразумеў?

Кіпцік уважліва выслухаў жонку, зноў паскроб за вухам, памяркоўна сказаў:

– Больш грошай праездзіш у тую міліцыю, чым каштуюць усе атручаныя куры і шыбкі разам узятыя.

– Едзь! – прагучаў, як стрэл, над ягоным вухам голас Груні.

– Можа не трэба? – адхрышчваючыся ад жончынай ідэі, паглядзеў на яе сумнымі вачыма Кіпцік. – Няўжо ў нашай Гуце я таго супастата не знайду? Дзе ён тут можа схавацца? У якім кусце? Пад які корч галаву засуне, га?

– І што ты за чалавек такі, Кіпцік? Хоць кол на тваей лысай галаве чашы, а ты адно і тое ж. Ну шукай, шукай, а я пабачу... хоць не ўсіх людзей ваўкі паелі – ёсць яшчэ, можа яны і дапамогуць. Як жа ты адзін на чыстую ваду таго злачынцу выведзеш, гора ты маё? – Груня прамакнула слязінку на шчацэ ражком хусткі. – Шукай, Атрахімка, шукай яго, гада. Ну гэта ж трэба так нашкодзіць, людцы родненькія! Гэта ж трэба!..

Кіпцік узяў рыдлёўку, запіхнуў курэй у мех, ускінуў на плячо.

– Не заўсёды добра сеўшы добра едуць, – сказаў жонцы. – Ён у мяне прыедзе. Я ў канец агарода, на выган. Курэй прыкапаю. А ты

тут павартуй. Дажыліся – не пакінеш на пару хвілін жытло. Нехрысці. Толькі Швагер, калі заявіцца, можа цябе напалохацца і зусім збегчы. Ты ўжо ласкава, ласкава з ім. А калі будзеш гыркаць, як на мяне, то памінай чым звалі. Сабака табе не я. А лепш у хаці сядзі і ў акно назірай... у разбітае... вунь у тое... у крайняе... З яго ўвесь двор – што на далоні.

– Куды ўжо назіраць цяпер, Кіпцік ты недароблены? – Груня узбурылася на высокі ганак, цяжка ўздыхнула, махнула на мужа рукой. – Нясі ўжо курэй. Нясі. Цікава толькі мне, як ты перад Мішкам, ёлуп, апраўдвацца будзеш?

Кіпцік ужо не чуў яе слоў – ён шыбаваў па агародзе з мехам на плячах, а рыдлёўку выстаўляў наперад, бы сляпы – кіёк...

Хто ж і сапраўды напракудзіў? Цяжка сказаць, як і цяжка здагадацца, каго ж западозрыў Кіпцік і знойдзе ці не ён таго, каго шукае?

Аднак пошукі пачаліся. Кіпцік сядзеў за сталом у Мішкавай хаце, насупраць яго Груня. Тут жа на стале стаяў збанок з квасам, ляжала ручка на чыстым аркушы паперы ў клетачку.

– Пачнём? – паглядзеў на жонку Кіпцік.

– Паехалі! – махнула рукой кабета.

– Куды едзем? На Ганчароўку?

– Не, не, Кіпцічак, не. Пачынай са сваёй вуліцы. Ворагі заўсёды побач. Яны – перад вачмі мітусяцца, таму мы іх і не бачым.

– Слухаюся, – Кіпцік узяў ручку, падсунуў бліжэй да сябе аркуш. – Маруся? Маруся не нашкодзіць – сама ледзь поўзае, куды ёй. Гэта яе сын жывы ці не?

– Памёр, відаць, раз не паказваецца да маткі, – міргнула Груня.

– Далей у нас Макар ідзе. Макар адпадае. Кум.

– Пад маркай кумаўства можна такога нарабіць, што ўвесь свет ад здзіўлення перавернецца. Прыгледзься, прыгледзься да яго уважлівей. Чуеш?

Але Кіпцік не чуў – ён ўжо нацэліўся на іншы аб'ект, таму залыпаў вачыма на жонку:

– Па... пачакай, а як ты да Петрака ставішся?

Груня, мабыць, і думаць не магла, што сусед кепскі чалавек, здольны нашкодзіць, яна прыгадала нешта прыемнае, ад задавальнення самі замгнуліся ў яе вочы, а на твар набегла салодкая, як скрыль мёду, усмешка.

– Ну... у цэлым... чалавек ён уважлівы... прыгожы... – выдыхнула яна з сябе, пазяхнула і паляпала па губах пальцамі.

– Стоп! Стоп, Груня! Не сваволіць! – Кіпцік ва ўсім гэтым улавіў нешта нядобрае і паківаў кабеце жоўтым ад махоркі пальцам. – Не ў тым плане цікаўлюся. Наконт шкоды цікаўлюся. Пра ўсё астатняе забудзь. Дык, як ты да Петрака?

Груня кашлянула, кіўнула галавой:

– А-а, у гэтым… У гэтым… Пятрок, значыць?

– Пятрок, Пятрок.

– Калі ў гэтым плане, то не ведаю, што і сказаць…

Пакуль жонка падбірала патрэбныя словы, Кіпцік ужо вынес суседу прысуд:

– Ён! Ён, паразіт! Пятрок! У мяне пяцёрку прасіў? Прасіў.

Груня насцярожылася:

– І ты яму не даў?

– А я яму не даў. Не даў. І вось – фінал.

– Правільна – адпомсціў. Ён, дарэчы, што табе ўзамен паабяцаў?

– А тое і паабяцаў, што, кажа, бутэлька як бутэлька, а ты мяне яшчэ не аднойчы ўспомніш. Табе, кажа, яшчэ не раз ікнецца, – Кіпцік і сапраўды ікнуў, спалохана глянуў на жонку. – Бачыш, пачалося?

– Пазнач Петрака крыжыкам, – параіла Груня.

– Пазначаю, – Кіпцік паставіў крыжык, ікнуў. – Чорт рагаты, га! Бачыш? Пазначыў і ікнуў. Ікаецца, каб яму!.. Лепш бы я тую пяцёрку прэзентаваў яму.

– Не памрэш, калі паікаеш трохі, – штурханула Груня ў плячо мужа. – Далей, далей глядзі!

– Ага. Далей Сцяпан ідзе. Сцяпан можа і не можа. Скрытны ён чалавек. Хоць і нашкодзіць, а не прызнаецца. А можа яго іншым метадам узяць? – Вочы у Кіпціка раптам загарэліся, бы лямпачкі.

Адразу ж успыхнулі яны і ў Груні:

– Якім, Кіпцічак мой?

– Шклянку яму наліць – і адразу, як піць даць, развяжацца язык. Збегай, вазьмі бутэлечку.

Вочы-лямпачкі ў Груні адразу патухлі, яна сумна сказала:

– Ну які ж са Сцяпана злачынца? Ды ён і не дадумаецца да такога. У яго цэбар, а не галава. Пусты перавод фінансаў. Далей, далей ідзі, Кіпцік. Ды варушыся, варушыся!

Кіпцік зморшчыўся, але нічога не заставалася рабіць, як напружыць памяць, прыгадаць, хто жыве за Сцяпанам.

– Іду, іду далей, – ківаў ён галавой. – Далей… Вокны забіты… забіты… забіты… крыж-накрыж… Хоць музей рабі пад адкрытым

небам. – І ён раптам ускочыў з табурэткі. – Павел! Павел Струк! Ён! І ведаеш, за што на мяне камень носіць?

За што камень носіць на Кіпціка Струк, Груня так і не даведалася, – зайшла Клаўка, і пачала без уступу, нараспеў:

– Што гэта я чула! Скажы каму – не паверацъ. Няўжо, дзядзька Кіпцік? Га, цётка Груня?

Груня агрэсіўна нацэліла на Клаўку вочы:

– А што ты чула, лахудра? А што ты чула? Нам, можна сказаць, – гора, бяда, а ты – чула!

Кіпцік, каб не даць разгарэцца полымю, цыкнуў на жонку:

– Ша! Цішэй, цішэй, Груня. Не разганяйся. Цябе тады не спыніш.

– Ты каго абараняеш? Ты каго?.. – натапырылася Груня.

– Ну, будзе, будзе, бабы! – суцешыў Кіпцік жанчын. – Не да вас.

А Клаўка, сядаючы, паціснула плячыма:

– А хіба я вінавата? Толькі і размоў у вёсцы пра курэй... пра сабаку... пра вокны.

Груня супакоіла сябе:

– Здавалася б, свае людзі, а языкамі мянцяць. І не стомяцца ж!

– А што людзям яшчэ рабіць? -- папраўіла хустку на галаве Клаўка. – Не ўсё ж на градках поўзаць. І пагаварыць хочацца.

– Знойдзем! З-пад зямлі дастанем! Я сама распраўлюся з супастатам! На ўсю катушку! – дала адчуць Клаўцы, а заадно і ўсёй вёсцы, Груня, што тут не хаханькі ім.

Кіпцік жа запэўніў жонку:

– Веру, веру, маладзіца.

А да Клаўкі звярнуўся з пытаннем:

– Інструмент з сабой?

Клаўка ўздыхнула, палезла пад сукенку па карты, дастала іх, выдыхнула з палёгкай:

– Як знаццё было, што спатрэбяцца.

– Прыкінь-ка на іх. Што яны скажуць, цікава? – папрасіў гаспадар хаты. – Ты не крыўдуй, Клаўдзія, не крыўдуй. Груню таксама зразумець трэба.

– А мне што? – хмыкнула Клаўка. – Хіба ж я гэта вартавала? Мая хата з краю. Скажы каму – не паверацъ. Дзівосы!

– Праз тыдзень-другі ўжо і Мішка, мусіць, вяртаецца. Чужыя дні хутка ляцяць. Паспець трэба знайсці. Ой, гора! Хоць бы цягнік зламаўся!.. – Груня паморшчылася, як ніколі раней.

Кіпцік падбадзёрыў:

– Паспеем, паспеем, маладзіца. Ну-ну, Клаўка!

Клаўка расклала карты, бубніла нешта сабе пад нос, а тады сказала гучна:

– Выпадае табе, дзядзька Кіпцік, дарога...

– Я ж і кажу яму: едзь, дурань стары, у міліцыю, – ажывілася Груня. – Бачыш, і карты пра тое ж самае. Неслух!

Кіпцік прыклаў палец да роту:

– Ша!

– Казённы дом... – працягвала Клаўка.

У Груні ажно вочы пабольшалі:

– Няўжо Мішка ў суд падасці?!

– Без панікі, Груня! Ну-ну! – Кіпцік перавёў позірк з жонкі на варажбітку. – Мішка не такі.

– Чакае цябе, дзядзька, сур'ёзная размова з пікавым каралём...

– Гэта Мішка... Мішка, – прашаптала роспачна Груня і скрыжавала рукі на грудзях.

Кіпцік папрасіў у Клаўкі карту, паднёс яе да вачэй:

– Ён... Арынавіч... Яго, яго валасы на карце. І чуб такі... калі там, на курорце, не абалванілі. Бяры карту. На. – І ён падаў Клаўцы карту, і сам сябе падбадзёрыў. – А што, хіба я ніколі не размаўляў з Мішкам? Знойдзем, знойдзем агульную мову.

– Працягваць далей, ці і так усё зразумела? – падняла вочы на Кіпціка Клаўка.

– А што зразумела? – не пагадзілася Груня.

– А нічога не зразумела! – Кіпцік тузануў Клаўку за рукаў. – А чым усё скончыцца? Чым? Мне заўсёды канец цікавы... хвокус-мокус. Га?

– Канец і мне цікавы, – засвяціўся твар у Груні.

Клаўка ўздыхнула:

– Усё наладзіцца... пасвятлее і пацяплее ў вас на сэрцы пасля размовы з каралём...

Кіпцік пераможна глянуў на жонку:

– Ну! А ты мне – едзь! Куды ехаць? Навошта? Хто нас дзе чакае? Я сам яго знайду. Дзякуй, Клаўдзія. Дзякуй. – Патрос ёй руку.

– Няма за што дзякаваць. Рада была памагчы.

– Ты такая, ты добрая, калі трэба, то заўсёды побач, – настрой у Кіпціка ўзняўся, і ён не вупускаў руку варажбіткі са сваіх дзвюх.

А Груня нават прапанавала ёй:

– Можа паснедаеш з намі? Я тут Кіпціку свайму прынесла... – кінула на мужа такі позірк, што таму нічога не заставалася, як прыплюснуць вочы і паскрэбсці за вухам.

Клаўка заўпарцілася:

– Ды я ж сытая, што вы! Слесар мой так добра гатаваць навучыўся, што і ў рэстаранах так не ўмеюць. Асабліва смачная ў яго зразы атрымліваюцца. Пальчыкі абліжаш!

Пра тыя зразы Кіпцік уставіў сваё меркаванне:

– Яно... гэта... зразы... ага.. Якой толькі заразы не прыдумаюць, а для мяне ўсё роўна катлета... Сучасная. Худая. І кіслая. Ты яе туды, яна – назад... Як парсюка ў хлеў заганяеш.

Груня ж чамусьці агрызнулася на мужа:

– Ты еў! Баламут! Не дасці во чалавеку і слова сказаць. Заўсёды свой нос усунеш. Цьфу!

– Што было, тое было. Харчаваўся і ў рэстаранах. Ведаю, што там і як. Да твайго ведама, старая, як ужо добра падхарчаваўся, адна мяне на круг запрасіла...

Клаўка засмяялася. Гэта падняло настрой Кіпціку, ён баіў далей:

– А чаго? Я і цяпер, калі б ля грубкі пагрэць...

– Дык ты што, хочаш, каб я цябе пагрэла? – Груня пачала шукаць вачыма, чым бы пагрэць яго, старога балбатуна. – Дзе тут які драч, га? Ты, відаць, даўно хочаш, каб я цябе пагрэла?

Кіпцік замахаў рукамі:

– Маўчу-маўчу-маўчу!

Працягваючы ўсміхацца, Клаўка сказала:

– Ну добра, пабягу я. Сёння кіно ў нас. Прыходзьце ў кіно.

– Тут свайго кіно хапае, – Груня кіўнула на Кіпціка. – Кіншчык вунь сядзіць!

Калі Клаўка, якой Кіпцік потайкам памахаў рукой, знікла за дзвярыма, Груня зняважліва плюнула ёй услед, хмыкнула:

– Кабыла! Выгуляецца за дзень, а тады брындае з хаты ў хату. «Скажы каму – не павераць»! А ты не кажы! А ты маўчы! Білецікі ў клубе прадае. Дзве гадзіны ўсяго робіць. А старым – вілы на плячо!

Скасіўшы вочы на жонку, Кіпцік заўважыў:

– Ты ў гэтую палітыку не лезь.

– А што – не так? Маладыя побач налегцы ідуць, а старыя, бацькі іхнія, воз цягнуць.

– Не мая палітыка.

– Адсталы ты чалавек, Кіпцік, а яшчэ ў рэстаране харчаваўся.

– Было!

– Тое, што было, мала радасці нясе. А вось што будзе – цябе гэта не хвалюе?

І Кіпцік, спахапіўшыся, гукнуў:

– Павел! Павел! Струк! Струк! – вытрымаўшы паўзу, прашаптаў задумліва і няўпэўнена. – Няўжо Павел?

– А ён за што на цябе зуб мае? – падняла вочы на Кіпціка жонка.

Той вырачыў на кабету вочы:

– За тое, што на цябе меў у маладосці.

Груня адвярнулася.

– Во-во! Адвярнулася! Праўда вочы рэжа.

Груня раскашлялася.

– Ад праўды і кашаль душыць. Не кашаль, а я цябе павінен душыць. Я!

Ну што ты скажаш гэтаму Кіпціку? Груня прыпомніла, што грэх быў, але за даўнасцю часу, як кажуць, суду не падлягае, таму скарыстала сваю бабскую хітрасць: мякка абняла дзеда за шыю, горача зашаптала яму на вуха:

– Кіпцічак мой родненькі! Няўжо я цябе на каго памяняю? Дзе я яшчэ такога прыгажунчыка, такога дурненькага знайду?

Кіпцік растаў, як камяк снегу, таму на «дурненькага» не звярнуў увагі, і заплюшчыў вочы: хораша як! А жонка лашчыла яго далей:

– Ніколі! Ніколі я цябе не памяняю! Што ты! Ты менш толькі людзей слухай... Ну іх! Бачыш, як нашкодзілі яны нам?

Знаходзячыся яшчэ пад жончыным гіпнозам, Кіпцік матлянуў у паветры кулаком:

– Вось і я ім: Груня не такая! Груня – кавалак золата! Брыльянт! Груня мяне, адзінага, любіць і галубіць. Я правільна гавару?

– Правільна, правільна, – яна пагладзіла мужа па лысай галаве.

– Толькі мяне... адзінага... Назаўсёды... – Ён дакрануўся рукой да таго месца, дзе яшчэ не астыў пацалунак. – Трымаецца... Шчака ажно пацяплела... Быццам скавародка... Я на сёмым небе... Я лячу... лячу... лячу я!

Груня нарэшце лёгенька адштурхнула Кіпціка ад сябе, ледзь чутна сказала:

– Палётаў – хопіць... – і падсунула да сябе спіс.

Прачнуўся, здаецца, і Кіпцік, ён заміргаў вочкамі, і сказаў пагрозліва, але памяркоўна:

– Дзейнічаем! Канешне, злачынцу так проста не возьмеш... К-хе, к-хе... Сіла трэба для таго, каб узяць. Аднак жа... – Ён праглынуў сліну, – сілы ў мяне засталося... сама ведаеш... на два разы пшыкнуць. Другі дзень ужо не корміш. Чым браць буду? Лозунгам?

На стале ўмомант аказаліся слоікі з ежай. Іх выставіла з сумкі Груня. І сказала, паказваючы рукой на стравы:

– На здароўечка, Кіпцічак мой! На здароўечка! Дзеля нашай агульнай справы. Жры! Цьфу ты! Еш, еш, ягадка-а-а!

Кіпцік працягнуў руку да жонкі:

– Ручнік!

– Дам, дам табе і ручнік! – Груня падала. – Калі ласка! Калі ласка!

Кіпцік закруціў ручнік, быццам шалік, вакол шыі, і пачаў прагна есці. Жонка сядзела насупраць яго, падпёршы падбародак далоняй, захаплялася мужам, на поўным сур'ёзе мовіла:

– Ты як пан у мяне. Як пан.

– Які пан, Груня? – не адрываючыся ад слоіка з пражаным салам, падхапіў гаворку Кіпцік. – Пану да мяне яшчэ цягнуцца ды цягнуцца. Я – следчы! Га?

– Хай, хай следчы...

– Дакажу! Дакажу, хай не думаюць, маць іх іці! К-хе! На палец барадаўка – і тое прыбаўка. Цяміш? У бюджэт!

– Я заўсёды ведала, што ў цябе на плячах не качан капусты, – падбадзёрыла Кіпціка жонка. – А галава!

– Галава, галава, так, – пагадзіўся Кіпцік. – Будуць авечкі сытыя і сена цэлае.

А Груня зажмурыла вочы і соладка прамовіла:

– Я ж і забылася зусім... я ж і забылася...

Кіпцік адразу скіраваў позірк на сумку, прасвідраваў яе вачыма:

– Што ў цябе там? Ні чэміргес?

Не звяртаючы на яго увагі, жонка працягвала:

– Я ж і забылася... Калі хочаш з мужыка выціснуць што-небудзь карыснае – яго спярша накарміць трэба. Харчуйся, харчуйся, родненькі мой сышчык!

Таго, на што разлічваў Кіпцік, у сумцы не аказалася, і апетыт у яго прапаў, хоць жонка і працягвала гладзіць па галаве...

4

Пакуль Кіпцік еў ды запіваў малаком, а потым яшчэ і яшчэ заглядваў у свой спіс, Амерыканец дэманстраваў у клубе кінафільм. Новую спецыяльнасць ён асвоіў даволі хутка. Апаратура яго слухалася, нібы шчанюк гаспадара. Праўда, Амерыканец націскаў толькі на тыя кнопкі, якія паказаў яму перад ад'ездам на чарговым інструктажы Мішка. Націснеш, вучыў той яго, на любую іншую, заваліш усю справу. Абсвішчуць. Не націскай на лішнія... Не трэба... І пакуль усё... цьфу-цьфу-цьфу!.. ішло добра. Ніхто не меў прэтэнзій да навапечанага кінамеханіка

Запусціўшы апаратуру, Амерыканец выцер насоўкай узмакрэлы лоб і шчасліва ўздыхнуў:

– Фу ты, га! Закруцілася! Завярцелася! – ён глянуў у акенца. – Парадак! Ну, усё... Засталося мала. Сем патоў з мяне выходзіць за адзін сеанс. Яшчэ трохі – і здаю Арынавічу і апаратуру, і план. Трымай, Арынавіч! Па ўсіх паказчыках цябе ў перадавікі вывеў. Граматы... Прэміі... Падзякі... А што, цікава, мне будзе? Апельсін абхазскі?

Не паспеў ён пагаварыць як след сам з сабою, калі ў акенца ўварвалася тупаценне ног, свіст і галасы, ад якіх Амерыканцу зрабілася млосна. Як жа, крычаць: «Амерыканца – на мыла!», «Партач!», «У-лю-лю-лю-ю!». Кінамеханік не на жарт разгубіўся. Ён глынуў з графіна вады, і адчуў, як закружылася галава: «Няўжо ўсё? Няўжо?.. А можа пранясе? Ці ўсё – канец?»

А тупаценне ног было зусім блізка. Амерыканец, прадчуваючы нядобрае, накінуў на дзверы зашчапку, а сам схаваўся за кінаўстаноўку – заняў абарону. Калі на дзвяры пасыпаліся удары, ён падкасаў рукавы і прыняў стойку «жывым не дамся!».

– Адчыняй, абманшчык, хлус імпартны! – пранізаў драўляныя дзверы крык.

Амерыканец загадаў сам сабе:

– Не адчыняць! Трымацца! Трымацца да апошняга!..

– Што напісаў на афішы, а што паказваеш? – дапытваўся хлапчына сваім пагрозлівым голасам. – Будку перакулім, калі не вернеш грошы! Бярыцеся за вуглы, хлопцы!

– Гэй вы там, паасцярожней! – Амерыканец пагразіў пальцам. – Паасцярожней! Не вы ставілі будку! Не вы!

А потым Амерыканец уздыхнуў з палёгай, бо хлопцы памалацілі кулакамі ў дзверы, паабяцалі сустрэцца з кінамеханікам на вуліцы – і зніклі. Амерыканец зноў прамакнуў лоб насоўкай і пачаў суцяшаць сам сябе: «Хацеў жа як лепш. Для плана стараўся. Для дзяржавы». Ён паглядзеў у акенца, у глядзельнай зале нікога не было, і выключыў апаратуру. А ўслых сказаў:

– Вось і ўсё кіно. Прызямліўся ў Еўропе, такія справы!..

Прыбегла Клаўка. Амерыканец не адразу адчыніў ёй.

– Ды адна я, адна! – запэўніла білецёрка, а калі апынулася ў кінабудцы, з дакорам глянула на старога. – Што ж ты нарабіў, дзядзька Ігнат? Клуб пусты.

– Г... грошы ў цябе? Не адабралі? – талопіў позірк на Клаўку Амерыканец.

– А то дзе ж яшчэ! Купілі білеты – хай глядзяць.

– Правільна. Багата грошай?

Клаўка кіўнула: ага.

– Тады не журыся. Тады жывём. Ну, чаго галаву павесіла? А калі мы дадатковы план прынялі, га?

– Як гэта? – здзіўлена глянула на Амерыканца Клаўка.

– За адну змену – восем норм. Усе бяруць, а мы што – лысыя?

– Быццам бы не...

– І я гавару: не лысыя, – Амерыканец рассмяяўся.

Усміхнулася і Клаўка:

– Скажы каму – не паверыць. Эх, дзядзька! Усё гэта і добра, і дрэнна. А каму ж мы заўтра кіно будзем паказваць? Хто прыйдзе? А паслязаўтра? Не павераць нам больш людзі, хоць фільм і на самай справе індыйскі будзе...

Амерыканец пасроб за вухам:

– Рэклама падвяла. Цяпер усюды гэтыя рэкламы. Я сабе гадзіннік па рэкамендацыі газеты купіў, а ён дзень ідзе, два на месцы стаіць. У газетах жа друкуюць рэкламу вялікімі літарамі, а я ўсяго-наўсяго на паперцы напісаў, што фільм індыйскі... для вузкага кола.

– Але ж ведаў, што наш фільм?

Амерыканец вінавата апусціў галаву:

– Не трэба было б...

– Для цябе ж стараўся, Клаўдзія! – Амерыканец прыклаў руку да сэрца. – Для Мішкі, курортніка нашага. Для плана. Для дзяржавы.

– А бачыце, што атрымалася?

– Калі ж фільмы пайшлі ў апошні час – што блізнюкі. Нават і артысты адны і тыя ж у іх здымаюцца. Чым заманіць людзей? Якім метадам? Вось і асмеліўся я прарэкламаваць...

Клаўка махнула рукой:

– Добра! Што будзе, таго не мінуць. Зачыняй будку, дзядзька. Пайшлі дахаты.

– Ты ідзі, дзеўка, – замахаў Амерыканец. – А я тут яшчэ пабуду крышачку. Справы ёсць.

Клаўка знікла. Амерыканец, правёўшы яе позіркам, накінуў зноў на дзверы зашчапку, кінуў на падлогу пінжачок і лёг. Ляжаў і бубніў сабе пад нос:

– Дзякуй сказалі б, нехрысці, што хоць з хат павыцягваў... адзін на аднаго паглядзелі... пра жыццё папыталіся... Дык не: на мыла... на мыла...

Амерыканец захроп.

5

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Усё бліжэй і бліжэй час вяртання Арынавіча. А ў Кіпціка, па ўсяму відаць, нічога не скранулася з месца. Ён сядзіць на лаўцы з кійком, які служыць яму, мусіць, зброяй. Твар заклеены лейкапластырам. Па-ранейшаму не зашклёныя вокны, няма сабакі Швагра – ланцужок накінуты на будку. Кіпцік пасля таго, што здарылася на аб’екце, які ахоўваў, нясе вахту надзвычай пільна, пад вачамі ажно місяжкі з’явіліся ... А мо ад чаго іншага яны? Кіпцік сам ведае, ад чаго. Вось і цяпер ён змагаецца са сном, клюе носам, і каб не крокі перад ягоным аб’ектам, ён, безумоўна, задрамаў бы. Аднак ускочыў, прыставіў да нагі дручок, нібы вартавы вінтоўку, і падаў каманду:

– Стой, хто ідзе?

– Амерыканец! – пачулася з-за брамы.

– Амерыканец на месцы, астатнія – да мяне! – запатрабаваў Кіпцік.

– Я свой Амерыканец. Савецкі.

– Праходзь, – дазволіў Кіпцік, а калі Амерыканец паказаўся на двары, паведаміў. – Вахту нясу. А табе што трэба?

Амерыканец доўга нічога не гаварыў, сноўдаўся па двары ўзад і ўперад, а толькі тады, расцягваючы гукі, сказаў:

– Чуў ці не?

– Гледзячы што. А ты – чуў? – у сваю чаргу націснуў на тое, што балела, Кіпцік.

– Чуў.

– І я чуў.

Яны селі на лаўку. Закурылі.

– Што рабіць будзем? – першы падаў голас Кіпцік. – Думаў знайду супастата, а ніхто не прызнаецца. Хоць кожнага за каўнер бяры.

– Ты, бачу, некага узаў? – нясмела папытаў Амерыканец і кіўнуў на лейкапластыр, што заняў большую частку Кіпцікавага твару.

Кіпцік асцярожна пакратаў балючае месца, хаваючы вочы, прамовіў:

– Падазронасць лягла на Анціпіху. Быў у яе. Не, кажа, не я, Атрахімка. Рука не падымаецца...

– На каго?

– На курэй. На сабаку. На вокны.

– А на чалавека? – паморшчыўся, нібы балела яму, Амерыканец. – Чым гэта яна цябе так распісала? Качаргой? Скавародкай?

– Цёмна было. Не разабраў. Як у сне было. Зайшоў... Сказаў... І выйшаў. А ты што ж, план сарваў?

Амерыканец хехекнуў:

– А гары яно гарам, такое кіно! Сарваў, брат. Учора два чалавекі прытупалі ў кіно. І тое з суседняй вёскі. З Абідавіч. Як нам далей жыць з табой, Трахім?

Кіпцік не адразу сказаў:

– А так і жыць. А так і жыць. Набраць паветра – і не дыхаць. І не шавяліцца. Шукаю...

– І што, знойдзеш? – насцярожыўся Амерыканец.

– Знайду! – Кіпцік прытупнуў нагой.

Амерыканец уважліва глядзеў на Кіпціка, а тады крыва усміхнуўся:

– У цябе ж ужо месца на твары мала засталося... незанятага.

Кіпцік пакрыўдзіўся, размінуўся позіркам з Амерыканцам:

– Ты чаго прыпёрся? Што табе трэба? Мяне крытыкаваць, нягеглы іншаземец, сабраўся? А сабраўся спачуваць, то спачувай, а не падсыпай солі. Падсыпаць і Груня добра ўмее.

– Даруй. Даруй, Трахім. Можа, з такога выпадку, так бы мовіць, га? – Амерыканец шчоўкнуў па горлу.

– Больш на пасту ні грама! – цвёрда сказаў Кіпцік і заматляў галавой.

– Я вып'ю.

– А я што – глядзець павінен? Сліну глытаць? – натапырыўся Кіпцік.

Амерыканец забедаваў:

– Што ж цяпер, нельга і па сто грамаў?

Кіпцік абурыўся:

– Эх ты, Амерыканец! Лёгка таго біць, хто ляжыць. Наконт выпіць ты не праслабіш. А што, лепш скажы, у вёсцы гамоняць?

– Пра тваіх курэй? – адразу здагадаўся, на што намякае Кіпцік. – А што гамоняць? Што бязрукаму ваду несці давер, што Кіпціку што-небудзь – адно і тое ж...

– Ну хоць бы хто паспачуваў! Хоць бы хто! Толькі сам сабе і падмагнеш,-- скрывіўся Кіпцік і плюнуў.

– І яшчэ, праўда, кажуць, быцта Груні тваёй работа...

Кіпцік аслупянеў:

– Груні? Дзе? Што?

Амерыканец напомніў:

– Куры... Сабака... Вокны...

Кіпцік памуляўся, а тады прыкрыкнуў:

– Цыц! Ты пры сваім розуме ці не? «Груні тваёй работа». Мы з ёй разам, калі хочаш знаць, шукаем злачынцу.

Амерыканец развёў рукамі:

– Ну, тады не ведаю... За што купіў, за тое і прадаў. Людзі так баяць. Не сам жа прыдумаў.

– Ты можаш і сам. А пакляніся!

– Не буду. Хочаш вер, хочаш не. Што чуў, пра тое і сказаў.

– Пачакай, пачакай,– памякчэў, здаецца, крыху Кіпцік. – Хай і гавораць. Хай і балакаюць. Іхняя справа. А навошта тады маёй Груні такое кіно?

Амерыканец прастагнаў,зморшчыўся і адвярнуўся ад Кіпціка:

– Пра кіно, прашу цябе, не ўспамінай. У пячонках яно сядзіць.

А Кіпцік зрабіў выгляд, што не пачуў, ссунуў бровы:

– Дык і я кажу: навошта маёй Груні такі канцэрт?

– Вось гэтага не ведаю,– лыпнуў вачамі Амерыканец. – Самі разбірайцеся.

– Не! Заікнуўся – гавары далей!

– Гавару,гавару... Дзе твае куры?

– Мае дома.

– А Мішкавы?

– Мішкавых... пахаваў. Чын па чыну. Хоць і без аркестра.

Амерыканец кашлянуў:

–Упэўнены?

– Сваімі рукамі закапаў,– Кіпцік патрос рукамі. – Вось гэтымі.

– А людзі гавораць...

– Зноў людзі гавораць?– паморшчыўся каторы раз Кіпцік.

– Дык больш ніхто, акрамя людзей, размаўляць не ўмее.

– Гавары ўжо, гавары!– махнуў рукой Кіпцік і сеў. – Гавары.

– А людзі кажуць, быццам іх Груня твая снатворным напаіла... Разумееш?

Кіпцік зноў устаў, таргануўся целам, нахмурыўся, гледзячы на Амерыканца:

– Не. Не разумею.

– І я...– выдыхнуў Амерыканец. – А мне, Трахім, думаеш лёгка жыць з такой рэпутацыяй? Мянушку горш не прыдумаеш прыляпілі – Амерыканец. Хоць вешайся. Тыя ракеты торкаюць у Еўропе, а атрымліваецца, быццам і я вінаваты. Вось ужо засталася мне ад бацькі спадчына дык засталася. Лепш бы ён у Кітай у заробкі ездзіў. Хоць і Кітай... Сядзеў бы лепш дома.

Кіпцік не чуў, што яму гаварыў Амерыканец, ён усё яшчэ глядзеў на таго шклянымі вачыма:

– Груня, кажаш? Няўжо?

– Не я—людзі...

– А каб ім мулка спалася! – Кіпцік схапіў рыдлёўку. – Зараз праверым! Зараз я ім!.. Людзі кажуць... Што мне людзі? Я сам курэй закапаў. Сам. Вось гэтымі рукамі!-- Ён зноў патрос рукамі, не выпускаючы з іх рыдлёўку. – Пайшлі, тыцну носам!

Сапучы за Кіпцікам, Амерыканец кідаў таму ў спіну:

– Пуста там. Навошта дарэмна зямлю таптаць? У горадзе даўно куры. У гаршках. У халадзільніках. Дачка, думаеш, проста так прыязджала?

Не паварочваючыся, Кіпцік адбрыкваўся:

– Ты яшчэ дурнейшага нічога прыдумаць не мог? За мной! Шпарчэй! Тая шапка, што ў краме ляжыць, вушэй не грэе. Яе трэба на галаву ўсторкнуць.

У Амерыканца зусім, здаецца, прапала жаданне тупаць, ён лянiва плёўся ўслед, бубніў:

– Ды што глядзець? Глядзі не глядзі, а куры – цю-цю.

– За мной!– Кіпціка ніхто ўжо не мог спыніць.

6

І яны прапалі з вачэй. Пачакаем, паглядзім, што будзе далей. Няўжо і сапраўды Груня? Трафім не верыць. А людзі, бач ты, гавораць. Нічога не скажаш – сітуацыя.

Давайце пакуль зазірнем да часовага паштальёна Ягора Чапухі. Да слова сказаць, Чапуха – таксама не прозвішча, а мянушка мясцовага значэння. Моцна прыляпілася яна да Ягора, але ён нікольки не крыўдуе на землякоў за гэта, а як выкарыстоўваў у сваёй гаворцы раз-пораз слова «чапуха», так і выкарыстоўвае. А жонку яго называюць не Марусяй, а Чапушыхай. Таксама не крыўдуе. Спытайце, чыя чарга кароў заўтра пасвіць? І пачуеце: «Чапухі з Чапушыхай».

Нешта і ў іх, відаць, сталася. Чапуха не ў гуморы сядзіць на лаўцы, а жонка насупраць на табурэтцы. Насупілася. Маўчаць. Зрэдку узнімаюць адзін на аднаго вочы.

– Чапуха!– парушыў маўчанне Чапуха.

– Табе ўсё чапуха! Бязрукі! Навошта браўся за сумку?

Чапуха паскроб за вухам:

– Дык... каго не прасіў Арынавіч – усе адмовіліся.

– А ты – скок! Бабскі характар у цябе, Чапуха.

– Які ні ёсць, Чапушыха, а чалавеку ўдружыў.

– Ды ўдружыў! Так удружыў, што мне колка на табурэтцы сядзець,– Чапушыха ёрзнула.

– А ты пабегай,– дазволіў сказаць сабе Чапуха, пасля чаго жонка ўстала з табурэткі, махнула рукой: бязрукі і ёсць бязрукі. – Каго не прасіў Арынавіч – ніхто... Маладыя саромяцца з сумкай хадзіць. Ім толькі аўтаматы падавай... робаты. Каб і рукі чыстыя былі, і спіна не балела... А з паштарскай сумкай, бачце вы іх, сорамна. Не той плацдарм. Пошту разносіць і маіх чатырох класаў хопіць, а ў іх паболей. Ды чапуха, Маруся, выжывем!

Чапушыха крыху памаўчала, але супакоіцца не магла, таму зноў прасвідравала мужа вачыма:

– А што ж ты людзям разносіць будзеш? Ашмёткі? Як тыя газеты цяпер чытаць можна? А пісьмы? А пісьмы, Божа-а!

Чапуха пакрактаў, падцягнуў штаны:

– Самая што ні ёсць чапуха! Калі адзін дзень не пачытаюць – нічога з імі не зробіцца. Ды і радыё ж ёсць. Целявізар амаль у кожнага.

– Гэта ўсё ёсць, а сваё стрэбуюць. Людзі такія.

-- Зразумеюць. З кім не бывае. Ну, упусціў сумку ў ваду... не ўтрымаў. Я ж, Маруся, хацеў толькі паставіць яе,сумку, на поручні, каб пісьмо дастаць. А яна, халера, і кульнулася... і паплыла.

– Я веру. А людзі?– залыпала вачыма Чапушыха. – А людзі?

– І людзі паверацъ, зразумеюць. Не спецыяльна ж. Не ўмысна. Я ж не шкоднік які-небудзь, а чэсны працаўнік. Папрасілі – пагадзіўся.

– Загадчыца, Любка, хоць ведае? – уступліва-мякка пацікавілася Чапушыха.

– Ёй не дакладваў,– зноў падцягнуў штаны Чапуха.

Чапушыха параіла:

– Схадзі,схадзі павініся. Як-ніяк – начальніца. Яна дзеўка добрая, даруе.

– Не за сябе баюся – за Мішку Арынавіча. Падкачаў. Не апраўдаў даверу. Пачнуць яго калашмаціць, тузаць.

– Схадзі. Прызнаешся – і лягчэй стане.

Чапуха доўга таптаўся каля мокрых газет і пісьмаў, а тады зноў падняў вочы на жонку:

– Дык што, ісці?

– Мякеша! – павысіла голас Чапушыха. – Дачакаешся, што хвельятон у газеце прапячатаюць.

– Хвельятон?– вырачыў вочы Чапуха.

– А што ты думаў! Яшчэ і намалююць. Ой, і бязрукі ж ты, Чапуха! Ці гэта ўсе такія мужыкі, ці ў мяне толькі?

– А што, могуць у газетцы і намаляваць. Могуць. Я б і сам пасмяяўся з такога паштара, яй-бо.

– З сябе?

– Не, з сябе – не, а вось з такога паштара, як сам. Хвельятон, кажаш?– Чапуха паскроб за вухам, а паколькі жонка нічога не адказала, а толькі ўздыхнула, ён прамовіў:– Гэтага дапусціць нельга. Як таго хочаш, а нельга. Ды... ды чапуха!

Чапушыха зноў ажывілася:

– Прасі, прасі прабачэння, а не чапушыхай. На калені ўпадзі. Дзеўка добрая. Зразумее. Вось табе мая парада.

– Чапуха!– Чапуха ўзяў канверт, пакруціў яго перад вачыма. – Мне ўсё роўна гэтыя газеты мала насіць засталося. Кавалак хлеба не адымуць, калі і сумку забяруць. Злезла, га? Злезла...

– Хто з каго?– насцярожылася Чапушыха.

– Чарніла з канверта злезла.

– Вось табе і чапуха! Падсудная справа!

– Так ужо і падсудная. Чапуха.

– Як жа цяпер пісьмы разносіць будзеш? Каму? Куды? Голыя канверты. Што бліны. Ай, няпутны!

– Цішэй, Маруся, цішэй,– Чапуха шморгнуў носам. – Так і разнясу. Няхай у цябе менш галава баліць.

Хаваючы вочы, Чапушыха затрэсла галавой:

– Разнось, разнось, а я пагляджу...

– Паглядзі, паглядзі, я не забараняю,– Чапуха выцягнуў з канверта лісток.– Яны ўсё роўна парасклейваліся, канверты тыя. Так і буду знаходзіць. Па тэксту. Чытаць буду. А ты кпіш з мяне. Дарэмна. Дарэмна.

Чапушыха насцярожылася, тузанула старога за рукаў:

– Нельга! Нельга! Ты што надумаўся рабіць, Ягор? За гэта і на самой справе могуць асудзіць. За тайны...

– Чапуха! А то сакрэт вялікі, што ў такіх пісьмах. Прышлі сала... Атрымалі кватэру, а ёй пуста – акрамя стала, нічога няма... Спім на голай падлозе... Ці чуеце, бацькі? У халадзільніку мыш павесілася... Звяжы світэр, бо хутка зіма... Сябар машыну купіў, яму бацькі дапамаглі... І я спадзяюся, што вы таксама не менш за бацькоў сябра любіце мяне... І так далей. Вось пісьмо. Каму, думаеш? Зараз скажу. – Чапуха выцягнуў складзены лісток, прачытаў: « Прывет з БАМа ад

Сяргея!» Макару. Ад сына. Ён, ён у яго магістраль будуе. Ручку, Маруся! Ды Чапуха!..

Чапушыха моўчкі падала ручку, Чапуха напісаў на канверце, каму пісьмо, а тады сказаў, усміхнуўшыся:

– Так мы і ўсе канверты разблытаем. А ты хвалявалася. Чапуха! Ну, хто ў нас там далей ідзе? «Дарагая Клава!» Клава?

– Клавы ў нас дзве,– міргнула вейкамі Чапушыха.

– Дзве. Правільна,– пагадзіўся Чапуха і чытаў далей: «Даўно... даўно збіраўся табе прызнацца, але... але не хапала смеласці, рашучасці...і... бадзёрасці духу. Пішу... пішу табе і думаю: а ці зразумееш ты мяне правільна? Ведаю, у цябе сям’я, сын, але ты даруй мне за шчырае прызнанне...»

Чапуха склаў лісток, схаваў у кішэню, але ж Чапушыха ўхапілася за руку мужа, утрапёна глядзела на яго:

– Як?... І гэта ўсё? Чаму ж так? Чытай, чытай!

– Хопіць, сказаў!– гыркнуў Чапуха.

Чапушыха спярша нервова глянула на мужа, а тады стрымана пацікавілася:

– Хто ж гэта ёй, цікава, у каханні прызнаецца?

– Не твая справа!– гучна і афіцыйна сказаў Чапуха.

– Як не мая? – нахмурылася Чапушыха.

Чапуха стаяў на сваім:

– Не твая!

Чапушыха насупілася яшчэ больш, чым раней:

– Падцягні штаны, шалапут! Як што сур’ёзнае – не твая справа! Чаму? Не, браток, мая. Мая!

– Я паштар, а не ты!– адбрыкваўся Чапуха.

– «Я паштар». Вось пасадзяць цябе ў каталажку за гэтыя пісьмы, а хто перадачы будзе насіць? Хто? – заўважыўшы, што Чапуха задумаўся, а з твару ў яго прапаў выраз вялікага начальніка, жонка прытулілася да пляча мужа, пагладзіла. – Ну пакажы, пакажы, Ягорка, што тамацькі напісана... пакажы, родненькі...

Аднак Чапуха быў непахісны:

– Палі печ!

Што дзіўна, дык Чапушыха не пакрыўдзілася, а працягвала падлабуньвацца да мужа, цмокнула нават у шчаку:

– Ну, Ягорка... Га? Хто, хто Клаўцы ў каханні прызнаецца?

Чапуха вызваліўся нарэшце з абдымкаў жонкі, падцягнуў штаны:

– Кармі жыўнасць. Чуеш, парсюк рохкае?

Чапушыха раптам успляснула рукамі:

– А божачкі! З дзіравай торбай ходзіць, а такім начальнікам зрабіўся – куды там! На каза не аб’едзеш!.. Не падступіцца, вы толькі гляньце! Ну і чытай іх, пісьмы свае, сам сабе! Падумаць толькі – запанеў адразу, як торбу на плячо павесіў! Форсу больш, чым у прахвесара! Будзеш сёння адзін спаць!

– Ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-у! – неяк здзіўлена затутукаў Чапуха.

І невядома, як бы скончылася гэтая сцэнка, калі б не прыбегла ўсхваляваная Груня. Ледзьве пераступіўшы парог, яна задрала галаву на столь, а да гаспадароў хаты сказала, скрыжаваўшы, як заўсёды, рукі на грудзях:

– А родненькія мае! А суседзечкі!.. Што ж гэта робіцца на белым свеце? Так жылі, так жылі, а пад старасць з глузду чалавек з’ехаў. Галаву згубіў, макацёр свой лысы...

– Хто?– насцярожыўся Чапуха.

– Кіпцік мой,– махнула безнадзейна рукой Груня.

Чапушыха заківала галавой, спачуваючы:

– Што ты гаворыш? Дзе згубіў? Як?

Груня адрапартавала:

–На сваім пасту! З хаты выгнаў! З роднай хаты! А людзечкі! А міленькія! Усе вуглы ў ёй мною сагрэтыя-перагрэтыя! Ды мне ж і вас сорамна, Маруська, золотца маё, Чапушыха ненаглядная!– Груня павісла на шыі ў Чапушыхі.– Дай я ў цябе, сяброўачка дарагая, навальніцу перачакаю. Дай, родненькая. Грыміць, грыміць мой Кіпцік! Як усё роўна па небе на сваім трактары едзе! Ой, горачка!..

Чапуха падышоў бліжэй да Груні, глянуў ёй у самыя вочы:

– Не тарахці! Хто з вас галаву згубіў?

Груня паказала крадком на дзверы, за якімі недзе павінен быць яе Кіпцік.

Чапуха развёў рукамі:

– Нічога не зразумею...

– І я... нічога,– кашлянула Чапушыха.

– Нядаўна бачыў – з галавой быў,– лудзь чутна сказаў Чапуха. – Слоўцам перакінуліся.

Груня апусцілася на табурэт, захінула твар рукой, пакруціла галавой:

– Ён і размаўляе. Ён і есці. А галавы няма. Няма, Чапуха!

Чапушыха нацэлілася зноў на Груню:

– Ахалонься, суседка. Толкам растлумач: што ў вас там здарылася?

– А што здарылася?– Груня паглядзела спярша на Чапушыху, а потым і на Чапуху.– Пайшоў ён курэй адкопваць, Мішкавых нясушак, каб ім тлумна стала, а там іх – цю-цю! Га? І след травой зарос. Ці ён іх прыкапаць добра паленаваўся, ці што, а няма... Твая, кажа, работа... На мяне кажа. Вы можаце паверыць? А сам, відаць, толькі дзве рыдлёўкі зямлі на курэй кінуў, вось сабакі іх і расцягнулі... А божачкі! На мяне! На жонку падазрэнне кінуў, недавярак! А яшчэ талдоніў: зубы табе ўстаўлю, любіцца будзем, як у маладосці. А тут ледзьве і цэлыя не павыбіваў... А божачкі! Кіпцік ты мой нікудышны, каб на цябе ўсе хваробы, якія толькі на свеце ёсць! Цьфу!

– Памірыцеся, чапуха!– сказаў Чапуха.

– І мой не лепшы, чым твой Кіпцік,– сказала Чапушыха і плюнула.

У гэты час у шыбку нехта паляпаў і пачуўся голас:

– Дзядзька Чапуха! Пісьмо ёсць?

Жанчыны пераглянуліся. Чапуха знерухомеў. Стук у акенца неўзабаве паўтарыўся...

7

Што ж будзе далей? Цікава, цікава...

Кіпцік размашыста і агрэсіўна вымяраў крокамі двор Арынавіча.

– Хто-о-о?– ён, параўняўшыся, грукнуў нагой па сабачай будцы. – Швагер, а ты чаго аб’еўся, зараза? Чым цябе накармілі, супастат ты гэтакі? Мякінай? Халера, а не сабака! Хто курэй пашчупаў? Ды так пашчупаў, што ад іх і слядоў не засталося. Нідзе чубатых ні жывых, ні мёртвых... А ты, Швагер, павінен быў іх вартаваць разам са мной. Паспрабуй дакажы цяпер, што ты, Кіпцік, не курашчуп! Хто-о-о? Вочы выдрапаю, калі даведаюся. На Груню дарэмна накрычаў, мусіць. Няўжо ў нас сваіх нясушак мала? Але і ёй не веру на ўсе сто. Баба. – Пайшоў за веранду, вярнуўся з бутэлькай і шклянкай, сеў на лаўку, набулькаў. – Груня мая адмачыла нумар: парожнія бутэлькі павыкідвала, а поўную вока яе ліхое не ўбачыла. Х-ха!– Ён не паленаваўся ўстаць з лаўкі, стаяў, дзівіўся ў шыбку на сябе, дакрануўся шклянкай да шкла. – За тваё здароўе, Трафім! Усяго табе харошага. Не тужы. І жадаю табе знайсці злачынцу. Ты знойдзеш. Мужык ты не промах! З галавой!– Кіпцік выпіў, збегаў на агарод, вырваў цыбуліну.– Арынавіч даруе. Цыбуліна – не статак курэй, ліха на іх! Фу-у! Не, так проста мяне не аблапушыць. І курэй знайду, і таго, хто на іх замахнуўся... хто, значыць, руку падняў. Мяне не абскочыш. Не-е-е! Бач ты, гарэлка касцёр распаліла ўсяродку. Фу-у. А чаму не жыць? Жыві, Трафім! Сто гадоў яшчэ жыві. А куры –

дробязь. І Арынавіч з голаду не здырдзіцца. Халасцяк. Вяпрук стары, га! Усё адзін ды адзін. Ад сям'і ўхіляецца. Не, гэта не справа так жыць. І чаму не жэніцца, распуснік стары? Па курортах шастае! Яно канешне, калі хамут пачне шыю муліць, пра курорт забудзеш. Кукіш, а не курорт! Пшык! Забудзь! Тады сам будзеш чужых курэй вартаваць. Як вось і я. А што, і вартую! Чым кепска вартую? Цып-цып-цып! Швагер, а ты куды збег, блазнюк? Таксама, можа, на курорт? За гаспадаром? Глядзіце ў мяне!

Кіпцік пагразіў пальцам на браму, за якой пачуліся крокі. Вартаўнік насцярожыўся:

– Стой, хто ідзе!

– Амерыканец,– пачуўся знаёмы голас.

– Заходзь, Амерыканец,– дазволіў Кіпцік.– Твой нос за кіламетр чуе, што ў мяне ёсць...

Амерыканец падняў шклянку, у якую капнуў яму Кіпцік, выдыхнуў:

– За што?

– Пі, а то назад забяру.

– Ага,– і Амерыканец імгненна пракаўтнуў гарэлку. – А ты, гляджу, сядзіш?

– Сяджу.

– А я адсядзеў. Ключы на цвік павесіў. І ўчора ніхто не прыйшоў. Ды пайшлі яны!.. Няхай па норах сядзяць. Ты ж, Трафім, помніш, як раней было?

– Гледзячы што...

– Што не вечар – гармонік, песні, скокі-танцы. Гута наша хадуном хадзіла. Страшна за яе было: думалася, перакуліцца. А цяпер, бач ты, ім кіно круці і круці. Кіншчыкі! Ды не абы якое, а толькі індыйскае ці пра бандытаў. А дзе набярэшся? У нас жа, павер, бандытаў менш, чым пра іх фільмаў знялі. Чаго няма, таго няма. Да неба, як гавораць,камень не дакінеш.

Кіпцік паскроб лоб, зморшчыўся:

– Гэта хіба мне яшчэ выпіць? Камень з небам не сустрэнецца, а я, Амерыканец, з чаркай – абязацельна... Яно калі не п'еш, то і добра, а трапіць кропля ў рот, агледзіцца там, абжывецца і астатніх да сябе кліча... братоў сваіх, сясцёр. Як адзін чалавек усё роўна паўсяла нашага некалі ў Карэлію паклікаў. Кропля да кроплі... Цьфу!– Кіпцік наліў у шклянку, Амерыканцу ж сказаў:– Не глядзі так, як кот на смятану: тут і табе яшчэ застанецца. То вып'ю. Дазваляеш?

– Посуд любіць чысціню,– памяркоўна сказаў Амерыканец.

Пракаўтнуўшы пітво, Кіпцік засмяяўся:

– Што што, а гэта ты добра помніш. Не крыўдуй. Я сам такі. Ты вось тут кажаш, што моладзь уваткнутая перад экранам сядзіць. Між іншым, усё мялее неяк, Амерыканец. Усё. Рэчкі... і лясы таксама. Іх засмечваюць бутэлькамі, пустымі бляшанкамі. Грыбоў менш, чым смецця, але грыбоў больш, чым людзей. Гэта я табе гавару. Лянуюцца збіраць. А ў лесе ж можна браць ды браць! Чэрпаць! Каўшом! Лес— кладоўка багацця. Гэта, прабач, не я прыдумаў... гэта ў дзіцячым падручніку так напісана. Дай-ка я табе яшчэ капну, а то, гляджу, зусім сумны ты, Амерыканец.

Амерыканец выпіў і падзякаваў. Кіпцік працягваў:

– А цяпер такую сітуацыю вазьмі.Чаму Арынавіч і кіно круціць, і пошту разносіць?

– І на курорты ж ездзіць,– дадаў Амерыканец.

– І на курорты ездзіць,– падхапіў Кіпцік. – А чаму? А таму што работнік! Авангард! Дзень чалавек на нагах, спачыну не знае. Пошту прыхопіць,разнясе, а тады і кіно пакажа...

Пачуўшы пра кіно, Амерыканец зморшчыўся і адвярнуўся.

– Паспявае! А людзі і скаргу настрачылі ў раён: чаму, як, ці мае права дзве пасады займаць? Маўляў, грошы шухляй грабе... Мае! Мае! Яны думаюць – лёгка! А вось мы паспрабавалі: цяжка!

Амерыканец пагадзіўся:

– Цяжка, братка, цяжка.

Кіпцік рэзаў паветра рукой, бы шабляй:

– Не перашкаджайце працаваць чалавеку! Той, хто любіць работу, хай і тры, і чатыры сумкі бярэ! Абы спраўляўся! Абы круціўся! Га? Некаму ж трэба рабіць за тых, хто нічога не робіць.

Амерыканец здзівіўся:

– Як так? Усе, здаецца, працуюць.

– Калі не адсохне галава – вырасце барада. У мяне! Зразумеў?– хехекнуў Кіпцік.

– Гляджу я на цябе і думаю: добры ты чалавек, Трафім.

– Сам знаю!

– Не, дык я пра што сказаць хацеў? Чалавек добры, а на адным коле едзеш...

– Кола адно, а педалі дзве,– не ведаючы для чаго, але сказаў менавіта так Кіпцік.– Ты ў сваёй кінабудцы на колькіх колах ездзіў, між іншым?

Амерыканец прастагнаў:

– Ты чаго да майго кіна прычапіўся? Што табе трэба? Пайду я.

Кіпцік прытрымаў за рукаў Амерыканца, які ўжо намерыўся пакінуць яго:

– Куды? Выпіў – і ўцякаць? А пагаманіць?

Амерыканец сеў.

– А ўжо калі ты і сапраўды пойдзеш,– працягваў Кіпцік, – я сяду на тваё месца і пакумекаю, каго наступнага мне за грудзі браць.

– Гіблая справа,– нахмурыўся Амерыканец,– не знойдзеш.

Кіпцік працягваў храбрыцца:

– Э-ге! Кепска ты мяне ведаеш. З карэннем вырву тую пустазеліну з зямлі. Ходу не дам!

Кіпцік не заўважыў, як прасунуў галаву ў браму Чапуха.

– Здароў былі, мужыкі!– павітаўся ён. – Пры выкананні, бачу.

Чапуха кінуў газеты праз выбітае акно. Кіпцік натапырыўся:

– Ты што, скрынкі не бачыш? Аслеп?

– Чапуха. Абы дома былі,– махнуў рукой Чапуха.

– Якая табе чапуха!– выпяў грудзі Кіпцік. – Нуль культуры, панімаш!.. Ты б хоць сам пачытваў зрэдчас тое, што носіш у торбе. Амерыканец, га?

Амерыканец, адхрышчваючыся, сказаў:

– Галоўнае даставіць. А ён даставіў. І табе лягчэй – не трэба са скрынкі забіраць.

– Не, Амерыканец, і ты не ў той бок глядзіш. А я так лічу: кожны павінен рабіць сваё... Ён – у скрынку, я – са скрынкі. – А Чапусе сказаў пагрозліва:– Узяўся выконваць – выконвай, а не сачкуй. Табе не ў арміі!

– Ды чуў, чуў, як вы тут навыконвалі!– торкнуў пальцам у Амерыканца і Кіпціка Чапуха, хехекнуў.

– І я пра цябе чуў,– не ўпусціў магчымасці пакпіць з Чапухі Амерыканец.

Чапуха ссунуў бровы:

– Што... ужо?

– А ты як думаў?– пад’юджыў Амерыканец. – Сяло – не горад.

Чапуха перавёў позірк на Кіпціка:

– І ты... чуў?

– А што я, глухі?– здзівіўся Кіпцік.

– Ат, ліха іх матары!– ляпнуў па сумцы кашчавай рукой Чапуха. – Ну і народ! Ну і людзі! Навошта ім мае газеты? Яны і так усё ведаюць.

Кіпцік не пагадзіўся:

– Газеты разносьь, не дуры. А сваю Чапусе чытай. Розуму набірайся. Ты таксама ў нашы рады запісаўся. Усе мы цяпер перад Арынавічам штрафнікі. Вечныя.

– Во ўліплі дык уліплі,– паківаў пальцам Чапуха. – Хоць, калі разабрацца, то чапуха! Ну што ж, трэба шкандыбаць. Яшчэ на дзве вуліцы не разнёс...

Чапуху спыніў перад самай брамай голас Амерыканца:

– Мужыкі! Слухай сюды, мужыкі! Вось мы цяпер у поўным зборы, дык давайце абмяркуем, як Арынавіча з курорта сустракаць будзем. Га, мужыкі?

Кіпцік развёў рукамі:

– Я курэй не чапаў. Не еў – гэта ўжо без хлусні. Мяне зусім Груня карміць перастала. Што на градцы ў Мішкі адшчыкну, пакладу ў рот,– тым і жыву. Як яшчэ ногі цягаю – розуму не дабяру. Добра, што ў вёсцы жыву, а не ў горадзе. Там асфальт грыз бы.

Амерыканец, у адрозненне ад Кіпціка, пацiснуў плячыма, здзіўляючыся:

– А ў чым, скажыце, мая віна? Для плана стараўся. Перабраў трохі. Але ж у мяне – вы ўлічыце гэта, улічыце – былі не асабістыя інтарэсы, а дзяржаўныя. Вы мне верыце?

Чапуха і Кіпцік пераглянуліся.

– Верыце мне, мужыкі?– ледзь чутна перапытаў Амерыканец.

Нарэшце Кіпцік спытаў:

– Ты, бедалага, перад намі апраўдваешся ці перад Арынавічам?

– І перад вамі, і перад ім,– удакладніў Амерыканец.

– Чапуха, сустрэнем! Ці ж першы раз адказ нам трымаць? І не ў такія пераплёты траплялі. Падмачылі, канешне, рэпутацыю...

– Рэпутацыі,– паправіў Кіпцік.

– Характарыстыкі,– удакладніў Амерыканец. – Хоць з сяла ўцякай.

Кіпцік насупіўся:

– Ты, Амерыканец, толькі б шастаў. Пільнуй свайго двара. Не бяры прыклад з тых, у каго прозвішча запазычыў...

– Чапуха!

– Яно, можа, і чапуха, але ж людзі смяюцца з нас,– крыва ўсміхнуўся Амерыканец.

Кіпцік таксама ўсміхнуўся, прыняў бадзёры выгляд:

– Паміраць – дык разам! І з музыкай, як той казаў! Што ён нам, траім, зробіць, Мішка той? Ну, палаецца. Дык мы што, лаянкі не чулі? Ну, адыме партфелі. Няхай. Няхай адымае. Даўно пара. Мы самі яму

аддадзім,партфелі. З радасцю. Ахвотна. Руку падыме? А няхай паспрабуе! Я тады з яго катлеціну зраблю... зраз гарадскі! Утапчу вось у гэтую зямлю, як той недакурак! Га ?

– Мішка не такі,– сказаў Чапуха. – Чапуха. Хіба ж вы Мішку не ведаеце? Свой хлопец. Зразумее.

Амерыканец таксама пагадзіўся, што Мішка Арынавіч нічога ім тром не зробіць.

– А мы, ёлкі-палкі, нюні распусцілі,– з лёгкай вясёлай усмешкай на твары мовіў Кіпцік. – Што ж гэта мы, га? З нас трох можна сцяну скласці. Ніякі танк не праб’е. Ціха, Слесар, бачу, ідзе. Ша!

Слесар, пераступіўшы парог, разгубіўся, бо не чакаў убачыць тут столькі чалавек, таму запытаўся, лыпаючы вачыма:

– А вы... а вы чаго тут?

Кіпцік адразу прыняў важны выгляд:

– Ты ў мяне пытаеш, Слесар?

– У вас...

– Я тут гаспадар. Толькі я. У мяне пытайся, што табе трэба. Толькі ў мяне.

Слесар спытаў строга:

– Дзе мая Клаўка?

Кіпцік набраў у рот паветра, шчокі надзьмуліся, і ён ледзь-ледзь свіснуў:

– Вось гэтага, братка, я табе сказаць не магу. Хіба ж у мае гады за ёй бегаць?

Амерыканец і Чапуха засмяяліся.

– Яна ж тут, а не ты, гаспадарыць,– упэўнена сказаў Кіпціку Слесар.

– І начуе, скажаш, тут?– хлюпнуў носам Кіпцік.

– І начуе!– пацвердзіў Слесар.

Кіпцік развёў рукамі, паглядзеў на Амерыканца і Чапуху:

– Пра якую Клаўку ён гаворыць? Дзівосы!

– Пра сваю жонку,– уступліва-мякка прамовіў Слесар, і па ягоным твары можна было зразумець, што ён трапіў у становішча, якому і сам не рады, але здавацца не збіраўся.

Кіпцік уздыхнуў:

– Што ёй рабіць тут?

– Яна ж начаваць сюды ходзіць,– ускінуў бровы Слесар. – Начаваць ходзіць...

– Не, я адзін сплю,– стаяў на сваім Кіпцік.– Што, на кожную ноч сюды ходзіць?

Слесар кіўнуў:

– Ну. На кожную...

Кіпцік зарагатаў:

– Мужыкі! Сведкі! Што гэта Слесар мне амаралку прыпісвае? Мяне ж на партыйны сход выклічуць, хоць я і беспартыйны. Я тут... разумееце... перад сваёй Груняй за Мішкавых курэй яшчэ не адчытаўся, а ён мне сваю жонку падсоўвае. Га? Я ж адзін сплю! Адзін!

Аднак гэтыя словы не пераканалі Слесара, ён схапіў за каўнер Кіпціка:

– Навошта дурнем прыкідваешся, бабнік? Дзе мая Клаўдзія Сцяпанаўна? Не скажаш – задушу, як ката!..

– Не браў, не браў,не браў... – прастагнаў Кіпцік, і толькі калі за яго заступіліся Амерыканец з Чапухой, Слесар расслабіў пальцы.

Чапуха, вызваляючы Кіпціка, прамумкаў:

– Э-э-э, за што? Ды чапуха ўсё гэта...

Амерыканец жа быў больш катэгарычны:

– Нам, толькі нам даверыў Арынавіч свае партфелі! Ясна, супастат?

Кіпцік, вызваліўшыся з рук-абцугоў Слесара, з палёгкай уздыхнуў:

– Клаўкай тут і не пахла.

Слесар збегаў у хату, зазірнуў у хляўчук і шморгнуў на вуліцу.

8

Далей у лес – больш дроў. Правільна кажуць людзі. Так і ў нас атрымліваецца. Не знайсці ў гэтым клубку ні пачатку, ні канца. Што ж, няхай шукаюць нашы героі... Не будзем перашкаджаць ім.

Слесар і Клаўка спагадзя сустрэліся ў сваёй хаце і вырашылі высветліць адносіны. Муж сядзеў на табурэціку, утапіўшы твар у далонях, а жонка захінула сваёй постаццю акно.

Нарэшце Слесар падняў вочы на Клаўку:

–Што ты робіш, Клаўка? – вытрымаўшы паўзу, ён працягваў. – Людзей не сорамеешся хіба? Я ж, Клаўдзія Сцяпанаўна, іду па вуліцы да сваёй майстэрні, а яны – шу-шу-шу: глядзіце, Слесар ідзе! Той Слесар, жонка якога з садоўнікам начуе.

Клаўка хмыкнула:

– Які ён садоўнік? Бабу ад яблыка не адрозніць.

– У нас жа дзеці...

– Дзеці? – Клаўка павярнулася да мужа. – У нас адзін сын. Усяго адзін сын!

Твар у Слесара як быццам прасвятлеў:

– Хочаш, яшчэ... гэтае самае... арганізуем?

– Няма часу табе. Ключы ды гайкі на першым плане.

Слесар узняўся, падышоў да жонкі, паклаў рукі ёй на плечы:

– Нельга ж толькі пра сябе думаць.

– А дзеці – гэта і дзяржаўны клопат, даражэнькі!– зноў, на гэты раз больш рашуча, павярнулася да Слесара жонка.—Га?

Слесару нічога не заставалася, як апраўдвацца :

– Паслухай! Але ж мы абяцалі працаваць сумленна. Нам жа калгас вось гэтую хату бясплатна даў – жывіце, працуйце. А чым мы павінны адказваць на такую ўвагу, чуласць? Працай! У горадзе мы пяць гадоў на прыватнай кватэры жылі. Не жылі, а існавалі! А цяпер у нас – усё сваё. І дах над галавой, і агарод, і сад... Лес побач, рака...

Клаўка міргнула вейкамі:

– «Лес», «рака»... А ты хоць ведаеш, дзе той лес, рака? У якім баку?

– Чаго табе не хапае?

– Цябе!

– Я – вось...

– Я толькі раніцай цябе і бачу,– з лёгкім дакорам прамовіла Клаўка. – А мне хочацца і вечарам, і ўначы... каб ты побач са мной быў.

– Работа ж, Клаўка... Абавязак... Гонар...

Клаўка роспачна ўздыхнула:

– А мне такі муж, можа быць, і не трэба. Ад тваіх рублёў мне не цяплей. З імі холадна спаць, Валянцін. Не грэюць яны...

Слесар устрывожыўся яшчэ больш:

– Клава, як ты можаш?!

– А што мне застаецца гаварыць?

– Ты ж мяне кахаеш. Я ведаю.

– Люблю,– паправіла Клаўка. – Я ўсіх люблю. І ўсё. Характар такі ў мяне... нікога не магу абысці. І нічога. Я цябе люблю... сына... Кіпціка...

– І Кіпціка?– вылупіў вочы Слесар. – Ці мне пачулася?

Не звяртаючы ўвагі на здзіўленне мужа, Клаўка працягвала:

–Чапуху люблю... Амерыканца...

Слесар яшчэ больш трывожна глянуў на жонку:

– Амерыканца?!

– Поле... лес... раку... сад...

Слесар зморшчыўся:

– Сад? Які сад, Клаўдзія Сцяпанаўна?

– Наш. Наш сад. Вось гэты, што пад акном... – Клаўка, хаваючы твар, ледзь прыкметна ўсміхнулася.

– Гэты любі,– дазволіў Слесар. – А я думаў – калгасны...

– Есці будзеш?– папытала Клаўка, уздыхнуўшы. – Гора ты маё горкае!..

– Есці? Якое там! – залыпаў вачмі Слесар. – Што ў рот палезе? Якая капуста? Слухай, Клаўдзія Сцяпанаўна... Давай пачнём жыць, так сказаць, па-новаму... ці што, га? Перакрэслім усё, што было, і пачнём! Давай, га?

– Усё не трэба,– памяркоўна заўважыла Клаўка. – І добрага, прыемнага было багата ў нашым жыцці. – Яна раптам павісла на шыі ў Слесара, ад чаго той аслупянеў:– Помніш, як у тэатр хадзілі? «Святога і грэшнага» глядзелі...

Слесар затрос галавой:

– Ага... помню... было... а як жа!..

– А потым па начным горадзе дамоў вярталіся,– Клаўка ад насалоды заплюшчыла вочы. – Агні, агні, агні... І мы з табой... Маладыя, шчаслівыя... Помніш?

Слесар кашлянуў:

– Хаты ж не было. Якое шчасце без свайго вугла?

– Хаты, хаты... А цяпер хата ёсць – цябе няма. Згубіла я цябе паміж плугоў і сеялак. Згубіла. Мне зноў у горад хочацца, Валянцін.

Адхіснуўшыся ад жонкі, Слесар лыпнуў вачмі:

– Што? Куды?

– У горад!– паўтарыла Клаўка.

– Не дуры галавы. Не дурыся, Клаўдзія Сцяпанаўна. Будзем мохам тут абрастаць.

– Абрастай,– Клаўка захлімкала. – Табе, Слесар ты мурзаты, што абяцалі, калі мы рашылі пераехаць? Маўчыш? А я помню. Залатыя горы табе абяцалі. А далі толькі хату... і сад.

– Супакойся, Клава,– Слесар гладзіць жонку па плячы. – Не адразу і Масква будавалася. Я разумею... І не дазволю, каб ты зноў сышла некуды!

Клаўка шчыра здзівілася:

– Куды сышла, даражэнькі мой? Куды сышла?

Слесар памуляўся крыху, а потым выгукнуў:

– Сад! Шалаш! Зоркі!..

– Нікуды я не сыходзіла,– апраўдвалася Клаўка. – Я ж, дурніца, на сваім сенавале спала, гора ты маё!.. Але і ў шалаш згадзілася б, каб хто паклікаў... паманіў...

Слесар прытупнуў нагой, нясмела і не адразу:

– Ты... ты гэта кінь! Кінь, Клаўдзія Сцяпанаўна! Так... разумею... не жартуюць! – Ён прытуліў жонку да сябе. – Ну і жартачкі! Усе бабы такія... ці толькі ў мяне?

– Гэта мне падабаецца,– усміхнулася Клаўка. – Я ж і з хатай Арынавіча ўсё прыдумала. Каб раззлаваць цябе. А ты не злуешся. Не калоціш мяне, як грушу. Не б'еш. Ты будзеш мяне біць, калі я табе здраджу?

– Што?!– раўнуў Слесар і пахіснуўся, але ўтрымаўся на нагах.

– Ды я пажартавала, дурненькі!– сказала і зачырванелася Клаўка.

– Я ж... я ж і гавару: ну і жартачкі ў цябе... – выцер рукавом лоб Слесар. – Ну ты даеш, Клаўдзія Сцяпанаўна... Буду, буду дубасіць цябе, калі хвастом вільнеш, як Сідараву казу.

– Гэта моцна?– блазнуючы, спыталася Клаўка.

– Вельмі!– матлянуў кулаком, таксама забаўляючыся, Слесар.

– І кахаць мяне будзеш?

– А каго ж больш, калі не цябе?

– Сеялкі... бароны... гайкі...

– Сеялкі і цябе... цябе і сеялкі... а пра горад і не ўспамінай. Тут маё гняздо. Вунь, бачыш, на ліпе. Для буслоў зрабіў. Тут. Яны, птушкі, вяртаюцца кожны год назад, не жывуць дзесьці там, далёка. І я сваёй дарогі не забыў... вярнуўся. Прыгожая ты ў мяне... прыгожая... Прыгажэй, чым раней была. Калі хто і ліпне да твайго сэрца, адарві яго... адкінь. Адкінеш?

Клаўка паціснула плечуком:

– Пастараюся.

Слесар уключыў прайгравальнік і запрасіў Клаўку на вальс. Прыціснуўшы жонку да сябе, горача шаптаў ёй у твар:

– Я з табой, Клаўдзія Сцяпанаўна! З табой! З табой!

– І я, – нарэшце выдыхнула Клаўка.

## 9

А тым часам Кіпцік, Амерыканец і Чапуха рыхтаваліся ў лазню. Яны выцягвалі з-пад прыстрэшкаў бярозавыя венікі, корпаліся ў шафах, шукаючы чыстую бялізну, бо жонкі зусім махнулі на іх рукой. Гуртам і накіраваліся да ракі, дзе ў вольхах курэла лазня Чапухі.

Апошнім у прылазнік усунуўся Чапуха.

– Чапуха,– сказаў ён, паклаўшы прынесеныя рэчы на лаўку. – Хутка будзе гатова. Даходзіць. А вы тут, бачу, без мяне абжыліся.

– Пачакаем,– уздыхнуў Кіпцік.

Амерыканец таксама ўставіў:

– І я кажу: пачакаем. Затое адмыемся.

– Трэба, трэба грахі змыць,– пагадзіўся Кіпцік.

Чапуха паглядзеў на Кіпціка:

– Што курыш, сусед?

– Што сельмаг пашле. Сёння «прыму».

– І «прыміна», і «беламорына» – чапуха!– махнуў рукой Чапуха, сеў. – Уся табака – чапуха, дурман. Ад яе дых спірае. Давайце кінем, мужыкі, га?

– Давайце, я – за,– торкнуў руку, бы на сходзе ў калгасным клубе, угору Кіпцік. – А што? І кінем! Правільна! Хіба доўга? З панядзелка?

Чапуха пагадзіўся:

– Лепш, канешне, з панядзелка. Каб запомніць лягчэй было, калі пазбавіліся ад гэтай атруты.

– Слухай сюды, Чапуха!– гукнуў Кіпцік, і ўбачыўшы, што той навастрыў слых, сказаў. – Прыйдзецца, відаць, пакурыць яшчэ і гэты панядзелак, што на гарызонце.

– Ды кінем – і кропка!– бадзёра паглядзеў на Кіпціка Чапуха. – Чапуха!

Амерыканец устаў з лаўкі, пакрактаў, і, паабяцаўшы хутка прыйсці, пакінуў неразлучных сяброў адных. Не звярнуўшы на яго асаблівай увагі, Кіпцік запярэчыў:

– Не пары гарачку, Чапуха. Не трэба. Вось сустрэнем Мішку, а тады – зразу, га? Як і не курылі. Ты, бачу, адразу захваляваўся, як я пра Мішку ўспомніў?

Чапуха ледзь чутна прашаптаў:

– Хвалююся, братка, хвалююся.

– І я таксама,– прызнаўся Кіпцік. – Быццам стараюся і не хваляваецца, а хвалюеецца. Давай ужо Мішку сустрэнем, а тады ўжо – зразу?

– Правільна,– аблізаў губы Чапуха. – Згодны. Сустрэнем, адрапартуем, і як не курылі…

– А пакуль дымі, Ягор!– паляпаў, супакойваючы, Чапуху па плячы Кіпцік.

– Дымі, Трафім!– зарагатаў, на імгненне забыўшыся пра Мішку, Чапуха.

І ў гэты самы момант у прылазнік прасунула галаву Чапушыха, заміргала кругленькімі вочкамі:

– Не голыя?

– Рана прыцягнулася,– сказаў Чапуха.

– Кхі!– вырвалася ў Кіпціка.

– А чаго вы сумеліся? – пераставіла ногі ў прылазнік Чапушыха. – Хіба ж не помніце, як раней у лазні разам мыліся? Ты з Груняй і я з Чапухой. Ну і што – убавілася ад нас?

Чапуха строга глянуў на жонку:

– Ты ніяк і цяпер захацела?

– Розуму – што ў курыцы! – павысіла голас Чапушыха. – Ужо і сказаць мне нічога нельга. Калі што і можна, то толькі вам. Пошту разнесці, кіно пакруціць і без кіна застацца... курэй патруціць. Тут вы майстры. Цьфу!

Натапырыўся і Чапуха:

– От піла! От!.. Слова не скажы!

Кіпцік жа ўсміхнуўся, міргнуў вейкамі:

– І праўда, Ягор, было. І праўда... мыліся. От давалі, га? А цяпер – і сорамна. А здавалася б, павінна быць наадварот.

– А чаму сорамна?– акінуў Груню і Кіпціка позіркам Чапуха. – Таму што нічога ў нас не засталося... паказаць срамна. А раней мы нечым і ганарыліся.

Такое рэзюме спадабалася Кіпціку, і ён зарагатаў. Чапушыха ж сумна прамовіла, хітаючы галавой:

– Цяпер мы... не тое каб... без стуку-груку адзін да аднаго не заходзім. Дажыліся. І тое, калі сабака дазволіць... Ну што ў вас тут?

На пытанне жонкі Чапуха адказаў:

– Скора будзем вугельчыкі заліваць.

– Пакуль вугельчык – вочы не заліце,– параіла Чапушыха.

Чапуха раздражнёна плюнуў:

– От д’ябла, га? Чым заліваць іх? Вадой?

– Кхі!– вырвалася, як і нярэдка ў такіх сітуацыях, у Кіпціка.

– Вы знойдзеце чым,– працягвала ўшчуваць мужчын Чапушыха. – Гэтай навуцы вас вучыць не трэба. Тут вы надта граматныя. Прахвесары.

Чапуха развёў рукамі, зморшчыўся, і быў падобны на вельмі пакрыўджанага чалавека:

– Трафім, не, ты вось скажы шчыра, ага: да якога часу на нас будуць падазрэнні? Да якога, га, Трафім?

Кіпцік адказаў не адразу, спярша паскроб за вухам, крадком кінуў позірк на Чапушыху, паглядзеў на Чапуху, і пасля гэтага толькі ўскінуў бровы:

– Мы ж, Чапушыха, і курыць, можна сказаць, кінулі.

– Які па ліку раз?– здзекліва паглядзела на мужчын Чапушыха.

Кіпцік тупнуў нагой:

– Не лічылі, але – кропка на тым тыдні! Тлустая!

– З панядзелка?– нечакана для Кіпціка і Чапухі з лёгкай вясёлай усмешкай запыталася Чапушыха.

Мужчыны пераглянуліся, і тая паўза, што ўтварылася, дала падставу Чапусе хмыкнуць:

– Зразумела.

– Ох і пілы ж вы, бабы!– скрывіўся і плюнуў Чапуха. – Шух-шух,шух-шух! Га? Бервяно... нават дубовае языком сваім перапіліце.

– Ты лепш памаўчаў бы, Чапуха,– не гледзячы на мужа, сказала жонка. –Бялізну ўзяў?

– Узяў, узяў!– хуценька выпаліў Чапуха. –- Пра бялізну ты ў апошнюю чаргу, а пра ўсё астатняе – у першую... Такі ў вас клопат пра нас, мужчын.

– Палі ўжо лазню, не грэй неба,– на поўным сур'ёзе сказала Чапушыха. – Ды не размывайцеся асабліва. Нам, бабам, духу пакіньце ж.

Чапуха рашуча заявіў:

– Што ад нас застанецца – увесь ваш.

Кіпцік удакладніў:

– Тое і ваша...

– Ад цябе схавацца можна толькі ў лазні,– Чапуха знік за дзвярыма.

Чапушыха пэўны час памаўчала, а тады паглядзела на Кіпціка, узбурылася:

– Ну, а ты чаго з Груняй не падзяліў?

– Паскардзілася?

– З хаты выгнаў – і гэта называецца паскардзілася. Сорам. У такія гады. Гэта маладыя ўжо няхай ваююць за ўладу ў доме, а вы?

Кіпцік нарэшце зразумеў, што ў лазню – услед за Чапухой – ныраць яму ранавата, таму выпнуў грудзі:

– Ты, Маруся, не сунь нос куды цябе не просяць! Самі разбяромся! Самі! У цябе толькі адзін нос і застаўся!

– А што, іх два павінна быць?– пакратала нос рукой Чапушыха.

Кіпцік махнуў рукой і адвярнуўся. З лазні выглянуў Чапуха, зрабіў здзіўлены выгляд:

– Ты ўсё яшчэ тут? Мужыкі мыцца будуць. Не той час табе!..

– Мыйцеся,– пазяхнула Чапушыха. – Вам трэба, грэшнікі. А я пазней квасу вам прынясу. Пайшла, пайшла, Чапуха! Чуеш?

– Во цяпер чую,– зачыніў дзверы ў лазню Чапуха, калі жонка прапала з вачэй. – Распранайся, Трафім. І я пайду… Пара мыцца.

Не паспелі яны распрануцца, калі пачулі перапалоханы голас Чапушыхі:

– Ратуйце-е! Бяда-а! Ратуйце чалавека-а!

– Каго… ратаваць?– выглянуў з прылазніка Кіпцік.

Чапушыха была непадалёк, глядзела на Кіпціка і старался падняць некага з разоры.

– Амерыканца,– нарэшце мовіла яна. – Каго ж яшчэ? У баразне ляжыць. І венік пад галавой… замест падушкі.

– Чапуха,– памяркоўна сказаў Чапуха. – Будзе жыць. Амерыканца ніякая трасца не возьме.

Чапушыха не пагадзілася:

– Якая табе чапуха, Чапуха? Памірае-е!

– Ён і прыкінуцца можа, каб ад пакарання ў баку застацца,– спакойна сказаў Кіпцік. – Мішка ж неўзабаве павінен вярнуцца. Ён можа…

– Амерыканец можа,– падтрымаў Чапуха.

– Хай толькі памрэ, я вас здам міліцыі!– замахала рукамі Чапушыха. – Сама пазваню, куды трэба!

Чапуха здрэйфіў:

– Пайшлі, Трафім, глянем, што там. І вады зачэрпнуць трэба. На морду ліну.

Вада спатрэбілася. Чапушыха адразу ж набрала яе, колькі ўлезла, у рот, дзьмухнула на Амерыканца, бы з брандспойта. А тады, як толькі Амерыканец лыпнуў вачыма, пачала паіць яго з кружкі.

Кіпцік заўважыў Чапусе:

– Ды што яму ваду?.. Наўрад ці паможа.

– Акрыяў!– засвяцілася Чапушыха, завярцела галавой па баках, каб убачыць, як рэагуюць мужчыны. – Жыве!

Кіпцік паскроб за вухам:

– Я ж і гавару: ён, антыхрыст, і прыдурыцца можа.

– Будзе табе!– абурылася Чапушыха. – Будзе!

Амерыканец нарэшце расплюшчыў вочы, пэўны час здагадваўся, дзе ён, а калі ўбачыў Чапуху і Кіпціка, павесялеў, нават усміхнуўся куточкамі губ, з палёгкай уздыхнуў:

– Помню, па разоры клыпаў. І раптам – не паверыце!– неба загойдалася, загойдалася... На мяне чамусьці яно захацела абрынуцца. І што я такое яму зрабіў кепскае? Чапуха? Кіпцік? Хаця ж – кіно... Не, думаю, не атрымаецца, не выйдзе нумар. Брык у баразну. Лажыся, неба, на каго хочаш, толькі не на мяне. Дудкі. Смалы. Брык у баразну... І лістом гарбузным прыкрыўся, бы коўдрай. Не возьмеш нашага брата, неба. Дудкі. Смалы...

Кіпцік прыклаў далонь да лба Амерыканца, затым паглядзеў на Чапуху з Чапушыхай, паціснуў плячыма: нічога не магу зразумець. У Амерыканца ж папытаў:

– Землятрусу, выпадкова, не было на дварэ, пакуль мы ў прылазніку тапталіся?

Амерыканец пахітаў галавой: не было.

– Чапуха!– махнуў рукой Чапуха. – А я думаў сэрца прыхапіла, інфаркт, думаў.

– Цябе таксама можа жонка не корміць?– паглядзеў на Амерыканца Кіпцік.

– З сабой не раўняй,– заступілася Чапушыха. – Амерыканчыха свайго Амерыканца ўмее карміць.

– Корміць,– прашаптаў Амерыканец.

– Ад пераядання таксама неба можа на галаву зваліцца, – заўважыў Кіпцік. – А ў мяне, братка, пост. Да таго часу пост, пакуль курашчупа Груні не дастаўлю. У любым выглядзе. Жывым ці мёртвым.

– Я табе памагу, Кіпцік. Вось толькі ачуняю – і мы яго... – Амерыканец паспрабаваў сціснуць кулак: не зусім атрымалася.

– Паможаш, паможаш, – сказаў Кіпцік суцешна. – Давай, Чапуха, аднясём яго ў лазню.

У прылалазніку Чапушыха папыталася:

– Лягчэй табе, Амерыканец?

– Лягчэй. Тут во неба над галавой няма... і лягчэй. А калі ляжаў у баразне, то як толькі вочы расплюшчыў – кіно круціцца... апарат стракоча... кадры мільгацяць... страляюць... у атаку ідуць. Ура-а-а!

Чапуха безнадзейна махнуў рукой:

– Дыягназ ясны.

Уздыхнуў і Кіпцік:

– Хутчэй бы ўжо Мішка з таго курорту вярнуўся... А то можам не дажыць. А там адрапартаваліся б – і ўсе мукі нашы...

Амерыканец раптам устаў, патупаў на месцы, паматляў кашчавымі рукамі.

– Вытрымаеш лазню? – папытаў у яго Кіпцік.

– Ды чапуха!

– З вамі разам – вытрымаю. Адзін – не. Зноў упаду, ляснуся.

– Тады распранайся, – распарадзіўся Кіпцік. – Тут няма ні баразны, ні гарбузоўніку. А калі што – падтрымаем. Пайшлі, пайшлі, мужыкі, рыхтавацца да сустрэчы з Арынавічам.

І яны схаваліся ў лазні. Пераступіўшы парог, Амерыканец, бы між іншым, успомніў:

– І яшчэ, мужыкі, я сон бачыў… Бытта я ў неба камнем цаляў.

– Да неба камень не дакінеш, – памяркоўна зазначыў Кіпцік.

– А спрабаваў…

– Цуды бываюць толькі ў сне.

– А мне і сны не сняцца, – Чапуха лінуў з карца на камяні, і мужчыны, як па камандзе, прыгнуліся: пара заклубілася, бы з ланцуга сарвалася…

10

Пакуль мужчыны хвасталі сябе бярозавамі венікамі, жанчыны абмяркоўвалі важныя надзённыя пытанні, без якіх спыніцца, няйначай, жыццё на зямлі, бур'яном зарасце.

– А тады я і кажу свайму Чапусе, калі ўжо з пісьмамі такая гісторыя атрымалася: чытай далей, чытай! Толькі ты, Грунечка, пра гэта нікому. Хто ж знаў, што з пісьмамі такая канфузія выйдзе?

Груня прыкладала рукі да сэрца, бажылася:

– Што ты! Што ты! Каб я?!.

І зноў падстаўляла вуха:

– Ну-ну, і што ў тых пісьмах, цікава?

– Ён і чытае, і чытае… Доўгае пісьмо. І што ні слова – «люблю», «цалую», «не магу без цябе», «кідай свайго Слесара мурзатага, выходзь за мяне і будзеш жыць як каралева». А сына абяцаў усынавіць.

Груня пляснула ў ладкі:

– Ну і Клаўка!

– Ой, не кажы, – пахітала галавой Чапушыха.

– А ты паглядзі, заўваж калі-небудзь, як яна ходзіць. На ёй жа ўсё грае. І цела, і мацера. Круць-верць, верць-круць! Цьфу!

– А то я не бачыла, -- запярэчыла Чапушыха. – Бачыла, дзеўка. І не раз. Яна і ў горадзе, я так думаю, хвастом круціла. Там ёсць дзе развярнуцца. Ай-яй-яй!

Груня выказала меркаванне:

– Можа, і турнулі яе адтуль? Га?

– Хутчэй за ўсё, – кіўнула Чапушыха. – Там такіх дурняў, як у нас, няма. Ай-яй-яй! Тры разы перачытваў мой Чапуха пісьмо, круціў яго і так, і гэтак, а вось хто б мог напісаць – не разабраць. Ага, не разабраць. Замаскіраваўся нягоднік так, што галаву зломіш. «Люблю», «абдымаю», «цалую», «кідай свайго Слесара мурзатага»...

Груня ўсё яшчэ, здавалася, не магла прыйсці ў сябе ад пачутага:

– Што робіцца, людцы! Што робіцца! Слесар жа і хлопец спрытны, зарабляе, гавораць, больш за самаго старшыню. І прыгожы. А яна ж? Мымра! Вы на яе морду паглядзіце. Такая, як і ў мяне. Нічога асаблівага...

– Так, так, – ківала галавой Чапушыха. – І ты... і яна... чапуха, як сказаў бы мой Чапуха.

– Ой, не кажы, дзеўка!

– Яму і прэміі, яму і іншую ўсялякую трасцу!.. Работнік жа, скажы, што не? За ім можна жыць, як за сцяной...

– За каменнай, – апярэдзіла Груня.

– І гора не знаць, – пасля нядоўгага маўчання, выдыхнула Чапушыха. – А вось я за сваім што бачыла?

– А я? – схамянулася Груня. – Не сунься ў міліцыю – сам знайду таго супастата, таго нягодніка. Дзе цяпер нясушак тых браць? Сваіх жа аддаваць шкада, Маруська.

– Цэлы будзе Мішка, перажыве! – Чапушыха, паправіла пасмачку валасоў, што выбілася з-пад хусткі.

– Гора з гэтымі мужыкамі. Разарэнне.

Пагадзілася з Груняй і Чапушыха:

– Так, так, маладзіца. Ой, і гора. А на працы затрымаецца – усе вочы праглядзіш, чакаеш не дачакаешся.

– А мне, Маруська, думаеш не шкада свайго шалапута?– Груня абняла Чапушыху. – Яшчэ як шкада! Цяпер вось і ў гэтую гісторыю ўблытаўся. Хвалюецца, нервуецца, што з курамі вось так атрымалася. Ох і нервуеца, лайдак!..

Памаўчалі.

– Не корміш? – паглядзела на Груню Чапушыха.

– Два дні не пакарміла, дык ён і згубіў зусім апетыт. А цяпер знайсці не можа. Ведама ж, з каляі выбіўся.

– Я свайго кармлю... таксама з лыжкі. Як дзіця. Гэта за ўнука, гэта – за ўнучку, гэта – за татку твайго... гэта – за мамку... Во так і кармлю. Хапае і з іх, мужчын.

– Хапае, – Груня мацней прыціснула да сябе Чапушыху. – Ох і хапае. Калі яны ўжо з лазні той выпаўзуць?

– Няхай, няхай мыюцца, – памяркоўна сказала Чапушыха. – Ім трэба. А мы пачакаем. Міма хаты не пройдуць. Давай лепш квасу вып'ем і пласцінку паслухаем. У мяне гэтых пласцінак процьма. Валер перад арміяй панавёз.

– Дзе ён служыць, у якім родзе? – пацікавілася Груня.

– На Каўказе. А які род там – дык і сама не ведаю. У форме, у форме ходзіць. Салдат. Картка ж ёсць. Зараз пакажу. І аўтамат далі. Як і мой Чапуха, відаць, у прастой форме... ці не ў пяхоце, га?

Чапушыха ставіць пласцінку. Груня заказвае мелодыю:

– Прайграй, Маруська, з Талкуновай дзе. З Валюшай.

– Талкунову і я люблю, – падала голас Чапушыха. – Пра нас яна спявае.

Загучала песня «Бабуля». Жанчыны слухалі моўчкі, пакуль нарэшце Чапушыха не гукнула, схамянуўшыся:

– Груня! А нас жа мужыкі чакаюць! Нас! З квасам! Панеслі, панеслі квас ім. Панеслі. Вунь і Валюшына бабушка на спатканне... Давай і мы да сваіх.

Чапушыха зняла пласцінку, не даслухаўшы яе да канца, не пярэчыла і Груня, яна толькі ціха сказала, устаючы з лаўкі:

– Давай, Чапушыха, давай і мы.

У Чапушыхі засвяціліся вочы:

– А помніш, раней з мужыкамі разам мыліся? Мы і яны. Га? Дзівасы! І дзе наш сорам быў, Груня? А цяпер на маладых пальцам паказваем, калі цалуюцца на вуліцы.

– Прыемна ўспомніць, – шчасліва засвяціўся твар у Груні. – Ну што – на спатканне?

– На спатканне, на спатканне, дзеўка. Да міленькіх сваіх.

11

Давайце зазірнем у лазню, апярэдзім жанчын.

Кіпцік і Чапуха сякуць сябе венікамі, Амерыканец жа сядзіць на лаўцы, звесіўшы галаву.

– Чапуха, мужыкі! Адмыемся, і парадак!..

– Чапуха, – сказаў Кіпцік.

Амерыканец сумна прамовіў:

– Мне Мішка абяцаў прывезці з мора банан. Не чулі, што гэта такое, мужыкі?

Кіпцік зморшчыўся:

– Банан? Можа, бананы? Гэта... штаны такія. Мая меншая ходзіць. Калошы – як бутэлькі. Бомбы.

– Не, банан, – не пагадзіўся Амерыканец. – Штаны ж на дрэве вісець не будуць. А той банан, казаў, на дрэве расце.

– А мне апельсін памеўся прывезці, – успомніў Чапуха, злез з палка.

– А што ж гэта мне ён памеўся?-- напружыў памяць Кіпцік. – Мандарын? Ці не мандарын? Выплутала, браткі. Але таксама абяцаў нешта. Але ж як возьмеш цяпер тое, што прывязе?

– У якога сабакі вачэй пазычыш?– пагадзіўся Чапуха.

Амерыканец хіхікнуў:

– Шваргер і той збег.

– Бач, ажыў,– кіўнуў на Амерыканца Кіпцік і падаў венік Чапусе. – Пахвастай мяне, Чапуха. Сам, адчуваю, грэх да канца не выб'ю.

Чапуха ўзяў венік, памахаў ім – лёгенькі. Але нічога не сказаў пра венік, сказаў іншае:

– Давай, давай пахвастаю. А потым ты мяне. А разам, удвух, з двух ствалоў, як гавораць,– Амерыканца.

Амерыканец замахаў рукамі:

– Не-не-не! Я сам! Сам! Сам!.. І так млосна. Баюся варухнуцца.

Чапуха сёк Кіпціка венікам і пацяшаўся:

– А вось табе, шалапут стары, за вокны! А вось табе, абармот, за курэй! А вось табе, хуліган, за сабаку Швагра!

Пасядзелі трошкі, памаўчалі, і тады ўжо Кіпцік скарыстаў сваю магчымасць паздзеквацца з Чапухі:

– А гэта табе за газеты! А гэта... за пісьмы! А вось табе за падрыў Мішкавага аўтарытэту! Палучай! Атрымлівай!

– Хопіць, хопіць, хопіць,– Чапуха саслізнуў з палка. – Адразу лягчэй зрабілася. Амерыканец, давай тваё кіно венічкамі абляпаем, і ты, пянёк стары, адразу адчуеш, што да чаго. Га?

– Не,– матлянуў галавой Амерыканец. – Я сам. Але трошкі пазней.

Выпаўзлі ў прылазнік, куды неўзабаве зазірнуў Пачакай. А паколькі быў з чамаданчыкам, старыя зразумелі: зноў жонка вытурыла.

– Мыецеся, мужыкі?– папытаў Пачакай.

– Распранайся і давай да нас,– прапанаваў Кіпцік.

– Пачакаю,– сказаў Пачакай.

– Месца ёсць,– паведаміў Чапуха. – А, увогуле, Пачакай, ты мыцца прытупаў... ці чаго?

– Спаць,– шчыра прызнаўся Пачакай.

– Зноў Дуня прагнала?– пацікавіўся Кіпцік.

– Не Дуня, а Еўдакія,– удакладніў Пачакай. – За тое, дарэчы, вытурыла, што Дуняй назваў.

Чапуха хехекнуў:

– Нешта яна цябе шпурляе, бы па целявізару хлопцы той мяч нагамі?

– Пачакайце, мужыкі,– Пачакай нарэшце паставіў чамаданчык,– я за яе яшчэ вазьмуся.

– З панядзелка?– усміхнуўся Амерыканец.

– Бярыся, бярыся хутчэй,– параіў Кіпцік.

– Пачакае!– Пачакай сеў. – А ўсё ж, ёлкі-палкі, мне Еўдакію сваю спярша трэба было вось куды... у лазню, а тады весці ў ЗАГс. Эх, чорт! Позна. Позна! Вось тут бы яе праверыць, якой яна кандыцыі, якога сорту! Мужыкі – яны ўсе аднаго памолу, на адзін капыл яны.

Пакуль Пачакай скардзіўся-дакараў сябе, мужчыны адзін за адным нырнулі ў лазню, і ўжо адтуль Кіпцік падаў голас:

– Ты пра што гэта там, Пачакай?

– Пра Еўдакію сваю!– гучна паведаміў Пачакай.

– А-а-а!– крактануў Кіпцік, цярэбячы сябе венікам.

Хоць мала што чулі мужчыны, пра што ім баіў Пачакай, але ён на гэта не звяртаў увагі:

– Мазгоў у нас, мужыкоў, мала. Дзе знаёмяцца? У рэстаране, каб ён прахам пайшоў!.. А ты яе ў лазню прывядзі спярша, адмый, а тады глянь, што яна з сябе ўяўляе, баба твая. Ёсць рэзон? А як жа. Вось я і гавару, што я Еўдакію сваю ў рэстаране на вакзале прыдбаў. Ну. Занесла мяне неяк туды. Выпілі, значыць...

– Выпілі?– перапытаў Амерыканец, ікнуў.

– Выпілі. І добра.

– Шанцуе ж людзям!– зноў мовіў Амерыканец.

– Пачакай, Амерыканец!– нахмурыўся Пачакай. – Выпілі і сядзім. А тут «Белы ветразь» спяваюць. Душа, адчуваю, у разнос вось-вось пойдзе. Ніколі ж, людзі, у жыцці не скакаў, а тут, у рэстаране, не ўсядзеў, не ўбярогся. Ды як урэзаў пад аркестр! Лепш бы пачакаў... Усе «Белы ветразь» скачуць, а я «Польку». І тут мяне пад руку бярэ... Хто, вы думаеце?

На гэты раз падаў голас Кіпцік:

– Міліцыянер?

– Памыляешся,– спярша ўсміхнуўся, а потым зноў звёў бровы Пачакай. – І тут мяне пад руку бярэ... Еўдакія. Прыгажуня, браткі! Што на карціне. Вось тут я і даў трэшчыну... па швах распоўзся. Улюбіўся, мужыкі. Чуеце? Хочаце верце, хочаце не. Ваша дзела. А не,

каб яе спярша ў гэтую лазню... Намазаная была. Як сцяна патынкавая. Цьфу! Гарадская яна і ёсць гарадская. Ледзь што – кувырк у ложак, а ты круціся, што вавёрка ў коле. І парасят кармі, і курэй, і карову даіць трэба самому.

– І Дуню,– пацвяліўся з-за дзвярэй Кіпцік.

– Што – Еўдакію?– перапытаў Пачакай. – Карміць? Альбо даіць? Гэта – па-першае. А, па-другое, не Дуню, а Еўдакію Макараўну. А цяпер вось спаць у лазню прыйшоў. Мыйцеся, мыйцеся, мужыкі. Я пачакаю вас на двары.

На двары Пачакай сутыкнуўся нос у нос з участковым Сазурам.

– Штрафнікі там? – першай справай пацікавіўся участковы.

– Мыюцца, калі пра Чапуху пытаецеся,– прапусціў у прылазнік Сазуру Пачакай.

– Мы мыемся!– убачыўшы ўчастковага ў маленькую шыбачку, што святлела пад самым дахам, паведаміў Кіпцік.

Неўзабаве Сазура прыклаў вуха да дзвярэй:

– Што ж так, мужыкі? Мяне, участковага, рашылі без кавалка хлеба пакінуць? Чаму маўчыцё? Кіпцік! Ты што, язык пракаўтнуў?

– Чую, чую, Паўлавіч. Кіпцік чуе.

– Што з тваімі курамі?– дапытваўся, не адрываючы вуха ад дзвярэй, Сазура.

– Ні курэй, ні таго, хто іх замардаваў,– не зусім ахвотна прызнаўся Кіпцік.

– Як думаеш, і шыбкі выбіў адзін і той жа чалавек?

– Больш скажу: і Швагра ён пусціў па белым свеце. Думаю – адзін. Для нашай Гуты хопіць і аднаго, каб нашкодзіць.

Сазура спытаў больш строга:

– Чаму не заяўляў?

Кіпцік прызнаўся:

– Не хацеў турбаваць цябе, Паўлавіч.

– Раз не пажадаў мяне турбаваць – шклі вокны, здабывай курэй і сабаку. Чапуха тут?

– Тут!– пачуўся голас Чапухі.

– А што ж ты падвёў Арынавіча?

– Чапуха. Выкруцімся.

– Хоць і не па маёй лініі быццам твая паштарская сумка, але мушу сказаць: у нашай Гуце павінен быць усюды і ва ўсім узорны парадак.

– Больш не буду!– паабяцаў Чапуха.

– Глядзі ў мяне!– пагразіў пальцам на дзверы Сазура. – Ну, і апошні – Амерыканец. Амерыканец, чуеш?

– Больш не буду!

Сазура кашлянуў у кулак, і сказаў, не хаваючы задавальнення ад сваёй работы:

– Гэта добра, што вы мяне зразумелі. Вылезеце з лазні – падпішаце пратакол допыту. А пакуль мыйцеся. Я з Пачакаем пачакаю.

12

Вось і наступіў той дзень, калі павінен быў вярнуцца з курорту Мішка. Дзень сонечны, цёплы. Чаго не скажаш пра герояў нашай заблытанай гісторыі. Яны тапталіся па двары Арынавіча, стараючыся не сустракацца позіркамі. А вось апрануты былі мужчыны ў свае лепшыя ўборы. Бы на вяселле сабраліся і чакаюць, калі паклічуць іх да святочнага стала.

– А можа ўсё ж трэба было б для храбрасці, га?– Амерыканец спачувальна паглядзеў на Чапуху і Кіпціка. – Трафім? Ягор?

Тыя не адрэагавалі – як і не чулі.

Амерыканец развёў рукамі, патрос імі, прывёў больш важныя аргументы:

– Ногі трымцяць. Лыткі. Страшна. Га, мужыкі?

– Чапуха!

– Ну чаго ты калоцішся? – плюнуў Кіпцік. – Будзь, Амерыканец, мужыком!

– Смелы, бачу, – хмыкнуў Амерыканец. – Добра што хоць вокны зашклілі.

– А курэй – ні жывых, ні мёртвых! – Кіпцік зноў плюнуў.

Чапуха паскроб за вухам:

– Спецыяльна давялося ў горад ехаць, у кіёсках газеты купляў.

– Дык чаго табе тады баяцца? – узняў вочы на Чапуху Амерыканец. – Выкруціўся, можна сказаць.

– Як сказаць,– не пагадзіўся Чапуха. – За газеты не хвалююся. За пісьмы калі толькі. Іх у кіёску не купіш. Чытаў, чытаў, хлусіць не буду… выведваў людскія тайны. Цяпер яны мне сняцца, тайны тыя. Давялося. Каб жа хоць неяк знайсці, каму пісьмы прызначаліся. Хіба ж я вінаваты?

Пахадзілі пэўны час моўчкі. Амерыканец паглядзеў на гадзіннік, а тады зноў затрымаў свой позірк на штрафніках:

– Можа для храбрасці, мужыкі?..

Кіпцік не адразу паставіў прапанову пад сумненне:

– А раптам падвядзе нас віно? А раптам расплачамся? І будзем слёзы ліць, як бабры?

– Чапуха!– сказаў Чапуха.

– Зразумеў, Амерыканец?

Амерыканец кіўнуў. Кіпцік працягваў:

– А мы павінны цвёрда стаяць, як на допыце!

Мужчыны раз-пораз падыходзяць да акна, заглядваюць у шыбы, быццам у люстэрка, папраўляюць гальштукі, прылізваюць валасы. Ад няма чаго рабіць, Кіпцік паглядзеў на Чапуху:

– Загадчыца пошты дала ў косці?

– Вымову ў вуснай форме. А Мішку, сказала, запіша.

– Тады і табе рана храбрыцца,– зрабіў выснову Кіпцік.

– Чапуха!

– А я сам сабе водпуск прадаставіў,– паспрабаваў усміхнуцца Амерыканец, але ў яго не надта атрымалася. – І Клаўцы. А што? План выканалі. За адзін вечар. А далей Арынавіч няхай сам варушыцца. Пойдуць, пойдуць людзі ў кіно. Гэта мне яны помсцяць за рэкламу. А Мішку не будуць. Пры чым тут ён? Яго віны, я так разумею, няма. Ён на курорце быў... Прагаладаюцца – і пойдуць...

– Мне здаецца, мужыкі, што курэй нехта напаіў,– спыніўся Кіпцік, калупнуў сандалетам зямлю.

Амерыканец тыцнуўся ў спіну Кіпціка тварам:

– А што – і яны п’юць?

Кіпцік здзіўлена паглядзеў на Амерыканца:

– П’юць, раз глотка ёсць. А я не даў ачуняць ім, згроб у кучу і ў канцы гародчыка прыкапаў. Яны праспаліся і пабеглі...

Чапуха засмяяўся:

– Да крамы... апахмяляцца, а там іх мужыкі на закуску скарысталі.

– А Швагер тады дзе? – усміхнуўшыся, сур’ёзна спытаўся Амерыканец. – Сабака не п’е.

Кіпцік хехекнуў:

– Які сабака не п’е? Швагер? Швагер – тым больш. Толькі налівай. Ты не бачыў, як ён кожную бутэльку пасля мяне аблізваў.

– Сабакам больш шанцуе іншы раз, чым чалавеку,– зморшчыўся Амерыканец. – З вамі кашы не згатуеш. Баязліўцы вы. На фронце чаркі давалі. Таму і перамаглі.

Кіпцік стаяў на сваім:

– Не, не, Амерыканец. Не ўгаворвай. Я, ведаеш, не зломак – люблю шахнуць. Але не час. Здадзім пасты, а тады і развяжамся.

– Калі дажывём... – махнуў рукой Амерыканец.

– Чапуха!

Кіпцік усё часцей пачаў нервова паглядаць на веснічкі:

– Да аўтобуса засталося мала. Дзе там той Слесар? Гармонік, гармонік патрэбны! – Выглянуў з веснічак. –А яго, паразіта, і повідам не відаць. Чапуха, ты прывык са сваёй паштарскай торбай па вуліцы шастаць – скокні, прывядзі Слесара. А то ён нам усю працэдуру сустрэчы Мішкі сапсуе, змажа. Скокні, Чапуха!

– Ды чапуха! Будзе, будзе і Слесар. З Клаўкай. І кветкі яны прынясуць. Ці схадзіць?

– Табе ж пра тое і талдоню,– раздражнёна сказаў Кіпцік.

– Чакайце,– кіўнуў Чапуха і знік.

Кіпцік з Амерыканцам па-ранейшаму нервова ходзяць па двары. Потым па чарзе адвярнуліся за вугал: нервы. Амерыканец на хаду зашпіліў гузік – там, за вуглом, не хапіла часу. Падцягнуў штаны і Кіпцік.

– А Чапуха не збяжыць? Не драпане?– аблізаў губы Амерыканец. – Нешта ён дужа ахвотна пагадзіўся за Слесарам схадзіць.

– Драпане – будзе адзін адчытвацца. Жанчыны, жанчыны нашы ідуць!– павесялеў Кіпцік. – Спакойна, Амерыканец. Падтрымка ёсць.

– З букетамі,– павесялеў і Амерыканец, але не ўбачыўшы сярод жанок сваёй кабеты, ссунуў, як гэта ўмеў ён рабіць, бровы. – А маёй паненкі няма. Так і не ўгаварыў. Ну і характар! Я цябе, кажа, кіно не прымушала круціць. Сам напрасіўся, кіншчык нягеглы, сам адказ і трымай.

Як толькі крокі жанчын пачуліся побач з брамай, старыя адбеглі, бы па камандзе, на цэнтр двара, выструніліся – стаялі плячо да пляча. Першай паказалася Груня. І адразу ж зрабіла заўвагу:

– Вы хоць бы двор падмялі!

Кіпцік торкнуў пальцам у неба:

– А вось гэты пункт, іціттваю, і не пралугледзілі!.

Амерыканец неяк вінавата развёў рукамі. Жанчыны ўзялі мётлы, але мужчыны перахапілі. Падмятаюць.

– Касцюмы, касцюмы паберажыце!– перасцерагла Чапушыха, але ж адразу плюнула. – Фу, а чагой-та я раскамандавалася? Майго ж Чапухі тут няма.

– Ды не пыліце ж вы!– замахала рукамі Груня. – Невукі! Ой,мужыкі, і што вы ўмееце рабіць?

– Ціха, бабы!– напомніў пра сябе Кіпцік. – Ціха! Гляньце лепш, пацікаўцеся, ці не відаць аўтобуса на гары з Мішкам?

Чапушыха пакорліва патупала да брамы, неўзабаве паведаміла:

– Няма. Чапуха мой чыкільгае, а яго, аўтобуса, не бачу.

З'явіўся Чапуха.

– Чапуха,– сказаў ён. – Мог бы і не рваць абутак. Збіраюцца. Слесар гармонік працірае. Клаўка перад люстэркам чапурыцца.

– Ды тая ўмее круціцца перад люстэркам!– папракнула Груня.

– Дакруціцца! – паабяцала Чапушыха.

Кіпцік жа насіўся па двары, не знаходзячы, здавалася, месца. Нарэшце спыніўся, дазволіў сказаць сабе голасам камандзіра:

– Бабы! Вы ж, ядры вашу, не ўдарце ў гразь! Будзьце, як артысткі! Самыя што ні ёсць народныя! Станюты і Мардзюковы нашы!.. Толькі я адрапартую... Груня, чуеш?

Груня, прыкметна рысуючыся, кіўнула:

– Я цябе чую, Кіпцік, калі ты і спіш.

– Толькі я адрапартую – уручай, Груня, букет. Не дай Мішку апамятацца. Чапушыха!

– А ты пасля свайго Чапухі... А што ж ты, Амерыканец, будзеш уручаць Мішку? Хіба што мятлу?

– Не ведаю,– абыякава пацісnуў плычыма Амерыканец.

– Хавайце, хавайце мётлы!– загадала Груня. – Каб падумаў курортнік, што тут у яго заўсёды быў такі парадак.

Чапуха першы ўбачыў, што на горцы паказаўся пукаты і марудны, бы чарапаха, аўтобус.

– Едзе, каб яго!.. – дрыготкім голасам паведаміў ён.– Ч... чапуха! Ці першы раз?..

Амерыканец, падалося, згубіў голас. Кіпцік патупаў чамусьці ў хляўчук, а калі паказаўся адтуль, замахаў на ўсіх:

– Разбегліся, разбегліся па сваіх месцах! Хуценька! Стаім там, дзе і дамаўляліся.

Яго паслухаліся.

– З бабай... з бабай ідзе,– Кіпцік ускараскаўся на паркан, паведаміў. – Мётлы пахавалі? Пахавалі. Чапуха, а туш? Туш дзе? Я каго за Слесарам пасылаў?

Чапуха пацісnуў плячыма:

– Абяцаў, паразіт!

– Заб'ю-ю-ю!– прыгразіў Чапусе Кіпцік.

Аднак не паспеў – прарыпелі, неяк таямніча і ўрачыста, веснічкі, і на двары паказаўся Арынавіч. За ім жанчына, такая ж худоба, як і

ён сам. У руках – сумкі, чамаданы, мала таго, дык і на плячах розныя рамяні, на шыі ў Мішкі. Кіпцік перш- наперш звярнуў увагу, што маладзічка прыгожая. Арынавіч, падалося яму, разгубіўся: ён глядзеў на землякоў, і нічога не мог зразумець. Лыпнуў вачыма, працёр іх, папярэдне паставіўшы сумкі на зямлю:

–Ці памыліўся? Дзе я? Я, прабачце, дадому трапіў? Ці... куды? – а ўбачыўшы знаёмыя твары, засвяціўся радасцю. – Прывітанне, землякі!

Аднак яму ніхто не адказаў – усе глядзелі на Кіпціка, шыкалі на яго, бо той парушыў сцэнарый сустрэчы курортніка. Нарэшце Кіпцік схамянуўся, зрабіў крок наперад, за ім рвануў было і Чапуха, але своечасова апамятаўся.

– Таварыш Арынавіч! Дакладваю...– прахрыпеў Кіпцік, аднак яго згроб у бярэмя Арынавіч, патрос, памуляў:– Ды што ты мне будзеш тут дакладваць?!

Амерыканец потайкам перахрысціўся:

– Прапалі...

– Чапуха, хоць і прападзём!

– Першага Кіпціка задушыць... – сказаў і адвярнуўся Амерыканец.

Мішка ж трос Кіпціка:

– Дзядзька Трафім! Дзядзька! Ты паглядзі, каго я прывёз? Людзі! Ды вы толькі гляньце!

У гэты час на падворку з’явіліся Слесар і Клаўка, аднак на іх мала хто звярнуў увагу.

Арынавіч працягваў сваё:

– Знаёмцеся: Марыя! Жонка мая! Марыя, знаёмся-я!

Марыя падала далонь Кіпціку:

– Марыя.

– Кіпцік,– сказаў і ікнуў Кіпцік. – Па-нашаму. Ага.

– Вельмі прыемна.

– Амерыканец,– пастараўся ўсміхнуцца Амерыканец, а ўбачыўшы разгубленасць на твары жанчыны, удакладніў. – Праўда, праўда: Амерыканец.

Арынавіч, які ішоў ззаду за Марыяй, шапнуў:

– Амерыканец, Амерыканец.

– Зразумела. Марыя.

– Чапуха!

– А я Чапушыха!

– Так, так: Чапуха і Чапушыха,– зноў дазволіў сказаць сабе Арынавіч.

– Марыя,– жанчына падала руку Слесару.

– Слесар,– усміхнуўся Слесар і паказаў на жонку. – А гэта мая Клаўдзія Сцяпанаўна. Палавіна, так сказаць.

– Вельмі прыемна,– Марыя затрымала на Клаўцы доўгі і зацікаўлены позірк, а руку не падала.

Пакуль Марыя і Груня знаёміліся, Кіпцік паспеў шапнуць Амерыканцу:

– Цаца! Як бусліва ходзіць па балоце. Доўга яна тут не патупае. Не тая глеба. Бачылі і не такіх...

Амерыканец кіўнуў: а я ж хіба не пра тое?

– Ну, і як вам мая жонка – спадабалася? – абвёў зацікаўленым і шчаслівым позіркам усіх сваіх землякоў Арынавіч. – Га?

– Чапу...– толькі гэта і паспеў сказаць Чапуха, але своечасова апомніўся і спытаў мякка і памяркоўна. – Гэта што там, на курорце, усім баб даюць?

– Усім, дзядзька Чапуха, усім!– пацвердзіў Арынавіч.

– Тады трэба ехаць,– засмяяўся Чапуха.

І адразу ж атрымаў па карку. Ад Чапушыхі.

– А што?– увабраў галаву ў плечы Чапуха. – І з'езджу. Ды чапуха-а!

– Едзь, але можаш зусім не вяртацца, – хмыкнула Чапушыха і лёгенька адштурхнула ад сябе Чапуху.

– От смала з дзёгцем!– хехекнуў Чапуха і ўшчыкнуў жонку. – Пажартаваць нельга,га ! Куды мне ўжо, Чапусе, на той курорт? Там у цане, бачу, такія вось арлы, як Мішка Арынавіч. Ці не так?

– Так, дзядзька, так,– пагадзіўся Арынавіч і мякка апусціўся на лаўку. –Думаў, адзін буду век дажываць. Думаў, не буду жаніцца, бо нікога не мог палюбіць... па-сапраўднаму, так, каб сэрца прыняло. А вось і сустрэліся... Дзякуй курорту!– Арынавіч ухапіў Марыю за руку, якая падвярнулася якраз, прыцягнуў да сябе, моцна і соладка пацалаваў пад воплескі землякоў і іх ухвальны гул. – І што самае цікавае, землякі, пялёнак не трэба купляць.

– Міша!– абурылася Марыя, сарамліва апусціла галаву.

Арынавіч узняўся, зноў прыгарнуў Марыю да сябе:

– Ты ведаеш, галуба, куды прыехала?

– У вёску... – няпэўна прамовіла жанчына.

– Правільна! Таму давай станавіся на цэнтр двара, Марыя, не саромейся, тут у нас усе свае, і расказвай, і апавядай. Пра сябе. Пра

сваё жыццё. Начысціню. Праўду гавары. Колькі разоў замужам была... І так далей. Каб людзі не дадумвалі, у здагадках не плавалі – хто ты, адкуль. А то так дадумаюць, што ў рай не прапусцяць. Га?

Кіпцік жа, пакуль гаварыў Арынавіч, торкаў угору руку, а калі ўтварылася паўза, нясмела падаў голас:

– А можа б... а можа б ты нас спярша выслухаў, Мішка?

Амерыканец тузануў Кіпціка за рукаў: ша, не лезь на ражон, бачыш, яму не да нас. Яшчэ больш катэгарычным быў Арынавіч:

– Слухаем толькі Марыю,– і ён вывеў жонку на цэнтр двара, пакінуў там яе адну.

Жанчына, сарамліва, вінавата ўсміхаючыся – маўляў, ну і Мішка, ну і артыст, блазан, ціха ўсё ж прамовіла:

– А што мне вам сказаць, людзі? Будзем жыць цяпер разам. Мішку я пакахала. З першага, як кажуць, погляду. Добры ён, Мішка. Ласкавы. Уважлівы. І ў каханні палкі. Я не першы раз замужам... Другі. Ад першага шлюбу ў мяне дачка. Клаўка.

– Цяпер у нас ужо тры Клаўкі будзе! – засмяялася Груня.

Амерыканец шаптаў Кіпціку:

– А ты гаварыў – цаца. Наша яна баба. Наша.

– Дачка ж хоць вялікая?– падала голас і Чапушыха.

– Восьмы клас закончыла,– прыветна ўсміхнулася Чапушысе Марыя. – У спартыўным лагеры пакуль. Сама я з райцэнтра. З нашага райцэнтра.

– І трэба было на той курорт у Крым ехаць, каб сваю ж бабу адтуль прывезці?– зарагатаў Чапуха. – Адным словам – чапуха, жыць будзем, землякі!

– Запрашай, Марыя, гасцей у хату!– распарадзіўся шчаслівы Арынавіч.

– Шкада, што матка яго, Арына, не дажыла да гэтага часу,– праслязілася Чапушыха. – Добра было б ёй, Арыне. А так нам гэтае шчасце дасталося...

Марыя запрасіла гасцей у хату, а потым спахапілася:

– Ой, Мішка, ды я і сама яшчэ не была ў тваёй хаце. Можа, туды і гасцей сорамна запрашаць?

Кіпцік мітусіўся перад Марыяй, біў сябе ў грудзі:

– Там – парадак! Ажур! Чысціня! Вядзі і не бойся, маладзіца! Я ж даглядаў вашае гняздзечка! Я ж!..

Арынавіч падхапіў Марыю на рукі, галёкаючы:

– Будзеш! Будзеш! Будзеш, Марыя, у маёй хаце!

За імі зайшлі і ўсе астатнія. Акрамя Клаўкі. Яна – трэба было бачыць!– зняла з нагі чаравік, бразнула яго вобзем, а тады ўсміхнулася, хоць і ўсмешка ёй далася нялёгка, скрыжавала рукі на грудзях, звярнулася да гэтага вось двара, да паркана, да людзей, што не чулі яе, да ўсёй, здавалася, вёскі:

– Даруйце мне, людзі... Дзядзька Кіпцік, даруй мне... За курэй... За сабаку Швагра... за вокны... Гэта ўсё я... я... Я ж кахала Мішку, а ён, мабыць, не заўважаў... Хм! І білецікі прадаваць пабегла, дурніца!.. А чым мой Слесар горшы? І праўда? Нічым! А яшчэ, можа, і лепшы! Калі ўбачыла, што Мішка прэцца з бабай нейкай, ледзьве не расплакалася. А цяпер вось смяяцца хочацца. Ад радасці. Даўно б Мішку жаніцца пара... даўно б. Тады і не падманвала б сябе, што кахаю яго. А куры ў мяне па двары ходзяць. Ды як падраслі... два вядры яек нанеслі. І Сабака Швагер жывы. Дзіўныя мы ўсё ж, жанчыны... Даказаць хацелася... Адпомсціць... А што з гэтага атрымалася? Бачыце ж! Толькі вось шыбак шкада. Нічога, наступны раз, калі Мішка з Марыяй паедуць на курорт, я сама папрашуся прыглядаць за іх хатай... за курамі... за Шваграм. Хіба мужыкі здагадаюцца, чаго іншы раз хочам мы, жанчыны? Ніколі!

Клаўка пабегла ў хату, дзе ўжо расцягваў мяхі гармоніка яе Слесар і рагатаў Чапуха.

За стол не пойдзем. Няхай яны там без нас весяляцца. Не будзем перашкаджаць. Чую, як Кіпцік нарэшце ўсю сваю энергію, страсць, бяду і радасць уклаў у адно слова:

– Горка-а-а!

Чым і паставіў кропку ў гэтай вясёлай гісторыі.

*1984, 1998 г.г.*

# Апавяданні

## РАБ ЧМЯЛЯ

Антон Падканаўскі папрасіў сваіх хатніх, каб яму перш-наперш прынеслі ў бальнічную палату пушачку, што ляжыць у самым канцы шафкі стала. Там – чмель. «Патрымаць яго хочацца, у вочы яму, д'яблу, глянуць». Спярша ён, чмель, ляжаў у белай старэнькай матчынай хустцы, быццам похапкам завязанай на лёгенькі вузельчык...

Прабач, чмель, у цябе лёс такі... Прабач...

Было гэта яшчэ задоўга да вайны, калі Падканаўскі пражыў на гэтым свеце ўсяго нічога. Потым, калі ён пачаў курыць, успомніў пра чмяля і запіхнуў яго, сухога, лёгенькага і ўсё яшчэ па-ранейшаму прыгожага – з жоўтымі падпалінамі пад крылцамі – у карабок з-пад запалак: ляжы тут, шаноўны. Яшчэ пазней, калі ў вясковую краму завезлі лампасье ў бляшанках, то, апаражніўшы іх, дзеці шамацелі медзякамі і іншай дробнай рэштай, а дарослыя прысобілі тыя бляшанкі, ці падушачкі, як называлі іх некаторыя, пад самасад, ніткі, іголкі і гузікі. Антон тады ўжо рабіў у калгасе, пераклаў у адну з іх усё таго чмяля: а цяпер паляжы тут... тут табе больш прасторна.

Пакуль жыла мама, чмель увесь час ляжаў у адным месцы – у сундуку, дзе была спрасавана вопратка і розныя прасціradлы. Мамы даўно няма, невядома куды падзеўся і сундук, аднак Антон Падканаўскі, невысокага росту і шчуплы дзядок, добра помніць, як яна, загнаўшы чмяля ў куточак ваконнай рамы, радавалася: «Трымай яго!.. Лаві!.. Ага, папаўся, тут!..». А тады, завязаўшы чмяля ў белую старэнькую хустачку, шчасліва ўсміхаючыся, гаварыла сыну: «Запомні, Антон: калі першага чмяля, што ўвесну заляціць, засушыць і трымаць усё жыццё ў хаце, то шчасце не абміне цябе, будзеш багатым і шчаслівым. На, сам схавай гэты вузельчык. Ён твой...».

Тады ж, як толькі хлопчык заснуў, яму прысніўся сон: быццам трапіў ён у чмялінае царства. Рудавата-жоўтыя чмялі безупынна і назойліва гулі ў садах і на падворках, цяжка, натруджана, нібы перагружаныя ўласнай вагой ці ежай, лёталі над галовамі людзей і хатніх жывёлін, над усёй зялёна-мройнай зямлёй. Велічна і ўладарна, як гаспадары.

Якраз у той час над вёскай з'явіліся бамбардзіроўшчыкі: спярша варожыя, потым – нашыя. З'явіліся – і зніклі. А чмялі засталіся. І хто-ніхто з вяскоўцаў падумаў, што чмялі гэтыя, каб ім тлумна зрабілася,

наклікалі бяду. Ніколі ж раней столькі іх не было, а тут як з сяўні хто насыпаў, ды шырока размахнуўся – вунь іх, паразітаў, колькі!.. Хоць ты загадай дзятве, каб тыя палавілі іх ды знішчылі. Толькі ці справяцца ж? Процьма іх, процьма!..

Бацька Аўгей сказаў:

– Няпрошаныя яны, таму трэба іх знішчаць. А то, бач ты, пераўтварыліся ў самалёты… Паставіць на сваё месца іх трэба…

І вухнула першая бомба!..

На гэтым месцы і прачнуўся малы Антон. Аднак ён добра помніў, што прачнуўся пасля таго, як пагрозліва выгукнуў у бок таты: «Свайго чмяля я не дам знішчаць!».

Чмяля, як і прасіў, Падканаўскаму прынеслі. Паставілі пушачку на вечка тумбачкі, трохі пагаманілі ды й пайшлі: спраў, кажуць, дома багата. Некалі. А стары ляжаў на спіне, талопіў вочы ў столь і збіраўся ўстаць, а як зрабіць гэта — не ведаў зусім: у апошні час сілы амаль пакінулі яго, цела зрабілася непаслухмяным, перастаў хадзіць нават у сталоўку. Ежу прыносяць у палату.

А сёння яму край трэба ўстаць. Нядзеля, усе лёгка хворыя і гарадскія адпрасіліся дамоў, і ён адзін у палаце. Самы час пагаварыць з чмялём адзін на адзін.

І Падканаўскі прыўзнімаецца, прыўзнімаецца… моршчыцца ад болю… Мацюгнуўся нат, хаця ў гэтым плане ён чалавек вытрыманы. Мацюгнуўся і, абапершыся на локаць, перакуліўся на бок, звесіў ногі… Як ні сіліўся, аднак стаць на іх не атрымалася: добра, рашыў, будзе і так. Сядзець – не ляжаць.

– Ну, дзе ты, чмель? – дрыжачай рукой Падканаўскі ўзяў пушачку, расчыніў, дрыготкімі пальцамі разгарнуў паперку, у якой быў сухі – страшна падумаць, як толькі збярогся! – чмель: без паперкі ён бы, вядома, распаўся на пыл, коўзаючыся ў металічнай схованцы. – Гэта я, Антон. З-пад Канавы. Пазнаў? Не прыкідвайся, што не… Усё ты ведаеш, усё ты помніш… Бо – святы… А цяпер паслухай мяне, пагаварыць з табой мушу! – Даўкі камяк, што падступіўся к горлу, ён ніяк не мог праглынуць, таму ўтварылася паўза; заадно выцер і вільгаць на вачах: – Так сказаць!… Нешта ты, чмель, не выканаў свайго прызначэння… Не, ты не падумай, што я цалкам паклаўся на цябе: чмель мне грошай заробіць і кашы нагатуе, прымець у парцію і цяпер вось пакладзе пенсію, каб я мог не толькі крэкнуць-кашлянуць. Каб жа! Стараўся жыць, высільваўся, спадзеючыся і на цябе ж, вядома, а атрымаўся з усяго гэтага круглы пшык, сказаць па праўдзе. Ты паглядзі, паглядзі на мяне, на каго я падобны?.. А пачыналася ж

усё так хораша... Відаць, там і ты падмог... А пазней не дужа стараўся, капрызіў. Што факт, тое факт. Як бы там ні было, а на цябе я моцна пакрыўджаны, чмель. Моцна-а!.. Не апраўдаў ты матчыных надзей, дарэмна яна тады злавіла цябе, а я насіўся з карабкамі-пушачкамі, як з пісанай торбай, і ўсё жыццё, дай памяць, быў тваім рабом. Дарэмна. І ў армію браў, нат да яфрэйтара не даслужыўся, а вось гаўптвахту не мінуў...

Нехта адчыніў дзверы ў палату і тут жа хуценька іх прычыніў. Той нехта, пэўна ж, ведаў, што ў пакойчыку павінен быць толькі адзін чалавек – хворы Падканаўскі – і быццам яму няма з кім размаўляць, а ён, гляньце, разахвоціўся – гамоніць і гамоніць без супыну. А калі той нехта ўбачыў у пакоі аднаго старога, хуценька і прычыніў дзверы: з ім усё зразумела!.. Сядзіць і гамоніць сам з сабой. У яго гады бывае. Лепш не чапаць!..

Падканаўскі ж апавядаў далей чмялю пра сваё жыццё, заблытанае і няпростае. Сцежкі-дарожкі былі пройдзены-праеханы зусім не так, як бачылася і хацелася б, і ў тых прарэхах, на думку старога, быў павінен і чмель. Ушчуваў і спавядаўся перад чмялём, таму што больш не было перад кім. А яму так хацелася гэтага! І, мабыць, тут спалучыліся, зліліся ў адно два жаданні.

– А тады ж, адразу пасля вайны, калі з яе пачалі прыходзіць, пілі за перамогу, і мне налілі ў карэц. Пракаўтнуў, і так спадабалася, і так палюбіў я гэтае дзела!.. Але ж я не ведаў, што мне зусім піць нельга... Гэны, іці іх маць!.. У дзеда ўдаўся, а ён таксама супраціўлення алкаголю не меў... і ў мяне такі арганізм – без педалёў на тормаз: трапіла кропля ў рот – яшчэ давай, яшчэ... пакуль ноч не наступіць. Спаў і сніў толькі гарэлку... Ні баб, як некаторыя, а гарэлку... Яна і стала маёй бядой. Тым часам шлюбам з суседкай, Вольгай, пабраўся, яна ўжо вывучылася на настаўніцу, у Абідачах дзетак вучыла. Сышліся, пачалі жыць. А тады я грошы ў яе ўкраў, каб выпіць, яна агледзела і сказала, каб убіраўся... А ўжо сынок быў у нас, Васька... брат мой на фронце загінуў, пад Ленінградам, то каб помніць яго... у гонар брата назвалі... Вось так, чмель!.. А ты кажаш!.. Да бабкі ў Зімніцу мяне матка звадзіла, пасля яе шаптання пайшла светлая паласа: на шафёра вывучыўся, палутарку далі... у асноўным салому звозіў з поля і за хлебам ездзіў у Журавічы... і Ваську браў іншы раз з сабой... Ён дужа крошкі хлебныя любіў падбіраць, што заставаліся ў кузаве на блясе. Саграбе іх у кучку, і ў рот, і ў рот... А сам смяецца, ты б пабачыў!.. Тут Вольга малайчына: і са старымі маімі, і са мной добра вяла сябе... як нічога і не адбылося... А тады бяда ў мяне

здарылася: пасадзілі. На сем год. Кола для калгаснай палутаркі я перакінуў у тых жа Журавічах, каля хлебнага завода, з чужой машыны ў сваю... Так хацелася мне, каб мелася ў мяне запаснае кола!... А што атрымалася? Пасадзілі... Судзілі ў Журавічах. Вольга Ваську на суд прывяла, а калі мяне ў «варанок» вялі, сынок плакаў – шкадаваў... родная ж кроў, што не кажы. Так памерла апошняя надзея зноў сысціся з Вольгай, а я любіў яе, хоць яна была і з рабаціннем на твары... А для мяне самая прыгожая: вочы гарэлі, як у цыганкі. І душа добрая. Як адчуваў, так і атрымалася: Вольга замуж выйшла – за настаўніка, якога прыслалі ў школу. Без рукі быў, праўда, але ж і ў яе Васька... Баланс. З турмы вярнуўся раней, трапіў пад амністыю, збіраўся ехаць куды ў шахты, аднак Васька не адпусціў: адзінае светлае, што ў мяне мелася на той час – хоць і на адлегласці... Так хоць калі ўбачу яго, на калені пасаджу... Цяжка мне было тады, ох і цяжка!.. Завёў новую сям'ю – жыць не атрымалася, падала на развод баба, адсудзіла гумно ў бацькі... Таму я, калі і жаніўся, больш не распіваўся. А жаніўся часта. Пакуль Марусю не стрэў, тая нарадзіла мне дзвюх дачок і сына... Пайшлі дзеці і ў Вольгі... Тут такая катавасія, братка чмель, атрымалася... Ваську запісалі ў школе на Трафімава прозвішча, новага, значыць, мужа... Настаўнікі ж: хацелі – і запісалі... А калі сын школу заканчваў, восем класаў, і яму трэба было выпісваць атэстат, то кінуліся: ён жа, Васька, на маё прозвішча запісаны... без маёй згоды не могуць памяняць прозвішча... Яму няма шаснаццаці... І да мяне, значыць: напішы, Антон, што не супраць. Так Ваську лепей будзе – ты ж сядзеў... Праклятая гарэлка, праклятае кола!.. Ну, калі толькі дзеля Ваські. Здаўся, хоць спярша і натапырваўся: нізашто!... А Васька потым стаў пісьменнікам, яго часта па радыё чытаюць, а калі аб'яўляюць, то называюць ягонае прозвішча, а я-то ведаю, якое яно ў яго сапраўднае... І хоць плач мне, шчыра скажу... Магло б праславіцца наша прозвішча, Падканаўскія мы, а праславілася іншае, і калі перадаюць, што Васька нарадзіўся ў нашай вёсцы, то багата хто, асабліва з суседніх вёсак, нічога не могуць зразумець: там жа, у Гуце, такіх і прозвішчаў няма быццам. Адкуль там узяўся пісьменнік?.. Ад каго ён там нарадзіўся?..

Адхіліўся я. Прабач, чмель. Пра дзяцей. Я пачаў сваіх дзяцей называць такімі імёнамі, якімі называла сваіх і Вольга. Па дзецях, праўда, яна мяне перагнала, бо ў яе адразу двойня нарадзілася. Ну і дзякаваць Богу!..

Капіталу, чмель, як ты ведаеш, я не нажыў. І як нажывеш, з пугай хадзіўшы за калгасным статкам? Эх, ды што там!..

А Васька прыязджаў разоў колькі. З жонкай, з сынамі. Жонка ў яго прыгожая – аднекуль з Урала ці што. Шапка ў Ваські была, як у Брэжнева. Кнігу падпісаў. Даў грошай на віно і так бутэльку белай прывёз. Да яго ў горад, праўда, я ніводнага разу не выбіраўся – не запрашаў. Калі ж у яго два бацькі, то ўжо той хай ездзіць, прозвішча якога носіць. Па мне так. Аліменты на Ваську, бо забыўся сказаць, з мяне не бралі. А з чаго ж было браць, з чаго, чмель, ты вось скажы мне? З працаднёў? Яны тады, настаўнікі, добра жылі. На маё не замахваліся. Дык вось у цябе, чмель, і папытаць карціць: дзе яно ляжала, тое багацце? Дзе яно было схавана, тое шчасце, на якое так спадзяваўся? Не скажаш? Маўчыш, так-так!..

Я ж, чмель, жыў і верыў: заўтра зажыву лепш, вось пабачыце!.. Надыходзіла заўтра, ну і што з таго? А ты кажаш!.. Чую, суцяшаеш: дык Васька ж у цябе… навідавоку ўвесь час… Гэта, можа, і адзіная радасць… Але ж і ў мяне павінна было б, калі верыць матцы, быць сваё, асабістае жыццё!.. Багатае і шчаслівае!.. Радаснае!..

Не атрымалася.

Хацеў я пажурыць цябе, чмель, прачуханку адпісаць, але выпусціў дух.

І тут, як сам жа бачыш, не атрымалася…

* * *

Праз тыдзень Антон Падканаўскі адышоў у іншы свет. На вясковых могілках было нялюдна, пахавалі яго ціха. Нехта паўшэптам прыгадаў, што з усімі, каму быў павінен, ён разлічыўся. З усіх ягоных дзяцей не было толькі Васіля – яму нават не паведамілі: палічылі, што бацька той, хто корміць і поіць.

Калі вясковыя далакопы ўзялі прыхінутае да бярозы вечка, каб накрыць ёю нябожчыка, падала, нібы страпянуўшыся, голас суседка Петушыха:

– Пачакайце! Я ж і забылася! Выплутала!..

І яна дастала з кішэні жакеціка пушачку, упіхнула збоку ў труну, перакрыжавала сябе шчопцем з трох пальцаў:

— Даруй, Госпадзі!.. Прасіў… калі паміраў… Можа, там яму хоць пашэнціць, Антону Аўгеевічу?..

**ВУЛІЦА БАБУШКІНА**

У яго прозвішча сапраўды такое – Бабушкін. Толькі ў адрозненне ад рэвалюцыянера, ён быў не Іванам Васільевічам, а Пятром Міхайлавічам, сярод жа сяброў і блізкіх яму людзей меў яшчэ і мянушку – Паштар. Адкуль яна, гэтая мянушка, узялася, спытаецеся? Усё вельмі проста: у свой час, калі Бабушкін жыў у вёсцы, ён працаваў колькі месяцаў паштальёнам, пра што асабліва любіць апавядаць кожнаму стрэчнаму. І хоць ужо даўно гарадскі жыхар, аднак тая мянушка моцна прыліпла да яго: Паштар і Паштар. А Бабушкін і не злуе. “А хто я, калі ні ён? Першая прафесія – яна, мяркуй так, з табой назаўсёды. Прыемна ўспомніць: во жыццё было – газеты і пісьмы разносіць! Лягчэй лёгкага!..”

Сёння Бабушкін ужо на пенсіі, працаваў да гэтага на заводзе электрыкам, і таму ад няма чаго рабіць іншы раз проста ходзіць па двары шырокім крокам, заклаўшы рукі за спіну. Нібы які начальнік, прыдзірліва акідвае, бывае, позіркам тэрыторыю, як толькі можна ахапіць яе зрокам. Здараецца, яму прапаноўваюць сыграць у складчыну, і тады мужчыны распіваюць у альтанцы пляшку-другую віна, гамоняць пра жыццё.

– Бабушкін, я сёння на тваёй вуліцы быў,– паглядзеў неяк на Пятра Міхайлавіча сусед Ігнатавіч.– Там мой кум хату купіў. Гляджу, і сапраўды напісана на блясе, што да сцяны хаты прыбіта: вуліца імя Бабушкіна. Ты што, можа і не ведаў, што тваім імем назвалі вуліцу?

Пятро Міхайлавіч ляніва адбіваецца:

– Ды чуў, чуў! Як не чуў!.. Радыё, нягож, слухаю таксама!..

– А не прызнаецца, мужыкі! – акідваў позіркам мужчын Ігнатавіч, а сам жа, відаць было, шчыра радаваўся, што да такога даўмеўся розыгрышу. – А чаму, думаеце, маўчыць, не прызнаецца?

– Вядомая справа!..

– Каб не праставіцца!..

– Хвалю за знаходлівасць! – падсумоўваў гаворку Ігнатавіч.– Дык што будзем рабіць, Бабушкін? А? Чаму маўчыш, скнара? Крама, дарэчы, вунь побач, вунь!.. Яна чакае цябе!..

Пасмяяліся, пажартавалі, на тым і згарнулася размова. Ужо крыху пазней Бабушкін вырашыў усё ж з’езіць на вуліцу Бабушкіна, і хоць гэта няблізка, за Сажом недзе ў прыватным сектары, – адважыўся. Тут, прынамсі, такая агаворачка: калі б ён зноў не выпіў шклянку віна, мажліва, яго і не пацягнула б на тую вуліцу. А так ён і сапраўды не інакш паверыў, што яна названа іменна ў гонар яго,

Пятра Міхайлавіча, і чалавек палічыў ганебным пражыць жыццё і не пабываць на вуліцы, якой ніхто іншы, а ён ахвяраваў сваё прозвішча.

І не трымайце мяне, і не адгаворвайце!

“Вуліца Бабушкіна”,– абвясціў бадзёры голас вадзіцеля аўтобуса.

– О, мая, мая вуліца! – ажывіўся Бабушкін і важна паглядзеў на пасажыраў, якія на яго не звярталі аніякай, вядома ж, увагі, што нават крыху абурыла, таму на гэты раз сказаў больш гучна: – Мая вуліца!.. Бабушкіна!.. Пятра Міхайлавіча!.. – І маладцавата скокнуў на зямлю.

Аўтобус паехаў далей, а Бабушкін застаўся на прыпынку. Стаяў і дзівіўся па баках з выглядам начальніка высокага рангу, які быццам прыехаў на важны аб’ект, а яго ніхто там не сустракае. Непарадак, адным словам. Але ж не стаяць так увесь час. Бабушкін змерыў вуліцу ўздоўж і папярок, а тады распрасцёр рукі, радасна і ўзнёсла прамовіў:

– Дык вось ты якая, мая родная! Ну, прывітанне, ці што? Бачу, няважныя ў цябе справы. Чым дакажу? А тым, што багата хат, а не дамоў паабапал цябе – з двух бакоў – расмясцілася. А дзе катэджы? Асабнякі? Ну, тры-чатыры я бачу. І гэта на маёй вуліцы?! Даруй, аднак! Гэта не ты, вуліца, вінавата, а – гарадскія ўлады. Яны, яны, скажу табе шчыра, недагледзелі, прамахнуліся. Маглі б даць імя Бабушкіна і вуліцы ў новым мікрараёне? Маглі б! Каля лядовага Палацу, напрыклад. Ідуць на хакей грамадой балельшчыкі і чытаюць: о, дык гэта ж вуліца Бабушкіна! І ім лягчэй ішлося б. Я перакананы ў тым. Для Мазурава, для Чычэрына і ім падобных знайшліся вуліцы ў новым мікрараёне, а мне, атрымліваецца, – шыш. Добра, што хоць дарогу адрамантавалі, калдобін няма… Месцы для прыпынку аўтобуса абсталяваны нічога, казаць не буду… Бач ты іх, на “Цэнтраліце” адлілі прыпынкі. Пачакай, дык тут жа, па маёй вуліцы, акрамя аўтобусаў, нічога больш і не ходзіць? Ну, так. А дзе тралейбусы? Хто скажа? Дзе, дзе тралейбусы?

Настрой у Бабушкіна зусім сапсаваўся, калі ён даведаўся, што на ягонай вуліцы няма нават ніводнай кропкі, дзе можна было б пасядзець з куфлем піва ці з яшчэ якім больш моцным напоем.

– Канец свету!..

Бабушкін сеў на лаву і пашкадаваў, што нічога з сабой не ўзяў. Як жа – прыехаў у госці, і з голымі рукамі. А не, каб пачаставаць малечу, што вунь забаўляецца каля дарогі. Ён бы насыпаў ім цукерак у жмені і сказаў:”Гэта вам ад таго дзядзькі, маляўкі, імем якога названая вуліца, на якой вы жывяце і цяпер вось гойсаеце… ці

гуляеце, так сказаць, у свой бадмінтон і ў мячыка. Ах, вы не верыце? Вам што, пашпарт паказаць? То глядзіце, глядзіце!..” Бабушкін нават ўявіў, як дзеці прыліплі да карткі ў ягоным пашпарце, а больш дарослыя, якія ўжо ўмеюць гэта рабіць, чытаюць: Ба-буш-кін!.. Што, атрымалі?!..

Тым часам пад’ехаў чарговы рэйсавы аўтобус, з яго выйшаў усяго адзін чалавек – мужчына сярэдніх гадоў, шчуплы, у светлай сарочцы з доўгімі рукавамі і ў чорнай бейсболцы, картуз якой быў над вухам, і ён шыбаваў да Бабушкіна. Паколькі чалавек той ішоў няўпэўнена, Пятро Міхайлавіч падняўся, падаў каманду:

– Стаяць!

Чалавек знерухомеў, але не мог зразумець, навошта і каму прадназначаўся гэты загад, ён паказваў на сябе пальцам і не зводзіў вачэй з Бабушкіна:

– Вы… мне?

– Табе, табе!

– У чым, уласна кажучы, справа?

– Як ідзеш ты па маёй вуліцы? Якім крокам? – Бабушкін наблізіўся да разгубіўшагася мужчыны.– Ты дзе знаходзішся?

– У чым, уласна кажучы, справа? – зноў паўтарыў пытанне чалавек з няўпэўненай хадою .– Ты хто? Не міліцыянер, звычаем?..

Бабушкін паднёс, як і марыў ён хвілінамі раней, паглядаючы на дзяцей, пашпарт да твару незнаёмца, загадаў:

– Чытай! Прозвішча, прозвішча чытай.

– Ба-буш-кін, – паслухмяна прачытў той, ікнуў. – А я, можа, Дзедушкін? Х-хі-хі-хі-і!..

– Ты мне тут жарты кінь, – параіў Пятро Міхайлавіч.– А цяпер ідзі сюды.– Ён падвёў яго да хаты, на сцяне якой была прымацавана шыльдачка з назвай вуліцы.– А цяпер чытай тут…

Незнаёмец зноў ікнуў, працёр вочы рукавом, не адразу прачытаў:

– Вуліца імя Бабушкіна. – Ён вытрымаў паўзу, паглядзеў на Бабушкіна, на шыльду, усміхнуўся.– Не, тут нешта не так…

– Усё так, дарагі мой: ты стаіш на маёй вуліцы.

– Ёшкіну маць!..

– А ты як думаў, зямляк? На вуліцы Бабушкіна!..

Незнаёмец похапкам механічна выцер далонь правай рукі аб парткі, падаў яе Пятру Міхайлавічу:

– Будзем знаёмы: Тузікаў Павел Ягоравіч. Тысяча дзевяцьсот…

– Не трэба, далей можаш не гаварыць, – перапыніў яго Бабушкін.– Так што раблю табе строгае папярэджанне: больш у такім выглядзе, як сёння, каб я цябе на сваёй вуліцы не бачыў.

– Як піць даць!.

– Я двойчы не паўтараю. Я, можа, маю характар. Ды маю, маю, канешне ж. Калі б я быў слабаком, сардэлькай, які б д'ябал назваў маім імем вуліцу,а?

– Не кажы!.. Хто б назваў?.. Дык як, кажаш, цябе завуць? А, прабач, прабач: Бабушкін. Дык я ж на тваёй вуліцы, аказваецца, і жыву. А не ведаў! Слова даю – не ведаў! Жыву і жыву сабе спакойна. А тут, высвятляецца, ёсць, існуе недзе і чалавек, на вуліцы якога я асеў? Во ён, перад табой. Далёка хадзіць не трэба. Дай я цябе пацалую?

Бабушкін адвёў рукі Тузікава, якія той наставіў на яго растапыранымі пальцамі, падалей ад сябе:

– Калі б я з усімі цалаваўся, то ведаеш, што са мною было б, а?

– Дзівосы, аднак!..– не мог утаймавацца Тузікаў.– Вунь мой дом. Хадзем, госцем будзеш!

– Паглядзець, як людзі жывуць на маёй вуліцы, трэба. Каб мець уяўленне. Ну, тады пайшлі!..

– Жонка якраз на другой змене. А то і яна б парадавалася.

Неўзабаве яны сядзелі за сталом у пярэдняй, Бабушкін гартаў альбом, а Тузікаў паказваў пальцам, хто зафіксаваны на картцы. Перад гэтым ён не пабаяўся пакінуць госця аднаго ў хаце – а чаго баяцца, калі гэта вунь хто! – і збегаў у краму, прынёс пляшку гарэлкі. Паколькі грошай у яго не мелася, то іх вымеркаваў Бабушкін. "Канешне ж, імем бедняка вуліцу не назавуць,– лагодна думаў Тузікаў, шыбуючы ў краму і з крамы. – Во пашэнціла дык пашэнціла! Хоць раз!.."

Калі выпілі па чарцы, Тузікаў пацікавіўся, якая ў Бабушкіна самая любімая песня. Той спярша задумаўся, для чаго нават зморшчыў лоб, а тады адказаў, бы адсек:

– Я без гармоні не спяваю!

– А калі балалайка?

– Так сабе… Але не пагрэбую, калі будзе хоць які акампанімент.

– У суседа вазьму! – паабяцаў Тузікаў і вышмыгнуў з хаты.

Пакуль ён недзе бегаў, Бабушкін паглядзеў у люстэрка, што вісела на сцяне побач са сталом, зрабіў важны, сур'ёзны выгляд, і сам сабе сказаў: "А што, можа яно так і ёсць… Не ведаю, хто той Бабушкін, аднак жа, па вялікаму рыштунку калі браць, то якая

розніца – хто ён, той Бабушкін? Можа, гэты вуліца ўсіх Бабушкіных, якія жывуць у белым свеце? У Маскве, у Піцеры, у тым жа нашым Гомелі? У Амерыцы, калі ўжо на тое пайшло, а? Наце вам, Бабушкіны, вуліцу! Не, Пятро Міхайлавіч, ты нарадзіўся ў шчаслівай сарочцы. А сусед, Ігнатавіч, так і заявіў: я, Пятро, быў на тваёй вуліцы. А ты, Ігнатавіч, пабудзь на сваёй. Што, адхапіў? Дзе яна, твая вуліца? У якім балоце? То-та ж! І не кірхаць мне! Дзе, дзе вы бачылі вуліцу імя Філіна? Імя Сцяпана Ігнатавіча Філіна? А мая – вось яна, родная! Не бяда, што пакуль не ходзяць тралейбусы. Пусцім!”

– Каго “пусцім”? – паказаўся на парозе з балалайкай Тузікаў.

– Гэта я пра сваю вуліцу. Пусцім, кажу, і тралейбусы.

– Пусцім! Абавязкова! З аркестрам! – трасянуў у паветры балайкай Тузікаў.– Гуляй, горад!

Бабушкін паправіў гаспадара хаты:

– Гуляй Вуліца Бабушкіна. Прашу не абагульняць. Дарэчы, і песню напішам. Я папрашу самага вядомага кампазітара…

– Лучанка можна, – прапанаваў Тузікаў.– Ён для нафтаправода “Дружба”ого які гімн даў. Яго, яго возьмем за кампазітара.

– А словы самі складзем, – сказаў Бабушкін. – Так, Павел?

– Як піць даць!

– Ляснем! Хай усе чуюць!..

–Хто лепей, чым мы, ведае матэрыял? Я тут жыву. Так? Так. Вунь на тым агародзе… пад грушай… мая пупавіна закапана, можа быць. Ці недзе побач. А ты, Бабушкін, пра сваю вуліцу дык каб не ведаў, якія словы прыдумаць? Х-хе-хе-хе!..

– Знойдзем. Гэта ўсё другасна, браце.

– Пачакай, а што – пярвічна? – Тузікаў, як часта рабіў да гэтага, зноў працёр рукавом кашулі вочы: яны ў яго чамусьці слязіліся.

– Выпіць трэба, –прызнаўся Бабушкін.

– Дык у чым справа?

– Налівай, – прамовіў Пятро Міхайлавіч і, падобна на тое, амаль што пусціў слязу. Яшчэ трошкі, і твар будзе мокры.

– Што, што з табой, брат Вуліца? – насцярожыўся Тузікаў.

– Таму і плачу, што надта добрыя людзі жывуць на маёй вуліцы. Ад шчасця.

– Тут ты на ўсё сто. Угадаў. Лепшых людзей няма ва ўсім белым свеце.

– І гэта ўсё дзякуючы маёй вуліцы! Яна, як магніт, сабрала вас у кучу. Ты верыш мне, Павел?

– Як піць даць!

– А яшчэ плачу, што я рэдка бываю на сваёй вуліцы сам. Заняты вельмі, дзяржаўных спраў хапае. А хочаш, назусім пераеду сюды? Суседзямі будзем – хочаш? Вазьму, і пераеду? Хто забароніць? О-го-го!..

– Дай пяць!

Парукаваліся.

– А гэта, дарэчы, ідэя. Галава яшчэ keміць.

– Па табе ж відаць, што не дурань.

– Хоць і мянушка ў мяне – Паштар.

– Во як, а!

– Не звяртай увагі. Пасля школы газеты і пісьмы разносіў. Мяне паштарская сумка і вывела ў людзі.

– Веру!

– Аднаму начальніку прынёс каверт, а ён і давай цікавіцца, хто я і што я. І пасылае мяне вучыцца на эле… Цьфу ты! На элеватар начальнікам. А потым і пайшло-паехала. І закруцілася!..

– І пайшло - паехала – во як!.. Ведай нашых, аднак!.. А Зінка на другой змене, змяя!.. А ў нас – свята!.. З’ела, Зінка? Атрымала?

– Я, Бабушкін, павінен жыць на вуліцы Бабушкіна. І толькі так. Усё, вырашана: заўтра пераязджаю. Прадаю свае апартаменты і купляю тут дом. Ёсць дом для мяне?

– Знойдзем!.. Хе, праблема!..

Выпілі за пераезд, заспявалі. Песня не пайшла, таму пасядзелі пэўны час моўчкі. Бабушкін нарэшце ўздыхнуў, пахітаў галавой, паклаў руку на плячо гаспадару хаты.

– Я б дабіўся, каб і тваім імем назвалі якую-небудзь вуліцу ў нашым горадзе. Вунь колькі іх, шматпавярховак, узводзяць!..

– Дабіся, друг! Век не забуду! Можна, я цябе пацалую?

– Потым. Не ўсё адразу.

– Дык у чым жа справа?

– Не думай, у мяне, дзе трэба, свае людзі маюцца. А як ты думаў! Ого людзі!.. Аднак жа твоё прозвішча – Тузікаў – да вуліцы ніяк не падыходзіць. Ну, уяві сабе: вісіць шыльда, а на ёй вялікімі літарамі напісана: “Вуліца імя Тузікава”? Хто такі? Адкуль? Ды і ці захочуць людзі жыць на той вуліцы, якая носць такую сабачую назву? Падумай, Тузікаў!..

– Хочаш, я жончына прозвішча вазьму, Бабушкін? У яе прыгожае прозвішча – Пацяруха. Як, а?

– Тады гэта будзе жончына вуліца. А баб да такіх сур’ёзных спраў дапускаць нельга, а то наламаюць дроў.

– Наламаюць! Як піць даць!.. Дык а як жа быць, шаноўны, а? Сверб нейкі ў мяне з’явіўся, хоць ты што яму!.. Не ўпусціць бы свайго шанцу.

– Будзем думаць. Для чаго ў нас галовы? Усё, думаем!..

Тузікаў сядзеў з надта сумным тварам. Бабушкін супакойваў яго, а потым заснуў. Прачнуўся ён ранкам на канапе. Узняўся, агледзеўся. Не адразу ўспомніў, дзе знаходзіцца, а калі разабраўся, што да чаго, ціхенечка прычыніў за сабой дзверы і патупаў на аўтобусны прыпынак, баючыся, што прачнецца Тузікаў і кінецца ўслед за ім…

Ён стараўся не ўспамінаць учарашняе. Але як не ўспомніш, калі стаіш на вуліцы Бабушкіна – з іншай вуліцы ў горад ніяк не заедзеш: аўтобусы ходзяць толькі па ёй…

## П Е Р А К У Р

На двары было сцюдзёна, шалеў вецер, ён шастаў з кутка ў кут, віхурыў тугой і пякучай снежнай крупкай, шпурляў ёю раз-пораз у шыбіны, нібы зайдросціў, блазнюк, што там, у хаце, весяляцца людзі, пьюць-ядуць, а яму, бачце вы, нуль увагі. Атрымлівайце. Наце. І калі выбраліся з-за стала мужчыны, каб перакурыць, то доўга яны на падворку не затрымаліся, хоць і былі разагрэтыя пасля выпітага: калатнеча. Тады яны збіліся ніяк у тугі ком у сенцах-катушку. Не павярнуцца. Затое цёпла. Тут і ёлка стаяла да пэўнага часу. Самая сапраўдная – з цацкамі. Каб яе не патрывожылі, тым больш не пабілі па неасцярожнасці цацкі, нехта з мужчын вынес лясную прыгажуню на двор, акуратна утыркнуў у гурбу снегу. З Новым годам!

Да Новага году было яшчэ некалькі дзён, і Шурмялёвы рашылі паспець справіць для сваёй дачкі Наташы вяселле, бо Новы год – свята сямейнае, і ладзіць вяселле, тым больш запрашаць людзей на апошні дзень снежня, палічылі, неяк няёмка, той ці іншы можа нават і адмовіцца, знойдзе прычыну, а хацелася б, каб прыйшоў багата хто з радні ды і проста з тых землякоў, з якімі яны ў сяброўстве, у блізкіх таварыскіх адносінах. Вяселле ж!.. Ды і дачка у Шурмялёвых адна. Так што трэба правесці гэтае ўрачыстае мерапрыемства па вышэйшаму класу, як сказаў сам бацька нявесты калгасны механізатар Ягор Сцяпанавіч.

Накурылі ў сенцах – хоць сякеру вешай. Шурмяліха ледзьве прадралася ў кладоўку за закуссю, памахала перад ротам далоняй, бо не прадыхнуць, траха скасавурылася на курыльшчыкаў, потым, змірыўшыся, паківала толькі галавой, незадаволеная ўбачаным, аднак заўвагі мужчынам не зрабіла: яно і праўда калі ж, перакур ёсць перакур, на холад людзей не выганіш. «Няхай ужо!..»

Шаршэнь, званецкі прымак, шчупленькі і з пісклявым голасам, як гэта і бывала амаль што на кожнай гулянцы, расказваў пра Калыму, дзе яму выпала крыху пажыць у маладыя гады. Ён, можа, і не стаў бы зноў вяртацца туды, у тую непраходную тайгу, але разам з усімі выйшаў перакурыць і важны госць – дырэктар вядомага прадпрыемства, пра якога нярэдка перадаюць па радыё, а, бывае, пакажуць і па тэлевізары, – брат Ягора Сцяпанавіча, і таму, панове, даруйце: ён яшчэ не чуў, а вы, калі і прысыціліся, то сцерпіце. Не вялікія начальнікі перад госцем з горада.

– Каб умеў пісаць, я б кніжку саздаў, – смачна зацягнуўся Шаршэнь, выпусціў воблака густога дыму.– Пра сваю біяграфію... Яй-

богу, і гаварыць няма чаго. Столькі хвактаў!.. Чуйце ж вы, землячкі... ведайце, забадай яго камар: пасля таго, як нас прывезлі па камсамольскай пуцёўцы, значыць... у райкоме камсамола мне яе сам першы сакратар уручаў... хваліцца не буду, прозвішча не запомніў... Во, здаецца, Усаў ці Ушаў... адно з двух... А куды нас прывезлі? Падумаць толькі – на Калыму! На Калыму, забадай цябе камар!.. Хіба ж я, Іван Шаршэнь, які далей райцэнтра да гэтага носа не паказваў, мог паверыць, што мне прадаставяць такую магчымасць – свету на свае вочы пабачыць? А то ж! Хоць на поўныя грудзі удыхай той прастор! – Ён паглядзеў на госця з горада, падаў руку.– Я тут у прымых, атрымліваецца, што так... Іван.

Госць назваўся Мікалаем Сцяпанавічам.

– Вельмі прыемна. А ў мяне ж у кішэні пуцёўка...

Тыя з мужчын, што раней ужо слухалі Шаршня, адыходзілі крыху ў бок, іншыя тэпалі ў хату, дзе гуло вяселле, а Іван працягваў:

– Пасялілі ў шчытавы домік, далі валёнкі, кажух... Зіма ж акурат!.. Ого там зіма!.. У нас гэта вунь на дварэ – Крым, чыстай вады Крым у параўнанні!.. Мяне прызначаюць, тым часам, брыгадзірам. Я спярша аднекваўся, супраціўляўся: ды што я ўмею? А начальнік, сам татарын, Мансураў, і заяўляе: навучышся, хлопец ты, бачу, вушлы, авалодаеш працэсам. Рукі, праўда, ў мяне раслі адтуль, адкуль і трэба. Хваліцца не буду. Я і тут, у калгасе, хоць на ферму даглядчыкам... ды хоць кім!..

Нехта з мужчын выглянуў у сенцы, запрасіў да стала.

– Мікалай Сцяпанавіч, значыць? – прытрымаў таго за рукаў Шаршэнь.

– Так, так.

– Будзе наступны перакур, я давяду сваю логіку пра Калыму да канца. Дай пяць!..

Мікалай Сцяпанавіч пагадзіўся з такой прапановай – падаў руку.

Чарговы перакур доўга не затрымаўся. Язык у Івана прыкметна пацяжэў.

– На чым гэта я спыніўся? Ага! Я, значыць, там старшым быў... Ложак мне паказалі ўнізе, астатнім, – каму дзе. Закон такі: калі ты старшы, у цябе прэімушчаства ва ўсім... І нават у сталовай. Кармілі, праўда, добра. Не тое, што на суседняй зоне... Ну, лес жа валілі!.. Не пустыя шчы халявай ад чобатаў хлябалі, забадай яго камар!.. А браткі падабраліся – ну, хоць куды!..

Калі Шаршэнь вымавіў слова «зона», Мікалай Сцяпанавіч зрабіў выгляд, што ён нічога такога, што разанула б ягоны слых, быццам і не

пачуў, хоць і здагадаўся, вядома ж, па якой камсамольскай пуцёўцы ездзіў на тую Калыму гэты просты і непасрэдны, па ўсяму відаць, чалавек.

А Шаршэнь працягваў:

– А там мне стрэўся зямляк, капітан, ён з Канавы, Канаву вы ведаеце. Над усімі назіральнікамі галоўны. Што мяне і выратавала. У яго, ага, пытаюць,– Іван заліўся сваім звонкім і тонкім смехам.– Ты дзе нарадзіўся, таварыш капітан? А ён, паслухай толькі, Сцяпанавіч, адказвае: у Канаве. Гучыць, га? Забадай яго камар!.. Тады з лесу канавец і перавёў мяне грубкі паліць. Дзела знаёмае!.. Дровы, праўда, хлусіць не буду, большай часткай сырыя былі... ты іх і так, і гэтак, а яны кіпяць, курадымяць.. Дрэнь у тайзе дровы, цьфу!.. Вось нашыя!.. Табе, можа, цікава, як трапіў я туды, у тую праклятую зону, гары яна гарам?

– Ад сумы, кажуць, і ад турмы...– Мікалай Сцяпанавіч хацеў крыху падлагодзіць гэтаму шчупленькаму Івану.

– Не заракайся. Правільна. Дай пяць!..

– Ды жонка, першая, язва яшчэ тая, запёрла! Хочаш знаць, за што?

– Не.

– Першы раз сустракаю такога чалавека, які не хоча знаць!.. Адным словам, пайшлі з табой вып’ем, Мікалай Сцяпанавіч. Мікалай? Правільна?

– Мікалай. Правільна.

– У мяне яшчэ памяць – уго! Усім памяцям памяць! А на што мне я яе было асабліва траціць? Кніжак не чытаю. Газетаў таксама... Не ўмею. Не здатны. Але адно табе скажу, бо целявізар гляджу на законных аснаваннях. Чуў, што ў Эстоніі з маім цёзкам сёлета зрабілі?

Мікалай Сцяпанавіч зразумеў, што хоча сказаць апавядальнік, хоць і здзівіўся: а чаму – цёзка? Ага, калі помнік салдату, значыць, абавязкова Івану? Ну, хай будзе і так. Таму проста адказаў:

– Чуў.

–Яшчэ б! А Львоў што вытварае? А Польшча? А ў той Польшчы, між іншым, недзе мой бацька ляжыць... там закапаны... Каб ён жыў, я б, можа, і паказаў бы дулю Калыме!.. На!.. На!... На!.. А мне вось так і хочацца у якое-небудзь целявідзянне крыкнуць: а што, калі яшчэ якая матка пазбавіцца розуму і народзіць такога самага Гітлера... Адольфа, забадай яго камар!.. Эх, паглядзеў бы я тады, як бы ён іх па чарзе ўсіх да рук прыбраў... Што б яны без мяне, без Івана, зрабілі?

Без майго бацькі? Як бы адбіліся? Хто б заступіўся? Мы ж усіх іх сабой захінулі!.. А цяпер, бачце толькі, раты разяўляюць!.. Сёння я б на іх абарону не стаў!.. Перад сваёй хатай рукі б растапырыў: не дам, маё!... А там самі разбірайцеся, калі такія разумнікі!.. Ці пусцяць мяне ў целявізар, як думаеш, Мікалай Сцяпанавіч? Я б сказаў усё гэта, а можа яшчэ і лепш, што і табе, усяму свету!.. Так бы шандарахнуў, забадай яго камар!.. Хай чуюць!.. На ўсіх канцінентах!..

Мікалай Сцяпанавіч нічога не паспеў адказаць. У сенцах з'явілася жонка Шаршня, яна натрэніравана падхапіла яго пад руку, і адарвала ад палітыкі адным словам: «Перакур!» І павяла мужа не туды, дзе працягвалася застолле, а дадому... На развітанне Шаршэнь намерваўся яшчэ нешта сказаць свайму ўважліваму слухачу, але жонка затуліла яму рот гарачай далоняй.

– Я табе пакажу Гітлера, халера такая!..

Чарговы перакур без пісклявага Шаршнёвага голасу не меў ужо такога эфекту, больш быў падобны на звычайную вясковую гаворку. Без Івана зрабілася сумна і Мікалаю Сцяпанавічу. Мужчыны, якія выпілі трошкі больш, чым трэба, спрабавалі закурыць нават прама за сталамі, адтуль іх гналі на двор, і мала хто з іх затрымліваўся ў сенцах. Разагрэліся. Вось цяпер разгрэліся!.. Прэч, вецер, з дарогі!.. Прывітанне, ёлачка!..

Аднак і ў сенцах усё ж тоўпіліся мужчыны – на гэты раз амаль адны некурыльшчыкі. У іх перакур меў іншае значэнне – трэба даць адпачыць целу, бо не так проста сядзець за сталом увесь вечар. Гаманілі. Хведар Хацкоў успомніў, як служыў ён у арміі на Каўказе. Хваліў Каўказ. Добра там, казаў. Міхась Цярэшка расказаў, што неяк да яго прыязджаў зяць, сустрэчу адзначылі. І быццам бы пакінулі на раніцу бутэльку гарэлкі. А прачнуліся – няма. Куды падзелася? Хто б мог схаваць? Ты, маладзіца? А маладзіца, цётка вострая на язык, за словам у кішэню не палезла, адпрэчыла:

– Дзе гэта вы бачылі сабаку з каўбасой на шыі? Схаваць яны захацелі. А дурнейшага нічога прыдумаць не маглі, што бацька, што зяць?

Пасмяяліся. У Міці Буханава – сваё:

– Пра касілку сваю ўспомніў... Новенькую купіў жа. Каля двара на ноч ставіў. Раніцай дачка пытае: «Тата, а дзе твая касілка?» Як – дзе? Стаіць. «Не, там няма». Гляджу: праўда, няма. Укралі. Нашы не маглі, вядома. Не схаваеш. Аб'ехаў усе навакольныя вёскі. Чатыры гады шукаў. Знайшоў! Мужыкі, каму трэба касілка? Бясплатна аддам. Пакуль знайшоў, усе свае сілы патраціў, раструсіў, мусіць...

Ды і жыццё за гэты час іншым стала.Змянілася. Карову ж не трымаю. Ведаеце. Сам сена не ем. Можа, і не трэба было шукаць? Няхай бы хлопцы тыя касілі сабе ды людзям на задароўе. Хоць – не: за шкоду, за любую шкоду ўсё роўна трэба па руках біць...

Адкуль і ўзяўся Іван Шаршэнь. Тут як тут.

– А я ўжо выспаўся! – цёр ён вочы дрыготкімі пальцамі.– А мая кімарыць. Сапе ў дзве дзірачкі. Глянуў на гадзіннік: ого, мне ж на хверму неўзабаве!.. А ў галаве, самі разумееце, мутарна. Дык вы што, усё яшчэ тут?

– А дзе нам быць? – павярнуўся тварам да Шаршня Хведар Хацкоў.– Вяселле ж!..

Шаршэнь пагадзіўся:

– І я сваёй кажу: вяселле ж, а ты мяне забрала адтуль. Як жа, кажу, там адны мужыкі без мяне будуць? «Спі!» Чулі? Гэта мне: спі! А я, можа, не хачу. Нядрэмнасць у мяне. – Ён пакруціў галавой па баках. – Дык што, і Мікалая Сцяпанавіча, брата Ягоркавага, таксама няма тут?

– Чаму ж, тут ён, – кіўнуў на ўваходныя дзверы Міця Буханаў.– У хаце.

– У хаце? У хаце – не лічыцца. Іш, схаваўся! А чаму не там, дзе ўсе? Непарадак! Перакур – ён для ўсіх перакур! Я правільна кажу, мужыкі?

Шаршню ніхто не адказаў, тады ён пацягнуў дзверы на сябе, і знік у хаце.

– А, дык вось ты дзе, Мікалай Сцяпанавіч! – шырокая лагодная ўсмешка з’явілася на твары Шаршня.– А для мяне ўжо новы дзень пачаўся. Дзе б тут чаго каўтануць, а то галава цяжкаватая?.. Мне ж цялят карміць скора... Павінен быць як штык!..– Шаршэнь напоўніў першую чарку, што трапілася пад руку, гарэлкай, затрымаў позірк на субяседніку.– Дык што, забрыкай яго камар, вып’ем,так сказаць? За кампанію? Га?

– Не, дзякуй. Я ўжо і так, адчуваю, замнога выпіў.

– То ўчора. Так? Так. А сёння яшчэ не піў. Што было, тое сплыло. Дзе твая чарачка, Мікалай Сцяпанавіч? Ды і як жа дзядзька не вып’е за любімую пляменніцу, якая, бач ты на яе, ні каго-небудзь, а інжынера сельскай вытворчасці прыбрала да рук, прытуліла, так сказаць. Я ж яе, саплівую, вось такой помню, – Шаршэнь трымаў у адной руцэ чарку, а пальцы другой растапырыў над падлогай, нават крыху нахіліўся, каб быць больш даставерным.– Вось такой была...

Якраз я тут, у вас, аказаўся. Ну, са сваёй мымрай... сам жа ведаеш... Я хіба не расказваў учора?

– Расказвалі. Багата чаго расказвалі.

– І пра камсамольскую пуцёўку?

– Ну,гэта вядома...у першую чаргу... з такім энтузіязмам расказвалі, што і мне захацелася туды, на Калыму.

– Сёння не пусцяць. Не-а. Іншая краіна. Не пусцяць. А шкада. Камсамол быў у пашане. Дык што, за пляменніцу не вып’еш?

Мікалай Сцяпанавіч падставіў чарку, Шаршэнь напомніў яе і сказаў:

– Цяпер я бачу, што ты свой чалавек. Ну, хай будзе ўсё добра.

І асушыў пітво. Тое ж самае, крыху павагаўшыся, зрабіў і Мікалай Сцяпанавіч.

– Цяпер можна і перакурыць...

– Вы закусіце, – параіў Шаршню Мікалай Сцяпанавіч.

– А папяроса – што, не закуска? Яшчэ якая! Ого закуска! – І пачаў выбірацца з-за стала. – Пайшлі, пайшлі, Сцяпанавіч. Я ж альбом прынёс. Пакажу Калыму. Свой ты чалавек, бачу, тады чаму ж не паказаць. Во ён, альбом, тут... Пры мне. Ці, можа, яшчэ па адной?.. Каб лішні раз штаны не драць аб лаву, га, Сцяпанавіч?

– Накорміце цялят, дзядзька Іван, а тады і яшчэ вып’ем. Дамовіліся?

Шаршэнь затрымаў на бутэльцы з гарэлкай доўгі нераўнадушны позірк, перасмыкнуў кадыком, а тады пагадзіўся:

– Разумны чалавек абы чаго не параіць. Правільна: спярша цялят, а тады можна будзе... Ці тут паглядзім карткі? Тут святла больш.

– Можна і тут.

– Прымаецца! Трымай пяць!..

Шаршэнь дастаў з-пад дзягі маленькі альбомчык, які быў перахоплены белай рызінкай, разгарнуў, пагартаў... потым яшчэ пагартаў, на гэты раз похапкам... А тады падняў яго над сабой, патрос – з альбома нічога не выпала. Альбом быў без картак. Паглядзеў на Мікалая Сцяпанавіча.

– Былі ж!.. Учора гартаў!.. Былі ж!.. Ну, Таццянка, ну, пачакай! – І на ягоных вачах, што яшчэ больш уразіла госця з горада, заблішчэлі слёзы.– Так падвесці!.. Усю маю Калыму вытрэсла з альбома!.. Да адной карткі!.. А я ж там і з начальнікам у абдымку стаю – з тым, што з Канавы!.. І грубкі на картках былі, што паліў!.. І дровы!.. Ды шмат чаго было на тых хватаграфіях, забрыкай яе камар!.. Хацеў табе, Мікалай Сцяпанавіч, паказаць... пахваліцца біяграфіяй... Не

атрымалася. I ўсё таму, што не шанцуе мне на баб. Адна запёрла туды, а другая і знаць не хоча!..

Мікалай Сцяпанавіч паклаў руку на плячо Шаршню, а сам пільна глядзеў таму ў вочы, і не адразу сказаў:

– Добрая жонка ў вас, дзядзька... Беражы яе... А карткі як-небудзь паглядзім іншым разам...

... На дварэ па-ранейшаму шалеў халодны вецер. Бліжэй да раніцы вяселле пачало затухаць, у сенцах больш нікога з людзей не было. Пра перакур нагадвала толькі шызае воблака гаркотнага дыму, якое наважвалася праслізнуць на двор у дзверы, калі хто заходзіў альбо выходзіў, аднак у таго нічога не атрымлівалася: халоднае паветра з вуліцы апярэджвала воблака, усяляк адціскала яго; яно нахабна і рашуча ўрывалася ў сенцы і пачынала ўладарна гаспадарыць тут, не зважаючы, як у сябе на дварэ каля навагодняй ёлкі...

Неўзабаве пра перакур у сенцах-катушку мала што нагадвала.

**ЭМЧАЭСАВЕЦ**

Тады была якраз сярэдзіна лета. Хоць для нашага аповеду гэта не мае ніякага значэння. Такое магло здарыцца і ўзімку, і ў восень...

Сцяпан Філімончык, слесар мясцовага завода безалкагольных напояў, гарманіст і спявак, сур'ёзна захварэў: неабходна аперацыя, зрабіць якую сёння так проста было немагчыма. Патрабаваліся значныя грошы, якіх, зразумела ж, у сям'і Філімончыкавых не мелася. Жонка Антаніна, выслухаўшы доктара, гаротна ўздыхнула і нічога канкрэтнага яму не адказала. Сама ж толькі падумала: «Ратаваць трэба свайго Эмчаэсаўца, ратаваць!..» Але як гэта зрабіць – не ведала, і пакуль ішла з бальніцы дадому, увесь час пра гэта толькі і думала. Ёй шкада было свайго зухаватага мужа, яна кахала яго, і кахала надта, і думка пра тое, што калі не зрабіць платную аперацыю, то жыць яму заставалася нядоўга, нібыта прыбіла яе да зямлі – ногі зусім не слухаліся, а галава, адчувала, ідзе кругам. «Ратаваць... Ратаваць... Ратаваць...» Пра іншае і думаць не хацелася. Ратаваць свайго эмчаэсаўца. Гэта яна, жонка, прыклала да яго такую мянушку, тая неяк адразу замацавалася за ім, суседзі і знаёмыя таксама прынялі: Сцяпанам мала калі называюць, больш – Эмчаэсаўцам. Ён і не крыўдуе. А то ж! Так яно і ёсць, тут чысцейшая праўда: калі што дзе – там Сцяпан. «Выручай, сусед!» Пачыніць, ухіліць, ліквідуе. Не кажучы ўжо, што нядаўна новы гармонік набыў – той, стары, выдыхся: як гулянка якая, адразу да яго, Сцяпана: пайграй, дружа!.. Жонка іншы раз заўважала: «Гэта добра, што мы ў вёсцы не жывём. А то б я цябе дома і зусім не бачыла – там старых людзей, нямоглых, шмат, і табе б хапіла занятку на іх дварах. Прастор. Уяўляю: свой агарод не ўбіраецца, бо няма калі, а Сцяпан мой рачкуе на агародзе ў якой-небудзь бабкі Моці ці дзеда Нічыпара. Выратоўвае тых... Адным словам – Эмчаэсавец!»

І вось – бяда... Пра гэта адразу даведаліся суседзі, інакш і быць не магло: не толькі на адной лесвічнай пляцоўцы, але і ў пад'ездзе людзі добра ведалі адзін аднаго, на першы погляд, жылі надзіва дружна, чаму нельга было не пазайздросціць. Асабліва сёння. У наш час. Калі іншыя родныя людзі мала ведаюцца.

Сцяпана дома цяпер было не застаць: паліклініка, бальніца, кансультацыі ў сталіцы. У яго наступіла зусім іншае жыццё. Спярша ён не быў гатовы да такога вось нечаканага павароту, складвалася ўражанне, нібы хто знянацку гвазданула яго нечым цяжкім па галаве, і Сцяпан доўга не мог ачуняць, прыйсці ў сябе. Аднак з цягам часу

змірыўся са сваім лёсам, асабліва не адчайваўся, і калі нагортваліся сумныя думкі пра смерць, а было гэта ў апошнія дні ўсё часцей і часцей, тады ён супакойваў сябе: усе там будзем. Што ж паробіш, калі такі лёс.

Хоць у такія хвіліны на вачах з'яўляліся здрадніцкія слёзы, ён потайкам змахваў іх, глядзеў на жонку, на сына Арцёмку. «Як жа яны будуць без мяне жыць?» Не толькі думалася пра самых блізкіх, пра самых родных на ўсёй гэтай зямлі людзей. Як жа будзе без яго вось гэтая кватэра, якую сам зарабіў на заводзе, да якой прывык? Як жа будзе без яго лес, дзе любіў збіраць восеньскія крамяныя баравікі? А рака? А хатка ў вёсцы, якая нагадвала яму пра дзяцінства, пра маму і тату?.. Не, трэба жыць!.. Даруй, лёс!.. У яго, Сцяпана Філімончыка, ці проста Эмчаэсаўца, яшчэ багата на гэтай прыгожай планеце незавершаных спраў.

А тым часам абмяркоўвалі складаную сітуацыю, у якую трапіў Эмчаэсавец, і суседзі. Людзі, канешне ж, спачувалі.

– А што тут думаць? Думаць няма калі, – паглядзеў на суседзяў пенсіянер Цярэшка.– Каб жа не спазніцца. Будзем грошы збіраць.

З ім мала хто пагадзіўся. «Не адолеем». Патрэбны ж даляры, ды нямала – ажно тысячы, дзе ж збярэш столькі? Падумаць толькі!..

Цярэшка не здаваўся:

– Галоўнае ўвязацца ў бой. А калі будзем сумнявацца, пераможам мы ці не, тады і не трэба гаманіць. Пераможам. Іншага выйсця не павінна быць. Пераможам, землякі!.. З усяго свету, як кажуць, па нітцы... Дзіўныя мы ўсё ж людзі, скажу я вам шчыра, суседзі дарагія: на пахаванне нябожчыка грошы збіраем, а вось на тое, каб не даць свайго ж суседа ў лапы смерці, – мы, пагадзіцеся, да гэтага не прывыклі. Нябожчык жа на лаўцы ўсё роўна ляжаць не будзе – і без вашых грошай яго закапаюць, ці не так? Так. А Сцяпана трэба ратаваць, трэба!..

На тым і пагадзіліся. Грошы збіраць даручылі толькі найбольш аўтарытэтным суседзям – таму ж Цярэшку, маладому настаўніку Максіму Карпечанку і некальkім жанчынам.

– А я мех з дзяржзнакамі насіць буду, – сказаў ці тое жартам, ці тое сур'ёзна Колька, добры выпівоха, чалавек-пустацвет.

– Сціхні ты, паразіт! – цыкнула на яго Патапаўна.

– Што, ужо і пажартаваць нельга? – трохі, здаецца, і пакрыўдзіўся Колька. – Аднак жа, заадно заўважу, і задачу вы перада мной паставілі: мне таксама хочацца Сцёпку выручыць, але як? Грошай у мяне... самі ведаеце... А хто пазычыць? Скажу, што на

лячэнне Эмчаэсаўца, дык не паверацъ жа! Зноў, скажуць, прыдумаў, каб нажлукціцца. Хаця і на вялікае дзела грошы. Эх, людзі!..

Сам Цярэшка выбраў свой жа пад'езд. Надвячоркам, калі людзі вярнуліся ў свае кватэры пасля працоўнага дня, ён узяў сшытак у клетачку, шарыкавую ручку, і пачаў абыход. З кватэры № 1. Там з нядаўняга часу жыла маладая сям'я, пра якую мала што і ведалі. Муж, жонка, малое дзіця. Прыгожыя людзі. Маюць іншамарку. Гэтая кватэра з усяго пад'езда адзіная, бадай што, якая нагадвае вакзал: чамусьці там падоўгу жыхары не затрымліваюцца. Пажывуць трохі адны – з'едуць, паселяцца іншыя – таксама не забавяцца.

Цярэшка растлумачыў сітуацыю гаспадару кватэры, які адчыніў на званок. Той выслухаў, моўчкі расшпіліў кашалёк, падаў грошы.

– Больш не можам.

– Дзякуй і за гэта. Як ваша прозвішча? Я запішу ў сшытак.

– Ды не трэба, дзядзька! – запратэставаў гаспадар.

– Не, братка, трэба. Ты чалавек малады, людзей кепска ведаеш.

– Глядзіце самі.

Ён назваў прозвішча, Цярэшка запісаў, падаў сшытак, каб той распісаўся.

– Дзякуй яшчэ раз, суседзе. Будзем сябраваць. Не супраць?

– А чаму я павінен быць супраць? Суседзі ж.

– І я так кажу: суседзі ж мы. Павінны выручаць адзін аднаго.

– З кожным можа здарыцца бяда, – спакойна адказаў гаспадар кватэры і прычыніў дзверы за Цярэшкам, які, перш чым пакласці грошы ў поліэтыленавы мяшэчак, не ўстрымаўся і пералічыў іх.

Сума аказалася нечакана вялікая – ажно сто пяцьдзесят тысяч. Гэта абнадзеіла. Хоць і разумеў Цярэшка: а больш і мала хто так адшкадуе. Ён адразу пра сябе падумаў. Хіба ж адолее столькі? Не, не. Хоць бы паўсотні вымеркаваць, і тое было б добра.

Неўзабаве ў сшытку з'явіліся новыя прозвішчы суседзяў, а насупраць іх сумы: пяць тысяч, шэсць, дзесяць... «Так добра пачалося, а што атрымліваецца? – роспачна падумаў Цярэшка. – Няўжо не выручым Эмчаэсаўца? Як жа так?!.. Як жа?!.. Ён жа нас выручаў. Пакажыце кватэру, дзе б ён што-небудзь не зрабіў. Майстар на гадзіну – гэта пра яго, пра Сцяпана. Толькі ён адрозніваўся тым, што грошай не браў. А гарэлку і не паказвайце – прысароміць».

Позна ўвечары зборшчыкі грошай сабраліся на кватэры ў Цярэшкі. Селі на кухні за стол, падлічылі, у каго якая сума. Што больш за ўсё здзівіла і засмуціла Цярэшку, дык гэта тое, што менш за

ўсіх грошай сабраў ён. Ды дзе – у сваім пад’ездзе, у пад’едзе Эмчаэсаўца.

– Вось вам і Юр’еў дзень, сябры мае! – рэзюмаваў Цярэшка. – Нават не даў грошай Кавалькоў, які сам вырашыў, помніце ж, урэзаць лічыльнікі вады і каб не Эмчаэсавец, то затапіў бы ўсіх па стаяку. У якую б гэта вылілася яму капейку – і ўявіць цяжка, а ён не даў грошай на аперацыю. Крыўдна. І іншых людзей, з якімі вітаўся, па-новаму я адкрыў для сябе. Ну што, панеслі грошы Эмчаэсаўцу разам, ці як?

Панеслі разам. У кватэры была толькі жонка, мілавідная Антаніна, яна крыху, падалося, і здзівілася такому вось позняму візіту суседзяў.

Павітаўшыся, Цярэшка пацікавіўся, а дзе ж сам гаспадар.

– А ён у Мінску, – адказала Антаніна, і па тым, як зрабіла яна гэта, той-сёй, мабыць, з прыйшоўшых да яе суседзяў здагадаўся, што настрой у жанчыны някепскі.

– У Мінску? Во як. На абследаванні зноў? – пацікавіўся Цярэшка.

– Не, цяпер ужо на аперацыі.

– На аперацыі. Так-так. А мы ж вось... – Цярэшка патрос пакетам, у якім добра былі бачны грошы, – тут сабралі яму... Эмчаэсаўцу... на аперацыю... колькі змаглі...

– Ой, дзякуй вам, людзі! – успляснула рукамі Антаніна, запунсавелася ўся. — Не трэба ўжо грошы. У нас цяпер такія аперацыі робяць за дзяржаўны кошт. Праўда, толькі ў Мінску. З нядаўняга часу. Але ж хіба ён так далёка, той Мінск? Заўтра будуць рабіць. Я сынулю адвяла да сваёй маці, а сама вось збіраюся на вакзал... Калінкавіцкім цягнікам еду...

– Перадавай там яму прывітанне, – сказала Патапаўна. – Дужа мы за Сцёпку перажываем.

– Ага.

– Перадам абавязкова.

Цярэшка не ведаў, што ж цяпер рабіць з грашыма. Ён паклаў пакет на стол. Кашлянуў у кулак.

– А грошы вярніце людзям, – Антаніна ўзяла пакет, падала Цярэшку. – І ўсім, хто адгукнуўся на наш боль з вашай, канешне ж, дапамогай, скажыце вялікі дзякуй. Эмчаэсавец, калі, дай Божа, ўсё абыдзецца, будзе добра, таксама падзякуе.

Цярэшка ўзяў пакет, памяркоўна сказаў:

– Так і быць… Ну, што ж… Вярнуць дык вярнуць… паперкі свае… з прозвішчамі зберажыце ж толькі… Добра, што запісвалі… А то як бы вярнулі?..

Трэнькнуў званок, Антаніна адчыніла дзверы, і на парозе ўсе ўбачылі Кольку. Ён шырока ўсміхаўся бяззубым ротам, а ў руцэ трымаў перад сабой адной паперкай пяць тысяч.

– Усе бачылі? – Колька прайшоў углыб кватэры, патрос грашыма.– Перамог сябе. Пазычыў на падмогу Эмчаэсаўцу, паверыў новы сусед з першай кватэры. Дай, кажу, пяць тысяч. На тое і на тое. Ён нічога не сказаў, моўчкі вынес і даў. Каб папрасіў дзесяць, ён бы, адчуваю, і дзесяць тысяч не пашкадаваў. Тады мне хапіла б яшчэ і на бутэльку. А не прапіў! Цярэшка, запішы мяне ў свой талмуд!.. Ну, чаго глядзіш так на мяне, як той… ага… з рагамі на новыя вароты…

– Не запішу, – строга сказаў Цярэшка.

– Чаму гэта ты мяне не запішаш? Я што, не сусед Эмчаэсаўца? Хто маёй матцы яшчэ кладоўку зрабіў у падвале? Я і цяпер там складзіруюся. Чуеш, дзед?

Цярэшка нічога не адказаў Кольку, паглядзеў па чарзе на кожнага, хто збіраў грошы:

– А што мы тут мудрыць будзем! Разбірайце свае грошы, ды калі хочаце, тады і раздавайце. – Ён падняў пакет над сталом, узяў яго за ражкі, і вытрас грошы. Горка атрымалася высокая.

Колька ж лыпаў вачыма, нічога не разумеў:

– Што?.. Чаму?.. Што з Эмчаэсаўцам?..

– Будзе жыць, будзе, – адказаў Цярэшка.– А грошы аднясі назад таму, у каго пазычыў.

Колька хехекнуў:

– Што я, дурань адносіць так адразу? Толькі ж узяў. Потым, потым вярну. Пракруціць іх трэба, грошы. За Сцёпку, за Эмчаэсаўца выпіць варта. Я ж, верыце ці не, гадзіну назад грошы гэтыя пазычыў… і ўвесь час вагаўся: ці ў краму бегчы за вінам, ці аддаць на талаку… Думаеце, лёгка мне было? Гадзіна годам падалася… А ты, дзед, кажаш: аднясі назад. Пераб’ецца. А Эмчаэсавец жыць будзе, здагадваюся па вашых партрэтах. Гэта важна. Ну, я пашыбаваў, а то ў начнік давядзецца бегчы, а там можна і па мордзе атрымаць. Ды па мордзе як па мордзе, а бутэльку адбяруць.

Колька знік. Зборшчыкі разабралі грошы, пажадалі Сцяпану хутчэйшай папраўкі і пайшлі па сваіх кватэрах. Антаніна паехала на чыгуначны вакзал. Патухлі вокны ў доме.

Якім ты будзеш, заўтрашні дзень?..

**ДЗЕНЬ ШАХЦЁРА**

Ціхенька ціўкнула кураня – апошняе з усяго вывадку, што ацалела- ўратавалася ад розных дробных хатніх драпежнікаў і передужала голад—і Мітук, торгнуўшыся, нібы цягнік перад рухам, усім сваім закляклым целам, прачнуўся.

–Ё-маё, дык ужо ж!..–Ён працёр непаслухмяным кулаком вочы, зірнуў на мурзатыя ходзікі, па якіх ходзяць-топчуцца мухі і не выціраюць ногі. – Ё-маё! Кыш, кыш з дарогі, сцерва! Растапчу-у!

Куранятка пырхнула пад трохногі зэдлік, на якім стаяў літровы слоік з вадой, гаспадар прагрукаў побач кірзавымі ботамі і, перш чым піхнуць дзверы, затрымаў, як бы вінаваты і поўны спачування, позірк на куранятку:

– Накармлю сёння да адвалу. Круп куплю. Проса. Чуеш? Пацярпі. Багата цярпела – менш засталося. Вырасцеш – яйкамі аддасі. Ясна, шмакадзяўка? А цяпер сядзі тут і не вытыркайся, а то якая падла сажрэ. Чакай. Сёння мне пенсію прывязуць на пошту. Багата грошай будзе. Я сёння ім свята ўстрою. Яны запомняць Мітука. Здохну, а слава доўга цягнуцца будзе: во нам Мітук свята даў! І аблізнуцца. А то як што языкамі мянцяць: «Алкаш!» Я сам знаю, не трэба напамінаць.Сядзі мне тут і не ціўкай. Пабег я. За грашыма.

Мітук жыў на Крывой Бярозе, самай аддаленай вуліцы, да пошты было крыху мо за кіламетр, і ён шугануў напрасткі – цераз калгаснае жыта, якое сцябала па халявах ботаў, замінала, але ж нельга спазніцца: начэпіць Люба замок на дзверы пошты, тады хоць кусай яго.

Вось так Мітук некалі бегаў у школу – што расло на гэтай дзялянцы калгаснага поля, па тым і тарыў сцежку. Так-сяк адмучыў ён сямігодку, а тады ляжаў на бугарках за школай з хлопцамі ад няма чаго рабіць і прыхінуў твар сухой і жорсткай, як фальга, газецінай,– каб не так моцна пякло. Марылі хлопцы, рашалі, у які свет падацца. А на той газеціне акурат была абвестка, што ў Горлаўку патрабуюцца дужыя хлопцы для работы ў шахце. Зацікавіла. Прачытаў яшчэ раз, перадаў газету сябрукам. Усхапіліся з зямлі, сабраліся похапкам, не зважаючы на пярэчанні бацькоў, як толькі і бачылі іх – паехалі! Здабывалі вугалёк. Потым неяк непрыкметна Мітук застаўся ў Горлаўцы адзін – паспыталі таго хлеба хлопцы-землякі, ды і далі цягу: грошы грашыма, іх усе не заграбеш, але навісла небяспека – спіцца можна, як двойчы два. Кожны дзень, пасля пад'ёму на паверхню, завядзёнка была «паласкаць» горла ад пылу вінам і гарэлкай. Яны паехалі, а Мітук паласкаў горла яшчэ гадоў пятнаццаць, здаровы быў

– надоўга, як бачна, хапіла, толькі рукі пачалі выдаваць – трымцелі, не слухаліся. Значных змен якіх-небудзь за той час у асабістым жыцці не адбылося. Сям'ёй не абзавёўся, набыў тое-сёе з апранашкі, далі, праўда, асобную кватэрку-аднапакаёўку. Парадзела і ў роце зубоў – каб рамантаваць іх, трэба не піць, а калі ж для іх, зубоў, тут выкраіш час? Не выпадала. Ён і вярнуўся ў Іскань без зубоў, але ў добрым настроі – усмешка, як усё роўна намаляваная, заўсёды вісела на ягоным маршчыністым, з праваленымі ўсяродак шчакамі, твары. Прынялі землякі так, як і прымаюць павяртанцаў: вілы ў рукі – і на гной. У каляіну калгасную ступіў ён без разгону, цвёрда. Характар у Мітука добры, кожнага прывеціць, кожнаму паспачувае, за чарку дык і ў блін расплешчацца, а зробіць, што папросяць вяскоўцы. Безадказны Мітук. І ў выпіўцы таксама. Піў, як і рабіў, да пераможнага канца, таму брыгадзір Шарабод звычайна прыстаўляў да пераносіцы картузікам руку, углядаўся, ці не відаць дзе Мітука, а Мітук, лёгкі на пад'ём, усім сваім задрыпаным тварам тырчыць перад акном, трэ вочы:

– Чаго?

Шалабод заводзіўся маланкава, сыпаў соль на рану – у Мітука ж з учарашняга галава, як цэбар:

– Спіш? Дрыхнеш, абібок? Так? Значыць, запомні...

– Грамчэй гавары ці заходзь у хату, але ў мяне выпіць няма,– казаў Мітук, дыхаў на шыбу, на якой заставаліся кроплі, і брыгадзір ківаў на іх – маўляў, са шкла можна сашкрэбсці і апахмяліцца.

– Слухай сюды. Значыць, так. Каня больш не атрымаеш.

– А на храна ён мне! Хопіць, што адбойны малаток пацягаў!

– На гарбу дровы насіць будзеш! На гарбу!

– Ды на зіму я прыб'юся да якой Мар'і !

– Як ты калгасу, так і ён табе! Соткі абрэжам да самых вокнаў!

– Не маеш права! Ты ў шахце быў? Цябе, цяцеру такую, там бы задушылі!..

– Ён яшчэ і агрызаецца!– ніякавеў брыгадзір, вадзіў круглай, як гарбуз, галавой па баках, стараючыся ўбачыць каго з людзей, каб і тыя маглі паслухаць, якая ў яго адбываецца трудная размова з аболтусам і чаго гэта каштуе ягонаму здароўю. – Шкада шкада – нікога няма паблізу. Хай бы паслухалі, як і куды ты выканаўчую ўладу пасылаеш.

– Усё ў цябе?– талопіў вочы Мітук, нахабна глядзеў прама ў твар Шарабоду.

– Ідзі на работу-у! Кідай усё – і давай!.. З віламі сёння ! Шуруй! Прыедуць забіраць лячыцца ад п’янкі – я на цябе першага нацкую. А ты як думаў! Хаханькі табе!

– Ды пайшоў ты!.. – і Мітук насоўваў на акно фіранку, чорную, як камбінезон у трактарыста, плюхаўся на ложак і заплюскваў вочы: спаць,спаць, спаць!

А брыгадзір, заносячы тлустае цела на калёсы,бурчэў:

– Гэта ж трэба!.. Здаровы, як бык, а мінімуму гадавога і блізка не вырабляе, гад. І сораму ж няма ў чалавека. Прапіў увесь сорам. Вернецца з водпуску ўчастковы, ён яго зафугуе ў ЛТП. Майму цярпенню прыйшоў канец. Хопіць. Баста. Такія людзі слоў не разумеюць. А калі яшчэ наконт Веры пацвердзіцца, то галаву адсяку!

Звычайна Мітук, калі брыгадзір палохаў яго затачэннем у ЛТП на прымусовае лячэнне, падціскаў хвост, прыкладаў руку да сэрца, начапляў на твар кіслую ўсмешку і кляўся заўтра ж, з першымі пеўнямі, быць там, куды загадае. ЛТП ён баяўся. Калі ж зачынены там больш месяца сядзіш, як у турме, а пад прымусам якое ж лячэнне? Пшык. Адно – хочацца помсціць таму, хто запёр туды. Больш таго, кругом, лічы, адны наркаманы, і каб не страціць сваю кліентуру, падазроныя асобы носяць ім прама на «лячэнне» розныя каноплі і макі – ухітраюцца перадаць. Да гэтага прывыклі, пра гэта ўсе ведаюць, але ніхто нічога не робіць, усе закрываюць вочы. Спрабавалі пачаставаць і Мітука. І як адкруціўся – не зразумее сёння і сам. Але ганарыцца, ставіць сабе ў заслугу, што не спакусіўся.

Сваё вяртанне адтуль Мітук адзначыў тады даволі шырока – набраўся ў мясцовай краме і доўга шастаў па вуліцы, чапляўся да людзей, бо хацелася яму пахваліцца, як дужа добра яго вылечылі брыгадзір і ўчастковы ад гарэлкі!

Яшчэ калі ён жыў у Горлаўцы, да Мітука прыехаў малодшы брат Колька – вырваўся з вёскі без дакументаў, тады пашпарт атрымаць мог толькі вундэркінд якога-небудзь начальніка. Вельмі хацелася і яму, Кольку, паспытаць шахцёрскага хлеба: хваліўся ж Мітук, што дужа смачны, дапамог Кольку старэйшы брат уладкавацца на шахту, усімі праўдамі і няпраўдамі ўпёр яго туды, хоць і павалтузіўся, канешне ж, багата, пакуль дамогся: загад – не браць. Сам Хрушчоў падпісаў. Але Мітук да таго часу прывык глыбока браць—і ніякая парода, нават самая цвёрдая, не магла перад ім утрываць. Колька пачаў здабываць вугалёк у адной брыгадзе з ім, а паколькі Мітук штодня добра закладваў за каўнер, то ён збіраў торбачку для дваіх, сам яе і нёс. Мітук толькі пры сустрэчыківаў:

– Брат Колька. Маншой. Не п'е – можна не прадлагаць.

Калі мужчыны і траха старэйшыя за Кольку хлопцы выпівалі, ён, на здзіўленне тых, толькі грыз што-небудзь з закусі і слухаў, аб чым яны гамоняць. Іншы раз хто-небудзь з выпівох кідаў Кольку: «Не пераводзь закуску». Але так, жартам.

Неўзабаве Колька адбіўся ад Мітука – стаў на ногі, агледзеўся па баках і зразумеў, што, калі не знікне з поля зроку Мітука, той калі-небудзь усё ж даканае яго сваім: «Цяпні!» Колька ўсякі раз аднеквайся, Мітук, махнуўшы рукой і крэкнуўшы, цягнуў адзін, набіраўся як сабака блох і проста з-за стала чыкільгаў, змятаючы ўсё, што сустракалася на шляху, на ложак, хроп. Спаў заўсёды ў тым, у чым і хадзіў.

Колька ж выбіўся ў начальнікі – закончыў вячэрні інстытут, памаленьку- патрохі папоўз угару, і неўзабаве сядзеў у асобным кабінеце. А калі праганялі з шахты Мітука, развёў рукамі:

– Прабач, братан. Нічым дапамагчы не магу. Толькі магу сказаць, што табе трэба палячыцца ад п'янкі. Гэта твой апошні шанц. Думай.

– Ды пайшоў ты!.. – сцяўшыся, моцна сказаў Мітук, згроб свае транты і ўзяў білет да Быхава. Але каб не Колька, і сёння б яго даймаў брыгадзір Шарабод: «Давай мінімум, гультай!» Прыехаў той неяк у адпачынак, сустрэў Мітука на возе з віламі, дома за вячэрай, бы між іншым, пацікавіўся: «Дык табе што, пенсіі не хапае, што ў калгас на працу ходзіш?» – «Якой... такой... пенсіі?» – «Дык ты ж на шахце амаль дваццаць гадоў адпахаў... пад зямлёй... у забоі... А трэба – пятнаццаць!» – «Ё-маё! Ё-м...маё! Ну, пачакай, Шарабод! Мінімум яму, ваўкалаку, давай, калі я даўно, аказваецца, на пенсіі! Спасіба, брат, што сказаў, а то я б да шасцідзесяці і петаўся... Спасіба... што, кажаш, я ўжо пяць гадоў, як законны пенсіянер?» – «Акурат так...» – «Ё-маё!»

І вось Мітук шыбуе на пошту атрымліваць пенсію – за апошнія, кажуць, шэсць месяцаў. То і добра, хоць так. Тыя грошы ўжо за чатыры гады з хвосцікам хай будуць дзяржаве. І ёй трэба. Мітуку хопіць. Мітук і так шчаслівы – на сёмым небе. Гэта ж столькі грошай! Калі яшчэ раней ён трымаў у руках пук паперак, без якіх ты... ну хто ты? Мусіць, тэлеграфны слуп, якому нічога не трэба. А яму, Мітуку, ой як трэба! Хто ведае, як баліць раніцай макацёр пасля гарэлкі,-- той зразумее. А пазычыць, каб палячыцца,– дулю хто пазычыць яму. Галаву адвернуць, скрывяцца: «Няма». Рэпутацыя такая. Эх вы, людзі! А цяпер што скажаце, калі перад вамі не абы-які пенсіянер там, а шахцёрскі? Што, цікава, Мітуку скажаце?

Здалёк яшчэ Мітук запрыкмеціў каля пошты крыты грузавік, і сэрца ёкнула: а што калі не прывезлі грошы? Калі не хапіла для яго? Усё можа быць – цяпер час такі ненадзейны. Ён жа тады, Мітук, памрэ – наважыўся сёння даць свята для землякоў, якія чарку паважаюць, навастрыўся і сам добранька горла прамачыць, павяртаць назад, адкладваць хоць на адзін дзень такое мерапрыемства – смерці варта.

Фу-у ты, вось і пошта. Каля ганка было адзінока, паштарская машына ад'ехала і Мітук, папляваўшы ўбок, пацягнуў на сябе дзверы так, нібы яны былі на той свет. Калі пераступіў парог, павесялеў.

– Прывет-салют, Любаша!– павітаўся, шырока ўсміхнуўся бяззубым ротам, але загадчыца аддзялення ніяк не адрэагавала – разбірала сабе скрынкі і розныя скруткі. – Прывет, кажу!

– Прывет,– нехаця адказала Люба.

– Ну... і як там? Кхе-кхе-хе.

– Прывязлі. Поўны мех грошай табе. Прывязлі.

Каб хто бачыў, як ад радасці падскочыў гэты высокі, прыгорблены, худы, ссохлы, бы леташняя трэска, чалавек,– дзіву даўся б: ці ж можна так радавацца старому мужчыне, не дзіця ж? А ён, бачце, крычыць, падскокваючы:

– Ура-а-а! Ура-а-а! Спасіба-а-а-а! Ты не дала мне памерці-і-і!

– Сціхні !–гыркнула Люба.

– Дай і цябе пацалую, золатка! Дай! Замест шахты!– Мітук прадзёрся скрозь гару скрынак і скруткаў, ашчаперыў загадчыцу і ўжо наважыўся чмокнуць тую ў рабую шчаку, калі дзверы адчыніліся і ў пакой ступіў муж Любы – Пецька, вясковы электрык.

Пецька глянуў на Мітука бычыным вокам:

– Адставіць!

– Ах, не атрымалася,– адразу ж здаўся Мітук. – Хацеў, чэсна скажу табе, Пятро, радасць сваю на тваёй жонцы выліць...

– Вылівай сваю радасць на якой другой бабе,– строга сказаў Пецька і замахнуўся на Мітука, але жонка цыкнула на таго, і кулак павіс, дзе і вісеў,– каля кішэні.

Пецька, відаць, і сам успомніў, што Мітук сёння павінен атрымаць мех грошай, таму сказаў, стараючыся ўсміхнуцца:

– Ды я так... Што ж я, па-сапраўднаму ? Не хапала дзяцініцца. Ці нам мала, так, Міця?

– Ага. І я кажу: радасць. Давай, давай, Любаша, варушыся. Газеты твае пачакаюць. Я ж вось пяць гадоў чакаў... ці колькі. Мне ў

першую чаргу. Я яе даўно заняў. Пагодзь, Пецця, нікуды не ідзі. Зараз мы зварганім.

– Я яму пап'ю! Я яму!.. Пакажу як піць!..– завялася Люба. – Пасінееў, як падасінавік. І цябе, Мітук, папярэджваю: пачастуеш – атрымаеш у мяне пенсію!..

– Ды не буду, не буду, – не на жарт спалохаўся Мітук. – Што я... не разумею? Гэта ж навошта мне браць грэх? Х-ха-ха-а-а-а! Сказала : не пі – не буду. Пераб'ецца. Пятро, ты не крыўдуй,– Мітук павярнуўся да яго, падміргнуў – каб дарэмна не хваляваўся. – Такое, брат, дзела. Не маю права. Твая жонка для мяне вялікі начальнік, не дасць грошы, што тады? Не, не. Пяць гадочкаў...ці колькі там... чакаў... І вось!..

Наступіла ўрачыстая хвіліна. Люба вываліла на стол з меха, нібы бульбу –падняўшы той за два рагі – процьму грошай.

– І гэта ўсе... мае?– аслупянеў, папярхнуўся Мітук, гледзячы на столік, дзе ляжала горка пераціснутых шпагатам і пазначаных пячаткамі пачкаў. – Гэта ўсё... мне?

– А каму ж!– спакойна сказала Люба.– Хіба ж ёсць яшчэ ў нас які дурань, якому даўно пара на пенсію, а ён праспацца не можа, белага свету з-за гарэлкі не бачыць?

– Не, няма,– пагадзіўся Мітук, па-добраму шчыра ўсміхнуўся. – Але, Любка, заўваж: так я б не змог сабраць грошай, калі б даўно пенсію аформіў, каб Дзень шахцёра для землякоў саарганізаваць. Кеміш?

– Калі так толькі.

– Шпарчэй, золатка, шпарчэй лічы.

– А што гэта людзі кажуць, бытта Верка брыгадзірава колькі разоў да цябе бегала? – хаваючы твар, нясмела мовіла Люба. – Ці няма ім чаго рабіць, людзям?

– Менш слухай. Абідзяць во толькі добрую бабу. Лічы, лічы, а то ў роце засмягла... к-хы.

– Па такому выпадку купіш мне каробку цукерак,– пaпляваўшы на пальцы, кінула кароткі позірк на Мітука Люба, а тады затрымала яго на сваім мужыку.– А ты ідзі, не мылься. Пачуў, паразіт, пах грошай. Кот шкодны!

– Ды ладна табе,–махнуў рукой на жонку Пецька. – Ніхто рот на чужое не разяўляе. Адпускай чалавека хутчэй.

– Я табе, Любаша, не толькі самых лепшых цукерак куплю, якія ёсць у нашай краме,-- заківаў лахматай галавой Мітук,– а і віна прынясу. У прыдачу. Прынесці?

– Прынясі,– ціха, але з задавальненнем пагадзілася загадчыца пошты.

– Будзе! Будзе! Шахцёры, сама разумееш, слоў на вецер не кідаюць. А... гэта... Пятру дазволіш капнуць грамульку, каб потым у нас з табой эксцэсаў розных не было? Як?– Мітук нецярпліва глядзеў на Любу, якая займалася грашыма, і чакаў, што яна скажа.

– Толькі пры мне,– нарэшце дазволіла.

– Пры табе дык пры табе,– засвяціўся твар у Мітука, ён глянуў на Пецьку, які таксама ўсміхаўся і лізаў сінім языком засмяглыя губы.

Мітук распіхаў грошы па кішэнях, частку засунуў пад сарочку, а што не ўлезла, трымаў у руцэ:

– Чакайце. Я зараз!

Крама і пошта побач, таму Мітук абярнуўся хутка – прынёс, як і абяцаў, загадчыцы каробку цукерак і вялікую пляшку віна, якую тут жа адкаркаваў, забулькаў у пададзеную Пецькам шклянку.

– З цябе, Люба, і пачнём,– кіўнуў ён на поўную шклянку.

Люба зморшчылася:

– Вы што, падурнелі? Што я, столькі вып’ю?

– Пі, дзеўка, колькі хочаш,– адчуў сябе нават крыху ніякавата Мітук. – Твая справа. А цукеркі дамоў нясі. Дзеткам. Карапузікам сваім. А нам закусіць і так добра будзе. Праўда, Пецька?

– А то ж! – крэкнуў Пецька і кульнуў пітво ў рот. – Фу-у! А ёй трохі! Тады хварэе на галаву.

– Ага! – Мітук лінуў у шклянку, падаў Любе.

Люба моўчкі выпіла.

– А я, калі дазволіце, так, – і Мітук, задраўшы дном угару бутэльку, забулькаў у рот, бы ў нейкае бяздонне, і было відаць, як яго твар святлеў, дабрэў, распрамляўся ад лагоды.

– Ты б, Міця, частку грошай у мяне пакінуў, а то згубіш, калі нап’ешся,– параіла Мітуку Люба. – Глядзі. Маё дзела прапанаваць.

– Праўду кажа, – падаў голас Пецька.

Мітук задумаўся, паглядзеў на грошы, што трымаў у руцэ, паляпаў па кішэнях, махнуў:

– Схаваю дома так, што ніякая падла не знойдзе.

– Ён-та не валяецца, – зноў сказаў Пецька. – Будзе носам чэрціць па зямлі, але ідзе.

– Хай сам глядзіць.

У краме Мітук быў на першым плане. Частаваў кожнага, хто заглядваў туды.

– За Дзень шахцёра ! За мой дзень, Міхеевіч! Цётка Лёкса, вазьмі грам шахцёрскага зелля! Не пі дома – ту выпі! Выпі і ты, дзядзька Ахрэм! Не п’е толькі хворы! Частуйцеся-я-я!

Людзі, выпіўшы гарэлкі, весялелі і з крамы не спяшаліся, стаялі купкамі, гаманілі. Пра палітыку, пра новага старшыню калгаса, а больш хвалілі Мітука : бач ты, ён, аказваецца, анціхрыст, пенсіянер па шахце, а ўсе толькі кпілі з яго, п’яніца ды п’яніца. Які п’яніца столькі грошай заробіць? Дзе? А Мітук наш – чалавек заслужаны, калі такую добрую пенсію і так рана яму далі. Не абы-хто Мітук. Ведаць трэба.

Адкуль узяўся гармонік у краме, мала хто прыпомніць, але з ім стала яшчэ весялей – Мітук скакаў з рознымі выкрутасамі, падскокваў і выбрыкваў, зацягваў у танец кожнага, хто трапляўся пад руку. Ды і самі вяскоўцы, падагрэтыя ягоным частаваннем, гэцалі няблага.

– Танцуй, братва-а! – чулася Мітукова. – Сёння Дзень шахцёра! Сёння я выдаю на-гара! Я! Мітук! Што там не дакідаў, дакідаю тудака-а! Га? Смялей жа, смялей шавяліце батонамі, бабы! Мужыкі, а вы чаго загарuніліся? Ці мала выпілі? То давайце дабавім! Ёсць грошы! Капаў глыбока! Не думайце! Ёсць, мацьіх за нагу!..

Мітук стомлена тупаў да прылаўка, дзе асалавелымі вачыма лыпаў на яго прадавец Зміцер, бязногі і пакорлівы, кідаў грошы на прылавак:

– Дзве. І цукерак зваж. Адкрывай і кансерву.

– Зразумеў, зразумеў, Міцька. І мне яшчэ капнеш?

– І табе. Гуляй, дзярэўня-я!

Калі пачало вечарэць, Мітук паклыпаў, хістаючыся, да хаты Шарабода. Ён толькі цяпер успомніў, што той не быў на свяце, і палічыў гэта за непарадак, амаль як за абразу. Брама ў брыгадзіра была ўжо на зашчапцы. Мітук загрукаў кулаком.

– Хто там? – пачуў халодны голас Шарабода.

– Свае, адчыняй!

– Што трэба? – незадаволена прабурчэў брыгадзір. – Чаго брындаеш па начах? Ідзі праспіся! П’яны ж!

– А каб цвярозы быў, я б да цябе і не пайшоў!– сказаў Мітук. – Пад дулам не пайшоў бы! Ты хамло! Я табе зараз мінімум аддам, прынёс. Прынёс табе, Шарабод, мінімум. Дык адчыніш ці не? Адчыняй, сказаў! Ну-у! Дзе тут які адбойны малаток?

З-за брамы брыгадзір пагрозліва гаварыў няпрошанаму госцю:

– Па-харошаму, Міця, ідзі спаць. Будзеш ерапеніцца, паклічу ўчастковага.

– Каго-каго?--хехекнуў і перапытаў Мітук. – Участковага? Гэта таго недакурка? Гэта таго аблезлага? Ды я на шахце пенсію ўжо зарабляў, а яго і ў праекце не было. І ты мяне тым недадзеланым палохаеш?

– Ідзі, Міця, ідзі дахаты.

– Пайшоў ты! Дык што, мінімум мой не возьмеш? Адчыняй. Станаві на стол закуску і мы мой мінімум апрыходуем.

На здзіўленне брама прарыпела, і Шарабод дыхнуў у твар Мітуку цеплынёй:

– Праходзь ужо, ад цябе не адвяжашся.

Мітук набухторыў брыгадзіру поўную шклянку – да беражкоў, дыхні – расплешчацца, а сабе трошкі, бо ўжо, відаць, і так не ведае, што рабіў.

– Жлукці мой мінімум!– загадаў Мітук.

Выпілі. Закурылі. Шарабод даканаў бутэльку, можна сказаць, адзін, сядзеў на зэдліку, дакараў сябе, што абяцаў Мітуку абрэзаць пляц і не даць каня.

– Хто ж знаў, ета самае, Міцька! Хто ж ведаў!– казаў ён, хітаючы лысай галавою.– А ты... вось хто ты! Мяне нават абскакаў.

– Абскакаў. І дзелаць нечага. А мог бы табе... а як ты думаў, міраед... і мыцельнік нацерці сёння – за тое, што дакучаў сваім мінімумам і страшыў ЛТП. Ды не буду. Не хачу марацца. Прашчаю.

– Хто ж ведаў-знаў?– адчуваў сябе мулка на зэдліку Шарабод, ёрзаў.—А і добра, што ўсё так кончылася. Цяпер у мяне да цябе прэтэнзіяў аніякіх.

– Яшчэ б!

– Ты вось толькі, Мітук, да Веры маёй больш не чапляйся. Хворая яна. У бальніцу зноў адвёз.

– Перадавай прывет.

– Не чапляйся, Мітук! Пакінь нас у спакоі! У нас жа ўжо ўнукі!

Мітук устаў, узяў на стале кавалак хлеба, запіхнуў у кішэню.

– Куранёнку. Усіх накарміў і напаіў, а пра яго ледзь не забыўся.

– Дык ты чуеш, Мітук? Ці не? Наконт маёй жонкі ты чуеш? – Шарабод пацягнуў яго за рукаў.

– Паслухай, брыгадзір!– хістаючыся, Мітук паківаў непаслухмяным пальцам, ікнуў.– Ёй падабаецца, табе не... Ды разбярыцеся вы ў рэшце рэшт у сваёй сям’і самі. Самі. З вока на вока. Што за сям’я ў вас? Быццам бы інцялягентная. Ёй, значыць,

падабаецца, што тады-сяды прыцісне Мітук, а яму, бачыце вы, не. Разбярыцеся. А я – пайшоў. Больш мяне будзіць, Шарабод, не маеш права такога. Шахцёрскі пенсіянер я.

На вуліцы быў цёплы зорны вечар, недзе граў гармонік. Больш Мітук нічога не помніць – быццам праваліўся некуды. Прачнуўся ён назаўтра раніцай і доўга не мог зразумець, дзе знаходзіцца. На лбе намацаў гузак. Цікаў гадзіннік. Куранёнак латашыў хлеб. А грошай не было. Нават дробязі. Мітук сцяўся ад болю ў галаве і целе, паднёс да рота слоік з вадой і піў доўга, не адчуваючы ніякага смаку.

## СЛЯПЫ І ВІДУШЧЫ

Футарал для гармоніка шыў сам Якут. З меха. Нічога больш вартага пад руку не падвярнулася, а час не трываў: хопіць, пакляваλі носам на лаўцы, склаўшы рукі, пара і грошы зарабляць, не змылкі. Тым больш, сітуацыя такая: кожны, хто трохі варухнецца, глядзіш, і нешта мае. У кішэні.

– Так што, Мітрафан, рыхтуйся! – паляпаў па плячы значна старэйшага і яшчэ больш няшчаснага за сябе земляка п’яніца і абібок Якут, які прывёз з далёкай поўначы не капітал, а мянушку. – Ты сляпы – табе і карты, як гавараць, у рукі. Будзем зарабляць. Грошы! Заўтра першым аўтобусам у горад, Рыхцер. Каля базару, дзе самая таўкатня, я цябе і пасаджу, а шапку, як і належыць... Ёсць шапка? Аблавушка? Самая зацёртая? Яшчэ лепш, каб яе мышы патачылі.

– Знайду,– пакорліва ківаў Мітрафан, а потым зноў нацэльваў свае невідушчыя вочы міма Якута і, здаецца, міма жыцця.

– Памагу знайсці, – абяцаў Якут. – Памагу. Для такой справы і новую можна шапку знявечыць, пажаваць, пагрызці... Як у ціатры. Сам жа буду я воддаль стаяць, пільнаваць, каб хто цябе не аб’ягорыў... не змахнуў, бы карова языком; набытак. Худа-бедна, а выпіць за што будзе. Нашкрабём. Не можа быць, каб не накідалі. Дурняў на наш век хопіць. Гэта я не гучна гавару? Не падслухае мяне якая падла? -- Якут павярцеў галавой па баках, лахматай, абыякавай,падобнай на пук даўняга лёну, які недзе валяўся на гарышчы да лепшагу часу. – На твае вочы, Мітрафан, глянеш – і сам кінуў бы ў шапку, каб было што. Прабач, няма. Але будуць, будуць дзяржзнакі, па нырках ім!.. Футарал, хоць і не скураны, з мехавіны, але гармонік з яго не вылузнецца. Крэпкі. Гузік вось... Шкада, ты не бачыш... Прыгожы гузік. І вялікі. Як стары куфар. З выкрутасамі. З матчынага паліто зняў і па цэнтры футарала прышпандорыў.

Зашпільваецца. Давай, давай руку... Памацай. Як, га? Спадабаўся гузік? А матузы, ці рамяні, каб за спіной вісела музыка і не боўталася, а то і растрэсціся можа, чаго добрага, з цяг калгасных сфурычыў... Ад збруі. Падцяжкі, ці як іх... Хочаш памацаць?

– Бабу каб – памацаў бы, – тонка фыркнуў Мітрафан, пракаўтнуў сліну і забоўтаў босай, парэпанай нагой. – Ты,Якут, павінен табе сказаць, багата гаворыш. Менш гавары. Я што, дрэва, што мяне трэба стругаць і стругаць? Дык не ж!..

Якут вытрымаў незапланаваную паўзу:

– Ды ты, кораш, не хвалюйся: я цябе, як важную птушку, буду за руку весці, і гармонік панясу, толькі перад самым канцом, каля дрэва, на цябе надзену... Каб не здагадаліся, што на пару працуем. Так больш гарантыі. Канспірацыя.

Мітрафан, крыху здрыгануўшыся, прашаптаў:

– Мне каб, як на фронце перад боем, сваю законную парцуху – для храбрасці, га? Сотку каб. Калоціць.

– Ну ты даеш! Ну ты!.. На білет хоць бы нашкрэбсці. Табе добра – бясплатна, а я галяк – без аніводнага зайца ў кішэні. Пайду прасіць... Клянчыць пайду... Хоць, адчуваю, ніхто не адшпіліць. Рызыкну. Няхай яшчэ раз плюнуць мне ў морду. А што рабіць? Іншага выйсця няма. Бо заробім, створым свой фонд... І табе будзем пакідаць на раніцу кроплю якую.

– Ты пакінеш,– прабурчэў Мітрафан, спакваля ўзняўся, намацаў слясак на браме, і па ягоным голасе, і па руках няцяжка было вызначыць, што сляпы музыкант не надта мкне ў той горад з крыху авантурнай і дзікаватай для яго місіяй.

– Дык я роўна ў шэсць буду! – дыхнуў з-за спіны на Мітрафана Якут. – Разбуджу. Глядзі ж!..

Мітрафан кінуў на ганак футарал, сеў. Якута чуваць не было, і ён адчуў сябе надзвычай лёгка, шчасліва, бы толькі што адагнаў назойлівага камара, які, паразіт, усё прагнуў напіцца ягонай крыві. А для сябе, хоць і няпроста было, рашыў: добра, з’езджу ў той горад, пагляджу, што атрымаецца. Мо і праўда ёсць магчымасць зарабіць капейчыну якую? Грошы трэба. Не сакрэт. На хлеб не хапае, не кажучы, што і выпіць карціць, іншы раз моцна: тады быццам хоць крышку зрок вяртаецца. Толькі палохала Мітрафана, што Якут, валацуга, абдурыць яго, калі што і будзе ў той шапцы, то выграбе са смеццем. «Не дам!» – цвёрда рашыў сляпы гарманіст і намацаў футарал, рушыў з ім у хату.

Раніцай Якут выканаў абяцанку.

– Гатоў, Рыхцер? – вырачыў ён вочы на шыбку, за якой стараўся разгледзець Мітрафана.

Убачыўшы, што той ужо апрануты і сядзіць на ўслоне, уроссып паклаўшы пальцы правай рукі на гармонік, нырнуў у дзверы, падхапіў Мітрафана за рукаў:

–Давай, братка, давай. Галоўнае, не хвалявацца, галоўнае – першы крок... Ён заўсёды цяжкі, зараза, але без яго, першага кроку, не бывае другога, трэцяга... сотага! Ну, шавяліся, шавяліся, Мітруха. Нас чакаюць грандыёзныя справы! Тут наша Цюмень! Тут наша Якуція! Па алмазах ходзім, ядрона шыш!..

У аўтобус уціснуліся лёгка – ехала ў горад не дужа каб багата вяскоўцаў. Мітрафан з гармонікам сеў адразу ж за дзверцамі, каля матора, а Якут, пакуль уладкоўваў яго, застаўся без плацкарты: цопнулася побач, не павёўшы і брывом, Верка Канапелька, а больш і месцаў вольных не мелася. Ну і добра. Не пан, пастаіць. Тым больш – без грошай едзе. Пачаргова лыпаючы вачыма на Мітрафана, на гармонік, што прыкіпеў да ягонных каленяў, на землякоў, сонных, як леташнія мухі, якія, адчуваў, пачыналі здагадвацца, куда яны з гармонікам намыліліся. Бач, відушчы сляпога цягне, як рак здабычу пад корч. Не проста ж так Верка Канапелька, хаваючы здзеклівую ўсмешку ў рукаў, крэкнула-пырснула:

– Вы ніяк у горад, Мітрафан з Якутам, вяселле граць? У рэстаран, га?

Калі гамана ўнялася, Якут сказаў пераканаўча і горда:

– Хопіць нішчымную бульбу трэскаць! І каўбасы хочацца!

– Дык і мяне з сабой вазьміце, – сумелася жанчына.

– Без касіра абыдземся, – ціха мовіў Якут. – Баба на караблі – кепская прыкмета. Сядзі і не рыпайся.

Месца Мітрафану Якут прызначыў пад высокім і тоўстым, як абхапіць, ясакарам. Добрае месца: люднае і зацененае. Шапка ляжала перад самым гармонікам, а Якут трымаўся крыху паводдаль, каб не мазоліць вачэй, і крадком сачыў, як уздзейнічае музыка на праходжых. Уздзейнічае. Палоніць. Апускаюць, апускаюць у шапку пакамечаныя дзяржзнакі. Значыць, парадак. Якут, нібы між іншым, прайшоўся каля Мітрафана, крадком зазірнуў у шапку: дробязь пакуль там, але ж і Масква не адразу будавалася. Вылучыўшы момант, ён шапнуў Мітрафану:

– Рэж, рэж з такім жа азартам. Выціскай слязу. Ёсць капуста. Цвіце. У качан прасуецца.

І пашоргаў далей, падкрэсліваючы ўсім сваім выглядам, што ён з гэтым няшчасным сляпым музыкантам незнаёмы.

Пакуль Мітрафан з нейкім мужчынам вітаўся за руку, колькі часу размаўляў з ім, то музыка, вядома ж, маўчала. Тады Якут нерваваўся, паказваў Мітрафану кулак, які трымаў у кішэні: калупаць, калупаць капейчыну, а не анцімонію разводзіць!.. А калі Мітрафан пачынаў рыпаць, твар у Якута лагодзіўся: вось так і давай, невук, і толькі яшчэ больш энергічна! Не пашкодзіць.

Дзень неўзабаве схіліўся на другую палову. З шапкі выпіраліся, бы сухое лісце, грошы. «Пара канчаць!» – прыняў рашэнне Якут і падаў голас каля Мітрафана.

– Грошы я сабе пакладу, – затрымаў пальцы на гузіках гармоніка музыка. – А тады разбяромся. Адыдзем толькі, не тут жа... Не на рабочым жа месцы.

Якут палагаднеў, дружалюбна фыркнуў:

– Не бойся ты, не абдуру. Нам жа з табой работаць. Што я, казлом буду? Ды мне ў Якуціі алмазы давяралі!

Дашоргалі да лаўкі, што дымілася на санцапёку каля аўтавакзала. Селі. Падлічылі навар: атрымалася, што можна добра выпіць і закусіць. І трошкі яшчэ адкласці можна – на кансерву-другую Мітрафану, а, таго ж, і на білет Якуту. Якут шчэрыў зубы, распрамляючы на сваім калене грошы, соп і пляваўся:

– Я ж казаў, га? Мы, значыць, з табой пляшку раздавім, закусім і паедзем у свае Абакумы – як пераможцы, як салдаты-вызваліцелі. Горда паедзем, ядрона шыш, а не як галодныя ваўкі...

Па пляшку пабег Якут, вядома ж. Купіў на «пятаку» у прыватных гандляроў, а Мітрафану сказаў, што браў у краме: сэканоміў, такім чынам, колькі тысяч. Спатрэбяцца. Хто на грашах, разважаў, сядзіць, той і адшчыкне сабе. Абавязкова.

Выпілі. Закусілі яблыкам, бо да закусі Якут не прыцаніўся: усё дарага, не для простага люду. Выпіць танней. Не псаваць жа грошы, не пераводзіць жа! Пасядзелі.

– Добры ты сёння іграў,– сказаў, пыхкаючы дымком, Якут. – Я, нашто ў мяне на поўначы вочы павымярзалі, і то заплакаў. Асабліва пра вайну калі йграў... Пра зямлянку... Шчымела душа... Можа, Мітрафан, для мяне ўрэжаш, спецыяльна? Прымі заяўку.

– Пальцы баляць. Даўно так багата не йграў,– не пагадзіўся Мітрафан.

Якут асабліва не настойваў, толькі ківаў лахматай галавой, і здавалася, на тратуар асыпаўся з валасоў пыл:

– Разумею. І хвалю. Беражы, беражы пальцы, дзядзька. Тваімі пальцамі мы яшчэ доўга будзем калупаць капейкі. Ды што капейкі? Тысячы! Хоць нам багата і не трэба. Праўда? Выпіць, з'есці чаго... Шкарпэткі во табе купіць трэба. Ці не? Калі нага голая, то, відаць, хутчэй кінуць у шапку?

– Багата не трэба... нам,– роздумна выдыхнуў Мітрафан.

Праз колькі імгненняў Якут зноў папрасіў:

– А, можа, сыграеш? Для мяне? Калі яшчэ будзе!

– А... а ў цябе грошы ёсць? – сур'ёзна паглядзеў невідушчымі вачыма на Якута Мітрафан. – Без грошай я больш не йграю. Я хоць і не бачу іх, але адчуваю іх пах. Добра пахнуць, добра!..

Якут папярхнуўся. Мітрафан гаварыў далей, пагладжваючы гармонік:

– А за футарал і за тое, што падказаў, як можна зарабляць, табе вялікі дзякуй. Далей я ўжо сам. Як-небудзь. Я, хоць і сляпы, але дарогу да кавалка хлеба, здаецца, сам бачу. Ды і завядзеш ты мяне, адчуваю, старога чалавека, не туды, куды трэба... Не заўсёды трэба відушчага трымацца. Не заўсёды...

Якут зароў, як мядзведзь, сціснуў да болю кулакі, нацэліўшы імі на Мітрафана, але спагнаў злосць на дрэве, да якога прыпёрлася спіной лаўка, заенчыў ад болю і пачаў смактаць салодкую кроў на ўшчэнт разбітай правай руцэ. І сварыўся на Мітрафана:

– Маць тваю!.. Дык што, выцер мной ногі, падла? І ты такі, як усе? Як Якуція? Як поўнач? Дык калі ж я ўжо за сваё магу атрымаць, што мне паложана-а-а?! За маю галаву... За ідзею... А ідзеі цяпер на вагу золата... Ведаеш, колькі мне трэба адваліць? Маўчыш, гад, здраднік, сволач? Ды ты год будзеш іграць толькі на мяне! Я цябе прымушу!

– Год я, Якут, не пражыву, мусіць,– спакойна мовіў Мітрафан. – Хопіць маю музыку ўжо слухаць людзям, хопіць...

Мітрафан згроб гармонік, ускінуў яго на плячо, і, намацваючы дарогу кіёчкам, ціхенька пашоргаў у бок шумлівага аўтавакзала. Якут пэўны час стаяў каля лаўкі і парожняй пляшкі з недагрызеным яблыкам, ногі не слухаліся яго: ён не ведаў, што яму рабіць – даганяць сляпога музыку ці, можа, ужо не трэба.

Але пабег...

## ЧАБАТОК

Даўным-даўно, калі яшчэ Чабаток не быў Чабатком, а ведаўся кожнаму як Колька, сын Мітрафана Крупенькі, бацька купіў яму на кірмашы ў Журавічах стаптаныя і пацёртыя чобаты. Колька горда швэндаў у тых чобатах, хоць і цягаў ногі па зямлі, бы да іх былі прывязаны грузілы, а падымі нагу, дай ёй хоць трошкі паслабленне – яна і вылузнецца з халявы. І тады Колька зробіцца звычайным хлапчуком, як і ўсе, – бесчобатным. Шурча ці Косцік тут як тут: дай панасіць! А дулю не бачылі? Яны, чобаты, у адно імгненне зноў аказваліся на босых Колькавых нагах. Чаго захацелі – панасіць! Ведаем такіх: нацягнуць на свае парэпаныя ногі, тады дапрасіся, каб вярнулі назад. Шурча дык і зусім прысвоіць можа, ён што не прыхопіць чужое, тады моцна трымае, нібы сваё, вяртаць назад яму заўсёды цяжка, будзе выдумляць розныя байкі пра тое, што ў яго на вайне ўсе загінулі, палі смерцю герояў... і на пальцах пералічыць – хто. Ды хоць і загінулі – што ж цяпер карміць і паіць цябе? Скібкай хлеба, бывае, і падзеляцца хлопцы. Але ж чобаты – не кратаць, прэч рукі ! Гэта самая найвялікшая каштоўнасць, якую меў на той час кірпаносы Колька.

З лёгкай рукі некага Колька і стаў Чабатком. Яно ж і праўда, калі паглядзець на яго ў чобатах – смех душыць, бо абутак крыху меншы за яго самога, а ногі боўтаюцца ў халявах, мусіць, як чайная лыжка ў шклянцы.

– Падрасцеш – самыя будуць,– іншы раз, бачачы, як вохкае-ахае і сапе, шкрабучыся па вуліцы, сын, суцяшаў бацька. – Толькі беражы. Надоўга хопіць. А новых не накупляешся...

Чобаты тыя паслужылі Кольку нядоўга: неўзабаве яны былі падобныя на ашчэраную пашчу шчукі, і ў чым ён хадзіў далей – не так і важна. Важна іншае – на ўсё жыццё застаўся Колька Чабатком. Людзі, здаецца, і зусім забыліся, што ён – Колька, Мікалай Мітрафанавіч. Чабаток ды Чабаток. І жонка так кліча.

Чабаток марыў стаць багата кім, нават закончыў Буйнавіцкую «акадэмію», стаў трактарыстам-машыністам шырокага профілю, але не склалася: забурыў паркан у старой Понціхі, пакрэмсаў грады. Атрымлівай, Чабаток, што заслужыў: вось табе вілы- варсачы ў рукі, давай, браток, на салому.

Так-сяк даклыпаў Чабаток да пенсіі. Але піць меней не стаў. І калі адны б'юцца з жонкамі, добра ўзяўшы на грудзі, іншыя хваляцца сваім геройствам на будоўлях камунізму ці ў арміі, то Чабаток

нярэдка залазіць у калодзеж, што цераз дарогу ад ягонага падворку. І тады вясковая дзятва гучна і шчасліва рассыпае наўсцяж:

– Зноў Чабаток у студні! Зноў Чабаток у цэбры! Босы!.. Ура-а-а!

Той-сёй з вяскоўцаў падыходзіць да калодзежа, глядзіць уніз, дзе, абхапіўшы «дзюбу» жураўля, бліскае вузенькімі масляными вочкамі Чабаток, а потым страляе угару правай рукой:

– Мой ульціматум вам, ядры ў корань! Толькі папярэджваю: я не тэрарыст, а справядлівы, чэсны мужык! Чулі? Ці заклала? То прачысціце вушы! Лічу да трох! Р... раз! – Ён раптам спахапіўся, успомніў, што не выклаў ультыматум, паправіўся. – Ад... бой! Пра ульціматум, ядры ў корань! Значыць, так. Самалёты і даляры мне не трэба. І Турцыя таксама. Старшыню сюды, ядры ў корань!. Чуеце? Старшыню-ю-ю!

Старшыня ж, бы пачуў голас Чабатка, тут як тут: праязджаў якраз міма на сваім легкавіку, запрыкмеціў купку людзей ля калодзежа. Наблізіўся, павітаўся.

Дзед Сёмка змахнуў з галавы картуз, падаў тулава наперад:

– Вас просіць, Савельевіч.

– Хто? – коратка папытаў старшыня і, падобна было на тое, сам здагадаўся, бо адразу ж і мовіў. – Калі Чабаток просіць, то я ўжо тут.

– Ён, ён, – дзед Сёмка нацягнуў кепку.

Старшыня абапёрся рукамі на зруб, звесіў галаву, сустрэўся позіркам з траха разгубленым Чабатком:

– Ты чаго хацеў, цыркач?

Жонка Чабатка, скрыжаваўшы рукі на грудзях, слёзна ўздыхнула-выдыхнула:

– І калі ўжо ў краме перастануць гарэлку прадаваць?

Мужчыны дружна зашыкалі на кабету, і тая не рада была, што заікнулася пра гарэлку.

– Крама тут ні прычым, – заступіўся за мужчын і старшыня. – Злоўжываў твой гаспадар і пры сухім законе – бы з-пад зямлі даставаў пітво. Не ўмее піць – няхай смокча цераз анучку... самі ведаеце, што.

– А калі і ў краме не будзе, то знойдуцца ў нас бабы, якія любую краму пераплюнуць,– памяркоўна заўважыў нехта з мужчын. – Чымергесу накапаюць столькі, колькі ў Чабатковым калодзежы вады не будзе. Яны і цяпер не спяць у шапку. Шавеляцца. Так што, маладзіца, глядзі за сваім Чабатком, а нам кіслард не перакрывай, на галодны паёк, значыць, не садзі. Ясна?

Пацішэла. Старшыня ўсё яшчэ глядзеў на Чабатка, той на імгненне зніякавеў.

– Вылазь, дзядзька, з калодзежа, вылазь, не псуй ваду, – загадаў старшыня. – Не сорамна? Дзеці дарослыя ўжо. Сын начальнікам у горадзе, дачка ў нашай школе настаўніцай робіць, а бацька сорам згубіў – у калодзеж зашыўся. Як яна вось, дачка твая, дзеткам у вочы паглядзіць? Ты падумаў пра гэта, Мітрафанавіч?

Чабаток набраў паветра ў лёгкія і гыркнуў:

– Мой калодзеж!

Дзед Сёмка ад пачутага разявіў рот:

– Анціхрыст! Га? Чулі? Бачылі? Яго калодзеж! А цэбар як мяняць, то да мяне: Сёмка, зрабі, змайструй, выштукатуй. І журавель выстругай – таксама. Ды і як мы гэты калодзеж капалі, цябе і блізка не было, блазнюк. На другім канцы вёскі жыў тады. Прысвоіў калодзеж, паразіт, і вокам не міргнуў. Во як бывае. Наш калодзеж!

– Тое, што ты рабіў, дзед, усё правільна, – выплылі з калодзежа словы Чабатка. – Не пярэчу. Не маю права. Але я тут жыву. Таму і мой. Залезь хоць раз сюды, тады мянці. Залезь! Га, язык праглынуў? То-та і відаць! А там, наверсе, языком шлёгаць, нібы пугай, усе майстры вялікія. Адзін вучоны ў бочцы сядзеў... тэлевізар глядзець трэба... А я ў калодзежы сабе месца аблюбаваў. Хай бы той вучоны ў калодзеж залез. Не дадумаўся. Ды і куды яму, таму вучонаму, да Чабатка?!

– Во і пагавары з ім, – здаўся дзед Сёмка, махнуў рукой.

– Пакіньце яго аднаго, – параіў старшыня. – Няхай сядзіць! Паглядзім, колькі вытрымае. Герой! Хадземце адсюль, людзі.

Людзі паслухаліся старшыню, падаліся ад калодзежа, але іх спыніў глухі і патрабавальны голас Чабатка:

– Стаяць! Стаяць, я сказаў!

Знерухомелі, паглядзелі на старшыню: як паводзіць сябе – ісці, стаяць?

А Чабаток працягваў:

– Не для таго ў калодзеж залез, каб проста так даў вам разысціся, ядры ў корань. І старшыню не для таго заказваў. Старшыня, ты не ўвільвай. Ты набярыся мужнасці, цярпення і прымі мой ульціматум.

І ўсе зноў вярнуліся да калодзежа.

– Давай свой ультыматум, а то ў мяне няма больш часу назіраць за тваёй дурасцю, – звесіў, як і раней, галаву ў калодзеж старшыня.

– Не вылезу, пакуль не дасі мне цвёрдае слова кіраўніка... Мне і ўсім пенсіянерам, асабліва адзінокім бабам. Бабы, за вас заступаюся,

ядры ў корань!.. Гэта тыя разы я ў калодзежы спяваў, горла дзёр. Хопіць быць салаўём. Хопіць! Не вылезу, пакуль не дасі слова. А ульціматум, ядры яго ў корань, такі. Запамінай. Ці запісвай. Хопіць з нас, пенсіянераў, хворых і нямоглых, па тры скуры здзіраць. Я пра што? А я пра тое, што як старшыня ты гаўно, самае сапраўднае. Што ёсць, што няма цябе… адна трасца.

Землякі адчулі сябе няёмка перад старшынёй, засарамаціліся Чабатковых слоў, пачырванеў крыху і сам старшыня, а яму, бачце, хоць бы хны – лапоча і лапоча:

– Квітанцыю на трактар, каб прывезці гной з фермы, я выпісаў. Нават, даруйце, два квіткі. Адзін – што заплаціў за трактар, другі, пазнейшым чыслом,-- за пагрузчык. Ты мне, Савельевіч, ядры тваю ў корань, сам падмахнуў на тых квітках… Было? Ці выплутала? Маўчыш? А што ты можаш сказаць, калі чыстая праўда? То- та ж! Грошы ўнёс у калгасную касу, як і паложана. А трактарысты заяўляюць: тое, што ты ў кантору аддаў грошы, нас не калыша. Плаці і яму. Купюрамі ці гарэлку давай. І называюць – колькі чаго. Дык дзе мы жывём? У якім обшчастві? І навошта нам тады такі задрыпаны старшыня, які не можа навесці парадак? Ды каб жа я хоць адзін такі быў. Нас жа процьма, ядры ў корань, такіх. Давай слова, што навядзеш парадак, што не дазволіш нас абскубаць, як стог сена. Іначай утаплюся.

Людзі глядзелі на старшыню. Чабаток сказаў яму тое, што карцела сказаць і многім з іх, аднак не хапала смеласці, адвагі. Не было, вядома ж, той смеласці і ў Чабатка – гарэлка падштурхнула. Яна, спакусніца.

– Ён утопіцца,– хітра паглядзеў на старшыню дзед Сёмка. – Шкада чалавека. І дошак у калгасе няма сухіх. На дамавіну.

– Прымі яго ульціматум, старшыня,– папрасіла і жонка Чабатка. – Які ні мужык, а мужык. Ён калі не п’е, то добры.

Старшыня надыбіўся:

– А калі ён не п’е?

Жанчына развяла рукамі, зашамкала ротам, аднак ніхто ад яе ніякіх слоў не пачуў. Ды і што ёй было сказаць, калі чорнае яно і ёсць чорнае, як ты тое не называй? П’е. І дужа. Хоць з калодзежа і падаў быццам бы правільныя, цвярозыя думкі. Няма, няма ў калгасе парадку. Крыўдзяць гэтых старых, выпрацаваных людзей, маладзейшыя. Вось паказаць бы ім, нехрысцям, той калгас з адной ручной саломарэзкай і з адным кволенькім трактарком «Фардзонам», калі на працадзень клалі па пяць капеек, па жмені зерня і бульбы. А

зарабі яшчэ той працадзень! А сёння яны – бач ты! – гані, бабуля, грошы ці пляшку, трасі сваю панчоху, старая. Нахабнікі!

Неяк узімку Чабаток вяртаўся на кані з суседняй вёскі, з Падгор'я. Было холадна, марозна і ветрана. Насоўваўся доўгі стылы зімовы вечар. Наперадзе бег Жук, сабака разумны і верны, быццам паказваў каню дарогу. І раптам ён шалёна забрахаў, конь адразу ж стаў на дыбкі. «Што такое?» – захваляваўся Чабаток, і ўбачыў на дарозе чалавека, які ляжаў прама перад канём, шырока раскінуўшы рукі. Ён подбегам кінуўся да яго, пазнаў: трактарыст Бублік. Так-сяк узвалок на санкі і, пакуль ехалі да вёскі, расціраў яму рукі, шчокі, нос. Дыхае, то будзе жыць. А калі і адмарозіў што, то не яго, Чабатка, віна. Прамым ходам да хаты Бубліка, паклікаў жонку, удваіх ледзьве давалаклі да ложку. Выратаваў чалавека. Дык вось той самы Бублік увесну прывёз Чабатку дошкі з піларамы, вытрас іх з прычэпа, Чабаток падзякаваў, а той топчацца перад гаспадаром, як усё роўна мядзведзь, калі хоча ў адхожнік. Чабаток яшчэ раз падзякаваў, на што пачуў кпін:

– «Дзякуй» не булькае.

Размацюгаўся тады не на жарт Чабаток, ух і начапляў ён на Бубліка ўсялякіх вострых слоўцаў. А дома, жонцы, за абедам гаварыў хваляпадобным голасам:

– Ці ёсць у людзей сумленне, баба?

– Мала ў каго,– пагаджалася жонка.

– Але ж ты помні, гад, што цябе ад вернай пагібелі выратаваў, Бублік засохлы. Калі б я трошкі пазней выехаў... то я б у яго, гада, сядзеў за сталом на памінках. А ён: «дзякуй» не булькае. Паразіт. Крывасмок. Ну, ці бачылі? Век дзякаваць мяне павінен... ці не так, баба?

– Так, так.

– І я кажу: так. Век дзякаваць павінен, а ён і не помніць нічога. Памяць у яго дзіравая, як рэшата. Хоць не памяць у яго дзіравая, а сумлення няма ні на грам. Вось і наладзь з такім жыццё. Не, я не цукар таксама. Але за свае п'ю... у асноўным. Магу цяпнуць і на дурніцу. Але каб мяне хто падабраў на марозе, я б на яго агародзе за бясплатна рабіў, пакуль мае пальцы слухаліся б, пакуль гнуліся б.

– Еш ужо, а то боршч пакалее, – кіўнула жонка на стол. – Ды пойдзем дошкі складзем. Няхай сохнуць.

Але Чабаток злосна шпурнуў на стол лыжку, устаў:

– Пайшлі, ядры іх!.. А бутэльку куплю... сам не вып'ю, а яму аднясу. Аднясу-у!

Бублік і ўзяў бутэльку гарэлкі. Нават вокам не міргнуў. Яшчэ і нагадаў:

– Калі зноў што трэба будзе, Чабаток, то звяртайся. Каго каго, а цябе выручу.

Аднак больш да яго Чабаток не звяртаўся, і чамусьці вельмі хацеў, каб той зноў трапіўся яму ўзімку на дарозе, каб ляжаў, як тады, з шырока раскінутымі рукамі і белым носам... Але, падумаўшы пра гэта, Чабаток адразу ж пляваўся і шкадаваў сябе, што ён усё роўна б так зрабіць не мог, каб не падабраць. Ніколі. Падабраў бы. І не толькі Бубліка – любую жывую істоту, якая б аказалася ў бядзе.

Цяпер вось, седзячы ў калодзежы, Чабаток чуе голас Бубліка:

– Ды што, старшыня, з ім цацкацца? За шкірку ды ў кутузку! На казённы харч! На мятлу! А то ў горадзе захламлена, як у нашым лесе.

На Бубліка, здаецца, зашыкалі? Так і ёсць. Чабаток абрадаваўся.

– Не, я вылезу, вылезу, падла!-- пачаў карабкацца ўверх Чабаток, але сарваўся – ведама ж, рукі натрудзіў, не слухаюцца, і плюхнуўся ў халодную ваду. – Вось цяпер я вылезу. Толькі трымайце таго гада, Бубліка засохлага! Трымайце. Старшыня, і ты не драпай. Ульціматум усё роўна застаўлю цябе прыняць. Хоць на моры, хоць на сушы. Эй вы, цягніце мяне-е! Я ў цэбар нагой залез. Давайце!

Што яго было цягнуць? Некалькі дужых мужчынскіх рук падхапілі журавель, і Чабаток выпырхнуў з калодзежа, бы з катапульты, і ў людзей, якія глядзелі на яго, падалося, адняло мову... Ён стаяў, мокры і смірны, нават і не думаў кідацца на Бубліка, не глядзеў і на старшыню. Ён глядзеў на ўсіх адразу, маленькія вочкі бегалі, мітусіліся, а ў выцягнутай руцэ трымаў утоплага чорнага ката. Строга спытаў:

– Чый?

Жанчыны, што бяруць ваду ў гэтым калодзежы, адвярнуліся, пачалі ікаць, затуляць далонямі рот, а Чабаток паўтарыў пытанне. Што цяпер высвятляць, чый кот? Цяпер людзей хвалявала іншае – як жа яны пілі ваду з калодзежа, у якім ляжаў... і, пэўна ж, не адзін дзень гэты нязграбны кот? І як ён уваліўся туды? Абшамкнуўся, ганяючыся за птушкай, ці што? Добра, ой і добра, што набраўся сёння Чабаток! А то колькі б яшчэ пілі яны тую ваду?

Назаўтра чысцілі калодзеж. Паколькі Чабаток вялікі спецыяліст апускацца на дно, то яго пасадзілі ў цэбар – усё той жа адной нагой – і асцярожна плюхнулі цэбрам па вадзе.

Першы раз у калодзеж Чабаток апусціўся цвярозы.

## КОНЬ БАБЫ ДУНІ

Вунь яна, баба Дуня, вунь. За шчарбатай брамкай мільганула постаць. Ці не яна, ці хто іншы шкрабецца па двары? Прыслухайцеся, так лепш будзе: чуваць, чуваць яе крокі, а яшчэ больш – лаянка. Жывая, значыць, а людзі, бач ты іх, мянцілі языкамі абы што... Выходзіць, пэўна, з двара? Так-так, нарэшце. Даўно не было відаць старой, даўно. Спярша паказваецца конь бабы Дуні – тонкая арэхавая кавенька, якая доўга намацвае зямлю, быццам вынюхвае нешта,-- і такое ўражанне, што яна, кавенька тая, цацка нейкая, і ёй кіруюць няйначай па радыёсувязі, схаваўшыся за вуглом, – доўга і прыдзірліва выбірае, дзе ўтыкнуцца-зазямліцца, а трохі пазней з'яўляецца і нага старой у чырвонай бахіле, не адразу – другая. Старая крэкча, войкае і ахае, а тады, выкуліўшыся нарэшце за брамку, з палёгкай уздыхае: усё, выбралася, дзякаваць Богу, на людзі. Аглядаецца па баках. Бачыць мала што: вочы толькі для слёз. І чуе зусім дрэнна – але лепш, чым бачыць.

– О, баба Дуня, ты зноў з канём ?! – каля хаты старой збуцвелы калодзеж, і Мітрафан, пераліваючы ваду з цэбра ў вядро, вясёлымі вачыма глядзіць на яе: ён, па ўсяму відаць, рады бачыць суседку.

– З канём, з канём, – выдыхае баба Дуня.

– І куды ж едзеш?

– А во пастаю, падумаю... Я такі яздок, што куды хочаш магу заехаць.

Мітрафан панёс вядро з вадой, яго двор насупраць, а старая стаіць на адным месцы, бы прырасла. Маленькага расточку, сухенькая, прыгорбленая, баба Дуня і праўда вырашае, куды ёй схадзіць. Крама яшчэ зачынена, бо рана: загадчыца і прадаўшчыца – яна ў адной асобе – жыве ў суседняй вёсцы, прыязджае на веласіпедзе пазней. А то там звычайна збіраюцца вясковыя кабеты, бы на сход, і гамоняць пра жыццё, а заадно чакаюць машыну з хлебам. Пакуль хлеб той ці селядзец падвязуць, яны во ўжо нагаворацца ўволю!

Даўно не была ў краме баба Дуня, даўно. Сёння можна схадзіць: Танька, яе нявестка, паехала ў горад, бачыць не будзе... І кавенька з'явілася ў старой, цяпер, пакуль зноў не адбярэ яе Танька, жыць можна. Так вось і бывае: калі не мелася кавенькі, то хацелася старой праведаць і сястру, яна на канцы вуліцы жыве і яшчэ больш хворая і нямоглая, чым сама, і да суседкі зазірнуць, не кажучы ўжо пра краму, а як надарылася магчымасць, то во стаіць на адным месцы,

бы і сапраўды ў зямлю ўрасла, і не ведае, куды пайсці. І тады баба Дуня, торкаючы перад сабой кавеньку, шоргае бахіламі да былога вясковага клуба—у ім жывуць малдаване, муж і жонка – а паўзбоч яго прыцёрлася вузенькая палоска затравелай дарогі, па якой возяць у апошні шлях вяскоўцы нябожчыкаў. Людзей у Плоскім жыве мала, двароў тут заўсёды было няшмат, таму і зарасла дарога – няма каго хаваць, а калі і памрэ хто, то бывае такое рэдка: спі, дарога. Так- сяк дачыкільгала старая да пагосту, аддыхалася, адкашлялася, а тады пахвалілася Міцьку, які спіць пад акуратным грудком:

– Прыйшла, прыйшла, сыночак...

Ёй, пэўна, і сапраўды здаецца, што Міцька чуе яе, толькі адказаць не можа і баба Дуня падсядае, бы на ложак, да сына на грудок, гладзіць дрыготкай рукой зямельку, і расказвае яму пра сваё жыццё. У краме ўсяго не скажаш – там слова якое лішняе выпусціш і не рады будзеш: людзі дадумаюць, перакруцяць-пераверцяць і адразу ж Таньцы данясуць, хоць кожны прылюдна ганьбіць яе, папракае, што не глядзіць належным чынам за бабай Дуняй, а пенсію да капейкі прыбірае да рук ды яшчэ апякунства аформіла ў сельсавеце, бессаромніца. Яно так і ёсць. Чыстая праўда. Але ж навошта Таньцы пераказваць? Хіба ж яна не ведае і сама, што так нядобра рабіць? Ведае. Але ўжо чалавек такі: ёй хоць плюй у вочы, а яна будзе гаварыць, што дождж ідзе. Нядоўга размаўляючы са старой, Танька хапае кавеньку, якую старая звычайна не выпускае з рук нават у хаце, паламае-пакрышыць і кіне на загнет ці далей у печ.

– Сядзі дома! Не будзеш поўзаць і плакацца ў жылетку, ведзьма старая! Даглядаю яе, бачыце, не так! А хто ты мне? Хто? Гэта калі Міцька жыў, то раднёй была. А цяпер я б і не глядзела ў твой бок, каб не грошы тыя. Але ж бацька спіць, а дзетак мне, п’яніца бессаромны, пакінуў: гадуй- расці, Таццяна! Дык ты што, мяне папракаць за грошы тыя будзеш? Пачую яшчэ раз, то во табе прынясу і малака, і супу!--Танька варсае старой пад нос – як не пратыкне яго – дулю і вьслізвае з хаты.

Што яна ёй адкажа, баба Дуня? Пакуль адно слова падбярэ і тое вымавіць не паспее, у Танькі іх сто вылятае, і тады хоць вядро якое, ці што, ад іх на галаву надзявай, каб не чуць. Бач ты, Міцьку вінаваціць, што памёр, а дзетак пакінуў. А хіба ж не ты сама вінаватая, што сына зямля прыбрала? Маўчыш, Танька! А ты скажы, скажы! Каб усе пачулі. У краме. Выйдзі на цэнтр і скажы: «Гэта, людзі, я сама паслала Міцьку на смерць... П’яны ён быў. Дужа. Хістаўся ажно. Ён, відаць, што і памёр не ведае. А да нас жа ў той

вечар прыбегла Манька з Буканаўкі, пілі разам, утрох. І я папрасіла, паколькі моцная завіруха была, правесці Маньку, бо магла заблудзіцца і прапасці. Міцька і павёў. Калі вяртаўся назад, то заснуў на рэйках, таварняк яго і пераехаў». А цяпер, нягодніца, п'яніцам яго называе. Міцька не чуе, канешне, гаварыць можно што хочаш, аднак баба Дуня верыць, каб Міцька быў жывы, то за такія словы Таньцы ох і дасталося б!

– З канём, сынок, то і прыехала, – старая ўзнімае кавеньку. – Бачыш? А без яе я – як без ног… У мяне і яшчэ дзве ёсць. Схавала. Далёка схавала. Каб Танька не ўбачыла. Патрушчыць. Яна каня майго пакусаць гатова – столькі злосці ў чалавека. «Сядзі дома, старая цяцера, не поўзай!» А хіба ж мне адной дома сядзець добра? Хоць задавіся… Ні радзіва, ні жывой душы… Адна. З катом хіба пагаворыш? Дзеці ж твае дарослыя, у іх свае сем'і. У Гомелі жывуць, калі ў цюрме не сядзяць… Яны мяне і пашкадаваць, бачу, хочуць, але ж матка не пазваляе, цыкае. Тайком, бывае, заходзяць. Калі ж Танька таму, хто мяне ўважыць, мені ў торбу гасцінцаў кладзе. А есці ж хочацца дзеткам. Пападае і людзям, якія мне, бывае, паспачуваюць… Не дае нават і глядзець ім у мой бок. Забараніла. А людзям што? Не трэба дык не трэба. Барані Божа, калі загавару з кім! Адразу на Танькіны вокны паглядаюць: ці не відаць яе, а то будзе бяды. Праўдацькі. Яна ж, Міцька, – гэта ж ты ведаеш ці не? – да цябе ніколі не прыходзіць і дзетак не прывучыла. Нават на радаўніцу. Тыя прыязджаюць іншы раз на радаўніцу, а на пагост не ідуць… у хаце патаўкуцца- патаўкуцца і паедуць. А калі яна, Танька, акрамя як сябе, каго больш любіла? Дзяцей жа пазапіхала тады адразу ў дзіцячыя дамы, а там з іх бандзітаў парабілі. Во так во!..

А ці помніш ты, Міцька, як я казала табе, каб прагнаў ты Таньку, калі яна сама да цябе прыбегла? Помніш. Ёй у школу трэба, а яна да цябе. Не хапіла ў мяне тады смеласці яе вытурыць. Добра было б, ох і добра!

Баба Дуня пэўны час маўчыць. Не дужа любіць і сама яна варушыць старое, бо старое тое не вельмі прыемнае для яе. Каб, разважае, не прагнала Кацю з першым сваім унукам, калі Міцьку ў армію забралі, то і Танькі не было б… Прагнала ж. А тады, калі сын вярнуўся са службы, не пусціла і на парог. Віна тут яе, што так атрымалася. Можа б, і Міцька жыў. Ды і жыў бы, Манька ж не Кацькіна сяброўка і яе не трэба было праводзіць у завіруху…

Абмінуўшы гэты штрышок у сваім жыцці, баба Дуня далей скардзіцца сыну на Таньку, зноў шкадуе, што была вайна і не

вярнуўся Платон, а то б і дзетак у яе мелася больш, а не адзін Міцька, і было б тады каму заступіцца за яе... Паплакала. Пабедавала. А тады цяжка ўзнялася, сказала ціха і пакутліва:

– Гэта каб можна было адчыніць дзверы і прыйсці да цябе, Міцька, я б прыйшла... яй-бо... бо мне ўжо цяжэй датупаць да сваёй хаткі... каб не ісці мне ўжо дамоў... то і добра было б...

Баба Дуня шоргала бахіламі па ўтравелай дарозе і якраз тады пачула, што да крамы пад’ехала аўтамашына. Пазнала: хлебная. Тая заўсёды так гырчыць. У краму сёння яна спазнілася. Жанчыны набяруць зараз хлеба і разыдуцца, і толькі ўбачыш іх.

А ёй, між іншым, і не трэба сёння туды – з сынам нагаварылася. Забылася, праўда, сказаць яму, што адразу тры кавенькі зрабіў ёй праўнук Колька і сказаў, жэўжык, перадаючы іх: «На аднаго каня сядай, бабуля, а двух схавай, каб бабушка Таня не бачыла. Запражэш, калі трэба будзе».

На праўнукавым кані яна зараз і едзе...

## СТАЖОК

Стажок сена – не надта каб вялікі, але і капой яго не назавеш, стажок, адным словам,– Мікіта склаў апоўдні, калі сена добра абветрылася, было надзвычай сухім і пахкім. Ды што стажок! Каго гэтым здзівіш? Трымае карову чалавек, карміць худобу трэба. Але аднавяскоўцаў уразіла іншае – стажок той «выгабляваў» гаспадарлівы Мікіта не на агародзе каля пунькі, як звычайна, а на вуліцы, усутыч з парканам.

– Ты што гэта, Мікіта?– не зразумеў сусед Панкрат, аглядаючы стажок. – Тут жа, на вуліцы, што з тваім сенам будзе? Бясплатны корм. Кожная карова не праміне хоць разок лізнуць. Зусім змізарнее стажок, яй-бо, на мяне будзе падобны. Не, не разумею цябе, братка. Быццам і чалавек ты сур'ёзны...

І многія іншыя вяскоўцы дзівіліся: здурнеў, не інакш, Мікіта, стажок паставіў прама на вуліцы – кароў людскіх дражніць толькі... Ды знойдуцца і такія, што і зусім прыбяруць яго да рук: што там яго ўскінуць на калёсы?

А Мікіта хехекнуў сабе ў канапляныя вусы, чухаў патыліцу раз-пораз, бы ўспомніўшы, што хворы, моршчыўся і войкаў, аднак людзям ахвотна паведамляў:

– Лячыцца буду. Спіну ломіць, а сена, ды яшчэ лугавіца, – лепшы доктар. А што да кароў, даражэнькія, то яны ў Мікіты дулю атрымаюць – як беглі міма майго двара, так і пранясуцца. Не адшчыкнуць. Не хвалюйцеся.

Назаўтра, ледзь пачало днець, Мікіта прадраў у стажку нару, сена, што выскуб, паклаў тут жа, перад лазам,– атрымаўся ніяк ганак,– і абапёршыся на яго рукамі, стаў ракам і задам, уставіўшы ў нару спярша адну нагу, потым другую, з крэктам пасунуўся ў яе. Неўзабаве адтуль тырчэла толькі галава старога, і ён нагадаў цяпер чарапаху ў панцыры.

– Усё ж залез? – цмокаючы і хітаючы галавой, узбурылася жонка, Варка. – І што ў цябе, у пня старога, у галаве? Што – не ведаю, не залезеш жа, як ты ў сена, але клёпак не хапае. Гэта ж трэба – у стог забрацца! Ды з цябе ж людзі смяяцца будуць.

Мікіта махнуў рукой на Варку:

– Ідзі і не сакачы. У мяне пачаўся сеанс, панімаеш, а ты можаш сапсаваць настрой і наробіш шкоды – увесь сеанс тады кату пад хвост. Зразумей. Паспачувай хвораму...

– Ды дзе ты бачыў, каб сена лячыла? – не дала даказаць яму Варка. – Каб лячыла, то не выраблялі б таблеткі, а кожнаму б далі па стогу... усе б і сядзелі ў стагах.

– Іш, размахнулася! На ўсіх, маладзіца, не хопіць стажкоў, – зручней уладкоўваючыся ў нары, заварушыўся Мікіта. – Калі ўсе будуць сядзець у сене, то коні і каровы загавеюць. Ад голаду. А стажок, я табе скажу,– для выбраных: такіх, як я. Ідзі ў хату!

Варка плюнула і схавалася ў двары.

На што разлічваў Мікіта, так яно і атрымалася: вёска была ўзнята на ногі.

– Чулі, Мікіта здурнеў? У стажок зашыўся, толькі макацёр тырчыць.

– І рукі!

– І рукі, так-так. У іх ён газетку трымае. Раёнку. Дагары нагамі.Сам бачыў.

– Дагары – гэта з твайго боку. А ён правільна трымае газету.

– Можа і так. У акулярах, брат. Як прахвесар.

– Калі захварэеш, то і брыдоту розную глытаць будзеш, а засунуць азадак у стог – бяды тае.

– Ды ці ён, Мікіта, хворы? Артыст!

Калі дзень пакаціўся на другую палавіну, Мікіта, распараны і лагодны, спаў у стозе. Скрозь сон быццам пачуў: «Спіць. Хай спіць. Не будзем турбаваць. Ды і лечыцца... Нельга яму піць». І Мікіта загадаў саба: прачнуцца, прачнуцца, прачнуцца! Атрымалася. Ён залыпаў вачыма, змахваючы рукой сена з твару:

– А, гэта вы, гвардзейцы?

– Мы,– адказаў сухарэбры Цімка.

– Хацелі прапанаваць табе, ды, бачым, нельга – на працэдурах,– развёў рукамі Смык і памацаў тое месца пад вокам, якое было сінім і, відаць, балела. – Самы разгар у цябе...

– Пацею, землячкі, пацею. А мокрая спіна, хоць ёй і не дужа прыемна, уцягвае лекі ад сухой травы з небывалай сілай,– баіў суседзям Мікіта і не зводзіў вачэй з адтапыранай штаніны Цімкі. – Магнітам. Ага.

– Ну, лячыся,– Смык наважыўся ісці і паглядзеў на Цімку.– Пайшлі, братан?

– Не-не-не!– Мікіта праглынуў даўкі камяк. – Мне якраз і можна... тое, што ў вас. Калі сенам лечышся, яно, халера, і лацвей, глынуўшы... Ага. Тады пацееш лепш. Не вам жа гаварыць. А ўвесь цымус лячэння – у пацэнні. Так што – можна. Ага!

Цімка забулькаў у шклянку і падаў Мікіту:

– Табе, хворы. У горадзе калі жыў, то там прафсаюз пасылаў праведаць хворага ў бальніцу. Пяць рублёў выдзяляў. На бутэльку хапала і на прысмакі. Жылі-і! А мы цябе, Мікіта, так праведаць рашылі. Самі. Пі, пі. Шклянка трэба.

– Ага! – Мікіта паднёс пітво да рота, але выпіць яму было не так проста, давялося павярнуцца на бок. Аднак не разліў – усё што было ў шклянцы, трапіла па прызначэнню. Да кроплі.

Праведаць старога прыходзілі і іншыя вяскоўцы – яго равеснікі і людзі маладзейшыя, нават тое-сёе прыносілі. То яблык, то сліву, а Макар купіў у краме бутэльку мінералкі і, раскаркаваўшы, падаў хвораму:

– Пі. Лячэбная. Напісана на этыкетцы багата чаго...

Ад дзяцей адбою таксама не было: так і стараліся, нехрысці, каб пашчакатаць травінкай каля носа дзеда. Варта было згубіць хоць на хвілінку яму пільнасць – і дзеці, задаволеныя, што Мікіта фыркае, ажно сліна ляціць у розныя бакі, смяяліся на ўсю вуліцу.

Мікіту адбіла ад дзятвы Варка. Яна, жанчына хоць і крыклівая, але мяккая і ўступлівая, прынесла яму вячэру, бо стары паабяцаў не вылазіць са стажка на ноч гледзячы: лячыцца дык лячыцца, сеанс павінен быць непрарыўным. «Так больш эфекту».

– Кыш! – замахала рукамі Варка на дзяцей, паставіўшы прынесеную ежу перад Мікітам. – Кыш адсюль! Чалавек лечыцца, а яны гагочуць, як гусі. І не сорамна? Пад вокнамі ж бальніцы вы не гагочаце. А тут – можна? Кыш!

Тых і след прастыў. А што – пацешыліся, задаволіліся і хопіць: дзеці падоўгу нічым не займаюцца – хай добрае нешта робяць, хай шкоду. Надакучвае.

Варка карміла старога проста з лыжкі. Падавала ў рот бульбяное пюрэ, потым сунула агурок, Мікіта адкусваў, тое ж самае рабіў ён з хлебам.

Тут Варка, глянуўшы на мужа, насупілася. Папытала:

– Ты п’яны, ці што, Мікіта?

Стары абурыўся:

– Адкуль узяла? Прыснілася? Дык даўно ўстала.

– Пахне ж!

– Эх, маладзіца, – аблізваючы губы, упэўнена гаварыў Мікіта. – У тым і цымус, што сена, калі на потную спіну, пахне чым заўгодна – і гарэлкай таксама. Сена ж! Луг! Га?

– Не, пахне ад цябе больш гарэлкай, чым яшчэ нечым, – сказала Варка, але няўпэўнена.

– Ды кінь ты! Ну дзе я тут, у стозе, магу дазволіць сабе?

– Ты знойдзеш. Еш давай, а то парсюку выверну тваю вячэру!

Мікіта млява глядзеў на жонку, тая прысела побач са стажком на мурог, і разважаў пра жыццё:

– Ты бачыла, хто сёння быў у цэнтры ўвагі? Я не гавару пра Мінск і Маскву. Я бяру свой сельсавет. Я! Я быў у цэнтры ўвагі. Не здзіўлюся, калі і карэспандэнта прышлюць. Я даўно, маладзіца, заўважыў: каб звярнуць на сябе ўвагу, чалавеку трэба зрабіць нейкую дурасць. Жырыноўскі плесканув сокам са шклянкі Нямцову ў твар – і яго паказваюць.

А я стажок зрабіў. Навідавоку. І пра мяне загаварылі. А то, мусібыць, і забыліся ўсе, што недзе жыве Мікіта Юр'евіч Сомаў. Дык я і напомніў пра сябе.

Варка ўздыхнула, махнула рукой і патупала на падворак. Мікіта кінуў ёй услед:

– Але ж я хворы, не думай, што блазную. Каб аднаго зайца хацеў забіць,то стажок, канешне, паставіў бы на старым месцы – каля пуні. Але я двух зайцоў падстрэліў! Ты чуеш, Варка? Двух! Адным стрэлам! Ба-бах! Хай ведаюць, што ёсць, што жыве на гэтым свеце яшчэ Мікіта!

Пазней Мікіта перакінуў стажок на агарод, і вёска, здаецца, нешта згубіла: прывыклі ўжо землякі бачыць галаву старога, якая вышчаўкнулася з сена і амаль тры дні ківала ім на прывітанні. Аднак пступова і пра стажок, і пра Мікіту людзі пачалі забываць.

У кожнага з іх хапала сваіх клопатаў.

**ТРАТНІК**

Ён быў цвярозы, а рабіў заўсёды так, быццам выпіў. Не. Проста характар такі ў чалавека – несур’ёзны, крыху дзівацкі, ці што. Таму сваю ролю – бесклапотнага, добрага і вясёлага дачніка – Ціханчык выконваў без рэпетыцый, усё ў яго ішло як бы само сабой, без напружання. І ў той дзень маленькі спектакль ў Беражках пачаўся сярод белага дня. Драматургам, рэжысёрам і выканаўцам галоўнай ролі быў адзін чалавек – вы здагадаліся, хто.

Ціханчык сказаў сам сабе: «А навошта мне два радыёпрыёмнікі? Хопіць аднаго – гродзенскага «Вераса». Дзякуй сябрам. Калі ішоў на пенсію, то ўручылі. А гэты, старэнькі, але спраўны «Мерыдыян» аддам людзям: няхай карыстаюцца на здароўе ». Ён працёр «Мерыдыян » анучай, пакруціў-павярцеў у выцягнутай руцэ, палюбаваўся ім, а тады яшчэ раз пераканаўся, што працуе, нацягнуў на лысіну кепку і выйшаў на ганак. Хораша на дварэ. Сонечна, ціха. Пасля гарадскога тлуму тут ён, Ціханчык, адпачывае душой і целам. Не раз ужо дзякаваў свайму добраму знаёмаму Данілавічу, які надавуміў абзавесціся пад старасць хаткай у вёсцы, і, трэба заўважыць, не аднаго яго надавуміў. Паслухаўся. І не шкадуе. Чымся будаваць на тых сотках халупу, лацвей, канешне ж, купіць было гатовае жытло ў якой-небудзь вёсачцы. З прыбудкамі. З садком. Ды і з не благімі соткамі. Зноў жа – сярод людзей, што жывуць на зямлі пастаянна, моцна трымаюцца за яе. А гэта багата што значыць. Для Ціханчыка. І ў першую чаргу, што ты не чужы сярод іх, людзей, а – свой...

– Пайду да Колькі пастуха, – успомніў ён былога гарадскога жыхара, пузатага і добрага выпівоху. – Яму прыёмнік – самы раз: няхай раскашэліцца на батарэйкі і слухае каля кароў. Як знаходка будзе яму маё радыё. Яшчэ дзякуй скажа.

Х-ха, Колька! Некалі рабіў на заводзе буддэталяў. Вытурылі. Пабадзяўся па іншых прадпрыемствах – не было таксама фарту: дзе ж будуць трымаць цябе, калі цяпер за такіх, хто не ўмее піць горкую, не трымаюцца? Не той час. А есці нешта трэба. Вось якраз тады пенсіянер Данілавіч, у якога некалі кватараваў ён – яшчэ ў маладосці, толькі-толькі пабраўшыся з Ларыскай – а ён ужо меў у Беражках хату, падказаў яму, Кольку: за чатыраста рублёў прадаецца ў нас дамок з 1924 года нараджэння. Не хлусня. Людзі і ўзвялі ўсе хаты ў адзін год – у год смерці Леніна, гэта запомнілася ім.

– А што. І паеду!– загарэўся адразу ж Колька, плюнуў на бясхлебны горад, кватэру падзяліў з жонкай і дзецьмі: яму дасталася маласямейка. – А... а кім я там буду... у калгасе?

– Ды знойдуць табе работу,– запэўніў Данілавіч. – Якраз на ферме не хапае людзей.

Колька па першасці ўцёрся не даглядчыкам і не пастухом, а – механізатарам, палохаў курэй на шырокай вясковай вуліцы на старэнькім «Беларусу», за якім матлялася вялікая бочка: вазіў ад вежы на пашу ваду. Але каб жа палохаў толькі курэй! Даставалася і людзям страху, таму неўзабаве трактар адабралі, а пугу Колька зрабіў сам – доўгую, з раменкі. Пазней прыехала да яго і жонка. У яе была гарачая сетка, рана атрымала пенсію, гатавала Кольку ежу, мыла бялізну, а калі заслугоўваў – давала прачуханку. Харчаваліся яны добра. Паколькі грошы ў калгаснай касе меліся не заўсёды, то замест паперак можна было ўзяць мяса-сала на ферме, а то давалі калгасу – па бартэру – хадавыя прадукты: алей, цукар, тушонку. Не пуставаў і свой склеп – у ім мелася ўсё, што і павінна быць у вясковых жыхароў. Колька ж, калі сварыўся з Ларыскай, абяцаў усё кінуць- рынуць і зноў вярнуцца ў горад.

– Цябе там чакаюць,– спакойна, але колка гаварыла Ларыска.

– І чакаюць! Я, можна сказаць, выпраміўся ў сельскай мясцовасці! А ты, калі будзеш квакаць, адправішся на балота да сваіх!..

Раніцай Колька нікуды, вядома ж, не ехаў, браў пугу і «зсабойку», тупаў на ферму.

Прыгадваючы ўсё гэта, Ціханчык ледзьве не прайшоў міма Колькавай хаты. Тыцнуўся ў веснічкі – на зашчапцы, з вуліцы рукой не дастанеш яе. Паклікаў:

– Коль-ка-а! Землячо-о-ок!

Паказаўся Колька, заспаны, расхрыстаны.

– Чым займаешся, землячок?– схіліў перад ім галаву Ціханчык. – Добрага здароўечка!

Колька крэкнуў:

– Ды з Ларыскай... за грубкай... бораліся.

Ціханчык пакруціў галавой, папракнуў:

– Пра гэта ж нельга гаварыць іншым... Гэта ж інтымнае дзела... святое... асабістае, так бы мовіць.

– А хлусіць я не ўмею!– буркнуў Колька. – Чаго хацеў, прахвесар?

Ціханчык адразу перамяніўся ў твары – той запаліўся, бы лямпачка – і падняў упоравень з галавой радыёпрыёмнік, цмокнуў:

– Як, га? Хоць Лондан, хоць Парыж, не кажучы пра Маскву і Мінск. Усё бярэ! Усё !

– Ты заходзіш ці так і будзеш стаяць на вуліцы?– ссунуў бровы Колька, паморшчыўся.

– Зайду! Зайду!

На дварэ селі на лаўку. Колька закурыў, а Ціханчык адганяў ад сябе дым то адной,то другой рукой, ёрзаў, крывіўся.

– Што, нясмачна?– хехекнуў Колька. – А я ж ем.

– Кідай курыць, Мікалай, кідай!– параіў Ціханчык. – Як земляку, як гамяльчанін гамяльчаніну, табе гавару. Кідай. І грошы, што таксама сёння нямалаважна, цалей, і кірхаць не будзеш. Дык я да цябе, землячок. Хачу абрадаваць цябе...

– Пляшку, не інакш, прынёс?– настырыўся Колька.

– Не, не пляшку – прыёмнік. Вось ён. «Мерыдыян».

– А навошта ён мне?– пацісвуў плячыма Колька.

– Каля кароў слухаць будзеш. Ага. Так-так. Хоць Парыж, хоць...

Колька ўстаў з лаўкі, прытворна скрывіўся, кінуў кароткае:

– Усё ў цябе?

– Дык так аддаю, бясплатна, – устаў і Ціханчык.– Не падумай пра мяне нічога кепскага. Нічога мне не трэба. Я хачу, каб табе весялей было жыць... А з прыёмнікам весялей будзе, павер мне, старому чалавеку. Ты ж ад жыцця адстаў. Не ведаеш, што ў свеце робіцца. Вазьмі, Колька, «Мерыдыян». Вазьмі.

– Пачакай! – раптам гучна і бадзёра сказаў Колька і знік у хаце.

Краем вуха неўзабаве ён улавіў – на Кольку сварылася Ларыска: «Дык і ён, аказваецца, такі,як і ты, п'яніца, гэты дачнік! А яшчэ акуляры насіць! Бач, прыёмнік прадае. Хай толькі прыедзе яго маладзіца, я ўсё раскажу. А ты, шалапут, сядзі дома. Не пушчу на вуліцу-у! »

І веснічкі, якія пакінуў незачыненымі Колька, вакамгненна захінулі чорны зяп сенцаў. Адчувалася рука Ларыскі: хлясць!

– Я ж бясплатна!– сказаў гучна, апраўдваючыся, Ціханчык.

Аднак Ларыска яго не пачула.

Не сказаць, каб настрой у Ціханчыка сапсаваўся. Прыкра зрабілася, ды нічога – хіба ж гэта ён вінаваты, што Колька рашыў выцаганіць – пад выглядам набыцця радыёпрыёмніка – у жонкі на бутэльку. Гэта іх асабістыя справы. А тое, што кінула камянюку ў яго агарод, бяды тае: колькі іх, камянёў тых, за жыццё ляцела ў бок Ціханчыка? О-го-о! Ды каб жа хоць у бок, а то траплялі яны і па галаве. Цюкалі. Дзяўблі. Але – выжыў. Перажывём і папрок Колькавай

жонкі. Каб і праўда піў, то ўсхадзіўся б. Бо п’яніцы не любяць, калі ім гавораць праўду ў вочы, калі называюць рэчы сваімі імёнамі.

«Колька, канешне,– чалавек страчаны. Не чытае. Не слухае радыё. Толькі б цадзіць яму горкую... – скрушна падумаў пра пастуха Ціханчык. – Ці дацягне хоць да пенсіі бедалага? Гадкоў пяток яму трэба яшчэ шкрабацца. Ну, і куды ж мне з гэтым прыёмнікам цяпер, а? Мо Валодзьку аддаць? А калі і ён не возьме? Чаго, скажа, набіваешся? Не, Валодзька павінен узяць. На пенсіі першы год. Сумна, відаць, у хаце сядзець. Хаця ж у яго тэлевізар ёсць. Але тэлевізар круглыя суткі не робіць. А радыё, калі бяссонніца нападзе, заўсёды пад рукой. Пайду да Валодзькі ».

Валодзька быў на двары, скіпаў бярозавыя круглякі на дровы.

– Заходзь, заходзь, дачнік,– прыветна ўсміхнуўся гаспадар, уторкнуў вострай дзюбай у калоду сякеру, палез рукой у кішэшю – па самасад, і пакуль заходзіў Ціханчык, пакуль віталіся, ён дастаў пушачку, насыпаў на газетны шматок самаробнага тытуню. – З чым, шаноўны, пажалаваў? Што прывяло? Ці, мо, у хату зойдзем?

– Не, не!– запратэставаў Ціханчык. – Тут пагамонім. На двары. Паветра якое, га? Піў бы і піў.

Валодзька пагадзіўся:

– Што праўда, тое праўда. Я ў горадзе калі бываю, то не вытрымліваю доўга: дамоў, толькі дамоў! Тут і дыхаецца лепш, і апетыт – скардзіцца нечага. Добра дома. – Ён кіўнуў на «Мерыдыян», залізваючы слінай шоў на самакрутцы. –Радзіва слухаеш?

– Не,– Ціханчык паглядзеў на радыёпрыёмнік,– гэтае не слухаю. У мяне новае ёсць. А «Мерыдыян» табе прынёс. Возьмеш?

– Мне?– лыпнуў вачамі Валодзька. – А мне навошта яно?

– Слухаць будзеш...

Валодзька ўзбурыўся:

– Калі мне слухаць, братка дачнік? Тут за дзень так нападаешся, што ледзьве да ложка дапаўзаю. Бабу сваю намацаць не магу – нічога не шавеліцца. Праўду кажу.

– Дык гэта яго... так... і сапраўды... – разгубіўся Ціханчык, талопіў позірк на радыёпрыёмнік і шкадаваў, што прыпёрся з ім да чалавека. – Але ж, можа, не кожны дзень стамляешся? Ёсць жа дні, калі можна і паслухаць. Лёгкія дні.

– Ёсць, бываюць,– Валодзька зацягнуўся густым і смуродлівым дымам, закашляўся, ажно на шыі выперліся вены. – Дык я тады прырастаю да тэлевізара – як сабака да косткі. Гэта каб раней мне

гэты апарат, калі вартаўніком на кароўніку рабіў – во было б здорава! А ён, мабыць, у цябе даўно?

– Даўно.

– Чаго ж не даў раней?

– Тады ў мяне новага не было.

– А-а-а! А цяпер дзякуй, не трэба. Хочаш, я табе так шклянку налью?

Ціханчык апантана запратэставаў:

– Не, не, не ! Я ж не п’ю... можна сказаць. Па святах толькі. А прыёмнік я так аддаю. Бясплатна.

– Так? Бясплатна?– выкруглiў вочы Валодзька, вытрымаў паўзу. – Калі бясплатна, тым больш не вазьму. Мы ж не такія ўжо і бедныя. Ды і пры выпадку папракнеш мяне, бывае... Усё можа быць у гэтым жыцці. Папросіш у мяне што, а я не дам. А што? Вазьму – і не дам. А ты незалюбіш: «Я ж яму прыёмнік аддаў бясплатна, а ён, цяцера старая, мне пашкадаваў...» Можа быць такое?

Ціханчык паціснуў плячыма, сказаў шчыра:

– Відаць, не.

Валодзька прыдавіў абцасам акурак, папляваў на далоні, узяў сякеру.

– Дровы кончыліся,– выдыхнуў ён з сябе. –У лесе жывём, а дроў, ядры тваю, няма. Непарадак гэта. Перакос. Я правільна кажу, дачнік?

– Без дроў кепска,– настрой у Ціханчыка зусім прапаў, і ён яшчэ больш пашкадаваў, што звязаўся з гэтым «Мерыдыянам». – Пайду я.

– Заходзь, калі што,– не гледзячы на Ціханчыка, сказаў Валодзька і ўскінуў над галавой сякеру, і кругляк пырскнуў у бакі белымі цуркамі. – Яшчэ слухаецца рука ! А ты заходзь,заходзь, дачнік!

Куды падацца з гэтым радыёпрыёмнікам? «Хіба што дамоў?» Ціханчык патаптаўся каля ясакара, што рос перад вокнамі добротнай Валодзькавай хаты, і пашыбаваў да свайго жытла. «Не бяруць – і не трэба. Хай стаіць. Хай пыліцца... Есці не просіць». Каля Качкінай – перад цветнікам – стаяла купка вясковых кабет, і Ціханчык звярнуў да іх. Павітаўся. Жанчыны адказалі. Ціханчык паказаў на прыёмнік:

– Працуе. Як новы. Нікому не трэба? Бясплатна аддаю.

Качкіна ўскінула бровы і паказала пальцам на «Мерыдыян»:

– Гэты?

– Гэты.

– А чаму – бясплатна? Каб за грошы – узяла б. А бясплатна няёмка... Давай, добры чалавек, за грошы, так?

– Не магу за грошы,– хаваючы вочы, не згадзіўся Ціханчык. – Прынцып у мяне такі—ніколі нічога не прадаваць. Калі ёсць што лішняе, непатрэбнае мне,– аддаю так.

– А жонка вушы табе не надзярэ?– падначыла тоўсценькая, кругленькая, бы мячык, жанчынка, якую Ціханчык бачыў упершыню.

Ціханчык мог бы сказаць, што якой жа кабеце будзе падабацца,алі муж такі вось раскідон, як ён, але схлусіў:

– Мы з жонкай заадно.

Памаўчалі.

– Хай бы радзіва было,– Качкіна шкадавала, што дачнік не прадае прыёмнік, а « за так» і яна не магла ўзяць – у яе, гэтай спрацаванай адзінокай жанчыны, таксама, мусіць, меўся нейкі прынцып. – Але ж... не прадаеш?

– Не прадаю.

Тая кругленькая, бы мячык, жанчына млява пацягнулася, скрыжавала на галаве рукі, заплюшчыла вочы:

– Мне б такі прыёмнік, як ты, дзед. Вось на такім бы я гузікі пакруціла! Асабліва добра, мусіць жа, працуе ён ноччу – перашкод няма. Га? А гэты.. – Яна махнула рукой на «Мерыдыян », як на нейкую непатрэбшчыну,– мы б пад ложак схавалі.

Жанчыны зарагаталі.

– Прабачце,– Ціханчык паправіў акуляры і пакрочыў у бок хаты.

Назаўтра ў дзверы нехта паляпаў. Ціханчык падняў вочы ад газеты, падаў голас:

– Адчынена. Заходзьце.

На парозе вырас Колька і шырока ўсміхаўся:

– Здароў, зямляк!

– Прывітанне,– ледзь чутна адказаў Ціханчык, устаў з табурэткі. – Праходзь.

– Можна і прайсці, але я хачу звярнуцца да ўчарашняй размовы, – Колька таптаўся ў чалесніку. – Наконт прыёмніка. Адмовіўся, а пагадзя трохі пашкадаваў. Праўда. Каля кароў слухаў бы – глядзіш, і паразумнеў бы, і развіваўся б. Дык што, не перадумаў? Аддаеш? Я наконт прыёмніка. Ты што, захварэў, зямляк?

Ціханчык загадкава ўсміхнуўся:

– І не думаю хварэць. А наконт прыёмніка... Забірай. Вунь ён стаіць. Каля цябе. На стале. Карыстайся. Толькі батарэйкі купіць трэба.

– Ну, гэта не праблема,– Колька ўзяў прыёмнік. – Купім. Было б куды іх устаўляць. Было б гняздо. А гняздо ёсць. Значыць, пакладзем яйкі. Значыць, бясплатна?

– Бясплатна.

– Дай я табе хоць руку пацісну,– Колька схаваў у сваім кулаку далонь Ціханчыка, доўга трос яго руку. – Дзякуй. Ёсць, аказваецца, яшчэ людзі на белым свеце. Ёсць. Не перавяліся. Не ўсіх моль пажрала. І ў горадзе жывуць, што цікава. Ты ж гарадскі, ты ж мой зямляк і па вёсцы, і па гарадскому мікрараёну. Данілавіч, пухам зямля яму, звёў нас у кучу. З усіх бакоў зямляк. Круглы.

Ціханчык толькі цяпер заўважыў, што Колька пад «мухай» . Папярэдзіў:

– Не згубі «Мерыдыян». Ён яшчэ доўга паслужыць табе.

– Ды паслужыць... ага,– Колька, як гэта часта рабіў ён, хехекнуў, а тады пацалаваў радыёпрыёмнік, і нічога не сказаўшы больш, знік у сенцах.

У акно Ціханчык бачыў, як ён пашыбаваў да крамы, там адразу ж перадаў радыёпрыёмнік нейкаму незнаёмаму дзяцюку, той – было добра відаць – адлічыў яму грошы, якія Колька нават не хаваў у кішэню, адразу ж пацёгся ў краму, несучы іх перад сабой на выцягнутай руцэ...

– Паразіт!– вырвалася ў Ціханчыка.

Жонка прыехала раніцай наступнага дня дызелем – апалове дзевятай. Ціханчык, як заўсёды, хадзіў сустракаць яе. І аслупянеў: кожнага разу Поля ўсміхалася, сустрэўшыся позіркам з мужам, ён цмокаў яе ў шчаку, а тут было не пазнаць кабету – надзьмутая, строгая, калючая.

– Што з табой, Поля? – зніякавеў Ціханчык. – Здарылася што?

– А то не ж!– выпаліла жонка. – Дакаціўся. Далей ужо некуды. Цябе ж людзі не зразумеюць... Ды і гаварыў, кляўся ж, што завязаў, больш нічога і ніколі раздаваць не будзеш. Тратнік ты! Тратнік! Цяпер жа не той час, каб раскідвацца, як гэта ты робіш, усім, чым толькі можна. «Мерыдыян» таксама аддаў. Ды каму? П’янтосу гэтаму, Кольку? А ён прапіў.

Ціханчык слухаў жонку, крыва ўсміхаўся, і не разумеў аднаго: адкуль яна пра ўсё так хутка даведалася? Хто данёс? Суткі назад ўсё было, а, бач ты, паспелі перадаць. І як умудрыліся? І хто б мог? «Ну і людзі! А вам, а вам што да майго прыёмніка?!» А потым ён, крыху супакоіўшыся, усміхнуўся куточкамі вуснаў, узяў пад руку жонку, зашаптаў на вуха:

– Слухаеш? Твой тратнік гаворыць. Не шкадуй той старэнькі прыёмнік. Жыццё, дарагая мая, не спыніцца ад таго, што аддаў я «Мерыдыян». Прыкра, што Колька прапіў. Але нічога, нічога... У нас ёсць іншае радыё – і, мусіць, вечнае яно – якое ніхто не бачыць, якое не патрымаеш у руках, якое нават Колька не прап'е, а яно гаворыць і гаворыць... усе навіны перадае... і не толькі на ўрадавым узроўні, аказваецца, але і з такіх глухіх куточкаў, як вось гэтыя Беражкі. І бясплатна, бясплатна працуе! Безганарарнае радыё, заўваж! Вось дзе вышэйшае дасягненне сумленнасці! А?

– Даруй,– пастараўся ўсміхнуцца жонка. – Пагарачылася. Цябе ўсё роўна ўжо не пераробіш. Бо ты тратнік са стажам. Толькі б траціў, траціў, траціў!.. Гэта, відаць, тваё жыццё...

І ў вёсцы – чаму здзіўляцца, калі і да горада данеслася? – людзі шапнулі жонцы Ціханчыка: твой учора, ты паслухай толькі, прапіў радыёпрыёмнік. З Колькам!

– Я ведаю,– уступліва-мякка сказала Паліна. – На здароўе.

**КРЭСЛА**

Хто выносіў крэсла з кабінета дырэктара, цяпер паспрабуй разбярыся. Кажуць: усе. Быццам і так. Пасля многія прыгадвалі, як усё было, і атрымлівалася, што яно, крэсла, ці не само плыло над натоўпам, які гуў, нёсся, як ўсёроўна селявы паток з гор, на шырокі двор вучылішча, і раптам – бац! – яно усімі чатырма ножкамі-рожкамі ўваткнулася з усяго размаху ў лысы пляц. І людзі, узрушаныя, шчаслівыя глядзелі адзін на аднаго, весела гаманілі, каб яшчэ трохі ім волі, то пачалі б штурхацца, як дзеці. Хоць усе яны дарослыя, як не адзін з вышэйшай адукацыяй і немаленькім педагагічным стажам. Але нічога не паробіш: кажуць, калі генералы збіраюцца разам, то пачынаюць шчыпацца. А што ж тады возьмеш з іх, выкладчыкаў музычнай вучэльні? Ды яшчэ ў тыя рэдкія шчаслівыя хвіліны, што доўгачаканым каракумскім дажджом шуганулі на іх!

– Запалкі!– працягнуў руку да калег барадаты Пырх.

Яму запярэчыў Марасанаў:

– Дык а карасін дзе? Спярша карасін! Быў жа! Хто нёс карасін? Сам бачыў! Без яго ж крэсла не запалім! А?

Так спяшаліся спаліць крэсла, на якім яшчэ ўчора сядзеў дырэктар вучэльні Мельнік, што газу недзе згубілі, ніхто, акрамя Марасанава, не бачыў, што нехта нават з ёй бег на двор. Пайшла ў ход мінулагодняя падшыўка раённай газеты. Яе расшкуматалі, растрэслі, і атрымалася цэлая гара паперы,

– Падпальвай!– загадаў Марасанаў Пырху, які нарэшце раздабыў запалкі.– Не марудзь. Чым хутчэй не будзе гэтага крэсла, на якім сядзеў паскуднік Мельнік, тым хутчэй мы забудзем, што ён, падла, піў амаль пяць гадоў нашу кроў. Не будзе больш ятрыцца! Палі, Пырх! І запомніце: мы спальваем не проста крэсла, мы спальваем стыль кіраўніка, яго методу, яго нахабства і жорсткасць! Ура-а!

«Ура-а!» падтрымалі, і неўзабаве гара паперы захапілася вясёлым полымем, пачало лізаць вострымі язычкамі ножкі крэсла...Яно вось-вось гатова было ўспыхнуць... Усе толькі і чакалі гэтага моманту. Аднак ледзь не сапсаваў усю містэрыю намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы Плюшкін, як звалі Гаўрылаўца за вочы ў вучэльні, ён нечакана прыбег аднекуль і узняў такі лямант, што было далёка чуваць:

– Яно ж на мне вісіць! Я ж за яго адказваю! Самае дарагое крэсла-а-а! Пусціце-е-е!

Плюшкіна ніхто і не трымаў, але ён малайчына: усё ж зразумеў, што прыбег позна, хоць і выцягнеш крэсла з полымя, але яно ўжо прапала, пакрэмсанае полымем, таму часта затрос галавой, пракаўтнуў нейкую таблетку, і пашоргаў ад людзей у бок дзвярэй, што вялі ў вучэльню. А людзі, здавалася, і не заўважалі яго, яны весела гаманілі, смяяліся, і бачылі, як крэсла на іх вачах пераўтваралася ў клубок зыркага полымя.

– Добра гарыць як!

– Х-ха, яшчэ б!

– І вымыць, і вымыць кабінет!..

Прыбіральшчыца Цітаўна якраз стаяла побач, таму адрэагавала адразу ж, для чаго нават выпрамілася і падала наперад тулава:

– Ды ужо ж!– сказала яна. – Сваё дзела знаем! За мяне не турбуйцеся! – Яна памаўчала, пацёрла вочы кулачком, хлюпнула носам і кіўнула: – А крэсла шкада. Згарэла. Яно ж толькі тут прычым? Добрае, добрае крэсла было. Я ўсё завідавала на яго. Думала: каб мне такое ў квацеры, то я б сядзела на ім, як каралева...

Нехта зарагатаў:

– Хопіць што кароль пасядзеў! Іш, і Цітаўна разагналася. Куды, куды табе? Ты, добрая душа, пасядзіш і на зэдліку.

– Не, ну вот вы ўсе вучоныя, разумныя, а хай я дурная, забітая баба: калі чалавек паганы, то крэсла за што парашылі? – быццам апраўдвалася прыбіральшчыца Цітаўна, і не дачакаўшыся якога-небудзь спагадлівага адказу, рушыла таксама з двара. Ёй, падобна на тое, было ўсё роўна, хто кіруе вучылішчам – ці той паскуднік і крывасмок Мельнік, як кажуць цяпер пра яго, ці хто іншы. Не вялікі начальнік Цітаўна – у падпарадкаванні толькі мятла ды ануча, з гэтага нейкую фатыгу яна мець, вядома ж, не магла, а сваю справу ведае і добра робіць, таму папрокаў не чула. А крэсла шкада. «А калі яшчэ гаўно якое пападзецца, дык што тады, га, канапу паліць, на якой ён, можа, будзе ляжаць?» З гэтым Цітаўна пагадзіцца не магла. Яна шкадавала грамадскае дабро, а далей нікуды носа не сунула: страсці, што бушавалі апошнім часам у вучэльні, яе не тычылі.

Неўзабаве двор апусцеў, і каля горкі попелу, што засталася ад крэсла, тапталіся двое – барадаты Пырх і Марасанаў, які першаму спадобіўся б у бацькі і лічыўся лепшым выкладчыкам і нават някепскім кампазітарам: некаторыя песні, створаныя ім, выконваліся ў межах вобласці, аднак далей прабіцца не маглі. Вінаваты ў тым быў, на думку Марасанава, і Мельнік, які прыціскаў усяляк, як толькі мог, таленавітых выкладчыкаў – не любіў, калі хто

выторкваўся вышэй за яго самога. Быццам нават заяўляў: «Вучыце дзяцей, а песню напішуць і ў Мінску. Лучанкоў хапае сёння...хоць гаць гаці, а выкладчыкаў – не. Добрых выкладчыкаў, я маю на ўвазе...» Намёк,як кажуць, шматзначны. А зусім нядаўна, ужо нават тады, калі ўверсе быў падпісаны загад аб ягоным пераводзе ў іншы горад, не пусціў у сталіцу на конкурс навучэнку Варатынскую, калі даведаўся толькі, што яна павязе туды песню Марасанава. Цмок дык цмок! І хто ж пасля ўсяго гэтага, калі не сам Марасанаў, павінен быў цягнуць, надрываючыся, але лічачы гэта за гонар, крэсла з кабінета Мельніка, дбаць пра газу і запалкі?! Было і яшчэ некалькі такіх чалавек, якім Мельнік напартачыў больш, чым трэба. Што ж да барадатага Пырха, то з Мельнікам ён і пазнаёміцца як след не паспеў, пэўна ж, бо працуе ў вучэльні зусім мала, толькі нядаўна скончыў ён інстытут культуры, а крэсла падхапіў адным з першых і падпальваў толькі таму, як прызнаўся сам, што ў Мінску любіў па закліку выходзіць на плошчу Незалежнасці і таму лічыў сябе мэтрам у гэтай справе. Трэба дык трэба.

– Попел, відаць, належыць прыбраць,– закурыў Марасанаў і паглядзеў на барадатага Пырха, які варочаў дручком апошнія вугельчыкі. – А то вецер разнясе па дварэ – Цітаўна выскаліцца.Чым бы толькі прыбраць?

Пырх насупіўся:

– Нагадзілі разам, а сляды замятаць – нам?

– А што тут такога? Камусьці ж трэба...

– Нічога! Во падгарну трохі, вадой прыльём, ды і няхай ляжыць. Каб усе бачылі, што пасля крэсла засталося. Можна, а чаго, і шыльду ўторкнуць у зямлю, на якой напісаць, каб усе ведалі: «Тут было крэсла Мельніка».

Марасанаў не паспеў адказаць – уявіў толькі былога дырэктара ў гэтым згарэлым крэсле, з якога ён, бадай што, рэдка калі вылузваўся, калі пачуў гырканне аўтамашыны і, павярнуўшы галаў на гул, убачыў міліцэйскі легкавік. Вопытны жыццялюб і ў нейкай меры не спраўдзіўшыйся кампазітар адразу зmікіціў: яны з Пырхам папаліся. Усе своечасова разбегліся, а навошта яны тут тырчэлі, папытаць бы? Дурні! Гэты ж Пырх павінен мець вопыт, хваліўся ж, што бралі за каўнер на плошчы ў сталіцы, дык быў бы, паразіт, разумейшым і сам, і павучыў бы яго, старога небараку. Дык не ж! А цяпер што ён скажа міліцыянтам? Што? Смелыя мы, браткі, бываем, калі не бачым людзей у форме, а толькі варта заўважыць тых, трымцяць лыткі...

Легкавік цыўнуўся перад самай кучай чорна-шэрага попелу, знерухомеў, з яго вылезлі два міліцыянты – капітан і старшына. Капітан строга папытаў:

– Што вы тут робіце?

Пырх пагладзіў сваю густую бараду і адказаў:

– Вогнішча... дзеці, пэўна расклалі, то небяспечна... Сочым, каб іскры не разляцеліся.

На гэта капітан спакойна заўважыў:

– Ці ты дужа разумны, ці я дурань. – І, паказаўшы рукой на легкавік, загадаў: – У машыну! Хутчэй!

Марасанаў паслухаўся, а Пырх палез у легкавік толькі атрымаўшы рэзкі штуршок у плячо. Агрызнуўся:

– Пацішэй,не такіх бачылі!

– Пагавары мне!..

Аднекуль узялася тут Цітаўна, заступілася, хоць і шкада было ёй крэсла, аднак старая хуценька скеміла, што трэба ратаваць выкладчыкаў:

– Дык вы што, не надзёрлі вушы тым нехрысцям? – сур’ёзна глядзела Цітаўна на Марасанава і Пырха, настолькі сур’ёзна, што тыя, мусіць, і самі не адразу здагадаліся, што задумала старая, а яна працягвала: – Бачу ж у акно: вогнішча! І малеча скача каля яго. Ну, думаю, не хапала нам яшчэ на сённяшні дзень пажару... усяго было сёлета... і навадненні, і замаразкі... А тут перад выбарамі ў прэзідэнты – яшчэ і пажар.... Дык разагналі, кажаце? Таварышы выкладчыкі! Вам што, затлуміла? Ці вушы пазакладала? Гэй, вы!..

– Не верань, – з лекавіка выгукнуў Пырх.

Марасанаў змоўчаў.

– Я, я вас жа папрасіла разагнаць!– наступала на легкавік Цітаўна. – Дык што атрымліваецца: хацела як лепш, а атрымалася, як тады... І тое выходзіць, што я, качарга старая, падштурхнула вас на тое, што міліцыя забірае? Так? Таварыш начальнік! Тады і мяне ў машыну, таму што калі хто і вінаваты, то я. Чуеш, начальнік?

– Усе месцы занятыя, – адказаў капітан і параіў старой шкрабаць мятлой там, дзе трэба, а не малоць языком абы што, а калі залез, цяжка заносячы атлусцелае цела на пярэдняе сядзенне, загадаў сяржанту-вадзіцелю. – Паехалі!

Куды паехалі, Марасанаў зразумеў адразу. Па дарозе гадаўдумаў, чым усё гэта скончыцца, раіў Пырху маўчаць, не харахорыцца, бо той хваліўся, што не такое бачыў і не там бываў, але цяпер перад ім знімаюць шапкі многія, чым раздражняў міліцыянтаў.

Тыя абяцалі, што яны перад ім ніколі шапкі знімаць не будуць, а калі што і зробяць, то добранька намуляць бакі і раілі трымаць язык за зубамі. Калі ж не трымаецца ён у Пырха за зубамі, хоць ты што! Ну і атрымаў у бок кулаком: суціхні ты, бля!..

Там, куды іх прывезлі, было людна, але ціха. Правялі паўз дзяжурнага на другі паверх, і Марасанаў здагадаўся, што зараз трапіць ён да свайго старога знаёмага. Так і ёсць.

– Яны, – коратка сказаў падпалкоўніку Страмавусаву капітан і сеў, не пытаючы на тое дазволу ад начальніка, на стул.

Страмавусаў жа распарадзіўся інакш:

– Па аднаму.

– Ёсць! – па- вайсковаму лёгка узняўся капітан і кіўнуў Пырху, каб ішоў за ім.

Такога павароту не чакаў Марасанаў, але трымаўся спакойна, чаму і сам, прызнацца, здзівіўся. Калі за Пырхам і капітанам зачыніліся дзверы, Страмавусаў закурыў, важка адкінуўся ў крэсле, і Марасанаў заўважыў, што ў гэтага міліцыянта крэсла яшчэ больш саліднае, чым у Мельніка, і чамусьці ўявіў, як яно гарыць... Палала б!

– Вось і сустрэліся, – трэба было бачыць нахабную ўсмешку на задаволеным твары начальніка гарадскога аддзела міліцыі. – Я разумею, таварыш Марасанаў: самога Мельніка вам было ніяк не дастаць, а крэсла і школьнік можа знішчыць, дай толькі яму волю. Ну, дык што цяпер будзем з вамі рабіць? Пятнаццаь сутак, або трыццаць на дваіх, для вас будзе дастаткова. А потым крэсла купіце. Яно цяпер каштуе некалькі вашых заработных плат. Адчуеце. А то іншы раз мы бываем ганарлівымі, фанабэрыстымі... Ну, ну! Але, як паказвае жыццё, ад сябе не уцячэш. Вось і ты трапіў у сіло. Ну скажы, скажы што-небудзь, Марасанаў! А Мельнік, між іншым, быў добрым чалавекам...

– Чаму – быў? – насцярожыўся Марасанаў.

– Правільна, правільна: і ёсць, – паправіўся Страмавусаў.

–Тады гледзячы для каго ён добры, – прамовіў выкладчык. – Для вас добры, не пярэчу... У горадзе адна больш-менш прыстойная вучэльня – гэта наша, і тут вучыліся, вучацца і, спадзяюся, больш не будуць вучыцца вашы далёкія і блізкія сваякі, дзеці сяброў і знаёмых...

– Чым я вам так не дагадзіў?

– Я ж вам неяк раней усё растлумачыў... У нашай вучэльні павінны вучыцца таленавітыя дзеці. Няважна, хто ў іх бацька, маці...

Я заўсёды быў супраць блата. І хабар не бяру. Лепш у адным касцюме хадзіць, чым замараць сумленне...

– Дык а як вы корміце сям'ю? – вырачыў вочы на Марасанава падпалкоўнік. – Падзяліцеся вопытам.

Марасанаў адказаў не адразу:

– Цяжкавата.

– А Мельнік купіў зяцю новую іншамарку. І сам паедзе на «маздзе» . А чаму? А таму, што разумны чалавек, галава-а! Вось так трэба і жыць...

– Не вучыце мяне, калі ласка, – запярэчыў Марасанаў.

– Ды вас, гляджу, позна вучыць,– пагадзіўся падпалкоўнік. – Ну, што ж... Будзем лічыць, што размова закончана. Пасядзіце пакуль. А там ужо што пракуратура скажа...

За дзвярыма пачуўся голас Пырха, той узняў ніяк вэрхал: відаць, нагадаў, што ў сталіцы ён і не такое рабіў і нічога, а тут і слова ім не скажы. Надакучыла. Колькі можна цярпець? «Пусціце мяне-е-е!» Пырх, мусіць, нагадаў, што ў яго зрываюцца ўрокі, але каму гэта цікава? Капітану? Падпалкоўніку? Каб паводзіў ён сябе больш прыстойна ў міліцыі, нехта варсануў яму ў бок, а мо гвазданўў і па галаве – тут, у кабінеце начальніка, Марасанаву было не відаць, але калі Пырх залямантаваў не сваім голасам «уй-й-й-й!», ён быў упэўнены, што так і было.

Страмавусаў націснуў на кнопку і загадаў капітану, які прасунуў галаву ў дзверы:

– Забярыце. І таго разам з ім...

Выходзячы з кабінета, Марасанаў павярнуўся да падпалкоўніка, усміхнуўся:

– А той кавалак золата... помніце сваю пляменніцу, якая вучылася ў нас па вашай пратэкцыі... так і не навучыўся граць ні на адным музычным інструменце. Не заблішчэла золата... Сустрэў на днях ... працуе той кавалак золата на базары ў гандлёвым радзе...

– Выйдзіце!– Страмавусаў грукнуў кулаком па стале.

Пырх ужо больш не нагадваў пра сталіцу, моўчкі плёўся паперад Марасанава, і прыкідваў, на каго раскінуць ягоныя ўрокі. І – што і не дзіўна! – ніколькі не дакараў сябе, што заставаўся каля дагараўшага крэсла да апошняга... Хоць, можа, і трэба было не спадзявацца на Сцяпана Віктаравіча, а драпаць? А што, калі яго ўжо няма ў горадзе?..

Як толькі за Марасанавым зачыніліся дзверы, былы дырэктар мясцовай вучэльні Мельнік выглянуў з невялічкага пакоўчыка для

адпачынку, які быў адразу ж за спіной Страмавусава. Яны перакінуліся позіркамі. Усміхнуліся.

– Ты ўсё чуў. Гэтае крэсла ім доўга будзе помніцца,– паабяцаў падпалкоўнік і дастаў з сейфа пачатую бутэльку з каньяком. – Таму што жыць не ўмеюць. І самае галоўнае – не хочуць вучыцца. Вось у чым бяда. Вось у чым іх загана. Падсядай, Сцяпан Віктаравіч, да стала. Хваляваўся, бачу...

Мельнік пацвердзіў:

– Ды не жалезны...

– Рукі дрыжаць. А хваляваўся дарэмна. Дарэмна хваляваўся, шаноўны. Мы сяброў у бядзе не пакідаем. Ну, спалілі крэсла. Каб жа ты раней нам паведаміў, то мы б іх усіх і замялі..

– Усіх не трэба,– замахаў рукамі Мельнік. – Не,не! Там і добрыя людзі ёсць.

– Але ж палілі крэсла, так бы мовіць – вас...

– За кампанію. За кампанію,– Мельнік праглынуў даўкі камяк, пацягнуўся за келіхам з каньяком, падняў яго дрыжачай рукой. – Не будзем пра крэсла... Забудзем. Раз і назаўсёды. Няхай яны думаюць, што я нічога не ведаю. А мне, між іншым, сам Пырх... той, што з барадой, і сказаў, што будуць паліць крэсла... і што ён будзе таксама паліць... Але каб ведаў. Папярэдзіў. Малайчна. Свой чалавек. Калі ён нават і адмовіцца, сказаў, то спаляць іншыя. Так што ўсё роўна... канец адзін. Папрасіў загадзя і прабачэння. Гэта ж я яго запрасіў у вучылішча. Друг мой інстытуцкі слова замовіў за Пырха...

Пачуўшы пра Пырха, падпалкоўнік адразу ж пракаўтнуў пітво, крэкнуў і механічна ўтапіў кнопку ў стале, і ў дзвярах паказаўся лейтэнант, якому Страмавусаў загадаў адпусціць «на ўсе чатыры стораны» падпальшчыкаў крэсла. А Мельніку, не хаваючы разачаравання, гучна заўважыў:

– Маць вашу!.. Папярэджваць трэба!..

І плюхнуўся ў сваё крэсла, пра якое Марасанаў падумаў, што яно б гарэла яшчэ лепш, чым гарэла крэсла іхняга былога дырэктара...

**ТАК ПЛАЧА АКНО**

Галя не першы раз тузанула руку: дарэмна, адно што пеканула болем. «Гад! – заплюшчыўшы вочы, адчайна прамовіла жанчына, матлянула галавой і не магла стрымаць слёз: тут і не кожны б мужчына вытрымаў, а што ўжо гаварыць пра яе, кволую, дваццацігадовую. – Заўтра ж аднясу дакументы на развод. Хопіць. Нацярпелася. І які д’ябал вымусіў мяне выйсці замуж за мянта паганага?! Гэта мама: выходзь, дачка, не пашкадуеш, грошы добрыя будзе прыносіць. Напрыносіў! А цяпер вось і наручнікамі прышпіліў да батарэі... А сам храпе, гад. П’янтос у пагонах!»

П’янтос, а па пашпарту Цэдрык, міліцыянер з трыма лычкамі на пагонах, варухнуўся, прадраў адно вока, доўга свідраваў ім жонку, прабурчэў:

– Сама добра – жонку на ланцуг,і ўсе дзеці будуць толькі на цябе падобныя.

– Ідыёт! – вырвалася ў Галі. – Як ты можаш? Што ты вярзеш? Я ж... я ж, акрамя работы, нідзе не бываю.

Цэдрык адвярнуўся:

– Не перашкаджай спаць. А прафілактыка бабам патрэбна. У любым выпадку. Як зямлі дождж у спёку. Сплю-ю!.. – Ён глыбока пазяхнуў і суцішыўся.

Галя, уздрыгваючы худзенькімі плечыкамі, папрасіла:

– Міша, адшпілі. Рукі баляць. Хопіць здзекавацца. Я ж не вінаватая. Ну, Мішка-а-а!..

Не гледзячы нават на жонку, Цэдрык, пракаўтнуўшы сліну, вырак:

– Пасядзі, пасядзі... на ланцугу. І дзякуй скажы, што я прышпіліў цябе каля акна. Кругагляд. Не сумна. Што бачыш, га, жоначка?

– Га-а-ад!-- затрэслася яшчэ больш Галя, а вочы затуманілі слёзы. – Каб ты здох!

– Будзеш абражаць міліцыю, пакараю больш строга,– прамовіў Цэдрык і захроп.

Галя ж глядзела на акно, і ёй здавалася, што не яна плача, а яно. На шыбах былі слёзы. Розныя – і вялізныя, бы раннія зялёныя вішні, і малюпасенькія, як усё роўна недаспелыя ягады смародзіны. Яны, тыя слёзы-вішні-ягады, іншы раз мітусіліся хаатычна, беспарадкава, але сцякалі ўніз, уніз... Калі прыгледзецца больш уважліва да шыбы – а Галя гэта заўважыла адразу, – то можна ўбачыць і сябе, і яго, нягодніка Цэдрыка. Ён, вядома ж, нахабна рагоча, потым закасвае

рукавы, плюе на далоні: сцеражыся, бойся, жонка! А вунь і сама яна... У ражку шыбы... Змізарнелая, запалоханая... Яна бачыць сябе надзіва хораша... Сцялася ўся, трымціць. Зараз будзе бойка. Зараз пачнецца. І Галя, быццам прыйшоўшы да памяці пасля нядоўгага маўчання, плюе на акно і паўтарае – толькі не ўслых, а сама сабе: « Гад!» Вінаваты ён, Цэдрык, а дасталося шклу. Не жывое – у яго не папросіш прабачэння. Але нешта рабіць трэба. Жанчына пацягнулася ўсё ж – ледзь не разарвалася – да шыбы, сцёрла сліну.

Хочацца спаць. Падбароддзе паступова асунулася на грудзі, замгліліся вочы. Сама сабе загадала: «Спаць, спаць, спаць!» Хоць так, не па-людску. Стамілася за дзень на рабоце. А больш – дома... Толькі ж сон не слухаецца яе, не адольвае. Было ж адно жаданне – праваліцца ў забыццё, а прачнуўшыся, убачыць нарэшце цвярозага Цэдрыка і, магчыма, плюнуць цяпер яму ўжо ў вочы. Цвярозы ён ніжэй травы, цішэй вады, а вып’е – дурань дурнем.

«Хоць бы мама, ці што, прыйшла? – думае Галя. – Як няма асаблівай патрэбы – дзесяць разоў прыбяжыць на дні. А калі здзекуецца муж – не чуе яе сэрца бяды, не спяшаецца на падмогу».

З Цэдрыкам Галя пазнаёмілася ў тралейбусе. Быў ён у цывільным адзенні, даўгалыгі і белазубы, з густымі брывамі, чорнымі, як смоль, але рэдкімі валасамі. Гаварыць умеў. Улюлюкаў. Неўзабаве яна пазнаёміла Цэдрыка са сваімі бацькамі – на гэты раз жаніх апрануў міліцэйскую форму, яна яму добра пасавала, і маці, з зайдрасцю кінуўшы лагодны позірк на бацьку, паказала ўсім сваім выглядам: здаецца, тое, што і трэба нашай Галінцы! А калі дачка засталася адна, пацалавала яе ў шчаку:

– Выходзь. І не думай. Відны і пры пагонах. А ў міліцыі абы-каго не трымаюць.

Бацька больш маўчаў. «Самі разбірайцеся».

Цэдрык прачнуўся першы. Мітусліва паглядзеў на акно, на жонку, якая, паклаўшы галаву на маленькія кулачкі і падкурчыўшы ногі, спала. Да яго нарэшце дайшло: гэта ж, мабыць, я?.. Усхапіўся. Разамкнуў наручнікі – і Галя лягла спіною на падлогу, паклала збялелыя рукі на жывот: ён ужо прыкметна выдаваўся – у сям’і Цэдрыкаў чакаўся першынец.

– Прабач, Галя!– муж схіліўся над жонкай, прыпаў на калена, прыўзняў яе за плечы. – Паглядзі на мяне. Паглядзі. І даруй.

– Ні-ко-лі,– не расплюшчваючы вачэй, прашаптала Галя. – Ідзі. Ідзі, Міша. Я адна выгадую дзіця. Пакуль бацькі жывыя – не дадуць прапасці. А з тваіх грошай толку мала. Прапіваеш усё роўна. Ды і

нядоўга ты пратрымаешся... Раскусяць. Не сёння, дык заўтра. Такімі, хіба, міліцыянеры павінны быць, як ты?..

Цэдрык маўчаў. Ён толькі раз-пораз нервова сціскаў кулакі, узнімаў іх над сабой,і, здавалася, не ведаў, што рабіць з імі далей. Усё ж папрасіў яшчэ раз:

– Даруй. Я больш не буду піць.

– Чула ўжо. І першае, і другое...

– Абяцаю!– Цэдрык прыклаў далонь да грудзей.

– Хто нешта хоча рабіць, той не абяцае, а робіць.

– Вось пабачыш! Слова!

Галя сказала пра развод. Неадкладны. Паабяцала заўтра-паслязаўтра – як толькі збярэ ўсе неабходныя паперкі – аднесці заяву ў суд. Цэдрык моўчкі яе выслухаў, уздыхнуў, моўчкі прыхінуў за сабой дзверы і зацокаў абцасамі па прыступках...

У той вечар ён дамоў не вярнуўся. Але пазваніў і абяцаў зноў прышпіліць Галю да батарэі. Жонка паківала галавой, самотна ўздыхнула:

– Усё ясна... Толькі больш – запомні!– не атрымаецца.

Раптам Галя залілася смехам, вясёлым, гарэзлівым, што, відаць, прымусіла прыпыніць дыханне і разявіць рот Цэдрыка: бач, ажыла і здзекуецца. Чаму, цікава, не атрымаецца? Проста, вельмі проста: больш я цябе не пушчу і на парог. Скардзіся, куды хочаш. Ці, можа, мне першай?

Цэдрык, падалося Галі, працверазеў:

– Не-не! І я не буду! І я!.. Ніколі!.. А там... А там разбяромся. Мне трэба пабыць аднаму. І сапраўды... Чуеш?

Галя першай паклала трубку.

Цяпер часта сядзіць яна на табурэтцы перад акном, а рукі трымае на жываце, у якім нагадвае пра сябе жывая істота, і Галя размаўляе са сваім дзіцём – пяшчотна, цёпла, з мацярынскім замілаваннем, бы дзіця тое сядзіць у яе на каленях, яна гушкае яго, а малеча смокча – хоць бы! – соску і слухае яе:

– А ведаеш, маленькі мой, акно, здаецца, больш не плача. Бачыш, чысценькае яно, блішчыць, ззяе. А вунь і татка твой пайшоў. П'яны. Хістаецца. Не ў форме... з барадой... Стаіць, глядзіць на нас з табой. Давай адвернемся? Вось так. Ага. Вось і правільна. Так лепш. Нам абаім...

Галя і зусім захінула акно фіранкамі і села падалей ад яго: не хоча зноў убачыць, як яно плача...

**ДАРОГА**

Хата дзеда Макара канцавая. Стаіць яна на пясчаным узгрыбку, старая, абняможаная, і першы вянец абняўся з зямлёю – цалуюцца. Два акна жмурацца на вуліцу, астанія – тры – сочаць, што робіцца на вялікім, крыху захламленым дварэ, не прымінуць зазірнуць і ў садок, які, праўда кажучы, і садком назваць нельга: у самым закутку гародчыка апусціла галаву долу яблыня – адзінае дрэва засталося, ды і тое стаіць, бы забыты людзьмі вунь насупраць цераз дарогу тэлеграфны слуп. На Макаравым агародзе ў вайну разарваўся снарад, пялёхнуў ноччу, а як толькі пачало днець, ён павымаў з яблыні асколкі, пазакідаў, мацюгаючы немца, падалей жалязякі, залячыў дрэва. Гадкоў колькі яно ўжо памірае, нават завязі не бывае на рэдкіх зялёных сучках, можна б было даўно вытраляваць яблыню, але Макару шкада: калека, нацярпелася, гаротніца, няхай кволіцца патрохі, трымаецца на зямлі, пакуль сама не зваліцца.

Адразу ж за хатай пачынаецца выкручастая дарога. На вочы браць яе цяжка, бо яна нырае з горкі ў лагчынку, караскаецца пад гару, а потым і зусім, пасля збуцвелага ад часу мастка, уплятаецца ў разгатыя дрэвы, і як яна там бяжыць, як жыве, -- Макару не сказаць: даўно не выбіраецца ён далёй всайго жытла, але кажуць людзі, бытта старшыня суседняга калгаса ўпарадчыў дарогу, усцяж як выраўнаваў, паклаў асфальт. «Вы, барчане, самі пра сябе клапаціцеся.»

Вось і атрымалася, што дарога ўсяго ў некалькі кіламетраў падзелена на дзве – тую, выкручастую, з глыбокімі каляінамі, калдобінамі, і новую, дзе і нашы шафёры, думае Макар, адводзяць душу.

Стары часта – няхай лета на дварэ, дажджлівая, сіверная восень ці завейная зіма – прыходзіць да дарогі, стаіць на ўзбочыне, абпершыся на кульбу, углядаецца некуды, і несвядомы чалавек можа нават падумаць, што ён некага падпільноўвае. Каб жа так. Не. Дзяцей у Макара няма – пераржыў і двух сыноў, і дачку.

Міхал загінуў на вайне, Іван, малодшы, хоць і вярнуўся з яе кантужаны і без рукі, але мог бы яшчэ пажыць, здавалася б, толькі не пашэнціла яму: заўварэў цяжка, не далі рады лекары. Дачка Груня жыла ў весь час на Сахаліне, у замужжы там была, там яе і магілка. Яна пражыла напоўных семдзесят гадоў. І Макар лічыць, што магла б пратрымацца на гэтым свеце і больш, каб не з’ехала, куды ён нават цялят не ганяў пасвіць. Чалавеку там добра і шчасліва, дзе яго роднае гняздо. У Борках, значыць. Дома. А то колькі ж там у яго здароў’я, а трэба, бачыце, яшчэ і на тугу па Макару, па хаце, па сваяках траціць,

вось і не хапіла Груні, каб дацягнуць хоць бы да матчыных гадкоў – Макарыха, весялунння Аўгіння, памерла ўсяго нічога назад, і стары застаўся зусім адзін. Як яблыня ў садку... недзе, праўда, жывуць унукі і праўнукі, але ці ім да яго, дзеда-прадзеда?

Людзі ведаюць: Макар нікога не чакае, гэта ён ад няма чаго рабіць выходзіць на дарогу, стаіць, пакуль не заклякне цела, а потым цяжка шоргае на двор ці адразу – прамым ходам – у хату, сядзіць на лаўцы, а то і прыляжа на канапе. Не сядзіцца. Не ляжыцца... І тады ён зноўку ідзе на дарогу, зноўку ўглядаецца...

Не ведалі толькі людзі-суседзі, што дарога гэтая звязвае старога апошняй ніткай з жыццём. Для яго яна не проста зямля, упраставаная коламі грузавікоў, з дзвюма канаўкамі па баках, зарослымі ўзлетку густой травой, а зімой заваленымі снегам; са слупом з шыльдачкай, па якой шубаюць хлапцы камянямі – не трапнасць, каб ім... Шыльдачка пакурожаная, жывога месца на ёй не засталося, і слова «Боркі» зможа прачытаць сёння толькі чалавек, які ведае, што гэта Боркі.

Стаіць падоўгу Макар на дарозе. Бывае, яму кіўнуць з машыны. Пройдзе пешаход – павітаецца, а то і затрымлівае крок, уважыць яго словам-другім. Пацяплее тады ў старога пад апранашкай. Многіх ён не пазнае спярша, а потым усё ж спахопіцца: «Гэць, га!» Убачыць, убачыць у хлапцы або дзяўчыне Макар Петраковых ці Марусіных дзяцей. Падобны. Трохі ад бацькі, а то і ад дзеда ці бабкі ўзялі. Струмень родавай крыві б'е. Ён моцны струмень.

Калі Макар стаіць адзін, нікога не відаць паблізу, тады ён размаўляе з дарогай, як жывы з жывым.

– Пастарэла, пастарэла і ты, – гаворыць Макар, пацепвае сухенькім плечуком.—Я ж, дзіцятка ты маё, цябе даўно помню... і ты мяне... Хадзіў я па табе і басаНож, і ў лапцях, і ў юхтавых ботах... Ага. Ну. На вайну мяне паклікалі... пры цары шчэ... Вось гэтым бачком ішоў – бліжэй да дрэў стараніўся. Іх нямашкі сёння, а тады былі. Высокія. Помніш? Ага. Ну. Назад з вайны – бег. Нейкая сіла мяне штурхала, дзяўбла кухталём у каршэнь. У маленькім сундучку пачастункі Аўгінні сваёй нёс і Груньцы, дачцы. Думаў, спазнюся, не паспею. Гм, дзівак я, а праўда ж – было... І ты памагала мне, у пяткі каменьчыкамі джгала: бяжы, салдат, бяжы, засумавала па табе маладая жонка... дачка не дачакаецца... А потым у заробкі хадзіў, у бравары... А-ха-ха-ха! – Макар уздыхае, на выцвілых вачах выкругляюцца слязінкі. – Піла, піла ты мае слёзы, дзіцятка... Немец напаў, каб яму ўсё жыццё штаны насіць навыварат. А ў мяне ж

хлопцы выраслі – волаты. Шкада было на смерць іх пасылаць, а трэба. Хто ж мяне, Аўгінню, Груньку, усіх барчан абароніць? Правёў я сыноў сваіх з ворагам біцца, ты ж помніш, а тады кожнага дня бегма да цябе – вестачкі ад іх чакаў, перахопліваў паштальёна, не верыў яму, калі гаварыў, што нічога ад Міхала і Ванькі няма, сам перeтрасаў сумку... Не знаходзіў, паштальён не хлусіў. А калі быў трохкутнік салдацкі – значыць, быў.

Усіх салдат, што з вайны вярталіся, я сустрэў. І сына свайго... Во на етым месцейку, дзе стаю. Тут сустрэў. Ага. Ну. Ваню. А Міхала – не... І цяпер вось не ідзе. Столькі часу мінула, а яго няма. Не чакай, гаворыш? Не, дзіцятка маё, не... Набачылася ўсяго ты на сваім вяку. Хапіла і горачка табе, і шчасцейка. Трактарок першы, а як жа, па табе спярша прайшоў, а потым ужо на поле закіраваў. Усе яны... і трактаркі, і машыны... процьма цехнікі дзякуючы табе, галуба, знайшлі нашы Боркі...

Загаварыўся я з табой. Пайду, курам чаго-небудзь падсыплю. Чуеш, гвалт узнялі? Не гаспадар я стаў... Толькі курэй і трымаю каля сябе. На парсючка не хапае Макара... а так усё ў краму ды ў краму... І цукар тамацькі, і селядзец падвязуць, і хлебчык – усё, слава Богу, ёсць. Ну, дык я пайду? Не сумуй... Во ўпраўлюся, адпачну трошкі, а тады зноў да цябе навярнуся. І мы зноў пагаворым. І нам будзе весялей. Хуценька я... Ты чакай... Чакай мяне, дзіцятка...

Макар сеяў на двары проса з кашчавай жмені, куры навыперадкі таўкліся перад ім – клявалі, ажно ўпрысядкі чубкі хадзілі, а калі нахапаліся зярнятак, яны пацішэлі, угаманіліся, ляніва споўдаліся вакол гаспадара.

– Хопіць, хопіць,– шаптаў стары, высыпаў проса назад у маленькае вядзерца. – І заўтра дзень будзе...

За аселіцай загулі машыны. Макар насцярожыўся, павярнуў тварам у бок дарогі. Ён толькі чуў – не бачыў: далевата былі яшчэ тыя, а вочы адсвяцілі сваё. Паставіў вядзерца на стол, прыткнуты да сцяны хаткі, мінуў веснічкі, прычыніў іх, каб трымаліся двара чубаткі. Гул нарастаў... Цяпер стары мог збольшага згледзець, што ледзь як не на яго едуць машыны. Багата іх. «Цэлая арцель,– падумаў Макар. – Куды гэта іх столькі?» Наперадзе калоны круціўся спрытны старшынёўскі «уазік», ён раптам звярнуў да старога, спыніўся, а з кабіны вылез сам Жмайлік, не звяртаючы ўвагі на Макара даваў знакі рукой машынам, каб ехалі далей, не збочвалі, гледзячы на яго, а калі ўпэўніўся, што ўсё ідзе так, як і трэба, падышоў да старога, павітаўся.

– Няўжой-та ў калгас папаўненне?– пацікавіўся Макар.

Жмайлік хітравата ўсміхнуўся, пакратаў пальцамі свае рэдзенькія вусікі, сказаў, бы пячатку паставіў:

– Дарогу, дзед, будзем рабіць!

– Дарогу?– перапытаў стары, паківаў галавою. – Дык яна ж уродзі і ёсць... Ці пад суседзяў будзем, га?

– Ну! А чым мы горшыя за іх?– у Жмайліка свяціўся твар, ён радаваўся, па ўсяму было бачна, што сваё старшынёўства ў Борках пачынае не з якой-небудзь там дробязі, а бярэ вышэй, з перспектывай. – І зробім! Хопіць машы ламаць! Дзед... прабач, не ведаю, як цябе зваць-велічаць?

Макар назваўся.

– Будзем знаёмы. Жмайлік Сцяпан Пятровіч. Спяшаюся, а то заедуць не туды хлопцы, куды трэба. А справа такая, Макар. У цябе не могуць дарожнікі вугал знайсці? Жыць ім недзе ж трэба. Ну, чаму маўчыш?

– Дык ета... адзін я, старшынёк, у хаце. Аўгінні няма ўжо. Хто ж згатуе, накорміць? Калі толькі самі? Печ ёсць...

– Накормім у сталоўцы, Макар. Ім дах над галавой трэба. Вугал.

– Ну, калі так, то хай ідуць.

– Спаць ёсць дзе?

– Чалавекі тры прыму, – ціха прамовіў стары, а потым насцярожыўся. – Толькі, старшынёк, падбяры непітушчых...

– За гэта не хвалюйся. Вось і добра... Ты траіх прытуліш, другі... Я прышлю іх да цябе. Не адлучайся ад хаты. Якраз ім тут зручна будзе – дарога блізка...

Жмайлік забраўся ў машыну, гыркнуў маторам.

– Пачакай-ка, старшыня! – узняў руку Макар. – Спытаць мушу...

– Слухаю, дзед, – высунуў галаву з кабіны старшыня. – Слухаю, слухаю...

Стары патаптаўся крыху на месцы, затым падышоў бліжэй, глядзеў сумнымі вачыма на Жмайліка, не асмельваўся гаварыць.

– Няма часу, Макар! – крыкнуў старшыня.

– Асфальт – добра ета. Ага. Ну. Мы, барчане, таксама даўно ўжо ў лапцях не ходзім. Праўдацькі. Ты, хоць і новы ў нас чалавек, а на свае вочы бачыш. Толькі баюся я, што дарога шкоды наробіць...

– Во як! – ускінуў падбародак Жмайлік. – Нешта цябе не разумею.

– Паглядзі на вокны – праз хату, лічы што, забіты дошкамі крыж-накрыж. Няма каму ў тых хатках жыць. І астатнія, баюся, драпануць у горад.

– А дарога тут пры чым?

– Як жа... Чаму не бегчы па асфальту? Толькі бяжы...

Жмайлік рассмяяўся, прычыніў дзверцы, і наад’ездак крыкнуў Макару:

– Пажывём – пабачым!

«Уазік» крануўся з месца, пакалываўся на дарогу, а потым шпарка панёсся за калонай.

Хлопцы ў Макара жылі вясёлыя. Паслухаць іх, дык героі: дзе не былі і што не рабілі. Сяргей, які паабяцаў старому, хоць Макар на ягоныя словы і рукой махнуў, не прыдаў значэння, выкапаць прама на дварэ калодзеж, перад ганкам, сваім заграбастым каўшом, каб не хадзіць яму далёка за вадой, на язык быў лёгкі і усё разносіў былога старшыню:

– Яго даўно трэба было б турнуць! За каго вы, дзед, на сходах рукі ўзнімалі? Хоць ты і не вінаваты... Ну! Што ён у вас пасля сябе пакінуў? Вокны забітыя? Дык гэта я бачу. А яшчэ? Нават дарогу не мог зрабіць! Гультай! Не, вы падумайце толькі: сам жа больш за іншых ганяў па ёй, а ленаваўся. Дык у яго што, і на самай справе сям’я у горадзе так і жыла?

Макар кіўнуў.

– Куды ў раёне глядзелі? – Сяргей увесь быў у руху, выціскаў ботамі тонкі рып з маснічын. – Даўно б яму па шапцы ўгрэлі! Соні! Позна вочы працёрлі... Суседзі вунь прыбіральні ў хатах маюць! А цяпер вот Жмайліка вазьмі. Зялёны, я тут не пярэчу, але разваротлівы, халера! Хвацкі! Смоўж! Не паспеў стол абжыць у кабінеце, а ўжо за дарогу ўзяўся. Гаспадар! Такога б раней, дык у вас тут дзіцячы сад трэба было б будаваць. Ён у вас тут усіх чаркалюбаў прыцісне. Нас таксама, для поўнай яснасці сказана хай будзе, таксама папярэдзіў: «Хлопцы, глядзіце ў мяне: калі ў час работы каторы чарку ўхопіць – на сябе скардзіцеся». Во!

Макар слухаў Сяргея ўважліва, хітаў галавой – пагаджаўся. Хоць і новы чалавек у вёсцы, гэты Сяргей, а багата ведае, праўду гаворыць.

– Значыць, будзе гарадская дарога? – узнімаў вочы на экскаватаршчыка стары.

– Будзе, дзед! Сёлета. Мы ваду ў ступе не таўчэм! Нам таксама карміць дзяцей трэба!

– Памаладзее, значыць, яна... Што ж, ёй жыць яшчэ доўга... Ёй жыць... – ківаў белай галавой Макар.

Стары звычайна праводзіў кватарантаў за веснічкі, іншы раз кандыбаў услед за імі, моўчкі назіраў, як экскаватар засыпае канавы

жоўтым пяском, што возяць, ледзь паспяваючы, аднекуль здаля самазвалы, як бульдозер раўнуе дарогу, чуў піскліві, бы птушыны крык, шоргат жалеза аб камяні. Камяні блішчэлі на сонцы абскобленымі белымі бакамі, і здавалася яму, што дарога ўпарціцца людзям, паказвае зубы. «А ўсё ж шкада цябе, дзіцятка, – шаптаў Макар, – хоць і прыхарошваюць цябе, у новую кашулю апранаюць. Я да такой прывык, якая ты ёсць. Толькі хай ужо будзе і так, як хоча старшыня... Як робяць хлопцы. Пазнаеш мяне, апранутая ў асфальт, га? Даўжна, даўжна пазнаць...»

Хлопцы слоў на вецер не кінулі – вось яна, дарога!

Блішчыць на сонцы асфальт. Макар стаіць на сваім прывычным месцы, углядаецца ўдалячынь. Стары пазнае старшынёўскі «уазік», імчыць ён па шырокай палосцы дарогі, а на пад'ездзе да Макара запавольвае бег, злёгку рыпіць тармазамі, спыняецца:

– Чыя праўда, Макар! Не ўцякаюць людзі – назад вяртаюцца. Бачыш, вязу! І чаму не вяртацца, калі такую дарогу адгрохалі!

Старшыня з радасцю на прыгожым маладым твары едзе далей, а Макар стаіць насупраць хаты на сваёй дарозе. Памыліўся ён. Першы раз за многія гады. І быў вельмі шчаслівы...

Ён стаяў, сашчапіўшы рукі на кульбе, ціха казаў:

– Ну, і як табе жывецца цяперачы, дзіцятка, у новым адзенні? Не цісне апратка? Не, гаворыш. Вось і добра. Жыві. Ага. Ну. Табе доўга на гэтым свеце бавіцца... Мне б толькі глянуць, хто будзе ездзіць і хадзіць па табе туды далей... Відаць, не гляну... Дзякуй Богу, і так пражыў багата... Яшчэ з таго веку дыхаю.. А ты будзь... Увесь час будзь... Няхай па табе толькі добрая, лёгкая нага ходзіць і нашы машыны ездзяць... Пайду... А ты – будзь... Здароўя зычу табе... шчасця зямнога зычу...

... Над Макарам і дарогай вісіць цёплае, вечнае сонца.

## ТАК І ЖЫВЁМ, БРАТ...

Стары халасцяк Сяргей Пекур павінны быў на колькі дзён пакінуць горад: напісала сястра, каб абазязкова прыехаў, выходзіла замуж дачка Валя, а яго, значыць, пляменніца. Да ліста прыкладвалася і запрашэнне. Сяргей абрадаваўся і, хоць далёка той Іжэўск, пачаў збірацца ў дарогу. «Калі яшчэ надарыцца такая магчымасць – сустрэцца разам усім сваякам?» І ён заспяшаўся. На заводзе падлічылі, колькі ў яго набралася адгулаў, далі згоду: едзь, твая воля, мы не супраць, маеш права. Цяпер зіма – не лета. Сабраў такія-сякія транты, запіхнуў у сумку, зняў з ашчаднай кніжкі грошы – на падарунак маладым і на кішэнныя расходы.

Самалёт заўтра раніцай...

А звечара трэба было рашыць яшчэ адну праблему – дамовіцца з кім-небудзь з суседзяў, каб тыя прыгледзелі за Кімам, разумным і верным гаспадару тыбецкім тэр’ерам. «Гэта мы ўмомант, гэта нам дробязі!» – паглядаючы на калматага сябра, разважаў Сяргей. Сабака ўжо разумеў, што гаспадар некуды збіраецца, таму не лашчыўся да ног, а сядзеў воддаль ад Сяргея, сумна назіраў за ім: не меў прывычкі перашкаджаць, няхай сабе збіраецца, а сабачы лёс – сядзець дома, чакаць. Не ўпершыню. Трывожыла Кіма толькі адно: на яго памяці гаспадар ніколі так доўга нікуды не збіраўся. Далёка, значыць. Так трэба разумець. Ён, Кім, прывык, калі штораніцы яго выводзіў на прагулку гаспадар, ускудлачваў потым віхор між вушэй і на развітанне кідаў кароткае: «Ну, я на завод, Кімуля! Не сумуй. Паспі. Паеш. Пагуляй з лялькамі». І шчоўкаў дзвярыма. На завод дык на завод: трэба зарабляць грошы, каб пракарміць гаспадару і сябе, і мяне. Хто ж гэтага не разумее? Які дурань?

Вечарамі ж яны былі амаль заўсёды разам.

– Чаму такі невясёлы, га? – глянуў на Кіма Сяргей, падміргнуў, цёпла ўсміхнуўся.—Ну-ну, не крыўдуй. Трэба, брат, трэба мне паехаць. Сястра ў мяне адна – крыўдзіць нельга. Я хутка. Я нядоўга. Туды-сюды – і мы будзем зноў з табою кашу варыць, музыку слухаць, футбол глядзець па тэліку. Павінны ж мы з табою дачакацца, калі нашы футбалісты медалі выйграюць? Ці не? Вышэй, вышэй галаву, Кімуля. Правільна. Вось за гэта ты разумнік. Вось за гэта ты малайчына. – Ён уздыхнуў. – Павер, не магу з сабой узяць. Даруй. Няблізкі свет. Гэта каб у Вець да дзеда з бабай, тут бы і размоў не было. Успомні, брат, колькі разоў ездзілі? І я кажу: багата. У аўтобусе бурчаць, касавурацца, а мы едзем. Нічога, нічога... Аддадзім

пляменніцу ў надзейныя, як гавораць, рукі – і адразу да цябе. Падаруначак прыгледжу там. Абавязкова. Нешта смачненькае. Ты ж мяне ведаеш. Прывязу. Ну, а цяпер пайшлі да суседзяў, дамовіцца трэба, каб цябе кармілі, паілі, на двор выводзілі пагуляць. Я грошы пакіну для цябе. Скачы на рукі. Вось так. Куды спярша – да цёткі Розы? Да яе, да яе, Кімуля. І я так падумаў. Яна добрая, цётка Роза, цябе занадта любіць.

Сяргей, трымаючы Кіма на руках, бы маленькую калматую ляльку, прычыніў за сабою дзверы, адразу ж утапіў кнопку званка – і ў кватэры суседкі пачуўся мяккі тупат, потым была затоенасць за дзвярыма, яна супала з зацямненнем вочка: цётка Роза, канечне ж, спярша пацікавілася, хто да яе, а потым толькі адчыніла дзверы, шырока ўсміхнулася Сяргею і Кіму, чмокнула сабаку ў носік-гузік:

– А мой залаценькі, і ты да мяне ў госці? Цю-цю-цю-цю-ю! Харошанькі мой! Налюбавацца не магу прыгажунчыкам такім! Ой! Ды вы праходзьце, праходзьце, суседзі! Чаго ж гэта я? Балаболю, а запрасіць не запрашаю. Праходзьце. Я і чай якраз п’ю. Мо і табе кубачак, суседзе? На зёлках чай. А што мне Кіму?..

– Ды не, дзякуй, – Сяргей сарамліва ўсміхнуўся, – дзякуй вялікі. Не турбуйцеся. Мы на хвіліначку. Я вось па якім пытанні да вас, Цімафееўна. Дакладней – мы.

– Слухаю, слухаю.

– Мне трэба на некалькі дзён пакінуць горад. Сястра на вяселле запрашае. У Іжэўск.

Роза Цімафееўна часта заміргала маленькімі вочкамі, не менш часта захітала галавою, у якую густа былі натырканы бігудзі – Сяргей не адразу заўважыў бліскучыя трубачкі ў сівых валасах старой суседкі.

– Было пісьмо, было, – спакойна сказала яна, а потым уздыхнула, папраўіла бігудзі. – Я і спалохалася, калі паштарка пісьмо ў тваю скрынку апусціла. Спытала, пацікавілася я, нягож, адкуль пісьмо табе. «З Іжэўска». Можа, з Соняй што, падумалася мне. Карцела ўсё спытаць у цябе, ды ў тлуме гэтым забылася. А раз вяселле – ну, тады добра. Няўжо Валька хвост натапырыла?

– Валька.

– Во дае! Во! Саплівая ж быццам яшчэ. Глядзі ты, і цябе запрасілі. Едзь. Трэба. Радня ж вялікая.

– Дык і думаю.

– Ты не думай, а збірайся. Прырос ты, гляджу, да сваёй канапы. Ні баб табе не трэба, нічога. Толькі б музыку йграў.

– Паеду. Я ўжо і білеты ўзяў, – смялей загаварыў Сяргей.

– А там, можа, і сабе знойдзеш якую кралю.

– Вельмі трэба, – усміхнуўся Сяргей.

– А чаго? Даўно пара. Даўно-о!

– Да вас я, Цімафееўна, каб выручылі...

Старая бліснула вачыма, на імгненне затрымала дыханне і, ацаніўшы сітуацыю, рашуча сказала:

– Няма грошай. І не прасі. Мне ж, верыш, паўгорада павінны. Не алкашы якія-небудзь там – не, нармальныя людзі. Ой, чэрці! Просяць, клянчаць, а як даўгі вяртаць – быццам у каналізацыю пахаваліся: ніводнага не бачу. Абмінаюць. Ведама ж, сляпая, за два метры не бачу. Грошай, суседзе, няма. Дала б, табе – без размоў.

Кім лізнуў Сяргея ў шчаку.

– Я не грошай прасіць... Мне Кіма вось няма куды падзець. Прыйшоў папрасіць вас, Цімафееўна. Выручыце?

Недзе ўнізе грукнулі дзверы – уваходныя, хлынуў вецер, загуў на лесвічнай пляцоўцы. Кімаў чуб заматляўся, ён паглядзеў на свайго гаспадара: прасіўся да ног.

– Зараз, зараз, Кімуля.

– І на колькі ж ты, цікава, дзён знікаеш? – узняла на Сяргея вочы Цімафееўна, на гэты раз больш строга, без асаблівага энтузіязму.

– За тры дні думаю абярнуцца, – Сяргей зразумеў, што тут у яго нічога не атрымаецца, але працягваў весці дыялог. – Хоць мне там і яшчэ дабавілі. Адгулаў набралася...

– Ты канкрэтна, не мямлі: колькі дзён глядзець Кіма?

– Ну... можа, чатыры... не больш, – нясмела прагаварыў Сяргей.

Цімафееўна прысвіснула:

– Ты што, хлопец? Мне ж яго і вывесці, і завесці. Так? І накарміць. І напаіць. А калі блохі? Бываюць блохі?

Сяргей кіўнуў, але адразу спахапіўся, паправіўся:

– Цяпер не, няма. Ды і не страшныя яны для людзей. Не!

– Ну во, бачыш? – быццам і не чула яго суседка. – Чатыры дні, хлопча мой любы, мне годам здадуцца. Ты маладзейшых каго ж, можа... А то шугане твой Кім да нявесты якой – даганяй старой бабе! З мяне, сам бачыш, фізкультурніца... Я, праўду кажучы, і ў тэатр паабяцала хахалю аднаму, ледзь не забылася. Век не была ў тэатры – згадзілася, тым і ўзяў хахаль.

– Кім у тэатр не будзе прасіцца, – з іроніяй заўважыў Сяргей.

Смех, як той вецер, шугануў з кута ў кут: Цімафееўна курыла, голас у яе быў сіпаты, такі ж і смех.

– Яшчэ не хпала – сабаку ў тэатр!

– Даруйце! – Сяргей павярнуўся, пагладзіў Кіма па галаве, падміргнуў, бы чалавеку, і неўзабаве крануўся ручкі сваіх дзвярэй. У вузенькім калідорчыку ён пастаяў яшчэ колькі часу, прыхінуўшыся спіной да халоднай сцяны, мацней прыціснуў да сябе сабаку, прашаптаў: – Нічога, нічога, Кімуля. Памыліўся твой гаспадар. Даруй, не ведаў, якая яна, цётка... Даруй... Так быццам бы і нічога... з выгляду...

Ён і яшчэ б стаяў так, відаць, і гаварыў бы нешта свайму калматаму сябру, але дзынкнуў званок. Не паспеў Сяргей скрануцца з месца, каб адчыніць, але Роза Цімафееўна сама прасунула галаву ў бігудзі:

– Можна?

– Праходзьце.

– Ой, Сярожа, – яна прайшла, скрыжавала рукі на жываце. – Ты пра мяне кепскага нічога не падумай. Не магу, іншы б раз – хоць на месяц. А цяпер – не, не! – і Цімафееўна часта закруціла галавой, у бігудзі заіскрыліся промнікі ад сонечнага струменя, які прашыў шыбы на кухні, зачапіўся за сцяну ў калідоры. – Пятро Сцяпанавіч, гэта мой новы дзед, страх як не любіць сабак, кошак, птушак...

– Пара яму паміраць,– спакойна сказаў Сяргей.

– Ён гаварыў мне, і я ўспомніла, – прыкінуўшыся глухаватай, сакатала далей Цімафееўна – І як гэта я раней не згадала?

– Я разумею. Я разумею. І Кім усё разумее. Дзед... Тэатр...

– Не крыўдуй, Сярожа. Калі трэба – заўсёды прасі: хто, як не суседзі?.. Але зразумей. Сітуацыя. – Жанчына нахілілася над Кімам, усміхалася яму, лёганька шкуматнула за вуха. – Глядзі ж там, на вяселлі, Сяргей, не спі ў шапку: падвернецца якая краля – дзейнічай агрэсіўна, але з галавою. Наша палова што любіць? Ласку і сілу. Ну, шчасліва! – Суседка памахала кашчавай рукой, і за ёй ціха прычыніліся дзверы.

Памаўчалі.

– Да каго цяпер пойдзем? – узняў на Кіма вочы Сяргей, прысеў, узяў чорны камячок з чорнымі вочкамі на рукі. – Не хочаш? Разумею. А трэба. Не магу я цябе пры ўсёй павазе з сабой... і далёка, і бяспашпартны ты. Усё роўна як біч. Чуў такое слова? Не, і добра. У самалёт не пусцяць. Цёткі і дзядзькі там строгія. А пашпарт на цябе няма калі выпісваць. Трэба раней было мне падумаць. Вінаваты. Ну, пайшлі, Кім. Не ўдарыць. – Першы чым пацягнуць на сябе дзверы, Сяргей прыпаў да вочка. На лесвічнай пляцоўцы ён убачыў Розу

Цімафееўну з другой суседкай – маладзенькай, бойкай і прыгожай Танькай, так яе завуць, хоць Таньцы даўно за дваццаць. «Пра мяне балакаюць, – здагадаўся Сяргей, і здагадацца было лёгка: жанчыны раз-пораз кідалі кароткія позіркі на ягоныя дзверы, тады ён трымаўся ад вочка далей – перасцярога. – Схаджу, так і быць, да Танькі. Паслухаю, што яна скажа. Я ж яе шмат разоў выручаў. І мэблю новую адзін цягаў на трэці паверх, і збіраў яе амаль тыдзень. Ды ці мала што па суседску? Кавалкам хлеба дзелімся. А ў Танькі часта не хапае: дзяцей трое, а бацькі – ніводнага. Яны, вядома, недзе жывуць, ёсць. А дзе – сакрэт. Пайду да Танькі. Калі ўжо Танька не выручыць?! Яна не Роза Цімафееўна. Гэта тая язычком толькі добранька...» Ён зноў глянуў у вочка: жанчыны разыходзіліся па сваіх кватэрах.

– Пасядзі, Кім. Я сам. Я адзін. Да Танькі.

Кім мякка затупаў далей ад дзвярэй, сеў каля шафкі для абутку – яго пастаяннае месца, адкуль ён праводзіць Сяргея з кватэры, і цяпер не зводзіў вачэй з гаспадара. А сам, відаць, думаў: «Пасяджу. Схадзі сабе і да Танькі. Ты толькі смялей. Чуеш? Яны ж, суседкі, у цябе усё смела просяць, амаль сілком вырываюць з рук. І ты хітрэйшы будзь. Не маленькі. Га-гаў».

– Буду смялей трымацца, Кім, – паабяцаў Сяргей, нібыта і сапраўды пачуў думкі сабакі. – Хопіць. Не – дык не! І я ім так! А то, бач ты, грузчыка-разгрузчыка знайшлі: Сяргей, памажы тое, Сяргей, памажы гэта. А Сяргея выручыць – праблема, ёлкі- палкі! Так, Кімуля?

Утапіўшы кнопку званка, Сяргей пачаў чакаць. Моўчок. Танька быццам і не заходзіла дамоў. Але заходзіла ж. Ён добра бачыў. Не сляпы. Не магла ж яна ўслізнуць так хуценька – пакуль ён сказаў Кіму ўсяго два словы. Дома. Мо на ўнітазе сядзіць? Пачакаем. Ён прайшоўся па вузкай лесвічнай пляцоўцы ўзад-уперад, пастаяў. Зноў націснуў на кнопку. Ціха. І да вочка не падыходзіць.

– Эх, бабы, бабы! – уздыхнуў Сяргей, стукнуў кулаком па сцяне. – Сумна з вамі жыць! Усё вы любіце – аддаваць толькі не! У норы, значыць? Палюбоўнікаў цяпер сваіх завіце! Іх! Няхай яны не толькі ў пасцелях вас забаўляюць, а і там, дзе кішка ў вас тонкая, за вас і цягнуць хай воз яны!.. І не толькі вы такія. Усе. Сядзелі б па вуглах, жралі толькі. Сытыя гніды! Задніцы панаядалі – як копы сена! Дзе ж тут у магазінах усё будзе, калі есці прывыклі за дзесяцярых, а рабіць не – ён няхай, сусед! І кожны торкае на таго, іншага. Цьфу, маць вашу, ёлкі-палкі! Ну выйдзіце хто-небудзь! Выйдзіце! Пагаварыць

трэба! Чалавеку кепска! Можа, горш чалавеку, чым пры інсульце. Чалавеку-у-у!..

За дзвярыма азваўся Кім – загаўкаў, потым – было чуваць – ён тонка скуголіў: плакаў.

Сяргей плюнуў, махнуў рукою, піхнуў дзверы – і рашуча, энергічна ўвайшоў, плюхнуўся на канапу.

– Сумна, Кім, вельмі сумна, – ён адкінуў галаву назад, хапаў ротам паветра, расшпіліў верхні гузік на сарочцы. – Ведаў бы ты, як сумна, друг мой святы... Хоць памірай... Жыць мне, маладому, не хочацца. Ты верыш? Кімуля, Кімуля... Ну, а раптам памёр бы? Не, не, трэба жыць. На каго ж я цябе пакіну? Прападзеш. Жыць! Нельга паміраць. Нельга!..

Кім падкраўся да гаспадара, лізнуў у шчаку, зноў павалюхаў, усё так жа мякка ступаючы, на сваё месца – да шафкі з абуткам: ён добра ведаў сваё месца...

Трэнькнуў званок. Сяргей падняў галаву, прыслухаўся: званок працягваў спяваць.

– Заходзьце. Адчынена.

На парозе стаяў, праціраючы вочы зашмальцаваным рукавом, Слон. Чалавек, вядома. Чаму Слон – дык з маленства, відаць, мянушка пацягнулася, бо сланом тут і не пахла. Можа, і быў калі Віцька мажным хлопцам, але ж цяпер ад яго засталіся косці ды валасы на галаве. Не хапае грошай у чалавека на ежу, гарэлка дарагая, а выпіць хочацца круглыя суткі. Алкаш, адным словам. Усё перапіў-пераспытаў Слон, хавай падалей ад яго адэкалон нават. Суседзі і хаваюць, бо схопіць ён флакончык, калі будзе стаяць на відным месцы, і лічы, што быў: упросіць, залатых гор наабяцае, слязу пусціць. Не ўстаіш. Хаваюць суседзі хларафос і іншую атруту. Мухі дохнуць – Слон жыве.

– Здароў, – ціха выціснуў з сябе Слон. – Ты ці хто крычаў? Спаў я. – Ён пазяхнуў, паляпаў па губах. – Пахмяліцца няма? – Махнуў безнадзейна рукою. – Калі ў цябе было? – Сеў асцярожна, быццам табурэтка была або дужа гарачая, або дужа халодная. – Крычаў, пытаю, навошта? – І, не дачакаўшыся адказу, спытаў: – Якое сёння чысло?

Сяргей назваў.

– Во! Заўтра – ура! – пенсія. Матчына. Ну, дык ты што? Біў хто?

– Нічога. Усё добра. Заўтра на вяселле лячу.

– Далёка?

– У Іжэўск.

Слон здзіўлена разявіў рот, шырэй, чым заўсёды, зрабіліся вочы:

– Шандарахнуўся? Ты што, праўду нясеш? Маць часная! Напіцца ехаць за столькі кэмэ! Не, Сяргей, у цябе каленвал у галаве з самазвала. Давай мы тут? Я збегаю.

– Ты чаго прыцёгся? – строга спытаў Сяргей.

– На крык. Слухай, пастаў бутэльку. Хоць раз.

– Не п’ю.

– І не пі. А мне пастаў. Любую. Абы пахла. Га? Ну, чаму маўчыш? Ку-ку, так? У цябе ж і дні нараджэння бываюць, і святы іншыя там. Хоць бы раз даў кульнуць. Ты па якіх законах, маць тваю, жывеш? Ты што – не сусед?

– А ты мне ставіў пляшкі?

– Дык ты ж не п’еш!

– Прапануй. Пачастуй. А там відаць будзе. П’ю не п’ю, а хто мяне калі запрашаў? Вы самі па сабе. Я – сам.

– Не, як хочаш, а я не ўкладу ў свой цэбар: ехаць у такі свет, каб напіцца! А можа, ты і зусім піць не будзеш? Га? Маўчыш? Дай грошай да пенсіі – я скокну – Слон ажно прыўзняўся, памкнуўся да Сяргея. – Ідэя! Гонь! Заўтра, перад самым ад’ездам, вярну. Мне маці павінна – дровы ёй пілаваў. Га? Ну! Як піць! Ты што, мне не верыш?

Павісла маўчанне. Слон крэкнуў, кашлянуў:

– У Іжэўск, кажаш? Да сяструхі? А што там п’юць, цікава? Не бачыў?

– Тое, што і ў нас.

– Ідзі ты! – Слон пачухаў патыліцу, варухнуўся на табурэтцы. – У Грузіі толькі, чуў, ёсць гарэлка дзешавейшая. Чаму ім можна дзешавейшую? Ах, правільна – франтавая паласа. А я на работу праспаў – бац, усё падчыстую зразаюць, ніякіх паслабленняў. Мужыка можна пясочыць. Не брыкаецца. А тыя, вусатыя, выкаблучваюцца там... Лепш бы пілі. Дурні! Цьфу! Эх, маць!.. Выпіць бы – і няхай яно ўсё... Серы, я б, канечне, твайго кабяля ўзяў. Чуў, бабы там пра цябе гаманілі... Розка з Танькай. Розка: не бяры, я адмовілася, можа табе ўсучыць.

Сяргей падняў на Слана вочы.

– Не хлусіш? – чамусьці спытаў, хоць і сам усё добра ведаў.

– Клянуся першай жонкай. Люблю і кахаю. Мымра Роза мымры Таньцы: не бяры, калі будзе падсоўваць Кіма. Хай, маўляў, дурняў не шукае. Сябе за інтэлігента абадранага выдае, раз сабаку купіў, не п’е, чаркі з ім не ўзялі ніколі... то няхай і глядзіць Кіма, калі такі мудры. Носіцца з ім, кажуць, як дурань з торбай.

– Так і сказалі?

– А то я глухі, цецярук! Я, калі з пахмялюгі, чутка сплю: мне ўсё здаецца, што вось-вось у дзверы паляпаюць з міліцыі, але нешта доўга разнарадкі з ЛТП няма. Я б Кіма твайго ўзяў, кент што трэба. Свой мужык. Даглядаў бы. Цюлькай як-небудзь перабіліся б. Але баюся. Раптам з ЛТП разнарадка прыйдзе, раптам пра мяне ўспомняць і заграбуць. З кім ён застанецца7 Асірацее. Тут яшчэ адна старана дзела... Я ж, Серы, суседзяў баюся: грошай напазычаў, табе прызнаюся, так і быць, аддаваць пакуль няма чым, то баюся і нос лішні раз вытыркнуць на двор. А яго ж выводзіць трэба разы два. Сама мала. Эх! – Слон устаў, патаптаўся каля табурэткі. – Няма, значыць, ні кроплі?

– Няма.

– Тады ляці. Ляці. Соньцы прывет. Цяжка мне. Баліць усё ўсяродку. А грошай няма, каб лякарства купіць.

– Не пі. Зусім.

– Табе лёгка сказаць: не пі. Я ж хворы. Ты ж, калі хворы, нешта глытаеш. Ці не? Ляці, Серы, ляці...

Ён выйшаў, ціха прычыніўшы за сабою дзверы. Сяргей правёў Слана вачыма, задумаўся: «Можа, мне ніколі яго, Віцьку-Слана, не зразумець? Можа, яму так лепш жыць, як жыве? Хто яго ведае...» Пад руку падвярнуўся Кім, Сяргей пагладзіў яго, прытуліў да сябе:

– Вось так і жывём мы, брат... Вось так і жывём... Ты пачакай мяне дома... Я хуценька... Яшчэ схаджу да суседзяў... Не, не, да іншых... Можа хто і выручыць нас, братка Кім?..

## ПРА КОЛЬКУ, КУРЫЦУ І БАБКУ АНТОСЮ

Якраз у цэнтральную дарогу вёскі ўпіраецца зашмальцаваным бокам пунька, і калі ў сухмень пераціраюць і без таго перацёрты пясок коламі грузавікі і легкавугкі, пыл шугае на дах ледзь не воблакам, і цяпер яго там – хоць мятлой змахвай. Толькі калі барабаняць-сякуць па даху дажджы – яны для яго, быццам лазня для барадатага млынара, – адмываеццав салома, але не настолькі, каб залаціцца ёй.

Цяпер лета, спякотнае, сухое. Колька сядзіць непадалёк ад пунькі на лаўцы, пад кустом жасміну, усунуўшы галаву ў нейкую кнігу, патрохі крывіць губы, торгае імі, прытупвае нагой. Ён – студэнт-завочнік. Ідзе вучоба!

Праехала адна машына, другая – як жа яму, Кольку, не прыгледзецца да іх: хто гэта за рулём там сядзіць, што павёз? На гэтай лаўцы, праўду кажучы, ён больш уцягвае ротам і носам пылу, чым чытае. Можна аблюбаваць хоць бы месца для вучобы на гародчыку, калі ахвота на свежым паветры сядзець, але можна іншым, толькі не Кольку: павінен вяртацца з грыбоў настаўнік Сяргей Кірылавіч і трэба ўпільнаваць, бо той паабяцаў памагчы. «Лепш пераседзець, чымся недаседзець»,– рашае Колька і тэп-гэп падэшвай сандалета па зямлі, бо так, відаць, яму лепш чытаецца.

«Дзе той Кірылавіч? Няма». Колька зноў уперыў вочы ў кнігу, перад імі мітусяцца нейкія мудрагелістыя схемы, формулы, яны для яго – што гульня ў шахматы: як і куды сунуць гэтыя фігуры гросмайстры – адным ім вядома. Спрабаваў навучыцца гуляць у шахматы і Колька, але перадумаў: дужа цяжкая навука, ну яе! Вось шашкі – іншая справа, негаворачы ўжо пра даміно. Хто ж лічыць у наш век да сотні не ўмее, а грукнуць па стале для Колькі нічога не значыць, моцы ў руках хапае.

Кольку адрывае ад навукі бабка Антося:

– Студэнт, хадзі сюды!

«Бач, студэнт...» Ён ганарыцца гэтым словам, якое хоць трывала і не прыляпілася яшчэ да яго, але нешта значыць. Гучыць. Але Колька не спяшаецца да бабулі. Спярша важна паглядзеў на старую, на дарогу, на якой павінен жа калі-небудзь паказацца настаўнік, пацягнуўся.

– Ці табе вушы заклала? – павышае голас бабка Антося.

– Я ж табе сказаў: я з горада не для таго ехаў, каб заваліць вучобу! – бурчыць унук, але навошта бурчыць – і сам не ведае, недзе

ў душы і радуецца ж, што можна адкласці кнігу ў бок, заняцца тым, што лёгка і для ягоных рук, і для ягонай галавы. – То касі, то дроў унясі, то за вадой схадзі. Паеду ў інтэрнат!

– Табе ўжо вучыцца не трэба, кідай навуку, – не надта каб вельмі, але ўсё ж злуе Антося. – Гультаю можна і так пражыць, без цехнікума.

– Ну што там у цябе? – нарэшце Колька адкладвае кнігу, ставіць на яе малюсенькі радыёпрыёмнічак, каб не загарнуў вецер старонкі і не забыцца, дзе чытаў і пра што. – Куды гэта ты лесвіцу валачэш?

– Патрымай-ка, унук, яе, а то можна слізгануць – касцей не збярэш, – бабка Антося тым часам прыладкавала лесвіцу да сцяны пунькі, паставіла босую нагу на першую прыступку. – Палезу на неба, там, кажуць, печ з масла зроблена.

– Ну, лезь, – абыякава кажа Колька, а сам трымае лесвіцу. – Яна ж і так добра стаіць – не пасунецца. Быццам прыбіта цвікамі...

– Падстрахуй на ўсялякі выпадак, – палохаецца старая, прытуліўшы да лесвіцы шчаку, глядзіць на ўнука: ці трымае, блазан. – Во, во, так і трымай, Колька. Памерці не страшна – жыць хочацца. А я лезу, лезу... Трымаеш?

Колька трымае, не цяжка, а сам думае: «Дзівачка! Я лезу на гарышча, бацька лезе – ніхто не трымае. А яна, бачце, баіцца, хоць і пражыла свае гады. Старым, відаць, вельмі жыць сёння хочацца. Сёння і заўтра. Хто ж з нас, маладых, пра свой канец думае? Жывём – і ўсё... рана яшчэ думаць. А яны думаюць. У іх – блізка... Вось у дарогу збіраешся – і не спіцца, і думаецца. А горад вазьмі. Смешна глядзець, як бабкі гэтыя вуліцу перабягаюць, хоць і гарыць зялёнае святло. Так чэшуць, што не грузавік іх, а яны яго хутчэй знесці могуць». І Колька ўпершыню, колькі і жыў, падумаў: «А, можа, таму, што жыццё цяпер наладзілася, на рэйкі стала, дык прага ў старых да белага свету? Хоць вось ягоная бабка Антося. Што яна бачыла на сваім вяку? Вайну... Пахавальныя... Голад... Нястачу... А цяпер – жыццё! Уцякае, праўда, яно ад старых, так і меціць назусім ушмыгнуць, але ж і яны разумеюць гэта, таму і трымаюцца за яго дзвюма рукамі...»

Бабкі Антосі ўжо няма на лесвіцы, недзе на гарышчы лазіць, толькі чуваць, як шапаціць сена, а Колька ўсё роўна трымае лесвіцу. Яму здаецца, што бабка ўсё яшчэ лезе, і ўнуку вельмі захацелася, каб яна жыла і жыла. Вечна. Вось скончыць ён тэхнікум, стане, можа, нават і вялікім начальнікам, а там, глядзіш, па тэлевізары пакажуць. Няхай парадуецца бабка Антося. А калі не будзе яе, хто заўважыць і

Колькаў дыплом, і той непабудаваны яшчэ цуд-дом? Няхай жыве бабка. Доўга. Вельмі доўга.

Колька расчуліўся, павільгатнелі вочы, але рук не адрывае ад лесвіцы – пальцы ляжаць на ёй уроссып, моцна ляжаць, бы прымёрзлі, і ён думае-разважае пра жыццё. Ну, спытайце, чаму ён хоць бы ў тую навуку палез? Усе ж ведаюць у вёсцы, як вучыўся ў школе. Праз тройку – двойка. Калі чацвёрку меў – аднакласнікі ляпалі па плячы, паціскалі руку: малайчына! Але такое надаралася рэдка. Не, лепш не ўспамінаць. Збянтэжанасць узнікае. Няёмкасць. І за сябе, і за настаўнікаў. Хоць апошнім ён «таблетку» і падкінуў – здаў экзамены ў тэхнікум. Як здаваў – прыгадаць цяжка, бы заснуў на лаўцы пад сваім жасмінам, а яго штурханулі пад рабрыну: уставай, прыехалі. Прыехалі, дык прыехалі. Тыр-р-р!

Працуе Колька на будоўлі мулярам, і добра працуе, нават прэміі там розныя не зыбываюць вымяркоўваць яму, падзяку аб'явіць. «Ты заслужыў, Мікалай Сцяпанавіч. Пабольш бы нам такіх працавітых людзей». Але ўсе вучацца. Шкрабанула гэта і Кольку. Яму таксама захацелася. «Не горшы за іншых». Пра адно толькі забыўся Колька: калі аднакласнікі добра вучыліся – тады яму не хацелася. А цяпер сядзі на лаўцы. Падпільноўвай настаўніка.

– Ну дзе ты, баба? – задзірае галаву ўгору Колька. – Наелася масла?

– Ды лезу, лезу, – вылятае Антосін голас, а потым паказваецца і яна. – Дзе ж яна, хітрая, нясецца? Усе закутні перапальчыла, а хоць бы адно яйка. Дык што ж гэта выходзіць, людцы мае добрыя? Я карміць яе павінна да восені, а яна ні яйка мне?! Трасцы! Не-е, Антосю ты не абхітрыш! Пер'е з цябе паляціць! Сёння ж! – Антося высунулася з веснічак, намацала нагой лесвіцу, паставіла на яе парэпаную пятку. – Трымаеш, унук?

– Трымаю.

– Трымай жа! Лезу... лезу на зямлю.

– Навошта ты яе спускаеш, Колька? – неўпрыкмет падышла суседка Лідка, амаль што равесніца Антосі. – Хай там і зімуе. Бохан хлеба ёй падайце – нічога, перасядзіць.

– Ты, маладзіца, унука майго не ведаеш: ён бабу сваю шануе, – ніколькі не крыўдуе на суседчын жарт Антося, хутчэй наадварот: самы момант, думае старая, раз зачапіла ты, Лідка, языком Кольку, пра яго добрае слова ўставіць. І яна ўстаўляе, як толькі нага намацала зямлю: – Усё, злезла. Унук мой – ты чуеш, Лідка? – разумны. Абы-каго ў цэхнікум не возьмуць...

– Дапусцілі Кольку ў цехнікум? – дзівіцца Лідка.

– Узялі, узялі, дзеўка, – пасвятлеў Антосін твар.

– Што робіцца, людзі! – успляснула рукамі Лідка. – А ў нас жа, ледзь не сход які бацькоўскі, усё, помню, дзяўблі яго. Ён і такі, і гэтакі. Невук. Зусім не прызнавалі чалавека, а ён – на табе! – у цехнікум… На другі год усё, помню, пакідалі…

Іншая б бабка на месцы Антосі пачала дакараць настаўнікаў, што тыя не змаглі даць ведаў Кольку, а вось яна прамовіла суседцы наўздзіў памяркоўна:

– Узяўся за розум, маладзіца. Горад навучыў жыць.

Старыя гамоняць каля пунькі, а Колька зноў сядае на лаўку, бярэ ў рукі кнігу, зрэдку косіць вокам у той бок, адкуль павінен паказацца настаўнік. Калі ён яшчэ быў так трэба яму? Не відаць Сяргея Кірылавіча. Можа, грыбоў сабраў столькі, што не данесці? «Эх, – думае Колька, – праміргаў! Трэба было б з ім у лес пайсці. А чаго? Гэта ход. А так чым яму аддзячыць за тую кансультацыю? Грыбочкі – самы раз. Ад іх Сяргей Кірылавіч не адмовіўся б. Калі было, як на тую экскурсію хадзілі яны ўсім класам, а помніцца. Столькі баравікоў, абабкаў і падасінавікаў назбіралі настаўніку, што той вяртаўся з лесу ў вёску ў адной майцы – поўная кашуля, як завязаць, была напоўнена ляснымі дарункамі. Вось і цяпер бы забегчы наперад Сяргею Кірылавічу, зрэзаць грыбы ды ў кошык, у кошык, а потым – калі ласка, паважаны настаўнік! Трымай! Не дапетрыў, прамахнуўся. Глядзіш, і кансультацыя прайшла б на самым высокім узроўні. А так чым аддзячыш? Чым? Хіба ж Сяргею Кірылавічу ахвота проста так ламаць галаву, ды яшчэ ўлетку, калі яна ў яго на адпачынку».

Колька глядзеў у кнігу, а сам думаў: «Чым жа?.. А можа, і зусім ён не возьмецца бясплатна кансультаваць? Цяпер, кажуць, не той час, каб усё задарма. У горадзе вунь аб’ява ў газеце змешчана: даю кансультацыі… Не за прыгожыя ж вочы дае. Плаці, значыць». І другое хвалявала студэнта-завочніка: « А што, калі мараль чытаць пачне? Не захацеў, скажа, вучыцца, калі ўсе вучыліся, яшчэ і нерваў колькі мне папсаваў, а цяпер – прыпёрся, ратуй, Сяргей Кірылавіч. Ці ж ёмка? Га?»

Разважаючы так, Колька не адразу і заўважыў, як перад ім паўстаў Кукуруза. Валіку Ярмольчыку, былому аднакласніку – ці не ў пятым яны вучыліся разам? – такую мянушку прыляпілі за доўгі рост і белую лахматую галаву.

– Усё вучыш? – зморшчыў лоб Валік.

– Вучу.

– Не пазнаю цябе, Колька. Калі ўсе жэняцца – ты вучышся. Дзівак!

– Ды вось... рашыўся, – пацепвае плечуком Колька. – А чаму і не? Цяпер спрыяе... вучыся. Не ўсё ж мне ў мулярах хадзіць. Пахадзіў – хопіць.

– Кіраваць будзеш апасля? У начальнікі меціш? – Валік не без іроніі ў голасе падсядае да Колькі, бярэ кнігу, прагарнуў некалькі старонак. – Ого! Ды тут і формулы! Заблудзіцца можна. Няўжо разбіраешся?

Колька адмоўна круціць галавой.

– А як жа экзамен здасі? – зноў моршчыць лоб Валік.

– І сам не ведаю, – шчыра прызнаецца студэнт-завочнік, – але ж іншыя неяк здаюць.

– Глядзі, глядзі. А мо на рэчку махнём, га?

– Не магу. Ідзі адзін. Кірылавіча пільную. Абяцаў кансультацыю даць. Толькі вось не ведаю, чым і як з ім разлічыцца. Усё ж работа гэта.

– Работа! – ускінуў галаву Валік. – Колькі ў нас гэтых завочнікаў, а ён толькі такі добранькі. Ты вунь да Касцючыхі падступіся. Адразу адмахнецца. А чым аддзячыць табе? – Ён таксама задумваецца. – А ведаеш... Ты ж не школьнік. Дарослы. Бяжы ў магазін, вазьмі што трэба... грошы, кажаш сам, добрыя зарабляеш – больш нават, чым сам Кірылавіч, а пасля кансультацыі... так сказаць... Га? – Валік шчоўкнуў па горле.

Павісае маўчанне.

– А можа, ён не п’е? – насцярожана глядзіць на таварыша Колька, а па вачах відаць, што падказка яму спадабалася.

– Цяпер п’е. Гэта калі дырэктарам школы працаваў – трымаўся для аўтарытэту, а знялі як толькі, то і пачаў патрохі нюхаць. Не верыш?

Колька маўчыць.

– Ды я табе – хочаш? – на пальцах пералічу завочнікаў, якія хадзілі да Кірылавіча! – вісіць над Колькам белая лахматая галава сябрука. – Што, задарма? Так сабе? Ага, лаві ластаўку!

«Пайсці хіба і сапраўды ў магазін? Пайду...»

Бутэльку гарэлкі студэнт-завочнік Колька нёс да настаўніка ў поліэтыленавым пакеціку, на якім было напісана: «Вы нам паверце, смачны суп у канверце». А мо што іншае. Не па-нашаму напісана, і што Кольку да той пісаніны! Да халоднага ж боку бутэлькі туліліся два падручнікі.

... З гэтым пакецікам неўзабаве і выйшаў ён ад настаўніка. Не, выляцеў, бы верабей са шпакоўні, шпарка, не азіраючыся, пашыбаваў да пунькі, сігануў без лесвіцы на гарышча, зашыўся ў сена і ляжаў там, пакуль не сцямнела.

Назаўтра ранічкай, першым рэйсам, Колька паехаў у горад. Хто ведае, можа, шукаць тую газету з аб'явай, дзе, як сам вычытаў, нейкі дзядзька напрошваецца даваць кансультацыі...

А ў вёсцы ішло сваё жыццё. Сяргей Кірылавіч штодня хадзіў у лес па грыбы – урадзілі, не абмінаць жа. Бабка Антося няпутную курыцу не загубіла, хоць і клялася, а толькі шукала гняздо, выгледжвала і на гарышчы – лазіла туды звычайна ў канецы дня, а лесвіцу падтрымлівала Лідка. Аднаго разу яна спусцілася на зямлю не з яйкамі, а з бутэлькай, здзівілася: чыя?

– Вось гэта курыца ў цябе, Антося! – смяялася да слёз уваччу Лідка. – Што нясе, халера, замест яек! А ты хацела ўжо яе прыпуціць. Прадай мне!

Пасмяяліся бабулі, парадаваліся знаходцы, паразважалі, як бутэлька магла апынуцца на гарышчы, ды і годзе на тым сказалі. А гарэлку вярнула Антося ў магазін. Грошы паклала ў куфэрак: «На хлеб і цукар. Дзякуй таму чалавеку, які паклапаціўся...»

Пра Кольку яна і не падумала.

**БУБЕН**

У Аркашкі не было свайго бубна, ды і наўрад ён мог быць у гэтага хворага чалавека, калі Ганна, яго матка, сыну ў мясцовай краме купляла толькі зрэдку цукеркі, печыва, а з горада прывозіла такую-сякую просценькую апранашку: бедна жылі, на дзве сціплыя пенсіі – Ганніну і сынаву. Аркашка, відаць, ніколі і не прасіў Ганну: купі бубен. Не ж, канешне. Ён увогуле моўчкі прымаў ад яе ўсё, што яна яму давала. Еў, піў, насіў... І тым быў ашчасліўлены. Не, не павінна быць, каб ён хоць раз заікнуўся пра бубен. Ды яна б, Ганна, і паабяцаць не паабяцала, і купіць не купіла б, хоць і папрасіў бы сын – кожная капейчына на ўліку, на хлеб ды селядзец: не раскашуешся. Ды і дзе яны, тыя бубны, прадаюцца? Ды і ці прадаюцца? Іх жа, мусіць, майстравыя мужыкі робяць – у вёсках, гарадах. Для сябе. Як рэшата, дугу, плужок. Але калі якая гулянка ў Беражках – вяселле, хрэсьбіны, уваходзіны – мясцовы музыка разам з гармонікам абавязкова прыхопліваў і бубен. Бубен – для Аркашкі. Ён жа заўсёды прыходзіў на такія мерапрыемствы без запрашэнняў, яго ўжо быццам бы і чакалі, мясцілі куды-небудзь на ўскрайчык лаўкі, налівалі келіх-другі, ён выпіваў і закусваў, не выпусціўшы на свет ніводнага слова. Толькі соп, калі еў. І сачыў за гарманістам. Той выбіраўся з-за стала – за ім ішоў і Аркашка, сядаў ад яго з правай рукі, вывуджваў з халявы чобатаў – Ганна чамусьці аддавала перавагу зімой і ўлетку гэтаму абутку, а мо і сам ён – палачку, вystругануую самаручна, таму крыху нязграбную, каравую, і ў яго атлусцелай левай руцэ пачынаў уверцюру бубен – спярша трымцеў-звінеў мініяцюрнымі бразготкамі над Аркашкавым вухам, а потым, бытта жаўранак, адспяваўшы ў высі, камячком кідаўся на зямлю, – так і бубен: у правай руцэ падпільноўвала яго палачка, неўзабаве яна краналася нацятага – як звон! – скуранога палатна, і тады Аркашка, прафесійна схіліўшы галаву на бок, выстукваў на бубне самыя розныя мелодыі, і ніхто не помніць, каб калі-небудзь гарманіст папракнуў яго за фальш. У гэтай справе Аркашка быў маэстра, таму рэдка хто цягнуўся за бубнам, калі той быў у ягоных руках. Мо толькі п’яны які. Але што з яго, асалавелага, возьмеш? Цікава ж – Аркашка даваў бубен моўчкі і пакорліва, а сам перасядаў ад гарманіста або стаяў крыху паводдаль, каб бубен і гармонік былі блізка, поруч, і абыякава, здавалася, назіраў за людзьмі, што калываліся ў танцы. Але без справы заставаўся звычайна ён зусім мала: знаходзіўся нехта, хто абавязкова крыкне:

– Аддай бубен Аркашку!

Іншы дабавіць да гэтых слоў: «Партач!»

Тады Аркашка моўчкі падыходзіў да свайго законнага месца, лавіў у паветры руку з палачкай, вылузваў яе, забіраў і бубен. «Людзі сказалі: аддай...» І зноў схіляў галаву на бок, шавяліў ў роце языком – у такт музыцы, прытупваў чобатам, і да кропелек на расчырванелым твары выбіваў-выстукваў з гэтага немудрагелістага бубна нешта жывое, вясёлае, трапяткое – вельмі патрэбнае людзям пасля чаркі.

Біць у бубен бярозовай палачкай і прыстукваць вязанкай пальцаў, сашчапіўшы іх у кулак ці проста далоняй, чарадуючы адно з другім, – адзінае, што ўмеў Аркашка добра рабіць на гэтым свеце. Яшчэ вады наносіць, дроў, а каб самому распаліць печ або грубку – тут не, не яго занятак: і скласці тыя дровы ў печы не атрымлівалася, і запалкай чыркнуць не собіла яму. Бог чамусьці не даў Аркашку ўсяго таго, што даў іншым. За што пакараў, спытаць бы? Бацька з вайны не вярнуўся – загінуў.

Ганна з евангеллем клалася спаць і з ім уставала, усе пахаванні-адпяванні ў Беражках былі на ёй: нікому не адмаўляла, хворая не хворая, а ідзе з Божым словам у апошнюю дарогу правесці загавелага вяскоўца. Аркашка ж, калі быў зусім немаўлём, то застудзіўся, да яго прыліп мінінгіт, той жорстка абышоўся з ім – на ўсё жыццё пакінуў Аркашку хворым, няшчасным. У школу пахадзіў усяго мо з месяц, а тады настаўнік перадаў Ганне сваё заключэнне-дыягназ: нічога не будзе з хлапца, не адужаць яму граматы, няхай лепш сядзіць пры хаце. Ганна і сама ведала, на што варты яе сын: бачыла, не без вачэй, ды і дактары яшчэ раней сказалі ёй – далікатна і тактоўна – тое ж самае. Але як было сказаць яму, каб не рупіўся перад вераснем, не збіраўся ў школу? Суседскія ж вунь збіраюцца дзеці, і ён каля іх трэцца, хваліцца, што і яму матка купіла буквар, сшыткі, ручку. Дзеці потым нешта пісаць пачалі ў тых сшытках, а ён, Аркашка, толькі выводзіў нейкія хвалепадобныя ланцужкі – як усё роўна мора маляваў. На тых ланцужках і скончылася вучоба. Пазней, калі наспеў час, хлопцаў, ягоных аднагодкаў, на ўлік паставілі ў сельсавеце – як дапрызыўнікаў, адзін раз, самы першы, выклікалі і Аркашку, зрабілі адпаведныя запісы і больш не турбавалі. Аднак ён панадзіўся хадзіць услед за хлопцамі ў сельсавет на розныя камісіі. Прачуе, што тыя збіраюцца, падцікуе – і не вярнуць яго: дужа хацеў у армію. Каб не крыўдзіць хлапца, дактары загадвалі і яму распранацца, ён рабіў гэта доўга, а потым замяралі рост, ставілі на вагі, слухалі даханне – і

паказвалі выгляд, што і ён такі, яу усе, толькі ніякіх запісаў нідзе, вядома ж, не пакідалі.

Той-сёй раіў адвесці Аркашку ў псіхушку, але Ганна пра гэта і чуць не хацела. «Гэта пры жывой матцы? Што вы кажаце, людзі?!» Не раіў рабіць гэтага і старэйшы сын – Мікалай, ён якраз у той бальніцы працаваў на легкавушцы: вазіў галоўнага ўрача. Мікалай часта прыязджаў у Беражкі, і не з голымі рукамі, корпаўся з маткай на агародзе -- Аркашка ж курэй на вуліцы пасвіў – шкуматаў да чырвані вушы вясковай дзятве, якая знайшла ў хворым чалавеку цацку: то ўшчыкнуць яны Аркашку, то штурхануць або за нос ці апранашку тузануць. Давядуць звычайна яго да такога стану, што хлапец наліваўся злосцю, пачынаў бегаць-ганяцца за дзецьмі, дагнаць нікога не мог, тады злаваў яшчэ больш, хапаў усё, што траплялася пад руку, меціў у сваіх крыўдзіцеляў, але камень ці кавалак цагліны прызямляўся зусім блізка – як не пад самым носам у Аркашкі. Раззлаваны, ён прыходзіў дахаты, чапляўся да маткі, спаганяў злосць на ёй, іншы раз, сапучы, заяўляў:

– Жані мяне!..

Хоць і круціў Мікалай вушы дзятве, бацькам жаліўся, але дзе ты іх, блазнюкоў, спыніш? Яны і пазней – ужо другія вывадкі беражкоўцаў – не пакідалі Аркашку ў спакоі, калі ён з хлапца стаў дзецюком. Штурхануць, тузануць, а то і словам завядуць з паўабарота, бы добра адрэгуляваны матор. І Аркашка зноў ганяўся-даганяў, хапаў-кідаў. Але ні ў кога так і не трапіў. Ды і шкоды за сваё жыццё ён ніколі не зрабіў. Не, не прыпомняць людзі, каб набедакурыў.

А тады бяда за бядой : памёр пасля невылечнай хваробы Мікалай, а праз колькі часу прывезлі труну і з Карэліі – там сканаў сярэдні Ганнін сын Міця, стары халасцяк. Гэтае гора і людзям на сэрца лягло, дарослым і дзецям: шкадавалі дужа Ганну і Аркашку. Што добра, дык малеча быццам перамянілася, зусім па-іншаму пачала адносіцца да Аркашкі – не як да хворага і безабароннага, а як да звычайнага нармальнага чалавека, з якім іншы раз карцела ім пагаварыць пра жыццё-быццё, расказаць яму анекдот, недзе нечым памагчы, а такое бывала, што трэба: то пакаўзнецца ў галалёд, а сам доўга пакутае, пакуль узаб'ецца на ногі, то вядро тое ж з вадой паднясуць. Аркашка нічога не скажа, толькі неяк пачырванее ад сваёй бездапаможнасці, махне рукой – а ну яго, галалёд, а ну яе, ваду! – і пойдзе ў хату...

Тым летам спраўлялі вяселле на Ганчароўцы, гэта паблізу ад Ганнінай хаты. Граў на гармоніку Мішка Шурмялёў – музыкант, якіх

пашукаць, а бубен завіхаўся у Аркашкавых руках. Панаехала на вяселле багата гарадскіх – у асноўным з боку жаніха, браў ён мясцовую дзеўку, і хлопцы, самі ўчарашнія вяскоўцы, хіба ж не відаць, хадзілі па двары гогалямі, петушыліся, чым стараліся паказаць астатнім: расступіся, дзяроўня, горад прыехаў! Адзін з іх і вырваў з рук Аркашкі бубен.

– Дай сюды! – груба сказаў, пасунуў Аркашку, і пачаў ляпаць у бубен – больш кулаком, чым палачкай.

Адляпаў адзін танец, другі... Нехта крыкнуў:

– Вярні бубен Аркашку!

Аркашка падышоў да хлопца, спаймаў у паветры руку, але затрымаць не змог – той не ўступіў, адмахнуўся:

– Сядзі, дзядзя!..

– Людзі сказалі... ета... бубен... – паспрабаваў пазмагацца за сваё месца каля гарманіста Аркашка. – Бубен... ета... сказалі...

– Што людзі сказалі – нам напляваць! Скачы лепш, дзядзя!

Аркашка махнуў рукой – ён заўсёды гэтак рабіў, калі на каго ці на што злаваў – і адступіўся.

– Вярні бубен Аркашку, фраер! – зноў пачулася з гурту, які таптаўся пад музыку на лысым дварэ.

А там і дзеці, якія ашываліся на вяселлі, абступілі таго гарадскога неслуха, пачалі заступацца за Аркашку.

– Дзядзька, гэта Аркашкава месца.

– Аддайце яму бубен.

– У яго лепш палучаецца.

– Кыш, малеча! – адмахнуўся, бы ад назойлівых аваднёў, гарадскі хлапец. – Кыш, я каму сказаў, маляўкі! Будзіце мне тут!.. Кыш!..

– Вярніце бубен!

– Не вярніце, а вярні! – рассунуўшы, бы непрымацаваныя калкі ў паркане, хлапчукоў, да няпрошанага барабаншчыка працёрся Пярсцёнак, так па-вясковаму звалі Рыгора Грышкаўца, але на ягонай руцэ-аглоблі павісла жонка Манька, заенчыла-загаманіла, і ўдар сарваўся: пашанцавала таму, бо кулак у Пярсцёнка – што кувалда. – Мань, пачакай! Пачакай. Мань! Дай разабрацца. Я біць не буду. Я бубен забраць... Ды пусціце вы!..

Ведаючы, хто такі Пярсцёнак, на яго наваліліся мужыкі, прыціснулі рукі да цела: вось так табе лепш будзе, не псуй людзям свята. Гарадскі ж хлопец – не, каб супакоіцца, вярнуць бубен, бяды тае, – аказаўся таксама ганарліўцам, ды і не толькі ім, а чалавекам, якому лепш, відаць, г... смактаць праз ганчурку, чымся піць гарэлку,

усхадзіўся таксама не на жарт, асабліва тады, калі высыпалі з-за стала дружбакі – падтрымка прыбыла, цяпер і я герой.

– Бубен вам?! Бач, чаго захацелі! Ды вы, сляпцы, яго больш не ўбачыце, калі на тое! Наце! Бярыце! Падавіцеся! – І ён уздзеў бубен на кол, бы нанізаў кавалак мяса на шампур. – З’елі?

Зрабілася ціха. Усе знерухомелі. Аркашка ж разявіў рот, раз-пораз махаў рукой, крыху счакаўшы, падышоў да коліка, зняў бубен...

– Пусціце мяне, я морду яму расквашу, гаду! – вырваўся ад мужыкоў Пярсцёнак. – Бубен парваў! Ён жа нам, людзі,у морду плюнуў! Усім нам! Вы хоць гэта зразумець можаце?! Пусціце-е!

Больш да канца вяселля таго гарадскога хлапца ніхто не бачыў – схавалі падалей ад грэху жанчыны.

Паселі за сталы. Апусцеў двор. На лаўцы ляжаў гармонік. І сядзеў побач з ім Аркашка, трымаючы ў дрыготкіх руках нікуды няварты бубен. Сядзеў і плакаў, размазмазваючы слёзы па шчоках.

– Бубен... бубен... бубен... – толькі і шаптаў ён.

– Аркашка, хадзем за стол, -- паклікала яго Пярсцёнкава Манька. – Хадзем, Аркашка. Будзе табе ўбівацца. Прынясуць новы бубен. Вэнацькі ў Ёжачкі папросяць.

– Бубен... бубен... бубен...

– Пайшлі, Аркашка! – яна, быццам цяжка хворага, узяла Аркашку пад рукі, павяла ў хату.

Ёжачка свайго бубна не даў. «Адзін пагубілі, і ў мяне яны на гародзе не растуць. Ад гарадскіх чаго хочаш можна чакаць...» Больш ні ў кога пытаць не сталі – добра будзе і так, пад адзін гармонік.

Аркашка прасядзеў усё вяселле побач з гарманістам. Насуплены, нейкі здзічэлы, адцураны ад усяго, што рабілася на двары. Ганна потым расказвала, што ў сне ён часта блюзніў пра бубен.

... Няма Аркашкі. Памёр. Пасля таго вяселля пажыў ён зусім мала. Ганна дачакалася, калі прыбярэцца яе хворы сын, каб абузай не быць чужым людзям, ды і спакойна самой тады адыходзіць можна, і таксама развіталася з гэтым светам.

А ў Беражках правяць людзі і сёння вяселлі, хрэсьбіны, уваходзіны, нехта таксама ляпае ў бубен, і нехта, бывае, самотна ўздыхне-выдахне:

– Эх, калі б гэты бубен ды Аркашку!

З бубнам у руках яго і запомнілі.

**ДУРАНЬ**

Скараход ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але з-пад павек, нібы аднекуль з-пад кругляка-каменя, выкацілася вялікая – з гарошыну, мусіць – сляза. Яна патрымалася крыху ў куточку вачніцы, затым цёплым пуцікам спаўзла, драбнеючы, да вуха хворага. І згубілася…

Ён, тугі ў плячах, каранасты і ўвогуле моцны з выгляду чалавек ляжаў пад кропільніцай. Яго ратаваў прэднізалон – гармон, сумнарадасна вядомы кожнаму астматыку. Скараход, калі першы раз трапіў з бронхамі ў пульманалогію, доўга не мог запомніць назву гэтых лекаў: дужа мудрагелістым, замежным здавалася слова. Затое цяпер разбудзі сярод ночы – скажа: «Прэднізалон!» Смешна ўспомніць, але тады ж сусед па палаце, вярнуўшыся са сталоўкі, адразу пачынаў корпацца ў тумбачцы, даставаў адтуль прынесеную жонкай ежу – сала, курыную ножку, вараныя яйкі. І ўплятаў за дзве шчакі. Калі ж на яго касіў вачыма Скараход, той, крыўляючы сківіцамі, быццам апраўдваўся:

– Пачакай, пачакай, пачне прэднізалон рабіць сваё дзела – тады я на цябе падзіўлюся.

Скараход адно што і зрабіў, дык гэта лыпнуў вачмі і адвярнуўся. А пазней, калі, як і абяцаў сусед па палаце, той загадкавы прэднізалон моцна падмяў яго пад сябе, ён тэрмінова наказаў сваім, каб забяспечылі харчамі. «Ад бальнічных смокча пад лыжачкай!» Прэднізалон і разнёс яго, небараку, – такі апетыт выклікаў, што вымушаны быў сярод ночы падсілкоўвацца. Знаёмыя, сустрэўшыся на вуліцы, азіраліся ўслед: Скараход гэта ці мо я памыляюся? Быццам, ён… Быццам, не…

Прэднізалон Скараход прымае кожны дзень – без гармонаў ён ужо не жыток. Чаго і дамогся, калі даведаўся, што гэта за трасца такая, дык гэта аднаго – споўз, паступова скарачаючы дозу, з некалькі пілюлек да адной. Бо сам адчуў: трэба пазбаўляцца ад прэднізалону, а то не атрымліваецца шнуркі завязаць – жывот перашкаджае. Зноў жа – сэрца… Праўду кажуць: адно лечыш, другое калечыш.

Лежачы пад кропільніцай, Скараход успамінаў Узбекістан, дзе жыў пэўны час пасля арміі і адкуль паспеў з'ехаць да распаду СССР. Чым ганарыўся, хваліў сябе за дальнабачнасць: пакуль гляджу наперад – не прападу і сам, не дам прапасці і сваім скараходзікам.

Сёння яны, дарэчы, павінны прыехаць да яго. Святлана і Паўлік. Верка не зможа – у яе на першым плане малады муж, а не бацька.

Мядовы месяц. Святлана вучыцца ў тэхнікуме, цяпер у яе канікулы. Паўлік, падскрэбыш, у чацвёртым класе. «Добра, што дзеці прыедуць», – разважае Скараход, расплюшчвае вочы, глядзіць на дзверы. Ціха. Пакуль няма. Толькі сусед Пятровіч, як і ён раней, пяць гадоў назад, чмякае ротам: прэднізалон, халера!

Ага, вось і дзеці. Яны вітаюцца з бацькам, Скараход ледзь прыкметна ўсміхаецца: задаволены. Не забываюць. Малайцы.

– Сядайце, – прапаноўвае ён.

– Сядзем, – кажа Святлана, а сама мітусіцца: напакоўвае тумбачку харчамі, паклала зверху, на ўскрайчык, некалькі сістэм (кропельніц), свежыя газеты.

І таксама сядае побач з Паўлікам на падстаўлены ім стул.

– Што там, дома? – вытрымаўшы паўзу, глядзіць на дзяцей Скараход.

– Нармальна, – ківае Паўлік.

– Дома добра, – усміхаецца Святлана.

Маўчаць. Скараход, відаць, успомніў дом, які стаіць амаль у самым цэнтры райгарадка; ад Гомеля, дзе ён цяпер ляжыць у пульманалогіі, паўгадзіны язды на аўтобусе.

– Сена ўсцягнулі на гарышча? – Скараход паглядзеў на кропельніцу, на дзяцей.

– Ага. Зацягнулі. І адразу да цябе. – Адказала Святлана.

– Адны ўсцягвалі? Ці Верка са сваім памаглі?

– Адны... – зноў адказала Святлана.

Скараход незадаволены, хмыкае:

– А яны, бач, запанелі. Толькі грошай дай, бацька. А дулю! Хопіць! Усяму калі-небудзь бывае канец. Вяселле ім зрабі, яшчэ якую-небудзь трасцу прыдумаюць. Я гэта ім ўспомню. Спаць яны будуць мне ў абдымку! А... а торфакрошку ў хлеў яны не перакінулі? Каля брамы ляжала куча. Я іх прасіў.

– Не бачыла я, – нясмела варухнула плечуком дачка.

– І я не бачыў, – схлусіў Паўлік, бо тая торфакрошка як ляжала, так і ляжыць.

– Паслеплі, бачу, усе, – буркліва вымавіў Скараход. – Лячыцца трэба. Акуляры купляць.

– Тата, – пастаралася ўсміхнуцца Святлана, – табе ж нельга хваляваецца. У цябе ж сэрца хворае.

Быццам паслухаўся. Але праз хвіліну пацікавіўся:

– Ліпу на дровы папілілі? Ці так і ляжыць?

– Ясна, – зноў скрывіўся, бы ад болю, ён. – Як дзень ясна. Вам бы толькі ўсім цягнуць з мяне апошнія жылы. Толькі б есці ды піць. Адчуваю, без мяне там і трусы падохнуць. Павел, трусоў корміш?

– Кармлю... – Паўлік апусціў галаву.

– «Кармлю...» Бурак, пэўна, кінеш адзін на ўсіх – і гуляць. Глядзі, за кожнага адкажаш. За кожнага! Спытаю! Тачанку, матка ўчора гаварыла, зламалі. Хто зламаў? Маўчыце. А што тут скажаш? Ламаць не будаваць, маць вашу!.. Вы хоць печ не развалiце, пакуль я тут. Света!

– Ну, што? – на вачах дачкі ўспыхнулі слёзы.

– Ты не плач, не плач. Масква слязам не верыць, а я што – павінен верыць? Не плач. Памагай матцы. Хопіць гуляць, хопіць!

– Памагаю... – дачка выцерла насоўкай вільгаць на вачах.

– Ведаю, як ты памагаеш. У адрозненне ад вас, я не сляпы. Ведаю-ю... Р...работнічкі, маць вашу!..

Святлана і Паўлік сядзелі перад бацькам і румзалі. Не саромеліся нават вусатага дзядзьку, Пятровіча, які спярша корпаўся ў пакунках з ежай, а тады, захапіўшыся, разінуў рот і сачыў, чырванеючы, за Скараходам.

Дзеці моўчкі ўзняліся. Моўчкі падаліся да дзвярэй. Скараход выцягнуў з вены іголку, прыдавіў кроў кавалачкам ваты. Хацеў было дагнаць іх, але не змог: закружылася галава, пацяжэла цела.

– Су... сусед... Пятровіч, – кволым голасам паклікаў ён.

Але Скараход не заўважыў, як Пятровіч выслізнуў з палаты ўслед за яго дзецьмі і, затрымаўшы тых у калідоры, быццам апраўдваўся за бацьку:

– Вы яму даруйце. Гэта хвароба ўсё... Ды і вы ж... і вы ж трохі разумнейшымі будзьце. «Папілілі ліпу на дровы?» – «Так точна!» – «Крошку занеслі?» – «А як жа!» Разумнейшымі, ага, будзьце. А пакуль бацька вернецца – папілуеце і занясеце. Яго прэднізалон тут надоўга затрымае. Тым больш пасля вашага наведвання...

Пятровіч думаў так да таго часу, пакуль не вярнуўся ў палату. І ўжо мёртваму Скараходу сказаў:

– Дурань!

**РЭБА**

Ледзь прачнуўшыся, Рэба глянуў на маці, якая тапталася каля печы, і сказаў пагрозліва:

– Пахмяляй, іначай спалю хату!

– Палі, будзеш у пуні жыць,– абыякава мовіла маці, стаўляючы вілачнікам у печ чыгунок. – Мне ўжо і жыць... Мо не пералетаю. Палі, палі, сынок, хату. Запалкі даць?

Рэба рычэў, бы паранены мядзведзь, ускокваў, піхаў нагамі ўсё, што траплялася на шляху, рассыпаў мацюкі, бы трос паміж пальцамі камякі сухой зямлі:

– Пахмяляй, сказаў!

– Каб ты хутчэй здох, – ціха, не пачуў бы сын, сказала старая і перахрысцілася.—Паплакала б раз, ды і забылася. Колькі жыву, столькі і мучаюся. Гэта немец пракляты, ірад!.. Гэта ён, гад лупаты! Лепш бы забіў тады яго!.. Я б і не ведала, што будзе на аднаго чалавека столькі мучэнняў...

Старая выходзіла ў сенцы, неўзабаве вярталася з пачатай пляшкай, налівала трошкі ў кубак, – каб адвязаўся Рэба, не надакучаў, – і зноў хавала самагон. Рэба ж, пракаўтнуўшы пададзенае маткай пітво, цёгся на вуліцу, пэўны час аглядаўся па баках, а тады валокся да крамы, хоць тая была яшчэ зачынена, але, ведаў, на ганку месца ёсць: можна пасядзець, пачакаць. Ён і сядзеў. Іншы раз да яго падыходзіў Сцёпка, жыве якраз насупраць крамы, і тады яны сядзелі ўдвух, курылі і пільнавалі, каго б зачапіць каго, каб сарваць на пляшку. Калі не ў краме, дык ёсць у вёсцы кропкі, дзе прадаюць лепшы самагон, чым крамная гарэлка.

Сёння Рэба сядзіць адзін, Сцёпкі нешта не відаць. Хоць гукні – вунь ягоныя вокны, зусім блізка. Аднак Рэба не рашаецца, баіцца, што высуне галаву з акна Сцёпкавага жонка, і тады не здабраваць: гвалту будзе на ўсю вёску. «Спіць, гад!» – думае Рэба і шкадуе, што сёння Сцёпка, відаць, яшчэ не пасварыўся з жонкай, а то быў бы тут як тут.

Рэба прыхінуўся спіной да дзвярэй крамы і неўпрыкмет задрамаў. Яму прысніўся сон, быццам ён збіраў грыбы, і было іх столькі, нібы бульбы пасля трусілкі на калгасным полі. Доўга ён драмаў ці не – сказаць не можа, але сон пра грыбы яму спадабаўся, і ён пашкадаваў, што яго раскатурхаў нарэшце Сцёпка.

– Нічога няма? – вісела яго лахматая галава над лысай Рэбавай.

– Няма, – адказаў без асаблівай ахвоты Рэба.

– І ў мяне,– уздыхнуў Сцёпка і сеў побач. – А пенсію тваю матка што, усю адбірае?

– Хай бярэ,– цвяроза меркаваў Рэба. – Я ж прап'ю з табой, а жэрці што? Але яна мяне пахмяляе. Прыпугну, што хату падпалю,– дык і нальe.

Сцёпка зажмурыў вочы, а тады мовіў асцярожна, нібы між іншым:

– Перад табой, Рэба, немцы ў вялікім даўгу. Таму што ты доўга не мог навучыца гаварыць слова «рыба». Ён жа цябе, немец, агрэў па макацёру прыкладам.

– Здох той немец даўно. Калі не забілі ў вайну.

– А за таго немца павінен адказаць той, які сёння жыве. Ці не так? Яго сын, брат, га?

– Можа,– Рэба пазяхнуў. – Але не ўспамінай вайну. Не трэба.

– Я б, можа, і не ўспамінаў, але ж яны, немцы, самі пра сябе нагадалі. Сёння ў нашу вёску прыязджаюць германцы.

– То ж без зброі... – уцягнуў галаву ў плечы Рэба. – То добрыя немцы. Іх любіць трэба.

– Любі. Тваё дзела. Але ж могуць яны раскашэліцца хоць раз перад табой? На маркі? Хаця – навошта нам маркі? За іх у нас не возьмеш... Няхай хоць пару пляшак шнапсу дадуць – і ніякіх фокусаў. Вунь, вунь аўтобус... і легкавікі. Едуць, едуць немцы. – Сцёпка ўсхапіўся, падцягнуўся ажно на мысках ботаў, каб пабачыць, куды парулiла нямецкая дэлегацыя. – У кантору. Але нічога, нічога, грамадзяне! Знойдзем і там! Знойдзем! Пайшлі, пайшлі, Рэба, за кампенсацыяй!

Рэба маўчаў. Ён нават не глядзеў на Сцёпку. Ён успомніў вайну. З усяе вайны, праўда, запомніў адно – як ударыў яго немец. Для яго вайна пачалася і скончылася гэтым эпізодам. А ўжо пазней, калі трэба было хадзіць у школу, то навука ў яго не пайшла, затое прымалі, як свайго, у бальніцах.

– Дык ты ідзеш ці не? – насупіўся Сцёпка.

Рэба з крэктам устаў, атрос пыл з портак, заківаў галавой:

– Не,не,не! Я баюся немца...

– Дык гэта ж добры, сам гаварыў, немец.

– Усё роўна – баюся.

– Эх ты! – уздыхнуў Сцёпка, махнуў рукой і сеў на тое месца, якое вызваліў Рэба. – А я думаў, ты смелы... Думаў, што можаш у яго, фрыца, кампенсацыю папытаць. А ты?!. Думай тады, дзе разбагацець на бутэльку.

– Мне ніхто не дасць, – зморшчыўся Рэба. – Матка папярэдзіла людзей, каб не давалі. Злы я, кажа, калі нап’юся. А ці ж злы я, Сцёпка?

– Злы не злы, а нікому кепскага ніколі не зрабіў,– сказаў Сцёпка і ікнуў. – Во, нехта ўспамінае. Зінка, хто ж яшчэ. Зараз высуне галаву з акна і так гыркне, што…

Сцёпка не дагаварыў – з-за вугла крамы вытыркнуўся Пахомчык, стары халасцяк, чалавек неакрэсленых гадоў. Ён разявіў рот, быццам здзівіўся, убачыўшы на ганку Рэбу і Сцёпку.

– А загрызці ёсць чым? – нарэшце знайшоўся Пахомчык і паказаў бутэльку. – Як знаў, што вы тут. Сёння я вас частую, заўтра – вы мяне.

– Пра што можа быць гаворка? – засвяціўся твар у Сцёпкі.

Рэба ж стаяў усё яшчэ пахмурны, бы дзень позняй восені.

– Гайда за вугал! – загадаў Пахомчык.

За ім ахвотна патупалі. Там, паміж цаглін, была прыхавана чарка, у цэлафанавым пакеціку ляжаў акрайчык хлеба. Выпілі. Хлеб высах, не ламаўся, таму Сцёпка пабег да дзічкі, знайшоў некалькі паданкаў. Яны яшчэ лепш, чым той чэрствы хлеб. Калі самагон запаліў усярэдку лямпачкі, Сцёпка пажаліўся Пахомчыку на Рэбу, які не жадае сарваць з немцаў, што прыехалі ў вёску, кампенсацыю за таго фрыца, што ў вайну выбіў з галавы ў яго частку розуму.

– І правільна робіць, – не падтрымаў Сцёпку Пахомчык. – Як гэта – пайсці да чужых людзей і прасіць? Гэта ў суседа можна. Хай і дулю іншы раз пакажа. Дык то наша дуля, мясцовая. А калі немец варсане, то яна, тая імпартная дуля, будзе доўга смярдзець. Не ідзі, Рэба. Не слухай.

– Не пайду,– павесялеў Рэба. – Не пайду. Матка сварыцца будзе, калі пачуе… Ну яго, немца!..

Сцёпка нервова плюнуў, а Пахомчык адышоў на хвілінку, апусціў руку ў бур’ян і выцягнуў другую бутэльку.

… Рэба ляжаў на ўзбочыне, паклаўшы далонь пад галаву. Смаліла сонца. Шапка ляжала паблізу – за метр ад яго. Нешта не відаць Рэбавай маткі: наказаў старой сам старшыня калгаса, каб завалакла п’янтоса дадому, каб не сарамаціў калгас і вяскоўцаў перад нямецкімі гасцямі. А яны, немцы, ходзяць па вёсцы, знаёмяцца з жыццём людзей. Неўпрыкмет і на Рэбу натрапілі. Адзін з гасцей рагатнуў, паказаў пальцам:

– П’ян, так?

Старшыня разгубіўся, пачырванеў. Выручыла яго Сымоніха, старая,але жвавая бабулька, якая прымазалася да гасцей і хадзіла з імі па вуліцы, дзе ёй было ўсё знаёма-перазнаёма, але дома не было чаго рабіць, таму і шлындала. Яна, смела зірнуўшы на немца, што паказаў на Рэбу пальцам, сказала гучна і з нейкім непрыхаваным папрокам:

– Ён жа на сваёй зямельцы ляжыць, панок!

## СВЯТА

Вестка аб тым, што Кругліца папоўнілася яшчэ на аднаго жыхара, ды не на абы-якога – тры кілаграмы семсот грамаў!– разнеслася па вёсцы з такой хуткасцю, што і ўявіць цяжка: толькі ж уехаў у Кругліцу дзед Макар, толькі шапнуў адной Ягорысе: «Сын у Дуні...», а на пытанне «У якой Дуні?» нават не паспеў адказаць – не спыняць жа каня, калі той ходка, галаву задраўшы, імчыць... Ягорыха, мусіць, адразу прыгадала, колькі Дуняў у вёсцы. Па яе меркаваннях, толькі адна Дуня, Хусціна, магла нарадзіць. Няўжо ж Шарыпава? Не, што вы! У яе ўжо ўнукі – жаніхі. Не, не... Ды і ад каго ж ёй нарадзіць дзіця тое, калі мужык, Хвядос, даўным-даўно загавеў – кволы быў чалавек, хваравіты... І гадкоў Шарыпавай слава Богу... Застаецца адна Дуная – Хусціна. Але ж ад каго і яна магла нарадзіць? Розуму не даць. Ягорыха ўсіх мужыкоў перабрала, хто б мог да перастаркі падкрасціся, прыладзіць ёй, калі верыць Макару, дзіця. І здагадка старой ні на каго не трапляла. І як трапіць, калі Дуня сама ў штанах ходзіць і з мужыкамі нароўні трымаецца – то шчаўчка ўлепіць каму з іх, то за вуха шкуматне, а то і рубель у складчыну свой кіне. Не пашэнціла з замужжам дзеўцы... Толькі ж паверыць было цяжка Ягорысе, што яна, Дуня, можа нарадзіць. Цяжка паверыць. Хто б іншы, тая ж Шарыпіха нават, толькі не Хусціна: Ягорыха нічога не бачыла ў яе жаноцкага – і на целе, і ў галаве. «Ой, людзі! Дык што ж гэта атрымліваецца? Дуня нарадзіла дзіця! Дуня-я! Усё роўна, каб сказалі, што Ягор мой...»

І пакацілася навіна. Макар не паспеў ля канюшні хамут зняць з каня, а тут пытаюць: «Дык праўда ета, Макар, што Дуня мальца ў капусце знайшла?»

Смык цікавіцца – ён на другім канцы Кругліцы жыве, а, бач, і да яго дайшло.

– Нарадзіла. Чаму не можа, калі баба яна, калі на тое Богам адпісана...

– Бытта і так. А ўсё ж мне здаецца, што ў яе цыцок няма. Чым малога карміць будзе?

Макару такое не падабаецца, ён на баку Дуні:

–Казу купіць.

Смык моршчыцца:

– Можа... Толькі што каза? Каза і ёсць каза. Каравёнку няхай просіць у калгасе. Сама малака на хверме насмокчацца, а сыну ў роце не прынясе...

З канюшні Макар вяртаўся пехам. Быў ціхі сонечны надвячорак. Сонца якраз вісела над журавіцкім бальшаком, вялікае, з густой чырванню. Стары ўспомніў пра Дуню, уявіў чамусьці яе ў промнях гэтага сонца. Бытта сядзіць суседка на ганку, стомленая, вочы сумныя і шчаслівыя. За яе спіной – дзверы ў радзільны дом. Малы спіць недзе там, а ёй, маці, захацелася пабыць адной і, можа, за доўгія гады свайго жыцця паверыць нарэшце, што яна, Дуня Хусціна, таксама цяпер паўнапраўная маці. І няхай хто цыкне! Макар заступіцца. «Цяпер ты, дзеўка, будзеш і дзіцятка сваё кармшць, і чакаць, калі яно першае слова на свет выпусціць, і заступацца будзеш, калі яму хто нос падрапае... Усё будзеш. А там і ў армію правядзём твайго хлопца. Растуць дзеці, як грыбы. Асабліва чужыя. Ну, то і добра, што рашылася. Правільна. Што ты адна? А нгічога! Людзі ж – яны розныя ёсць. Розныя... Адны парадуюцца, ад усёй душы парадуюцца, а хто і пазайдросціць твайму шчасцю...»

Макар мераў крокамі вясковую вуліцу, шырокую і ціхую, галаў апусціў долу, бы ехаў на веласіпедзе і баяўся, што можа трапіць кола ў якую яміну. Дуня ўжо, мусіць, насядзелася на ганку, надыхалася свежым паветрам, паднялася, зірнула ў той бок, дзе бяжыць дарога ў Круглiцу, уздыхнула і падалася ў пакой. Стары нават загадаў ёй: «Ідзі, дзеўка, ідзі. Як там малое? Ці не плача? Хто ж прыгледзіць яго, як не родная матка...»

І калі падняў Макар галаў, бо ўваччу пачало шарэць ад зямлі, заўважыў, як выходзілі насустрач жанкі, падпільноўвалі. Стаяць, бы на свята: рукі на грудзях, вочы – на яго.

– Дык праўда ета?..

– Праўда, праўда!

– Не хлусіш, Макар?

– Хлушу, хлушу!

– Яна ж уродзі і не цяжарная была?..

Макар запаволіў хаду, яго абступілі жанкі, сакаталі, бытта гускі на поплаве.

– Як бывае і што, не мне вам, бабы, расказваць,– сур'ёзна гаварыў стары. – Самі павінны знаць. От. Але пацвердзіць мушу: калі доктар мне каня перадаваў самалічна, то сказаў: «Адважная ваша Дуня, дзед. Сама на калёсы – і ў раддом. Дзе б гэта бачана? Няўжо ў вёсцы вашай людзей няма, машын, га, дзед? Каб яшчэ трошкі, то ой-ёй-ёй ! » Ён, доктар, нават языком салупнуў ад ўсяго, што магло б здарыцца з дзеўкай у дарозе. А вы, бабы, куды глядзелі? Куды, гэта ў вас я, Макар, пытаю? А каб у дарозе пачалося? Вы толькі пра сябе

думаеце! Самі вунь па кучы панараджалі, а ёй і ў адным не маглі памагчы… Каб па-людску…

Макар пакінуў жанкам свой незадаволены позірк, павярнуўся і роўна, бы плыў, пакрочыў далей вуліцай – да жытла.

Жанкі ж пэўны час стаялі моўчкі, а потым пераглянуліся, зноў загаманілі:

– Ну, і хто ёй, Дуні, вінаваты?

– І праўдацькі ! Навошта ж таіцца было?

– А ўсё ж і правільна рабіла, бабы: маглі б вы сваімі размовамі, каб даведаліся, што яна цяжарная, сурочыць… Ну вашыя языкі!

– Ціпун табе на язык, Клава! Ціпун! Цьфу на цябе!

– І гэта ж трэба, ай-яй-яй! Да апошняга на ферму хадзіла, маладняк усё даглядала. Усё ў фуфайцы і фуфайцы… Дзе ты там убачыш – ці яна дзіця чакае, ці што…

– Цяжкае ў яе шчасце, бабы…

«Дурань стары! Ну, канечне ж, дурань! Навошта жанчын дакараць? Навошта? Няўжо нельга было Дуні самой прызнацца? І хто ета будзе прыглядацца да цябе, Дуня, калі ў галаве ў цябе мякіна? Э-э, хоць і пражыла ты, дзеўка, ладнага, а розуму не багата прыдбала. Каб я быў тваім бацькам, яй-бо, аддзяжыў бы – вось табе, раз не хапае ў галаве. У нас вэн калі якая ўздумае радзіць, то год дома сядзіць, мужык перад ёй на пальчыках ходзіць, а тады яшчэ за месяц да схваток у радзільну кладуць. А ты?..»

Жыла Дуня адна. Бацькі яе – Платон з Платоніхай – даўно сышлі з гэтага свету, ціха, непрыкметна. Былі – і няма… Вёска, можа, нават і не заўважыла, што паменела ў яе на двух жыхароў. Старыя людзі – яны і ёсць старыя: бавяцца паціху, голасу далей двара не падаюць. Таму калі не стае іх па закругленні веку чалавечага, той-сёй можа і вока прыплюснуць: «А што, яны нядаўна былі яшчэ?..» Правядуць у апошні шлях, хутка забудуцца. Нагорнецца на людзей іншы клопат, ён і займае іхнія думы. Чужыя людзі. Свае ж – помняць, і помняць доўга, вечна.

Не раз і не два ўспаміналі, прыгадвала старых, бездапаможных бацькоў і Дуня, такіх, якімі яны былі ў апошнія дні свайго жыцця. Стаялі Платон з Платоніхай перад вачмі, з імі і размаўляла Дуня, раілася: «Адна я, татачка і мамачка, цяпер, адна… І ў хатцы маёй сумна, холадна, цяпла не хапае… Як мне далей жыць, га? » Каб хто з вяскоўцаў мог пачуць гэтыя словы, здзівіўся б: няўжо яна, Дуня, можа быць гаротнай, са слязьмі на вачах? І не паверыў бы, бо кожны ведаў яе адной – рухавай, крыху грубаватай, па-мужчынску

цягавітай у працы і як быццам шчаслівай... Хоць якое ж яе, папраўдзе, шчасце тое? Цяжка, нялёгка было зазірнуць у душу гэтай непрыгожай з твару дзяўчыны. Высокая, заўсёды з натруджанымі рукамі – вось і ўся Дуня. З выгляду. Што там, глыбей, – загадка, нейкая патаемнасць, і заглянуць туды пакуль што нікому не ўдавалася. А з гадамі і зусім страцілі на гэта надзею вяскоўцы, бо яна, Дуня, чым больш жыла, тым усё больш рабілася маўклівай,замкнёнай, а жанчын зусім перастала заўважаць – як і не было іх у вёсцы. Пазней у Кругліцы нават забаяліся: прападзе дзеўка, прападзе, людзі добрыя. Калі не ўбачыш яе – сярод мужчын трэцца. Выпіваць пачала. Мо таму, што перастала верыць у сваё жаноцкае шчасце... А мужчыны тыя і ласыя: давай, Дуня, рубель. «Наце...» Ну, што ты ім зробіш? Бессаромнікі... Калі ж па рабоце браць, то яна іншага з іх магла без усяго-усякага абставіць. Нават конь за ёй замацаваны пастаянна, у хлеўчуку начуе, аднак куды ж гэта варта, каб жанчына ўрасла так у мужыцкі гурт. Не, да сваіх яе вясковыя маладзіцы не раўнавалі. Неяк ужо атрымалася, павялося, што ўсе былі ўпэўнены: яна да такой справы, як зацягнуць на вечар ці проста ўдзень Івана альбо Петрака да сябе ў ложак, не народжана. Былі ўпэўнены... Ды памыляліся жанкі.

Засталася на белым свеце Дуня не адна, не. Багата маладзейшая Вульляна з'ехала пасля школы некуды на Поўнач, бывала ў сястры рэдка, да таго рэдка, што Дуні перад людзьмі было няёмка і сорамна. Пісала ёй: «Няхай бы ты, дзеўка, хоць часцей наведвалася, пасядзелі б, пра жыццё пагаманілі. З кім мне яшчэ пагаманіць?» А Вульляна не ехала...

Апошні раз яна была ў вёсцы тады, калі жанчыны і запрыкмецілі – таксама апошні раз – слёзы на вачах у Дуні. Вульляна выходзіла замуж, і вяселле – сцяжынка да бацькоўскага селішча тады яшчэ была ёй блізкая, пахла родным жвірам і рамонкавымі пялёсткамі – надумала спраўляць дома, на сваіх людзях. Ці мо проста вырашыла пахваліцца перад вяскоўцамі сваім нарачоным. Хлопец ён і сапраўды ёмкі, прыгожы, дзе б у сваёй вёсцы яна такога адхапіла, а там, на Поўначы, пашчасціла. Але як яно ні было, а вяселле лягло на плечы Дуні. Яна і завіхалася, яна ўжо і старался! Падавала на стол стравы – сама ці прысела хоць? – і казала не перастаючы:

– Ешце, ешце на здароўечка... А я яшчэ паднясу. Яшчэ падам. Хай Вульлянцы жывецца хораша, хай любіцца...

Вось тады і бачылі на яе вачах людзі слёзы, і шкадавалі яе, Дуню. А яна не саромелася слёз, толькі змахвала раз-пораз насоўкай,

выцягваючы яе з рукава квяцістай блузы—падарунак сястры, здалёк прывезены, такіх тут і не бачылі,– і плакала, плакала. Мусіць, тады, на вяселлі сястры, і выплакала ўсе слёзы...

Не сказаць, каб і ёй не знаходзіліся жаніхі. Сваталіся. Але гэта пазней ужо, калі і кавалеры тыя паспелі нажыцца са сваімі жонкамі, а то і не з адной-дзвюма, і яна не надта каб вешалася ім на шыю. Хуценька выправаджала за дзверы – што першага, што другога, далёка на парог не пусціўшы. Калі няма шчасця, то і з такімі не нажывеш.

І вось – Дуня нарадзіла дзіця... Ад каго? У вёсцы гэтая навіна ўзняла ўсіх – ад малога да старога – на ногі. А хіба ж грэх жанчыне займець малое – хоць бы яно поўніла яе аднагалосую хату сваім мармытаннем, смехам, нават плачам, хай тулілася б да яе, шаптала пяшчотна і ласкава: «мама... мама...» Не ўсе жанчыны – тут Макар не памыліўся – радаваліся пачутай навіне, іншыя пачыналі, выгляду не паказваючы, каб не выдаць сябе адна перад другой, раўнаваць Дуню да сваіх мужыкоў.

Гэтага, праўду кажучы, і трэба было чакаць...

Раніцай наступнага дня, як вярнуўся Макар з Журавіч, у бок мястэчка патупалі, трымаючы ў руках пачастункі, дзве бабулі – Макарыха і Матруна, нейкая далёкая, як высветлілася, сваячка Дуні па бацькавай лініі. Макар правёў жанчын за вёску, пастаяў трохі на бальшаку.

Упэўніўся, што ўсё ідзе ладам, павярнуў назад. Куды ж падацца? Дома ўсё дагледжана, прыпучана. Сумна аднаму ў хаце. Ды і не час цяпер сядзець за дзвярыма. Дні мінаюць, не паспееш аглянуцца, як трэба будзе ехаць у раддом... А як жа людзі? Што яны думаюць?.. «Забіраць,канечне, паеду сам, – разважаў стары. – Ніякіх машын. Раз паехала на калёсах туды, то і дамоў дастаўлю на іх. Васілёк будзе цягнуць добра, наўскач, бо конь хоць і жывёліна, але разумная істота: засумаваў, мабыць, па Дуні. А што, гаспадар яна клапатлівая. Без сена на калёсах не ездзіць. Ну, а далей...» Стары ўяўляў, як ён прывязе Дуню, дапаможа ёй мальца ў хату занесці, калі, вядома, бабы не перахопяць. І ўсё? Не, так не павінна, каб гэтым і канчалася. Трэба ладзіць хрысціны. Можа, грукаць у бом і не варта, а ціхенька збіраць людзей, раіцца. «Няхай Дуніна радасць стане ўсіхняй радасцю. Людзі павінны разумець... Не ўсе, але знойдуцца, хто зразумее. І хрысціны малому справім на ўсе сто!»

Першай падтрымала Макара Ягорыха:

– Светлая галава ў цябе, Макарка, ой і светлая! Добры ты чалавек. Ета ж правільна, ета ж вумненька! І я ўбачку не застануся. Прыбягу, прыбягу. І гатаваць памагу, і пляшку віна захаплю. Толькі ж дзе мы будзем гатавацца – у Дуні?

– А дзе ж яшчэ? У яе. Мая ў радзільню пайшла сёння з Матрунай, ключ забярэ. Трэба ж гаспадарыць у хаце, пакуль яна там. Ты вось што, Ягорыха, зрабі: накажы бабам, хто хоча прыняць у радзінах учасця, хай збягаюцца. І мужыкі хай. П’яніц абмінай толькі, не трэба, а то ўсю кампанію сапсуюць. Ясна?

– Ясненька, галубок. Ясненька.

– Дзякуй табе, Ягорыха.

– За што ж дзякаваць, Макарка? Такое дзела, такое дзела... Дуня ж нарадзіла дзіця, а не хто іншы. Трэба, тут усім трэба...

Макар – хіцёр! Навошта яму хадзіць па ўсёй вёсцы, пра хрысціны гаману весці? Скажа адной Ягорысе – і ўсё будзе вядома кожнаму. А там няхай самі ўжо рашаюць. Сілком не прымусіш. Але ён верыў, што знойдуцца людзі, якія падтрымаюць, і тады ажыве, загамоніць Дуніна хатка, будзе далёка чуваць гармонік, тупат-грукат.

Забіраць Дуню Макар паехаў у нядзелю. «Якраз радзіны правіць». Выхадны дзень выдаўся сонечны, цёплы, ціхі. Васілёк усё роўна як ведаў, дзеля чаго цягне калёсы і дзеда на іх, бег трушком ды трушком. Стоміцца – запаволіць бег, адпачне і далей спяшаецца. Назад таксама не трэба было нэкаць і нукаць – капыціў лёгка, шпарка.

– Тыр-р-р! – нацягнуў Макар лейцы, хоць конь і сам бы спыніўся на двары, куды прывёз новага жыхара Кругліцы. – Тыр-р-р! Стой, Васіль.

Макар наўмысна гаварыў гучней і тыркаў умысна, каб жанчыны, што варылі-гатавалі ў хаце, пачулі і выбеглі сустракаць Дуню з дзіцём. Не памыліўся. Голас яго заляцеў у пакой, і жанкі ішлі ўжо насустрач, ішлі нясмела, выціраючы рукі аб фартушкі, і калі Матруна першай пацалавала маладую маці, то і ўсе потым за ёй – цмок ды цмок у шчаку, Дуня ажно разгубілася, а Макар, трымаючы малога на руках Сам прыцёгся ў самы разгар, доўга шкрабаўся ў сенцах – жанчыны падумалі спярша, што дзіця нейкае. Ягорыха кінулася адчыняць, а замест дзіцяці таго на парозе Смык. У паклоне апусціў галаву, доўга трымаў яе так, быццам чакаў, пакуль зайграе музыка і тады ён тупне нагой па маснічыне, пусціцца ў скокі. Да таго ж і руку з кепкай выпрастаў убок. Смык стаяў так нядоўга, нарэшце выпраміўся, паказаў вачмі на сталы:

– Хрэсьбіны ў вас, ці што? А я іду і чую галасы. Дай, думаю, зацягнуся. Можна?

Жанчыны былі трошкі нападпітку – па каліву ўзялі, а ці ж багата ім трэба, таму сустрэлі Смыка так, быццам яго даўно чакалі і каб той не зазірнуў, то што гэта была б за пагулянка такая.

– Праходзь, Смычок, праходзь, родненькі,– першай падбегла да госця Ягорыха. Яна падавала- адносіла, таму сядзела крыху неяк наводшыбе, хоць і мала – больш бегала, каб мелася на стале.

– Смык, у цябе і нос – за кіламетр чуе!

– Праходзь, сядай,– падціснуў бокам жанчын Макар.

– Дай, думаю, зацягнуся,– масціўся на край услона госць.

– І не прашыбіў. Малайчына. Во што значыць нос па ветру трымаць!

– Ну, будзе, будзе вам, жанкі,– буркнуў Макар, узяў пляшку, забулькаў у пузатую шклянку, напоўніўшы яе, кіўнуў Смыку: – Цябе чакае. За мальца... За Дунінага...

– Ай во! – Смык зноў паставіў шклянку, якую паднёс амаль да самых губ, але ўспомніў, што ідзе напрамкі, а трэба звярнуць убок, павіншаваць, як і вядзецца, віноўніцу гулянкі, таму ўзняўся, працягнуў праз увесь стол парэпаную руку да Дуні, моцна паціснуў яе далонь. – Дазволь, Еўдакія, з мальцом цябе... Хай здаровы расце, паслухмяны і ўсё такое...

– Ты на нас не дзяржы роўню,– пачуўся голас Ягорыхі. – Спазніўся? Спазніўся. Штрафную табе налілі...

«Каму б кепска было...» – падумаў, мабыць, Смык, а да людзей прамовіў:

– Штрафную дык штрафную. Ну, за мальца твайго, Дуня.

Дуня моўчкі кіўнула, і ўсе глядзелі цяпер на Смыка. Сталі ўбок. Нават было чуваць, як у горле ў Смыка булькала гарэлка. Тры разы: юк-юк-юк!

– Закусвай, закусвай, Смычок.

– Дай, думаю, зацягнуся,– настрой у Смыка паступова падымаўся, вочы адразу засвяціліся, як усё роўна пітво запаліла ў іх нейкія малюпасенькія лямпачкі, і ён цягнуў відэлец да скрылька сала, але перадумаў і замест яго падчапіў на суседняй талерцы кружочак агурочка, а сам ківаў Дуні. – Гэта ж абрадавала ты мяне, Еўдакія... Малайчына. Што значыць – рашыцца. Смеласць. Тут, брат, стратэгія і тактыка.

– Закусвай,закусвай, – Смыку не даць разгаварыцца, – самае важнае, а то ён і глупстваў наказаць можа столькі, што ад усяго сяла

за год не пачуеш, таму Ягорыха тапталася вакол яго, паказвала, што браць, чым закусваць, бо пасля шклянкі гарэлкі самае галоўнае добра закусіць трэба, асабліва яму, Смыку. – Сала чапляй. Ці мяса хоць. Тады – агурочак.

– Ем, ем, кума. Усё я ем. Дай, думаю...

– Ты вось што, Смык, – паклаў яму руку на плячо Макар, і той замоўк, павярнуўся тварам да старога. – Пакуль мы тут гуляем, то і рашым давай: хто, як не мы, мужчыны, павінны памагчы Дуні?

– Ясна, мы. Ну.

– То-та! Цяпер у яе хвост. Разумееш? Дзіця. Нагляд і ўсё такое, а дзеўцы і скасіць надляжыць соткі, і дроў прывезці...

– Зробім, дзед, што трэба! Усё зробім!

– Правільна. Хто, як не мы. Бабы, а вы чаму галовы паапускалі? Песню, ці што, зацягніце. Давайце песню. А мо яшчэ па граму, а тады?

– Давай яшчэ па граму,– дыхнуў прама ў твар старому Смык, загарэўся. – А тады не тое, што спець, а танца ўрэзаць можам.

Але жанчыны зацягнулі*:*

*Паслухайце, дзеўкі, дзе галуба гудзе,*
*Там маладая Дуня дзявоцтва здае:*
*-- Наце вам, дзяўчаты, дзявоцтва маё.*

Макар таксама падключыўся, хоць голасу ў яго няма, але як мог, так і падцягнуў:

*Я пайду сябу ў жаночым раду,*
*У жаночым раду з жанкамі на нараду.*

Ён спяваў, а заадно напоўніў шклянку Смыку, той крактануў і моўчкі выпіў. Пасядзеў, паслухаў крыху. Спяваць Смык не мастак, але паслухаць любіць. Задумліва, сур'ёзна слухае. Мо песня і яго расчуліла, раз такі твар у Смыка – вось-вось пырснуць слёзы. Песня раптам ападае, новую жанчыны не заводзяць, і Смык кажа:

– Душу раздзірае песня. На шматкі. Дай, думаю, зацягнуся... Во і добра, во і пасяджу ў нармальным гурце. – Язык у яго пацяжэў, лямпачкі ўвачч у пачыналі тухнуць. – Гэта ж, Еўдакія, ты мне равесніца, ці не?

– Я табе равесніца! – гукнула Ягорыха, і жанчыны зарагаталі.

– На случай вайны калі толькі,– пастараўся ўсміхнуцца Смык. – Хе, равесніца. Я сур'ёзна. Я ў Еўдакіі пытаюся: равесніца, га, Еўдакія?

– А то забыўся!– Дуня нарэшце адчула, што яна не дзе-небудзь у гасцях, а ў сваёй хаце, узняла вочы на Смыка. – У школу ж мы разам

хадзілі. Ты яшчэ запісачкі міліцыянеру пісаў на калене, на Карлікавай горцы, калі цябе крыўдзілі. Што, скажаш, не было такога ?

– Гэта я вас дагнаў ці вы мяне?

– Цябе ўсе даганялі.

– Ага. Ну. Усе. Спрытныя былі, халера, вы... А я буксаваў. Буксаваў я. Кандратаўна на лета мне работу задасць, а я ў калгас іду, а не ў школу. Калі ж алфавіт за лета забудзеш, тады бытта зноў у першы клас ступаеш. І так укругавую.

Смык зірнуў на Макара, на жанчын. Жанчыны чамусьці зноў засумавалі, толькі ён асалавелымі вачыма не мог да канца ўцяміць, якія ў тых твары – вясёлыя ці не, а раз не было чуваць іхніх галасоў, распарадзіўся:

– Падвесялі іх, Макар, а то сядзяць, бы на хаўтурах.

– Чагой-та мы на хаўтурах, Смык? – хаўкаючы ротам, прамовіла Ягорыха. – Во пасядзім трошкі ды музыку завядзём. Мішка, струмент з табой?

Мішка-гарманіст – чалавек не малады і не стары: колькі і помняць яго вяскоўцы, увесь час ён з гармонікам на каленях: якая б гулянка ў Кругліцы ні праходзіла, там і ён, гэты штатны вясковы музыкант. Мішка забіўся ў кут, сядзіць ціха, аб нечым думае. Каб не Ягорыха, ці не заснуў бы. Ён часта міргае вочкамі, адказвае:

– Тут, у той хаце на канапе. А што, расцягнуць мяхі? Пара?

– Давайце, бабы, успомнім маладосць,– кажа Матруна.

– Радзіны дык радзіны, – ускінуў бровы Макар і пачаў выбірацца з-за стала, але яго прытрымаў Смык.

– Пачакай, дзед,– тузануў за ражок сарочкі. – Не спяшай. Хай бабы разгон возьмуць, тады і мы заявімся. Дай, думаю, зацягнуся...

– Што ты хацеў?

– Хай бабы разгон возьмуць...

Жанчыны неўзабаве затупалі ў другім пакоі, лілася музыка, і толькі тады Смык падсунуўся бліжэй да старога, ашчаперыў ягоную галаву абедзвюма рукамі, прытуліў яе да сябе. Макар не ўпарціўся: чаго толькі гэты Смык не прыдумае, бог ужо з ім.

– Ну, слухаю, слухаю.

– Дзед, што слухаць... У мяне нутро разбалелася, як дазнаўся, што Дуня, ета самае, радзіла. Абарвалася ажно там нешта. А я табе сакрэт адкрыю... Хочаш? Не, ты хочаш?

– Ну.

– Што «ну!» Э-э, нічога ты не разумееш. Я ж яе любіў, ага, любіў. Во, – і на вачах Смыка стары ўбачыў слёзы. – То-та... Адзін раз нават

з клуба правёў... Летам... Шчэ і цалавацца лез, а яна мне па воку – хрась! З размаху. А за што? За што, дзед? Матка пытае: хто гэта табе, сынок, пячатку пад вока паставіў? Дуня, кажу. Якая Дуня? – пытае. Калі сказаў, што Хусціна, яна ледзьве вобзем не грукнулася: што, табе дзевак мала? І ў слёзы. Во. Э-э, багата ты чаго, дзед, не ведаеш. А яна, Дуня, і на табе... Мальца. А мая ж Нінка дзевак ды дзевак гоніць, адну за другой. Калі ўжо той сын будзе, паявіцца – і сам не ведаю. Усё абяцае: будзе, будзе сын. А дзе ён, я ў цябе пытаю, дзед?

– Ваша справа. Адкуль мне знаць дзе? Будзе, раз кажа Нінка, – пацепваў плячыма стары, не разумеючы, што ад яго хоча Смык.

– Пара прыкрываць... Пара... А што ж, я так і без штаноў застануся, у адных трусах буду на нарад хадзіць скора. Э-э!..

– Колькі гэта ў цябе іх ужо?

– Пяць.. Я круглы выдатнік.

– Хай на здароўе растуць. Прыгожыя дзеўкі ў цябе, Смык. Разграбуць хлопцы.

– А пра хвамілію падумаў, дзед? Пра род наш? Хіба яны працягнуць? Дудкі. Я Дуная – на табе... Мальца... Ы-ы... Во... Я б з ёй, з Дуняй, мільянерам стаў. Дык не, па мордзе – хрась! Ага. Во так, – Смык адвёў убок руку, доўга прыцэльваўся, а потым ляснуў сябе па твары. – А матка: хто табе так, сынок? І ў слёзы. Утаплюся, кажа, калі з Хусцінай важдацца будзеш. А ты мне, стары, казкі расказваеш... Я ж любіў яе... І цяпер – ух! – душа баліць, у кулак сціскаецца, – Смык паказаў Макару кулак, затым ляпнуў па крайку стала, ажно падскочыў посуд.

– Цішэй, цішэй. Пайшлі лепш да баб, таксама згэцаем. Га?

Смык глядзеў на дзверы, што вялі ў другі пакой, але ісці не ішоў, не адпускаў ён і старога – прытрымліваў рукой за сарочку.

– Э-ге... А ты падумаў, падумаў, дзед, адкуль у Дуні хлапец?

– Яе справа, яе, – Макар, мусіць, і сам толькі цяпер успомніў, што недзе ж і праўда павінен хадзіць па зямлі той чалавек, нешта рабіць ён і ў гэтыя мінуты, калі правяць радзіны без яго добрыя людзі. А мо ён зусім не ведае, што нарадзіла Дуня ад яго сына, што ашчаслівіў ён гэтую жанчыну? Можа, і не ведае...

– Не дуры, дзед. Справа не толькі яе, але і мая...

– Не лезь, куды цябе не просяць.

– Не лезці? – Смык узняўся над сталом, нешта блюзніў сабе пад нос, а затым да Макара: – Не, я палезу. Я палезу! Бацька павінен быць тут,– торкнуў пальцам у талерку з вінегрэтам. – Я прывязу яго. Хочаш?

– Не рабі глупстваў. Не рабі,– насцярожыўся Макар.

– Прывязу, дзед! Вось цяпер. Дзе там конь? На дварэ?

Цяпер ужо Макар трымаў Смыка, учапіўся таму ў пінжачок, але Смык усё ж не зважаў на Макаравы просьбы-угаворы, лез да дзвярэй, бы ўкусіў хто чалавека, гучна казаў:

– Яго месца тут! Я ведаю, хто гэта! Пусці-і! – і выслізнуў з Макаравых абдымкаў, шпарка папраставаў на падворак. Стары не адступаў:

– Каня не трож! Замардуеш каня. Не дам!

– Трасцы здаўся мне твой Базыль! Знайду каня, дзед.

І ён мінуў дворышча, схаваўся за вуглом пунькі, якая ўпіралася абцёртым бокам у вуліцу.

– Чорт, а не Смык!– плюнуў Макар і павярнуў у хату, з вокнаў якой даносілася музыка, прадзіралася тупаценне.

Стары не ўтрымаўся, паківаў галавою, таксама пусціўся ў скокі. Адбіваў ён польку, а сам кідаў раз-пораз позірк на Дуню. Яна сядзела на канапе з мальцом. «Шчаслівая, – падумаў Макар. – І расцвіла, бачце вы яе, што вішня. Свеціцца ўся. Ззяе. Ды і тварыкам, няйначай, папрыгажэла? Канечне, папрыгажэла. Не такая і худая... а то ўсё з жэрдкай параўноўвалі, сукіны дзеці. Хай цяпер мне хто скажа! Галаву адкручу »,– храбрыўся сам сабе стары.

Дуня гушкала дзіця, усміхалася, а жанчыны – хто ў пары, хто самі па сабе – кружылі пад Мішкаў гармонік. Кружылі няспешна – не паспявалі з музыкай, а Мішка граў, як заўсёды, хутка, да канца расцягваў мяхі, амаль паклаўшы на іх сваю лысаватую галаву, шырока раскрыўшы рот – у ім шавяліўся язык, быццам таксама адбіваў танец у такт гармоніку.

Мішка граў усё роўна як для маладых людзей...

– Гуляйце, суседзі, гуляйце... – дрыжэлі ў Дуні вусны, і яна гушкала і гушкала малога...

Неўпрыкмет пацягнуліся жанчыны да сваіх веснічак, ляжаў напагатове перад выхадам гармонік, займаючы табурэт, на якім выціснуўся абадок ад вядра з вадой. Пацішэла ў хаце. Макар з Мішкам рашылі ўзяць напаследак яшчэ па чарцы, тады і заявіўся Смык. Ён адразу ж падсеў да іх, вылаяўся, і, калі перакульваў шклянку, высока задраўшы галаву, мужчыны ўбачылі пад вокам у таго вялікі сіняк. Смык закусваў, утупіўшы вочы ў стол, і маўчаў, толькі злосна пасопваў. А потым паківаў галавою, быццам дакараючы сябе:

– Ну, і чаго ты дабіўся, Смык?

## ПЕРСОНА

Для многіх жыхароў Лосеўкі маскоўская алімпіяда 1980 года была звычайнай, радавой падзеяй. Зразумелая справа: жывуць у гэтай прыгожай лясной вёсцы адны старыя, дзядулі ды бабулі, а ім не было калі прывыкаць пакланяцца спорту, яны ўвесь час, колькі і помняць сябе, пакланяліся зямельцы. Таму з'яўленне ў Лосеўцы Мішулі, які, ведалі, даўно жыве ў Маскве, ніяк не звязвалі з алімпійскімі гульнямі. Прыехаў ды і прыехаў зямляк, мала хто не прыязджае зусім. Няхай адпачне, па знаёмых сцежках паходзіць, родным паветрам падыхае, блазнюк. Толькі вось нешта доўга Мішуля дыхае – мінуў жнівень, верасень, кастрычнік... А ён, гляньце, і не вяртаецца назад у белакаменную. «Жонка вытурыла!» – вырашылі вяскоўцы, але напрамую ў Мішулі папытаць не адважваліся: жыве сабе чалавек у матчынай хаце, нікому не перашкаджае, няхай і жыве. А калі Мішуля пачаў шукаць хоць нейкую працу, бо адной бульбінай жа сыты не будзеш, ды і на выпіўку траціць багата чалавек, то ўсе сумненні ў іх прапалі канчаткова: ну, а мы што гаварылі? Прагнала жонка!

Жонка? Можа і жончыны тут ёсць стараннні, хто ж ведае, але факт застаецца фактам: у сваёй роднай Лосеўцы Мішуля аказаўся на час алімпіяды – усіх выпівох, каб тыя, відаць, не трапляліся гасцям на вочы, адпраўлялі падалей ад сталіцы . Мішулю,акрамя як у сваю Лосеўку, не было куды ехаць, а за сто першы кіламетр, куды адсылалі большасць такіх, як ён, кіравацца, мусіць жа, не пажадаў: спалохаўся, што гэта будзе нешта накшталт зоны...

Так вось ён і з'явіўся тут год праз трыццаць, як паехаў, надоўга – у водпуску ж тады-сяды бываў. Сівы, маршчыністы, у пакамечаным касцюме, з маленькім абшарпаным чамаданчыкам у руцэ. Запомнілася яшчэ вяскоўцам, што быў ён на добрым падпітку, і, перш чым ісці да бацькоўскай хаты, на дзвярах якой даўно вісеў вялізны іржавы свірнавы замок, звярнуў да крамы і апаражніў бутэльку віна – не адыходзячы ад прылаўка, прагна, адным махам, а тады сказаў разявіўшым ад здзіўлення рот землякам:

– Душна сёння. Фу-у-у! Спякотна. Пасля абеду, відаць, дождж будзе. Фу-у-у!

На што нехта з вяскоўцаў заўважыў:

– Табе лепш знаць, будзе дождж ці не, бо жывеш побач з сіноптыкамі. А мы—далёка. Хоць ён, дождж, і трэба: сухмень на дварэ, пагарыць ураджай. Ты, Мішуля, калі раней паедзеш, то шапні

там сіноптыкам, няхай паабяцаюць дождж. Зазірні ў іх канторку, не палянуйся. Далёка яны там ад цябе ці не?

– Для землякоў зраблю,– паабяцаў Мішуля. – Я іх прымушу гаварыць тое, што трэба вам. Да... даю слова: будзе дождж. Рыхтуйцеся. Чакайце. А цяпер патупаў адпачываць з дарогі. Масква, між іншым, не за Рэпішчам, з яе да нашай Лосеўкі няблізкі свет, як і адсюль ... І-і-і!.. А тады пагаворым. Будзе пра што. – Ён яшчэ раз ці два ікнуў, падхапіў, па ўсяму было бачна, лёгенькі чамаданчык і, прыкметна хістаючыся, пашоргаў з крамы.

А людзі пастаялі крыху яшчэ моўчкі, а тады ўспомнілі-прыгадалі Мішулю ў маленстве, яго бацьку,Сцяпана, які не вярнуўся з вайны, маці, Насцю, што так і не выйшла больш замуж, адна выгадавала чацвярых дзяцей, а век дажывала, як гэта нарэдка здараецца, у адзіноце.

Як і ўсе дзеці, Мішуля рос на вачах землякоў. Бадай што ўсе яны запомнілі цягу Мішулі да тэхнікі – ён так і прападаў на дворні: спярша плугатарам рабіў на летніх вакацыях, а калі падрос траха, то ўжо не адарваць было ад аўтамашыны, так і цёрся ён каля Івана Аўдзеева, падлабуньваўся, каб той даў праехаць за рулём. Старэйшы і самы вопытны калгасны шафёр уступіў хлапцу, а потым – ну і смелым жа чалавека быў Іван Палікарпавіч!– нярэдка пакідаў у кабінцы аднаго Мішулю, а сам ішоў нешта рабіць па хатняй гаспадарцы. «Ды што за ім сачыць? Ён, браткі, ездзіць лепш, чым некаторыя нашы шафёры ».

Скончыў Мішуля школу ці не, ніхто толкам не помніць. Хадзіў, як і ўсе, а ў які клас – дык каму ж сёння пра гэта ведаць? А толькі ў адзін летні дзень Мішуля знік з вёскі – паехаў, казалі, у Маскву. Не здзівіліся, бо там даўно і аседла жылі многія ягоныя сваякі, цёткі ды дзядзькі, яны паабяцалі, мусіць жа, дапамагчы з прапіскай і дахам над галавой. У вёсцы жыццё ішло сваім шляхам, іншы раз пакручастым, з калдобінамі, а надаралася, і з песняй і чаркай, і неўзабаве пра Мішулю людзі і зусім забыліся. Іншы раз, праўда, яго ўспаміналі хлопцы-равеснікі, а то і маладзейшыя, што некалі зайдросцілі яму, калі бачылі за рулём аўтамашыны. «Пашанцавала ж, а ! Мне б так!»

Мала хто сумняваўся, што Мішуля не стане вадзіцелем. Ён і вувучыўся на шафёра, калясіў па Маскве на грузавіках, а тады ўсё часцей і часцей пачаў выпіваць пасля работы, колькі разоў пахмяліўся назаўтра ў кабіне, папаўся нарэшце – перавялі ў слесары. Вось там ён і зусім сышоў, як кажуць, з рэек. З аўтапрадпрыемства

пацёгся на будоўлю, з будоўлі яшчэ некуды. Разладзілася і сямейнае жыццё. Жонка колькі разоў абяцала падаць на развод, але не рашалася, і тут – алімпіяда. Хоць і шкада было Мішулю, але яна абрадавалася: «Хоць месяц пажыву, як белы чалавек. Абрыд калі ж». Сабрала чамадан. Палавіну рэчаў Мішуля адгрузіў.

– Напіхала ў чамадан, быццам на ўсё жыццё мяне ссылаеш,– агрэсіўна паглядзеў на кабету. – Хопіць пары сарочак і адны штаны. Шкарпэткі таксама вазьму... А пантофлі другія навошта? Адарвецца падэшва, то прыб'ю. Не зломак.

З тымі сарочкамі ў чамадане ён і прыехаў у родную вёску. Жыў ціха, непрыкметна, нібы вельмі пакрыўджаны нечым чалавек. А вось аднаго разу, падвыпіўшы, ударыў кулаком па прылаўку ў краме:

– А чаго гэты вы ўсе мяне гоніце ў Маскву? А мне, можа, і тут добра, у родным гняздзе. Што Масква – цукар? Ядалі, знаем! Можа, за паўгода я і зусім адвык ад сталіцы. А сям'я? Няма ў мяне сям'і. Няма-а! Жонка ёсць, не пярэчу, дзеці таксама: дачка і сын. А сям'і няма. Што, яны не маглі прыслаць мне грошай на дарогу? Ведалі ж, што трэба мне на дарогу... не пехам жа тупаць. Я ж кінуў ёй, сваёй каструлі, грошы з наказам: як разграбуць усе камплекты медалёў, пералапаюць усіх нашых баб, адразу і высылай. Праз месяц дзесьці. А дзе яны,грошы? Ужо колькі часу мінула? Не, дык вы падумайце: і гэта я, Мішуля, ім патрэбен у той гразкай Маскве? Адмылі, мусіць, дзякуючы алімпіядзе. Падаць на калені не буду. Не бу-ду-у! Я, можа,– персона!.. Гучыць? То-та ж! Пер-со-на-а!

З гэтай «персонай» ён насмяшыў людзей. Доўга яны смакавалі пачутае слова, што рэзанула, пэўна ж, слых. «Персона! Бачылі? Хвалько-о! Парткі на каленях працёрліся, усю табаку пакурыў у суседа, на білет грошай няма, каб дамоў вярнуцца. Персона...» А потым разабраліся людзі з гэтай персонай – дапамог сам Мішуля, ён проста дабавіў яшчэ два словы – нон грата – і растлумачыў тым, што ўсё гэта азначае. «За дваццаць чатыры гадзіны—як дыпламата!– і вытурылі з Масквы. А вы: Масква, Масква!.. Чхнуць я на яе хацеў, каб ведалі».

Настаўнік Кірылавіч прынёс Мішулю дваццаць рублёў грошай. Падаў і спытаў:

– Хопіць?

– Што... гэта? – здзівіўся Мішуля.

– Грошы. На білет. Да сям'і.

– Хо…хо… іць, – часта затрос лахматай галавой Мішуля.– Дзякуй табе, настаўнік. Ты чалавек. Вярну, як толькі прыеду. Там мне пазычаць. Карашкі. Можна, я цябе расцалую, настаўнік?

– Не трэба, Мішуля, – Кірылавіч павярнуўся, каб ісці, але затрымаў крок. – Не вяртай грошы, не трэба. Пры сустрэчы якнебудзь разлічымся. Не апошні дзень, спадзяюся, жывём.

– Як шкада, што ты мяне не вучыў!

Але Мішуля даехаў толькі да вясковай крамы. Ён яшчэ некалькі разоў здабываў грошы на білет, але зноў жа прапіваў. «Зусім, ой, Божачкі, прапаў чалавек,– бядавалі вяскоўцы, а як памагчы яму, не ведалі. – І навошта Масква яго выкінула, навошта выспяткам?.. На нас, старых і нямоглых, перадала. А там жа хіба не бачылі, якім стаў Мішуля? То дзе ж яго яшчэ можна было паставіць на ногі, калі не там, пры акадземіках і прахвесарах розных? Дык не – спіхнулі, і рукі выцерлі. А мы ж вам такога Мішулю не давалі. Вярніце такога, якога і бралі. І жонка харош! Цьфу!»

Аднаго разу да Мішулі завярнуў старшыня калгаса Дзергачоў. Мішуля снедаў – мачаў бульбіну ў соль і запіваў расолам. Павіталіся. Старшыня строга паглядзеў на гаспадара сіратлівага жытла, уважліва прабег вачыма па кутках, загадаў:

– Збірайся!

– Куды ? – Мішуля, пачуўшы такое, ажно папярхнуўся.

– Іван Палікарпавіч Аўдзееў памірае… не для каго не сакрэт. Быў у яго. Прасіў, каб цябе прывёз… пагаварыць хоча. Ёсць, кажа, у мяне апошняя просьба да цябе, старшыня. Я павінен выканаць яе, просьбу. Паехалі, паехалі!

Па дарозе, спрытна кіруючы «УАЗікам», старшыня пацікавіўся:

– Даўно быў у яго?

– Даўно…

– І ў яго, прабач, грошы пазычаў на дарогу ў Маскву?

– Пазычаў…

– Эх, Мішуля, Мішуля!– старшыня ўпёрся спіной у сядзенне, ляпнуў адразу дзвюмя далонямі па «баранцы». – Адзін я, відаць, табе яшчэ не пазычаў грошай. Так? Маўчыш. Не пазычаў. І не буду. Я табе, Мішуля, калі што, білет куплю. Білет не прап’еш. Ці можна?

Мішуля няпэўна пацiснуў плячыма:

– Не ведаю.

А тады, памаўчаўшы, прамовіў:

– Прапіць можна ўсё. Нават Маскву.

Пагаварыць са сваім любімчыкам Мішулем Іван Палікарпавіч не паспеў – памёр стары. А яму дужа хацелася. Хацелася па-бацькоўску шчыра папрасіць яго, каб не піў так бяспутна, няграматна, узяўся нарэшце за розум і паказаў сябе перад землякамі не «персонай», а тым Мішулем, якім быў некалі. І яшчэ вельмі хацеў стары чалавек, каб Мішуля сеў на яго «газончык». Ён бачыў яго ў кабіне, на сваім месцы.

Пра ўсё гэта Мішулю расказаў старшыня. Вытрымаўшы паўзачку, пацікавіўся:

– Ну, дык як, Міхаіл Сцяпанавіч?

Мішуля стаяў на падворку Івана Палікарпавіча, глытаў слёзы і часта хітаў усё той жа лахматай галавой:

– Не змагу я... не змагу... не змагу-у! Даруй, Іван Палікарпавіч!.. Даруй!.. А ў брыгаду пайду, старшыня... ці на ферму... Жыць жа трэба... трэба... ага... жыць...

Старшыня паехаў, а Мішуля застаўся каля труны. Хоць быў сёння ён і цвярозы, аднак слёзы з вачэй сыпаліся ў яго, бы дождж з густой цёмна-шэрай хмары. Іншым магло падасца, што ў труне ляжаў самы блізкі яму чалавек – няйначай, бацька... Ды, відаць, так яно і было.

**КАССЁ**

Не з пустымі рукамі кожны раз ездзіць у горад Ягорка. І на гэты раз дзве торбы ледзь падняць: калі ж кожнаму з родзічаў трэба гасцінец прывезці. А тут яшчэ і кассё гэтае вымушаны цягнуць. Напісаў брат Сцяпан, папрасіў: прывязі, Ягорка, калі не цяжка табе, кассё, выберы ў лесе раўнейшую бярозку, выстругай, а я табе сто грамаў пастаўлю. «Паставіш, паставіш »,– ведаючы, які сквапны брат, паківаў галавой Ягорка. Але кассё зрабіў. Роўненькае. Лёгенькае.

Да горада Ягорка дабраўся добра – у дызелі ехаць не праблема: месцаў на ўсіх хапае. Усе пакуты, і гэтага вельмі баяўся ён, пачаліся на вакзале. Там, колькі і помніць Ягорка, дужа багата людзей снуе туды-сюды, і як толькі пададуць аўтобус, то хлынуць усе ў дзверы, бы горны паток. Гэты паток і ўнёс Ягорку ў салон аўтобуса. А пакуль ехаў, людзей значна паменела, стала вальней. Ягорка прыладзіў каля ног свае торбы, а кассё трымаў у руцэ на поўны рост – яго трохі не хапала, каб уперціся адным канцом у дах аўтобуса.

На чарговым прыпынку заскочыў у салон хударлявы хлапец у скуранцы, з некім павітаўся кіўком галавы, узяўся за кассё і трымаецца. Ягорка хацеў падказаць, што гэта не поручань, але перадумаў: няхай патрымаецца, не шкада. Аднак крыху пазней хлопец сам заўважыў, што не за тое ўзяўся, усміхнуўся Ягору белазубай прыемнай усмешкай, ціхенечка сказаў:

– Прабачце. А я неяк адразу, дзядзька, нічога не зразумеў.

Усміхнуўся яму ў адказ і Ягорка, кіўнуў: нічога, бывае…

Пасля чарговага прыпынку адразу двое – хлапец і дзяўчына, закаханыя, адразу відаць,– ухапіліся за кассё. І буркуюць сабе, усміхаюцца-абдымаюцца. Нават не заўважаюць, як падцягнулі кассё разам з Ягоркам да сябе – ім, бачыце, так зручней стаць. Ягорку давялося зрабіць заўвагу:

– Асцярожней, маладыя людзі.

Маладыя людзі пераглянуліся і пад добразычлівы смех некаторых пасажыраў пакінулі кассё ў спакоі. Пасмяяліся і самі з сябе. Канфуз атрымаўся, нічога не скажаш. А Ягорка са сваім кассём быў ужо ў цэнтры ўвагі амаль усіх, хто ехаў у аўтобусе. На кожным прыпынку людзі нецярпліва і зацікаўлена пазіралі на кассё – хто ж на гэты раз прыме яго за поручань? І калі хто хапаўся, пырскалі смехам. Ягорка ж, шырока разявіўшы рот, вадзіў круглай, як мяч, галавой па баках і ківаў, крыху ніякавеючы: і чаго гэта яны ўсе, людцы добрыя, да гэтага касся ліпнуць, як авадні на азадак кабылы? А сам жа – не

схаваеш! – быў задаволены, што кассё падняло людзям настрой. «Дзе б яшчэ пасмяяліся ў гэтым горадзе? Надзьмутыя ўсе, як сычы!»

А потым за кассё ўзяўся п’яны мужчына. Ён, на здзіўленне ўсіх, адразу заўважыў, што рука пацягнулася да касся, затрымаў на Ягорку доўгі позірк, спытаў дазволу:

– Зямляк, дазволь узяцца? Дазваляеш?

– Бярыся,– засмяяўся Ягорка і паглядзеў па баках.

– За дрэва, панімаеш, прыемней трымацца, чымся за тую слізкую жалезку. А кассё, я табе скажу, добрае. Сам рабіў?

– Ну а хто ж?

– Малаток! – пахваліў п’яны. – Сам, кажа, рабіў. Адразу відаць, што дзелавы ты, баця, чалавек. У дзярэўні кантуешся?

– А дзе ж.

– А я, панімаеш, у горадзі. На «Сельмашы» стаю на піле. Выпіць хочаш? Мужык ты, бачу, добры. Мне падабаешся. У мяне ёсць.

– Пі сам,– коратка і зразумела адказаў Ягорка.

– Не, пачакай, пачакай. Ты што сказаў? Каб я піў сам? Так? А калі я ад душы, ад сэрца? Што, і за гэта мне ў морду можна плюнуць?

– Ніхто ў цябе пляваць не збіраецца,– пачаў апраўдвацца Ягорка, бо адчуў, што незнаёмы п’яны чалавек так проста ўжо не адчэпіцца, сустракаў ён такіх у сваім жыцці. – У цябе з кішэні, бачу, магазінная пляшка тырчыць. А я п’ю сваю, самаробную гарэлку.

– Самагон?

– Ну.

– Дома – пі. А калі ёсць з сабой, то пачастуй і мяне. Ёсць?

– Няма,– ціха мовіў Ягорка.

– Ладна, паехалі далей. Вось што я табе скажу, мужык: мяне, панімаеш, не бойся,– і раптам павярнуўся да суседа, ляпнуў таго па плячы. – Ён, бачыш, не паважае магазінную. Га? Запанелі там усе ў дзярэўні, гляджу! Паны-ы! Канешне, панімаеш! .. Я калі зарплату палучаў? А ў іх бульбец заўсёды ёсць.

– Дык з’ездзі да маткі, вазьмі,– параіў Ягорка.

– А ты маю маць не трож, панімаеш!.. Я, можа, гарадскі! З Балбесаўкі!

– Ды бачу, які ты гарадскі...– усміхнуўся Ягорка. – Калі ведаеш,што гэта кассё, то не гарадскі.

– Ну даеш! Ну мочыш! Адкуль ты такі разумны,а, дзядзька ? Не, заеўся, заеўся аканчацельна!.. Прыйдзецца, панімаеш, цябе прасвяціць, лекцуху выдаць, цемната. Ды мяне кожны на Балбесаўцы ведае. Кожны! Лёньку Бурбалку спытай! Я! Я гэта!.. Во, і

кассё прывёз у горад. Прадаваць. А як жа! Развялося гэтых спікулянтаў – плюнуць няма куды. Безабраззе! Панімаеш!..

– Брату вязу кассё,– чамусьці сказаў Ягорка, і адчуў, што трэба было лепш маўчаць.

– Залівай, залівай! Ведаю! А тады яшчэ венікі перад лазняй прадаваць будзеш.

Нехта з пасажыраў зрабіў заўвагу п'янаму:

– Мужык! Ты чаго прычапіўся да дзядзькі? Едзеш – едзь! А то вылеціш!..

П'яны Лёнька затрымаў на імгненне галаву на адным месцы, а потым крыху ўцягнуў яе ў плечы, так і не павярнуўшыся на голас, а толькі сцяўся, бы яму за каўнер упала халодная кропля, сказаў бяскрыўдна:

– Ды ад душы я! Ад сэрца!.. Мне дзядзька спадабаўся, панімаеш! І кассё вунь! Га? Сам, кажа,рабіў. Малаток! Малаток!..

Ягорка нават крыху і пашкадаваў, што вёз гэтае кассё. Адны прыгоды з ім. «І навошта яно брату? Дзе ён тут, у горадзе, касіць будзе?»

Аўтобус чамусьці задужа доўга поўз да чарговага прыпынку. Нарэшце віскнуў, спыніўся. Ягорка падхапіў сумкі, а кассё сунуў некаму ў руку: «Падай, дзетка». І выслізнуў на свежае паветра, хоць ехаць яму было яшчэ два прыпынкі.

«Ну яго, п'яніцу таго! Лепш прайдуся...» Ён павесіў на кассё дзве торбы, ускінуў усё гэта на плячо і панёс. Цяжкавата, але цяпер ніхто не хапаецца за кассё, не ліпне з рознымі роспытамі, не дыхае ў твар гарэлкай... Людзі, праўда, дзівіліся з Ягоркі: і навошта ён такую доўгую палку ўзяў, каб несці на ёй сумкі? Хапіла б і карацейшай.

І добра, што нікому не трэба было тлумачыць, што гэта не палка, а – кассё!

## ХЛАПЧЫНКА

Дзесьці ў канцы мая, як толькі гарадскія кветнікі ўспыхнулі-загарэліся ўсімі колерамі вясёлкі, Кацьку цапнулі прама за руку на клумбе перад інтэрнатам. І хто – стары, з выгляду нягеглы, заўсёды сонны, бы леташняя муха, дзед Міхалыч. Ён падцікаваў дзяўчынку, вытрымаў належную паўзу, пакуль тая не ўцягнулася ў недазволены занятак (а кветкі Кацька рвала не спяшаючыся, усё роўна як на лузе альбо ў сваім вясковым гародчыку) і, высунуўшыся з-за тэлефоннай будкі, агрэсіўна запатрабаваў:

– Стаяць!

Кацька і спынілася. Іншая б дала лататы, а яна – не, яна ўсміхнулася Міхалычу, паказала букет:

– Прыгожы, а?

– Стаяць! – паўтарыў стары і малайцавата апынуўся каля дзяўчыны, узяў за руку. – Ага, папалася! А я думаю, хто кветкі нішчыць. Ты, значыць, каралева. Так-так. Ну, пайшлі, значыць?

Міхалыч пацягнуў Кацьку за сабой у інтэрнат, не перастаючы сыпаць слоўцамі:

– Гэта ж трэба – гарадскую прыгажосць псаваць!.. Людзі, значыць, торкаюць насенне, паліваюць, даглядаюць...

Кацька моўчкі плялася за старым, не выпускала з рук прыгожы букет, а дзед працягваў ушчуваць яе:

– Калі кожны па кветцы... па адной кветцы нават сарве – што ж будзе, га? Дзе ж набярэшся гэтых самых кветак? Бязладдзе! Параспускаліся-я!

Перад уваходам у інтэрнат Кацька ўсё ж заўпарцілася:

– Міхалыч, адпусці. Міхалыч, мне ж кветкі трэба, а купіць няма за што. Чуеш, Міхалыч?

– Ведаць не ведаю!

– Ты ж добры чалавек, Міхалыч. Ты ж ваяваў.

– Для таго і ваяваў, каб кветкі раслі!

– Я разумею. Гэта патрыятычна, гэта мяне кранула. Будзь сябрам. Міхалыч. Хочаш, я цябе пацалую? Хочаш?

– Ведаць не ведаю!

Кацька цмокнула ўсё ж старога ў шчаку, але і гэта не дапамагло – на другі дзень яе ўчынак разбіралі на сходзе ў цэху. Сход сабралі не спецыяльна, каб наладзіць кранаўшчыцы Кацьцы прачуханку, не, так супала, што ён быў запланаваны, назбіралася шмат вытворчых

пытанняў, якія трэба было неадкладна вырашаць, а ў канцы і пра яе ўспомнілі.

– Давай, Міхалыч, што там у цябе? – паглядзеў на старога начальнік цэха Лісаў.

– А што дакладваць? – крыху сумеўся стары, патаптаўся на месцы, глянуў на Кацьку, твар у якой запунсавеў – кветкі на клумбе пачалі прадаваць. – Зацікавіўся я, значыць, хто б мог пакасціць. Хлапчукі, думаю. Шпана. А тут, бачу, Кацька рве. Кацька-а. Вось яна самая... – Міхалыч паказаў на дзяўчыну вачамі. – Я за тэлефонную будку – нырк, назіраю...

У зале пачуўся смех: многія, відаць, уявілі, як нырнуў за тую будку кручкаваты дзядок.

А Міхалыч працягваў:

– Не дзеўка, а хлапчынка нейкі гэтая Кацька. Яно ж і праўда, людзі: на кран той хіба дзеўка ўскараскаецца? У мяне б у самога шапка звалілася.

Зноў пачуўся смех.

– Міхалыч, па сутнасці, па сутнасці гавары, – больш строга напомніў старому начальнік цэха

– Дык па сутнасці і кажу, – трохі пакрыўдзіўся стары. – Дык я і кажу... Тым разам, на жончыным якраз дзяжурстве, шыбу выбіла... Бутэлькай...

Нехта прысвіснуў: во дае Кацька!

Стары сеў.

– Кацярына, ты дзе? – быццам не бачыў, дзе стаяла кранаўшчыца, пашукаў яе вачыма Лісаў. – Раскажы ўсё сама. І пра кветкі, і пра выбітую шыбіну. Давайце Кацярыну паслухаем.

Дзяўчына паднялася – маленькая, шчупленькая, падзьмула на пасмачку валасоў, што звесілася на лоб, ціха мовіла:

– А што мне вам сказаць? – Вытрымаўшы паўзачку, паспрабавала ўсміхнуцца. – Рвала кветкі... Міхалыч бачыў, не дасць схлусіць. І шкло разбіла... бутэлькай...

– Яна хоць поўная была ці не? – хіхікнуў нехта.

– Поўная, – з твару дзяўчыны амаль зусім знікла чырвань, ён пасур’ёзнеў, падабрэў. – Як наліць. І дарагая – камерцыйная. Я, праўда, бутэльку разбіць хацела – не шкло. Так атрымалася. Але ж я сама шкло паставіла. Так, Міхалыч?

Стары схамянуўся, крэкнуў:

– Гэта праўда. Сама.

– Дык, а што ж ты хочаш, дзед? З кім не бывае? – заступіўся за Кацьку вусаты хлопец, што сядзеў недалёка ад яе. – Думаеш, калі дзяўчына малая, то яе і пакрыўдзіць можна? Кацька, дай дзеду здачы!

– Міхалыч не вінаваты, – спакойна сказала Кацька. – Ён пры выкананні. Яму, можна, і дзякуй трэба сказаць, што пільна на вахце стаіць. І я, відаць, таксама не вінавата. З бутэлькай да мяне жаніх прыходзіў... Ну, адзін раз можна... але ж не кожны! Не трэба мне жаніх з бутэлькай. А кветкі? – Яна крышачку разгубілася, сарамліва паглядзела ў прэзідыум, па баках. – Я кахаю Толіка... Хацела яго схадзіць, папрасіць прабачэння... З кветкамі. Я люблю кветкі... А яны, ведаеце самі, цяпер дарагія... а грошы нам не плацяць за работу ўжо другі месяц. Прабачце... Я больш, таварышы дарагія, не буду... Даруйце...

Начальнік цэха барабаніў пальцамі па стале, дзед Міхалыч глядзеў некуды сабе пад ногі, прылізваючы растапыранымі пальцамі пучок валасоў на лысай галаве, той-сёй перашэптваўся...

– Хлапчынка, ты хлапчынка, – пахістаў услед галавой Кацьцы дзед Міхалыч, калі сход закончыўся і ўсе пачалі разыходзіцца. – І для каго кветак пашкадаваў, каб спытаць? Цьфу! Толькі асарамаціўся. Бач, усе на яе баку, адзін я толькі вытыркнуўся, як Мікіта з канапель. Хоць не: на клумбе кветкі растуць для горада, а не для адной хлапчынкі.

**СУМКА**

Па сцяжынцы, што выгінаецца ўсцяж шашы, нетаропка едзе веласіпедыст. Гэта вясковы настаўнік Юрый Трафімавіч. Сухі і доўгі, у паношаным шэрым пінжаку і расхрыстанай белай сарочцы, ён нагадвае нечым кінаартыста Філіпава.

Паволі круцяцца колы веласіпеда, мігцяць, зіхацяць на сонцы спіцы. На рулі пагойдваецца старая, зашмальцаваная сумка.

Веласіпедыста абганяюць грузавікі, легкавушкі, ажно вецер шугае ў бок Юрыя Трафімавіча, сіліцца сарваць саламянага колеру капронавы капялюш – у таго толькі згінаецца левы, што к дарозе, акраек.

Калі паназіраць за спіной веласіпедыста, якая ўсё аддаляецца і аддаляецца ад цябе, то не цяжка зазначыць: гэты чалавек ніколі і нікуды не спяшаецца, не з хапатлівых ён людзей – усё робіць разважліва, спакойна, роздумна.

Колы веласіпеда ўжо коцяцца па заасфальтаванай вуліцы раённага гарадка, на рулі супакойваецца сумка. Настрой у Юрыя Трафімавіча добры: твар яго раз-пораз кранае лёгкая ўсмешка, вочы свецяцца непасрэднасцю і шчырасцю.

Нарэшце Юрый Трафімавіч супыняецца, выцягвае з кішэні насоўку: хоць і ледзьве круціў педалі, в лысіна ўсё ж узмакрэла. Ды ўжо ж не семнаццаць гадкоў. Настаўнік вядзе веласіпед па тратуары, губляецца сярод людзей, якія ходка шнуруюць туды-сюды.

Юрый Трафімавіч, здаецца, і сам таго не заўважыў, як апынуўся перад аднапавярховым, жоўтага колеру будынкам, на якім кідаецца ў вочы шыльдачка з надпісам: «Банк». Ён ставіць веласіпед да нізенькага акуратнага парканчыка, здымае з руля сумку, вітаецца з нейкім чалавекам і па стаптаных прыступках накіроўваецца ў будынак.

Сіратліва стаіць веласіпед, толькі скок-паскок на сядзенні верабей. Нарэшце птах падціскае пад сябе лапкі, заплюшчвае вочкі – спіць. Ён бы і сам спаў, але выходзіць з будынка Юрый Трафімавіч, перабівае спачын вераб'ю. Той пырхнуў, зацiлiўкаў і даў лёту над нізкімі кустамі бэзу.

Настаўнік, правёўшы кароткім позіркам шэрую драбязу, чапляе на рог кручкаватага руля сумку, зноўку круціць педалі. Стаіць у самай сваёй моцы летні дзень, спякотны і ціхі. Прыпарвае. Неба, аднак, па-ранейшаму чыстае і светлае, без хмурынкі, поўніцца россыпам птушыных галасоў.

Нарэшце Юрый Трафімавіч выруліў на ціхую, бязлюдную вуліцу. Пярэдняе кола веласіпеда наматвае на сябе дарогу: бяжыць узбоч яго, а то і трапіць пад самы след цень настаўніка. Наперадзе мільгануў, загойдаўся перад яго вачамі фасад малаказавода. За шырокія дзверы на яго тэрыторыю зарульваюць адзін за другім некалькі малакавозаў – вяртаюцца з прыёмных пунктаў. Вахцёр, на першы погляд дзядзька трохі мешкаваты, што трымае руку на кнопцы, прапускае пузатыя машыны – заўважае Юрыя Тафімавіча, адбівае лёгкі паклон яму, а крыху пазней, калі дзверы зноўку самкнуліся, падыходзіць да настаўніка, падае руку. Вітаюцца. Цёпла. Як старыя знаёмыя.

– Міхася праведаць?– пытаецца вахцёр.

– Калі ўжо ў горадзе, то дай, думаю, і заеду.

– Трэба, трэба. Сваё, душа баліць. А як жа...

Юрый Трафімавіч нясмела пытаецца:

– Як ён тут?

Вахцёр – трохі здзіўлена:

– Хто – Міхась-та? У-у.. Хлапец – зух! Вунь, глядзі, на дошцы – «маланка» прыгажуніцца,-- паказвае рукой. – То ён не прападзе. Хоць і навічок на заводзе, а яго халадзільнік, брат, марозіць – ого-го! Ажно іней курэе. Так што, бацька, радуйся за сына.

Загарэлы твар Юрыя Трафімавіча прасвятлеў у прыемнай, праўда, крыху нязграбнай, няўдалай усмешцы. Вахцёр тым часам заглянуў у сваю будку, адкуль быў чуцён яго голас: «Кавалёва, ну таго, што па накіраванні. З тэхнікума, ага... Як зразумеў? Прыём. Падсылай на прахадную».

Вахцёр вяртаецца да настаўніка, на хаду пачухвае патыліцу, мурлыча: «Салдат вярнёцца...»

Зноў пад’язджаюць і піпікаюць малакавозы.

– Добра, слаўна малако ідзе, – радасна кажа настаўніку вахцёр і зноў спяшаецца да кнопкі, націскае яе кароткім тоўстым пальцам.

А тым часам да Юрыя Трафімавіча падыходзіць Міхась з нейкім незнаёмым хлопцам, але вельмі падобным на сына настаўніка. Такі ж рослы, прыгожы, акуратны. Аднак больш падобняць іх, мусіць, беласнежныя халаты.

– Ты ўсё на ім? – зірнуў Міхась на веласіпед.

– А то яшчэ на чым жа?

– Надзейна, выгодна, зручна. Лятайце веласіпедамі! – пажартаваў той незнаёмы хлопец.

– Сямён, – нарэшце кіўнуў бацьку на таварыша Міхась. – Разам вучыліся і цяпер вось...

Юрый Трафімавіч яшчэ раз глянуў на Сямёна, толькі ўважлівей. І зноў загаварыў:

– Сапраўды, самы надзейны конь. – Ляпнуў па рулі адразу дзвюма далонямі.—Аўтобус то прыйдзе,то не. Сам ведаеш, як ходзіць. А гэта надзе-й-ны конь. Мы па-старэчы, не спяшаючыся. Круць-верць, верць-круць – глядзіш –і прыехалі...

– І колькі ж ты сюды дабіраўся? – пытаецца Міхась.

– Ды нядоўга. Па справах надзённых прыехаў, от. Трэба шчэ недзе бляшанку сурыку прыдбаць. Рамонт у школе, лічыць можна, закончылі. У маім класе толькі недаробкі : бляшанку сурыку – і тады смела, з чыстым сумленнем адпачываць можна.

– Сурыку? Усяго бляшанку? – не проста так, ад няма чаго рабіць, перапытвае Міхасёў таварыш. – Нават і дзве магу. Слова – закон. А чаму і не, калі ёсць. У мяне дома стаіць фарба, высыхае – псуецца адно: харомы свае рамантавалі з бацькам, засталася. Магу адскочыць,га? Я тут недалёка... – Сямён кранаецца рукой веласіпеда.

Юрый Трафімавіч уступае яму свой надзейны транспарт.

– Ну, калі не шкада,– ніякавата паціскае плячамі настаўнік.

– Ды я ўмомант! Я тут недалёка... на вуліцы Смалячкова жыву. Для школы, для дзяцей – хіба ж можна фарбы пашкадаваць! Было б чаго... Чакайце, я зараз. Адна нага тут, другая – там.

І Міхасёў таварыш спрытна скокнуў на сядзенне. Веласіпед, нібы скінуўшы цяжар суму па хуткім бегу, памчаў вуліцай, што неаб’езджаны стаеннік. Відаць было, што прагаладаўся па гэтым транспарце і Сямён,– так апантана працаваў ён нагамі. А сумка, тая старая зашмальцаваная сумка, не знаходзіла, здаецца, сабе месца на рулі – гайдалася і трэслася, бы адбівала польку- «весялуху».

Вось веласіпедыст выруліў ужо на цэнтральную вуліцу, фарсіста імчыць па ёй, ажно прыўзняўся на сядле. Эх, і тэхніка! Расступіцеся, грузавікі і розныя там легкавікі—веласіпеду зялёнае святло! Але святлафор лыпнуў зялёным вокам раз, другі і ўспыхнуў чырвоным: стоп! І веласіпедыст ці то разгубіўся, ці то ўсё ж мераўся прашмыгнуць, але перад ім ужо зашугалі шчыльным ланцужком машыны, і яму нічога не заставалася, як «даць па тармазах». Даў, але не зусім удала: грымнуўся. Веласіпед у адзін бок, сам – у другі, а з сумкі высыпаліся проста на асфальт... грошы. Некалькі пачкаў. Сямён адрабіўся лёгкім перапалохам, а ўбачыўшы грошы, разгубіўся, бадай, яшчэ больш, чым хвілінай раней. Перад вачамі пракруціліся

тыя пачкі з грашамі, бы на нейкім круглым дыску. Ён матлянуў галавой, нясмела зноўку паглядзеў на пачкі. Не, сапраўды – грошы...

Сямён, вядома, не бачыў, што за якія тры-чатыры крокі ад яго стаяў сяржант міліцыі. Стаяў, дакладней, матацыкл «Урал», а вартаўнік парадку масціўся на сядзенні ды барабаніў пальцамі па бензабаку. Як шлёпнуўся перад ім веласіпедыст, сяржант насцярожыўся. Калі ж з сумкі пасыпаліся грошы, ён ажно ўзняўся з сядзення, ажно працёр пальцамі вочы. Яны, відаць, абодва – Сямён і міліцыянер – глядзелі на грошы і не маглі паверыць: яны ці не яны? Сяржант, ну, канечне ж, адразу з прафесійнага пункту гледжання ацаніў абставіны: «Ага, ляціць на скрут галавы... Так-так-так... Куды ляцець- спяшацца можна? З такімі грашамі і на таксі не грэх праехаць. Уцякае, значыць. Бач, яму крадзеныя грошы нат за ўласнае жыццё даражэй – ледзьве пад колы не трапіў. Што робім? Затрымліваем. Дастаўляем. Дзейнічаем! Ні хвіліны замінкі!»

Свісток з гарошынай усярэдзіне грымнуў на усё скрыжаванне. Што? Чаму? Навошта?– азіраліся шафёры, матацыклісты, прахожыя. А свісток заліваўся. Хоць вушы затыкай. Сяржант падбег да разгубленага Сямёна, які і сам не ведае, адкуль тыя грошы на асфальце: ці шчодра сыпануў хто, ці з гэтай вось сумкіываліся? Ды няўжо можа быць, каб з сумкі? Міліцыянер нешта даказвае хлопцу, той разводзіць рукамі – не разабраць, далекавата яны, ды і машыны шалёна гудуць.

Паколькі сутнасці справы яны не высветлілі, то едуць у райаддзел міліцыі. Наперадзе спакваля круціць педалі веласіпедыст, азадачаны і хмурнаваты, раз-пораз папраўляючы – ужо асцярожненька, далікатна – на рулі сумку, а за ім важна кіруе сяржант.

У райаддзеле сяржант дакладвае дзяжурнаму:

– Таварыш лейтэнант! Невядомы грамадзянін... – Глядзіць на хлапца, просіць вачамі, каб той назваўся.

– Сямён... Неслух. З вуліцы Смалячкова.

– Во,во,– неслух... Гы-эм,– сяржанту не падабаецца, як лічыць ён, празмерная Сямёнава іронія.– ... Затрыманы з невядомай сумкай і эннай колькасцю грошай. Факт патрабуе разабрацца.

Дзяжурны па райаддзеле міліцыі, не такі і малады ўжо лейтэнант, запрашае прайсці ў цеснаваты пакойчык.

– Сядайце,грамадзянін, – кіўнуў Сямёну, а сяржанту загадаў: – Раскавазвайце, Кудасаў...

– Значыць, так... Я мушу спярша запытаць таварыша... Як там цябе?...

– Сямён Неслух.

– ... адкуль у цябе, Неслух, грошы?

Сямён, хоць і разумее пытанне, аднак адказаць не можа. Паціскае плячамі:

– Не ведаю. Чэснае слова, не ведаю.

– Ну, бачыце,– сяржант, задаволены сабою, пераможна паглядае на дзяжурнага. – Я ж адразу і падумаў: свіснуў!.. Свіснуў – і кропка.

– З чаго б свіснуў? Ды ў мяне і свістка няма,– паказвае рукі Неслух, прыкідваецца дзіваком, проста па сваёй натуры ён такі наіўны і крышачку з дзяцінствам яшчэ ў галаве чалавек.

Між іншым дзяжурны ўсё ж згаджаецца, што перад ім не той хлапапчына, які можа ўкрасці. Штосьці ўсё ж умеціў у ягоных вачах лейтэнант. Штосьці шчырае, непасрэднае.

– Давай, Сямён, расказвай: чый веласіпед, чыя сумка?

– А-а!– нібыта прачынаецца Неслух.–Дык гэта ж веласіпед бацькі майго таварыша. І сумка... І сумка яго!

– А дзе ж ён, бацька той?– спакойна вядзе допыт лейтэнант.

– Ля прахадной завода.

– «Уралмаша»?– іранізуе дзяжурны.

Сямён зразумеў, што лейтэнант злавіў яго, як кажуць, на слове, таму тут жа сумеўся, трошкі вінавата ўсміхнуўся:

– Ну, вы даяце... Ля малаказавода...

Зноў у тым жа парадку, як і ў райаддзел, едуць на малаказавод. Неслух азіраецца на сяржанта, крычыць таму:

– Таварыш сяржант, а таварыш сяржант! Вы чалавек ці не,– відаць, што ён не ўпершыню звяртаецца да сяржанта з такой просьбай. – Фарба настаўніку трэба. Пазарэз. З-за яе рамонт у школе зацягваецца. Дзеці што, па старой падлозе павінны шоргаць? Як вы зразумець не можаце... Я тут недалёка, на Смалячкова жыву. Чулі пра такога героя?

Сяржант толькі махае рукой: кіруй далей і ніякіх размоў, можа, фарба тая – прычына ўцячы. Разбярэмся, тады хоць еш яе, фарбу тую, хоць лыжкай, а хоць жменяй. Ды не адной рукой, а дзвюма адразу можаш...

Невядома, успомніў Юрый Трафімавіч пра сумку, як невядома, ці забываўся ўвогуле ён пра яе. Настаўнік стаіць з сынам і вахцёрам, нешта расказвае ім смешнае, бо вахцёр ажно за жывот ухапіўся і тупнуў па зямлі ботам, бы збіраўся апынуцца ў бойкім танцы. Але ён першым заўважыў стракаты міліцэйскі матацыкл, таму адразу неяк суцішыўся, выпрастаўся.

Пад’ехалі Неслух з сяржантам. Апошні заглушыў матацыкл, зняў шлем, а потым падаўся да мужчын, павітаўся з кожным за руку. Побач з ім стаяў Сямён, не знаходзячы, што яму рабіць: перадаваць веласіпед уладальніку альбо чакаць загаду на гэта ад чалавека ў пагонах.

– Чый будзе веласіпед?– спытаў сяржант, прымерваючыся позіркам да кожнага, хто стаяў насупраць яго. – Смялей жа, мужчынкі!

– Веласіпед чый? Як чый – мой,– не мог, здаецца, зразумець настаўнік, чаго дамагаецца вартаўнік парадку.

– А сумка?

– І сумка.

– А там, у ёй, бублікі якія ці яшчэ паважнейшае?

– Грошы,– спакойна адказвае Юрый Трафімавіч.

– Грошы, кажаце?– прыняў больш канкрэтна дзелавы выгляд сяржант. – А ў вас якім чынам такая сума, га?

Юрый Трафімавіч трымаецца незалежна, сабрана. Допыт, невядома пакуль чым выкліканы, не выбівае яго з каляіны. Ну і што, калі міліцыянер? Няхай сабе. Хоць яшчэ другі побач няхай стане. А ён пры чым? Ну, грошы...

– У банку атрымаў. Адпускныя. На настаўнікаў...

Сяржант дакорліва ківае галавой:

– Грошы – у сумку. А галава на плячах навошта, спытаць варта. Што, для шляпы? Эх, паважаны чалавек-е-к... А калі б што? Сумку калі б хто зняў у Неслуха, як тады, га? Шукай у полі ветру?

Юрый Трафімавіч не ведае, як трымацца яму перад міліцыянерам, кепска, зусім кепска адчувае ён перад ім, таму адразу і слоў у адказ не знаходзіць.

– Ды... ды на гэтую сумку і паглядзець ніхто не паглядзіць. Старэнькая яна, нягеглая. Выкінь такую – палянуюцца людзі нагнуцца, каб падняць, не кажучы ўжо...

– Каб такія валяліся на дарозе... – сяржант паспрабаваў усміхнуцца. –Адказная сумка ў вас, таварыш. Сур’ёзная сумка. Колькі ў ёй?

– Багата...

– Ну во. З грашамі так не абыходзяцца. Паакуратней трэба, паасцярожней. Ёсць у нас яшчэ майстры лёгкага жыцця, якія чуюць вось гэтым самым месцам,– торкнуў пальцам у свой прыплюснуты нос,– як яны пахнуць, грошы. Мець на ўвазе трэба, паважаны...

А ён, Юрый Трафімаівіч, просты вясковы настаўнік, даверлівы і чулы, не можа дакеміць, да яго ніяк не даходзіць, што ёсць такія «майстры». Адно ён ведаў дакладна: у іхняй вёсцы няма. І сярод яго выхаванцаў, былых вучняў – таксама няма, на ўсе сто працэнтаў няма. І сумнявацца не трэба.

– Вось што, паважаны, – звяртаецца міліцыянер да Юрыя Тафімавіча. – У Кулагу вам трэба? Праз лес?

Настаўнік ківае: і ў Кулагу, і праз лес.

– Сядайце, падкіну я вас. Сур'ёзная ў вас сумка. Людзі грошы чакаюць. Адпускныя ці якія яны, а чакаюць.

Юрый Трафімавіч разгублена глядзіць то на сына, то на Сямёна, то на вахцёра, а больш – на сяржанта. І не пагаджаецца:

– Я сам... Не хвалюйцеся, таварыш міліцыянер. А за ўвагу, за клопаты дзякуй. Дастаўлю цэлымі і зберажонымі. Не хвалюйцеся задарма. Вось мой і транспарт,– ён бярэ ў Сямёна веласіпед. – З ім мы як-небудзь...

Сяржант не можа зразумець Юрыя Трафімавіча, ён, мусіць, лічыць яго дзіваком – яшчэ большым, чым той Сямён.

– Ды і фарба ж мне трэба...

... Як і ў райцэнтр, не спяшаючыся вяртаецца ў сваю вёску Юрый Трафімавіч. Гайдаецца на рулі сумка. Настаўнік зварочвае з асфальту, дарога –нялёгкая пасля ўчарашняга дажджу – бяжыць у глыб лесу, густога і стромкага. У лесе ціха, свежа, самотна. Хораша ў лесе\ Лес ёсць лес. Пасля гарадской мітусні, пасля тых не зусім прыемных хвілін, праведзеных у размове з міліцыянерам, хоць, прынамсі, нічога і не было ж такога, ад чаго мог сапсавацца ў яго настрой, але Юрый Трафімавіч адчуў сябе ў лесе, у знаёмых мясцінах, як дома. Ён і ехаў, і каціў веласіпед. Каціў пад узлобак ці ў лагчынцы, дзе не асабліва разгонішся – слізгота, гразь.

Яшчэ здалёк настаўнік запрыкмеціў легкавушку. Пад'ехаў бліжэй, убачыў: «Жыгулі» правалідіся заднім колам у разбітую каляіну, а яго гаспадар – мужчына сярэдніх гадоў – сядзеў на траве побач з машынай і шчыпаў травінкі, нервова адкідваў іх убок. Калі пад'ехаў да яго Юрый Трафімавіч, мужчына яшчэ хапнуў жменяй травы, скубануў, але ў руцэ было не густа травінак. Ён адкінуў іх убок, падхапіўся.

– Засеў?– адразу ж пацікавіўся Юрый Трафімавіч, хоць і без таго было бачна: не адпачываць жа сабраўся чалавек у лужыне.

– Занесла. Думаў, прайду па броўцы, ды прамахнуўся. Сцягнула во...

– Мо штурхануць?– прапанаваў сваю дапамогу настаўнік і прыставіў веласіпед да адзінокай бярозкі, што цягнулася ўгору на палянцы паміж лесам і дарогай.

– Паспрабаваць можна,– недаверліва глянуў на Юрыя Трафімавіча мужчына. – Толькі ці выпаўзем?

– Выпаўзем,– запэўніў настаўнік.

– Тады вы паакуратней, каб не заляпала,– шафёр ужо ўладкаваўся на сядзенні, гыркнуў маторам, папярэдзіў:– Слухайце каманду… Раз,два,– узялі! Так,так… О-па!

З цяжкасцю, але ўсё ж выбіраюцца «Жыгулі» з лужыны.

– Дзякуй вам вялікае,– на твары гаспадара «Жыгулёў» засвяцілася ўпершыню, як стрэўся з ім настаўнік, усмешка.

– Нічога, свае людзі,– змахвае са штаноў кроплі гразі Юрый Трафімавіч. –Глядзі, там наперадзе яшчэ адна яміна. Бяры лявей…

«Жыгулі» ад’язджаюць, а Юрый Трафімаівч вяртаецца да веласіпеда. Веласіпед стаіць пад бярозкай, і чорная сумка, на якую ўсё ж трэба прымайстраваць нейкі замок, вісіць на рулі. А можа, і не патрэбен ён, той замок? Навошта?

Бяжыць дарога, знікае пад коламі. Едзе на веласіпедзе чалавек, адбівае паклоны землякам, і не верыцца яму, што мог нехта працягнуць руку да ягонай сумкі.

Ніяк не верыцца.

**ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ**

Калі Ягорка п’янеў, ён рэзаў паветра растапыранымі пальцамі – справа налева – і пачынаў часта тупацець чобатамі, выбіваючы пыл з зямлі, а галаву трымаў высока і горда, нібы на цемені стаяла шклянка з віном, і ён баяўся, што расплешча каштоўныя кроплі. Сам жа крычаў сіпатым голасам:

– Танцуй, арцель! Не было б мне горка, каб не зваўся я Ягорка ! Х-ха-ха-ха-а! Гуляй, і-э-эх!

Мужчыны, з якімі Ягорка толькі што браў чарку, здзекліва-абразліва пасміхаліся, назіраючы за танцорам, а калі іх напарнік, запыхаўшыся да ачмурэння, бездапаможна павісаў на прылаўку, прапаноўвалі яму, пераміргваючыся, прамачыць яшчэ горла, не шкадуючы для яго слоў пахвальбы. Ягорка пагаджаўся, бо сёння якраз пенсія, капейчына ёсць, ён без лішніх слоў кідаў пакамечаныя грошы на вагі, загадваў:

– Для ўсіх. Ы-ы. Для таго і цывілізацыя, што хоць піва пап’ём. Налівай, Сцяпанаўна. Чым паўней. Хопіць, што згубіў жыццё, можна сказаць, у сваёй глухой Слабадзе. Не лічачы арміі. Там хоць свету пабачыў, на людзей паглядзеў і сябе паказаў. Нагу нат апаласнуў у Ціхім акіяне. Як, га? То-та ж!

Рукі мужчын цягнуліся да куфляў, Ягорка лагоднеў: хто вас частуе, мацъ вашу!.. Знайце і шануйце, бамжы д’яблавы!

А потым ён, хістаючыся, плёўся да хаты, падаў ніцма на ложак і хроп. Закончыўся яшчэ адзін дзень. Жонка, вастраногая і сухарэбрая, але мяккая і падатлівая Насця, прывыкла ўжо да ягоных п’янак – у апошні час яны абрынуліся на яе, як пракляцце. Але рада-радзёшанька была, што калі нажлукціцца Ягорка, то хоць руку на яе не падымае. Не-е, грэх сказаць. Прыгаворвае: «Абы ціха, абы ціха, Насця»,– і брык на ложак. Іншы раз перад тым, як пачаць храпці і высвістваць носам, прамумкае: «Абы не было вайны...»

Тут, у Доўску, Ягорка з’явіўся два гады назад – як толькі пайшоў на пенсію, прыехаў да сястры пагасцяваць. Пахадзіў, пагледзеў, як тая жыве, і засвяціліся ў калгаснага пенсіянера вочы: «А чым я горшы? Навошта млець мне ў сваёй Слабадзе? На якога д’ябла? Тут жа, гляньце, і дурань бачыць, крам багата, нават рэстаран ёсць, і кульдзім. А ў нас? Крама і тая за тры кіламетры».

Вярнуўшыся ў Слабаду, выклаў свой план Насці. Жонка ўважліва выслухала Ягорку, а тады ўздыхнула – выдумаеш таксама!-- і

патэпала на двор. Ягорка – услед, за плячо яе сваёй рукой павярнуў – твар у твар:

– Дык ты што, на маю прыдумку чхнула?

– Адвяжыся. Мелеш абы што. З глузду, бачу, пад старасць з’ехаў,– і яна рашуча павярнулася, каб ісці далей.

Аднак Ягорка натапырыўся ўсур’ёз:

– Паеду адзін!

– Едзь. Абрусам дарога.

– Дык там жа людзі жывуць! А мы тут?.. Хто мы? Хоць... хоць, разумееш, апошнюю кроплю шчасця – ды на язык, га?

– Вось-вось,– з лёгкім дакорам заківала Насця. – Табе, бачу, тая кропля і спадабалася?

– Ды не тая кропля, не тая!– зморшчыўся Ягорка і тупнуў нагой. – У вас, баб, толькі адно ў галаве... Кропля шчасця! Шчасця-я-я! Га? Мы ж будзем жыць, як людзі. Я ж там і дамок прыгледзеў. З садам. Сад яшчэ большы, чым у нас. А побач – якраз насупраць – аўтастанцыя. Вядзерца яблыкаў ці груш прадаў... там і сліў багата... і заўсёды свежая капейка. Жывая. А з нашай Слабады не павязеш садавіну ў Доўск – далёка, няблізкі свет, адно больш грошай праездзіш.

Пра яблыкі Насці спадабалася. Але мужу нічога не сказала, пачала даіць карову, а той сеў побач на корч каля веснічак, згарнуў самакрутку, пацягнуўся, сказаў:

– Я б тады і табаку не садзіў. Мілае дзела – усё побач. А пенсій нам хопіць. Яшчэ дзецям паможам. Ды... ды і ім да нас на новае месца лягчэй будзе прыехаць. З Доўску – чуеш, маладзіца? – у любы бок: хочаш у Адэсу, хочаш у Маскву, а хочаш... ды куды хочаш, туды і шуруй.

Раптам Насця папытала:

– А хлеў там ёсць?

Ягорка разгубіўся: бач, ён ёй цывілізацыю прапаноўвае, а яна, не інакш, дурніца, хоча цягнуць за сабой і рагулю. Кашлянуў у кулак, дыпламатычна паўшчуваў:

– Хлеў ёсць. Добры хлеў. З блокаў. Але навошта ён нам? Хопіць пенсіянерам за цыцкі шморгаць. Нашморгаліся. Паберажы пальцы.

Насця, нібы не пачула ягоных слоў, ціха мовіла:

– А Зорку куды паставіш? Пад зоркі?

– Маць тваю, га!-- не стрымаўся ўсё ж Ягорка, прытупнуў нагой. – Там жа можна купіць любую трасцу. І кефір, і малако. На якога д’ябла нам дзяржава пенсіі дала? Купім, купім, Настуля, усё, што трэба.

Хату ў Слабадзе Ягорка, вядома ж, не прадаў: каму яна ў глушы патрэбна, калі іх вунь колькі, людзьмі і Богам забытых, побач стаіць? Заходзь у любую, добры чалавек, і жыві. Макар ці Свірыд, якія непадалёку на могілках, супраць не будуць. Не выганяць і дзеці, бо хто ведае, дзе яны, сыны і дочкі? Ды, можа, тыя яшчэ і рады будуць : няхай хоць так, бясплатна, чужыя людзі жывуць, і тое добра. А пачнеш патрабаваць грошы – толькі згоніш людзей з месца. А іх ужо аднаго разу прагналі... Адтуль, дзе белае сонца аказалася для славян чорным. Нацярпеліся. Хапіла. Ды і вокны ў хаце павінны свяціцца. На тое і хата.

Загрузіўшы рэчы ў кузавок «газончыка», Ягорка, як ні стрымліваўся, усё ж пусціў слязу. Жонка скарыстала гэты момант, папракнула:

– Сам жа хацеў, дык не плач, бабёр.

– Ага, сам,– пакорліва паківаў галавой Ягорка, а потым узяў падрыхтаваныя загадзя дошкі, закалаціў імі крыж-накрыж вокны. – Не крыўдуй, хата. Думаеш, мне не шкада цябе пакідаць, але ж і ў цывілізацыі хочацца пажыць. Колькі там засталося, га?..

– Сядай ужо ў машыну, румза,– шкуматнула за рукаў жонка. – Ён з хатай прашчаецца. Бачылі? Ды ты не з хатай – ты з жыццём прашчаешся... з нармальным... з прывычным. Божухны, і куды ж мяне ты, дурную бабу, цягнеш? – і Насця затрэслася, нібы яе пранізала электрычным токам, з вачэй пырснулі слёзы. – Ой, не магу, людцы мае мілыя! Ёлупа паслухалася свайго. Каб жа папытаць – навошта?

Цяпер ужо яе прыспешваў Ягорка:

– Хопіць, хопіць, пара. Шахвёр моршчыцца: у яго, думаеш, акрамя нас, іншых спраў няма?

Неўзабаве ў бок Ягоркавай хаты тоўстай вяроўчынай шуганўў дым з выхлапной трубы, і староннаму чалавеку магло б падацца, што яна, хата, засланілася ад гару дошкамі, што былі на вокнах, нібы чалавек рукамі...

Жыў у Слабадзе Ягорка ашчадна. На свае не піў. І смешна было б – на свае: брыгадзір жа. Ды асабліва і не налягаў на яе, халеру. А зарабляў капейчыну неблагую, таму Насці было што трамбаваць у панчоху. Хату ў Доўску купілі без натугі. І добрую хату, як казаў Ягорка, каля аўтастанцыі. Вось яна, насупраць. Сядзі на лаўцы, назірай, як падрульваюць і ад'язджаюць аўтобусы самай рознай масці, як выходзяць-заходзяць людзі. А хочаш, ідзі ў краму. Каўбаска, вэнджаная рыба, булкі-шмулкі. А піва? Вінца нальюць, калі

закажаш. Гарэлачкі таксама. Прыгажосць! Ягорка не раз успамінаў суседа па Слабадзе Пятра і шкадаваў яго: «Не жыве, а чмыхае. Глянуў бы на мяне!» Ягорка прапаноўваў Пятру таксама падацца ўслед за ім, але той адно ўсміхнуўся і паказаў сумнымі вачыма на могілкі:

– Туды мне ўжо пара пераязджаць.

– Дарэмна, дарэмна, суседзе. А я паеду, ядрона шыш! Там, глядзіш, і больш працягну. А ты гібей тут, на балоце, неслух.

Амаль штодня цяпер Ягорка налягаў на піва – навёрстваў страчанае, ян ён сам лічыў. Нярэдка абыякава кідаў грошы на прылавак:

– Яшчэ тры куфлі, Сцяпанаўна. Пачастую, так і быць, вунь тых мужыкоў. Я, колькі і жыву, люблю гасцей сустракаць. А яны, бачу, госці. Прыезджыя. Дзярэўня. Хай паспытаюць цывілізацыі, хай удыхнуць, маць іх!..

Мужчыны пілі, што ім. Надаралася, што і Ягорку частавалі. У адказ . Тады ён успамінаў Слабаду, Пятра, капыліў губы: шкада рабілася і вёску, і суседа, не мог стрымаць слёз.

А Пятро неяк прыехаў. Нечакана-негадана. Ранічкай. Ягорка спаў. Паляпаў у веснічкі. Насця ўбачыла суседа праз шыбу, закатурхала мужа:

– Падымайся, ірад. Пятро прыехаў. Чуеш? Падымайся, кажу!

Так-сяк Ягорка дачыкільгаў да веснічак. Калі падаваў Пятру руку, тая трымцела, як ні стараўся яе суняць. Твар быў падобны на печанага яблыка. Нямгалены. Таму Пятру было ад чаго разявіць рот – як не да вушэй. Ён крэкнуў, сказаў суха і холадна:

– Ледзь пазнаў я цябе, зямляк. То я дамоў паеду. У Слабаду. Падалей, Ягор, ад тваёй цывілізацыі...

І плюнуў.

– Чаму ж так? – здзівіўся Ягорка. – Чаму ж? Заходзь, заходзь, сусед. Насця зараз на стол збярэ, а я ў краму... вунь яны, крамы... на любы манер... Хочаш – гарэлачкі, хочаш – піва... Я пенсію ўчора атрымаў... Ты... ты што, Пятро-о-о-о?

Пятро, не азіраючыся, пакрочыў у напрамку аўтастанцыі. Ягорка ж ніяк не мог зразумець, чаму ён, небарака, так зрабіў. І доўга ламаў галаў: за што б той мог на яго пакрыўдзіцца?

## СТАЖОРКА

Маршрут аўтобуса змянілі якраз учора: раней «дванаццатка» хадзіла з аўтавакзала ў канец Навабеліцы, на вуліцу Зайцава, а тут палічылі, відаць, што адтуль і так багата чаго ходзіць у розных напрамках і злучылі засожжа з сельмашаўскім мікрараёнам. Зручна стала многім пасажырам – едзь сабе праміком, без перасадкі. Танней і хутчэй. А сёння гэта важна – рабочых месцаў побач з жытлом не заўсёды хапае, таму людзі сноўдаюць узад-уперад па ўсім абласным цэнтры.

Вось на гэты дванаццаты аўтобусны маршрут і прызначылі стажоркай Клаўдзію Сцяпанаўну. «Павучыцеся пару дзён». Павучыцца трэба, бо раней яна з аўтатранспартам спраў аніякіх не мела, калі не лічыць, што карысталася ім, як звычайны пасажыр. Хто ж не карыстаўся? У аддзеле кадраў не надта цікавіліся, дзе і як жыла яна раней, больш, па ўсяму было бачна, глядзелі на яе твар – ці не пакамечаны, ці не выпівае? Каб не памыліцца і на гэты раз, а то сустракаліся жанчыны, якія пасля першай дзённай выручкі прападалі, бы ў каналізацыю правальваліся. Тады шукай іх. А Клаўдзія Сцяпанаўна, па праўдзе гаворачы, сур'ёзна рыхтавалася да візіту ў аддзел кадраў, уяўляла нат, што там пацікавяцца, як жыла яна ў тым далёкім сонечным Душанбэ, чаму, не дачакаўшыся якіх пару гадоў да пенсіі, вярнулася на радзіму. І пасаду ж там займала добрую – была завучам у сярэдняй школе, на вуліцы Путоўскага што, дзе вучыліся ў асноўным дзеці творчай інтэлігенцыі – пісьменнікаў, кампазітараў, артыстаў...А не пацікавіліся. Хоць што б яна сказала новага, акрамя таго, што пра ўсё людзі чулі-бачылі ўжо і самі па тэлебачанні і чыталі ў газетах? Амерыкі не адкрыеш. А пра настальгію тым, хто ніколі далёка ад мясцінаў, дзе нарадзіўся, не жыў, расказваць нешта дарэмна: не зразумеюць. Праз гэта трэба прайсці. Дамоў вярнуцца заўсёды, колькі і жыла там Клаўдзія Сцяпанаўна, хацелася і ёй. А тут – разладдздзе ў былым Саюзе, якраз склаліся спрыяльныя абставіны, калі сталася не шкада ні школы, у якой увогуле някепска ёй працавалася, ні суседзяў, ні тых прыгожых гарадскіх зацененых ад спёкі вуліц, дзе было ўсё знаёма-перазнаёма. Рынуліся, бы горны паток, славяне з Таджыкістана, а з усімі было лягчэй пакідаць нажыты скарб і ёй, Клаўдзіі Сцяпанаўне. Адважылася. І вось цяпер, у аддзеле кадраў, думае, чаму ж гэта людзі не пацікавіліся, як жылося ёй там, на чужыне? Відаць, хапае і ў іх,

гэтых людзей, сваіх клопатаў – не да яе. Нават парадавалася, што не варушылі мінулае, а адразу ж прызначылі стажоркай. То і добра.

На тым прыпынку, куды Клаўдзіі Сцяпанаўне і паказалі, яна і села ў аўтобус. Была якраз перазменка, памяняліся прама ў яе на вачах вадзіцель і кандуктар.

– Я стажорка,– прадставілася, крыху саромячыся свайго ўзросту, Клаўдзія Сцяпанаўна маладой яшчэ жанчыне з рыжым, нібы мяцёлка, пучком валасоў, якія туга абхапіў каля шыі гумавы абручык.

Як, відаць, і належыць у такіх выпадках – пры першым знаёмстве – кандуктарка хуценька ахапіла дапытлівым позіркам Клаўдзію Сцяпанаўну, бы сфатаграфавала, а тады ўсмешліва неяк сказала:

– Дык і добра. Весялей мне будзе. Сядайце вось сюды, прыглядайцеся... А потым пакажу, як квіткі адрываць, куды грошы складаць. Сумачка, дарэчы, якая-небудзь ёсць? Пажадана, каб на плячо павесіць – так зручней. Ці да раменя прышпіліць. Як вось у мяне.

– Няма.

– Трэба купіць. Яе не дадуць – раздабудзьце самі. Вось такую безрукаўку, як у мяне, выдзеляць. Яшчэ не далі? То яны выдзеляць – наштампавалі. Фірменныя. Сінія ў асноўным. Ёсць і блакітныя. Я Тамара, а вадзіцель – Саша.

Клаўдзія Сцяпанаўна таксама назвала сябе. Неўзабаве аўтобус крануўся і стажорка села на тое месца, на якое і кіўнула ёй Тамара,– спераду. Але чаму – там, спераду? Салон аказаўся за яе спіной, перад вачыма,– адна толькі адгародка з вадзіцелем, на якой – ажно рэжа зрок – партрэт вядомай даўгалыгай кіназоркі. Тупік. Клаўдзія Сцяпанаўна перасела. Во, цяпер іншая справа, зручней, можна бачыць, што робіцца ў салоне. А што там робіцца? Тамара адрывае квіткі, бярэ грошы, дае рэшту і правярае пасведчанні ў льготнікаў – як правіла, гэта ліквідатары, інваліды, а людзям сталага веку, заўважыла стажорка, часцей за ўсё даравалася: едзьце спакойна, па вас і так, шаноўныя, добра відаць, хто вы на самой справе, не памаладзееце, хоць бы вам гэтага дужа і хацелася.

За ўсім гэтым уважліва сачыла стажорка. Іншы раз на месцы Тамары яна ўяўляла сябе, і чамусьці адразу ж палохалася, што з яе, відаць, не атрымаецца кандуктара – такога, які той і павінен быць: строгім, патрабавальным. «А ці ж змагу я так гыркнуць на чалавека, як Тамара, калі вунь той патлаты хлопец адмовіўся плаціць за праезд? Няма, кажа, грошай. Можа, і праўда, няма. Але ж парадак такі: плаціць трэба. Транспарт не бясплатны. Тамара малайчына: не

адстае. Не здаеццца і хлопец. Цікава, чым усё гэта скончыцца?» Клаўдзія Сцяпанаўна пачынае разумець, здагадвацца, што гэта ён, той хлапчына, проста выкаблучваецца, каб звярнуць на сябе ўвагу, дэманструе сваё геройства, грошы ж у яго, безумоўна, ёсць. Тамару таксама не правядзеш, як вераб'я на мякіне – бачыла, пэўна ж, і не такіх нахабнікаў. Не першы дзень працуе кантралёрам.

– На прыпынку пакінеце аўтобус, калі не хочаце большых непрыемнасцей!– строга папярэджвае яна хлопца.

– Буду ехаць столькі, колькі мне і трэба,– хлопец яшчэ мацней, падалося, узяўся за поручань, і на ягонай правай руцэ вызверылася пашчай звера-драпежніка татуіроўка: глядзі, каралева аўтобуса, з кім маеш справу.

Тамара гучна, каб чулі і іншыя, папярэдзіла вадзіцеля Сашу:

– Пакуль вунь той тып абпісаны не выйдзе – не кранайся і з месца. Вучыць трэба некаторых. Вучыць! Хопіць дармаедаў! Развялося!

Саша паслухаўся, а настырны пасажыр і брывом не павёў – нават, калі на яго зашыкалі. Што здзівіла Клаўдзію Сцяпанаўну – зашыкалі жанчыны, зашыпелі, бы гусі, а з мужчын хоць бы хто голас падаў. Бы нічога не бачылі і не чулі яны. «Эх вы, абаронцы нашы, заступнічкі!» – ледзь не вырвалася ў стажоркі.

Аўтобус ўсё ж крануўся з месца – перамог той нахабнік. На наступным прыпынку ён, бліснуўшы ў бок Тамары зняважлівым і пераможным позіркам, вылузнуўся з аўтобуса сам – прыехаў, мусіць.

Яшчэ заўважыла, што да рыжай Тамары тады-сяды заляцаюцца хлопцы і нават падвыпіўныя мужчыны, адкрыта прызначаюць спатканні. «У колькі заканчваеш? Дзе жывеш? О, дык мы амаль суседзі! А муж раўнівы? Ці пярсцёнак так, для прыліку? Магу сустрэць...» Ну, гэта знаёма: усе яны, грам глытнуўшы, вяжуцца да жанчын. Смельчакі. А праспяцца, і куды тое падзенецца. Астываюць так, як і запальваюцца – быццам дах з бляхі за ноч.

Праехалі якраз дом, у якім і жыве пакуль што Клаўдзія Сцяпанаўна з мужам Віктарам і ўнукам Максімам. Дачка засталася ў Душанбэ, яна замужам за маёрам-пагранічнікам, і ў іх усе заезды-пераезды залежаць не ад саміх: служба. Прытуліў жа, дзякуй яму, малодшы брат Сцяпан, а больш цёплых слоў трэба сказаць ягонай жонцы, Вользе. Іншая б так і паслухалася мужа, а яна сустрэла перасяленцаў-сваякоў хоць і не з распрасцёртымі насустрач ім, як да сонца, рукамі, але прыветна, цёпла: «Жывіце ў нас, як-небудзь размесціся. У цеснаце не ў крыўдзе. Мы ж свае». Сцяпан дапамог

швагеру з працай, Максім ходзіць у трэці клас, а яна, Клаўдзія Сцяпанаўна, пакуль вось толькі стажорка. У школах да лета, кажуць, вакансій не чакаецца, а ці і будуць яны ўвогуле – таксама яшчэ невядома: выкладчыкаў рускай філалогіі хапае быццам. Ну хапае дык і хапае. Калі па праўдзе, дык і стамілася жанчына ад школы, хацелася ёй нечага іншага...

Неяк муж, калі яны сядзелі у братавай кухні адны і абедалі, заікнуўся:

– А можа, у вёску куды махнём? Там якую хату купім.Яны зусім, кажуць, танныя. Ды і бясплатна шмат дзе даюць – жывіце толькі, працуйце. Рукі ж у мяне быццам ёсць. Ды і табе з працай лягчэй будзе...

У вёску пераехаць? Лёгка сказаць, проста. Калі б раней, то іншая справа,але ж цяпер, пражыўшы, лічы, усё жыццё ў горадзе, ці ж не авантурны крок будзе з іхняга боку? Гэта добра глядзець пра вёску па тэлевізары... Куры, парсючкі, каровы, катэджы, шчаслівыя твары ў людзей... Прыгожа. А ў жыцці ўсё не так, усё значна складаней. Трэба, і Клаўдзія Сцяпанаўна разумее гэта, круціцца там, як той вавёрцы ў коле. Не дасыпаць, натруджваць штодня цела, а ці ж з яе здароўем? Не, не, вёска не той варыянт. Позна! Каб жа раней... Але раней ім добра было і ў хлебным, хоць і душным, спякотным Душанбэ. Пакуль не пачалася страляніна на вуліцы, перад самымі вокнамі. Гэта – страшна. Гэта – жудасна. Ды і паміраць яна, калі шчыра, збіралася ўсё ж дома, не там, на чужыне... Як успамінала, што назаўсёды ляжа ў гэты гарачы пясок – рабілася не па сабе... Стрэлы тыя – яшчэ не ўсё, дарэчы. Той-сёй з зацікаўленых мясцовых абарыгенаў стараўся запалохаць прыезджых Нурэкскай ГЭС – калі яе падарваць, то яна змые Душанбэ з твару зямлі, такі паток вады шугане, што – о-ё-ёй! Праўда ў гэтым, мусіць, ёсць. Але ж дадумацца да такога!

Першыя дні, што яна правяла ў гэтым прыгожым, утульным і ціхім горадзе на беразе маляўнічага Сожа, падаліся жанчыне раем. Не страляюць. Няма той спапяляючай спёкі, у гарадскіх ларках шмат гародніны, асабліва танная бульбы, а гэта тым, хто жыў у Сярэдняй Азіі, адразу кідаецца ў вочы. Бульба-бульбачка!.. Яна і там ёсць, прывозяць, але тут яе – проста шмат, і надта ж танная.

Неўзабаве аўтобус завяршыў пасля перазменкі першы круг. Тамара падсела да стажоркі.

– Не заснулі? – пацікавілася яна і глыбока пазяхнула. – Фу-у, спаць хочацца. І ноччу быццам нічога такога не рабіла...

– Не, не заснула,– проста адказала Клаўдзія Сцяпанаўна. – Не было калі …

– Тут і сапраўды не заснеш. Хоць к канцу змены ног не адчуваеш – дзе стаяў, здаецца, там і плюхнуўся б. Я ўжо мужа і не падпускаю да сябе у такія дні. Яны не менш крытычныя… Ён, блазнюк, злуецца, пытае, можа ты там з шафёрам шуры-муры круціш, таму сытая? Раўнуе, а калі раўнуе, то любіць. Хай. А што, Саша нічогі хлопец. Калі і здраджваць, то ўжо з такімі, як ён : каб прыемна было… – Тамара ўздыхнула, запунсавелася, мляўка пацягнулася і, падалося, спалохалася сваёй шчырасці, затуліла рот вузенькай далонькай і крадком глянула ў той бок, дзе корпаўся ў кабіне вадзіцель Саша. – Яшчэ пачуе!..

«Шчаслівая»,– чамусьці падумалася пра Тамару Клаўдзіі Сцяпанаўне.

Тамара ж паспела яшчэ шапнуць на самае вуха Клаўдзіі Сцяпанаўне:

– У нас тут усё па парах разбіта. Толькі квазімоды ды старухі не ў хаду… Ага. Хочаш таго ці не, а гэта стала ўжо нейкай завядзёнкай… Хто дзе прыспасобіцца… А я баюся… у Толіка майго рука моцная… А?

І яна націснула на кнопку-гузік: падала знак, каб аўтобус кранаўся. Клаўдзіі Сцяпанаўне ж падумалася: « Навошта, дзівачка, яна мне пра ўсё гэта расказвае? З чаго б? Хіба, можа, думае, што калі жыла я сярод таджыкаў, то дазваляла сабе вольнасць? Адкуль у іх такое?.. Хутчэй – наадварот: там, у далёкай далечы, яшчэ больш цэніш свайго мужыка, беражэш сваю сям’ю, бо там мы – госці, а ў гасцях трэба заўсёды паводзіць сябе прыстойна. Хоць за ўсіх жанчын не скажу… Ёсць, ёсць… Але ж дзе іх няма? Там, мусіць, дзе і зусім людзі не жывуць… Ну, Тамара!..»

Аўтобус сунуўся па маршруце даволі марудна – час «пік», таму людзей набівалася на кожным прыпынку процьма, столькі выбіралася на волю. Штурханіна. Абразы. Енкі- крыкі. Толькі адна жанчына пасмяшыла крыху люд, унесла нейкае ажыўленне. Калі яе заціснулі адразу ж на прыступках, бы абцугамі, яна весела загаманіла:

– Што ж вы робіце, людцы добрыя?! Сапсуеце ўсю маю хвігуру, тады зусім мяне дзед мой любіць не будзе. Пашкадуйце. Ці чуеш, Коля? Паглядзі, паглядзі, што яны з твай бабай робяць? Каб абняў, я маўчала б… Коля!.. Камечаць, як і ты мяне ў маладыя гады! Во даюць, во топчуць, неслухі! Ты, Коля, дзе там? Жывы хоць, га?

Пасажыры, што стаялі бліжэй да жанчыны, пачалі аглядаць яе… і шчыра ўсміхаліся: табе, цётка, ужо ўсё роўна, якую мець постаць і

Коля твой нікуды не падзенецца, калі не маладзейшы. А Коля ўсё ж азваўся:

– Тут я. Тут...

Хоць і давялося яму крышачку пачырванець – за ўсё сваё доўгае жыццё з гэтай кабетай так і не прывык ён, падалося людзям, да яе жартаў. А яна малайчына! З такой жонкай, па ўсяму адчуваецца, не прападзеш, хоць і гора іншы раз цяпнуць можна. Ці не так? Лепш пра гэта папытаць бы ў самога Колі...

Тамара ж выбівалася з апошніх сіл, але, арудуючы локцямі і тоўстым, шырокім сваім задам, неяк прадзіралася праз джунглі пасажыраў, толькі больш дарэмна: ніхто амаль не стараўся сплочваць за праезд. Тут, праўду кажучы, і не дабрацца да кішэняў і барсетак: заціснуты людзі з усіх бакоў, паралізаваны. А той-сёй і рады быў такому, своечасова ацаніўшы сітуацыю: гэта ж трэба быць кантралёрам вялікімі дурнямі, каб лезці ў такое пекла. Таму моўчкі пасопвалі, назіраючы за ўсім, што тварылася ў аўтобусе.

Клаўдзія Сцяпанаўна пашкадавала Тамару: як яна там, гаротніца? Ад гэтых думак пазбавіла яе адна крыклівая бабулька, якой нехта з мужчын наступіў на нагу. Узняўся вэрхал. Дасталося беднаму мужчыне – не дай гасподзь. Пра сябе ён даведаўся шмат таго, чаго раней, пэўна ж, і не чуў. Клаўдзію Сцяпанаўну гэтая сцэнка кранула больш за іншыя, а іх за час стажыроўкі было зашмат, пра ўсе і не ўспомніш. «У тым жа Душанбэ жанчыны на мужчыну такіх памыяў ніколі не ліnуць. Ніколі. Сцерпяць. Там мужчына – гаспадар. Усюды: і дома, і на вуліцы. Там ён у пашане. Тыдзень будзе дзесьці блукаць, як сакавіцкі кот, і жонка папракнуць яго не зможа. А калі гасцей- мужчын прыводзіць гаспадар у свой дом, жонка моўчкі прыгатуе выпіць і закусіць, і адразу ж знікне, больш яе ніхто не ўбачыць... Гэта мы, славянкі, сядзім перад мужчынамі, у рот ім глядзім, дужа разумнымі прыкідваемся. Там – не так. А дзе лепш, дзе горш – паспрабуй разбярыся ў гэтым ідыёцкім жыцці». Яна прыгадала таго патлатага хлопца, які не пажадаў сплочваць за праезд, як на яго шыкалі адны жанчыны, і крыху суцешыла сябе: «Хоць якія ж у нас тут мужчыны? Можа, яны таго і заслугоўваюць?..»

Горад расквецілі агні. Неяк неўпрыкмет звечарэла, паменела пасажыраў у аўтобусе, і Тамара, выкраіўшы вольную хвіліну, падсядала раз-пораз да стажоркі, паказвала ёй, як рабіць гэта, як – тое... Клаўдзія Сцяпанаўна ківала, дзякавала.

– З першай палучкі з вас прачытаецца,– не тое каб сур'ёзна, не тое жартам сказала Тамара і паспяшалася абялечваць чарговага пасажыра.

Клаўдзіі Сцяпанаўне захацелася чамусьці хутчэй трапіць у братаву кватэру, залезці ў ванную і змыць увесь той бруд, якога, адчувала, багата наліпла- начаплялася на яе сёння на гэтай вось першай і, мусіць, апошняй стажыроўцы.

Трэба падумаць, як жыць далей. Наперадзе было яшчэ багату часу – вечар, ноч...

## ПРА ГАННІНА ЖЫЦЦЁ І МАЎЗАЛЕЙ

Цётка Ганна жанчына была прыгожая. Высокая, з доўгай чорнай касой, твар смуглявы, быццам увесь час на ім трымаўся загар, і стройная была, рухавая. І вельмі ўжо не слова вострая. Іншы раз так апярэжа каго слоўкам, што хоць скрозь зямлю ад сораму. А яна адно пасміхаецца: што, шалапут, праўда вочы рэжа?.. Мужык, кажуць, таму і драпануў ад яе, праз слова гэтае. Даўно было, у твар нават не помняць людзі таго першага і апошняга Ганнінага мужыка. Дзеці засталіся ад яго, адна іх падымала. А пасля вайны цяжка, клопатна было. А ў вайну хіба мала набедавалася? Сэрца вышэй пятак не падымалася. Як рак пад корч, хаваліся ў той бліндаж, дрыжэлі-трымцелі там, бо наверсе і кулі лёталі-свісцелі, і снарады разрываліся як не на самым агародзе, і з неба кідалі на пасёлак бомбы. Выжыла неяк. І сама, і дзеці. А што толку? Ганна не раз думала роспачна, як жыццё сваё перагортвала, узважвала, быццам на далоні трымаючы: ну і скажыце вы, людцы, якая карысць мне ад сваіх дзяцей, каб ім затлуміла?.. Няма чаго добрага ўспомніць. Пустое месца. Дачка яшчэ так-сяк, а што пра сына казаць? Чужы чалавек, бывае, лепшы стрэнецца, чым свая крывінка... Ганна ўмоўчвала багата чаго пра Кольку, не прызнавалася людзям, што ён вырабляў. Аднаго разу, праўда, у доме для састарэлых, незадоўга да смерці, паскардзілася бабулькам, такім жа бядотным, як і сама, што кавалка хлеба шкадаваў. Прап'е грошы, есці няма чаго, адно паўбохана хлеба ляжыць на стале. Звычайна чэрствага, бо калі п'е, то есць мала. А п'е кожны дзень. Ганна не краналася, Божа барані, таго хлеба: кармілася асобна, так сын пастанавіў. Асобна дык асобна, невядома, каму горш. Але, выходзячы з хаты апахмяляцца, злы на матку, што грошай не прыберагла палячыць яму галаву, Колька паказваў на той хлеб і шыпеў: «Каб да хлеба, б... старая, і пальцам не бралася, к-курва! Мой!»

А як памерла яна, то людзі пахавалі. Колька не прасыхаў, нават на могілкі не раскатурхалі яго. Цяпер во зарос грудок бадыллём, ні помніка на ім, ні надпісу ніякага на пачарнелым ад дажджоў і вятроў драўляным крыжы. Дачка няблізка жыве, недзе ў Сярэдняй Азіі, пад Ташкентам ці што, і прыехаць ёй на радаўніцу не выпадае цяпер. Яна і раней не рвалася да маткі, а сёння хоць і захочаш, не прыедзеш – грошай вялікіх каштуе паездка, а яна не мільянерка, па ўсяму відаць. А Колька зусім апусціўся, на чалавека мала падобны, патлаты, нямыты, смярдзіць ад яго гэтак, што не падыходзь. Раней дзевак з сінякамі пад вачыма – і дзе толькі ён іх адкопваў, у якіх краях? –

вадзіў да сябе ў хату, а цяпер булькае толькі з мужыкамі – такімі, як і сам мурзамі. А разумным жа чалавекам быў, у школе вучыўся добра, нават паступіў быў у інстытут, хоць там ужо не затрымаўся доўга: на бульбе напіўся і пакалашмаціў выкладчыка, які зрабіў заўвагу, каб не мацюкаўся. Скончылася выключэннем. Ну, а потым пайшло-паехала... Кажуць, быццам нават да маткі чапляўся: «Давай, к-курва, кладзіся... спаць будзем!»

Ганна і ўцякла тады ў дом для састарэлых. Пенсія ў яе па тым часе была добрая, узялі і не пыталіся асабліва, што ды як...

Вось, бадай, і ўсё, што я ведаў пра цётку Ганну. Асобная ж старонка ў яе жыцці – гэта паездка ў Маскву і наведванне маўзалея. Пра гэта ўвесь пасёлак ведае, нават тыя, хто ніводнага разу не бачыў цётку Ганну. Кажуць, бывае: «Адна ў нас у маўзалей хадзіла... Паслухайце – абхахочацеся, г-гы!»

А я сам чуў, як расказвала Ганна і пра Маскву, і пра маўзалей. Не мне – старэйшым людзям, а я, смаркач, прыладкаваўся побач і слухаў. Як цяпер бачу цётку Ганну і як цяпер чую яе крыху грубаваты, падобны на мужчынскі, голас. Было гэта ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў. Рабіла тады Ганна на ферме даяркай, і добра, мабыць, рабіла, калі яе партрэты часта скакалі з газеты ў газету. За добрую працу і ўзнагародзілі цётку Ганну паездкай у Маскву. З раёна тады набілася ў грузавік перадавікоў багата. На сене ехалі – мякка. Гэта пазней аўтобусы ў модзе сталі, тады – не, тады было так. Цар-гармату і цар-звон паглядзела яна разам з усімі, у музей рэвалюцыі схадзіла, выступіў перад імі стары бальшавік, які хваліўся, што бачыў Леніна. Па крамах пашасталі. Трэба ж было – заказаў набрала Ганна ў суседзяў і знаёмых, што рук не хопіць, каб усё панесці. Добра яшчэ, што ў школе, дзе начавалі, мужчыны па чарзе сцераглі транты, што паміж экскурсіямі паспявалі купляць жанчыны. Мужчыны, хоць перадавікі, больш пілі і ў карты гулялі.

Чаргу ў маўзалей занялі раненька – нехта падказаў так зрабіць, а то можна не трапіць да Уладзіміра Ільіча. Натапталіся ў сквярыку, пакуль не адчынілі маўзалей. Але нічога – і людзей паглядзелі-паслухалі, і марожанага наеліся. Пакуль стаялі, Ганна паспела ў ЦУМ адскочыць з нейкай кабетай. Прыбегла задаволеная, з вялікім пакункам, шчаслівая ўсміхалася.

А чарга ледзьве рухалася, хоць і не стаяла на месцы: людзі ідуць, ідуць...

Перад самым маўзалеем Ганну надзядзіў увагай міліцыянер, паглядзеў на яе патрабавальна і строга, што прымусіла жанчыну

ўспомніць пра клунак, куды яна ўпакавала колькі часу назад пакупкі, і яна схавала клунак за спіну.

– Жанчына, – не дужа строга, але гучна і афіцыйна сказаў міліцыянер. – З рэчамі нельга хадзіць у маўзалей.

– А што ж? А куды ж?.. – зачырванелася Ганна, затапталася на месцы, зіркаючы на землякоў. – Столькі ж прастаяла – і нельга? Што вы гэта гаворце? Што маім рэчам там зробіцца, у маўзалеіі?

Міліцыянер усміхнуўся, борздзенька падышоў да Ганны.

– З вашымі рэчамі, можа, нічога і не зробіцца, я не ведаю, – залыпаў ён вачыма. – Я за іх не адказваю. А ў маўзалей нельга. У камеру здаць належыць. Чытаць трэба...

– І праўда ж! А я і забылася. Даруйце, таварыш участковы, – сустрэлася вачмі з міліцыянерам Ганна. Яна сцяміла, што з ім размаўляць трэба больш далікатна, тактоўна, паспрабавала нават усміхнуцца. – Больш не буду. Яй-бо, не буду. Каб я праваліся, дзе стаю!

– Тут, цётка, не трэба, – задаволена рагатнуў міліцыянер. – Тут святое месца – Красная плошча.

– Цьфу ты, я і забылася! – асцярожна паплявала Ганна.

– Менш размоў, цётка! Ты не ў калгасе! Выйдзі з чаргі з рэчамі. – Паспяшаўся на выручку калегу яшчэ адзін міліцыянер, вырас перад Ганнай.

Ганна замітусілася, разгублена заміргала вачамі, шукаючы падтрымкі ў землякоў, аднак яны маўчалі, бы вады набралі ў рот, а той дзядзька з райкома, што быў за старшага, скасіўшы вочы на грознага міліцыянера, спалохана шапнуў ёй, бы спадцішка ўшчыкнуў: «Рабіце, што гавораць...»

– Не, я таксама ў маўзалей хачу!– выпяла грудзі Ганна перад райкомаўскім начальнікам, ссунула бровы. – Я што – пабягу камеру тую шукаць? Хай яна гарам гарыць! Мужыкі, адвярніцеся! Адвярніцеся, кажу, мужыкі! Бабы, захініце мяне ад іх, ненажэрных! Во, во так. – І яна, нібы блазнуючы, загаварыла паўшэптам да жанчын. – На ўвесь пасёлак калі ж трусоў накупляла, каб яны задубелі, трусы тыя. Во, во, я зараз іх усе, трусы, на сябе надзену. Ці налезуць толькі? Павінны. І не будзе рэчаў. Хоць раз у жыцці мінісцерскім азадкам патрасу. Што пад спадніцай, то ўсё маё. А то, бач ты іх, у маўзалей не пускаюць. Можна падумаць, што трусы там узарвуць маўзалей. За кім, можа, і трэба вока, толькі не за Ганнай. Ну, жанкі, дзе там міліцыянер? Расступіцеся, бабы! Усё, галубчык, няма рэчаў! Здала, здала ў камеру. Ага! Дык што, можна праходзіць?

Міліцыянер усё, вядома ж, бачыў, таму адно ўсміхнуўся і нічога не сказаў.

Вось так, Ганна, шырока, крыху як бы раскірэчыўшыся, і зайшла ў маўзалей, паглядзела на Леніна. Потым у той маскоўскай школе ледзьве не на самай ускраіне яна дужа доўга распраналася, сапла, крэхкала, а трусы складвала акуратна ў стосік і жартавала:

– Пакамечыліся, як усё роўна паўгода насіла, але ацікеткі не пазрываліся. Добрыя ацікеткі. А то паспрабуй дакажы сваім бабам, што новыя трусы купляла. Скажуць, на сметніку дзе падгрэбла.

– Ты, дзеўка, павінна ўзяць са сваіх баб удвая, а то і ўтрая за трусы даражэй, – ці то сур’ёзна, ці то жартам сказала даярка з суседняй вёскі. – Не здагадваешся, чаму?

– Не, яй-бо не! – шчыра прызналася Ганна.

– Таму даражэй, што яны ў маўзалеі пабывалі!

– Ай, во, праўдацькі!– успляснула рукамі Ганна, а потым схамянулася. –Цішэй, цішэй, бабы. Рукавадзіцель наш ідзе. Хавайце трусы.

... Калі Ганна памірала, у той час пра Леніна гаварылі толькі добрыя словы. А, можа, каб жыла цётка цяпер, то і яна б расказала усё крышачку інакш... Пэўна ж бы інакш...

## КВАТЭРА Ў ОМСКУ

Канаўшчык неспадзявана спатыкнуўся перад самым парогам, тыцнуўся ўсім тварам у некрануты ўчарашні снег – наваліла яго, як ніколі ў снежні, багата – і адчуў, як ён, снег, палагаднеў, выкрапіўся цёплай расой на носе, ілбе, шчоках. Канаўшчык стаяў пэўны час на каленях і руках, раскірэчыўшыся і баючыся варухнуцца, а тады адчуў, як ногі самі, не падпарадкоўваючыся яму, раз'ехаліся, бы перапілаваныя на дзве часткі – пасяродку ўздоўж – санкі, слізгануўшы палазамі. «Паміраю хіба? Я ж... я ж яшчэ і не жыў! Не жыў! Мяне ж чакае кватэра ў Омску-у-у-у!» На гэты шалёны крык прыбег шчуплы і сухарэбры – з напёрстак – сусед Цімка, аднагодак, мусібыць, Канаўшчыка ( такую мянушку далі Віктару, бо доўгі час даглядаў канавы, што на тэрыторыі калгаса),зацягнуў яго, сапучы і чамусьці мацюкаючы мясцовую ўладу, у халодную хату, так-сяк зняў верхнюю апранашку, узвалок непаслухмянае цела на ложак,прыхінуў коўдрай.

– Не памёр, бо дыхаеш,– аблізаў губы Цімка і выцер узмакрэлы лоб. – Зараз я цябе сагрэю. Пляшку гарэлкі прынясу. Папрашу ў людзей. Скажу, чалавек памірае... Канаўшчык, скажу, калі не дасцё, вам сніцца доўга будзе... на тваё выратаванне ахвяруюць, куды яны, гады, дзенуцца. Ці спярша грубку распаліць? Маўчыш. Распалю спярша. Чуеш мяне? М-да-а!..

Канаўшчык не зрэагаваў на роспыты Цімкі, і той, уздыхнуўшы, натапырыўся і патупаў на дрывотню. Вярнуўся з бярэмем дроў. Неўзабаве ў грубе загуло, і з дзірачак, што там-сям прадзьмуліся сярод цаглін, выпырхнулі вясёлыя зайчыкі, якім было крыху дзікавата ў гэтай вялікай, як гумно, хаце.

– Чуеш мяне, Віктар?– зноў павярнуўся да нерухомага Канаўшчыка Цімка і адразу засумаваў. – Не чуеш, бачу. Дажыўся, бедалага. Дакаціўся. Хай я... п'янтос... а ты ж быў нармальным чалавекам. – Ён раптам спалохаўся, пачуўшы ў стылай хаце свае словы, папраўіўся. – І ёсць! Чаму... чаму быў? І ёсць! Ты будзеш жыць, Віцька-а! Я гавару! Ці табе мала гэтага? Будзеш!

З гэтымі словамі Цімка выскачыў на вуліцу, адразу ж пашыбаваў да Машкі, якая прадае самагон, забарабаніў зморшчаным, што леташні цукровы бурак, кулаком у браму. – Дрыхнеш, а Канава памірае! Адчыняй! Адчыняй, загадваю! Не для сябе буду прасіць! Для Канаўшчыка! Калі ж памірае!..

Машка, худая, з чорнымі злымі вачыма, бразгнула зашчапкай, пацягнула на сябе дзверы:

– Хто... хто памірае?

– Канаўшчык. «Хто-хто?» Не верыш – правер! Яму нутро працерці трэба. А то хана!.. Можа, з раніцы ляжаў на двары. Кішкі, можа, к гарбу прымерзлі? Га? Не дасі – і я тады скажу, што ты яго загнала на той свет! Ты! Твая сквапнасць.

– Дык я ж яго толькі бачыла... – не паверыла пачутаму Машка.

– Чалавек заўсёды так: спярша яго нехта бчыць, а тады і няма... і складай некралог у газету. Хы? Ты думаеш спасаць Канаўшчыка, ці не, мымра-а?

– Бягу, бягу, бягу!– Машка замітусілася і знікла ў сенцах.

А Цімка зноў аблізаў засмяглыя губы, вылаяўся:

– Маць тваю!.. Не давярае. Не давярае, каза крываногая. Яе не абдурыш. Пабег, пабег далей шукаць... Павінен жа нехта клюнуць.

Але ніхто не клюнуў. Цімку добра ведалі. І калі ён вярнуўся да Канаўшчыка, таго ўжо катурхала Машка, а заадно касцярыла і яго, Цімку.

– На бядзе і тое чарку хочаш мець, ірад,– кідала яна раз-пораз позірк на таго.—Якое нутро? Каму? А я і не падумала спярша, прыхапіла бутэльку. Ці ён жа выпівоха, Канаўшчык? Кепска стала? Можа, сэрца, а можа, і яшчэ якая трасца... А ён на чужой бядзе разбагацець захацеў. Цьфу!

– Ой! Ой! Прыкра слухаць. З цябе выціснеш кроплю тую. Смалы палучыш. Маўчала б!

– Хопіць нам, бабам, рот затыкаць.

– Калі хто і нажыўся, дык на Чарнобылі! – выпяў наперад грудзі Цімка.

– Багата ты ведаеш!

– Людзі гаварылі... А я б, можа, калі за здароўе Канаўшчыка шлёпнуў паўлітэрку, то яму, глядзіш, і лепей стала б... і крызіс мінаваў бы. Га?

– Табе не дам! – сказала Машка белазубым і запэцканым сажай ротам. – Званіць трэба!..

– У комін? – без патрэбы спытаў Цімка.

– Збегай у Іскань. Там ціліхвон. Пазвані.

– Збегай. Маладога знайшла...

– На, гад, пляшку гарэлкі! На! – І жанчына варсанула ў рукі Цімку жаданае пітво. – Бяжы і пі, пі і бяжы, каб ты здох! Толькі ў Віцькаву канаву не зваліся. А то капаць няма каму ямку. Адны бабы.

Цімка ўсміхаўся, гладзіў бутэльку:

– Зваліцца – не звалюся. Ты скупая на градус. І, увогуле, я не таму ўзяў твой самагон, што нешта табе рабіць буду… а каб хапіла сілы і ліхасці дабегчы да той Іскані. Каравуль Канаўшчыка. Я пабег, – ён задраў бутэльку, глытнуў кроплю, а потым схаваў самагон у кішэню аблезлага кажушка. –Глядзі ж, каб не памёр тут.

– Бяжы ўжо, шугалей!– махнула рукой на Цімку Машка.

– Ды дроў у грубку падкінь. Там павінна гарэць.

– Гарыць, як у цябе ў штанах,– хмыкнула Машка.

– Гаручае ёсць, то не хвалюйся,– сказаў Цімка і знік.

Машка раздзьмула вугельчыкі ў грубе, тыя лянiва заняліся сінім полымем. Села на зэдлік. Цікаў гадзіннік, што вісеў на сцяне, гіра звісла ледзь не да самай падлогі. Яна ўстала, падцягнула гіру, і ў гэты момант Канаўшчык расплюшчыў вочы і прашаптаў сухімі губамі:

– Напішыце… брату Хведару… што не прыеду ў Омск… Хай кватэру для мяне не трымае… Мане кватэра чакае ў канцы гарода…

– Нешта ты, Віцька? – затрымала на Канаўшчыку погляд Машка, суцешыла. – Рана табе думаць пра пагост, рана… Жыць трэба… жыць…

– Гэта ты, Машка?

– Я, я, Дзмітрыевіч. Якраз табе вадзічкі падам. Зараз. – Жанчына зачэрпнула карцом у вядры, падала Канаўшчыку, той прыўзняў галаву, піў з Машкіных рук.

– Дзякуй,– сказаў і апусціў галаву на ранейшае месца . – Пасядзі каля мяне. Пагавары. Вечар ужо?

– Вечар.

– Нічога не помню… як праваліўся куды. І мог бы назаўсёды праваліцца –вось табе і смерць. А іншы раз думаеш, што яна з сябе ўяўляе? Усё проста. Надта.

– Цімка пабег званіць у раён: «хуткую» выклікаць,– стоячы перад Канаўшчыкам, заківала галавой Машка. – Прыедуць, то, можа, які ўкол зробяць. Калі шпрыц не забудуць. Цяжка, мабыць?

– Не магу зразумець… Быццам хто абхапіў мяне, як бочку абручом, і давіць. А ўнутры, здаецца, пяску набілася…

– Сэрца, у майго так было,– Машка падкінула дроў у грубу. – І жыве. І ты будзеш жыць.

– Пражывеш столькі, колькі Бог дасць.

– Цябе Бог не павінен пакрыўдзіць. Сумленна жывеш. Нават вельмі ўжо, мог бы і пра сябе больш падумаць…

– Так атрымалася…

Машка пагадзілася:

– Як ужо атрымалася, так і добра.

Яна села на зэдлік, уздыхнула. Потым доўга глядзела на Канаўшчыка, і на вочы нагарнуліся слёзы. Машка засаромелася іх, крадком змахнула пальцамі, узнялася з зэдліка, ціха прашаптала:

– Я пайду. Хату ж кінула... карміць трэба... а тады зазірну... у грубу дроў яшчэ падкіну. Паляжы... табе пакой трэба... цішыня...

Канаўшчык нічога не адказаў. Ён чуў, як рыпнулі дзверы, як за імі аціхлі крокі жанчыны. Заплюшчыў вочы... Божа! Божа! Не так, не так хацелася дажыць свой век. Зусім не так. Але што паробіш цяпер? Позна нешта памяняць – асабліва тое, што залежыць зусім не ад цябе самога.

Канаўшчык заплакаў. Слёзы, салёныя і цёплыя, плылі па шчоках. Заплачаш: адзін застаўся. Ні жонкі, ні дзяцей, ні... брата. Так-так, і брата, лічы, няма. Ну што ён там, Хведар, у тым Омску, у якім Канаўшчык ніводнага разу нават не бываў? Адрэзаны кавалак. Страчаны. Не прыязджаў нават, калі памерлі матка і сястра Роза, адбіваў, праўда, кароткія тэлеграмы : не магу, вучэнні... А вучэнні ў яго там ці што – адзін ён, Хведар, і ведаў. Апошні раз бачыліся год дваццаць назад, калі паралізавала матку, тады яны ў Лосеўку прыехалі абодва – па тэлеграме-выкліку сястры, яна з ёй жыла. Віктар яшчэ не быў канаўшчыкам, ён рабіў у Магілёве на «Строммашыне», меў добрую кватэру, прыгожую жонку і гадавалую дачку. А потым – трэба ж такому няшчасцю здарыцца – не стала хадзіць і Роза. Што рабіць? Як жыць далей? Хведар напісаў: паколькі чалавек ён вайсковы, то пра вяртанне ў вёску не можа быць і размовы. Давай, маўляў, ты, Віктар, бярыся... жывеш жа побач, а я ў даўгу не застануся. Ён і звольніўся. Раз у тыдзень наязджаў да сям'і ў Магілёў, прыязджала тады-сяды да яго і жонка. А потым ён не паехаў, яна не прыехала... Была сям'я, адным словам. Даўно. Дачка, праўда, не забывалася на бацьку. Гэта пазней Канаўшчык зразумеў, чаму прыязджала яна да яго: грошы патрэбны былі малечы, толькі яны. Быццам у знак кампенсацыі, што брат страціў усё, што меў у горадзе, Хведар зафрактаваў за ім кватэру ў Омску. Аднапакаёўку. А мо і схлусіў. Пісаў жа, пісаў, што чакае жытло... Канаўшчыку не было нават магчымасці з'ездзіць у той Омск і хоць адным вокам глянуць на кватэру, калі і праўда яна ёсць: хапіла клопату ў вёсцы, як толькі вытрымаў – аднаму Богу вядома.

І вось ён адзін. Сястра памерла сёлета, улетку, амаль пятнаццаць год праляжала ў ложку. Канаўшчык прыкметна здаў: пасівеў,

скурчыўся,і, некалі прыгожы хлопец, падобны на Алена Дэлона, зрабіўся непрыкметным дзедам.

... У сенцах пачуліся крокі, і неўзабаве ў хату ўварвалася воблака халоднага паветра. Гэта вярнулася Машка.

– Ну, як ты тут? – запыталася яна, адразу ж накіравалася да грубы. – Пагарэла ўсё. Сухія дровы. Як порах.

– Леташнія,– падаў голас Канаўшчык.

– Яно і відаць. К дровам бы ды брыкету.

– Няма. Усе грошы на пахароны патраціў...

– Мо з’еў бы чаго? Я паставіла вячэру гатавацца, то і табе прынясу. Мой у Магілёў паехаў да дочкі. Чакаю, павінен на ноч вярнуцца. Пасяджу каля цябе. Я бабам сказала, прыйдуць і яны... управяцца толькі.

– Не трэба было б клапаціцца,-- паправіў коўдру, якая краем спаўзла на падлогу, Канаўшчык. – Нарабіў я клопату.

– З кожным можа быць...

– Відаць, ужо не памру... буду жыць, відаць... А напалохаўся... Хлушу, аднак: не паспеў напалохацца. Жыць захацелася яшчэ больш... Жыць!

– А ў той Омск паедзеш?

– Не, позна... Раней каб...

– Я б паехала,– сумна сказала Машка. – Мне, колькі і жыву, у горад хочацца. Як есці галоднаму... А горад да мяне задам павярнуўся.

– Трэба было табе адразу пасля школы перадам да Мішкі не варочацца,– паўшэптам сказаў Канаўшчык і адразу зразумеў, што сказаў не тое, нязварта было б.

Аднак Машцы ягоныя словы спадабаліся, яна ўхапілася за іх, як тапелец за саломінку:

– А да каго мне было павярнуцца? Да каго? Прыспічыла, зачасалася, а нікога паблізу... адзін Мішка, лапсар. Вось я да яго і кінулася-рынулася. А каб ты быў, то я да цябе б... ахвотна б!

– Ты, Машка, проста чалавек добры... як свая... з табой бы я не змог... я тут пераборлівы... абы з кім не спасобны быў... – прамумкаў Канаўшчык.

У Машкі запаліліся шчокі:

– А што, добрых – не трэба? Толькі шваль розную? Дзе яна, твая добранькая, твая красавіца? Краля тая гарадская, з кіпцямі пафарбаванымі? Толькі нешта я сяджу тут, з якой ты б не змог, перад табой, а не яна? Га-а?

– Даруй, Маша.

– Усё прыгожых выбіраеце. А я б, Віця, з табой у Омск паехала б. Яй-бо.

Канаўшчык павярнуў галаву, сустрэўся вачмі з Машкай:

– Жартуеш?

– Я? Я што, не магу манікюр той чортаў зрабіць? Я...я...я... – і Канаўшчык бачыў, як жанчына ўтапіла твар у далонях, а плечы яе часта пачалі ўздрыгваць. – Даруй, Віця... Што гэта са мной? Зацьменне найшло... не ведаю, як атрымалася. Напляла абы- чаго.

– Паехалі, Машка. Паехалі ў Омск. Пажыла з Мішкам, пажыві са мной, калі хочаш. Жыць можна, відаць, з чалавекам, якога і не любіш?

– Хопіць, што я цябе люблю!– вырвалася ў Машкі. – А дзе ты бачыў такое, каб са стараны двух бакоў любоў была роўная?

– А чаго ж ты раней мне не сказала нічога? Калі я здаровы быў, маладзейшы траха?

– Не асмельвалася, дурніца!

– А мне якраз жанчына і трэба была... глаўней, чым тая кватэра ў Омску.

Машка прытулілася да Канаўшчыка, пагладзіла яго белы, як снег, чуб, чмокнула ў шчаку.

У дзверы нехта пачаў шкрэбсціся.

– Цімка,– сказаў Канаўшчык.

– Не пушчу!– Машка адвярнулася ад Канаўшчыка, накінула зашчапку на дзверы. – Нікога не пушчу! Я б, Віцька, у Омск не паехала... Гэта я так сказала... дужа далёка ён, той горад... Дужа чужы ён... Дровы дагараць, яшчэ падкіну... – і вось ён, твой Омск, дурніца ты старая! Гэта я пра сябе так сказала... Бач, ажыў... Вочы прыгожыя ў цябе... блакітныя... а прапалі... патухлі... Я не толькі грубку, я і цябе, Канаўшчык ты мой, распалю... Былі б дровы... А Цімка шкрабецца, паразіт! Не пушчу-у!

Пазней Канаўшчык усё ж напісаў брату Хведару ў Омск: дачакаўся канца ўсіх, даняньчых старых і нямоглых, гатоў прыехаць на сталае месца жыхарства ў Омск. Напісаў проста так, ад няма чаго рабіць.

Брат не адказаў.

**СІНОПТЫК**

Калі і звяртаюцца іншы раз вяскоўцы да Ягора Цыбулькі, то заўсёды з адной просьбай – якое, стары, там у нас надвор'е на гарызонце? Што дзень заўтрашні рыхтуе? Не палянуйся – растлумач. Не, Ягор не глядзіць на неба, не прыстаўляе брыльком руку да лба, а пэўны час маўчыць – збіраецца, мусіць, з думкамі. Нетаропка пачне майстраваць самакрутку, натрамбуе ў ножку моцнага тытуню, глыбока і смачна зацягнецца, крэкне ад задавальнення.

– А што нас чакае? – паглядзіць на таго, хто цікавіцца. – Багата чаго чакае. Хочаш ведаць? І ты, гляджу, як усе... Ну-ну. Што з вамі зробіш? Абяцаў не займацца прагнозамі. А то, адчуваю, па шапцы дадуць... але слухай. Так і быць. Земляку не магу адмовіць. Толькі – ша! Па сакрэту скажу...

І пачне расказваць Ягор не пра тое, будзе заўтра снег ці дождж, навальніца або сонца, а разважаць пра жыццё, будзе ўгрызацца ў яго, як той шахцёр у пласт, і абавязкова пра палітыку сыпане: даваць прагнозы, дык даваць не шкадуючы! Хіба ж мала іх, тых прагнозаў, у ягонай галаве, на якой некалі былі густыя, як смоль валасы, а сёння надзейна – бы прыклеілася – сядзіць на лысай бліскучай пляцоўцы зашмальцаваная кепка-васьміклінка: у ёй выдаваў ён яшчэ, мабыць, прагноз, ці доўга пратрымаецца ў нас сухі закон. На той конт ён сказаў тады пераканаўча, цвёрда: «Доўга ў нас нічога не бывае». Прагноз спраўдзіўся, аўтарытэт Ягора падрос, яму надалі мянушку «Сіноптык». Замацавацца на гэтай пасадзе дапамог зноў жа Гарбачоў, бо надзіва дакладны прагноз выдаў ён і пра яго: «Гаворыць багата. Натаўчэ лішняга. Дужа блізка да людзей стаіць, ліпне ажно да іх, не трымае адлегласць. Кіраўніку так нельга. Людзі на галаву сядуць, дай толькі паслабленне». Як у ваду глядзеў Ягор. Не памыліўся, калі і ў нас выбіралі першага прэзідэнта: «... Бо я буду за яго галасаваць».

Прагаласаваў і ўгадаў. А гэта – зноў жа! – не абы- якія балы да ранейшых.

– Ты б, Ягор, за свае прагнозы надвор'я на жыццёвым фронце плату браў, – параіў неяк яму сусед Цімка. – Глядзіш, і мне б перапала нешта. На грамульку. Га?

На такую прапанову Ягор толькі зморшчыўся:

– Сам не п'ю і табе не раю. Сіноптык павінен весці цвярозы лад жыцця, а то наблытаю... Чаго не набрэшаш, глытнуўшы? Шмат хто, глытнуўшы, становіцца сіноптыкам. А праспіцца – і пшык... Вось так.

Цімку, ці яшчэ каму, нічога не заставалася, як падціснуць хвост і маўчаць.

На тым тыдні не пашанцавала сіноптыку – прастудзіўся. І дзе б, здавалася, той вірус умудрыўся падхапіць? На роўным месцы, можна сказаць, паслізнуўся. Сонечна, цёпла на вуліцы. А бач ты, падкралася хвароба, падсцерагла.

– Гэта цябе Бог пакараў, што брэшаш багата,– навастрылася на старога жонка, Лізавета.

Ягор маўчаў, толькі ўціснуў – да канца, колькі змог, – галаву ў тулава – не любіў ён слухаць абразу ад жонкі пра сябе, а схавацца ад яе не схаваешся, дастане сваёй лухтой і на тым свеце, яна такая.

А Лізавета сыпала, не шкадуючы слоў:

– Хто цябе, асёл стары, прасіў прагназіраваць пра нашага старшыню? А яго і прагналі. Цяпер ён дзьмецца: гэта ўсё дзед твой сваім языком намянціў... Адрэзаць бы язык. Вырваць. Не, кажа, калі граматны такі, калі б ён ужо і праўду ведаў пра мяне, дык прыйшоў бы і сказаў. Недалёка жыву. Ці ў кабінет. Я б, можа, падрыхтаваўся, паводзіў сябе больш асцярожна... агледзеўся б па баках. А то як колам па спіне. Знянацку. Сярод белага дня. На людным месцы. Га?

– Дык што, я да яго,старшыні, павінен быў перціся, ці што? – варухнуўся на табурэце Ягор. – Я? Мне трэба тое крэсла ці яму? За ўсімі не находзішся. Я і так стаптаўся. Іх такіх, хто сёння-заўтра паляціць з пасад і ў маштабе калгаса і ў маштабе дзяржавы, – ого колькі!

– Ты хоць дзяржаву не кратай, распуснік!

– У мяне што – «мерседэсы» тыя ёсць, каб за ўсімі імі шастаць, галаву задраўшы? Ці самалёт мне хто прэзентаваў? У мяне нават тэлефона няма. А быў бы...

– Дай яшчэ табе тэлефон! – аблізнула губы Лізавета. – Во табе!

Яна паказала Ягору тое, што, па яе думку, стары і заслужыў, – дулю.

Сярод дня Ягор, апрануўшы чыстую сарочку, патэпаў у бок фельчарска- акушэрскага пункта—рашыў паказацца Матузку: што, цікава, скажа той пра яго хваробу? Вучылі ж чалавека, то няхай і лечыць. Нечага. Мо прыпіша пілюлькі, а мо і сур'ёзнае што выявіць і накіруе тады далей —спярша ва ўчастковую, а там, магчыма, і ў раённую, абласную лячэбніцу.

Матузок быў у сваёй маленькай, але ўтульнай, чыста прыбранай ардынатарскай адзін. Сядзеў, насуплены, за сталом і крэмзаў нешта ручкай на паперы, раз-пораз папраўляў акуляры, якія не трымаюцца

за вушамі і слізгаюць, бы палазы санак па лёдзе, па ягоным аблупленым ад загару носе.

– Захварэў,– таптаўся ў парозе Ягор.

– Сядай,– не гледзячы на пацыента, паказаў вачмі на табурэт Матузок. –Пачакай трохі. Заняты. Заблытаўся ў лічбах. Гаварыла ж настаўніца, Вольга Кандратаўна: вучы, Матузок, арыфметыку, спатрэбіцца. Помні, Матузок: пакладзеш перад сабой, ззаду возьмеш. Не слухаўся. Дарэмна. – А потым, пераможна кінуўшы ручку перад сабой, падняў вочы на Ягора. – Ну, што ў цябе, дзядзька?

– Каб жа знаў.

– Трымай градуснік.

Потым, зноў пакорпаўшыся ў паперах, папрасіў градуснік назад. Паглядзеў, ссупіў бровы:

– Выпішу таблетак. Папі. Толькі спярша памажы і ты мне. Слухаеш?

– А што мне яшчэ рабіць, калі не цябе слухаць?

– Прагноз твой трэба, дзядзька,– Матузок паклаў руку на плячо хвораму. –Тэрміновы.

– Больш сіноптыкам не наймаюся, – ціха і з непрыхаваным сумам выдыхнуў Ягор. – Прабач.

Матузок насцярожыўся:

– Чаму ж так?

– Чаму,чаму? Цяпер усе людзі разумныя, могуць мазгамі паварушыць і самі. Навошта мне за ўсіх, браток, мікіціць? Навошта за ўсіх адказваць?

Фельчар павёў падбароддзем і пэўны час маўчаў. Думаў. А тады па-сяброўску мякка прыхінуў сваю галаву да галавы Ягора, шапнуў:

– А і праўда ! Маеш рацыю, дзядзька. Гэта так. Але! Але памыляешся ўсё ж у адным: усе мы не можам аднолькава думаць. Не атрымаецца. І калі вось мне думаць? Пра сябе, пра свой клопат? Галава забіта розным друзам…. Я думаю, дзе і якім чынам дастаць лекі… і для цябе, так-так… Як прывезці на ФАП на зіму паліва. У дырэктара школы хапае свайго думання… У старшыні сельсавета свайго…

– Дык… – меўся запярэчыць Ягор, але Матузок не даў яму ўставіць слова.

– Так што, дзядзька, не «дыкай», а рабі людзям прыемнае – працуй, працуй сіноптыкам. Калі атрымліваецца ў цябе. Калі вераць землякі…

– Дык хварэю,– усё ж уціснуўся ў гаворку Ягор.

– Вылечу, дзядзька!– павесялеў Матузок, заўсміхаўся. – Пастаўлю на ногі. Так і быць. Не будзеш хварэць. Абяцаю.

– Гэта калі, мусіць, правільны прагноз выдам, – лыпнуў вачамі Ягор,– то не буду хварэць. А памылюся,то занядужу – наказвае, відаць, Бог, як думаеш?

– А было хіба, каб які твой прагноз лопнуў, як мыльны пухір, не спраўдзіўся?

– Бытта не.

– Тады не хвалюйся і паслухай, што мне трэба дакладна ведаць, каб потым не памыліцца, каб раз і назаўсёды...

– Слухаю,– павесялеў і Ягор, бо і праўда ж, напляце абы-чаго Лізавета. – Слухаю, Павел.

Матузок жа, на здзіўленне старога, маўчаў. Ён нават адвярнуўся ад яго, глядзеў праз шыбу, вагаючыся на мысках красовак, на вуліцу, загарадзіўшы спіной амаль усё акно. Сіноптык напомніў пра сябе:

– К-хы... к-хы... Ага, значыць... Ну, дык што там у цябе, Павел? Жаніцца мо рашыў?

Нарэшце Матузок павярнуў да Ягора шчаслівы твар:

– А ты, дзядзька, як здагадаўся? Хаця ... правільна... так-так... Хто ж яшчэ здагадаецца, калі не ты?

– Гэты прагноз надта лёгкі – табе ж ужо, братка, гадоў багата. Пара. Пара, Павел.

– Было не было! Паспрабую сам разабрацца да канца...Праўда, а навошта ў самога галава? Кожны сам на сябе ў першую чаргу павінен спадзявацца. І толькі. Не атрымаецца, пачну вагацца, тады і папрашу цябе, дзядзька, на падмогу. Добра?

– Глядзі,– коратка адказаў Ягор, моцна сашчапіў у жмені таблеткі, якіх насыпаў яму фельчар. – Глядзі. Калі што – выручу. Як і ты вось мяне. Ага. Ну, бывай. – Ён памаўчаў, патаптаўся ў парозе, як і перад тым, калі ўвайшоў, а тады нясмела падняў усё ж вочы на фельчара. – Але... Ага, значыць... Было не было... Нядобра мне, Сіноптыку, пра гэта... не мужчынскае дзела быццам... Але ж трэба раз і назаўсёды... а людзі яны, Касмачонкі, нядобрыя... злыя... паскудныя, адным словам. Гэта пакуль ты не ўвайшоў у іхнюю хату, то ўсміхаюцца, паклоны адбіваюць табе... Я з чаго раблю свой прагноз? Перад гэтым з Касмачонкавай Танькай сын дачніка пабраўся... Мякка сталі, ох і мякка! А на другі дзень – вяселле ж у нас рабілі – гасцям з горада па сто грамаў раніцай не далі апахмяліцца... тыя вымушаны былі ў краму бегчы... Верыш? Няма, кажуць, усё папілі. І трэба ж такое прыдумаць? Хоць пароўну на вяселле

складваліся... А тады яшчэ Касмачонкі той гарэлкай агарод сеялі-капалі некалькі гадоў... Больш скажу: яны зяцёў сваіх зусім за людзей не лічаць... Абы выпіхнуць дзевак... Каб маглі па закону дзяцей прыносіць, а не ў прыполе... Таму ў іх усе зяці былі не нашыя – чужыя... Свае хлопцы не дурні – не бралі... Я табе, фельчар, прызнаюся, так і быць: гэта людзі нашы папрасілі сказаць табе пра Касмачонкаў... Угаварылі мяне. Уламалі. Маць іх!.. Гэта не мой прагноз. Шкадуюць цябе... Бо ты добры... А добрых шкада... Не хацеў я брацца за гэты брудны прагноз... нялёгка было мне... Верыш? Ледзь рашыўся... Калі не паслухаешся маіх землякоў, будзеш ты і п'яніцам, і гультаём, і яшчэ багата кім. Але будзеш. Прабач, калі што не так... А захочаш уцячы – не уцячэш: прыварожаць, гэта яны ўмеюць... Даруй за прагноз... Бо гэта быў бабскі прагноз... жаночага роду... на плётку падобны... Але ж папрасілі... пры выпадку... таму, відаць, і захварэў... як спецыяльна, каб з табой сустрэцца... Сказаў табе сёння... і больш прагнозаў даваць не буду. Ну іх! Няўдзячная гэта, гляджу, справа... Бы ў лужыну пляснуўся... у чым быў. Цьфу!.. Маць іх!..

Дахаты Ягор тупаў усё ж у добрым настроі. Быццам і галава ўжо не балела. Быццам і дыхалася лягчэй. Ён забыўся на таблеткі, што былі ў сашчэпленай жмені, а калі расслабіў яе, тыя слізганулі на зямлю – як не пад самыя ногі.

А фельчар так нічога і не сказаў Ягору. Толькі доўга глядзеў і глядзеў яму ўслед – нават калі ўжо не было відаць Сіноптыка на вясковай вуліцы.

**ЕДЗЕ СЕНА НА КАЛЁСАХ...**

З акна старому Андрэю добра бачыцца пляц брата Якава. Часта глядзіць ён на агарод, успамінае брата, і здаецца, што той вось-вось выйдзе з веснічак, высокі, хударлявы, крыху згорблены, і пачне штосьці перакладаць з месца на месца, перабіраць сухімі пальцамі галінкі дрэў, а то будзе доўга дзівіцца на неба, блакітнае і бясхмарнае, пакуль, мусіць, не заклякне шыя ці не прападзе з вачэй апошні клін журавоў...

Цяпер Якаў ужо не выходзіць на падворак. Даўно не выходзіць. Старэйшы ў сям'і, ён і пайшоў першы. Пайшоў цяжка, гаротна: знайшлі яго пад яблыняй ранічкай – паралюш разбіў правы бок. Сын Мішка з жонкай Зінай перанеслі яго ў хату, асцярожна паклалі на ложак, на якім і праляжаў Якаў больш як год. Людзі ўздыхалі, шкадуючы: «Добраму б чалавеку і памерці добра, лёгка. Але не даў Бог, не даў...»

Глядзіць і глядзіць Андрэй на братаў падворак. Сёння ходзіць там Мішка. Ён ростам крыху ніжэйшы за бацьку. І не такі памяркоўны, разважлівы, хоць тварам – выліты Якаў. Характар жа пераняў ад маткі, Пелагеі. Хвіліну назад стаяў тут – няма, усё бяжком ды бяжком. Дзе трэба і не трэба нос свой усуне. Але гаспадар не горшы за бацьку, да чаго рука можа дабрацца, – там поўны парадак, уходжана, дагледжана.

І ўсё ж Андрэй, колькі ні глядзіць на братаў падворак, бачыць на ім не Мішку, а – Якава. Асабліва ў апошнія дні, калі і сам пачынаў часцей і часцей падумваць, што трэба будзе, як ні адганяй думкі тыя трывожныя, некалі і яму... «Як не круці, а трэба памярці».І так Якава на пяць гадоў перажыў. За ім нарадзіўся ён, Андрэй. Матруна, Хведар, Прося – маладзейшыя. Не намнога, а ўсё ж. «Твая чарга, Андрэй... Ты – наступны... Рыхтуйся, Андрэй!» Ён сядзеў падоўгу перад акном, глядзеў – да слёз уваччу – на братаў падворак, і было горка яму, вельмі горка...

Іншы раз заходзіў сусед Панкрат, закурваў і казаў праз дым, пазіраючы крадком таксама на агарод, па якім хадзіў Мішка з віламі-варсачамі.

– Вэн ета, Андрэй, зусім зачах ты. Што лісце падсоўнуха. Трымайся, суседзе. Трымайся. Прывядзі ў хату маладзіцу, мо акрыяеш ля яе боку? Га? І акрыяеш, чаго ж. Ды і што гэта значыцца, калі адзін мужык у такой хароміне жыве? Гіблая справа. Адзін не сагрэеш такое жытло. Аднаму кепска. Чыгункі вымай з печы, а іх жа

трэба туды паставіць, а каб паставіць – нешта ў іх і пакласці належыць, а каб тое пакласці, трэба схадзіць, і не раз, у склеп. Закружышся. Трымаеш худобу? – пытаўся Панкрат, хоць і ведаў, што Андрэй як вёў гаспадарку пры нябожчыцы Варцы, так і вядзе.

– Трымаю, – кіўнуў Андрэй. – А як жа пражывеш у нас без скваркі? У сына браць? Не прывык, не-е. Хоць Міця і не пашкадуе. Няхай яны, дзеці, самі па сабе, а я – сам па сабе. Цягну вось патрохі, як бачыш...

– Цягні то цягні, але надарвешся, сусед. Надарвешся. Не малады ж. Годы,брат! Годы!

Андрэй насупіўся:

– Нешта ты, Панкрат, паніхіду па мне спраўляеш? Ці мне прывыкаць? Як-небудзь агораю...

– Ета правільна: «як-небудзь». А ты прывёў бы маладзічку, глядзіш, і твой век падоўжыўся б. Там вэн у Скані нейкая баба з гораду вярнулася. Бытта нават з самога Санкт-Пецярбургу. Адна. Прыгожая, рухавая, што табе яшчэ трэба? Якой трасцы? Думаеш, лёгка ёй пасля гораду? Ёсцека лісапета, ды вазьмі і адскоч. Мо і згаворыцеся?

Андрэй маўчаў. Думаў. Не адзін Панкрат, калі папраўдзе, раіць яму прывесці ў хату гаспадыню. У Іскань, значыць, ехаць? Вёска гэтая хоць і ў чатырох кіламетрах ад Гуты, а ўсё ж другая вобласць. Магілёўская. Ды і ці варта ехаць? У сваёй хапае ўдоў, праз двор, лічы, усё адна ды адна... Андрэй перабіраў у памяці, хто б мог стаць гаспадыняй у ягоным жытле, і дзівіўся: «Вось і багата ўдоў... Вось і багата... Якую маладзіцу ні вазьмі, да кожнай сваяцкай ніткай прывязаны. Э не, трэба ехаць. Трэба».

У Іскані спярша зайшоў да Вольгі, старэйшай дачкі Якава. Яна працавала там настаўніцай у васьмігодцы, гадоў колькі была на пенсіі, і Андрэй стрэўся з пляменніцай на гародчыку. Калі на дзвярах замок, дык дзе ж яе было шукаць?

Андрэй сеў на табурэт – летам у садзе як без яго – доўга разглядваў, што і як тут расце, пахваліў Вольгу за парадак у агародзе, а потым толькі паёрзаўшы на табурэце, асмеліўся прызнацца, што за справа прывяла яго ў іхнюю вёску.

– Хто гэта ў вас тут з гораду вярнуўся? – спытаўся нясмела, крактануў, паправіў кепку Андрэй.

Вольга на імгненне задумалася:

– З гораду, кажаш? Дык.. прыязджаюць. І вяртаюцца. А навошта табе?

– Ета ж Панкрат нешта кажа, бытта баба майго веку...

– Ай-во! – перабіла Вольга, пляснула ў ладкі. – Калі пра жанчын размова, то іншая справа. Зараз, зараз... Ага. Успомніла. І добра, дзядзька, што надумаўся... Не век жа аднаму. Яе таксама Вольгай зваць.

– Прыгожае імя.

– Я нешта яе, дзядзька, і не помню ў дзеўках. Калі ж даўно, дужа даўно з’ехала, я тады яшчэ ў Іскані, відаць, не жыла. А вось толькі вярнулася. Пачакай, я памыю рукі і пераапрануся.

Потым яны пайшлі ў другі канец вёскі, дзе крыху наводшыбе стаяла маленькая, непрывабная хатка.

– Тут яна жыве, дзядзька, – паказала Вольга. Яна ішла наперадзе, а дзядзька Андрэй каціў крыху ззаду веласіпед.

Стары няўклюдна патаптаўся перад ганкам, затым непамерна доўга прыстасоўваў веласіпед да нізенькага і шчарбатага парканчыка, папраўляў яго і так і сяк, а сам краем вуха слухаў жаночыя галасы.

–... ён дзядзька мой... працавіты... адумны... гаспадар... – паспявае ўхапіць Андрэй, стаіць яшчэ колькі на ганку, а тады рашае, што трэба ўсё ж заходзіць, паказацца, раз наважыўся. Трымціць, адчувае, у руках і нагах, халадок прабег усяродку. Трэба заходзіць! Як бы толькі не разгубіцца, як бы гэта зрабіць так, каб не апраставалосіцца, а паказацца жанчыне з лепшага боку. Фраерам.

«Нічогая баба, – падумаў стары адразу, як толькі сустрэўся з жанчынай вачамі, і чамусьці спалохаўся: дужа ж падалася яна гарадской. – Ручкі вунь... маленькія, бялюткія-чысцюткія. Твар – такі ж белы... Не, не туды, мусіць, я ўсё ж зацёгся. Не туды. Паслухаўся гэтага Панкрата, дурань!»

Хоць і залівалася Вольга перад другой Вольгай, бы закаханы салавейка ў вечаровым садзе, ледзь не ангельскую характарыстыку выдала яна свайму дзядзьку, але заручын – калі можна так сказаць – не адбылося.

– Ой, дзякуй вам, людзі добрыя, за ўвагу да мяне, – сказала Вольга-гарадская. – І праўда, цяжка мне адной у вёсцы. Трэба б было і рашыцца пераехаць да цябе, дзядзька, але ж ты вось не можаш адмовіцца ад сваёй гаспадаркі? Не можаш. А я ж, добры чалавек, не стану табе памочніцай. Хворая я жанчына. Цяжкае падымаць урачы забаранілі. Вось. Дык навошта табе лялька ў хаце? Навошта, Андрэй Іванавіч?

– Глядзі, цётка, – ціха прамовіла Вольга-пляменніца, і стары зусім павесялеў: правільна, глядзі.

І сам сказаў:

– Твая справа, маладзіца. Сілком любы не будзеш. Толькі як ты адна? Хоць і жывеш жа...

– Паеду. Пералетую і ў Піцер зноўку падамся. З дачкой буду жыць. Цяжка мне і з дачкой таксама, бо зяць – ну яго! – выпівае. Добра выпівае. Але трэба ехаць. Адвыкла ад вёскі. Не ўцягнуся.

І вось цяпер глядзіць Андрэй на братаў падворак. Год мінуў з тае пары, як сватаўся ён у Іскані, не ведае нават, ці паехала ўсё ж у горад тая пульхная, бы аладка, з белымі пальчыкамі Вольга, а ён усё адзін. Адзін.

Глядзіць і глядзіць Андрэй у акно. Успамінае брата, Варку, без якой жыве – во час ляціць! – хутка тры гады. Пахаваў ён жонку побач з Якавам, не сказхаць, каб зусім побач, але недалёка. Мясціцца, лічыць, трэба блізка сваім. Хоць на гэтым свеце, хоць на тым.

На двор заязждае падвода. Спярша стары заўважае сумёт сена, які сунецца з боку вуліцы, пазней бачыць каня і чалавека, ён ступае побач з возам,а потым забягае наперад, кідае лейцы на распараную, пэўна ж, спіну каня. У тым чалавеку пазнае Васіля, старэйшага ўнука брата Якава. Унук жыве ў горадзе, у Гомелі, а на выхадныя часцяком наведваецца ў вёску. Такі ж шустры, як і Мішка.

«Сенам запасаюцца. Трэба памагчы. А то складуць стажок, што глядзець сорамна будзе. Свае ж... Пайду, вяршыць буду»,– рашае Андрэй, бярэ свае вілы – на доўгім цаўі, з чатырма варсачамі-зубамі, адчыняе веснічкі на агарод, нетаропка тэпае на братаў падворак.

Васіль паехаў другі раз, а Мішка з Зінай укладваюць сена.

– Бог у помач,– кажа стары, залазіць на стажок, Мішка моўчкі саступае і ўжо кідае сена віламі, а Зіна ідзе ў хату, там у яе ёсць чым заняцца. – У Рацэ накасіў?

– У Рацэ накосіш, – пачынае скардзіцца Мішка. – Там адарвеш. Ад майкі рукаў. Купіў на лузе. Па дзяшоўцы. Цяпер вазі толькі. А ў Рацэ калгас ўсё захамутаў. Ты што, не чуў?

– Не, не чуў, – прызнаецца стары. – Дужа добрае сена ў Рацэ. Пахне хораша. Шапаціць. Эх, і сена! Сам еў бы.

– А гэтае што – не сена? – Мішка не церпіць, ажно, мусіць, дыханне запірае, калі хто не цэніць ягонай разваротлівасці, гаспадарчай стрункі. – Я, дзядзька, ды каб пршляпіў!

– Ты не праслабіш, не, – пагаджаецца Андрэй, і пагаджаецца шчыра, а не проста, каб толькі падлагодзіць пляменніку, каб адмахнуцца.

Сена амаль усё лягло ў стажок, стог выходзіць пузаты, ёмкі, і Мішка паспакайнеў – не завальвае Андрэя сенам, а падае патрошкі, чакае, пакуль ён справіцца з тым, пададзеным.

– Думай не думай, а сена трэба, – чуе Мішка памяркоўны голас зверху. –Жыць у сяле ды без каровы – э-ге! З каровай весялей. Даіць налаўчыўся. Пойдзеш у хлеў, пагаворыш з ёй, як жывы з жывым. Яна цябе языком салупне, хвастане, бывае, і ўсё неяк весялей. Сена трэба, Мішка. У цябе ж матацыклета ёсцека, праскоч на луг, разведай, што і як...

– А ёстваю няхай! – голас у Мішкі ажно звініць, хоць і на чацвёрты дзесятак недзе яму. – Хвастом! Карова! Ты, дзядзька, можаш і не за такі хвост ухапіцца! Слухай сюды, дзядзька! Слухай мяне!..

Андрэй сур’ёзнее, падае галаву трохі наперад – каб бліжэй да Мішкі, які першы пасунуўся насустрач да яго, і, дзівак, чамусьці пачынае гаварыць паўшэптам:

– Заўтра ж паедзем. Разам з Васілём. Кеміш?

– Не, – матляе галавой стары. – Не разумею.

– У горад паедзем! Слухай сюды... У Васіля ж цёшча жыве. Баба вясковая – шустрая, як мятла. Мятла-а! Ёстваю няхай! І трэба ж было толькі цяпер успомніць. Ты ж бачыў яе?

– Бачыў, – ківае Андрэй, твар кранае лагода. – На вяселлі. Ага.

– Ну! А што табе яшчэ трэба! Мятла-а!

– З гораду наўрад ці паедзе... – сумняваецца Андрэй. – Прыгрэлася там, даўжно быць. Ні паліва табе, ні сена ж таго. Ці паедзе? Наўрад. А так маладзіца яна ёмкая. Слоў няма. Я б узяў.

– Хто ў сваты едзе, дзядзька? – Мішка падміргнуў. – Каб я, Мішка, ды сплахаваў, брак выдаў? Кладзі ў сумку пару пляшак гарэлкі, скрыль сала – і заўтра мы ў горад! Едзем! Заўтра! У горад!..

Мішка бяжыць на падворак, п’е проста з вядра ваду, абліваецца, фыркоча. Душны дзень. Якраз сярэдзіна, смаліць сонца. «Злесці і мне хіба? – вагаецца Андрэй. – А то напячэ макаўку, што тлумна стане. Але ж мо воз скора будзе? Ладна, пасяджу. Пачакаю Васіля. Што ён скажа?»

Зноў успомнілася Варка. З ёй пажыў Андрэй багата гадоў – з вайны. Яна ў яго не першая жонка была – другая, і прывёў ён яе, дзяўчо, у сваю хату з суседняга Крыўску. Добрая жанчына была

Варка. З ёй і збіраўся дажыць век Андрэй. Не атрымалася. І маладзейшая за яго багата, і не хварэла асабліва, а завезлі ў бальніцу – не вярнулася.

Прыгадаў усё гэта Андрэй, узняўся. Ого! Спіна, як не свая. Чужая. Боязна варухнуцца. Калі выпростваўся, ажно хруснула нешта. Што паробіш – хутка восемдзесят. Багата. А як і не жыў. Праміькнула жыццё – бы бліскаўка ў небе. Калі ж той воз будзе? Карціць дачакацца, і цяпер не так ужо сена, як Васіля.

«Дзе ж ён там?» – Андрэй узіраецца і ўзіраецца ўдалячынь, на канаўскі шлях, дзе павінен паказацца воз з сенам. І Васіль на возе. Не відаць. Пакуль не відаць...

Стары толькі ўяўляе, што недзе едзе сена на калёсах... Едзе... Мусіць, яно ўжо блізка... Зусім блізка...

**АДАПТАЦЫЯ**

Як цяпер помніць Сцяпан: першы раз прачнуўся ён у гарадской кватэры і доўга ляжаў затаіўшыся, баючыся паварушыцца. «Ёлкі зялёныя, га! І ці ж гэта жыццё, скажыце? Не-е, не-е, не сцерпім такое, не вынесем. Колькі спаць можна? Цёмна на дварэ, справа зразумелая, але ж раніца ўжо. Маці каля печы таўчэцца, даўжно быць... І ці ж тэта парадкі, скажыце мне? Гультаі гарадскія». Побач – з правай рукі – ляжыць размораная, цеплая, бы толькі-толькі знятая з патэльні аладка, пульхнаватая, ёмкая па ўсіх жаночых вартасцях – з яго, канечне, Сцяпанавага, боку гледзячы – Зінка. Дакраніся – апячэшся. А Сцяпан дакранаўся. Асцярожна, нерашуча, бы да вострага язычка агню ці да якой-небудзь рэчы ў музеі, улучыўшы момант, каб не падцікавалі захавальніцы скарбаў, і хоць добра было яму, шчасліва, а ўсе ж, калі пакласці руку не на цёплае цела цяпер, значыцца, ягонай ужо законнай жонкі, а задумацца добранька пра жыццё, то адчуеш, як робіцца тлумна, нейк бязрадасна. І тады рука цягнулася назад... «Чаго? Чаго так адразу? Толькі пачынаецца, а ён у кусты меціць, у хмызы бытта тыя бярозаўскія, каб схавацца – як у дзяцінстве, калі мелі аўтарытэт у вёсцы хованкі. Падалей, надзейней! І ляжаў так Сцяпан нерухома, нацэліўшы невідушчыя вочы некуды пад столь, і не дыхаў. А тут і па патрэбе якраз... Ісці належыць шукаць той куточак, зачыняцца, цурчаць вадою.

Цурчаць – яшчэ можна, няхіграя справа, але ж тыя будуць чуць. Як? Што падумаюць? Бяда-а! Вобмацкам, бы кот той, шкрабіся: разбудзіш цесця з цешчай, тады ступі ў той куточак... А мо да раніцы счакаць? Няхай ужо прачнуцца першыя... Калі яны ўсхопліваюцца? Пачакаем. Во траіў у прасак, каб яго... Быццам і свой у гэтай хаце, а дыхнуць на поўныя грудзі няможна, не маеш на тое права. Бы ў клетцы. Птах ты, а не Сцяпан. Чаму ў вёсцы прасцей. Усхапіўся хоць сярод ночы, хоць раніцай, раз-два – і парадак. Напрацуюцца людзі, дзе ўжо там чутны будуць твае крокі. Хоць страляй. Усе роўна не падымеш. А ў горадзе, мусіць, чутна спяць. Муха крылцы расправіць – рыпяць спружыны: ніяк цешча заварочалася, заварочалася... Ат! Ён туліўся да Зінкі, тая мармытала са сну («я... ты... не пае-дзе...»), выцягвала з-пад лёгкай коўдры белыя – цёмна, хоць вока выкалі, а яны ўсе роўна белыя – рукі, кароценькія, пухленькія, пацягвалася, і нейкая сіла гарнула яе да Сцяпана. Сцяпан апынуўся ў абдымках і не ведаў, ці выслабаняцца яму ад Зінчыных рук, ці то і ляжаць ужо так, заціснутым як прадыхнуць. Што маладому каню аброць на мордзе – так

яму рукі тыя. Нязвычна, дзіка. А Зінка, хоць і спіць, горнецца і горнецца ўсім целам і цёпла дыхае ў твар. Спіць, бачна ж, а горнецца. А ў Сцяпана адно розум займае: дык як быць усё ж? Тэпаць ці счакаць? Але нічога не прыдумвае, ляжыць, зацугляны шчаслівай Зінкай, ні жывы ні мёртвы, і адплываюць туды, далей, на задні план, усе трывогі ягоныя, а ў вочы, як кажуць, лезе вёска. Наступае хатамі, дрэвамі, людскімі тварамі. Адно боязна, чаго тэта яны? Ці з глузду з'ехалі? «Я ж не дэзерцір, я ж свой!» – хочацца крыкнуць Сцяпану. Не крыкнеш. А вёска вось-вось тыцнецца ў гарадскі дамок, спляжыць яго, разварушыць, а ён, Сцяпан, застанецца сядзець над голым небам на ложку, прыхінуты коўдрай з ног да жывата. Як усё роўна комін разбуранай хаты, застанецца ён пасярод двара. А хаты – няма. Адны бярвенцы валяюцца, посуд розны – міскі ды каструлі. Зінка ж, мусіць, так і будзе спаць, на ўсялякі выпадак трымаючы яго за плечы – каб не даў лататы, не пакінуў яе адну. Будзе спаць, будзе... Яна і ў Бярозаўцы, колькі жылі, спала. «Здаровая маладзіца, – матчыны словы. – Хай лепш спіць, чым хворая якая... радуйся, Сцяпан, што і тварыкам, і целам удалася дзеўка».

Наступае вёска. Цісне. На ўсяго яго – з ног да галавы – цісне. «Я не дэзерцір-р!». Супыніце яе, не дазвольце, людцы добрыя, каб яна на новае Сцяпанава жытло наехала,раструшчыла яго. Хіба ж гэта ён вінаваты? Не! Не-е! Ён тут ні пры чым. Ён мо і сам не рады, што ўсё вось так атрымалася, наўскасяк выйшла, хоць прызнацца трэба, а як жа, і прачнулася нешта светлае ў яго да Зінкі. А чаму б і не? Млее вока, як зірнеш на Зінку. «І як тэта яна ў горадзе згубілася? Столькі хлопцаў, а не бачылі. Не верыцца Сцяпану, што ўсё гэта яго. Не верыцца. Бяры, карыстайся, а не дыхнуць на поўныя грудзі: чужы чалавек Сцяпан у горадзе, не для яго народжаны, сам адчувае, таму і не бярэцца так, як хацелася б, і не скарыстоўваецца. Гіблая справа. Нечага не хапае. І як будзе хапаць, калі паветра нават тут не такое, як у Бярозаўцы...

Вёска зжалілася. Родная ты вёска! Пакінула яна ў спакоі Сцяпана, дала магчымасць звесці павекі, але ненадоўга. «Як там маці? А дзед Сымон? А Чопкі лажок? Касіць пара... Пара касіць!» Што ж тэта робіцца, не, вы падумайце толькі: Сцяпану касіць самы час, а ён сёння ранкам апаласне твар халоднай вадою з-пад краніка ды і пойдзе – як не пад ручку з Зінкай, каб не згубіўся ў лабірынце вуліц, – на завод, на працу ўладкоўвацца. «Каб, Маруська, ты мак ела ўсё жыццё! – злуецца Сцяпан, думкі распіраюць галаву. – Каб жа не ты,

то я касіць бы ужо даўно падаўся. Каса ў мяне новенькая, сямёрачка, а ржавець будзе. Каб ты мак ела...»

Не, ну дык праўда ж: падвярнулася тут Маруся Саўкава са сваёю гарадской сяброўкай, стрэўся з імі на вуліцы Сцяпан, павітаўся без аніякай там лішняй думкі. Помніць, што азірнуўся, праводзіў незнаёмую дзяўчыну цікаўным позіркам, але каб вышэй узяў, у заўтрашні дзень зазірнуў – сам бы сябе дзіваком палічыў, прайграў бы ўсю матчыну хату разам з прысядзібным участкам, з градкамі тымі ды яблынямі, каб пад заклад біўся: тут свае, бярозаўскія дзеўкі, абмінаюць, а няўжо ж яна, гарадская, модная і з твару прывабная, затрымае на ім свой позірк? На каго глядзець? Сцяпан як Сцяпан. Хіба ж можна зазірнуць у яго душу, ацаніць яе здаля? Калі Зінка змагла, калі сама, то такой дзяўчыне і ён пара. Багатая душа ў Сцяпана. Дабрынёй поўніцца, што рака ўвесну вадою – з беражкоў выходзіць. Толькі ж ці і сама? Ясна, Марусіна работа. Пастаралася суседка. Спярша, канешне ж, з маці ягонай пашапталася, казала, мяркуй, на вуха старой Понцісе: «Ой, Ладыміраўна, і дзеўка ж Зінка! У горадзе жыве, а як вясковая: усё похапкам да похапкам. Мы з ёю разам на заводзе робім. Яна на аўтакары кіруе, дэталі з цэха ў цэх развозіць. Мужчынам нос утрэ. Утрэ, цётачка. І смірненькая, дамашняя. Думаеце, за ёй хлопцы гужам не ўюцца? Яшчэ б! Толькі яна абы на каго не кінецца, пераборлівая: мне, кажа, такі мужык трэба працавіты, як сама. Я, кажа, чэсна жыву, і калі падвернецца ўжо шчасце, то за яго трымацца моцна буду. Толькі каб гарэлкі не піў багата. Курыць – няхай сабе, не так брыдка. Гэта Сцяпан ваш – не прыпомню, ці курыць? Не, вось бачыце, я ёй таксама: каб сусед мой ды курыў. У вас жа і бацька не курыў. Яна ж, Зінка, і кватэру ў горадзе мае. Як кватэру? З бацькамі жыве ва ўласным доме. У самым цэнтры. Уяўляеце? Вёска ў горадзе. Яблык, цыбулька, парнічок – свае! Не з базару, капейка цалей як-ніяк... Зінка во і давыбіралася: дзяцей пара няньчыць, а яна не спяшаецца. А на Сцяпана вашага зірнула – целам апала: той, той, каго шукала! Не бяда, кажа, што няўклюдны трохі, мехаваты нейкі, затое ціхі, сарамлівы, рабацяшчы. Вялікі плюс, што чарку ў меру бярэ. А што жанчыне памыліцца? Век гаруй тады . Дык вось, Ладыміраўна, як бы нам пазнаёміць іх, звесці? Дужа б пара была роўная. Як трэба была б пара. Залатая».

А Сцяпанава маці, відаць, уздыхнула,скрыжавала сухія, патрэсканыя пальцы на грудзях, мо і хустку паправіла – яна заўсёды ў хустцы ходзіць – і сказала Марусі мякка і пяшчотна: «Дык і я да Зінкі прымервалася. Думаеш, не? Прымервалася. Пасля таго, як

Сцяпан баяцца дзявок пачаў, кожная мне ягонай жонкай здаецца, якая хоць трохі больш меней... Бачу іх разам, вясёлых, сваіх. Бачу, Маруська. Ох і гора ж мне са Сцяпанам, гора... Усе нашы неяк рана надавуміліся, а ён – як у манахі запісаўся. Я ўжо і кажу яму: манах ты, сын. А ён смяецца, зубы скаліць. Смяецца-то смяецца, а няўжой-та матка па вачах не ўгадае, што і ў яго самога на душы няладна. Вунь і маршчынкі кружочкамі разбегліся па твары, не ад дабра яны, маршчынкі. Ты ж, Маруська, добрая душа, ведаеш, як усё атрымалася... Не дачакалася як з арміі Сцепку Тамарка Ігната Падшыванца, выскачыла за некага ў Зімніцу, то быццам падмянілі хлопца. Замкнёны, на танцы не ходзіць, гырчыць, калі на пуць настаўляеш, што дзед стары. Пераламіла яму дзеўка Падшыванцава жыццё. Ох і пераламіла! Во і не жэніцца. Бабыль. Яго равеснікі ўсе да адзінага дзяцей маюць, а ён бытта і не здольны да жаніцьбы. Думаеш, мне лёгка? Людзі ўсё бачаць. Ківаюць, нягож. А якая, ты вось мне скажы, Марусь, радасць ад адной толькі яго працы калгаснай? Упіраецца, не сядзіць домацькі, а мне ягоныя заробкі шчэ больш слёз дабаўляюць. Тыя б грошы на дзетак траціць, а яны вунь ляжаць непрытыкна. Ці багата ж нам на двох трэба? Хлопец ён непераборл-івы: што ёсць, у тым ходзіць. Ды я і кажу: якая радасць ад твайго рубля, калі ён не на карысць прадназначаецца? Кажаш, і Зінцы прыглянуўся хлопец? Хлопец ён ёмкі, грэх слова сказаць. Хай бы і абвянчаліся ці як цяпер па-новаму. Маладзічка яна нязбалаваная, раз з табою дружыць, то і хай бы... Толькі як нам яго, Сцяпана, на размову навесці? Не параіш? Я ўжо і баюся гаварыць... «Што ты мяне ўсё жэніш, што ты мяне ўсё з двара гоніш...». З якога двара? Прыводзь, жывіце, а я пад нявестку падладкуюся, саступлю, дзе трэба. Абы ўжо вам мелася. Дык, кажаш, прыглянуўся мой Сцёпка Зінцы? То і добранька, Маруська, то і добранька...»

І вось цяпер Сцяпан ляжыць на раскошным гарадскім ложку. Стомлены ад першай ночы на новым месцы. Боязна варухнуцца. Калі ж ужо той дзень нахопіцца? Калі пасвятлее за вокнамі? Ціха, пачакайце! Ці не певень гэта на падворку? Эх, падалося. Няма, не чуваць аніякага там пеўня. І карова не рыкае ў пуньцы... І парсюк не рохкае... Нібыта на іншай планеце. А там, у Бярозаўцы, на нагах, мусіць, ужо і людзі, і жывёліна. Ідзе жыццё, спяшаецца. Вось то жыццё!

Што, так і ляжаць? А мо асмеліцца, набрацца мужнасці ды адстукаць пяткамі па гэтай гарадской падлозе, га? Цярпі не цярпі, а трэба: у вачах пачынае цямнець. Трэба, браткі. Даруй, цешча! Прабач, цесць! Сцяпан вылізвае з жончыных рук. Зінка не верыць, што знікла

жар-птушка – калі ёй і сапраўды казка снілася – была і няма, а шкада, ой і шкада, але яна яшчэ доўга так трымае рукі, спадзяючыся зноўку ашчаперыць яе, прыцiснуць да сябе, а потым усе ж апускае іх на падушку. І спіць. Са-лодка спіць Зінка. Усміхаецца, бачце вы яе, у сне. Вусны – у букецік: чмок! А каго? Сцяпан грыміць ужо недзе ў прыхожай – зачапіўся за парожнюю пасудзіну, прашлёгаў далей, на ганак: забыўся, што цяпер ён гарадскі жыхар, прамчаў міма таго месца, куды намерваўся зазірнуць, сеў на халоднай прыступцы. Сядзеў як прыкуты. Пазіраў на дрэва, што развесіла перад самым носам густое лісце. І што хоць за дрэва будзе? Учора за дзень і не паспеў ён нічога толкам убачыць. Нават на гародчык, што дужа ўжо Маруся хваліла-перахвальвала, не паспеў вокам кінуць. «Табе, Сцяпан, разварот будзе. Не бядуй асабліва. Цяпер горад – тая ж вёска: свой харч, у каго лапік маецца...» Ды, слава Богу, не галадаў, лебяду і зацірку не еў – абышло, абмінула, тады навошта яму пра той гарадскі лапік зямлі назаляць? Ну? У горадзе яшчэ больш пузатых. А як жа ён будзе тут без сваёй вёскі? Без матулі? Без дзеда Сымона? А як жа без яго там касцы Чопкі лажок упарадчаць? Ты, Маруся, лепш на такія пытанні адкажы. Вось. А ў ядзе мы не пераборлівыя.

Дрыготка на ганку. Назад, у кватэру, вяртацца неяк адразу не з рукі. Няхай хоць бразгат той аціхне. У вушах так і звініць.

– Сцёпачка, – ён пачуў, як адчыніліся дзверы. – Чаму тэта ты так? Што з табою?

Зіна і сама прысела побач. Прытуліла галаву да Сцяпанавага пляча, уздыхнула:

– Сумна табе ў нас?

– Сумна.

– Нічога, міленькі, нічога. Прывыкнеш. Вось пойдзеш на работку, а пакуль адпачні, адпачні, а там абтаварышкуешся, у новую спецыяльнасць уцягнешся. Ну навошта сумаваць, скажы мне, Сцёпка? А я цябе кахаць буду, адзінага. Ежу гатаваць. А на выхадныя будзем да маці тваёй... цяпер ужо і маёй ездзіць, памагаць. Так, Сцёпка? Не сумуй. Будзь трошкі весялейшы, а то і мне тады робіцца сумна, як на цябе гляну. Слухаеш, Сцёпка?

– Слухаю.

– Пайшлі, пайшлі ў дом, – і Зінка першая ўзнялася, пацягнула Сцяпана за руку. Ён і не упарціўся. Ён ступаў паслухмяна ўслед, а недзе за спіною ўпаў на дол зялёны – дзецям толькі на зуб і браць – яблык. Лёгка чмякнуўся вобзем, а Сцяпану падалося, бытта шчоўкнуў ранні і не патрэбны нікому пакуль што яблык яму па галаве.

Вось той і завод. На токара вучыцца дык на токара. Яму, Сцяпану, было неяк усё роўна. Сказалі б, асвойвай спецыяльнасць зборшчыка ці наладчыка – няхай сабе будзе. Толькі што атрымаецца з таго, якая карысць, – гэтага ён не ведаў. Падай нарыхтоўку, збегай па шклянку газіроўкі, глядзі пільней, глядзі, як трэба зацiскаць – ідзе вучоба. Здаецца, нічога такога і не робіць сапраўднага, а твар брудны, рукі перапэцканыя. Спецвопратка, што выдалі адразу ж, у першы дзень, – насі на здароўе! – самага апошняга памеру. Мусіць, і адчуваў сябе Сцяпан у ёй нязручна, што малады салдат пасля першай лазні. Скокнуў у рабочую апратку, а пазней засумняваўся – ці туды? Можа, і не трэба было б на токара? А на каго ж тады? Каб жа яшчэ хоць да арміі, а то хіба ж у такім узросце разцы вастрыць для усёй брыгады. «Малады, га, мала-ды! Чым заняты? Ага, лахманамі станок трэш. Не тое робіш – не забывайся, што брыгада сёння паўтары нормы дае. Помніш? Цудоўна, толькі ж гэтага мала: давай-ка за мае разцы бярыся. Затупіліся ўсе як адзін, што цагліна сталі. Бярыся, Сцяпан!»

Вострыць разцы, а сам пазірае на дарожку, па якой павінна б прамчаць на спрытным аўтакары Зінка. Усміхнуцца хоць ёй, ці што? Нешта не відаць. Нудота. Брыгадзір, Пятровіч, прыспешвае, ён усіх падганяе: давай, братва, давай! І да Сцяпана: «Маляваць умееш? Пара «маланку» выпускаць. У лідэрах мы. Разумееш?» Нехта крычыць брыгадзіру: «Самі выпусцяць. Што мы сябе хваліць будзем, Пятровіч!» Малайчына, выручыў Сцяпана, а то б далі аловак – і малюй-пішы, хвалі таварышаў. А які з яго, Сцяпана, пісар, скажыце? Які мастак? Усё жыццё потым хлопцы смяяцца будуць.

Дамоў вяртаўся Сцяпан штодня стомлены. Да ног быццам хто гіры прывязаў. І не рабіў жа нічога, а ледзьве цёгся. Мо таму і стамляўся, што не рабіў? Так усё, па дробязях. Радасці не адчуваў, пуста ўсярэдку было, а ці ж для яго такое? Сцяпан пагадзіўся б лепш на чыгуначнай станцыі вагоны апаражняць – куды б лягчэй было. Мчаў бы дахаты, бег, першай справай Зінку б над сабой ускінуў: во хто мы, работнікі! А так – пуста...

– Зін, а Зін, – Сцяпан шоргае сандалетамі па тратуары, сумны і маўклівы. – Ты мяне чуеш, Зін?

– Што, Сцёпка? – хітра зазірае ў вочы жонка.– Што табе, родненькі?

– Упёрся я на таго токара, а навошта? Не, ты не хвалюйся. Я тэта так сказаў... не падумаўў я...

– Не хітруй. Падумаў ты. І цяпер думаеш. Увесь час думаеш, як жывеш у горадзе. Ды і хіба ж я не бачу, што не падабаецца табе на заводзе. Табе б у полі, Сцяпан... Над небам. А цэх не вабіць. Я ж ведаю...

Малайчына, Зінка. Разумее, бачыць наскрозь, і таму Сцяпан весялее, але не знаходзіць, што сказаць жонцы. Трэба ж сказаць так, каб не пакрыўдзіць яе. Няма слоў. Пракаўтнуў усе бытта.

– Ведаеш, Зін, бяру ў рукі нарыхтоўку, а мне здаецца, што трымаю не халодны метал, а бульбіну ці бурак. Чэсна, Зін. І доўга не ведаю, што рабіць. Ці заціскаць яго на апрацоўку, ці што... Вочы шукаюць бурт, так і хочацца нарыхтоўку тую кінуць туды – замест бульбіны...

– Я разумею цябе, разумею.

– А можа, мы ўсё ж рашымся?..– Сцяпан запавольвае хаду, не зводзіць вачэй з Зінкі.

Зінка маўчыць.

– Там, у Бярозаўцы, і для цябе работа знойдзецца. Бібліятэку прымеш. Я дамоўлюся, не, ты не хвалюйся, не трэба, Зін, я дамоўлюся са старшынёй сельсавета. Возьме. А хочаш, пры клубе білеты прадаваць будзеш. Хочаш?

Зінка апускае вочы, ідзе моўчкі. «Дзівак усё ж гэты Сцяпан, – разважае, пэўна. – Людзі з вёскі ў горад бягуць, а мы — туды. Засмяюць на рабоце. А суседзі – што падумаюць? А чаму б не жыць нам у горадзе? І домік жа ў нас, і гародчык. Тыя ж калі едуць, то на голае месца. Па кватэрах туляцца, з апошнім рублём не лічацца – каб толькі ў горадзе... А вунь і Косцік з тае ж Бярозаўкі? Тры дні ў горадзе, а нос высока трымае, так задраў, што дзе там! Пра вёску і не ўспомніць. Джынсы купіў. А гаварок? Вы б толькі пачулі! «Это мы-то, городские, не сможем? Кто сказал? А мой?..» – На вачах Зіны Сцяпан заўважае слёзы.

– Не хочаш калі, то і бяды... Як я там адзін, без цябе? – суцяшае Зінку. – Прывык я, Зін, да цябе. Моцна. Але толькі да цябе – не да гарадскога жыцця, не падумай. Неяк не так усё тут, як у Бярозаўцы. Мітусня нейкая тут... А ў нас ціха, добра ў нас. І людзі ўсе табе знаёмыя. Усе свае яны. Усміхаюцца, вітаюцца пры сустрэчы. Здорава ў нас! Ты ж ведаеш, жыла... Пераедзем мо ўсё ж, а, Зін?

– Ой, Сцепка! – уздыхае Зінка. – І не ведаю, што сказаць. Няўжо ты думаеш, што да вёскі чалавеку лягчэй прывыкнуць, чым да горада? Ці змагу ж я? Бач, цяжка табе ў горадзе. А як мне там будзе?

Сцяпан задумваецца. Маўчыць, не адказвае. Ды і што тут скажаш? Відаць, і ёй, Зінцы, нялёгка будзе ў іхняй Бярозаўцы. Вось найшла каса на камень дык найшла! А бацькі яе? Уго, так адпусцяць адзіную дачку ад сябе, трымай кішэню шырэй.

– Па маці сумуеш?

– І па маці.

– Давай забяром яе да сябе? Месца хопіць. Няхай з намі жыве. Мае бацькі супраць не будуць, я ўпэўнена.

– Ды не будуць... Толькі ты маму маю не ведаеш. Яна ніколі не пагодзіцца, хоць ты ёй тут залатыя горы наабяцай.

На Зінчыных вачах блішчаць слёзы.

– Паслухай, Зін, а, можа, мне хоць на лета ў вёску паехаць, га? Пакуль пара там гарачая. Памагчы трэба. Няма ж каму працаваць, а тут яшчэ і я збег. Я толькі на гарачы час. А на выхадныя і ты да мяне будзеш прыязджаць.

У Зінчыных вачах яшчэ наболела слёз. Смяецца і плача. Нікога не саромеючыся. Калі з ёю было яшчэ такое? Каб і радавацца, і бедаваць – разам.

– Едзь, едзь, Сцёпка, – самі шэпчуць вусны. – Буду, буду прыязджаць. Тут жа недалёка, праўда ж? Канешне, блізка. Што тут ехаць? Мне да цябе рукой падаць будзе. А там, можа, і адпачынак вазьму...

Сцяпан прытуляе Зінку да сябе, чмокае ў шчаку, і няхай хто паспрабуе пасміхацца. Ого! Зінка за надзейнай сцяной, а Сцяпан у гэтым горадзе жыве па сваім законе. Іншых душа не прымае. Няма калі прымаць іншыя – трэба спяшацца ў вёску, у сваю родную Бярозаўку...

Бліжэй туды, к восені, калі пажоўкла лісце на дрэвах, вось-вось пачне усейваць дол, Сцяпан касіў у гарадскім скверы траву. Касіў размашыста, бы на Чопкім лажку ўлетку, прыгожа касіў. Прахожыя нярэдка спыняліся, падоўгу назіралі за Сцяпанам – любаваліся. Не часта ў горадзе стрэнеш такога касца. Майстар. Артыст. На сваім месцы чалавек – адразу відаць...

**СЛУП**

– Прыехалі. Прыехалі, слуп, мы з табой. Апошні прыпынак. Твой і мой. Далей транспарт не ідзе, – Сцяпан стомлена зваліў слуп на зямлю, выпраміў спіну, на якой нёс, ледзьве не ўпіраючыся носам у дарогу, драўляны ўказальнік, на шыльдачцы якога было напісана чорнай фарбай: «Кругліца». – Паляжы пакуль. Адпачні. Настаяўся. А ўсё ж і ў цябе някепскі занятак быў, га? Не проста стаяў – людзям паказваў, дзе наша вёска... дзе Кругліца.. Як міліцыянер у гарадах тых на перакрыжаванні. Туды, туды, грамадзяне, шуруйце. Да Сцяпана... Марусі... да Лідкі... Ну што, устанеш? Ці паляжыш яшчэ? Ну, паляжы, паляжы. Зямля цёплая. Я таксама пасяджу. – Ён сеў на слуп. – Табе вось, як другу, адкрыюся: сёння таксама выпіў крышачку... грамульку. – Дыхнуў на слуп. – Чуваць? Ёсць трошкі, не абараняй мяне, не заслужыў. Учора ж зарокся: усё, Сцяпан, перакрываю доступ дурману ў свой арганізм, а прачнуўся – хочацца, ажно ўсяродку ўсё рыпіць, як у старых калёсах. Так прыспі-чыла, быццам за вугал іншы раз... І не перамог сябе – дапіў, каб ёй, халера ясная, усё жыццё ікалася... дапіў, ага, што з учарашняга ў бутэльцы засталося. А жывуць жа людзі і не п'юць, шэльмы! Яны што – з іншага месца на белы свет павылазілі? Дык не ж! Такія самыя. Паслухай, а можа мне і на самай справе кінуць? Што скажаш? Табе, гаворыш, усё роўна. А мне – не. Але гэта мы падумаем, слуп. Вышэй галаву. Хоць што тут думаць! Усё – кідаю! Раз і назаўсёды! Кранты! Еду ў бальніцу, бяру рэцэпт... паглытаю таблеткі, так і быць. Але ж ты, слуп, – ша! Ні слова пра гэта. А то разнясуць. Людзі такія. Хоць калі ў іх апендыцыт выразаюць ці грып прыліпне – я спачуваю па ўсіх правілах. Усё: не п'ю! Дай пяць! – Сцяпан дакрануўся рукой да слупа. – Зараз, зараз я цябе, так і быць, прызначу на новае месца. Хопіць там аднаму стаяць у белым свеце. Бліжэй да людзей будзеш... Бліжэй да народу...

Сцяпан не зауважыў, калі да яго падышла Маруся, ён толькі пачуў яе сіплы старэчы голас — з-за спіны яна без усмешкі спытала:

– З кім тэта ты, Сцяпан, балбочаш?

– Са слупом! – сказаў пераканана і неяк горда.

– Х-хі, друга знайшоў!

– Затое ён язык за зубамі ўмее трымаць. І не п'е. А я – усё, кідаю. Мне цяпер таварыш непітучы трэба – каб было з каго прыклад браць. Ясна?

Маруся пляснула ў далоні:

– Няўжо кінеш?

– Як піць даць. На поўным аснаванні завязваю. Ужо, можна сказаць, кінуў…

– Тады табе людзі помнік паставяць. На самым відным месцы. Дзе раней царква была.

– Мне помнік стаіць, – Сцяпан глядзеў некуды ўбок, задумліва, сур'ёзна. – У цэнтры вёскі. Дзе салдат галаву схіліў... а я, Маруся, праходжу іншы раз міма і баюся яму ў вочы глянуць. Сорамна... на таварыша майго дужа салдат той падобны... на сібірака Пецьку Шыляева. Як з яго ляпілі помнік... Няма Пецькі, а я, хрэн стары, жыву. Цьфу! Усё, не п'ю... можна сказаць.

– Ну, калі ўжо і сапраўды абразумішся і кінеш, то купі расчоску.

Сцяпан зняў кепку, папляваў на далонь, прыгладзіў рэдкія сівыя кудзеркі.

– Касцюм новы. І жаніся, – не то жартам, не то сур'ёзна раіла суседу Маруся.

– Ты што, здурэла? Гэта мне, Сцяпану, яшчэ і хамут на шыю? Не, не буду. З вамі, бабамі, толькі клопат лішні. Ты вось што, Маруся. Ты лепш памажы мне слуп у бядзе не пакінуць.

– Навошта табе тэты крыж? – паціснула сухенькімі плячыма старая.

– Не з цябе зняў, – Сцяпан падцягнуў слуп бліжэй да паркана. – Адзін стаіць. Як сірата. А вёска наша цяпер пачынаецца вось адсюль... ад маёй хаты. Запомні. Сціснулася Кругліца, як гармоня. Тут няхай і стаіць.

– Няхай бы стаяў, дзе ўлада паставіла.

– Не месца яму там! – строга сказаў Сцяпан і так зірнуў на Марусю, што той нічога не заставалася рабіць, як паслухацца. – Не месца! З сабой слуп не раўняй!

– Ну, як хочаш. Не цяжка, патрымаю.

Сцяпан выкапаў даволі глыбокую яму, апусціў туды слуп, Маруся трымала, а ён прысыпаў яго жоўтай зямліцай. Маруся, уздыхнуўшы, ціха мовіла:

– Каму мы трэба – тыя знойдуць і без твайго слупа.

– Сам разумею: яму лепш стаяць у горадзе, каб дзеці нашы бачылі, у якім баку Кругліца... Не дазволяць у горадзе ўтыркнуць. Я б наторкаў гэтых слупоў на кожным вуглу... Для Ляксандраў, Лідак, Светак… Вось… А можа, па гэтым указальніку, Маруся, і да нас прыйдзе шчасце?

– Не паспытала. Не ведаю, што тэта такое.

– Табе цяжка зразумець, Маруся. Ты – баба. А вось мне іншы раз хочацца вярнуцца на трыццаць гадоў назад, калі нічога амаль што не

было на стале, затое многа было за сталом... Хм, Волька мая, забаўляючыся, акно разбіла... шыбку. Валёнкам. У самы мароз... А цёпла усё роўна было ў хаце... Колька з дружком у суседнюю вёску ў госці пабег... Завіруха-а-а-а... Свету белага не відаць... Ноч на дварэ, а яго няма. Усю Кругліцу на ногі паднялі. У лесе, у полі са стрэльбаў палілі ў неба. А ён на печы ў Гуце сядзіць... грэецца каля коміна, як кот, блазнюк, га! Клаўка дык тая боты згубіла... увесну бульбу мёрзлую збіралі на праснакі... зямля ўсмактала — не выцягнуць. Басанож так і прыйш-ла... ледзьве ногі ацёрлі. А можа, Маруся, шчасце ўсё ж калі-небудзь загляне да нас?

Маруся хмыкнула:

– Ну, калі тое шчасце, якога табе захацелася, то сустракай. Едзе. З бразготкамі.

– А я веру! – вырачыў вочы Сцяпан. – Чалавек, атрымліваецца, можа адрадзіцца, а вёска, значыць, не?

– Я ў такой хвіласофіі не разбіраюся, – уступліва-мякка сказала Маруся. – Трымаць слуп?

– Хопіць. Я даўно яго прыкапаў, – Сцяпан памаўчаў, потым з лёгкай вясёлай усмешкай глянуў на субяседніцу: – І тады зноў будзе свята ў нас. Песні... Танцы... Дзеці... Уяўляеш, Маруся?

– Не, не ўяўляю. Адзічэла я, відаць.

Сцяпан пакратаў слуп – ці моцна стаіць, гучна і амаль што афіцыйна сказаў:

– Вось так і я павінен стаяць! Як мой друг! Смірна-а!

– Ты што, Сцяпан? – здрыганулася Маруся.

– Запомніце: былы дрэнны чалавек становіцца добрым... авангардам, можна сказаць! Прама на вачах! Га? – Ён перавёў позірк на слуп. – Ну што, родны? Бачыш, як жыццё створана? Але нічога, я цябе ў крыўду не дам. І ні кроплі больш! Ні-ні! Усё. Кідаю... вось толькі сёння вып'ю за тваё здароўе, слуп, каб стаяў ты моцна і доўга на гэтай святой і грэшнай зямлі.

– І гэта той гаворыць, які піць кінуў? – з лёгкім дакорам выдыхнула з сябе Маруся.

Не звяртаючы на яе ўвагі, Сцяпан казаў слупу далей:

– ... і ніякіх! Зразумеу? – Затым абняў слуп, пацалаваў. – Абмыць жа цябе трэба, навасёл ты мой!..

– Ты ж піць кінуў! – Маруся плюнула і борздзенька патупала ад Сцяпана і слупа, а сама, відаць, яшчэ і падумала: гарбатага магіла выпраміць.

– Калі яшчэ слуп переносилі з месца на месца, га? – крыху ачомаўшыся, кінуў услед Сцяпан. – Ды пайшла ты!... – і да слупа: – Не звяртай увагі. Баба яна і ёсць баба. А мы – мужчыны! Пачакай! Пачакай! – Ён знік за веснічкамі, неўзабаве вярнуўся з бутэлькай і шклянкай. – Зараз... вінца... каб стаяў ты доўга, каб табе добра было тут... на новым месцы. Кепска, што ты не п'еш... Прыйдзецца мне і за цябе. Ну, будзь здароў, слуп! Жыві! – Выпіў, зноў напоўніў шклянку. – Пасля першай, як кажуць, не закусваю. Кіно глядзеў... Ты ж не бачыў, а я бачыў. Пасля першай, кажа, не закусваю... Які сэнс у словах, га? Глыбокі. Ну, будзь...

– Зноў выпіў. – І пасля другой таксама не закусваю. Будзеш стаяць ты доўга, слуп. Па табе бачу. Мужык ты, а не якая там Маруська. Трымайся мяне – не прападзеш. Шурупіш? Бачу, бачу. Эх, слуп! Каб ты ведаў мяне раней, то мы б з табой... ядры іх у корань. Ух! Так і трымацца, мужык! Хочаш, я табе сваю кепку аддам? На! Не шкадаі! Насі! – Нацягнуў на слуп кепку. – О, дык ты адразу памаладзеў гадоў на дваццаць. Як хлопец стаў. І не п'еш... Дык ты зусім, ёлкі-палкі, жаніх. А што, магу і жаніць. З другога боку вёскі слупіху прыцягну. Побач укапаю. Стойце побач. Абшчайцеся. Любіцеся. Зробім! Я трохі прылягу, а тады мы і ў сваты... Ты толькі напомні: магу забыць. Буду сватам я! – Сцяпан нарэшце лёг на лаўку, хістаючыся дашлёгаўшы да яе, неўзабаве захроп, а потым грукнуў кулаком па дашчаным плоце. — Як вязеш, бю... бю... бюракрат? З полкі падаю. На паваротах палягчэй. Табе зразумела, бю... бю... Цьфу! К сыну еду. У Крым... к Ваньку...

Праспаўшыся, стары пасядзеў крыху на лаўцы, аднёс на падворак парожнюю бутэльку і шклянку, а потым успомніў, што ходзіць без кепкі, доўга шукаў яе: няма. Ледзь чутна бубніў сабе пад нос:

– І куды яна падзелася, зараза? Цяпер жа новую купіць – без штаноў застанешся. Хто б мог сцібрыць? Маруся? Лідка? А больш і няма ў нас каму. Ды і навошта яна ім? Ад курэй яйкі несці? – І раптам заўважыў кепку на слупе, абрадавана ўздыхнуў: – Вось яна куды забралася! Што, слуп, панасіць рашыў? Мая, дружок! Хоць і табе яна падыходзіць, хлусіць не буду. Але – мая. Даруй.

Ён не паспеў нацягнуць кепку на галаву, калі пачуў крыху здзеклівы голас Лідкі, трэцяга жыхара Кругліцы:

– Гэта ты, Сцяпан, сёння п'яны ці не? – уважліва пачала прыглядацца да старога. – Нешта я не магу зразумець. Быццам бы і не.

– Цвярозы. Завязаў, – на поўным сур'ёзе адказаў Сцяпан.

– Ды ты заўсёды на адзін капыл – паспрабуй разбярыся, які ты. Не прасыхаеш.

– Хто тэта не прасыхае? – хаваючы вочы, мовіў Сцяпан.

– Лужа! – Лідка ўсміхнулася.

– Сухі. Сухі, Лідка! – Сцяпан аблапаў, не саромеючыся суседкі, тое месца, дзе ў яго нярэдка бывае мокра. – У-гу! А ведаеш, чаму сухі?

– Спаў мала — не паспеў.

– Ды не-е! Лухта. Віно сухое піў – вось чаму сухі. Разумець трэба. А, да вас, баб, пакуль дойдзе... ну, што трэба? Касіць?

– Здаецца мне ўсё ж, што ты недзе сёння накасіўся. З раніцы.

– Касі каса, пакуль раса, – нечакана для самога сябе ўспомніў пагаворку Сцяпан, да месца ўставіў яе ў размову з суседкай.

– Ты вось што, Сцяпан. Прыходзь сёння... Івана майго памянём. Гадавіна, – расцягваючы словы, амаль паўшэптам сказала Лідка.

Сцяпан крэкнуў, пашкроб нос, бадзёра адказаў:

– Буду, буду, Лідуся.

– Толькі не крыўдуй, Сцяпан, але без віна памянём.

– Ёстваю няхай, га! – Стары падняў з зямлі драч, якім усё збіраецца падмесці каля веснічак, але ляснуў з усяе сілы ім вобзем: – Тады давай тут, на лаўцы. Я вядро вады вынесу. Кружку. І вып'ем.

– Не, за сталом. Я прыгатавала вячэру.

– Эх, бабы, такую вашу! Мужыка памянуць – і без віна! Іван твой перавернецца там, у магіле, ад такога памінання!

– Ты хіба не ведаеш, што за чалавек Іван быў? Няхай хоць цяпер у мяне на стале нічога не будзе, – быццам апраўдваючыся перад Сцяпанам, сказала Лідка. – Ты, я, Маруся – і памянём.

– Што робіцца, га? Што робіцца? Да чаго дайшлі! Не, я дружка свайго закадычнага памінаць вадой не буду, як таго хочаш.

– І не ўздумай прыперціся з бутэлькай! Не уздумай! – рашуча заявіла Лідка.

– Мае дзела!

– Тады лепш не прыходзь!

– Як гэта – не прыходзь? – пакрыўджана глянуў на Лідку Сцяпан.

– Сцёпа, я ж і памінак гэтых зусім не хацела рабіць. Я ж і сказала яму, калі жывы быў: памрэш, нягоднік, забуду на другі дзень. Ён жа ў мяне ў пячонках сядзіць, Іван. Во тут сядзіць... – паказала рукой, дзе яе боль. – Марусю папрасіла, калі раней адыду, каб побач з ім не хавалі мяне: жывы абрыд. Так што і са сваёй бутэлькай не прыходзь.

– А я сказаў Івану: калі памрэш, не забуду цябе, братка. Як я цяпер у вочы яму гляну?

– А я табе сказала, што сказала. Мы тады з Марусяй пасядзім. Без цябе.

– Лідка, апомніся, не бяры грэх на сваю душу! – ёрзнуў Сцяпан.

– Грэх? Які грэх? Гэта піць – святое дзела? Так? Піць? – ускіпела Лідка. – А пра другіх вы думаеце, калі з бутэлькамі дружбу заводзіце, булькачы? Пра жонак, пра дзяцей – думаеце? Ён вось мяне адну пакінуў. Пад старасць. Я была яму трэба толькі маладая, здаровая. А цяпер сама касі, капай, саджай. Яму добра: там нічога рабіць не трэба.

– Дык ідзі і ты... туды, – крыва ўміхнуўся Сцяпан.

– І я пайду, а куды ж дзенуся. Адгуляў, паразіт, на гэтым свеце – і пайшоў сабе, а ты тут горбіся.

– Пі ці не пі, а колькі дадзена – столькі і прашкандыбаеш на гэтым свеце.

– Няпраўда! Яна, яна, зараза, яго скруціла раней, чым трэба. І цябе ж тое самае чакае.

– Завялася, завялася, малатарня, – паморшчыўся Сцяпан.

– Гэта ж нікому не гаварыла, што ён вытвараў. Сам рабіць ленаваўся...

– Дык і добра тады, што памёр, – сказаў і зачырванеўся Сцяпан: дрэнна сказаў.

– Ды і які ж работнік з чалавека, калі яго на пахмелле ліхарадка б'е? А гарэлку шукае. Мне трэба было б яго адразу прагнаць, калі маладая была. Нагой пад задніцу – вон! Як пажаніліся толькі, ён ужо і тады паказаў... Нікому не расказвала. Саромелася... Цяпер раскажу. Паслухай. Самагонку я выгнала – новую хату будаваць пачалі, людзей пачаставаць збіралася. Наваселле зрабіць. Радасць жа – новая хата.

– Гэта так. Асабліва тады, пасля вайны, цяжка было будавацца, – згодна кіўнуў Сцяпан.

– Схавала я самагонку і на працу калгасную пабегла. Лён церабілі, як цяпер помню. А ён дома застаўся – аканіцы падганяў. Працую сабе, ні аб чым кепскім не думаю, а ён, паразіт, усё пераштыкаваў на агародзе, сена перапальчыў, шукаючы яе, заразу... Я ўжо знала яго, грашок вадзіўся, таму і схавала. Не знайшоў. Тады што ён робіць, халера? Ведаў жа, паразіт, што самагонка ў вялікім бутылі была, наліў у парожні бутыль столькі ж вады, паставіў на стол, хлеба нарэзаў, цыбуліну паклаў, а сам глядзіць, калі я на абед бегчы буду. Толькі я парог пераступіла, а ён п'яным прыкінуўся. Ляжыць і стогне. Абарвалася нешта ў мяне ўсяродку, як убачыла, што палавіна самагонкі выпіта. Рукамі ўспляснула: «А такую тваю! У карчы схавала – і там знайшоу!» Натаўкла яму ў каршэнь, за бутыль з вадой – тады ж не знала, што там вада – ды і перахавала. А сама зноў на лён. Не паспела парог

пераступіць, а ён да карчоў, параскідаў іх, знайшоў самагонку і амаль усю выпіў. Га?

Сцяпан смяецца амаль як не да слёз уваччу.

– Вось такое было ў мяне з Іванам наваселле, – роспачна ўздыхнула Лідка. – Ты чаго рагочаш? Смешна табе? Сам з сябе ж і смяешся.

– А не расказваў! А не расказваў! – прамакаючы брудным рукавом слёзы, круціў галавою Сцяпан. – Ну Іван, ну артыст! Райкін!

– Такія спектаклі ён часта ставіў. Гэтых анекдотаў ён навыдумляў на сваім вяку процьму. Так што не прыходзь, Сцяпан, з бутэлькай. Не трэба. Не магу я глядзець на яе.

Сцяпан уздыхнуў, скасіў вочы на Лідку:

– Дык навошта ж тады памінкі? Бульбы налопайцеся з Марусяй і песню зацягніце.

– Пець, можа, не спяём, а паплакаць паплачу. Усе ж я ад яго чацвярых дзяцей радзіла. Прыходзь...– ні слова больш не сказаўшы, Лідка патупала да свайго паселішча.

– Лідка! – крыкнуў наўздагон Сцяпан.

– Што? – павярнулася старая.

– Я дома... чарку... так і быць. А тады прыбя-гу. Ага? – быццам вінавацячыся, ціха прамовіў Сцяпан і прытворна скрывіўся.

– Толькі п'яным не будзь у маёй хаце, – папярэдзіла Лідка амаль гнеўна.

– Цьфу! Такая наша ўжо мужыцкая доля: памрэш – і не памянуць як трэба, – Сцяпан патаптаўся на месцы, успомніў пра драч, падняў яго, закінуў на падворак. – Зараз мы, зараз...

Ён звычайна любіў выпіваць на лаўцы. А чаго? Людзей у Круглiцы няма, акрамя Марусі і Лідкі, ніхто не прычэпіцца, каб і яму ўкапнуў, ды і паветра чыстае, густое. А тут патупаў у хату. Разважаў: «А то яшчэ Лідка запрыкмеціць, што больш абяцанай чаркі пракаўтнуў. Ну яе!» Прыгатаваў закуску – кавалачак хлеба і цыбуліну, напоўніў шклянку, крышачку наліў у другую – для Івана. Падняў сваё пітво, уздыхнуў:

– Іван, ты чуеш мяне? Памінаць цябе буду. Падрыхтуйся. Сёння год, як ты пайшоў ад нас, сябра мой любы. І выпіць няма з кім. Адзін застаўся. Эх! Спі спакойна, дружок. – Выпіў. – Як слова даваў пры жыцці, за цябе, братка, і выпіў. Хто ж, калі не я? А твая жонка Лідка не памінае па-нармальнаму. Ну, ты ж ведаеш яе, не табе гаварыць. Шэльмы яны, бабы! У нас тут, Іван, перамены вялікія. Рынак, хутка будзем жыць без скарынак. Пенсія кожны дзень новая. Гарэлка дарагая. Так што, можа, і добра, што ты своечасова пайшоў... не бачыш усяго гэтага

кавардаку. Эх, папівалі, папівалі мы з табой, братка. Было-о. Дзе вы, залатыя дні? Вярніце Брэжнева. Ну, Іван, яшчэ дазволь за цябе.

– Выпіў. – Во, і добра. Ну што табе яшчэ сказаць пра жыццё-быццё? А хрэн яго ведае што. Я тут адзін сярод баб – як сланечнік у голым полі. Ага. Лідка твая яшчэ здаровая, што кабыла. З Марусяй яны спеліся, а больш няма з кім. Адна за адной ходзяць, як прывязаныя. Не п'юць. Чаго не, таго не. А ў Хатоўні ёсць бабы, якія мужыкам не ўступаюць. А яны – не, трымаюцца малайцом. І мяне яшчэ выхоўваюць, бывае. Анатацыю чытаюць. Мараль. «Не пі, Сцяпан, а то скора з Іванам сустрэнешся». А мне, можа, і хочацца сустрэцца з табой, пасядзець, як у былыя часы. Толькі, Ваня, не там, дзе ты цяпер, не-е. Калі б у мяне за сталом… ці на маёй лаўцы. Давай спяём? Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка-а-а… Іван, памагай! Ты ж мая, ты ж мая, перапёлачка-а…

Памінкі Сцяпан праспаў.

Раніца наступнага дня.

Сцяпан выкаціў веласіпед, старэнькі, рыпучы, але колы так-сяк круцяцца – можна руліць. Ён іншы раз гэта і робіць, асабліва калі трэба ў краму на цэнтральную сядзібу. Пасля ўчарашняга ў Сцяпанавай галаве – быццам чэрці ў ступе таўкуць… Стары марудна, нязграбна чапляе на руль веласіпеда сумку з бутэлькамі. Ім у сумцы цесна, напіў у апошнія дні багата, і яны вывальваюцца з сумкі на зямлю. Сцяпан мацюкаецца, не здаецца, падбірае посуд, утоптвае туды іх, нібы сумка гумавая. За гэтым заняткам яго і захапілі Маруся з Лідкай.

– Куды? Не пусцім! – над вухам старога прагрымеў уладарны голас Марусі.

– Нікуды не паедзеш! – гэта ўжо Лідка.

– Лідка, спусці колы, у яго няма насоса.

– Правільна! – Лідка выцягнула залатнікі. – Цяпер не паедзе.

Сцяпан нарэшце зразумеў, што адбываецца. Нявыкрутка. Калі жанчыны ўзяліся за сваё – зробяць, тут у іх і азарту, і запалу хопіць. Саступаючы ўбок, стары пагрозліва тарганууся:

– Бабы! Бабы-ы! Вы ж… вы ж страшней за немцаў! Што вы робіце?

– А калі ўздумаеш без веласіпеда ісці за віном – звяжам. Лідка, вяроўка ёсць? – Маруся зняла сумку з бутэлькамі з руля, пакаціла веласіпед пад паветку.

– Знойдзем!

– А цяпер вынось стул, – паставіўшы веласіпед, глянула на Сцяпана Маруся, прытупнула нагой. – Стул, кажу! Або табурэт!

– Навошта? – дзівіцца Сцяпан.

– Вынось!

Пакуль Сцяпан хадзіў па стул, Лідка шапнула Марусі:

– Што ты, дзеўка, надумалася?

– Пачакай, я і сама яшчэ не ведаю, – таксама шэптам адказала Маруся.

Сцяпан прынёс стул.

– Наце, – сказау ён крыху раздражнёна.

– Садзіся, – загадала Маруся.

– Ну, сеў.

– Лідка, станавіся бліжэй да мяне, – Маруся тузанула Лідку за рукаў.

– Закурыць... ета хоць можна? – крывячыся, паправсіў дазволу Сцяпан.

– Куры, – дазволіла Маруся.

Сцяпан спрабуе прыкурыць, але запалка ніяк не можа сустрэцца з папяросай – трымціць рука. Лідка дапамагае прыкурыць.

– Дзякуй, Лідуся, ты чалавек, – выказвае падзяку Сцяпан.

– Ты мяне не хвалі, – нягледзячы на добрае слова, Л1дка шкуматнула старога за вуха. – Не хвалі, хігрун. Эх, Сцяпан, Сцяпан! А ясі як? Ці трапляеш лыжкай у рот?

– Не. Пакуль не вып'ю – не трапляю, – усе роўна як чакаючы спачування, шчыра прызнаецца той.

– Ты, Сцяпан, не крыўдуй на нас, – гэта ўжо Маруся. – Дабра табе хочам. Выратаваць цябе хочам. А то ўчора ж зноў вызначыўся.

– Няўжо? – аслупянеў Сцяпан.

– Во, ён і не помніць, Л1д, ты глядзі, га! Старшыню ж ты ўчора ледзьве не пабіў... За грудзі схапіў: ты чаму тэта Івана не памянуў? І не сорамна?

– Што ж будзе, га? — глыбока ўздыхнуў Сцяпан.

– Не ведаем мы. Але паколькі ты адзін у нас сусед, то мы і павінны думаць пра цябе.

– Не пакінем у бядзе, як таго хочаш, – падтрымала Марусю Лідка.

– Думайце. Чакаю. Ну, а стул навошта? Электрычнасць сюды не падвялі хоць? – стары павадзіу вачыма вакол стула, на якім сядзеў.

– Мы хочам для цябе песню спець, – амаль у самае вуха сказала Сцяпану Маруся. – Павесяліць цябе хочам.

– Пасядзі, як у клубе на канцэрце, – голас Лідкі пачуўся над другім вухам.

– Бабы! Адпусціце! Не трэба мне ваш канцэрт, Зыкіны! Апошні раз. Га?

– Лідка, зацягвай!

І Лідка зацягнула: «А ў суботу Янка ехаў ля ракі... пад вярбой Алёна мыла ручнікі...»

А потым старыя зацягнулі разам: «Пакажы, Алёна, хлопцу земляку, дзе тут пераехаць на кані раку...»

Сцяпан рашыў перапець-перакрычаць Марусю з Лідкай і зацягнуў, на колькі было духу, сваю адзіную і любімую песню: «Ты ж мая, ты ж мая пера-пёлачка... Ты ж мая, ты ж мая-я-я-я-я!.»

Жанчыны здаліся, але не да канца, канцэрт на гэтым не заканчваўся, і Маруся прапанавала свайму адзінаму слухачу:

– Можа, табе казку расказаць?

– Бабы, апошні раз! – Сцяпан скрыжаваў рукі на грудзях, у ягоных вачах была жальба да самога сябе. – Сёння – і усё, кропка! Я сам сабе слова даў. Я ж памру... Памру я! Ці вам не шкода мяне? Га, бабы? Не шкода?

– Не дадзім табе памерці. Лідка, пачынай танец!

– Бабы-ы-ы! – Сцяпан устаў са стула, тупнуў нагой, і яго, відаць, было далёка чуваць.

– Адзін ты ў нас застаўся мужчына, зберагчы цябе хочам, – Маруся пасадзіла Сцяпана зноў на стул, пагладзіла па галаве, чмокнула ў шчаку. – Адзіны... любы наш.

Лідка таксама гладзіць Сцяпана па галаве:

– Мілы наш... каханы... дарагі

Маруся працягвае:

– Прыгожы... залаты... Ягадка наша балотная.

Нарэшце Сцяпан ёрзнуў на стуле, усхапіўся, замахаў рукамі, быццам адганяў пчол:

– Прэч, прэч! Кыш ад мяне! Ды што ж тэта з вамі, старыя кашолкі, робіцца? Вы нармальныя ці падурнелі?

Не звяртаючы на Сцяпана ўвагі, Маруся загадала:

– Гармоню, Лідка!

– Мяхі мышы згрызлі!

Тады Маруся зірнула на Сцяпана:

– А дзе твая балалайка?

– Струны няма! – Сцяпан зусім, здаецца, ускіпеў.

– А мы і так станцуем, – Маруся цягне Сцяпана танцаваць, той упарціцца, адбіваецца, як толькі можа.

На выручку спяшаецца Лідка. Сцяпан ледзьве пераступае нагамі, жанчыны раскручваюць яго, бы юлу, «граюць» губамі, і на вясковай вуліцы закурэў пыл.

– Маруся! Лідуся! Злітуйцеся! Вы людзі ці хто, такую вашу!.. – просіцца Сцяпан, хапае ротам паветра, бы рыбіна, выкінутая на бераг. – Хопіць! Хопщь! Ляснуся! Хто вы, я пытаюся? Варвары!

– Мы – бабы! – смяецца Маруся. І канцэрт працягваецца. Жанчыны таксама стаміліся. Сцяпан жа плюхнуўся вобзем, доўга адсопваўся, але гаварыць нічога не гаварыў – слабаватыя лыткі, што і казаць, не тыя гады.

– Ну, дык паедзеш па віно? – скасіўшы вочы на Лідку, павісла над Сцяпанам Маруся.

Сцяпан спакваля пакруціў галавой, і яго хапіла толькі на одно слова:

– Не...

Калі жанчыны пайшлі па хатах, Сцяпан устаў. Атрос пыл з портак, стомлена прыхінуўся да слупа – і яны разам паляцелі на зямлю. Так і ляжалі колькі часу. Потым Сцяпан заварушыўся, пагладзіў рукой слуп, пяшчотна, бы нешта жывое, сказаў яму:

– Як тэта мы з табой так, га? Ці ты таксама рашыў паскакаць над бабскую музыку? Яны закружаць. Яны ўмеюць. – Ён узняўся, круціць галавой: – Во, галава як не свая. І апахмяляцца не трэба... Усё плыве... усё кружыцца. Уставай, уставай і ты, слуп. – Падняў слуп, умацаваў. – Стой. Стой, братка. Вось так. Тварам на поўдзень... да сонца... цяплей будзе. Я зараз... Пачакай мяне. Я хуценька.

Праз колькі часу стары вярнуўся з бярэмем венікаў.

– Табе скажу, слуп, па сакрэце скажу... Я дзяцей сваіх выклікаў. Усіх дзяцей... Вінаваты я перад імі, а можа, і яны перада мной... бо як жонка памёрла – не едуць... і носа не паказваюць. А навошта ехаць? Што ў мяне возьмеш? Жыўнасць не трымаю, агарод запусціў. А галінкі новыя, моцныя... Дубовыя... Дзевяць штук. На адзін дзень, на пятае чысло дзяцей выклікаў. Прыедуць калі, то я кожнаму з іх па веніку – і няхай сякуць, сякуць мяне колькі моцы. Заслужыў. Заслужыў Сцяпан. Няхай адпішуць мне прачуханец, можа, і паразумнею... хоць і позна ўжо разумнець... позна... – Сцяпан кідае венікі перад слупом. – Гэта Кольку... Вольцы... Ваньку... Светцы... Ларысцы... Сашку... Ягорку... Клаўцы... Пецьку...

**АЙ-Я-ЯЙ!**

Калі яшчэ так хваляваўся саракагадовы механізатар Сяргей Хамічка, як было ў тую, апошнюю, ягоную паездку ў сталіцу, – і сам не прыпомніць. Гэта каб ехаў прагуляцца чалавек, тады іншая справа: глядзі-паглядай сабе спакойна ў акно з цягніка, а ў горадзе, перш чым прайсціся па люднай, як заўсёды, вуліцы усцяж дамоў-гмахаў, на людзей паглядзець і сябе паказаць, можна і куфаль піва апаражніць. Піва – рэч такая, што не пашкодзіць: ад яго, халера, і настрой скокне ўсярэдзіне, як ртуць у градусніку, угору, і смагу натоліць. Карысць пэўная ёсць. Мінус толькі ў тым, што не доўга носіцца тое піва, нешта дужа яно скора вонкі мкнецца, на волю. А горад – не вёска, тут людна, вачэй шмат: так і сочаць за кожным тваім крокам – прашпігуюць наскрозь, толькі не тое зрабі... А чалавек ён хваравіты, то – небяспечна куляць піва. Куфаль – так, можна, адзін шкоды не наробіць, хутка недзе загубіцца ўсяродку, суцішыцца.

А тады ехаў ён не гульбы ладзіць – у бальніцу, вёз здымкі з рэнтгену і апісанне хваробы, няйначай, да самога прафесара на кансультацыю. І вось трэба было думаць: куды спярша, ці па сваёй справе тэпаць, ці аднесці адразу паклажу ў тую акадэмію, дзе вучыцца на скульптара сусед Толік. Нармальны чалавек спярша свае справы вырашае, а тады ўжо – чужыя. Але як тут быць, калі ж матка яго, Пятроўна, напёрла ў торбу няйначай каменне: адрывае руку паклажа. Трэба ўсё ж неяк пазбавіцца ад торбы – так вырашыў Сяргей Хамічка, іначай яна ўсё шлунне вытрасе, з ёй багата не паходзіш.

І ён спусціўся ў метро. Дарогу ведаў – не першы раз. Пакуль ехаў, паспеў пусціць колькі кпінаў на адрас Пятроўны: «Казаў жа ёй, каб перадала, калі ўжо так шкадуе свайго студэнта-басурмана, пук грошай, дык не паслухалася. А так і мне б было добра, і яму, мусіць жа. Пайшоў у сталоўку, нацерабіўся там, калі ёсць за што. Але ж Пятроўне не цягнуць самой торбу.... то што казаць: абы з рук, а там і гарам яно гары. Хоць мададзіца прызналася, што грошы яму дай, то прагуляе, а калі кавалак сала будзе, то не загаладае. Мо і яе праўда, матчына? Яно ж і разабрацца, дык пагодзішся – цяпер для маладых спакус навыдумлялі зверх меры... А сала, як у тым анекдоце, і ў Афрыцы сала...»

Дзе займаецца сусед Толік, высветліў адразу: жанчына, што дзяжурыла пры ўваходзе, аказваецца, добра яго ведае, таму адразу

паказала, куды трэба кіраваць. У майстэрню. Там практычныя заняткі. «Лепяць фігуры». Ну, лепяць дык лепяць. Спыніўся перад дзвярыма, паляпаў. Ціха. Хоць там, адчуў, ідзе жыццё – было чуваць, калі затрымаць дыханне, як там перамаўляюцца, шоргаюць падэшвамі, нечым злёгку грукаюць. Зноў паляпаў, а калі не атрымаў дазволу на ўваход, лёгенька піхнуў ад сябе дзверы – тыя паслухаліся і і паднеслі яму, Сяргею Хамічку, бы на далоні, увесь краявід той майстэрні, дзе «лепяць фігуры». Гэта пазней ён сустрэнецца твар у твар з суседам Толікам, аднак жа спярша госць сталіцы ўбачыў перад сабой голую – у чым маці нарадзіла – дзяўчыну, якая стаяла перад суседам, трымаючы на сцёгнах рукі, шырока адставіўшы локці, а галаву крыху адкінуўшы назад: ляпі фігуру, скульптар! Нават калі Сяргей Хамічка выгукнуў ад здзіўлення: «Ай-яй-яй!» – яна, тая дзяўчына, не скранулася з месца. Стаяла, бы каменная, бы ўжо гатовая скульптура. Але ж не – трошкі варухнулася, лыпнула вачыма: жывая, іці яе маць! Нельга было сказаць, каб Сяргей Хамічка разгубіўся, але і адчуў сябе няёмка – упершыню ён трапіў у такую канфузлівую сітуацыю. Так блізка ён нікоднага разу – а пражыў жа, дзякаваць Богу, багата – не бачыў голай жанчыны. Адразу ж на месцы той уявіў сваю Вольгу, як, напрыклад, у прадлазніку, і ўбачыў: яна спалохана замітусілася, пачала хаваць-захінаць усе тое, што нельга глядзець нават яму, мужу, усім, што траплялася пад рукі – хоць тазам, хоць венікам, а хоць і растапыранамі пальцамі. Абавязковаа б накінулася: «Ты што – аслеп? Не бачыш, куды прэшся?» А яна – хоць бы што: пазіруе Толіку, а той і ласы, бач ты яго, глінай ці чым там квэцаць.

– А, гэта вы, дзядзька Сяргей, – нарэшце ўдзяліў яму ўвагу сусед, падаўся насустрач, выціраючы ганчуркай рукі. – А мы вось... ага... працуем... Лепім!

Сяргей Хамічка хацеў сказаць: «Ды бачу, бачу, чым ты тут займаешся», але замест гэтага зноў паўтарыў: «Ай-я-яй!» А сам зноў паглядзеў на дзяўчыну, тая расслабілася, села, паклала нагу на нагу, закурыла, і нешта гаварыла іншым хлопцам, якіх тут, у майстэрні, было яшчэ некалькі.

– Хто гэта? – калі выйшлі ў калідор, кіўнуў на дзверы Сяргей Хамічка.

– Натуршчыца, – спакойна, як ні ў чым, адказаў Толік. – Яна ў нас падрабляе.

– Што, за гэта, што таўчэцца перад вамі, цыцкамі трасе, ёй і плоцяць? – не паверыў госць.

– Канешне. І някепска. Кожны зарабляе хлеб, як можа.

– Ды яно-та так, ага... але ж... – развёў рукамі Сяргей. – Бяры вось, што маці перадала. Падсілкоўвайся. Табе, я бачу, трэба есці шмат:

работа цяжкая. А то штаны тут, у сваёй акадземіі, згубіш. Ды на сала, на сала націскай.

Толік усміхнуся куточкамі вуснаў, а сказаць нічога не сказаў. Толькі правёўшы суседа да выхаду, падзякаваў і папрасіў, каб маці нічога больш яму не перадавала, бо падвярнулася быццам на гарадскіх могілках пабочная работа, і ў яго павінны быць грошы.

Колькі і ехаў назад у вёску Сяргей Хамічка, з галавы не выходзіла тая сустрэча ў майстэрні з голай дзяўчынай. Нават пра хваробу сваю не думалася – гналі думкі яе прэч, а на першы план выстаўлялі ўбачанае знянацку ў акадэміі. Ён пракручваў сітацыю і так, і гэтак, але не змог бы, пэўна паверыць, што такое можа быць, каб ад каго пачуў пра гэта, а не ўбачыў усё на свае ўласныя вочы. Не-а, ніколі б не паверыў. Ні за што. Хоць забі. Не паверылі і яму мужыкі каля вясковай крамы, калі яны на ганку травілі неяк байкі.

– Ды што ты брэшаш, Сяргей!

– Быццам на цябе і не падобна!..

– Не балбатун жа!..

– Як гэта, у акадземіі, а не ў якім там бардэлі, голая дзеўка ходзіць перад гуртам хлапцоў, а тыя з яе лепяць… Быць не можа!

– Ды і дзе можна такую смелую знайсці, каб пазіравала пры ўсіх! Якая матка такую радзіць можа?

Сяргей, як мог, апраўдваўся, што нічога не прыдумаў, бажыўся-кляўся, а калі яны ўжо такія няверы, мужыкі, то хай дачакаюцца Толіка на канікулы, самі ў яго папытаюць. Ён ім скажа. А куды дзенецца, блазнюк, перад народам не ўстаіць. Перад народам?.. Сяргею, праўда, не менш было цікава, а як можна нармальнаму маладому хлапцу – прабачце, цьфу-цьфу-цьфу – устаяць перад адной вось такой прыгожай дзяўчынай… ды яшчэ голай. І хіба ж будзе ляпіцца тая гліна, халера, калі яна перад табой ва ўсёй сваёй красе, ды яшчэ рукі растапырыла і галаву, бачце вы яе, адкінула назад… і вачыма свідруе…жывая ж таксама… Што робіцца, людзі!

Ай-я-яй!..

Але прайшло некалі дзён, і Сяргею ўсё часцей і часцей ўспаміналася не сама паездка ў сталіцу, а тая дзяўчына, якая стаяла перад суседам Толікам у чым маці нарадзіла… Натуршчыца. Стаіць і стаіць перад вачыма. Пара б ужо і забыцца. Дык не – круціцца, юла!.. Хоць ты на яе гыркні: «Кыш з вачэй, смала!» І ён пачынаў – а няго ж! – зайдросціць суседу Толіку, чэснае слова. І пашкадаваў, што ў свой час не любіў вучыць урокаў і не ведаў, што недзе ёсць акадэмія, у якой вучаць на скульптараў…

**В А Р О Н А**

Амаль кожны раз яна прачыналася, калі горад яшчэ спаў. Ледзь-ледзь пачынала днець, людзей нідзе амаль не відаць і не чуваць, і жанчына, а жыве яна на другім паверсе, распахвала на балконе насцеж акно – і адразу ж адчувала, як свежае паветра абдавала твар шчымлівай і лагоднай прахалодай. Куст жасміну ў апошні год падцягнуўся, і цяпер яго галлё нібыта просіцца да жанчыны ў госці: так-сяк абламала найбольш настырныя галіны; тыя, што можна было дастаць рукамі, адвяла ў бок. Вось, цяпер іншая справа: цяпер добра бачыць яна пад вокнамі сваіх кацянятак, яны задралі на добрую цётку свае кволенькія галоўкі, лыпаюць вочкамі, бывае, нядаўга могуць так трываць, тады яны проста куляюцца на бачок. Але – глядзяць, як толькі можна глядзяць на яе, на сваю карміцельку, глядзяць мужна, з надзеяй.

– І вы ўжо прачнуліся, мае харошыя? Бягу,бягу!..

Наталля Цітаўна любіла раніцы. Хоць і выйшла год назад на пенсію, пазней прачынацца не стала. Гэта толькі марыла: вось стану пенсіянеркай, тады адасплюся. Дзе там! Ці тое прывычка, ці нешта іншае, але як толькі загаворыць на кухні радыё, яна ўжо на нагах. І сёння таксама, як і кожнага ранку, жанчына спярша паставіла на пліту чайнік, а пакуль вада будзе падаграваецца, заспяшалася на балкон і пашукала вачыма сваіх гадаванцаў. А іх, прызнацца, і шукаць асабліва не трэба: кацяняткі тут як тут, а калі дзе і забавяцца, то адразу ж збягуцца пад яе балконам. Дакладней – спаўзуцца. Усе чацвёра. Яны зусім маленькія, кволенькія, і нават самая нізкая трава для іх пакуль вялікая перашкода, замінае. Наталля Цітаўна ж забылася пра чай, ён так і астыне ў кубку. Яна похапкам накрышыла хлеба ў неглыбокую місачку, наліла туды малака. Для іх хопіць ежы. Паўтарыла сваё “Бягу, бягу!”, і асцярожна, каб не расплешчыць сняданак для кацянятак, на выцягнутай руцэ панесла місачку перад сабой. А калі тыя прыняліся сілкавацца, кожнае кацяняці пагладзіла, прымаўляючы:

– Сіроткі вы мае… Ешце, ешце, я вам яшчэ вынесу. Сама не вып’ю, я вам дам. Хто ж вінаваты, што ў вас мамкі няма. А дзе яна, вы, відаць, і самі не ведаеце. Толькі не паверу я, што кошка такіх немаўлятак магла кінуць, адцурацца. Такіх харошанькіх. Чалавек, даруй Госпадзі, можа, вунь паказваюць па тэлевізару, а кошка не дазволіць сабе такога… Можа, забіў хто вашу матку,а? Піце, ешце…

Вось і малайцы. Толькі не штурхайцеся, усім хопіць. Падрасцеце, тады вам гора менш будзе. Лаўчэйшымі і хітрэйшымі станеце.

На прыстрэшку ганка, Наталля Цітаўна толькі цяпер заўважыла, сядзела ўчарашняя вялікая чорная варона, не зводзіла вачэй з місы, у якой вабілі яе дробненькія кавалачкі хлеба, насычаныя малаком. Варона, відаць, аблізвалася…

– А, ты зноў тут? – з дакорам у голасе падняла на яе вочы жанчына.

Варона каркнула і, нібы засаромеўшыся яе, адвярнулася.

– Глядзі ў мяне: калі зноў у малых адбярэш ежу – лаяць цябе буду. Зразумела? Ты ж глянь якая здаровая, можаш знайсці сабе што пакляваць, а дзе, скажы вот мне, яны, сіроты, возьмуць, хто паклапоціцца? Кыш!

Варона быццам зразумела жанчыну і паслухалася: узмахнула крыламі і пераляцела на суседняе дрэва, адкуль таксама не пераставала сачыць за кацянятамі і Наталляй Цітаўнай.

Тым часам на ганку паказалася з пузатай торбая новая суседка, жанчына сярэдняга веку. Як яе зваць-велічаць – Наталля Цітаўна не ведае, жыве яна высока – ажно на дзевятым, апошнім, паверсе, і з’явілася тут зусім нядаўна: памяняла, кажуць, двухпакаёвую кватэру на трох. Мае мужа і дачку-падлетка, гэта ўсе бачаць, ёсць у іх і даволі шыкоўная іншамарка. Дзе працуе гэтая жанчына, Наталля Цітаўна таксама не ведае, адно заўважыла, што кожнай раніцай спяшаецца некуды яна з туга набітай торбай. Як вось і цяпер. Новая суседка затрымалася каля Наталлі Цітаўны і кацянятак, моўчкі глядзела на іх, а тады напусціла на сябе строгасць і нечакана для яе мовіла халодным, як лёд, голасам:

– Разводзіце тут антысанітарыю!

– Як гэта? – ад нечаканасці, пачуўшы такое, Наталля Цітаўна ажно хаўкнула ротам: яна ж спадзявалася, што новая суседка таксама паспачувае кацяняткам, якія рана засталіся без маці, а яна, бачце што!.. Цюкнула, бы маланкай.

– А начамі што яны вырабляюць, каты гэтыя! – твар у новай суседкі ажно пачырванеў ад злосці, яна паставіла торбу перад сабой: відаць, цяжкая, а мо сабралася доўга перавыхоўваць Наталлю Цітаўну. – Спаць людзям не даюць. Вяселлі тут, бачце вы іх, ладзяць. Я на дзевятым паверху жыву, і тое чую. Гэта непарадак.

– Пачакайце, пачакайце, не гарачыцеся, – пачала супакойваць суседку Наталля Цітаўна. – А я вось на другім паверсе, і мне каты не перашкаджаюць. Сплю. Не чую іх. Ага. Сплю і не чую.

– І спіце, а я не магу! Развялі тут звярынец. А сабак колькі! Божа, і што за людзі ў гэтым, цяпер ужо і маім, доме?! Вось там, на праспекце Касманаўтаў, дзе я жыла раней, такога няма. Але было. Я, я навяла парадак. Цяпер мяне там ўспамінаюць, упэўнена, усе добрым словам. А як жа інакш?!

Наталля Цітаўна ўздыхнула, раптам адчула, што перасыхае і храсне ў роце, а нейкая горыч захаланяла ёй у сярэдзіне грудзі. Усё ж яна знайшлася, каб сказаць:

– Не чакала я ад вас, жанчыны, такога зларадства. Вы ж сама маці. А кацяняткі сіроты… Няўжо вам не шкада іх?

– Калі шкадуеце, забярыце дамоў! – валёхаючыся з боку на бок, новая суседка пайшла па сваіх справах, і калі праходзіла пад клёнам, на якім сядзела варона, тая каркнула:– Кар-р!.., чым, падалося, нават спалохала яе, бо новая суседка ад карканння ажно здрыганулася, не адразу, а толькі ачомаўшыся, задрала галаву на дрэва, а тады зіркнула на Наталлю Цітаўну, і злашча папракнула: – Вось, атрымлівайце! Карміце, карміце і варон!.. Яны за вашымі кацянятамі даядуць. Не, я так не пакіну ўсё гэта!..

Настрой быў сапсаваны, але Наталля Цітаўна не асабліва зважала на ўсё гэта, а больш пачала супакойваць кацянятак, нібы і тыя чулі злую цётку і разумелі ўсё, што яна сказала.

– Не слухайце вы яе, ешце, ешце. Вазьмі, кажа, да сябе ў кватэру, калі так любіш… Гэта вас, мае харошыя, сказала, каб узяла. Я б узяла. Месца ёсць. А потым што буду рабіць, калі падрасцеце? Ці пракармлю я вас? Ды і прывыкну, а калі блізка да цела станеце, то адрываць потым балюча. Ведаю. А так вы на свежым паветры куляецеся-забаўляецеся, траўку, якую трэба, знойдзеце, па дрэвах палазіце… А ў мяне што? Асабліва радасці мала… Жыллё як жыллё… Чатыры сцяны… Ложак, стол… Тэлевізар уся радасць… А тут яшчэ такая аказія, мае харошыя: хварэю я часта, то бываю ў бальніцы… А каго папрашу, каб за вамі прыгледзіць і накарміць? Няма каго. Сын п’яніца, яму ключы не давяраю, а мужык, Сцёпка, памёр, ірад… А так, калі на вуліцы, з голаду не памрэце… Тут і сметніца побач… знайсці, кажуць, можна тое-сёе з ежы… Вам бы падрасці толькі хутчэй… на ногі стаць… А тая цётка, з дзевятага паверха, накінулася на вас, як учора варона… Вароне – даравальна: сама галодная… А ты ж, суседка, – чалавек, то не будзь варонай, не адымай у кацянятак ежу… Жывое ж… Няўжо не баліць? Хай варона не разумее… А чалавек павінен бы… павінен бы чалавек…

Варона, нібы таксама пачуўшы і зразумеўшы словы жанчыны, каркнула і паляцела прэч. Кацяняты, насмактаўшыся малачка, пачалі забаўляцца. “Што з іх возьмеш – дзеці ж”, – шчасліва ўсміхнулася Наталля Цітаўна. Яна падняла парожнюю міску, паглядзела яшчэ раз на кацянятак, якія схаваліся ўжо ў кветніку – толькі па тым, што калываюцца ліліі, рамонкі і цыніі, можна было зразумець, дзе яны, і заспяшалася піць чай. За сталом зноў успомніла новую суседку:”Трэба ж быць такой!.. Ай-я-яй! ” Не выпускаючы з рукі кубак, Наталля Цітаўна падалася на балкон. Сёрбаючы кароткімі глыткамі халодны чай, яна пашукала вачыма кацянятак. Кветкі стаялі нерухома. “Спяць”, – падумала жанчына і тут убачыла, як на тое месца, дзе колькі часу назад стаяла міска з ежай для кацянятак, прыляцела варона з кавалкам нечага у дзюбе, паглядзела па баках, а потым паклала прынесенае на дол і села на прыстрэшак ганка. Сядзела і не зводзіла вачэй з кавалка каўбасы, як паспела заўважыць Наталля Цітаўна: чакала, трэба меркаваць, кацянятак. Нібы і яна ведала, што тыя – сіроты, і іх трэба агарнуць цеплынёй і клопатам.

На вачах Наталлі Цітаўны выкругліліся слязінкі. Яна паглядзела на варону, іх позіркі сустрэліся.

– Прабач, – сказала жанчына птушцы. – Ты ведаеш, за што…

## ПРА ВАЙНУ

1

Не, я тады не хадзіў яшчэ нават у школу, калі ў нашай вёсцы зрабілі брацкую магілу – як і належыць, з помнікам салдату, які моцна сціскаў у руцэ аўтамат. Я, відаць, быў яшчэ у той час зусім малы, бо не помню нават зусім таго дня. Помню толькі, што помнік той з'явіўся перад маімі вачыма неяк адразу, нечакана, не было не было яго, і раптам – вось ён перад табой: глядзі, хлопчык, гэта салдат. Чаму ён такі вялікі і суровы – даведаешся пазней. Гэта цяпер я разумею, што ў жыцці чалавека настае той момант, калі ён нешта заўсёды пазнае і запамінае ўпершыню.

Хадзіў, канешне ж, каля таго помніка я і раней, калі, мабыць, мама вадзіла мяне яшчэ за руку, а мо я трымаўся за яе падол. Хоць помнік і быў, але я не бачыў яго – не бачыў так, як трэба было бачыць: не дарос. Усяму, сапраўды, свой час. А ўжо калі быў вучнем, мы штогод прыходзілі да помніка ў Дзень Перамогі, нехта са старэйшых абавязкова расказваў пра вайну, а мы чыталі вершы – таксама пра вайну. Даверылі і мне аднойчы прачытаць напамяць верш, аднак я схібіў, не дачытаў яго да канца: расплакаўся. Мяне супакоіла настаўніца Вольга Кандратаўна і выцерла мне сваім насавіком слёзы. Я даў сабе слова больш не пускаць слязу, калі буду чытаць зноў верш на наступны год, але мне не далі больш яго, – ні на наступны год, ні пазней. Былі ў нас чытальнікі, якія не плакалі. Яны і дэкламавалі. Няхай. А я тым часам, пакуль яны расказвалі, чытаў прозвішчы салдат, што былі выбіты на помніку, і мне так іх было шкада, што я румзаў яшчэ мацней, але ўсе глядзелі на таго, хто чытаў верш, і мяне не заўважалі. Гэта і добра, што не заўважалі: няма чаго выстаўляць слёзы напаказ.

Помнік добра быў відаць з акна нашай хаты, і я, калі рабілася сумна, падоўгу глядзеў на салдата. І хоць ён адвярнуўся ад мяне і я бачыў толькі шырокую спіну, я ўсёроўна бачыў яго вочы, і так шкадаваў, што глядзіць ён уніз, ніяк сабе пад ногі, а мне вельмі хацелася, каб азірнуўся ён на нашу новую школу, на нашу хату, якую пабудавалі мае бацькі замест той, што згарэла ў вайну. Ды багата чаго мог бы ўбачыць салдат, каб павярнуўся: і ферму, і млын, і кузню...

– Ён, сынку, усё бачыць, не хвалюйся, – суцяшала мяне мама, калі я сказаў ёй пра тое, што непакоіла.

Хоць я і не разумеў, як ён бачыць, калі стаіць спіной да ўсяго, але пагаджаўся з мамай: мамы ўсё ведаюць. Ды і не толькі мамы – таты таксама, а калі паслухаць майго, то без яго б і зусім не было брацкай магілы. Не раз і не два апавядаў ён мне, калі траха падрос, як збіралі яны, вяскоўцы, косці дзе толькі можна было і звозілі на пагорак, дзе мелася быць брацкая магіла. За вёску ішоў цяжкі бой, шмат было забіта салдат, і самі ж салдаты хавалі тых, хто загінуў. У іх, аказваецца, была свая пахавальная каманда. Але дзе там было ім калі глыбока капаць ямкі, і калі прайшоў час, дажджы і веснавыя ручаіны размылі паграбенні. І яшчэ плугі, калі пачалі апрацоўваць людзі зямлю, пачалі натыкацца на косці.

– У нас тады спрэчка адбылася, – прыгадваў тата, – па такому пытанню. Трапляліся і конскія косці, іх звозілі разам... І хацелі таксама закапаць з салдацкімі: маўляў, і яны ж, коні, ваявалі, як і людзі... Няхай побач спяць людзі і коні. Чубіліся ажно. Але перамаглі тыя, хто быў толькі за салдат. Конскія косці пахавалі асобна, за вёскай. Правільна, канешне ж, зрабілі. А ты як думаеш?

Я тады, відаць, толькі пашкадаваў, што коням не ставяць помнікаў…Ці, можа, яны дзе і ёсць?..

2

– Хавошка і Наталля ідуць ужо да сваіх хлопцаў, – мама паглядзела ў акно і ўбачыла на дарозе, што цягнулася пад горку, жынчын, якія з вузельчыкамі нетаропка падымаліся да помніка. – На спатканне. Нешта сёння раней, чым заўсёды? Яны кожны год на дзевятае мая прыходзяць. Раніцай, перад школьнікамі...

Я прыехаў з горада, дзе сёння жыву і працую, і мама частуе мяне дранікамі. Ужо прайшло шмат часу з таго дня, калі я чытаў першы і апошні раз верш каля помніка. Помніка з акна ўжо даўно не відаць – яго атулілі дрэвы. Памёр тата. Пра вайну ён мне нічога не расказваў, хоць я і прасіў яго, бо ён, відаць, быў такі плакса, як і я, а толькі неяк прызнаўся, што яму, калі вярнуўся дамоў, было сорамна хадзіць па вёсцы: з усіх яго аднагодкаў адзін ён уцалеў, і таму яму здавалася, быццам маткі і жонкі забітых глядзяць яму заўсёды ўслед з дакорам, нялюба. “Як жа так?! Нашых няма, а ён, гляньце, шпацыруе! Няйначай, у кустах недзе хаваўся?” А, можа, тата памыляўся? Хутчэй за ўсё так. Хоць людзі, канешне ж, зайдросцілі маёй маці: без мужчыны пасля вайны ой як цяжка, ой як гаротна, нявыкрутна было жанчынам ў вёсцы!..

Я таксама паглядзеў у акно, Хавошка ( калі малая была, то картавіла, пытаючыся ў бацькоў: я хавошая?) і Наталля былі ўжо амаль каля помніка. Так ішлі яны і тады, калі я, зусім яшчэ маляўка, пракраўся ўслед за імі да помніка, схаваўся ў кусце бэзу, сядзеў, не дыхаючы: мне карцела ведаць, што будуць рабіць там жанчыны. Яны ж расклалі на хустцы ежу, запомніў толькі, што былі там чырвоныя яйкі, селі перад хусткай на мурог, налілі ў чаркі самагонкі з нейкай трафейнай зялёна-сіняй бутэлькі: дзве для сябе, дзве – для сваіх мужоў, якія не прыйшлі з вайны. Паднялі свае чаркі.

– За вас, хлопчыкі, – сказала Хавошка. –Чуеце вы там нас хоць ці не?

– Канешне ж, чуюць, – больш упэўнена прамовіла Наталля.– Як гэта нячуюць? Чуюць, яны чуюць нас, дзеўка!..

Хавошка нічога не адказала, а працягвала гаварыць далей:

– Прыйшлі вось мы з Наталляй вас праведаць. Заадно і пагаманіць, пра сваё жыццё расказаць.

– А, можа, пра наша жыццё не трэба? Няхай спяць яны спакойна там... пад зорачкай, – насупілася Наталля.

Хавошка на гэты раз не пагадзілася:

– А каму ж нам тады яшчэ расказаць, як не ім? Ды і навошта тады ішлі сюды? Слёзы свае паказаць хіба толькі?.. Навошта ім нашы слёзы?

Наталля змоўчала.

– Жывём мы добра...

– Так-так-так,– гэтыя словы Хавошкі спадабаліся Наталлі, яна затрэсла галавой, падбіла пасмачку валасоў пад чорную хустку.

– Жывём мы добра, – паўтарыла тое ж самае Хавошка. – Вось і Наталля пацвярджае...

– Пацвярджаю. А як жа.

– Сёлета разжыліся на парсючкоў, я і Наталля. Без тлушчу цяжка, адна бульба ў рот не лезе. Яшчэ каб кароўка была, то і зусім бы гора не ведалі. Нам бы хоць адну на дваіх...

– Скажы, скажы майму, што Васілёк ужо ўлетку працадні зарабляе ў калгасе – каня водзіць, – папрасіла Наталля.

Хавошка надзьмулася:

– А сама хіба не можаш? “Скажы Хавошка, папрасі Хавошка”. Я памаўчу, кажы ты.

Наталля не адразу пагадзілася, але ўжо калі набралася смеласці, рашучасці, сказала радасна і гучна:

– Мікола, а Васілёк наш каня водзіць, хлеб зарабляе!

І расплакалася. Хавошка пачала яе супакойваць, але, здагадаўшыся, што не дасці ёй рады, працягвала далей:

– Жыта сёлета кусціцца хараша, снапы павінны быць добрыя, то найму людзей, няхай хатку перакрыюць. Печ яшчэ тая, што пры табе зроблена была, Пятро. А што ёй, печы, зробіцца? На яе не капае, цячэ толькі тая страха, што выходзіць на двор. Сыночка нашага назвала Пецькам, у гонар цябе…

– Ты яму ўжо пра гэта гаварыла сто разоў, – папракнула, але не з дакорам, Наталля.– У мяне ўжо рука замлела чарку трымаць. Давай, скажы што-небудзь, ды выпіць пара.

– Скажу. За вас, хлопцы. Каб мяккай была вам чужая зямелька.

Жанчыны выпілі, памаўчалі.

– Ты, Наталля, перапыніла мяне, але ж я не сказала, што Пецька вучыцца ў трэцім класе, – ціха прамовіла Хавошка.– Той раз гаварыла, што ў другім..

– Ну, калі толькі так…

– Не пашанцавала нам, сяброўка: без мужчына засталіся.

– Так, так. Без мужчын.

– Ні чужых, ні сваіх… А трэба ж жыць. Хочацца жыць…

– Іншы раз, табе прызнаюся, я Міколкаву сарочку нюхаю, яна яго потам пахне. Не памыла, так і ляжыць, як з сябе зняў. Добра, што не дакранулася да яе адразу, тады ж, як на вайну забралі. Усё рукі не даходзілі.

– Тады ўсё валілася з рук, – падтрымала Наталлю Хавошка. – Ну што, дзеўка, ці не пара нам? А то вунь – чуеш? – школьнікі у горан дзьмуць і барабаняць… Скора будуць… Прыбраць трэба скацёрку… Ды пастаім, паслухаем школьнікаў… Там і Пецька мой…

– І мой Васілёк прыфранціўся ў новыя парткі і сандалеты… Сам на сябе зарабіў… Давай, давай, маладзіца, прыбіраць… Затыкні бутэльку, затыкні, каб не выцілася смала тая. Можа, Мітрафан з гармонікам прыйдзе, як той раз. Тады зноў пасядзім пасля дзяцей, песні паспяваем для сваіх хлопчыкаў…

Калі падрос, мне было сорамна, што я сядзеў у кусце і падслухоўваў салдацкіх удоў. А тады я радаваўся, што чуў яшчэ нешта пра вайну… Слухаў і радаваўся… Ці не блазнюк, а?

3

На школьным двары было людна. Дзяўчынкі старэйшых класаў рвалі кветкі на клумбах, рабілі букеты і ўручалі іх кожнаму жадаючаму. Жадаючых было многа. Іван Іванавіч, дырэктар школы, больш займаўся тым, што не адпускаў ад сябе кіраўніка групы піянераў, якія прыехалі з Эстоніі на свята: тут, у брацкай магіле, пахаваны іх зямляк. Прыехалі яны ўчора, засветла, таму паспелі пазнаёміцца з вёскай, пабывалі і каля помніка, а начавалі па хатах: жадаючых прыняць "інастранцаў" знайшлося шмат. Аднак на другі дзень па вёсцы папаўзлі чуткі, што гэтая замежная малеча паводзіць сябе з пагардай, грэбуе ежай, фыркае, не падабаліся ім нават прасціны ў асобных гаспадароў; хаця прасціны як прасціны, ежа як ежа.

Аднак на школьным двары было не да гасцей, кожны займаўся сваёй справай. Настаўнік гісторыі і стваральнік музея баявой славы Мікалай Кірылавіч паказваў месца кожнаму класу, дзе той павінен стаяць, пацікавіўся, ці ўсе, каму трэба выступаць, гатовы. Упэўніўся: усе. Крыху ў баку ад дзятвы стаяў Мітрафан з гармонікам, яму якраз ад хаты бліжэй праз школьны двор да помніка, таму затрымаўся, рашыў паназіраць за жыццём. А тут і каманда: "На пра-ву! Шагам-арш!.."– каманду падаў гісторык, ён тут кіраваў парадам, а дырэктар і госць з Эстоніі пайшлі да брацкай магілы наперадзе, трымаючы ў руках кветкі. За імі – гарніст і барабаншчык, а там і ўсе.

Мікалай Кірылавіч ішоў збоку, наглядаў, каб калона не дужа расцягнулася. Хаця калонай назваць вучняў гэтай невялічкай, паміраючай школкі, якіх спрасаваў у адно цэлае гісторык, можна было толькі з вялікай нацяжкай: у класе засталося па сем-восем чалавек, аднак усе хлопчыкі і дзяўчынкі ішлі да брацкай магілы з вялікай гордасцю, з адчуваннем сваёй значнасці і годнасці ў гэтым свяце, да якога рыхтаваліся не адзін дзень.

– Падцягнуцца-а! – папрасіў голасам ротнага старшыны гісторык, і калі дзеці падцягнуліся, падабралі нагу, то было відаць, што Мітрафан з гармонікам значна адстаў…

Але ён стараўся, як мог, тэпаць услед за ўсімі ў разношаных кірзовых чобатах.

4.

Тупаценне дзіцячых ног было далёка чуваць. Калона ішла пад гукі горна і дробны стук барабана.

– Ужо блізка, – падняла галаву ў бок дарогі, што вяла ад школы, Хавошка. – Дзе гэта нам, дзеўка, тут стаць так, каб нікому не перашкаджаць? Каб не таптацца пад нагамі… Давай выйдзем за агародку, ага?

– Ага. Давай. Пачуем, што будуць казаць. Не глухія.

Неўзабаве калона была ўжо каля помніка, не прымусіў сябе доўга чакаць і Мітрафан, ён стаў побач з Хавошкай і Наталляй, павітаўся, а потым, бы незнарок, адным вокам зазірнуў у клуначак, які трымала Наталля: там у шчылінку каля вузельчыка ўбачыў рылца бутэлькі, задаволена хехекнуў і папрасіў тых не разыходзіцца пасля ўсяго. Хаця пра тое ж самае яго меліся папрасіць і жанчыны. Жаданні супалі, і яны, навастрыўшы зрок, пачалі глядзець, што робіцца каля помніка. Разгледзелі госця з Эстоніі, звычайны дзядзька, толькі што белавалосы, мае такія ж белыя вусы. Такіх дужа белых у нас няма. А калі яго прадставілі і далі слова, то ён пачаў гаварыць з вялікім акцэнтам.

– Не варушыся, а то не разбярэш, што ён кажа, – папрасіла Наталлю Хавошка.

– Нейкая драбяза за нагу ледзь не ўкусіла… Прэч, гадасць!.. Прэч!..

– Цярпі. Не тое цярпелі.

А госць з Эстоніі, хоць і з акцэнтам, гаварыў узрушана, пранікнёна; ён пахваліў вяскоўцаў, што тыя добра даглядаюць брацкую магілу, у якой знайшоў вечны спачын і іх зямляк, запрашаў у госці. У адказ выступіў Іван Іванавіч, падзякаваў, што прыехалі яны з далёкай рэспублікі, падзякаваў за памяць пра земляка. Ад мясцовых ветэранаў слова трымаў Мікалай Сеўчанка, той кожны раз, калі выступае перад дзецьмі ў школе ці тут, на брацкай магіле, расказвае, як ён, зусім малады салдат, трапіў у акружэнне, доўга прабіраўся разам з аднапалчанамі да сваіх ці, у крайнім выпадку, да партызан, а, падкрэсліваў гэта ён асабліва, калі пад самым носам з’яўляліся раптоўна фрыцы, па некалькі гадзін тады сядзелі яны ў балоце па самае падбароддзе ў рыжай вадзе, а на галове былі звычайныя зрэзаныя рыдлёўкамі купіны: так маскіраваліся. Не варухнуцца.

Іван Іванавіч паглядзеў на людзей, а іх сабралася ўжо даволі многа, адшукаў позіркам Мітрафана, падаў знак рукой, каб той падышоў да яго. Гарманіст паслухаўся.

– Таварышы! – Іван Іванавіч вытрымаў паўзу, нібыта падбіраючы словы.–Усе вы ведаеце нашага Мітрафана Дзям'янавіча, выдатнага гарманіста, цудоўнага чалавека. У вайну ён быў зусім хлапчуком, толькі -толькі паехаў у горад вучыцца ў рамеснае вучылішча… на зваршчыка… Так, Мітрафан Дзям'янавіч? На зваршчыка?

Мітрафан кіўнуў.

– А там яго застала вайна. На фронт не бяруць – узрост не той, трэба падрасці траха. І па дарозе ў сваю вёску хлопца паймалі немцы. Так ён апынуўся ў канцлагеры…

– Прабачце, Іван Іванавіч, я не ў канцлагеры быў, я працаваў на рудніку, – паспяшаўся паправіць дырэктара Мітрафан.

Зрабілася ціха-ціха, нават можна было пачуць тую драбязу, што гула-звінела на ўсю моц, якая, відаць, і хацела хвілінамі раней даставіць Наталлі лішні клопат.

– Пра вайну раскажыце нам, Мітрафан Дзям'янавіч.

Мітрафан, падалося, збянтэжыўся. Так, так. Яму – пра вайну? Не, ніколі. Ён жа не бачыў вайны. Пра што ж расказваць, калі няма пра што? Навошта ж хваліцца тым, чаго не было? Наплесці, канешне, можна бочку арыштантаў, як некаторыя рабілі, але дзе ж тады сумленне? Не, не, не ў яго характары такое, і не прасіце, людзі добрыя!..

Так і сказаў дырэктару:

– Я ж не быў на вайне… Даруйце… Прабачце… Калі што не так…

Не менш, чым хвілінай раней Мітрафан, разгубіўся і сам дырэктар. Ён паглядзеў спярша на людзей, і тыя не маглі не заўважыць, што адчувае сябе Іван Іванавіч крыху ніякавата, аднак потым быццам знайшоўся і папрасіў Мітрафана сыграць для ўсіх франтавую мелодыю. На выбар. Пачуўшы пра такую просьбу, у Мітрафана засвяціўся твар, а неўзабаве пальцы пабеглі па гузіках гармоніка… Ён граў і спяваў:

*Ты ждёшь, Лизавета,*
*От друга привета,*
*Ты спишь до рассвета,*
*Всё грустишь обо мне.*
*Одержим победу,*
*К тебе я приеду*
*На горячем боевом коне.*

І непрыкметна Мітрафану пачалі падпяваць. Спярша дырэктар, потым госць з Эстоніі, гісторык, калгаснікі, школьнікі.

Хавошка лёгенька, нібы забаўляючыся, варсанула у бок Наталлю, а калі тая глянула на яе, сказала сур'ёзна і патрабавальна:

– А ты чаго? Не адставай!..

На вёскай плыла песня:

*Прыеду весною,*
*Ворота открою,–*
*Я с тобой, ты со мною*
*Неразлучны навек,*
*В тоске и тревоге*
*Не стой на пороге,*
*Я вернусь, когда растает снег!..*

Ці тое ад таго, што жанчыны перад гэтым выпілі па кроплі, ці з якой іншай нагоды, але іх галасы вылучаліся ў гэтым стыхійным людскім хоры... Нават Мітрафан прыцішыў свой барытон: бяжыце, бяжыце наперад, дзеўкі, няхай ведаюць усе, што вы ёсць, што жывеце, не скарыліся нягодам ... Я ўжо за вамі буду. Так і быць.

5

Каля помніка неўзабаве зрабілася ціха. Свята пакацілася ў бок школы. Дзеці, расчуленыя ад убачанага і пачутага, расслабіліся, пачалі дурэць: вядома ж, ім хацелася паказаць гасцям з Эстоніі, што яны дома героі, а не абы-хто. Ім ніхто і не рабіў заўваг. Няхай пацешацца. Сёння – можна. Сёння такі дзень, калі, кажуць, і генералы штурхаюцца. Беспарадкава нехта калаціў палачкамі па барабане, а ў горан таксама хацелася падзьмуць кожнаму, таму даносілася сюды, да помніка, нейкая бяссэнсіца.

Для госця з Эстоніі святочны стол накрыла жонка Івана Іванавіча, іх дамок на тэрыторыі школы, туды ж запрасілі і гісторыка Мікалая Кірылавіча, але ён спаслаўся, што пакуль не можа, трэба прасачыць, каб у школьнай сталоўцы дзеці былі накормлены і напоены. “Я хутка! Пакуль вы там тое ды сёе, і з'яўлюся. На мяне мне глядзіце”. Іван Іванавіч здзівіўся: “Хіба там няма каму прасачыць?” – “А, і праўда!”

Каля помніка засталіся Хавошка, Наталля і Мітрафан. Жанчыны зноў расклалі на скацёрцы ежу, паставілі пачатую бутэльку гарэлкі – гэта раней, калі былі маладыя, прыносілі яны сюды самагон, цяпер яны гэтым не займаюцца: ёсць, дзякаваць Богу, за што купіць з заводскай этыкеткай. Мітрафан коса паглядзеў на спакусу, папытаў:

– І колькі ўжо год вы сюды прыходзіце, бабы?

Хавошка і не прыгадвала:

– А мне здаецца, што я тут і жыву. Пра Наталлю не скажу. Наталля, а ты?

– Кожны год прыходзім. Ці ж ты не ведаеш, Мітрафан? – напаўняючы чаркі, сказала Наталля.

Мітрафан уздыхнуў:

– Вам, бабы, помнік таксама трэба паставіць. За вернасць.

Утварылася паўза, і яе нарэшце пастаралася запоўніць Хавошка:

– Не трэба нам помнік, Мітрафан. А каб мужчына падвярнуўся варты майго, і выйшла б. Крывіць душой не стану. Хацелася мужыка. Але не было за каго ўчапіцца. Ды і ты вось на гармоні толькі рыпаеш, больш нічога не заўважаеш… А цяпер ужо позна. Што ўжо цяпер? Хаця пагаварыць можна, і тое весялей. Асабліва ўзімку. З катом усё жыццё і прагаманіла. З кароўкай. Цяпер вось – з казой… Так і жыву.

– Давайце вып’ем, – падняла сваю чарку Наталля.

Мітрафан падаў чарку Хавошцы, якая неяк паводдаль ад “стала” уладкавалася на мурагу, затым узяў сваю чарку, ціха сказаў:

– За вашых мужыкоў, бабы. За ўсіх, хто спіць у гэтай брацкай магіле. За ўсіх!..

Выпілі. Пачалі закусваць, і Мітрафан раптам заплакаў. Жанчыны гэта заўважылі, здзіўлена пераглянуліся. Што гэта з ім? Мужчына крадком змахнуў слёзы, сам, не чакаючы, пакуль здагадаецца пра гэта Наталля, напоўніў сваю чарку, даліў жанчынам, якія амаль не дакрануліся да гарэлкі, падняў пітво, паказаў усім сваім выглядам: давайце, жанчынкі, моўчкі вып’ем, хопіць слоў, колькі іх было слоў, а карысці! Каб жа яны, словы тыя, да спраўджваліся!.. Не ўстануць… Не падымуцца… Не вернуцца… Хоць крычы, хоць плач… Хоць што!..

На вачах Мітрафана зноў блішчэлі слёзы.

– Мітрафан, з чаго б?.. – Хавошка паказала на ягоны твар.

Не ўсё, не ўсё жанчыны ведаюць пра вайну.

6

Мітрафану Нямеччына ўспамінаецца часцей, чым што. Асабліва часта прыходзіць яна ў сны, і тады ён радуецца, што прачнуўся сярод ночы, хоць і разумее, што больш не засне. А сам пасля варочаецца ў ложку з боку на бок, на спіне ён зусім спаць не можа: пасля рудніка аслаблі лёгкія, на спіне задыхаецца.

І вось цяпер, каля помніка, Хавошка зачапіла тое, чаго ён больш за ўсяго баяўся на свеце, хаця і здагадваўся, хаця разумеў, што людзі

не дурні, усё ведаюць, чаму не пабраўся ён ні з кім шлюбам, так і пражыў бабылём Тым больш – гарманіст, тым больш – высокі, шырокі ў касці, прыгожы чалавек.

Год колькі назад да яго прыязджаў з суседняй вёскі ягонага веку дзядзька, як яго зваць-велічаць, у вёсцы ніхто не цікавіўся, а Мітрафан ведаў гэтага чалавека даўно – з Нямеччыны, калі яны разам эксплутаваліся немцамі на тым праклятым рудніку. Ён таксама быў не жанаты, і пасля таго, як падзяліліся яны тым, што хвалявала і непакоіла абодвух, вырашылі з'ездзіць у сталіцу, да дактароў, каб даведацца, чым яны горшыя за іншых мужчын? З'ездзілі, і даведаліся. Цяпер часта Мітрафан успамінае той высокі стол, за якім ён стаяў і пісаў па прымусу наглядчыкаў сваю аўтабіяграфію. Такія аўтабіяграфіі, кажуць, пісалі і дзяўчаты. А за сцяной быў устаноўлены рэнгген, і ягоны прамень забіваў тым часам у гэтых маладых людзей бацькоў і мацярок...

Вельмі шкадаваў пасля Мітрафан, што яму не хапіла якога году, каб трапіць на вайну. Выжыў бы – ён сказаў бы тады сваё слова пра вайну, выканаў бы просьбу Івана Іванавіча. Не выжыў – сказалі б, мабыць, пра яго нешта іншыя ...

7

Як даўно і нядаўна было ўсё гэта!

Я зноў прыехаў у сваю вёску на 9 мая. Паклаў кветкі на кладах да таты і мамы. З вакна сваёй хаты, як і раней, доўга глядзеў на брацкую магілу: да яе ніхто не ішоў. Няма ні Хавошкі, ні Наталлі, ні Мітрафана. Памёрлі Іван Іванавіч і Мікалай Кірылавіч. Няма і школы. Некалькіх хлопчыкаў і дзяўчынак возяць у суседнюю вёску, там сярэдняя школа. Наша васьмігодка згарэла ў грубах той, сярэдняй.

Каб жыла мама, яна б мне абавязкова напомніла: “Схадзі, сынок, да брацкай магілы... Падмяці там, прыбяры... Недзе ж і наш дзядзька Хведар пахаваны... Схадзі, паглядзі, як там...”

Я пайшоў. Узяў, што трэба, і пайшоў... А потым да мяне падышоў хлопчык з граблямі, моўчкі пачаў гарнуць у валок леташняе перапрэлае лісце, а пазней з'явіўся другі хлопчык, трэці, прыбеглі дзяўчынкі, прытупалі таксама з нейкім рабочым інструментам дзве бабулі, якіх я, прабачце, не ведаў, мабыць, прыезджыя будуць.

Яны, відаць, таксама пачулі сваіх мацярок, гэтыя людзі. І жывых, і мёртвых.

## КРУГЛЫ СТОЛ

Сонца па пояс улезла ў куцае рэдкалессе, якое апошнім часам вытыркнулася на Лявонавым яры нежак знянацку, нечакана-негадана, – нібы чубчык у хлапчука-гарэзы на голай галаве.

Сонца было чырвонае – як усёдно намаляванае.

Сцяпан Шульга глядзеў на яркі і прыгожы сонечны паўкруг, і душа ў яго радавалася: заўтра абяцала яму таксама пагожы дзянёк, і ён меў намер дарабіць нарэшце круглы стол. А дарабіць трэба абавязкова – з горада прыедзе старэйшы сын Лявонцій, а з суседняй вёскі дачка Клаўка, патэлефанаваў ім надоечы, і Шульга меў намер пагаварыць з дзецьмі за круглым, так бы мовіць, сталом. Па ўсіх мерках сямейнага пратаколу. Сядайце, мае родныя, будзе размова. Начысціню. У кут, Клаўка, не схаваешся. Стол – круглы. Глядзець у вочы.

– Якраз ім тут, за маім сталом, усім месца хопіць, – паказваў рукой на сваё тварэнне Шульга. – Вось тут пасаджу Клаўку, каб бліжэй была да мяне, распусніца. Ну, а Лявонцій дзе сам пажадае, там няхай і сядае: ён мае права выбару, бо путны. А дачцы ў вочы гляну, пранцы б яе!.. Здавалася б, з аднаго кубла дзеці, а якія розныя...

Жонка, Паліна, моўчкі слухала свайго дзеда і недзе ў глыбіні душы хоць і пагаджалася з ім, аднак толькі аніяк не магла зразумець, навошта ён, стары, зрабіў гэты круглы стол, можна ж было і ў хаце сесці і пагаманіць з дзецьмі, а ён, бачце вы яго, столькі часу ўбіў, каб пагаварыць з імі – пагаварыць сур'ёзна, хопіць адны хіханькі ды хаханькі. Але яна ведала свайго Шульгу добра: надумае што рабіць – не пярэч, ад свайго не адступіцца. Таму толькі слухала яго і маўчала.

– Будзе судны дзень, нарэшце! – не мог угаманіцца Шульга і ўпрыгожваў свой стол цыратай, новенькай і квятастай, якую спецыяльна прывёз з Быхава.

Дзяцей сваіх Сцяпан выклікаў на суботу – якраз у гэты дзень, разлічваў ён, у іх менш клопату, то выберуцца, нікуды не падзенуцца, а каб падстрахавацца, каб не было аніякіх адгаворак ад тых, прыдумаў – прабач, Паліна! –прычыну: хварэе матка, і вельмі, прасіла прыехаць. А то, магчыма, не паспееце. Тады будзеце дакараць сябе ўсё застаўшаеся жыццё. Думайце!

Сцяпан і Паліна пачалі чакаць дзяцей. Няпростая гэта справа – чакаць. Быццам і ведаеш, калі тая субота, да яе далекавата яшчэ, а

не-не ды і паглядаеш у бок дарогі, што вядзе з шашы ў вёску: ці не ідзе хто са сваіх? Ці не едзе? А раптам?.. Можа, хто і раней надавуміўся з іх выбрацца, не абавязкова ж трымацца прызначанага дня.

Пакуль не, не відаць.

У Сцяпана і Паліны нарадзілася трое дзяцей. Першы – Лявонцій, Мішка быў сярэдні, потым – Клаўка, падскрэбак. Мішка паехаў у свой час на заробкі ў Караганду, там пабраўся шлюбам з дзяўчынай-сібірачкай, але сямейнаега жыцця не атрымалася: кажуць, быццам нахабна, адкрыта здраджвала сыну нявестка, ён не вытрымаў усяго гэтага і наклаў на сябе рукі. Ну, і чаго ты дабіўся, Мішка? Аб гэтым іншы раз задумваўся і сам Сцяпан, і тады ён адчуваў недаравальную віну за тое, што страціў сына. Ведаў жа, ведаў, што і як у Карагандзе, – з ім там быў і сын суседа, таму шыла ў мяху не схаваеш, – аднак не рашыўся паехаць у няблізкі свет, не асмеліўся, хаця і трэба было б. Трэба. Глядзіш, і прывёз бы ён Мішку дадому, і жыў бы той... Трактарыстам ён і там, на шахце, працаваў... Сеў бы і тут на тарктар...“ Прашляпіў, адным словам, сына, – папракаў сябе іншы раз Сцяпан Шульга. – Не ўпусціць бы цяпер хоць Клаўку...”

Шульга сядзеў за круглым сталом, паставіў свае вострыя локці на квятастую цырату, і ўяўляў... Уяўляў, быццам яны, дзеці, усе ў зборы, на сваіх месцах. Тут – Лявонцій, тут – Клаўка... Там быў бы Мішка, але яго няма і не будзе, стары ўжо ў гэта пачаў верыць. Ён нават падымаў на кожнага з іх свой цяжкі, свінцовы погляд, трымаў паўзу, а тады казаў Клаўдзіі:

– Пачнем з цябе, прыгажуня. Давай, растлумач вось нам усім тут, як дакацілася да такога, што пра цябе ўся наша вёска кепска гамоніць, не кажучы ўжо пра тваe Сідаравічы, дзе ты сёння не жывеш, а прысцябаешся. Пэўна, стала чалавекам апошняга сорту. Давай, давай, Клаўка! Судны дзень! Кажы!.. Бачыш, я і брата твайго, Лявонція, выклікаў? Для станоўчага прыкладу. Можа, ён хоць на цябе паўздзейнічае, а?

І Клаўка быццам спярша чырванее, а потым робіць выгляд, што нічога не разумее: я, маўляў, без дай прычыны трапіла за гэты круглы стол, даруйце. Я – добрая. Я – не такая. Нарэшце пытае:

– Ты пра што гэта, тата? – і прыкрывае далоняй свой бяззубы рот.

– Як – пра што? А пра тое, дачка, як хавалі твайго мужа, Пятра, вось пра што я...

– Хавалі. Ну, хавалі... Памёр калі ж... І ты ж быў... сам бачыў...

Сцяпан затуляе вочы шырокімі шурпатымі далонямі:

– Лепш бы я там не быў і не бачыў, хаця мужык у цябе быў неблагі, – роспачна прамовіў Сцяпан. – Я ж тады, дачка ты мая, ледзьве ад сораму не згарэў. Ад каго, ад каго я пачуў тады тыя словы?! Каб не чуў на свае вушы і не бачыў на свае вочы, а каб людзі перадалі, – не паверыў бы!.. Ніколі б не паверыў!.. Ты чуеш мяне, дачка?!..

– А што, што яна сказала? – глядзіць на Сцяпана Паліна, быццам не ведае: заступіцца, вядома ж, хоча за дачку, душа матчына мяккая.

А Сцяпан працягвае:

– На другі дзень, раніцай, пахмяліцца просіць твая дачка – вось што яна сказала. Лявонцій, ты не быў на пахаванні, то паслухай. Я і не ведаў, што ў мяне дачка так п’е – мадней за горкага п’яніцу-мужчыну. Баба просіць пахмяліцца! Калі было такое? Людзі, што з намі робіцца?! Муж, Пятрок, значыць, у труне, а яна шукае, чаго б выпіць. Ад гаспадыні гарэлку пахавалі, гэта ж трэба! Не дасцё, кажа, пахмяліцца, труну перакулю. Чулі? Труну! З нябожчыкам! З Пятром! Перавярну, кажа!.. І спрабуе, і прымяраецца, як бы перакуліць... Як?

Лявонцій быццам ціха спытаў:

– І што, далі?

– А куды дзенешся? Далі. Налілі.

Тут і Паліна падказвае:

– Усяго адну чарачку.

Шульга крэкнуў, паглядзеў у бок шашы, сам сабе сказаў:

–У Евангеллі сказана: дзеці павінны паважаць і баяцца сваіх бацькоў. А ў нас?

... Мінула субота, а Клаўка так і не прыехала. Прыехаў адзін Лявонцій, у яго свой легкавік, таму ён доўга выкладваў з багажніка пакункі, нават выставіў мангал і слоік з замарынаваным мясам.

– Будзе шашлык, бацька!

Вячэралі за круглым сталом. Шашлык атрымаўся смачны, ён казытаў старому Сцяпану нос, але не сказаць, каб так ужо лез у рот: бяда ж у сям’, тут не да смачнай і сытнай ежы.

Назаўтра паехалі да Клаўкі. Паліну не бралі – у яе хворае сэрца...

Круглы стол так і не спатрэбіўся Сцяпану – узімку Клаўка напілася і заснула каля калодзежа, у якіх-небудзь пяці кроках ад хаты. “Гэтага і трэба было чакаць”, – ахарактарызаваў тады сумную навіну стары і перш, чым паехаць на пахаванне дачкі, узяў сякеру і

пасёк стол. Калі жахаў сякерай, высока падымаючы яе над галавой, то сам сабе прыгаворваў:

– Раней трэба было гэты стол зрабіць! Раней! Тады б, мо, і Мішка жывы быў! І Клаўка жыла б, не ўпусцілі б!.. Во калі трэба было гэты стол зрабіць... Во калі... А то ўсё адкладвалі на заўтра, на паслязаўтра.. Усё некалі было... То трактар, то пасяўная... Праспалі дзяцей, адным словам... Праспалі...Паліна, ты чуеш мяне? Нас, нас біць трэба было! Дубцом! Папругай! – Шульга высмаркаўся, адкінуў у бок сякеру. – Забірай дровы, баба...Яны будуць добра гарэць... Гэта не проста дровы, гэта асаблівыя дровы – яны з нашага круглага стала... Адна карысць цяпер ад стала – неба капціць. Усё трэба рабіць у свой час. І сталы. Няго ж, прэзідэнты – людзі разумныя: сазвоняцца, і засядаюць... Адразу, калі трэба... Не чакаюць з мора надвор’я... Дзякуй, прэзідэнты! А я спазніўся... Прабач, Мішка... Прабач, Клаўка...

На месцы круглага стала цяпер нічога няма.

Несвядомы чалавек нават не здагадаецца, што некалі ён тут наогул быў і цешыў надзею старога вяскоўца Сцяпана Шульгі...

## ВЯЧОРКА

Стары Ігнат вёў Вячорку – карову чорнай масці з белымі астраўкамі на баках і з такой жа белай плямкай-зорачкай на лбе – з Грушаўкі ў Чырвоную Буду. Карове было сем год, калі паглядзець на яе перад дойкай, улетку, вядома ж, то адразу скажаш, што не скупая яна на малако: вымя пад цяжарам ледзьве не цягнецца па зямлі. Ды і без малака яно прыкметнае, вымя, не параўнаць, як у шмат якіх кароў. Вялікае. Кідаецца ў вочы, замінае нават вяртацца Вячорцы з пашы дамоў, тады яна наколькі можна шырэй ставіць заднія ногі. Але карова, чаго б гэта ёй не каштавала, заўсёды спяшаецца, а іншы раз і бегма бяжыць да сваіх гаспадароў, каб парадаваць тых. Добры характар у яе, Вячоркі. Мяккі і пакорлівы. Мо таму, што любіць Вячорка прагна скубці траву калі і дождж хвошча, і навальніца грыміць-бліскоча, і ў самую спякоту, – мо таму і лёс у яе крыху больш цяжкі, гаротны, чым у іншых кароў.

Вячорка капыціць па ўскрайку дарогі, жвір пад яе нагамі трашчыць, а пыл пырскае па баках, яна раз-пораз паглядае на старога, які трымае ў руцэ ланцужок і ступае побач, плячо ў плячо. Нешта сёння Ігнат маўчыць. Той раз, помніць Вячорка, ён надта быў разгаворлівы, а сёння, гляньце на яго, надзьмуты ўвесь, як сыч. Карова разумее старога: кажы не кажы, а карысці? Ды і хіба ж пачуюць тыя, каму трэба было б пачуць, яго? Бо яны, нехрысці, засталіся недзе там, у сваёй загаджанай, – адзін раз у шыбу падгледзела,– хаце, а тут жа, на гравійцы, іх няма. Тут толькі яны ўдвух. Ды яшчэ розная драбяза, якая ліпне, бы мухі на мёд, да Вячоркі: лезе ў вочы, у вушы, у ноздры. Тады яна хвастае сябе, матляе галавою, адганяючы мух і мошак, аднак ненадоўга: і адкуль яны, назолы, толькі бяруцца зноў?

– Пацярпі, зараз прыйдзем, не багата засталося, – спачувае Вячорцы стары Ігнат і махае кашчавай рукой перад яе мызай. – Прэч, прэч, шалудзіўцы!.. Бач, расселіся!.. Так і едуць на табе, Вячорка... Каб жа хоць мірна сядзелі, дык жа не, кусаюць, пэўна ж... Прэч, каму сказаў!.. Кыш!..

Вячорка любіць Ігната, таму паслухмяна ідзе з ім, роўна, як пад шнурок, хоць і хочацца іншы раз не прамінуць, адшчыкнуць травінку, што расце паўзбоч дарогі і так просіцца ў рот, але яна не дазваляе сабе гэтага: паспрабавала неяк, аднак рука старога, якою ён трымае ланцужок, тады ўпіраецца ёй у шыю, Ігнат пачынае лаяцца, а сам дыхае ёй у вуха гарачым паветрам.

Не, не трэба псаваць настрой старому. Вячорка плаціць яму за дабрыню дабрынёй, бо разумее: калі б ні ён, стары, невядома яшчэ, як бы жылося ёй на гэтым белым свеце...

І вось цяпер, калі яна шыбуе па знаёмай палосцы дарогі, перад яе вачыма паўстае як не ўсё жыццё...

Гэта ж раней была яна на калгаснай ферме. Ферма стаіць у сасонніку, за вёскай, і калі пачынае цвісці сасна, – хоць у вір галавой. Але ад машкары нідзе не знойдзеш паратунку. Хаця чаму ж? На пашы, калі вецер, бывае і курорт. Аднак гэта нядоўгае шчасце. Вячорка тады неахвотна вярталася на ферму, як і астатнія, мусіць жа, каровы, і думалася ёй: навошта яе хата ў тым праклятым сасонніку? Хто прыдумаў? Няўжо нельга было яе пабудаваць там, дзе гуляе вецер, які адганяе ад яе няпрошаных гасцей? І яшчэ ёй па адной прычыне не хацелася вяртацца на ферму – гразка там, стаяць яшчэ можна, а вось каб легчы, тут і падумаць трэба: а ці варта? Потым бакі такія брудныя, што куды там! А яна ж, Вячорка, жанчына як-ні-як. Быка вунь з-за мяжы прывезлі, а ён і не глядзіць на сваіх нявест. Схаваўся. Толькі хто зразумее? Даярка Кацька хіба? Чакайце. Ад яе так прэ іншы раз перагарам, што Вячорка адварочвае морду, заплюшчвае вочы: колькі ж, Божа, такое можна трываць? Той раз дык зусім хісталася, ад сцяны да сцяны кідала яе, паразлівала малако, а потым і спала з ёю побач. П’яная п’яная, а сцяміла, што трэба галаву пакласці на цёплую шыю Вячоркі. Трывала карова сваю даярку, цярпела, а калі яна яшчэ і храпці пачала, тут нервы здалі: паднялася, адскочыла крыху ў бок у стойле, а ты, Кацька, як хочаш. Надакучыла. Абрыдла. І куды старшыня глядзіць, каб папытаць? Хаця зразумееш і яго, старшыню. Колькі разоў ён Кацьку звальняў, тады яе даіў нейкі мужчына, той не толькі піў шмат, але і курыў. Ды такім ванючым курыў, што і яна, Вячорка, здавалася, пачне вось-вось перхаць. А тады зноў прыходзіла Кацька. Казала кожнаму стрэчнаму: я паразумнела! Не піла, і праўда, пэўны час і ўсё хвалілася, што збярэ грошай і купіць сабе новы палітон, шапку і каляровы тэлевізар з дыстанцыйным кіраваннем, каб ляжаў, кажа, і толькі хадзіў па каналах. Гэта вам не хухры-мухры. Ага, купіла!.. Да першай палучкі... Хаця Вячорка заўважыла яшчэ раней, што яе малако яна злівала ў асобны посуд і потым, сама ж прызналася, адносіла дачнікам: іх тут, каля фермы, наляпілася процьма. І ўсе чамусьці ласыя былі на яе малако. Вячорка ганарылася гэтым, не сакрэт. А больш ганарыцца ёй і не было чым. Хіба ж толькі тым, што яе малако зноў губіць даярку?

Стары Ігнат абудзіў Вячорку ад думак:

– Вунь і наша вёска. Бачыш? Баба Моця прыгатавала табе смачнае пойла, а потым, калі пап’еш-падсілкуешся, я адвяду цябе на выган. У нас у вёсцы ўсяго дзве каровы, то статку няма. Кожны пасвіць сваю худобу, як можа. Не крыўдуй, але я цябе навяжу. А то забрыдзеш у шкоду, тады бяды не абярэшся. Травы цяпер хапае. Не тое, што раней: за кожны жмуток сена біліся людзі.

Вячорка кіўнула: навязвай, я не супраць, гаспадар. Табе лепш відаць, як і што.

Больш за ўсяго Вячорцы, калі яна была ў калгасным статку, хацелася, каб яе забраў хто-небудзь з вяскоўцаў. Там, кажуць, у хляве чыста, харчы добрыя. Яно і зразумела: калі на калгаснай ферме кожны, хто там робіць, стараецца нешта ўкрасці прама з-пад носу ў каровы, то які ж гаспадар стане абдзяляць яе дома?

Так думала яна, Вячорка.

...Гады два назад, калі ёй, Вячорцы, споўнілася пяць, у Грушаўку пераехалі з горада маладажоны Сцяпан і Зіна. Памыкаліся там без кватэры, багацця не нажылі, таму налегцы і вярнуліся на родны поплаў. Важную ролю тут адыграў і бацька Сцяпана стары Ігнат. Ён параіў тым абразуміцца, сказаў, што на цэнтральнай сядзібе, бліжэй да крамы і школы, ёсць хаты, у якіх можна жыць. Так людзі аддаюць, бясплатна, бо за афармленне тое цяпер больш здзяруць грошай, чым сама хата каштуе. Прыязджайце і жывіце. А што ж вы, маўляў, будзеце боўтацца ў тым горадзе, як непрыкаяныя, не ўяўляючы нат заўтрашняга дня, што ж вы будзеце жыць там без перспектывы? А тут, у вёсцы, рукі маладых патрэбны. Стары Ігнат так і сказаў: “А карову я вам куплю. Пакуль маладыя, у вёсцы без каровы не пражывеце. Карова трэба”.

Кацька плакала, хоць яна сама ж і параіла Сцяпану і Зіне: калі ўжо выбіраць карову для ўласнага падворку, то толькі яе, Вячорку. Яна і добрая, яна і карміцелька, што пашукай – не знойдзеш. А калі яшчэ здзелку гэтую добранька абмыць, то і не пытайцеся!..

Вячорка, як цяпер помніць, надта абрадавалася: нарэшце!..

Тады яна ўпершыню і пазнаёмілася з Ігнатам. Як жа лёгка ёй ішлося з калгаснай фермы да хлява, у якім яна марыла жыць у згодзе і ладзе з гаспадарамі, радаваць іх малаком!.. Каб жа ведала яна, што чакае наперадзе... Кацьку не адзін раз прыгадвала потым Вячорка і нават дакарала сябе, што не хацела з ёй спаць у адным стойле. Кацька – золата, калі параўнаць з Зінкай. Ды і Сцяпан таксама харош: ён хоць і не ўмее даіць, але не прымушае гэта рабіць чамусьці

і сваю жонку. Не адну ноч карова мучылася ў хлеве з поўным вымем малака, задыхалася, стагнала, не магла, як раней на калгаснай ферме, жаваць жвачку. Яна клікала гаспадароў, разрывалася ад болю і адчаю. Але тых не было чуваць. Пазней Вячорка даведалася – чаму ўсё так. Даведалася ад старога Ігната. Той прыйшоў да яе раніцай з вядром, выдаіў малако, а тады накінуў на шыю ланцужок і павеў яе ў свой хлеў.

– Не будзе з іх толку, Вячорка. – скарадзіўся стары па дарозе. – Ты чуеш мяне, гаротніца? Не будзе... У гарэлку ўюшыліся калі ж. Што сын, што нявестка. Так піць!.. Беспрабудна. Тыдзень не прасыхаюць. Нават на цябе забыліся. Гэта ж людзі перадалі. Ідзі, кажуць, забыры, Ігнат, карову, а то прападзе. Вось я і вяду цябе, Вячорка, вось я і забраў... А што з тымі будзе – не магу табе сказаць. Цябе я выратую. А хто, які доктар выратуе тых?.. Гора мне, Вячорка, з дзецьмі, гора!..

Потым стары Ігнат зноў адвёў карову назад, пасарамаціў сына і нявестку. тыя паабяцалі ўзяцца за розум. Вячорка таксама абрадавалася, яна чула, як дакараў іх стары Ігнат.

І вось ён зноў вядзе Вячорку да сваёй хаты. Які ўжо раз. Тут ёй будзе добра. Вячорка гэта ведае.

Стары Ігнат шкадаваў і ўслых прызнаваўся, што ў яго няма ўжо той сілы, каб пастаянна трымаць карову ў сябе. Выдыхся. Раней бы яму такую кароўку. Хаця грэх сказаць, што тыя, якіх трымаў ён з маладзіцай на працягу свайго доўгага жыцця, былі горшыя. Удаваліся. Але ж гэтая – асаблівая, разумніца.

Вячорка ўсё разумела, што гаварыў чалавек.

І яна надта баялася, што калі-небудзь не прыйдзе ў цяжкую хвіліну да яе стары і спагадлівы Ігнат...

# П Р А Ц Э Н Т

У той вечар Ягор доўга не мог заснуць, варочаўся-круціўся ў ложку, мумкаў нешта сабе пад нос... Хаця чаму – нешта? Сам сабе ён даводзіў адно і тое ж – пра працэнт.

– Маруся, чуй-ка... Адкуль яны ўзялі яго, той працэнт? Як вывелі? Адкуль выкалупалі? Ты вось мне скажы, у школу ж хадзіла: адкуль яны, разумнікі, ведаюць, колькі людзей “супраць” будаўніцтва хімзавода, колькі – “за”? І ў такім, значыць, парадку далей... І ў каго яны ўвесь час пытаюць? Хто тыя людзі? А хто ж тады я? Ты слухаеш мяне, баба?

– Спі ўжо, грамацей!

Ягор не супакойваўся. Як можна спаць, калі працэнт той, сёння падслуханы ў эфіры, не дае, вярэдзіць душу, выварочвае яе навыварат? Раней жыў жа неяк стары, прапускаў міма вушэй пра той працэнт, што называюць па радыё альбо тэлевізару, а сёння вазьмі ды і зачапі, халера, ён яго, як ўсёроўна жывы жывога. Быццам ішоў стары спакойна сабе па вясковай вуліцы, а працэнт той і з’явіўся нечакана, нібы з зямлі вытыркнуўся, прама перад ім – лоб у лоб.

– Ніхто апошнім часам да нас у вёску не прыязджаў, акрамя сваіх, – не мог уняцца Ягор. – Хітрая справа, аднак... Ці я, можа, ужо і не ў залік. Можа, мяне, як старую запчастку на мехдвары, адкінулі ў бок? Ці чуш ты, маладзіца?

Жонка заварушылася ў ложку, пагрозліва заявіла Ягору:

– Ты дасі мне спаць, ці не?! Позна ж ужо!..

Ягор хехекнуў, кашлянуў, павярнуўся тварам да сцяны, сказаў ні тое сабе, ні тое жонцы:

–Хаця на выбары галасаваць іду. Чыслюся, значыць, яшчэ ў спісах, ёсць на ўліку. Можа, і засну... Калі ж не спіцца... Хоць і пасцель не мулкая быццам... А ўсё ж, адкуль яны выцарапалі той працэнт, мне цікава?..

Гэта былі апошнія словы, якія пачула ў той позні вечар Маруся ад свайго Ягора. Ён нарэшце зусім сцішыўся: заснуў.

Раніцай, ледзь прадраўшы вочы, стары ні слова не сказаўшы жонцы, патупаў на падворак. Пачуўшы яго крокі, у хляўчуку зарохкаў парсючок, мыкнула карова, а куры, як толькі Ягор паказаўся перад імі, разляцеліся ў розныя бакі – былі і няма: учора стары якраз скруціў адной галаву, бо Марусі дужа булёну захацелася,

то цяпер, злапамяты, будуць доўга яго шарахацца, на крок не падпусцяць.

Ягор сеў на лаву пад акном, закурыў. І зноў – вось даўся ён яму!– успомніў пра той працэнт.

– Ступай снедаць! – паклікала жонка.

Ёй, бачце вы, снеданне тое на ўме, калі тут вырашаюцца, можна сказаць, глабальныя праблемы. Як? Адкуль? – вось што хвалюе Ягора, а не курыная лытка. Працэнт хвалюе. Вырашыў падзяліцца сітуацыяй з суседам Пятром, той якраз пачаў зграбаць лісце ў садзе – праз дзіркі ў паркане яго было добра відаць. Падышоў. Павіталіся.

– Грабеш? – у працяг размовы папытаў Ягор.

– Як бачыш, – спакойна адказаў сусед.

– Ну, ну... А ты вось скажы мне: ты за хізавод ці не?

– Хай будзе...– Пятро перастаў грэбці лісце, зняў з лысай галавы картуз.– Сухое лісце, згарыць хутка. Ты ўжо даруй, сусед, калі трохі цябе дымком абдасці – вецер акурат у твой бок.

Ягор махнуў рукой:

– Сёння ты мяне абкурыш, заўтра я цябе. Бяды тае. Ты вось скажы мне, адкуль там, у цэнтры, ведаюць, хто з нас, з народу, “супраць”, хто “за”, а хто, значыць, “устрымаўся”? Я, гэта, наконт хізавода...

Пятро зноў насунуў на галаву картуз, пачаў зграбаць пад грушай і сапраўды сухое – ажно пакурчылася – лісце, а сам думаў, як адказаць Ягору на ягонае пытанне. І само неяк у яго так атрымалася, што ён узяў ды і схлусіў – ну, пажартаваў, так дакладней будзе сказаць:

– Як адкуль? Мне, напрыклад, дзён колькі таму з Мінску пазванілі. Не ведаю, як каго, а мяне патурбавалі. Хіба я табе не хваліўся?

– Не...

– Было. Ага. Сам прафесар... З акадэміі навук, відаць. Калі не вышэйшы чын. Голас такі ветлівы, памяркоўны... Так і так, пытае, як вы адносіцеся?.. Я кажу: нармальна, будуйце. А ён мне: дзякуй, так і запішам. Ваша думка будзе ўлічана.

– Хлусіш? – не паверыў, канешне ж, Ягор, і злосна плюнуў. – Хлусіш! Адкуль яны ведаюць пра цябе? Адкуль, ты вось скажы мне? Ты хто такі?! Хто?!..

– Ведаюць жа неяк.

– А чаму тады мяне не патурбавалі? Я што, у турме сядзеў ці, можа, шкодзіў дзе ў іншым месцы? Адкажы!

– Вось гэтага, братка, я не ведаю, – адбіваўся Пятро і потайкам усміхаўся. – Чаму ты выйшаў там, у горадзе, з даверу, – сказаць не магу. У кніжцы ж і твой тэлефон маецца. А не пазванілі. Значыць, не заслужыў.

Ягор, нічога не сказаўшы больш суседу, раптам павярнуўся і рашуча патупаў у хату – снедаць. На стале стаяла ўжо пэўны час патэльня з падсмажанай апетытнай курацінкай, таму Маруся прыкрыла яе вечкам, каб яна зусім не астыла, а бульбу падала да стала адразу, як толькі паказаўся на парозе стары.

– Што там Пятро робіць? – пацікавілася, бы між іншым, жонка.

– Брэша! – Ягор падсеў да стала, узяў лыжку, патрымаў яе ў руце, а потым зноў паклаў на ранейшае месца. – “Не заслужыў”. Вы чулі такое, людзі? Гэта я не заслужыў? Я? – крыху супакоіўшыся, папытаў: – Ты, гэта, старая, апошнім часам ніякіх званкоў не прымала?

Маруся не зразумела старога, падняла на яго вочы:

– Не, ніхто не званіў. А чаму гэта ты пытаеш? А? Нават мне цікава стала.

– Адстань хоць ты!..А яму, бачце вы, патарабанілі з самога Мінску! – не мог супакоіцца Ягор. – Брэша? Ці як ты думаеш, маладзіца?

Жонка паціснула плячыма:

– Чаму ж і не могуць? Там у яго сын і дачка. Тарабаняць часта. Еш давай, не сядзі! Ці цябе карміць трэба, як малога дзіцёнка?

Ежа не лезла ў рот старому. Ён піхаў яе і так і гэтак, давіўся, але, здавалася, і сам не заўважаў гэтага, галава была забіта іншым. Стары пачынаў верыць Пятру, патрохі змірыўся з тым, нібыта яго на самой справе абмінулі і згадваў сваё жыццё: дзе б ён і сапраўды мог так набедакурыць, што нават і цяпер, у адказны час, калі вырашаецца пытанне з атамнай, на яго махнулі рукой: сядзі і не высоўвайся, ты не заслужыў. Лаяўся са старшынёй калгаса? Было. За праўду біўся. Ну, вырваўся мацюк, дык рот жа не зашыеш. А больш?.. Дык больш і няма пагрэшнасцяў. Адны плюсы: прымаў, удзельнічаў, ствараў…

Паснедаўшы, Ягор вырашыў схадзіць да вясковага прымака Цуцыка, той нядаўна вярнуўся з зоны: калі ўжо і ў яго цікавіліся, а ў мяне не, разважаў стары, то трэба прымаць меры. Неадкладна. Сёння пра атамную не пацікавіліся, заўтра на выбары не запросяць… Зусім сядуць на галаву. Заклююць.

– Куды гэта ты? – стрэлася старому на двары Маруся з бярэмем дроў.

– Табе ўсё знаць трэба, – надзьмуўся Ягор. – Народны кантроль. Што, і выйсці нельга? А тут, дома, ты, гляжу, мяне заціскаеш? З усіх бакоў агрэсія. Прапусці, не стой папярок!..

Ягор знік за веснічкамі, пачыкільгаў на дарогу, а старая ўсё яшчэ чула яго хрыплаваты голас:

– Вазьміце мой працэнт. Наце. Трымайце. Я хіба супраць? Толькі спярша папытаць трэба... У такіх, як я, людзей... А то вы, гарадскія, там напрацэнціце... Не пашкадую... Аддам.. Канешне, у Петрака сын у горадзе, дачка... Канешне... Я разбяруся... Але ж і я ведаю, куды свой працэнт прыткнуць... З якога боку... Хто хто, а за Ягорам не стане... Так што майце на ўвазе, мае дарагія!..

**ПАД ГОРАДАМ ГОРКІМ**

На гэты раз Новы год Хведар Канопліч вырашыў сустракаць не ва ўтульнай гарадской кватэры, як гэта было на працягу апошніх год яго жыцця, а ў той хаце, дзе некалі нарадзіўся. Пачаў збірацца ў няблізкую дарогу зранку. У рэчавы мяшэчак паклаў транзістарны радыёпрыёмнік, ладны скрыль сала, кальцо вэнджанай каўбасы, бохан хлеба, бляшанку шпротаў, пяцілітровую бутэльку вады, паўлітэрку гарэлкі... Усё, здаецца? А, можа, гарэлкі мала будзе? Раптам і яшчэ хто сустрэнецца яму ў роднай вёсцы, якая, ведаў, даўно памёрла: апошняга жыхара Вераснёўкі правялі на пагост на пачатку гэтага веку. Хоць хаты стаяць. Амаль у кожнай – заглянь у акенца – убачыш запраўленыя ложкі з пухнатымі падушкамі, засцеленыя абрусамі сталы, у чалесніку стаіць чапяла, на ўслоне будзе вядро, да якога прыляпіўся карэц. Заходзь, жыві. Цяпер, мусіць, яны, хаты, замецены снегам, як замацены, пэўна ж, і ўсе падыходы да вёскі.

Канопліч падняў рэчавы мяшэчак: лёгкі, плечы не адцягне, таму вырашыў усё ж узяць яшчэ і пляшку віна – на ўсялякі выпадак. Для яго дык і адной чаркі хопіць, аднак недзе ў душы жыла надзея, што свята ён будзе сустракаць не адзін, а да ягонага навагодняга цяпельца прыгорнецца яшчэ якая-небудзь душа...

– Усё ж едзеш? – падняла крыху сумныя вочы на мужа жонка Марыя, рыхтуючы на кухні святочную вячэру, і ад цыбулі, якую на той час скрыліла, у яе былі вільготныя вочы.

– Еду, – адказаў коратка, але цвёрда.

– Ну, глядзі сам. Гаспадар – пан. Толькі не замерзні там. А я тады, відаць, да дзяцей пайду? А мо і адна сустрэну Новы год? Будзе відаць. Першы раз, між іншым, за трыццаць пяць гадоў мы навагодняе свята будзем сустракаць паасобку. Ці не кепская гэта прыкмета?

– Усё будзе добра. Не хвалюйся. А на другі дзень я вярнуся, і мы пасядзім за нашым святочным сталом. І дзяцей запросім. Даруй, Марыя, што так атрымалася. Хата – верыш? – паклікала. Хата. Ёй, відаць, сумна там адной... У яе, магчыма, таксама нешта баліць, як іншы раз у чалавека... Пакінулі яе ўсе мы, забыліся... Некалі патрэбна была яна нам, вельмі патрэбна... Нам, усім... Мне, Рыгору, Воўку, Сашку... Але ж тое – некалі... Не крыўдуй на мяне, Марыя. Хата таксама жанчына, і яна папрасіла маёй увагі... Нават, падалося, чуў яе голас... А вакно... вялікае, тое, што на двор выходзіць, увесь час глядзіць на мяне... Быццам мама... Быццам дзед Якаў... Быццам баба

Пелагея... Еду, еду, Марыя: адчуваю, нашай хаце няўтульна адной пад халодным зімовым небам... Яе нешта непакоіць... Я павінен быць сёння з ёй...

Маруся зразумела свайго Канопліча, не задавала больш аніякіх пытанняў, толькі пацікавілася, ці не забыўся ён пра запалкі. Чалавек не курыць, то мог і не ўзяць. Без запалак ноччу ў старэнькай бацькавай хаце няма чаго рабіць. Аказалася, хвалявалася жанчына дарэмна: і пачак з запалкамі, і тры свячы той акуратна загарнуў у ручнік і паклаў у самую вялікую кішэнь рэчавага мяшэчка. “Бачыш?” Яна моўчкі кіўнула: бачу. У тым ручніку былі і фотакарткі родных людзей. Каб Марыя не задавала лішніх пытанняў, пра іх Канопліч змоўчаў.

У аўтобусе, колькі і ехаў, думалася яму пра ўсё патрохі, але больш пра хату, да якой спяшаўся, нібы да чалавека, што трапіў у бяду і чакае паратунку.

На шашы ў Ільічы здарожыўся, паглядзеў у бок лесу, адразу ж знайшоў у ім прарэху: у тым расцяробе, да якога адразу прыкіпеў яго зрок, была дарога. Як і спадзяваўся, на ёй не мелася слядоў чалавека, і Канопліч, не губляючы часу, пачаў тарыць сцежку да родных мясцін. Тут было недалёка: ад шашы ўсяго два кіламетры, аднак за ноч наваліла шмат снегу, што стрымлівала хаду, аднак гэта былі дробязі, як лічыў сам Канопліч, і ён праставаў і праставаў наперад, не звяртаючы больш ні на што ўвагі.

Пакуль ішоў па лесе, было зацішна, а як толькі апынуўся на пагорку, з якога ягоная Вераснёўка бы на далоні, давялося ўхіляцца ад стрэчнага ветру. І хоць вецер пёк твар, асабліва нос і вушы, ён радаваўся ўсяму гэтаму, бы малое дзіця.

Ён ішоў да сваёй хаты!

Цікава, ці ёсць дзе там старэнькі патэфон, ці захаваўся ён? Канопліча, як толькі ўспомніў пра яго, адразу ж нагадалася пераднавагодняя зіма пяцьдзесят восьмага года мінулага стагоддзя. Быў ён тады хлапчуком, жыў у суседняй вёсцы з бацькамі, а на канікулы прыкаціў на лыжах да дзеда Якава і бабы Пелагеі, тыя заўсёды былі рады ўнуку. Якраз вярнуўся са службы ў арміі дзядзька Мішка, ён быў дэсантнікам, там пакахаў дзяўчыну, за якой і збіралася экспедыцыя ў Віцебск: Новы год яны павінны былі сустрэць мужам і жонкай. У тую экспедыцыю ўваходзіў дзядзька Коля, ён шафёр, і лепшы сябра дзядзькі Мішкі – таксама Мішка, але, вядома ж, з іншым прозвішчам, – Валюшаў. Потайкам прабрацца ў экпедыцыю загарэўся і ён, Хведзька. Не даваў яму спакою далёкі і

загадкавы на той час Віцебск, ды і на машыне ён далёка так ніколі не ездзіў. А так зацелася! І да чаго ж дадумаўся! Закапаўся ў сене, што было ў кузаве і на якім павінен быў ехаць Валюшаў, таксама закапаўшыся ў яго, каб не замерзнуць. Гэта ж добра, той адразу заўважыў, што сена тое нешта варушыцца... На тым паездка малога Канопліча і скончылася. У вёску ён вяртаўся тады якраз вось па гэтай дарозе, але ўвечар, наўкола было цёмна, хоць выкалі вока, аднак вяртацца экспедыцыя за нявестай назад не стала: вяртацца – кепская прыкмета, а наперадзе далёкая дарога, а што ж да Хведзькі, то ён, блазнюк, ведае ўсе тут сцежкі, не заблудзіцца, а калі лыткі патрымцяць крыху ад страху, то будзе ведаць на будучае, як дазваляць сабе такія вось штукарствы.

Тады і сапраўды нацярпеўся ён страху. Кожны куст здаваўся ваўком. Але ж калі вярнулася экспедыцыя, то Хведзька быў у цэнтры ўвагі. Сабраліся паглядзець на Мішкаву нявесту сваякі і суседзі, і каб нешта гаварыць, а не маўчаць, яны, асабліва калі выпілі па чарцы дзедавай хлебнай, раз-пораз скіроўвалі галовы да малога і выказваліся: дык ты што, Хведзька, і насамрэч у Віцебск сабраўся? А калі б замерз? Га? Вось і было б свята: не ведалі б, ці радавацца нам, што вось маладзіца паявілася ў хаце, ці плакаць, калі б што адмарозіў? Ну, дый і добра, што так атрымался.

Пасаг у нявесты быў невялікі, людзі тады жылі сціпла, а вось патэфон меўся. І Хведзьку дазволіла быць галоўным над ім сама віцебская нявеста цётка Зіна. Спярша паказала, што і як рабіць, сама ж зноў села за стол, а малы ставіў пласцікі. Тады па хаце плыла такая прыгожая – ажно дзед Якаў вусы падрукчаў, хітаючы галавой ў знак адабрэння музыкі – песня: “Под городом Горьким, где ясные зорьки, в рабочем поселке подруга живет...” Хведзька слухаў песню, быў зачараваны ёю, і стараўся ўявіць той горад Горкі і тую дзяўчыну, што жыве ў рабочым пасёлку. Тая яму і ўяўлялася – яна была, як дзве кроплі вады, падобная на тую нявесту, якую прывёз дзядзька Мішка разам з патэфонам.

– Паўтары, унук, пра горад Горкі, – прасіў дзед Якаў.

– Зараз знайду толькі пласцінку і памяняю іголку, а то трашчыць дужа.

– Мяняй, мяняй, унук. Добрая песня, ліха яе матары! Недарэмна ў той Віцебск з’ездзілі хлопцы!..

Патэфон – дзіўна ж сёння! – адкрыў тады Хведзьку нейкі зусім іншы свет, пра які ён і не думаў раней. Бачце, ёсць недзе далёка горад Горкі, ёсць рабочы пасёлак, ёсць на зямлі людзі, якія кахаюць

адзін аднаго... Гэта пазней будзе радыё ў кожнай хаце, з'явяцца тэлевізары. Дзядзька Мішка з цёткай Зінай пабудуюць сваю хату, а Каноплічы вернуцца назад з суседняй вёскі ў гэтую, і будуць жыць вялікай сям'ёй. Хведзьку і ягоным братам было такое перасяленне надта ж зручным: не трэба бегчы за чатыры кіламетры, каб паслухаць пласцінку. А пласцінак болела – хто быў у горадзе, той нешта і прывозіў. Пры любым зручным выпадку разжываліся і на іголкі.

Прайшлі гады, жыццё праляцела як адзін дзень, і вось цяпер, ідучу па цаліку ў вёску, Канопліч ніяк не можа зразумець, чаму ўсё так хутка атрымалася ў ім, у гэтым жыцці? Толькі ж, здаецца, нядаўна ўпершыню пачуў ён пра той горад Горкі, накурана і весела было тады ў хаце, а сёння ён, лысы і грузны, зусім іншы чалавек, які б ні за якія грошы на цяперашні розум не паехаў узімку ў халодным кузаве нават у суседнюю вёску, а не тое што ў Віцебск за сотні кіламетраў, будзе адзін сустракаць Новы год. Хіба ж тады, у тым далёкім цяпер ужо пяцьдзесят восьмым годзе мог ён пра такое падумаць? Ат, ды што там ужо сёння гаманіць: мінулае не вернеш!..

Вунь, вунь яна, хата.

– Прывітанне, родная! – Канопліч зняў шапку, схіліў галаву. – Я прыйшоў. Даруй, што позна. Званіў братам, тыя не могуць. У іх жонкі такія, што не разумеюць. Хаця самі і вясковыя. А мая, Марыя, ты ж яе помніш, прыгожая такая, з ямачкамі на шчоках, мяне зразумела, хаця сама і гарадская. Вось так, родная. Сёння я буду з табой. Да раніцы. Дазволь зайсці?

Ключ быў у схованцы, пра якую ведалі ўсе Каноплічы. На радаўніцу яны бываюць ледзь не штогод у Вераснёўцы, аднак не заўсёды нават заходзілі і на падворак – усё было некалі: то нехта пааабяцаў падвезці да горада ды надта спяшаўся, то яшчэ якая прычына. Таму да ключа амаль што не дакранался рука. Замок на дзіва адчыніўся адразу, аднак дзверы напомнілі пра сябе – праспявалі сваю рыпучую мелодыю. У сенцах было так, як і пры жыцці. На цвіку вісела яшчэ амаль што новае рэшата. Цырату, якой быў пакрыты стол, у многіх месцах пагрызлі мышы. Пад столлю боўталіся пучкі лекавых зёлак. Ступа. Божа, ступа! Таўкач быў прыхінуты да сцяны. Што ж, пара праходзіць у пярэднюю хату. Печ. Засланка. Чалеснік. Вядро. Посуд. У зале ўсё было так, як і тады, калі жылі тут людзі. Нашчадкі амаль нічога не забралі – усё збіраліся яны жыць тут у час адпачынкаў, прывозіць дзетак улетку, каб тыя пабегалі па траўцы, аднак мары засталіся толькі марамі.

На падлозе Канопліч раптам заўважыў дробныя кавалачкі фальгі,

якраз у куце, і тады ён падняў вочы на тое месца, дзе ў іх спакон веку вісела ікона. Ікона была на месцы, аднак…. аднак яна мала чым нагадвала яе, ікону: амаль усё, што маглі, патачылі мышы.

Канопліч сеў на табурэт, папярэдне змахнушы з яго пыл. Ён зноў падняў вочы на ікону… А да хаты сказаў:

– Цяпер я разумею, чаму ты паклікала мяне. Разумею, хата. Абраз я вазьму з сабой, у горад. Аддам на рэстаўрацыю. А тады адразу прывязу. Аклад новы зробім – такі, каб ніхто больш не знайшоў у ім і шчылінкі… каб ніхто больш не залез да Боскай Мацеры. Малайчына, малайчына ты, хата, што патурбавала мяне. А я адразу адчуў, што нешта тут не так, што нешта здарылася. Ну, што ж, будзем рыхтаваць святочную вячэру? Будзем!

Ён памыў стол, заслаў яго ручнікам. У гранёную шклянку паставіў свячу. Выклаў усё, што было ў рэчавым мяшэчку, паставіў пітво. Потым Канопліч акуратненька прыхінуў да сцяны фотакарткі самых дарагіх яму людзей – мамы, бацькі, дзеда Якава, бабы Пелагеі, дзядзькі Мішкі, цёткі Зіны… Калі трымаў у руках картку з выявай апошняй, адразу успомніў пра патэфон, доўга шукаў яго – зазірнуў, здаецца, куды толькі можна было. Заставалася апошняя надзея – на гарышча, аднак ён не асмельваўся туды лезці: высока, а лесвіца надта старэнькая. Аднак потым махнуў рукой – адважыўся, палез. Знайшоў! Патэфон быў таксама пагрызены, цяпер ён не меў, як раней, вішнёванга колеру, а нагадваў стары пашарпаны чамадан, падобны на той, з якім вярнуўся бацька з вайны. Калі Канопліч падняў вечка, на дыску ён ўбачыў знаёмую пласцінку. Так, так: гэта была ўсё ж тая пласцінка, з якой малы тады яшчэ Канопліч даведаўся, што пад горадам Горкім у рабочым пасёлку сяброўка жыве…

Неўзабаве патэфон стаяў на стале, і Канопліч накруціў спружыну. Патэфон працаваў! Хоць цяжка было разабраць словы, аднак падалося, што песню ўважліва слухаюць самыя блізкія яму людзі, якія глядзелі на яго з фотакартак. Калі толькі скончылася песня, Канопліч быццам наяве пачуў голас дзеда Якава:

– Паўтары, унук, пра горад Горкі…

Звечарэла. Канопліч яшчэ пры святле запаліў грубку, цяпер вось язычкі полымя ад якой жвава скакалі па сценах. Гарэла свяча. Неўзабаве ў хаце стала цёпла, утульна, як і некалі раней. Хата павесялела і пахарашэла, таксама набыла святочны настрой і выгляд. Размаўляючы з ёй, госць напоўніў шэсць чарак, кожную паставіў перад фотакарткай.

Да канца гэтага года заставалася яшчэ некалькі хвілін, і Хведар Канопліч, натомлены за дзень прыемнымі клопатамі, выйшаў на двор. Было студзёна, на небе паўсюдна гарэлі зоркі. Мноства зорак. Безліч. І раптам ён жахнуўся: у хатах, што былі паблізу, мігцелі агеньчыкі. Прыслухаўся: галасоў не чуваць. А толькі агеньчыкі. Толькі яны...

Ён вярнуўся ў хату, расчулены і ўсхваляваны, сеў за стол. Неўзабаве зайграў гімн, Канопліч падняў напоўненую чарку, хацеў сказаць навагодні тост, аднак разгубіўся і доўга не мог сабрацца з думкамі: перад ягонымі вачыма ўсё яшчэ калываліся трапяткія агеньчыкі ў вокнах суседніх хат...

**АПТАВІК**

Гандбаліст Андрэй Валюшаў у сваім горадзе не быў даўно – бадай што з таго часу, як і стаў ён шырока вядомым маладым чалавекам у спартыўным свеце. Не выбрацца. То адны спаборніцтвы, то іншыя. Няма спаборніцтваў – трэніророўкі. Калі яшчэ выступаў за спартыўны клуб арміі, тут было прасцей, – блізка да Гомеля, можна было выкраіць час, каб праведаць бацькоў. Цяпер жа ён жыў і гуляў за мяжой, і не проста гуляў, а гуляў выдатна, таму яму прапанавалі нават прыняць нямецкае грамадзянства, каб мог ён абараняць гонар Германіі на міжнародных спаборніцтвах. І крыху дзіўна было бачыць, што Валюшаў, які гуляў некалі за нашу каманду, выступаў не так даўно у адным афіцыйным матчы супраць сваёй краіны. У сучасным спорце іншы раз такое бывае, і здзіўляцца гэтаму няварта.

Справы ж у гандбаліста з сусветна вядомым імем ішлі добра. На немеччыне ён купіў дом, шыкоўны кабрыялет, на якім і завітаў нарэшце на Радзіму. Павітацца з ім прыйшлі некаторыя школьныя сябры, суседзі. Бацька ганарыўся: а вы гаварылі!.. Вось вам і Андрэйка мой!.. Стары Валюшаў іншы раз меў звычку пахваліцца, што сын яму рэгулярна дасылае пэўную колькасць грошай у цвёрдай валюце, мог бы нават не працаваць, на жыццё хапіла б, але як ён пражыве без роднага Сельмаша, на якім кожны чалавек яму кум, брат і сват?

Дні, што вымеркаваў Андрэй для адпачынку ў бацькоў, падыходзілі да свайго лагічнага завяршэння, пара было збірацца назад.

– Прыехалі б хоць паглядзелі, як я там жыву, – сказаў, бы між іншым, Андрэй сваім. – Тут жа блізка. Гэта толькі здаецца, што калі іншая краіна, то яна ого дзе!.. І я спярша так думаў. Памыляўся, аднак. У век хуткасцяў – раз плюнуць. Ну, дык як, чакаць?

– Не ведаю, што табе і сказаць, сынок, – стрымана і разважліва паглядзеў на сына бацька. – Пажывем, як той казаў, пабачым. Калі ж не былі мы нідзе за мяжой, дык яно і не хочацца нікуды. Нам, ага, і тут добра. Цябе ж мы па тэлевізару часта бачым. Тэлефон ёсць. Так, маці?

Маці пацісныла плячыма, усміхнулася і пяшчотна прытулілася да сына, ціха прашаптала:

– Калі толькі на вяселле пазавеш?..

– Пазаву!

Чырвоны кабрыялет гандбаліста неўзабаве выруліў з двара, усе, хто праводзіў яго, памахалі ўслед рукамі. Шчаслівай дарогі!.. Яны ж не бачылі, як за вуглом дзевяціпавярховага дома кабрыялет адразу спыніўся, а яго гаспадар доўга сядзеў на сваім месцы і не зводзіў вачэй з жанчыны, што, не звяртаючы на яго ніякай увагі, прапаноўвала зусім побач – у якіх двух-трох метрах – праходжым пучкі зеляніны. Убачыўшы яе, у Андрэя ёкнула сэрца: дык гэта ж мая класная, дык гэта ж Таццяна Іванаўна!.. Ён на пэўны час забыў, што трэба ехаць далей, што наперадзе няблізкая дарога, глядзеў і глядзеў на сваю класную, і не ведаў, што рабіць яму далей – падыйсці павітацца, ці, можа, не трэба?..

... У класе, калі з'яўляўся Андрэй, заўсёды стаяў невыносны гул: так віталі яго, рэдкага тут госця, аднакласнікі. Кожны з хлопчыкаў лічыў за гонар пацiснуць высокаму і дужаму Андрэю руку, паляпаць па плячы. Ну, дык расказвай, дзе быў на гэты раз, што бачыў, чым ласаваўся? Не радавалася ўсёй гэтай урачыстасці толькі Таццяна Іванаўна. Спартыўныя поспехі Валюшава яе цікавілі менш за ўсё, ёй не давала жыцця галоўная балячка – да якога часу той будзе цягнуць увесь клас назад? Ну, едзеш ты, хлопча, на тыя спаборніцтвы, справа, мусіць жа, патрэбная, дзяржаўная, калі існуюць яны, але ж бяры і падручнікі з сабой, заглядвай зрэдку. Аднак Андрэй пра гэта і слухаць не жадаў. Падручнікаў тых, і Таццяна Іванаўна ведала пра гэта, цураўся ён і дома. На заўвагі класнай іншы раз адказваў дзёрзка. Тады класная зрывалася, папракала Андрэя, па яму, маўляў, турма плача, і навогул з яго не будзе чалавека!..

Паміж імі прабег, адным словам, чорны кот.

Пазней Таццяна Іванаўна ўздыхнула з палёгкай: Андрэя забралі ў сталіцу ў спартыўны інтэрнат, а паколькі спортам яна ўвогуле не цікавілася, то зрэдчас ёй пра Андрэя дакладвалі вучні. “Учора па тэлевізару бачылі Валюшава! Ого гуляў! Лепш за ўсіх!” І так далей.

... Цяпер вось Андрэй Валюшаў сядзіць у сваім кабрыялеце і назірае, як былая ягоная класная гандлюе зелянінай. Яна іншы раз скіроўвала позірк у бок кабрыялета, аднак ненадоўга: шыкоўная аўтамашына не прыцягвала ўвагі, не імкнулася разгледзець яна і чалавека, які сядзеў за рулём. Настаўніца-пенсіянерка жыла сёння зусім іншым жыццём. І хоць Андрэй не чуў голасу Таццяны Іванаўны, яму здавалася, што яна, як і некалі на ўроку, паглядаючы на вучняў, ад якіх чакала адказу на пастаўленае пытанне, напамінала яго па некалькі разоў... Так і цяпер напамінала праходжым: пятрушка, сальдзярэй, кроп... Хто купіць?.. Смялей, людзі, смялей!.. Іншы раз

перад ёй нехта спыняўся, прыцэньваўся, потым даставаў грошы... Але большасць людзей праходзілі міма.

Пятрушка, сальдзярэй, кроп... Кроп, пятрушка, сальдзярэй... Гэтыя словы, падалося, рэзалі слых, хоць Андрэй іх і не чуў. Што за д'ябал!? Ён націснуў на пядаль счаплення, хацеў рвануць з месца, але адпусціў яе: падвярнулася ідэя... Побач якраз праходзіў хлопчык, Андрэй паклікаў яго.

– Як цябе завуць? – пацікавіўся ў хлопчыка.

– Арцём..

– Арцём, ты можаш зрабіць для мяне добрую справу?

– Гаварыце, што трэба...

– Вунь, бачыш, жанчына прадае зеляніну?

– Ну.

– Купі яе ўсю.

– Жанчыну ці зеляніну?

– А ты, бачу, жартаўнік.

– Гаварыце хутчэй, а то мяне дома чакаюць. Тата без хлеба суп не есці.

– Купі ўсю зеляніну. Оптам. Тут сто еўра...

– Ого!

– Табе пяць хопіць?

– Ого!.. А куды мне яе, зеляніну,тую?

Андрэй задумаўся: а сапраўды, куды яе? Але тут жа знайшоўся:

– А ведаеш, я з сабой яе вазьму. Толькі рэшты ў бабулькі... прабач, у жанчыны, не патрабуй. Так і скажы: рэшты не трэба. Аддай грошы, забяры тавар, і ты атрымаеш свой ганарар. Ну, давай, давай, а то мне яшчэ далёка ехаць.

Ён бачыў, як хлопчык працягнуў Таццяне Іванаўне грошы, бачыў і разгублены твар жанчыны: яна вадзіла галавой па баках, шукаючы таго, пэўна ж, жартаўніка, які, не інакш, рашыў падкузьміць з яе. Але так і не ўбачыла яго. Ды, відаць, і хлопчык быў настойлівым: я пакупнік, я! Усю зеляніну мне, а рэшты не трэба!.. Вам якая справа, каму прадаваць? Таццяна Іванаўна, нямала павагаўшыся, нарэшце забрала грошы і аддала ўвесь тавар. Хлопчык жа неўзабаве атрымаў свой ганарар. Андрэй вёз зеляніну ў салоне кабрыялета і не ведаў, навошта яе столькі яму аднаму?..

Што дзіўна, дык ён зусім і не дакараў сябе за тое, што сам не падышоў да былой класнай, не павітаўся.

Можа, так было лепш ім абодвум?..

ДУРНАЯ БАБА

Цімчыха апошні раз ляніва шаркнула мятлой па халодных, абраселых плітах, якімі шчыльненька ўкладзена ўсё наўсцяж вакол помніка Леніна, спакваля задрала галаву ўгару, хрыпата ўздыхнула і мовіла раздражнёна і балюча:

– Есці хачу, Ільіч. Няма сілы мятлу цягаць. У вачах цёмна – як ноччу. Што, не верыш? А ты вер, вер, правадырок. Сёння што пракаўтнула? Сухар пагрызла. Ад салёнага гурка ўжо ўсяродку свярбіць. Мяту, мяту, мяту... Другі месяц пры пасадзе, а за якія шышы? Табе, Ільіч, добра стаяць – есці не хочаш. Каменны. А я – жывая... І сухая, бачыш? А сухія добрыя грызуны. Во, во... начальнік мой пад'ехаў. На «Волзе». Трэба шавяліць мятлой. А то адбярэ. Ён злы. Толькі б не упасці перад ім... толькі б не ляснуцца... а то ж сорамна будзе... перад табой, Ільіч, возьме баба ды распаўзецца... раскірэчыцца, чаго добрага... і будзе ляжаць як нежывая. Сораму не абярэшся. Да мяне, да мяне ідзе начальнік. Бачыш? З папкай. Гэта ён. Нешта, відаць сказаць надумаўся. Мо палучку паабяцае?

Начальнік змерыў Цімчыху непрыемным строга-сухім позіркам, загадзя прыплюснуў вока і торкнуў угару пальцам, які на самым кончыку быў заклеены пластырам:

– Бачыце?

– Што? Дзе? – Цімчыха паспрабавала таксама задраць галаву, аднак яе павяло, яна адчула, што зрабілася тлумна, і ўсё навокал – і галава Леніна, і шэры рог будынка, і бясколернае неба – умомант пахіснуліся, затрымцелі перад зрэнкамі, і жанчына не змагла больш нічога сказаць, абхапіла двюма рукамі мятлу і толькі паспрабавала кіўнуць, не асабліва верачы, што ёй гэта ўдасца.

– ... Кучу бачыце?

Яна зноў кіўнула.

– На галаве ў Леніна? Прыбраць!

– Дык яна ж... даўно там... куча... і да мяне ляжала. Прымала з кучай... Старая куча...

– Будзьце дабры, адпрацоўвайце грошы. Гэта ваш абавязак. Каб не было!

– Добра... добра... – заківала Цімчыха начальніку, але той ужо павярнуўся ў бок чатырохпавярховага адміністрацыйнага будынку, пашоргаў падэшвамі па непрыбранай плошчы, ажно далёка было чуваць, як ён нібыта наўмысна цягне ногі, каб на такія ягоныя глупствы нехта звярнуў увагу.

Не адразу Цімчыха падняла галаву на Леніна:

– Чуў? Загадаў твой плеш памыць. А як я ўскараскаюся? Проста сказаць. Ты ж высока, пад самым небам… А я тут, на зямлі, як казяўка якая. Лесвіцу трэба недзе браць. Лесвіцу, так-так. А галубам тым… ды і вароны міма не пранясуць, быдлы, дзіркі ім не пазатыкаеш. І цэляць жа, халеры, акурат на галаву. Туалет знайшлі. Пайду лесвіцу шукаць. Пацярпі. Больш цярпеў. Змыю. Птушынае небарацтва лёгка змыць, але ж цябе, Ільіч, і людзі абляпалі… з ног да галавы. Ты ўвесь у гаўне. Вось тое, людское, анучай не сатрэш…

Яна прыхінула мятлу да помніка і пакрочыла, сагінаючы наперад тулава, у бок сваёй хаткі, спадзяючыся выхапіць вачыма там, у пуньцы, мо якую прыстасаванку, каб прынесці на плошчу і лезці, прыціскаючыся шчакой да лесвіцы ці чаго там, і лезці да забруджанай птушынымі хвастамі галавы правадыра. Ёсць у ейнай пуньцы тая лесвіца ці няма – Цімчыха не ведала, бо жыве ў гэтым гарадку яна зусім мала, столькі ж і ў хатцы. Вунь іх, гэтых хатак-дамкоў, колькі тут гуляе! Выбірай, аблюбоўвай, жыві. Яна і выбрала гэтую, у якой і жыве з першага дня. Жытло няхітрае і не надта прывабнае – маленькае, на адзін пакойчык і сенцы. Праз двор – тая пунька, у якой і была, калі толькі засялілася. Як грымнуў тут побач зусім Чарнобыль – гарадок паступова апусцеў,захеўрыў вачніцамі памерлых хат, шыкоўных шматпавярховак у мікрараёне. Але не ўсе з’ехалі. Асобныя ж людзі і прыбіліся сюды – больш з Сярэдняй Азіі беларусы, якім там, пад чужым белым сонцам, стала няўжытна. І бомжы з розных куткоў – гэта ўжо больш рускія.

Прыехала ў гарадок і Цімчыха. З Гомеля. Кінула аднаго там мужа-п’яніцу ў двухпакаёўцы, няхай ён там хоць азызне, атрупянее, прыхапіла такія-сякія няхітрыя пажыткі, і сюды. Падмятае. Мятлу далі ў першы ж дзень, калі папытала, дзе б зачапіцца працаваць. «Як тая рацыя – яшчэ не дужа вядома, -- разважала жанчына, -- а Цімка дакладна заб’е, к гэтаму ідзе».

Ёй яшчэ хацелася крыху пажыць.

У пуньцы стаяла лесвіца, але Цімчыху не ўразіла – нізкая, на чатыры прыступкі, і задужа нейкая камлюкаватая, цяжкая. Не падняць. Вярнулася з нічым. Задрала галаву на Леніна, сказала:

– Няма лесвіцы. Стой пакуль так. Калі б былі грошы ў мяне, то пытанне б вырашылася само сабой – паставіла б пляшку мясцовым бомжам, іх тут процьма, яны б цябе за гарэлку і памылі б усяго, не тое каб!.. А без грошай не возьмуцца. Хоць і павінны б так, задарам, бо ты ж ім нічога кепскага не зрабіў. Было добра, калі табе верылі,

калі ты вечна жыў... Пілі і елі. «Далоў рэвалюцыю!»Чуў, Ільыч? Дурні і крычаць. Каб жа не было і рэвалюцыі, то хто б з іх, гарлапанаў, жыў-быў сёння? Іншыя б... зусім іншыя людзі б, а гэтых, мусіць жа, і блізка не было б. Такіх, Ільыч, ты сам і напладзіў. А яны, бачыш, табе за гэта што ? Усяго абляпалі. Ну, то добра... Елі, пілі. А тады пачаліся перабудовы гэтыя, кожны пачаў коўдру на сябе цягнуць, яны і паўкрываліся, хто цягнуў, аднак паздзіралі ж тыя коўдры з нас... і заблісклі людзі голымі сядачамі... палавінкамі... На ўсіх вуглах крычаць... А я і разгубілася – не магу прышыцца да каго-небудзь. Адна засталася. З мятлой. Слабая я, слабая... Зусім заблыталася ў гэтым жыцці. Лепш бы нічога не слухаць. Лепш бы жыць дзе на хутары, мець здаровага і непітушчага мужа, свой надзел зямлі ладны... свае жорны... і ні радыё, ні тэлівізара каб. Хаця чаго ж я? Можна падумаць, што ў мяне ёсць усё гэта. Няма-а. Няма-а... Хай, хай самі рашаюць палітыкі хутчэй, як нам жыць лепш, лацвей. Дыхаць-та вольна. Дыхай! Дыхай!.. Але ж і есці хочацца. Іншы раз – дужа. Як вось сёння. Пайду... набяруся смеласці, пайду бульбы папрашу ў краме. Пад запіс. Да зарплаты. Можа, бульбы і дадуць, не вялікая ж цэннасць, а без яе – ніяк. І шчэпаць солі вымалю. Не гарэлку ж буду прасіць. Павінны зразумець, пранікнуцца павінны. Свае ж людзі. Беларусы ж. Чужых кармілі некалі. Няўжо сваймy чалавеку пашкадуюць? Хоць не той час, што раней быў. Не той. Могуць і дулю паказаць. Пад самы нос.

Цімчыха не адразу ўбачыла, як побач з ёй вырасла постаць мужчыны неакрэсленага ўзросту з задрыпаным тварам і з такім жа ўсім знешнім выглядам.

– Што, Леніну жалішся? – кашлянуў у кулак мужчына.

– Яму.

– Абы-што! – паласнуў кашчавай, даўно нямытай рукой паветра каля самага носа мужчына. – Хто цябе, як і мяне заадно, пачуе? Каму мы трэба? Абы-што!

– Піць мені трэба! – чамусці груба сказала гэтаму невядомаму мужчыне Цімчыха. – Піць! А то параспіваліся!

Мужчына ледзь прыкметна хехекнуў:

– Калі п’еш, тады не так есці хочацца. А жратва сёння дарагая. Выгадней піць. Хахляцкую. Паслухай, баба... Як цябе зваць-та? Га?

– Ніяк. Я замужам.

– А-а-а!.. А то хацеў сказаць: давай разам жыць будзем?

– Давай,– вырвалася ў Цімчыхі.

– А ты згаворлівая, – спакойна, насоўваючы непаслухмяную ўсмешку на твар, заўважыў мужчына. – Люблю такіх баб. Давай ці да мяне, ці я да цябе. Я назіраў за табой. Даўно. Не асмельваўся падступіцца. Мятлы тваёй баяўся. Агрэеш, думаў. А ты – добрая.

– А ў цябе што ёсць? – падняла і адразу апусціла вочы Цімчыха.

– Хата. Цалкам. І ложак. І на ім усё ёсць. Нават коўдра.

– А есці?

– Гэтага няма.

– Тады жыві адзін, – махнула рукой Цімчыха. – Мне мужык не трэба для ўцехі. Асабліва такі, як ты. Дрыжыш увесь – як бурбалка... Морда – што печаны яблык. Падыхаць сюды прыехаў ці што?

– Ат! Дык што, разыходзімся, значыць?

– Давай, давай, вымятайся! – Цімчыха замахнулася на мужчыну мятлой, але ўспомніла, што патрэбна лесвіца, апусціла мятлу, дружалюбна спытала. – А ты, жаніх, лесвіцу для мяне не можаш раздабыць?

– Магу. Навошта табе?

Жанчына паказала на мурзатую галаву Леніна. Мужчына пырснуў смехам.

– Прытарабаню. У мяне ёсць. Толькі сам я не палезу – баюся, што не ўзбяруся. Шосты месяц п’ю. Як і прыехаў. Штодня.

– Нясі, я сама.

– Чакай, – і ён, падцягваючы правую нагу, пачыкільгаў з плошчы, крыху далей спыніўся, азірнуўся на Цімчыху, задраў галаву на помнік, дзе масцілася на тым жа самым месцы, што і шмат разоў раней, вялікая, як вылепленая з воску, варона. І торкнуў у яе кручкаватым пальцам:

– Падла, га!..

Цімчыха ж не чула яго, мяла і мяла сабе далей, не прыглядаючыся асабліва і да варон. Ну іх, барабашак такіх! І так мутарна. «Во абатру Леніна і пайду прасіць ў краму бульбы. А ў маі пасаджу сваю. Хай расце. Ёсць бульба – ужо не страшна. Яна памерці не дасці. А на грошы гэтыя спадзявання няма... мала веры ім, грашам. Могуць даць – могуць не даць. Як уздумаецца ім. А бульба яна і ёсць бульба. Хлеб».

Мужчына, як і абяцаў, прынёс лесвіцу, лёгкую і даўгую, «апранутую» на сябе, каля помніка спусціў яе на паркет, пераступіў з акенца, спытаў мляўка:

– Куды яе?

– К помніку. Са спіны прыладзь. Спіна таксама ў пуціках... у шэра-белых каўтках. І патрымай, каб не грымнуцца мне. Я сама палезу, калі ты палахлівы такі.

– Трасе.

– Стаў. Так, так. Ага. Трымай жа!

Яна трымала ў адной, левай, руцэ мокрую брудную анучу, а правай хапалася за цуркі і лезла акурат так, як і ўяўляла, – шчакой прыціскалася да лесвіцы, і чым узбіралася вышэй, тым больш праціналі цела здрадніцкія дрыжыкі, перахоплівала дых, і ануча раптам выпала з рукі, шлёпнулася на лысіну мужчыне, ён войкнуў, адпусціў лесвіцу, хапіўся абедзьвюма рукамі за анучу і бачыў, амаль самлелы, як лесвіца зверху задралася і прыбіральшчыца, схапіўшыся за яе, як за турнік, ляцела разам з ёй вобзем. І вароны дружна і галосна ў адно імгненне ўстрывожыліся на ўсіх дрэвах паблізу, пачуўшы адчайны нечалавечны крык Цімчыхі:

– Га-а-а-а-а-а!

Было чуваць, як яна чмякнулася спіной на плошчу, сціснуўшы – да белі ў пальцах – лесвіцу. Мужчына, мацюкнуўшыся гучна і хлёстка, крутнуўся на стаптаных абцасах, бы трапіў у віхор, і шугануў падалей, бег і соп:

– Забілася!.. Забілася!.. Забілася!..

Сабраліся людзі. Пад’ехала «хуткая». Цімчыха яшчэ крыху дыхала, а ў вачах цьмяна плаваў бераг неба з запэцканай галавой Ільіча.

Падышоў начальнік.

– Разбілася, – сказаў яму доктар.

– Дурная баба, – пахітаў галавой, быццам спачуваючы, начальнік. – Навошта лезла? Хто пасылаў? Хіба ж тут, на зямлі, няма чаго падмятаць, мыць, чысціць? Дык не – палезла...

І ён задраў сваю галаву на галаву Леніна. Высока. Дужа высока. Недзе пад самым небам яна, тая галава... А яшчэ вышэй ён убачыў бабу з мятлой, якую нават не ведаў, як звалі.

## Э С Т Э Т

Піваварчыку дваццаць год, а не скажаш: бародка, якую ён адрасціў “для саліднасці і важнасці”, як сам прызнаецца, дужа ўжо рэдзенькая, доўгая і вузенькая унізе, прыкметна старыць маладога чалавека. Аднак ён гэтага, здаецца, ці не разумее, ці не заўважае, дома ж яму падказаць няма каму: Сцяпан жыве адзін. А дом у яго – гэта невялічкі пакойчык у інтэрнаце будаўнічага трэста, які выбіў яму кіраўнік студыі “Дызайн-арт”, дзе і сёння лічыцца Піваварчык спецыялістам па інтэр’еру офісаў. Так-так, офісаў. Калі браць, то шырока. Дзе яшчэ ён можа паказаць сябе так, як не там, сярод крутых хлопцаў і не менш крутых дзяўчын. Адна з іх, прыгажунь, неяк сама напрасілася ў госці да Сцяпана, ён не здолеў адбіцца ад назолы, прывёў дзяўчо ў свой катушок, а тая і ў аладкі пляснула, здзівіўшыся:

– Дык тут жа, мама мая, жыць можна! Такая прыгажосць!..

Іншага Піваварчык і пачуць не жадаў: усё ж ён дызайнер, а не абы-хто, і для сябе пастарацца лічыў першай справай, каб не казалі потым, што шавец не мае ботаў. Не, так не скажаш: пакойчык ён і сапраўды выштукаваў – залюбуешся. Хаця і на другім курсе ўсяго вучыцца ў інстытуце, завочнік, а бач ты – не зломак, галава ў хлопца ёсць.

А дзяўчына працягвала:

– Можна, Сцяпан Паўлавіч, мне пажыць у цябе? А то ж ездзіць далёка, ведаеш жа, дзе жыву... Калі не ведаеш, магу сказаць...

– Я не супраць – жывіце. Для гасцей у мяне раскладушка прадугледжана. Вытрымлівае звыш ста кілаграмаў. Але ж муж што скажа?

– Ён не кінецца мяне.

– Як гэта?

– Проста. Сказаў, каб не прыходзіла. Вось я і не прыйду. Ну, чаму ты маўчыш, Сцяпан Паўлавіч? Разгубіўся, бачу?

Гаспадар утульнага пакойчыка не разгубіўся, ён паглядзеў, што ёсць у яго ў маленькім халадзільніку, потым прычыніў яго, спакойна сказаў:

– Два дні пратрымаемся. А там – аванс. Ну, атабарвайцеся, будзьце, як дома.

– Як дома – не хачу! – насупілася дзяўчына. – Дома мне кепска. Я прагну, я жадаю, каб мне было хораша тут, у цябе, а, Сцяпан Паўлавіч? Можна, не будзем выкаць? Мы ж не на працы? Давайце,

а? А то мы выкаем і тыкаем нейк адразу – пераскокваем з аднаго на іншае. Між намі, як гэта не цяжка заўважыць, існуе нейкая адлегласць. А ў такім, хоць і надта ўтульным, але даволі ўсё ж цесным пакойчыку, ды яшчэ на “вы”? Нешта не тое... Згодны?

– Можна... будзем..., – прамумкаў Піваварчык, хоць сам не мог зразумець да канца, чаго хоча ад яго дзяўчына.

– Ура-а!

– Цішэй, у нас тут у суседзяў малыя дзеці. Магчыма, спяць...

– Я таксама мару пра дзіця, – дзяўчына млява пацягнулася, агаліла лытку – кароценькая спаднічка паднялася разам з рукамі.– Угу. Для таго і замуж выскачыла, а мой не хоча дзіця. Дурань таму што. Не глядзіць наперад, як вось ты... Дзяржава б нам грошай заплаціла больш, чым я атрымаю ў сваёй шарашцы за тыя тры гады, што была б у дэкрэце. Цяпер за першынца падкінуць добра грошыкаў, не кажучы ўжо пра другога. Але ж куды ж я разагналася, дурніца? Хоць бы аднаго... пакуль. Некалі ж трэба пачынаць. А ты, Сцяпан, пра дзіцё не марыш?

– Неяк не думалася...

– А я толькі гэтым і жыву...

– Тады... тады не па адрасу.

– Чаму ж?

– Хочаш, каб прызнаўся?

– І гэтага таксама хачу...

– У мяне яшчэ не было дзяўчыны. Ніколі.

– Хлусіш! Ну, хлусіш жа!

– Зусім не. Не бы-ло!..

– А калі ж прадбачыцца ў цябе дзяўчына?

– У дваццаць два я толькі пачну пра яе, дзяўчыну, думаць.

– Так позна?

– У мяне ўсё разлічана, усё па палічках раскладзена: дзе, што, калі, як..

– Цікава-цікава, аднак!..Першы раз сустракаю такога чалавека. Такога выкапня. Не верыш?

– Веру. Нас, такіх, мала. Але ёсць. Вось што... Я... мне трэба ў горад па справах. А ты распранайся, адпачні. Калі хочаш пакляваць чаго, знойдзеш у халадзільніку. Запомні: усё, што ў халадзільніку, можна браць. Толькі там. Нідзе болей. Ну, дык я пайду?

Дзяўчына памахала яму пальчыкамі, а потым какетліва паднесла тыя пальчыкі да сваіх вуснаў, цмокнула іх, а сама глядзела на Піваварчыка так, быццам ён зусім нікуды не збіраецца тэпаць, а

пачне зараз жа распранацца, загіпнатызаваны яе прышчураным і заманлівым поглядам, шпурляць сваё адзенне падалей ад сябе, а потым працягне свае доўгія і кашчавыя рукі насустрач ёй, і тады яна, згарнуўшыся ў клубок, напяўшыся, бы струна, з небывалым імпэтам кінецца ў яго абдымкі, і ўсё на тым не скончыцца... На тым усё толькі пачнецца... Дзяўчына заплюшчыла вочы: ну, дзе ты там, любы! Бяры мяне! Хапай! Калі я прыйшла, то ведаю, навошта! Без мэты не хаджу! Бяры мяне! Рабі, што хочаш! Сцяпан, халера ты гэтакая!..

Сцяпан папытаў:

– Цябе, здаецца, Люсяй завуць?

– Люсіндай, – паправіла яна.

– Запомню. Я хутка буду.

– Чакаю, Сцёпа!..

Ён патупаў, не азірнуўшыся. Люсінда паслала яму паветраны пацалунак, якога Сцяпан, безумоўна ж, не бачыў. Пакуль ішоў да шэрага чатырохпавярховага будынку, дзе месціўся прафсаюз работнікаў культуры, яна займала яго галаву. Не, дакараў ён сябе, зусім не так трэба было дзейнічаць з першай хвіліны, з таго моманту, як увязалася яна за ім. Прэч, Люсінда! Бач, чаго захацела! У госці! Ну, калі ўжо табе так закарцела, то і паводзь у гасцях прыстойна, а не закідвай адразу гутарку пра дзяцей. Дык не ж! Адразу, як кажуць, бярэ быка за рогі. Не на таго напаролося, прыгажуня. У мяне дзеці будуць, але пазней, значна!.. Я толькі пабяруся шлюбам праз дзесяць год – у трыццаць. Пасля інстытута – аспірантура, абарона кандыдацкай, а там, магчыма, і доктарскай. Жонка таксама павінна быць вартай мяне. Не Люсінда ж!.. Люсінда, Люсінда... А ў яе, аказваецца, і сапраўды муж ёсць? Сказаць шчыра, дык Піварчык і не ведаў, гэта ён так, на ўсялякі выпадак, нагадаў ёй пра яго, калі папрасілася трохі пажыць. Дык ёсць у яе, у рэшце рэшт, муж ці не? Тут трэба падумаць, тут так, знаскоку, нельга... А раптам і прыйшла да яго... як да мужа, можа яна спіць і бачыць Піваварчыка таткам свайго дзіцяці? Не п’е. Не курыць. А цяпер вось і бародку завёў. Хто што заводзіць, а ён – бародку. Хутчэй усяго так. Бо калі ж ёсць у цябе, Люсінда, муж, навошта тады пляцеш павуціну вакол яго, значыць, а? Для якой мэты? Пачакай у мяне, разбярэмся!..

А вось і той будынак, да якога шыбаваў Піваварчык. Люсінда адразу выпырхнула з галавы, нібы спуджаная птушка з гнязда. У яго галаве дастаткова месца іншым думкам і планам. Перапоўнена галава. Тут вось якая аказія атрымалася. Апошнім часам Сцяпана

пацягнула на вершы. Напісаў ажно тры, не сказаць, каб шмат радкоў было ў кожным тварэнні, аднак і не карацелькі. Сярэднія вершы – у плане, вядома ж, памеру, а што ж тычыць іх мастацкіх вартасцяў, тут не можа быць і размовы. Класіка. І не пярэчыць! Але ж, як кажуць, не мела баба клопату, дык купіла парася. Так і ў яго атрымалася з вершамі. Некуды ж трэба іх аддаць, каб надрукавалі. Піваварчык спаў і бачыў сябе ўганараваным паэтам, нават калі сёрбаў боршч і не было ў ім лаўровага лісця, ён усё роўна адчуваў яго пах. Ну, добра, аддасць ён іх у часопіс альбо газету, а дзе гарантыя, што іх не ўкрадуць? То-та ж. Няма гарантыі. Паколькі Піваварчык усё рабіў разважліва і памяркоўна, ён высветліў, што існуе арганізацыя, якая стаіць на абароне аўтарскіх правоў. Адшукаў на вуліцы Казлова. Там нават не глянулі на яго вершы, адпіхнулі, можна сказаць. “Вершы не рэгіструем!” Бачылі? Толькі, кажуць, песні і п’есы. А калі ён проста паэт, Піваварчык, дык што яму цяпер рабіць? Куды звяртацца? Хадзіў і да самага галоўнага абаронцы аўтарскіх правоў, дык той і размаўляць не захацеў: ідзіце, маўляў, малады чалавек, і не перашкаджайце працаваць. Яму, бачце, працаваць трэба, а ён што, лынды б’е? Так, атрымліваецца? Ну, пачакайце!.. Хоць і памеўся паказаць Піваварчык, хто ён такі, аднак нічога не дамогся ў галіне захавання сваёй інтэлектуальнай уласнасці. Тут яшчэ і такая акалічнасць: сустрэў ён неяк паэта Леаніда Дранько-Майсюка – пазнаў дзякуючы экрану тэлевізара – і паскардзіўся таму на несправядлівасць і непрызнанне, як творцы. Масціты паэт не стаў яму падлагоджваць, а заявіў адкрытым тэкстам: вершы і сапраўды не рэгіструюць, бо калі пачнуць кожны напісаны верш рэгістраваць, трэба пасадзіць для гэтай справы тры сотні чалавек, калі не болей, і ўсім даць аклад. А дзе ж сродкі, шаноўны? Быццам і праўду гамоніць Дранько-Майсюк. І яшчэ параіў ён адносіць смела і нікога не баяцца свае вершы ў газеты і часопісы. Сказаў, не украдуць. А калі творы і сапраўды цікавыя, то неўзабаве яны стануць здабыткам аматараў паэзіі, а ён, гэта значыць Піваварчык, – апынецца адразу на Парнасе. Толькі не зусім пераканаў Піваварчыка Дранько-Майсюк. Усё ж, усё ж... А раптам? Хоць Піваварчык і сумняваўся ў шчырасці тых, хто друкуе вершы, аднак нічога не мог супрацьпаставіць ім. Ну, праляжаць тыя тры вершы ў ягоным пісьмовым стале, страцяць сваю актуальнасць, а яшчэ горш, знойдзецца які-небудзь лаўкач ды і выдасць акурат такі тэкст, які здарыўся і ў яго. Што тады? І ён набраўся смеласці і ўсё ж рашыў аддаць куды-небудзь свае творы. Выпадкова патрапіў у газеце на абвестку, з якой даведаўся, што

прафсаюз работнікаў культуры рыхтуе паэтычную анталогію і запрашае, такім чынам, усіх паэтаў, якія маюць дачыненне да гэтай галіны, прыносіць свае творы. Што ён і зрабіў. Вершы прынялі, праўда, чытаць не сталі, але паверылі, мусіць жа, што калі чалавек з бародкай, то і так вядома, хто ён. Канешне ж, паэт. Папрасілі толькі напісаць пра сябе кароткую даведку і прынесці фотакартку. Фотакартку выбіраў доўга. Спыніўся на той, дзе ён у чорным касцюме і пры гальштуку. І, канешне ж, з бародкай. Так больш годна. А потым патэлефанавалі з прафсаюза і папрасілі зноў прынесці фотакартку, слёзна спаслаліся на тое, што недзе ранейшую згубілі. Піваварчык адразу адчуў няладнае. Падумаў: значыць, вершы не хочуць друкаваць, таму і блазнуюць з карткай. Як гэта так – усіх карткі маюцца ў наяўнасці, а яго ўзяла і прапала. І вы верыце ў гэта? Піваварчык нізашто. І вось ён ідзе забіраць вершы назад, калі такія разумныя дужа складальнікі альманаха. Няхай друкуюць цяпер розную лухту. Будуць ведаць, як губляць карткі.

У тым кабінеце, куды ён адносіў свае творы, яго чакаў мужчына з пляшывай галавой. Убачыўшы Піваварчыка, нялюба змерыў таго позіркам, заўважыў:

– Яшчэ б хвіліна, і мяне толькі б бачылі.

– Даруйце, але раней не мог: працоўны дзень заканчваецца ў мяне роўна ў сямнаццаць нуль-нуль.

– Гэтаксама, як і ў мяне, дарэчы. Забірайце свае вершы і не дурыце мне больш галаву.

Піварчык узяў тры спісаныя лісткі, хаваць у дыпламат іх не спяшаўся, падняў вочы на складальніка альманаха:

– А картку – што, так і не знайшлі? Маю?..

– Не, пакуль не. Відаць, хтосьці згроб канверт з імі, з фотакарткамі, і пакуль не агледзіцца, што да чаго, не верне. Калі ж ходзяць тут усялякія!..

Піваварчык насцярожыўся:

– Прабачце, дык картка прапала не толькі ў мяне?

– Каб жа! Усе, усе прапалі. І ніхто, дарэчы, вершы не забіраў, акрамя вас.

– А ведаеце, што? – Піваварчык паклаў назад усё тыя ж тры лісткі.– Тады і я не буду. Што гэта я сапраўды?.. Калі б нават картка і згубілася ў аднаго мяне, то можна ж было новую прынесці. Неяк не падумаў. Бывае. Прабачце яшчэ раз.

– А думаць, шаноўны, трэба, – сказаў пляшывы дзяцюк і усім выглядам паказаў, што пара зачыняць кабінет. – Я, дарэчы, яшчэ

вашы творы і не чытаў. Усё часу не выберу. Але веру, веру, што рэчы добрыя. Па вас жа відаць. Ну, да сустрэчы! – і ён моцна пацiснуў Піваварчыку руку.

Ужо калі развіталіся, Сцяпан пашкадаваў, што не пацікавіўся, як зваць-велічаць укладальніка альманаха. Не ў яго стылі, але нічога цяпер ужо не паробіш: прамахнуўся.

Толькі цяпер ён і ўспомніў, што ў ягоным інтэрнацкім пакойчыку чакае яго Люсінда. Настрой не сказаць каб быў добры ад прадчування сустрэчы з ёй, але трэба ісці дадому, нічога не паробіш. Сапраўды, і чаму менавіта да яго яна прычапілася? Што, болей хлопцаў няма? А з іншага боку, дык трэба было б і нос яму задраць – ні каго-небудзь выбрала дзяўчына, а яго. Ганарыся, Піваварчык! А нешта не ганарыцца. Не ўваходзіла ў ягоныя планы сёння браць і бутэльку дарагога марачнага віна, а прыходзіцца. Купіў. Так, з віном парадак, а цукеркі ёсць дома.

Люсінда і сапраўды чакала яго, і калі ён утапіў кнопку званка, дзверы адразу ж распахнуліся.

– Можна? – чамусьці папытаў ён, перш чым пераступіць парожак.

– А што ты маеш на ўвазе? – зноў мляўка пацягнулася яна, агаліла лытку.

– Зайсці... гэта... да сябе хоць... можна?

– Калі ласка! – Люсінда зрабіла шырокі жэст рукой, усміхнулася.

Неўзабаве ён паставіў на часопісны столік два фужэры, паклаў, не знімаючы вечка, шыкоўны карабок цукерак “Палессе”, які да гэтага ляжаў на кніжнай шафцы, нетаропка адкаркаваў бутэльку, жэстам рукі запрасіў Люсінду да стала.

– Да гэтага віна самы раз будуць цукеркі з лікёрам, – сказаў і толькі цяпер падняў вечка.– Лепш закускі і не прыдумаеш!..

Люсінда засмяялася:

– А я думаю, чаму гэта я такая п’яная! Гэта ж ад цукерак! З лікёрам, кажаш?.. Х-ха-ха-ха-а-а!..

Піварчык аслупянеў – у карабку не было ніводнай цукеркі. З’ела? Проста так? Амаль усе цукеркі, якія ён браў толькі ў крайнім выпадку, у асноўным, як вось і сёння, да марачнага віна? Ён глядзеў на дзяўчыну, разявіўшы, сам таго не заўважаючы, рот, і не знаходзіў, што ёй сказаць. З’ела? Проста так? Як можна?!..

Люсінда, падалося, пра ўсё здагадалася, яна моўчкі ўзяла сумачку і накіравалася да дзвярэй.

– Ты куды, Люсінда?

– Я зараз... За цукеркамі...
– Дык ты што... значыць, яшчэ вернешся?
– Абавязкова!

І дзяўчына схавалася за дзвярыма. Калі яна вярнулася, Піваварчык спаў – у яго, згодна распарадку дня, у гэты час быў сонтрынаж. Люсінда не стала будзіць. Напоўніла фужэр да краёў, і залпам выпіла. Запаліла. Ад дыму Піваварчык пачаў перхаць, аднак не прачнуўся. Прачнуўся ён толькі тады, калі ў пакойчыку застаўся адзін.

Цукеркі «Палессе» ляжалі на часопісным століку некранутыя. Да вялікай радасці Піваварчыка.

## ДЖАЛА

Па даху лапаталі кроплі дажджу, а пашматаныя напярэдадні хмары віселі на небе дзіравым рэшатам. Сірацюк каторы раз паглядзеў у акно: ну, а там што, на дварэ? У лужынах, што ўтварыліся ў неглыбокіх ямінах на вузкай – як праехаць – дарозе, шпокалі бурбалкі. Нікога з людзей. Ды і хто ў такую восеньскую непагадзь будзе шастаць? Калі толькі патрэба дужа ўжо пільная якая, а так – сядзі, дачнік, дома, падбівай рыштункі: што вырасла сёлета, што не ўратаваў ад спякоты і шкоднікаў, будуй планы на наступны год. Сірацюку ж было не да ўсяго гэтага – яго выклікалі ў горад, і акрамя паездкі нічога ў галаў не лезла. Там чакаюць. Сказалі строга, каб прыехаў, і ніякіх “не”, бо два разы наведваліся да цябе, паважаны, самі, і толькі пацалавалі замок. Прыгразілі нават адміністрацыйным спагнаннем… Але як паедзеш, калі з самага ранку лье, бы з вядра? Гэта каб хоць меўся ўласны транспарт, тады б іншая справа. А так пакуль дачыкільгаеш да аўтобуснага прыпынку – прамокнеш да ніткі, ніякі парасон не выратуе: вецер падхоплівае тыя дажджынкі і круціць імі, бывае, як хоча, таму не пакіне на адзенні жывога месца. “Вось табе і багач, вось табе і куркуль!.. А свайго транспарту няма. Пчаляр, называецца. Трыццаць сем вулляў…” Злуючыся, Сірацюк ссоўваў бровы на пераноссі, хмурыў лоб і думаў:”А хто ж з іх, суседзяў па дачы і пакупнікоў мёду, і сапраўды мог падлічыць тыя вуллі? І калі? Быццам жа ніхто не заходзіць далей парога…” Ды і хто ён, той добразычлівец, які напісаў пра яго ў райвыканкам, які данёс, што Сірацюк, значыць, замест пяці вулляў, як быццам бы дазволеных па законе, трымае іх на трыццаць два больш? Каму вочы ён муліў сваімі пчоламі? Ды і наогул, існуе такі закон ці пісака той узяў яго са столі? Хаця не – з райвыканкама ж таксама нешта казалі пра тых пяць вулляў. Добра яшчэ, што папрасілі прыехаць аднаму – без іх… А то было б!

Сірацюк у Гомелі аказаўся пасля заканчэння інстытута, працаваў на “Гомсельмашы” інжынерам, а калі захварэў і дактары параілі знайсці больш спакойны занятак, ён уладкаваўся ў заводскім санаторыі слесарам. Там, на прыродзе, і ўспомніў пра бацьку-пчаляра, якому яшчэ хлапчуком дапамагаў майстраваць вуллі і даглядаць пчол. Бацька на той час быў яшчэ жывы, і Сірацюк паехаў да яго на Міншчыну не проста праведаць, што ён рабіў даволі часта, а каб пагаварыць наконт пчол: маўляў,з’явілася жаданне і магчымасць (пабудаваў нарэшце на дачным участку дамок!) заняцца

сур'ёзна таксама пчалярствам. Бацька, вядома ж, ухваліў сынава жаданне, паабяцаў на першым часе памагчы – даць некалькі вулляў з роем, ну, а там, сын, ты і сам пойдзеш, рукі ў цябе залатыя, наробіш вулляў. Ён і нарабіў. Хоць і няпроста было: сям'я ж, ім увага таксама патрэбна, ды і за працу ў санаторыі трымаўся, як без працы. Разважаў: выйду на пенсію, і займуся тады пчоламі грунтоўна. Але пакуль тая пенсія, ён неяк нечакана і для сябе самога, і для іншых заставіў вуллямі ўсё, што толькі было можна. Але ж іх, вулляў, ніхто не бачыў. Яны былі пад дахам. Пчолы лётаюць, мёд сусед на дачы прадае ўсім жадаючым значна танней, чым на базары, і ўсе быццам задаволены: дзякуй за мёд, Сірацюк! Нават з горада заказы паступаюць.

І вось гэты выклік у райвыканкам, кабінет ён не запомніў, там падкажуць.

А дождж не перастае…

– Паеду! – вырашае нарэшце Сірацюк і наўмысна гаворыць гучна – каб і пчолы пачулі яго.– Паеду!.. А вы тут пабудзьце без мяне. Я ім так і заяўлю, у райвыканкаме: а каму кепска ад таго, што ў мяне пчол багата? У нас тут тры тысячы дачных участкаў, а пчолы толькі ў мяне. Ну і што, што звыш нормы? Старшыня ж мясцовага калгаса пахваліў мяне і словы падзякі сказаў:"Каб не вы, Сцяпан Мікалаевіч, то мы і не ведалі б, што рабіць. Раней пчол шмат было, мы і гора не зналі, а цяпер людзі лянуюцца іх трымаць… А як жа без пчол нам, хлебаробам, абыходзіцца? Гэта ж толькі дзякуючы ім у нас ураджаі і грэчкі, і яблык, і ягад… ды ўсяго ёсць. А каб яны не апылялі тую ж грэчку? Елі б мы кашу, пачакайце!"

Сірацюк пачаў апранацца. Ён канчаткова асмялеў і яго ўжо не палохаў дождж.

– І яшчэ скажу там, у райвынкаме, – мужчына павярнуўся тварам да пчол, – што пералічыў значную частку выручаных за мёд грошай у дзіцячы дом. Даведкі, праўда, на руках не маю, бо не хапіла вачэй патрабаваць яе, даведку. Гэта б было, як у газеце чытаў: вось вам, сябры мае, грошы, а вы потым назавеце дзіцячы дом маім імем… Але што было, тое не адымеш: дапамагаў і яшчэ дапамагу. А таксама школу рамантаваў, у якой унукі вучацца. Гэтага мала хіба? – Ён вытрымаў паўзу, падышоў да люстэрка:– Тады дабаўлю, калі ім гэтага мала: а што, скажыце, ці не вашая заслуга, пчолы, што не п'ю і не палю? Лепшага нарколага, чым вы, пчолы, відаць, не існуе… І можа мяне не штрафаваць трэба, а хваліць, уганароўваць, што разам мы ратуем сады і пасевы, а? Ну, паехаў я… А што там скажуць –

скажу і вам... Спадзяюся, вярнуся жывы і здаровы... Хаця і дадуць, адчуваю, прачуханку... Як панесці дадуць... Калі не суцяшаць сябе, а прызнацца шчыра, то віна ёсць...Але ж хто думаў, што можна, што не, калі браўся за пчолы?.. Магчыма, тады яшчэ і законаў такіх не было?..

Па дарозе да аўтобуснага прыпынку Сірацюк успомніў пра пчалінае джала. “Цікава, – разважаў ён, – пчала, уджаліўшы чалавека, гіне, а чалавек, уджаліўшы чалавека, жыве і радуецца-пацяшаецца, відаць, што некага ўджаліў... на сёмым небе ад шчасця... Вось і цяпер, мусіць, глядзіць ён у акно, седзячы ў сухім і чыстым пакойчыку, бачыць на вуліцы мяне, дурня старога, якому больш, чым іншым, трэба, і ажно падскоквае ад задавальнення:”Пчаляра нарэшце на дыван выклікалі! Так яму і трэба! Не будзе грошы грабсці лапатай! Наша ўзяла!.. ”

Аўтобуса яшчэ доўга не было.

Не было і картузіка на прыпынку, дзе б можна было схавацца ад дажджу...

Затое добра было пад шчыльным дахам пчолам Сірацюка. Ад гэтага – і яму самому.

# С А Д

Амаль дваццаць год назад гэта быў ягоны сад. Адна груша, бэра, астатнія дрэвы – яблыні: цітаўка, аніс, ранет, штрыфель, белы наліў… І, канешне ж, антонаўка. Без гэтай яблыні быццам бы і сад не сад. Прыкметна пастарэлі ўсе дрэвы, але жывуць. Ну, а пра тое, што былі некалі ў садзе Барыса Іванавіча слівы і вішні, сёння наогул нічога не напамінае: іх вытралявалі адразу ж, як знеслі дом. Палічылі тыя расліны, пэўна ж, не надта сур'ёзнымі, не інакш – смеццем, яны толькі псуюць агульны выгляд. Ды і догляду патрабуюць. А так дрэвы можна падрэзаць раз у год-другі, траву паміж імі скасіць – і парадак…і далёка відаць… Сад-сквер, адным словам, зраблі камунальнікі. Ну і на здароў'е. Атулены ён з аднаго боку карпусамі завода, з усіх астатніх – шматпавярховымі дамамі. І яшчэ – дарогамі.

Сад Барыса Іванавіча зліўся з садамі сваіх былых суседзяў, і атрымаўся адзін – вялікі, гектары на тры. Аднак межы свайго ён адразу ж вызначае, і калі прыходзіць сюды, падоўгу стаіць перад дрэвамі. Вунь там, дзе цяпер сцежка, што вядзе да міні-базарчыка, некалі стаяў дом. Моцны дом, цагляны, пад шыферам. У ім было пяць пакояў, і жылі тады пад адным дахам два сыны і дачка з сем'ямі, ён, Барыс Іванавіч з жонкай, і не было цесна. А потым, як дом пайшоў пад знос, усе атрымалі асобнае жыллё. І што цікава, параспадаліся сем'і, нявесткі і зяць пачалі разводзіцца-дзяліцца, і стары зразумеў пазней, чаму так адбылося. Усіх разам трымаў дом. Была маленькая камуна, дзе былі свае законы, быў адзін – ён – гаспадар, камандзір нейкім чынам, і кепска-добра было маладым сем'ям, аднак жылі яны па нейкім няпісаным законе аб адзінстве, вернасці, прычаснасці да ўсяго, што адбываецца тут, у гэтых сценах. Другі ж бок медаля, разважаў Барыс Іванавіч, хаваецца ў тым, што дзеўкі ягоным сынам трапіліся з вёсак і ім, мабыць, важна было знайсці ў горадзе не каханага чалавека, а – прапіску. Каб зачапіцца за горад. Таму і маскіраваліся да пары да часу.

Дзіўна сёння Барысу Іванавічу: там, дзе была прыбіральня, цяпер вунь расклалі катухі бамжы. Патлатыя і мурзатыя людзі корпаюцца ў сваіх рэчах, пра нешта гамоняць, а потым разбрыдаюцца хто куды, толькі адзін з іх застаецца пад яблыняй – вартаваць пажыткі. Таксама маленькая камуна. Пройдзе мо з гадзіна часу, і гэтыя людзі, не зважаючы на праходжых, будуць піць віно і закусваць ягонымі яблыкамі, а потым лягуць – упокат – адпачываць. Да іх прывыклі. Да іх няма нікому клопату. Бамжы – што з іх возьмеш?

Барыс Іванавіч сёння зводдалі назірае за гэтымі занядбалымі людзьмі, а ўчора падыходзіў да іх бліжэй, і калі адзін зняў з нагі чаравік і пачаў збіваць ім яблыкі, стары не вытрымаў, заступіўся за дрэва:

– Што ж ты робіш, дзядуля?! – назваў таго ўмысна так, бо на самой справе гэта быў параўнальна малады чалавек, толькі брудны і даўно няголены.

Бомж нічога не адказаў, але і не перастаў збіваць яблыкі, якія зрэдчас разам з голлем ляцелі на дол.

– Ты што, глухі? – нагадаў пра сябе стары.

– А вам што, шкада яблыкаў? – барадаты павярнуўся нарэшце да Барыса Іванавіча і папытаў надзіва ветліва. – Іх вунь колькі на дрэве! Калаці і ты, калі не лянуешся, дзед. Усім хопіць. Ці ў цябе няма чаравікаў? То магу даць. У мяне ў торбе запасныя ёсць – сёння нехта выкінуў на сметнік. Падабраў. Расшыраю свой гардэроб. Кідай, стары. Глядзі, як гэта робіцца! – чаравік зноў паляцеў на галлё. – Нам жа нешта есці трэба. А ты як думаў! Дзякуй таму чалавеку, хто вырасціў гэты сад!..

–Яны ж зусім зялёныя! Дайце хоць паспець пладам, нехрысці!

– Нам добрыя будуць. А спелых я тут ніколі і не бачыў,– барадаты нагроб у сумку яблыкаў, якую прыткнуў тут жа да дрэва і сеў побач, затым выцер адзін плод аб зашмальцаваныя штаны і пачаў грызці.

Барыс Іванавіч хацеў сказаць, што ён сам затое бачыў тут спелыя яблыкі, і такія смачныя, што іншым і не прысніцца, але змоўчаў. Сам жа падумаў: “Дадуць, чакай, паспець яны яблыкам… Зялёныя патрушчаць… Што людзі, што чэрві…”

Забыўшыся на бамжоў, Барыс Іванавіч звярнуў увагу на мужчыну з мехам. Той прыехаў у сад на веласіпедзе і з доўгай палкай, на канцы яе меўся драцяны кручок, якой тут жа пачаў трэсці галлё, і яблыкі пасыпаліся на зямлю, як град. Мужчына яму здаўся знаёмым. Ці мо памяляецца?

– Ого! – заўважыў знаходлівага яблыказдымшчыка і бомж.– Рацыяналізатар! Ды з мехам, гляньце! Няўжо пачалі ўжо прымаць яблыкі? Ён жа нас пазбавіць заробку!.. Па свеце пусціць!.. Без штаноў пакіне!.. Такі шустры, гляньце вы на яго!.. Трэба прымаць меры!.. Неадкладныя!.. Палундра-а-а!..

Бомж усхапіўся з зямлі і кінуўся, забыўшыся на свае пажыткі, да мужчыны з палкай, і Барыс Іванавіч бачыў, як ён махаў перад здымшчыкам яблыкаў рукамі, нешта даказваў таму. А потым яны

пачалі штурхацца, нарэшце счапіліся, а калі бомж паляцеў на вытаптаны пад яблыняй дол, мужчына, як ні ў чым, зноў пачаў калаціць яблыкі. Бомж не меў намеру здавацца, ён заклаў у рот два пальцы, працяжна і гучна свіснуў, і неўзабаве прыбыла падмога – два такія ж, як ён, няголеныя і брудныя хлопцы-дзядзькі. У выніку мех быў адабраны, трафеем бяздомнікаў стала і палка.

Барыс Іванавіч падышоў на колькі крокаў бліжэй, і цяпер ён мог пачуць, як мужчына, сядаючы на веласіпед, паабяцаў выкурыць усіх бамжоў з гэтага саду.

– Пачакай, Герасімавіч! – нечакана для самога мужчыны і яшчэ больш, напэўна ж, для бамжоў, Барыс Іванавіч загадаў таму не спяшацца ехаць. – Затрымайся! Ты што, мяне не пазнаеш, а, сусед? Ай-я-яй!.. Нядобра як!..

Герасімавіч паслухаўся, аднак задаволенасці на ягоным твары Барыс Іванавіч не ўбачыў: відаць, не рады гэтай сустрэчы, трэба так разумець. Сапраўды, глянуўшы на былога суседа, Герасімавіч буркліва спытаў:

– Ну, а табе што?..

Барыс Іванавіч добра ведаў гэтага чалавека. Герасімавіч быў крыху маладзейшы за яго, рабіў на чыгунцы, і з таго часу, як знеслі іхнія дамы, яны мала бачыліся. І тое – мелькам. Герасімавіч сам не жадаў кантактаваць, хіба ж гэта не відаць было, і пры кожный сустрэчы ці тое адводзіў галаву ў бок, ці проста рабіў выгляд, што ідзе і не заўважае яго. Іншы раз Барысу Іванавічу карцела распытаць, як жыве, чым займаецца на пенсіі, кім сталі і як жывуць ягоныя тры дачкі, аднак, ведаючы нялюбы характра Герасімавіча, не асмельваўся першым распачынаць гаворку.

І вось цяпер, гледзячы яму, Герасімавічу, у вочы, ён прыгадаў, як дваццаць год назад, калі пачалі разбураць дом, той пусціў у ход бензапілу “Дружба” – і неўзабаве усе пладовыя дрэвы былі павалены, а Герасімавіч, задаволены, глянуў тады на яго і зарагатаў:

– А ты што думаў, Барыс Іванавіч, я абы-каму свой сад пакіну? Расціў, песціў, і кату пад хвост? Не-е!.. Не-е!.. Мне чужое не трэба і сваё не аддам. Так што падумай, сусед. Падумай. Калі хочаш – дам пілу. Ну, дык што? Даць пілу? Глядзі, як хочаш… Твая справа. Толькі я ўявіць не магу, што ўсе, каму не ўздумаецца, будуць маім садам карыстацца. А ты – як хочаш!..

Іх позіркі зноў сустрэліся.

– Хлопцы, – паглядзеў Барыс Іванавіч на бамжоў, – вярніце гэтаму чалавеку мех і палку. Няхай набярэ яблыкаў. Хоць і няспелых – зялёных… Толькі навашта яны табе, Герасімавіч?

– Ды пайшоў ты! – памуліўся, як укушаны, Герасімавіч, аднак мех і палку ўзяў і нічога больш не сказаўшы, пакаціў перад сабой веласіпед…

Бамжы заняліся сваімі справамі, а Барыс Іванавіч усё яшчэ стаяў на адным і тым жа месцы і ламаў галаў: навошта яму, Герасімавічу, спатрэбіліся зялёныя яблыкі? Няўжо ён шкадуе для людзей і чужыя, як пашкадаваў некалі свае? Ён што – проста іх знішчае, каб нікому не дасталіся?

Гэтага зразумець Барыс Іванавіч не мог.

**С К А Й П**

Старая Апанасіха ехала ў горад ці не ўпершыню ў сваім жыцці на такой шыкоўнай іншамарцы. Кацілася тая па шашы роўна-плаўна, за акенцам легкавіка праносіліся некалі дужа знаёмыя мясціны і, гледзячы на ўсё гэта сення, бабулька цяжка ўздыхала:

– Божа! Не пазнаю… Нічога не пазнаю… А куды ж хаты падзеліся? Тут жа, Віцька, некалі вёска была… Халочча, здаецца?... Ага, яно… Адны дрэвы… з-за кустоў вунь нічога не відаць… Што, хіба ўсе хаты і праўда закапалі? Не брэшуць людзі?

Яна глядзела на зяця Віктара, які кіраваў іншамаркай, ніяк разінуўшы рот. Той дзівіўся:

– А вы што, маці, хіба не ведалі раней, што і Халочча няма, і Ліпы, і іншых вёсак? Думалі, з вамі нехта жартуе? Так, так… Гэта праўда. Балючая, аднак нічога не паробіш: Чарнобыль набедаркурыў…

Апанасіха, падбіваючы пасмачку сівых валасоў пад хустку, шчыра прызнавалася:

– Чула, чула, зяцёк, але ж не верылася: як жа так, думалася, каб вёску ўзяць ды пахаваць? Яна ж не чалавек… А яно, атрымліваецца, што і хаты закапаць можна… Там, відаць, на тым свеце, усім месца хапае…

Далей ехалі моўчкі. Апанасіха сядзела спераду, прышпіленая рамянем бяспекі, і ўжо не вадзіла, як раней, па баках галавой: хопіць, наглядзелася ўсяго, можа і лішняга нават, бо ажно галава разбалелася. Яно ж і праўда: такія вёскі тут некалі паабапал дарогі стаялі прыгожыя! Вока радавалі хаты, акуратныя парканчыкі, купкамі стаялі людзі, аб нечым весела гаманілі… Ішло, адным словам, жыццё… А цяпер – ціха… Нават сабакі не ўбачыш…

“І ў нас, відаць жа, тая рацыя ёсць, – разважала старая, – аднак хаты не чапаюць… І слава Богу!.. Ці скора ўжо той горад?. Хутчэй бы горад, каб усяго гэтага не бачыць….”

Старая глядзела на роўную стужку асфальта, які імгненна знікаў пад коламі легкавіка, нібы наматваўся на іх, і думала цяпер толькі пра Пецьку, малодшага свайго сына, які жыве цяпер у Маскве і вось запатрабаваў, каб прывезлі яе, значыць, у горад да дачкі Веры і зяця Віктара. “Ён хоча на цябе паглядзець, маці! – патэлефанавала дачка. – Пецька паставіў скайп, прымусіў гэта зрабіць і нас, цяпер сядзі ў кватэры і размаўляй па камп’ютары, як у тэлевізары ўсё бачна… Ён

будзе цябе бачыць, ты – яго… Зразумела? Так што збірайся, мама… Віцька за табой прыедзе ў нядзелю… Сядзі дома і чакай…”

Апанасіха папрасіла суседзяў, каб прыглядалі за хатай, сказала тым, што паедзе з сынам “па нейкаму скальпелю размаўляць”, і вось цяпер, як паненка тая, шыбуе ў шыкоўным легкавіку, каб паказаць сябе сыну і паглядзець на яго. Мог бы, разважала старая, і сам прыехаць, на радаўніцу вунь сцякаюцца ўсе з белага свету людзі, а Пецька і носа не паказвае. Як з’ехаў пасля арміі ў Маскву, дык і слыхам не чуваць. Гадоў пятнаццаць, не інакш, прайшло. Пісьмы пісаць сынок лянуцецца, а тэлефона ў маці няма, так і жывуць у нявядомасці адзін пра аднаго.

Апанасіха нават пачала пабойвацца, што не пазнае сына, калі ўбачыць яго на тым экране, пра які казала дачка. Змяніўся, канешне ж. Памужнеў, пасталеў, мусіць. А мо худы, што леташняя трэска? У той жа Маскве, кажуць, надта ўсё дорага, а Пецька хіба прыспасобіцца дзе, каб вялікія грошы зарабляць? Наўрад. Тады яшчэ, даўно, хваліўся, што на трактары працуе, быццам на тым заводзе, дзе робяць аўтамабілі: скрынкі развозіць з дэталямі і стружку такарную ад станкоў забірае. Бяды тае, няхай і трактарам кіруе, абы яму было добра. Аднак жа злосць на Пецьку яна мела, і вялікую: прыкласці калі шчыра руку да сэрца, дык і нарадзіла яна яго позна, каб пад старасць апора была. Толькі для гэтага. Ведала ж, Панас доўга не працягне, у яго розных хвароб набралася жменя, Пецька б і памог дажыць ёй век. А Пецька той ветрагонам аказаўся: сёння тут, заўтра там. Толькі пяткі яго і бачыла маці. Цяпер вось і агарод садзіць трэба, і дровы нарыхтоўваць, і пятае-дзесятае, а бабулі прыходзіцца дзе самой упраўляцца, а дзе прасіць людзей. Толькі ж і людзей цяпер тых у вёсцы можна па пальцах пералічыць. Старыя адыходзяць адзін за адным, больш маладзейшыя глядзяць у чарку, з-за бутэлькі той свету белага не бачаць. Жыві як хочаш, Апанасіха. Тут, праўда, дачка Верка з зяцем не забываюць, грэх слова пра іх сказаць кепскае. Іншыя ж дзеці яе, Міхась, Валерык і Паліна жывуць далёка – на Украіне, у Керчы ля мора, то бываюць рэдка. А Змітрок, які атабарыўся ў Харкаве, кожны год браў адпачынак у верасні – каб маці выкапаць бульбу. Але Змітрака не стала, і хоць ён быў сярэдні сын, не стары яшчэ, асабліва нічым не хварэў, але не пашанцавала яму – памёр: пасліznуўся неяк ўзімку, ударыўся галавой аб лёд, і праз два тыдні чалавека не стала.

А Пецька хоць бы калі прыехаў капаць бульбу. І чаму так бывае, думалася іншы раз старой Апанасіхе, што і матка адна, і бацька

адзін, а дзеці такія розныя бываць? Шалапут, адным словам, Пецька-масквіч. Гультай. “Відаць, там толькі па рэстаранах і ходзіць,”– іншы раз думала пра малодшага сына Апанасіха. І хоць мела на яго затоеную злосць, і хоць ставілася да Пецькі іншы раз нялюба, усё ж і радавалася старая, што паскрэбак ні дзе-небудзь жыве, а ў самой Маскве. Там, мусіць, і Крэмль той блізка ад яго? Уцясаўся ж неяк Пецька туды! Малайчына. Тады хай ужо будзе і так. А калі якая тут нявыкрутка, зяць Віцька выручыць. Пашэнціла хоць з ім. Ды і чужыя людзі, хоць і пабурчаць-пакасувурацца, у бядзе не пакінуць, дапамогуць тое-сёе зрабіць па гаспадарцы.

Апанасіха прыгадала, як прыйшла яна перпшы раз на бацькоўскі сход у сярэдную школу. Тут трэба сказаць, што Пецька васьмігодку скончыў дома, у Званцы, а за атэстатам аб сярдняй адукацыі яму давялося хадзіць у суседні Ільіч. І вось класны кіраўнік, сустрэўшы тады Апанасіху, нічога ні пра чога, пацікавілася ў яе :”А вы, бабулька, да каго?” Зніякавела крыху жанчына, але і не разгубілася асабліва, а горда адказала: “Я маці Пецькі!..” Не сказала толькі класнай, што нарадзіла яго, блазнюка, ажно ў сорак пяць год… Ды яно і так, пэўна ж, усё было зразумела.

Госцю сустрэлі амаль ўрачыста: дачка пацалавала маці, дамагла ёй распрануцца, прайсці ў пакой, а ўнукі, Алесь і Святлана, запляскалі, бы малыя дзеці, ў ладкі, а тады таксама чмокнулі бабулю па чарзе ў шчаку. Тут жа цёрся і праўнук Восіп, зусім яшчэ карапуз. Калі селі за стол, Восіп пахваліўся бабулі, што быў у лялечным тэатры і бачыў там вялікага амура, які лётаў у паветры. “Вось так!”– і ён выбег з-за стала, паказаў правай ручкай, як той амур лятаў. Бабуля яму не паверыла, але пагадзілася: можа цяпер і сапраўды рыбы тыя ўжо лятаюць, бо час такі, калі ўсё можа быць. Вера патлумачыла маці, што Віктар надоечы купіў у краме вялікага амура, той саскаўзнуўся са стала на кухні, залаташыў хвастом па падлозе, і ўсё гэта бачыў малы. Таму і запомніў рыбіну. А хто там лятаў у тэатры – вядома ж, цацка, гумавая, мабыць – для яго гэта быў ўсёроўна амур.

– Падрыхтаваліся, набіраю Пецьку! – падаў каманду Віктар, і ўсе скіравалі свае позіркі на экран манітора, на якім неўзабаве і паказаўся малодшы сын старой Апанасіхі. Сядзеў ён таксама за сталом, на якім тырчэла рыльцам угору пляшка гарэлкі, талерак з закуссу відаць не было, толькі рыльца, а сам Пятро быў у чорным касцюме, белай сарочцы і пры гальштуку. Гальштук старая добра не разгледзела, не было калі, яна адразу ж скіравала свой пагляд на

твар: ці намнога змяніўся сын пасля таго, як бачыла яго апошні раз, ці пазнала б на вуліцы?..

– Пазнала б, яй-бо!.. Пазнала б! – гукнула маці і чамусьці тужэй падціснула хустку на шыі, а калі сын павітаўся, адказала яму: – Ну здароў, здароў, Пецька… – І не дала таму больш слова прамовіць. – Чаму ж ты не едзеш, сынок? Нешта ты схаваўся за гэтую штукенцыю, як арціст які, як Кручкоў? Цябе ж па етаму скальпелю… ці як ён, халера, завецца…

Вера падказала:

– Па скайпу, па скайпу, мама…

Але старая ўсё роўна не маглда запомніць і вымавіць падказанае слова, яно падалося ёй занадта цяжкім, таму працягвала казаць далей, не ўжываючы больш яго:

– Дык і кажу ж: цябе ж па гэтаму целявізару не пагладзіш, дыхання твайго, сынок, не пачуеш, не-а… Я і вачэй тваіх добра не бачу… Углядаюся, і не бачу… У цябе бацькавы, панасавы, вочы былі… Панасавы вочы помню, твае – не… Прыехаў бы калі-небузь, сынок… Я не прашу ўжо цябе памагаць мне, людзі, дзякаваць Богу, пакуль ёсць у нашай вёсцы жывыя, то выручаць… Дзякуй во і Верцы з зяцем Віктарам… А ты б праехаў той дарогай, як я сёння пракацілася, і не пазнаў бы нічога паабапал яе… Усё змянілася… Шкада, вельмі шкада, по гэтаму целявізару не пакажаш табе ўсяго, што я сёння бачыла… Не пакажаш хат, якія закапалі… Не пакажаш калодзежа, з якога я ваду чэрпаю… Вулку нашу, па якой ты хадзіў, не пакажаш… Прыедзь, сынок, паглядзі на свае вочы… За родную клямку патрымайся…– Во, ўспомніла!.. – Старая раптам адвярнулася ад сына, паглядзела на Віктара: – А чаго гэты мы карткі са сцяны не ўзялі, каб яму ў Маскву паказаць? І я забылася. Во галава мая садовая!..

– Мама, даруй, – схіліўшы галаву, раптам ціха прамовіў Пецька.

– А? Ты нешта сказаў, Пецька? – пастарался бліжэй паднесці вуха да манітора Апанасіха, але тады яна не бачыла сына, і тады старая зноў села так, як і сядзела: усутыч з экранам.

– Ён папрасіў прабачэння, – падказала дачка. – У цябе, мама, папрасіў…

– Дык ты калі прыедзеш, сынок? – нібы не чуючы дачкі, ўпілася ў Пецькаў твар старая. – А то пamру і не дачакаюся… Прыедзь, сынок… Ці мо табе грошай выслаць на дарогу?

– Не трэба грошай, – няпэўна адказаў Пецька. – Знойдзем… Я прыеду, мама…

– Абяцаеш? Не брэшаш?

– Абяцаю. А цяпер давайце падымем келіхі на нашу сустрэчу, – прапанаваў Пецька і падняў сваю чарку.

Тое ж самае зрабілі ў Верчанай кватэры. Пецька пераканаўся, што не адзін трымае пітво ў руцэ, паўтарыў:

– За сустрэчу! Мама! Верка! Віктар! Сашка! Светка! І хто там яшчэ?.. Толькі чуб бачу… Хто там такі, а?..

– Восіп я, – адказаў сам за сябе малы і працягваў займацца сваімі справамі каля стала.

– І Восіпа прыеду пагляджу… Ну, за сустрэчу!..

Выпілі. Апанасіха бачыла, як яе Пецька закусваў скрылькам сала, апетытна падносячы яго да роту, і падумала: “Дык сала ж і ў нас ёсць. Ці там мо смачнейшае? Толькі хто ж яго ведае, якое яно сала там, дзе нас няма…”.

Вярталася Апанасіха дадому ў той жа дзень надвячоркам. Нагаварылася з Пецькам, і на душы ў яе было светла і радасна. Абяцаў прыехаць сынок, значыць. Нарэшце. Што ж, яна будзе чакаць.

Старая зноў успомніла Пецьку ў чорным касцюме, у белай кашулі, пры гальштуку. Быццам і пабачыліся сёння, быццам бы і не. Усё роўна як з тэлевізарам пагаманіла. Ці мо гэта ёй прыснілася ўсё? Ды і нешта ён адзін быў за сталом… А дзе жонка, дачка?..

Ужо перад самай вёскай Апанасіха папрасіла зяця:

– Віця, дык яна тая штукенцыя называецца, па якой я з Пецькам пераглядалася? А то спытаюць суседзі, а я і не знайду, што адказаць.

Віктар усміхнуўся, ціха, але выразна прамовіў:

– Скайп. Запомніце?

Апанасіха спярша кіўнула, паабяцала запомніць, а тады рашуча махнула рукой:

– А навошта запамінаць?! Мне яно, адчуваю, больш не спатрэбіцца, тое слова. Буду лепей Пецьку, блазнюка свайго, чакаць – ды і ўся радасць…

Пра тое, чаму ж гэта Пецька сядзеў адзін за сталом, яна папытае ў яго, калі прыедзе…

## ДЭЛЕГАТ

Паэт Дзяніс Пацяруха, вяртаючыся надоечы з гарадской бібліятэкі, дзе як заўсёды палка выступаў перад чытачамі, знайшоў у паштовай скрыні канверт. Звычайна ён раўнадушна праходзіў каля яе. А тут неяк само атрымалася, што затрымаў ён позірк на тых дзірачках-круглячках, у якіх і свяцілася белым бокам папера. “Што за дзівосы! – трывожна і адначасова радасна падумаў паэт. – Пісьмо хіба? Газет жа я не выпісваю. Ганарараў не атрымліваю – не друкуюць, усё толькі абяцаюць… і тое, калі патэлефануеш ім, блазнюкам… ” Ён дрыготкімі пальцамі ўзяў канверт, хуценька разарваў яго, выцягнуў ўтрая складзены лісток паперы і, не адыходзячы далёка, падслепавата прачытаў: “Шаноўны Дзяніс Іванавіч! Запрашаем Вас на першы арганізацыйны з’езд графаманаў, які адбудзецца ў Мінску…” Так-так… І што там далей? Ну-ну. “Вы з’яўляецеся дэлегатам…” Ён адчуў, як цела абдало бы кіпенем. Пацяруха пастаяў крыху знямела, затым, бы прачнуўшыся, пакруціў перад носам паперку-запрашэнне, хмыкнуў, агледзеўся па баках: у калідоры якраз было бязлюдна, і тады толькі смела і агрэсіўна трасянуў паперкай над галавой, гучна заявіў сваім нябачным ворагам:

– Не дачакаецеся! Чулі?! Знайшлі дэлегата!.. Ды са мной сам Пушкін пацягаўся б!.. Багдановіч!.. Купала!… Колас!.. Шніп!..

Настрой сапсаваўся канчаткова. Мала таго, што на той сустрэчы, з якой толькі што вяртаўся, адзін дужа нахабны мужчына – на яго, вядома ж, думку – заявіў, што такія вершы ён і сам бы склаў як няма чаго рабіць, каб толькі ў яго меліся папера і ручка, дык яшчэ гэтае вось запрашэнне!..

Жонка адразу, калі Пацяруха толькі пераступіў парог, падумала, што муж няйначай знайшоў удалую рыфму, але не запомніў яе, адразу ж і згубіў, не данёс да пісьмовага стала, бо твар у чалавекса быў пахмурны, як нудны восеньскі дзень.

– Есці будзеш? – толькі і папытала кабета.

Пацяруха хацеў было сказаць: “Я сыты. Мяне ўжо накармілі”, аднак узяў сябе ў рукі, пастараўся быць самім сабой: канешне ж, усміхнуўся, хоць, адчуў, усмешка выдала яго хваляванне. Няўдалая атрымалася. Кіслая. А потым доўга расказваў жонцы, як цёпла прымалі яго чытачы. Сёрбаў варыва, хваліўся, а сам цвёрда рашыў: жонцы пра выклік на з’езд графаманаў ні слова. І вельмі добра, што кабета пайшла пасядзець на лаве з бабулькамі каля пад’езда. Пацяруха адразу ж прыкіпеў да тэлефона. Спярша мітуслiва гартаў

блакноцік, дзе былі пазначаны нумары яго сяброў-паэтаў, і вызначаў, каму ж першаму пазваніць. “У Гродна хіба? Няхайчыку? Хлапец неблагі, здаецца. Той раз, калі абмяркоўвалі яго вершы на імпрэзе, ён падтрымаў яго. Павінен помніць. Ды і чарку ж бралі”.

Няхайчык абрадаваўся, калі пачуў у слухаўцы знаёмы голас. Апавёў пра свае поспехі, паскардзіўся, што ў іх горадзе аб’явілася адна жанчына-крытыкеса, якая не дае яму жыцця: то там ушчыпне, то тут. Маўляў, графаман ты, Няхайчык! Якраз вось тут і хацеў папытаць Пацяруха, ці атрымаў той пісьмо на з’езд графаманаў, аднак не хапіла духу. І тады ён пачаў здалёк: нікуды, шаноўны калега, у бліжэйшы час не едзеш? Мо выклікаюць куды цябе? Няхайчык, на здзіўленне, адказваў адным словам: не. Пацяруха ледзьве стрымліваў злосць. Накіпела. “Так і прызнаецца той Няхайчык! Тып яшчэ той!” Ужо калі паклаў слухаўку, крыху супакоіўся: нічога-нічога, мне сёння прынеслі пісьмо, табе прынясуць заўтра. Нікуды не дзенешся. Паштары сваю справу знаюць. Бо які ён паэт?! Вось хто ўжо калі і графаман, то ён, Няхайчык! Ці трэба казаць? Не, не выкруціцца!..

Але сёння Пацяруха рашыў больш нікому не тэлефанаваць. Сцяміў: трэба даць час, каб тыя запрашэнні паспелі даставіць паштальёны па належных адрасах. І ў Магілёве, і ў Віцебску, і ў іншых гарадах. У сваім жа горадзе не стаў нікога турбаваць. Сваіх ён ведаў добра: тыя, хоць і атрымаюць запрашэнні, не прызнаюцца. Партызаны яшчэ тыя.

На другі дзень, напісаўшы паўтузіна вершаў і дачакаўшыся, калі жонка зноў зойме месца на лаве перад пад’ездам, Пацяруха бадзёра пацёр далонямі, і сам сабе загадаў: “За справу!” Выбар паў на Магілёў. Неяк быў ён на свяце паэзіі “Пісьмянкоў луг” і там пазнаёміўся з адной паэтэсай у капелюшы, якая выдала ажно шэсць кніжак вершаў і хацела іх адразу прачытаць прысутным, стоячы на сцэне перад мікрафонам, але яе ўсё ж спынілі нейкім чынам, хоць і каштавала гэта вялікіх намаганняў.

Пацяруха крэкнуў, прадставіўся.

–А-а, Гомель! Вельмі рада, вельмі рада пачуць ваш голас, шаноўны! – пачуў ён у адказ і далей як ні стараўся, доўга не мог уціснуцца ў гамонку.– А я вас толькі што ўспамінала, так-так. Верыце? А вы і лёгкі, як кажуць, на ўспамін. Што пішацца? Якія тэмы хвалююць? Потым, потым скажаце… Дайце нагаварыцца спярша мне. Я ж адна жыву… кантактаў амаль ніякіх, то засумавала… Гэта я вам не казала, што адна? Там, на лузе? Не,

здаецца, нам жа не было калі… Дык вось і добра, што вы патэлефанавалі, я вам зараз прачытаю свае новыя вершы… Сваім усім я прачытала ўчора, то дужа хвалілі… Але ж мне хочацца пачуць слова пахвалы і ад вас, шаноўны… як гэта вас зваць, прабачце?..

Пацяруха рады быў, што яму нарэшце прадставілася магчымасць сказаць хоць гэтыя два словы: Дзяніс Іванавіч.

– Дык вось, Дзяніс Іванавіч, – адразу ж падхапіла магілёўская паэтэса, – мне хочацца пакаштаваць хоць траха пахвалы і міжгародняй, так сказаць… Не будзем губляць часу – слухайце мае новыя вершы… Ага, вам спярша пра каханне ці пра прыроду? Магу і пра горад, пра замежныя краіны, дзе я падарожнічаю іншы раз, седзячы перад экранам тэлевізара. Э-х-ха-ха-ха-а-а-а!.. Мы, паэты, павінны самі ствараць для сябе камфорт і ўтульнасць, каб было цёпла і светла…

– Мне ўсёроўна, – калі ўтварылася нарэшце паўза, ціха прамовіў Пацяруха і пашкадаваў, што не той набраў нумар: трапіў, адным словам, як рыбіна ў нерат, а яму ж чым хутчэй карцела даведацца пра з’езд.

Нарэшце ён знайшоў выйсце, як спыніць траскатню, параіў:

– А вы гэты верш прачытайце на з’ездзе… Успрымуць! З’ядуць! Геніяльны ж твор! Супер!

– На якім гэта такім з’ездзе? – паэтэса прытармазіла, зацікавілася.

– А што, вы хіба не чулі?

– Не.

– А я чуў… быццам нейкі з’езд намячаецца… Гэта мне сказаў адзін тут наш паэт, яго запрасілі…Дзіўна, і мне нічога не даслалі… А яму, кажа, прыйшло запрашэнне… Яны што – праз аднаго?.. Выбарачна?.. У каго пальцам тыцнулі – той і дэлегат, так атрымліваецца? Непадарак! Самавольства!.. Хоць нас, вядома ж, гэта і не тычыць, аднак справядлівасць павінна існаваць усюды. У якой дзяржаве жывём, папытаць бы?!..

Крыху пакрытыкавалі каго трэба і чытка вершаў працягвалася. Хоць ужо і аслабла рука, трымаючы слухаўку, замлела, аднак Пацяруха, разачараваны няўдалым званком, рашыў нарэшце ўзяць ініцыятыву ў свае рукі, і цяпер вершы слухала ўжо яна, магілёўская паэтэса. Гэта працягвалася б, відаць, доўга, аднак вярнулася з лавы жонка і папрасіла, каб уступіў ёй месца каля тэлефона: дрэнна зрабілася камусьці з бабулек, неабходна выклікаць “хуткую”.

Жонка ўладкавалася каля тэлефона, а Пацяруха пачаў усё ж збірацца на з’езд. Было не было. Цікава ж паглядзець, каго яшчэ выклікалі. Дастаў заначку, апрануў новы бліскучы касцюм, кінуў у старэнькі дыпламат некалькі кніжак сваіх вершаў.

А шчыра сказаць калі, у яго меўся свой план на гэтую паездку…

– Ты куды гэта сабраўся? – напусціла на сябе строгасць жонка. – Чаму маўчыш? Я ў каго пытаю?

Пацяруха замахаў на кабету рукамі, маўляў, не да цябе зараз. Тут вырашаюцца важныя справы. А калі прыдумаў што сказаць, тое і давёў да яе ведама:

– У сталіцу еду. Выклікаюць па літаратурных справах. Няйначай, прызналі? Як думаеш?

– Ну, калі па літаратурных справах… – няпэўна пацiснула плячыма кабета, – то глядзі сам, Дзёня…

– Толькі што патэлефанавалі, – схлусіў, не міргнуўшы і на гэты раз вокам, Пацяруха. – Праезд аплацяць. Усё чын па чыну. Мо ўзаб’ёся на якую-небудзь прэмію? Павінны!

Жонка села на табурэт, сумна ўздыхнула:

– Усе ж мне шкада цябе, Дзёня, вельмі нават. Столькі ты вершаў напісаў, столькі грошай патраціў на свае кнігі – і ўсё ўпустую…

– Пакуль, пакуль, – суцешыў жонку паэт. – Бачу сябе на п’едэстале з лаўровым вянком.

– Каб жа збылося!

– Збудзецца! Даю слова! Мой радок сам Барадулін хваліў! Мускулісты, кажа, у цябе радок, Пацяруха! Быць табе класікам! Прабач, толькі пасля мяне. А мне, скажы, якая розніца – пасля каго, га? То-та ж!

– Ну, едзь сабе,– зусім расчулілася жонка, адлічыла мужу грошы на дарогу і абед, што зусім някепска было да ягонай заначкі, і Пацяруха даў буську кабеце, прычыніў за сабой дзверы.

Прымай, сталіца!

Першай справай паэт накіраваўся да філармоніі, дзе павінен адбыцца з’езд. Але ён не дурань, каб адразу ж перціся ў дзверы, паказвацца, а схаваўся за дрэва якраз насупраць шыльды, якая ўказвала, што гэты бульвар носіць імя Мулявіна, і прыняўся назіраць за развіццём сітуацыі. Ага, вунь і Няхайчык шпацыруе! “Гэта той, каго не выклікалі!” Пацяруха на нейкі момант забыўся, што патрэбна захоўваць канспірацыю, хацеў было крыкнуць яму:”Прывітанне, дружа!”, аднак своечасова спахапіўся. Ды і каму было крычаць, калі Няхайчык схаваўся ў апошні момант за дрэвам насупраць і таксама сачыў за ўваходнымі

дзвярыма, зрэдку выторкваючыся лысінай. Тут ён заўважыў, што з суседняга куста назірае за дзвярыма паэтэса ў капелюшы… А вунь празаік Цяпкін крадком выглядвае з-за парапета, як спускацца-падымацца ў метро… Ён з Брэста, здаецца… А вунь… А вунь… А вунь… Божа, ды тут дзесяткі знаёмых твараў! І ніхто не адважваецца першым заходзіць у памяшканне… Усе затаіліся і толькі зрэдку выглядваюць са сваіх схованак. Сядзяць у абароне. Калі ж пачнецца наступленне? Ну канешне ж, каму гэта ахвота заходзіць на той з’езд! Дурняў няма. Засмяюць. Як першаму, шчэ які прыз дадуць, картку размесцяць у газетах. Не! Туды ходу і яму, Пацярусе, няма! Навошта выторквацца, як Мікіта з канопляў? А вось хто прыехаў на той з’езд – цікава паглядзець. Але трэба зрабіць гэта так, каб сябе не паказаць.

Так, мусіць, думаў не толькі Пацяруха – кожны з дэлегатаў. Бач, колькі іх, графаманаў, варушыцца ў хмызах ды за дрэвамі і калонамі!..

І нядоўга думаючы, Дзяніс Іванавіч потайкам падворкамі узяў накірунак да бліжэйшага прыпынку. Трэба недзе выпіць куфаль піва, з’есці піражок – і дадому, за пісьмовы стол. Пісаць, пісаць, пісаць!..

…Пацяруха ляжаў на канапе і глядзеў у столь, адкуль, між іншым, нярэдка чэрпаў тэмы. Там сядзела вялікая муха.

– Нахабніца! – крыкнуў ён.– Прэч, сказаў!

Муха не слухалася, прыліпла да аднаго месца на століі, і хоць ты што ёй. Ён пачаў шукаць тапак, каб запусціць ім у пачвару, аднак таго нідзе не было. Патэпаў на кухню, там кабета гатавала вячэру, папытаў у яе:

– Маруся, ты выпадкова тапак маіх не бачыла? Муха на століі сядзіць, каб яе пранцы!

Маруся зарагатала, што здзівіла паэта: даўно, вельмі даўно не было ў яе такога настрою. “Што гэта з ёй? З чаго б?..”

– Дапісаўся, – жонка нарэшце перастала рагатаць, пахітала галавой. – Ды ты на свае ногі глянь, паэт! Ой, гора!..

Пацяруха і сам цяпер ужо добра бачыў, што ён стаяў у тапках. Нічога не сказаўшы, ён пайшоў у свой пакой, паглядзеў на столь, аднак мухі там ужо не было. Яе не было нідзе. Але што гэта? Яна, муха, поўзае па ягоным твары?! Ну, пачакай, нахабніца! Пацяруха табе такога ніколі не даруе. Ён сабраўся, прыцэліўся і з ўсяго размаху моцна ляснуў сабе па лбе.

І… прачнуўся.

Доўга ляжаў потым пад коўдрай і адчуваў сябе надта шчаслівым чалавекам. “Прысніцца ж розная лухта,” – думаў-разважаў Пацяруха і асцярожна кратаў тое месца, па якому толькі што агрэў далоняй.

## ЗІМЫ НЕ БУДЗЕ

Шыза-чырвоны, з залацістымі пярэсцінамі певень ужо таптаўся на сваіх шышкаватых нагах перад ганкам. Было рана, толькі ў тым баку, дзе заўсёды ўлетку ці ўвесну павольна-нетаропка выпаўзае з-за лесу – і тое, вядома, у пагодлівы дзень – круглячок сонца, крыху пашарэла неба, аднак на снежным покрыве ляжала густой коўдрай усё яшчэ цемра. Толькі-толькі бралася на дзень, а яму не спіцца. Вядама ж – певень. Хоць таму і няма каго, здавалася б, будзіць, аднак сваю справу, блазнюк, ведае: пракукарэкаў і на гэты раз галасіста, задорна: уставай, маўляў, гаспадар, паколькі курэй звёў, паміраю ад суму-скрухі, то і табе нечага спаць. Выходзь, пагамонім. Удвух весялей будзе. Чуеш, гаспадар?

Сцяпан Ануфрыевіч вынес нецярпліваму пеўню снеданне – добрую жменю пшаніцы ў круглым слоіку з-пад селядцоў, паставіў перад пеўнем, аднак той не спяшаўся дзяўбці, а нібы стараўся зазірнуць гаспадару ў вочы: нахіляў галаву на бок і так і гэтак, а потым цёрся каля нагі, адыходзіў і лэпаў крыламі, задаволены: ага, так і дам я табе спаць.

– Еш, еш, пеця, – лагодна казаў Сцяпан Ануфрыевіч. – Ну што ж паробіш, калі лёс у нас такі, амаль аднолькавы? Трымайся, братка. Мы ж мужчыны. Перазімуем, а там вясна будзе, я табе курак маладых з горада прывязу. Ажывеш каля іх. Мала засталося чакаць. Еш, еш. Не глядзі на мяне так сярдзіта. Я ўчора ў краме, між іншым, каўбаскі купіў. Табе проса. Усё цяпер у краме, дзякаваць богу, ёсць. Пайду таксама паснедаю…

Паснедаць жа Сцяпану Ануфрыевічу, як меркаваў, не ўдалося. Толькі ён пераступіў парог хаты, як мілагучна заспяваў “Паланэз Агінскага” мабільнік. “Хто б там мог быць?” Турбаваў сын Ануфрый. “І чаго ён у такую рань? Мо здарылася што?” Сцяпан Ануфрыевіч не без хвалявання паднёс да вуха тэлефон. Павіталіся. “Ты дзе, сынку?” – “Амаль дома я, баця. Тры кіламетры якіх не даехаў да цябе. Слізка, машыну занесла, і я ўляцеў у кювет. Але ты не хвалюйся, усё добра. І са мной, і з машынай. Снег свежы, мяккі. Але выбрацца сам не магу… Сеў моцна. Схадзі, баця, папрасі Віцю Бародкіна, хай цягане сваім “Беларусам”. Адным словам, ты мяне зразумеў. Чакаю.” – “А чаго ты надумаўся так рана ды ў такое надвор’е? Снегу ж намяло – свету белага не бачна. Неслух ты, Ануфрый!”– “ Чаго-чаго? Ды за табой жа еду.”

Сцяпан Ануфрыевіч адарваў мабільнік ад вуха, прабурчэў сам сабе: “За мной ён едзе. Ну, і што ты яму, сыну, скажаш? Даў жа ад варот паварот, а ён, бачце, ўсё роўна сваю лінію гне. Баіцца, што замерзну я тут адзін… Я ж і кажу: неслух…”.

Віця Бародкін і яго Ануфрый былі равеснікамі і сябрамі, Сцяпан Ануфрыевіч і вучыў іх з першага па чацвёрты. Калі ішоў да трактарыста з просьбай, успомніў, як Віцька у другім ці трэцім класе падняў руку на ўроку, каб папрасіцца на патрэбе ў прыбіральню, а ён, настаўнік, падумаў, што той хоча адказваць і выклікаў яго да дошкі:”Ну, давай, пакажы нам, Віця, як трэба рашаць прыклад…” Хлопчык не стаў пярэчыць, патупаў да дошкі, ну а потым адбылося тое, што адбылося: ён, бедалага, часта затупаў нагамі, а тады напяўся і скрывіўся ўвесь ад сораму перад аднакласнікамі і ад сваёй часовай безабароннасці, а на падлогу пацёк ручаёк з ягонага сандаліка… І смешна сёння ўспамінаць пра гэта і грэшна… Але што добра: вучні потым неяк адразу забыліся пра гэты недарэчы выпадак, не тыцкалі пальцам у аднакласніка, а зрабілі выгляд, што наогул быццам нічога і не адбылося. Так, дробязі, звычайная недарэчнасць. З кім не бывае. “Малайцы, дзеці”,– падумаў тады пра іх Сцяпан Ануфрыевіч.

Па-рознаму склаліся жыццёвыя дарогі ў Ануфрыя і Віктара. Кожны з іх абраў прафесію свайго бацькі: Ануфрый скончыў універсітэт, жыве ў абласным цэнтры, выкладае беларускую літаратуру ў гімназіі, а Віцька стаў трактарыстам. Пакорлівы, неганарлівы, ён бы паспяшаўся на выручку кожнаму чалавеку, які трапіў ў такую сітуацыю, у якой аказаўся сын настаўніка-пенсіянера, а тут – Ануфрый!.. І таму Віктар, выглянуўшы на стук у шыбу і пазнаўшы ў святле, што падала з хаты на падворак, Сцяпана Ануфрыевіча, паскараючы крок, выйшаў на ганак. Выслухаўшы яго, Віцька заўсміхаўся, пажартаваў:

– А я думаю, чаго гэта нос у мяне свярбіць? Чуе, халера”. – Ён патаптаўся на месцы, прапанаваў ранняму госцю ўвайсці ў хату, бо холадна, а калі той адмовіўся, то ўзнёсла заявіў: – Задачу, аднам словам, зразумеў. Будзем думаць, як яе выканаць. Як ведаў: учора ўсю саляру зліў у бак, каб раніцай кашай не зрабілася, таму праблем не бачу. Друга трэба ратаваць. Хоць, магчыма, і па шапцы атрымаю… Але шапак можа быць многа, Ануфрый – адзін. Трэба і мне, дарэчы, яго мабільнік у свой занесці. Але гэта – потым. Бягу на двор і еду!

Сцяпан Ануфрыевіч не бачыў, а чуў, як пакаціўся “Беларус” ад Віцькавай хаты ў бок Дружбы, за якой і чакае выратавання са

снежнага полону сын, а ён сядзеў на зэдліку і абіраў бульбу. Трэба рыхтаваць снеданне. Хлопцы ж прыедуць. Добра, што каўбасы сыравяленай купіў ўчора палку. Ёсць сала, агуркі, памідоры, капуста. Бляшанка селядцоў таксама. Ну, а што яшчэ трэба ім, мужчынам? Маецца і паўлітэрка, але ж яны за рулём, а самому і так добра. Ён уявіў, як Ануфрый і Віктар будуць разам умінаць за сталом прыгаваныя ім стравы, і на вачах, сам таго не жадаючы, успыхнулі здрадніцкія слёзы. Яны, хлопцы, і раней, было, любілі разам паесці. Толькі тады гатавала ім жонка-маці, яна была майстрыхай па кухоннай справе. Паставіць на стол стравы, а сама сядзе насупраць, шчаку падапрэ рукой і любуецца хлопцамі: бач, ажно насы ўпрысядкі ходзяць! Здаровымі растуць, значыць, калі такі апетыт. То і добра. Старой няма ўжо амаль пяць год, пастарэў, прыкметна здаў і Сцяпан Ануфрыевіч. Гады ж – амаль восемдзесят пяць, ад іх не ўцячэш, не схаваешся. Хварэе, нягож. Гэты мабільны Ануфрый і набыў яму, прывёз і заявіў, блазнуючы:” Буду трымаць цябе, бацька, на прыцэле. Цяпер ты ад мяне не схаваешся”. Кантралюе, адным словам, Сцяпана Ануфрыевіча сын. Стары спярша ўпарціўся, думаў, што тэлефончык гэты будзе патрабаваць шмат грошай, навошта ён яму, а тады адчуў, наколькі той зручны і неабходны. То дачка патурбуе, пацікавіцца, як здароўе, яна мінчанка, то самы старэйшы сын Мікола; той звоніць радзей, бо жыве ў Маскве. Але – звоніць. Ануфрый жа, сярэдні, бліжэй за ўсіх, таму ён, вядома ж, часцей і гасцюе ў роднай хаце.

І вось – едзе забіраць яго ў горад. Сцяпан Ануфрыевіч адразу ж успомніў пра пеўня. А яго куды падзець? Суседцы, хіба што, аддаць, каб да вясны патрымала? Яна-та пагодзіцца, жанчына добрая. А калі вернецца з горада з куранятамі, а ён вернецца абавязкова, тады і забярэ назад, каб вадзіў свой курыны карагод. Войска без камандзіра не бывае.

Пакуль Сцяпан Ануфрыевіч чакаў сына, пра многае перадумаў. Аднак так і не рашыў цвёрда, ехаць яму ў той горад ці не. Там жа, разважаў ён, зімы не будзе. І як гэта ён раней не падумаў пра гэта?! Ну і сапраўды ж яно так. У кватэры заўсёды – круглыя суткі – цёпла, Ануфрый з жонкай і дачкой жыве на сёмым паверсе, то і снегу нават у акно не ўбачыш, не кажучы ўжо пра што іншае. Так і прасядзіш ў цяпле – як у Афрыцы той. Ды і ад суму памрэш. З аднаго боку добра, што сын і нявестка праяўляюць клопат аб ім, а з іншага – дык і сапраўды ж… выкрасліш зіму з жыцця. Тут жа ранкам трэба і сцежку пачысціць ад снегу, і глядзець, каб дах не праваліўся пад яго цяжарам, і ў сад пайсці пацікавіцца, як там дрэвы маюцца. Цяпер

зайцы ажывіліся, галодныя, то маладзейшыя дрэвы могуць і пагрызці, хоць і абвязаў яловымі лапкамі. А наваліць снегу, як у ранейшыя гады, то шаракам будзе дзе раскашаваць: дастануць, і рабіць няма чаго, крону. Скокнуць на сугроб – і ласуйся салодзенькімі галінкамі. А раптам у суседскага хлопчыка Міхаські канёк затупіцца? Хто яму навострыць яго? Бабка Насця хіба? Бацька хлопчыка недзе сабакам сена косіць, а маці спілася, тыднямі дома не бывае.

Певень па-ранейшаму тупаў па двары, усцяж расквеціў сваімі лапкамі свежы сняжок. Ён, падобна на тое, таксама нешта адчуваў нядобрае, таму прывязаўся да гаспадара: куды той, туды і ён. Толькі ў хату не ішоў, разумеў, туды яму нельга, хоць калі былі сёлета самыя моцныя маразы і начаваў колькі разоў ён у пярэднім пакоі, дзе гаспадар паставіў для яго кош, аднак певень аблюбаваў сабе тады месца на спінцы крэсла. Чым не курасадня? Цяпер жа, калі маразы спалі, троху адляглі, ён ведаў, дзе ягонае месца. Разумны ўсё ж ён, певень. Таму і бярог яго Сцяпан Ануфрыевіч.

Калі на мосце паказаўся нарэшце сынаў легкавік, сэрца ў Сцяпана Ануфрыевіча затахкала часцей – гатова было, здавалася, вырвацца з грудзей. І каб крыху супакоіць сябе, ён узяў на рукі пеўня, пагладзіў таго шыза-чырвоны грэбень і сказаў даволі гучна і бадзёра:

– А мы так і скажам яму, Ануфрыю: нікуды мы не паедзем, бо там, у горадзе, зімы не будзе… Так і скажам яму… Сын у мяне разумны… Ён усё ж павінен нас зразумець… Нам добра там, дзе ёсць зіма… Асабліва такая, як сёлета: марозная і снежная… Даўно такой зімы не было ў нас… Ну што ж – пайшлі сустракаць Ануфрыя… Да веснічак пайшлі… Так і скажам яму… З табой, пеця, і мне не так страшна… Верыш? Усё ж – удвух… Паставім, паставім Ануфрыя перад фактам: давай, скажам, нам зіму, тады паедзем. А дзе ён возьме яе ў тым горадзе? Пэк-мэк, і – рукі ўгору, і здаўся!.. Бо зіма тут, дзе мы жывём… А ў горадзе зімы не будзе… Не-а…

**ДРОВЫ**

Асцярожна ступаючы па свежым сняжку, які нарэшце парадаваў вяскоўцаў не толькі сваёй чысцінёй і беллю, але і проста доўгачаканым з'яўленнем, Ігнатаўна мінула агарод, прычыніла за сабой веснічкі, на якіх пакаталіся аблачынкі-гурбачкі снегу, і толькі тады, перш чым выбрацца на замецены асфальт, успомніла, што забылася дома пісьмо, якое складала ўчора амаль увесь вечар. Як жа без яго, таго пісьма, ісці? Ці варта? Яна б тады і па тэлефоне магла пагаварыць са старшынёй сельсавета – адна карысць. Ці на вуліцы яго стрэць. Але слова, лічыла старая, да справы не прышыеш. А паперка – іншая рэч: яе трэба зарэгістраваць, а гэта Ігнатаўна ведала, і абавязкова ў месячны тэрмін даць адказ. У тым пісьме на імя старшыні сельсавета яна скардзілася на адсутнасць дроў. Зіма ўжо ўсталёвалася трывала, а тут гэтая праблема. Раней настаўнікаў, у тым ліку і настаўнікаў-пенсіянераў, а Ігнатаўна якраз і мае статус апошняй, палівам на зіму забяспечваў сельсавет, а раённы аддзел адукацыі акуратна выдаткоўваў на гэта грошы, сёння ж – думай сама, як быць. Твае, адным словам, праблемы. Яна і думала. Ды, відаць, задужа доўга – не ўпільнавала зіму, а яна тут як тут. Чамусьці даверылася сабе і спадзявалася, што ў хлеўчуку запас дроў на першы час маецца з мінулага года, а калі паглядзела на свае вочы, колькі іх там, дроў тых, сапсаваўся настрой: дроў пад розным друзам было мала.

Вось і села Ігнатаўна ўчора за стол, перад гэтым дастала з шафы ручку і сшытак, і напісала пісьмо-просьбу на імя старшыні сельсавета Сазончыка: няма дроў, дапамажы, паважаны. Не, скардзіцца на Сазончыка не было асаблівай прычыны – да яе, Ігнатаўны, ён адносіўся разуменнем, а калі дзён некалькі назад ужо зайшла размова пра паліва, то ён шырокім жэстам паказаў на школу: заўтра-паслязаўтра, Ігнатаўна, пачнем бурыць яе, то дроў будзе – хоць на тры зімы наперад. А вось брыгаду, хто б назапасіў табе дроў, камплектуй сама. Ты ж былая настаўніца, вунь колькі тваіх вучняў жыве сёння ў вёсцы!

Не адразу, трэба прызнацца, дайшло пра тыя дровы да Ігнатаўны. Кіўнула спярша галавой Сазончыку, маўляў, хай будзе і так, дзякуй на добрым слове, а толькі пазней, за снеданнем, яна ўявіла, як будзе сядзець перад грубкай і кідаць у яе чрэва цуркі, наскіпаныя з школьных бёрнаў, і перасмыкнулася: жах які! Не, не, такога не можа быць – каб яна, настаўніца, паліла сваю школу ў печы і грубцы. Хіба ж так можна, людзі? Уявіце сабе: настаўніца больш

чым з саракагадовым стажам сядзіць на табурэце і падкідвае ў грубку дровы з тых бёрнаў, якія чулі не толькі яе голас, а і галасы сотняў хлопчыкаў і дзяўчынак, галасы калег-настаўнікаў, многіх з якіх сёння няма ўжо на гэтым свеце. Ігнатаўна нерухома сядзела яшчэ доўга за тым снеданнем і ўспаміналა іх. Амаль што кожнага настаўніка прыгадала. І вучняў, якімі ганарылася школа. Былі сярод апошніх добрыя калгаснікі, афіцэры, педагогі, нават адзін пісьменнік. Так-так, і пісьменнік. Ім асабліва ганарылася Ігнатаўна, бо гэта ж яна выкладала тую мову і літаратуру, на якой ён пісаў празаічныя і драматургічныя творы. А куды ж цяпер падзець яго кнігі з аўтографамі, тэатральныя афішкі і праграмкі, фотакарткі? Стэлажы з экспанатамі пісьменніка-земляка займалі амаль усю сцяну ў класе. Што, так і трымаць іх дома цяпер? Ці мо перадаць у раён? Відаць, трэба так і зрабіць: не прападаць жа дабру, ды і перад пісьменнікам-земляком няёмка, бо менавіта яна звярталася да таго з просьбай дапамагчы стварыць у класе літаратурны куток, прысвечаны ягонай творчасці. Ён заўсёды, трэба аддаць належнае чалавеку, акуратна адгукаўся, часта прыязджаў сам, выступаў перад настаўнікамі і дзецьмі, дарыў ім свае кнігі з цёплымі пажаданнямі.

Ігнатаўне ж было пакуль не да экспанатаў – на першым плане стаялі дровы, яны цалкам займалі галаву. І, вядома ж, школа.

Школа будавалася адразу пасля вайны, месца для яе выбралі на ўскрайку вёскі, і так атрымалася, што яна як бы апынулася ў цэнтры: да яе было амаль аднолькавую адлегласць хадзіць усім вучням з навакольных сяліб. Пакуль вазілі лес з Засожжа на конях, а гэта амаль сорак кіламетраў у адзін бок, свой сасоннік пасадзілі ўжо пасля вайны, пакуль звінелі сякеры мясцовых цесляў, дзеці вучыліся па хатах. Ігнатаўна выкладала беларускую мову і літаратуру, як і большасць настаўнікаў, была яна не мясцовая, а трапіла ў Дубраўку пасля педагагічнага інстытута. Пачала вучыцца там яшчэ да вайны, а ўжо тады, як адгрымела тая праклятая, атрымала дыплом. І адразу ж за працу. Прыехала ў школу, а школы няма. Тады мясцовыя жыхары за мізэрную плату пускалі ў свае хаты цэлыя класы, і нічога дзіўнага ў тым ніхто не бачыў, што ў звычайных сялянскіх пакоях стаялі груваcткія парты з тоўстых дошак, пафарбаваныя ў чорны колер, з-за якіх гаспадарам было іншы раз не тое што цесна, але проста нязручна: дзеці гудуць на ўроках, што пчолы, не адпачнеш, ды яшчэ і не возьмеш нешта неабходнае табе ў сундуку альбо ў шафцы. Чакай, пакуль званок на перапынак. Ды і дзвярамі лэпаюць ды грукаюць школьнікі, умомант выстудзяць хату, а снег жа ліпне, як на тое ліха, да іхняга абутку. Добра яшчэ, калі не гразюка. Затое б бачылі, вы як блішчэлі часам вочы ў тых

гаспадароў, у хатах якіх праходзілі ўрокі. Давер багата каштаваў, яго не ўсім аказвалі.

Ігнатаўна добра помніць, як будавалася школа, як радаваліся ўсе – і настаўнікі, і дзеці – калі першы раз пераступілі яны яе парог. Класы тады былі перапоўненыя, па трыццаць і болей чалавек, але цесна не было. Не хапала, наадварот, настаўнікаў. Амаль усіх мужчын пакасіла вайна, змену ім за адзін дзень не падрыхтуеш. Неяк выкручваліся. Выкладалі і не профільныя прадметы, тую ж нямецкую мову і геаметрыю часова давялося весці Ігнатаўне. Потым усё стала на сваё месца, сфарміраваўся добры калектыў, ствараліся настаўніцкія сем’і, нараджаліся дзеці. А як дружна і весела адзначалі яны ўсе святы! Колькі было весялосці, радасці! А тады неяк неўпрыкметку настаўнікі не заўважылі, як самі пастарэлі, а вучняў у школе станавілася меней і меней. Куды ўсё падзелася? Хіба ж думалася раней, што ў класе можа быць усяго два вучні? Ігнатаўна неаднойчы разважала аб гэтым і толькі ўздыхала: «Калі б хто сказаў тады, што так стане, ніколі б не паверыла». А так стала. Шкада было і школы, і прыбудовы да яе, дзе рукамі настаўніка гісторыі Мікалая Кірылавіча быў зроблены цудоўны музей вёскі і калгаса. Школу закрылі, а тых некалькіх вучняў, што засталіся, пачалі вазіць да суседзяў – там добры цагляны двухпавярховы будынак. Цэгла не гарыць. Прыладкавалі там і маладзейшых настаўнікаў. Пытанне, адным словам, вырашана.

Толькі вось як быць з дровамі? Ігнатаўна цвёрда рашыла: замерзне ў сваёй хаце, а школу ў грубцы паліць не стане. Хіба ж дараваў бы ёй такое муж-нябожчык, настаўнік малодшых класаў? Як гэта так, сказаў бы, мая Ігнатаўна, ты да такога даўмелася? Школу – і спаліць? Гэта ж школа, гэта ж храм, гэта ж святое!.. А калі былыя вучні захочуць прыйсці ў той клас, дзе некалі сядзелі? Куды яны прыйдуць? Куды? Скажы вось мне! Ты ж пазбавіла іх такой шчаслівай магчымасці, мілая мая. Не пазбаўляй. Не трэба. І быццам сама сабе Ігнатаўна адказвала: «Што я, Іван? Ад мяне тут нічога цяпер не залежыць. Маёй віны тут няма. Час такі настаў, калі школа нікому стала не патрэбна… Нашы ўнукі таксама ў горадзе жывуць… Светка заве да сябе, а я баюся туды, у горад, ехаць… Баюся… Мне тут добра, дзе пражыла шчасліва амаль ўсё жыццё… І ты блізка, Іван… Толькі вось каб дровы былі… З дровамі цяпер цяжка… А паколькі наша вёска неперспектыўная, бо школы ж няма, то газ і не падвядуць ужо, мусіць…»

Ігнатаўна вярнулася, каб узяць пісьмо-заяву. У хаце было хоць і стыла, але цяплей, чым на вуліцы. Якраз у гэты час падруліў – яна добра бачыла праз акно – трактар, з кабіны якога выпырхнуў лёгкі і шчуплы Косцік Стараселец, і неўзабаве ён ляпаў у дзверы.

– Адчынена, адчынена, – заспяшалася Ігнатаўна.

Косцік і не дачакаўшыся дазволу зайшоў бы, не прывыкаць: ён ужо стаяў у парозе і здзіўлена лыпаў вачыма:

– Дык а людзі дзе?

– Якія?

– Як гэта – якія? Ну, дровы грузіць.

– Не ведаю, – пацiснула плячыма Ігнатаўна.

– Мне ж нарад выпісаны вам дроў прычэп прывезці, – больш спакойна патлумачыў Косцік.– Мяне ж сам старшыня сельсавета адкамандзіраваў. Школу бурaць.

Ігнатаўна ўсё зразумела: Сазончык апярэдзіў яе, рашыў зрабіць для пенсіянеркі і сваёй былой настаўніцы добрую справу.

Пісьмо спазнілася…

Ціш у пакоі парушыў Косцік:

– Дык што рабіць будзем, Ігнатаўна?

Ігнатаўна адмоўна пакруціла галавою:

–Не, не, Косцік. Дзякуй табе. Калі з лесу мне прывезяце дроў – я заплачу, я куплю. Толькі сухіх каб… У мяне пенсія добрая. Грошы маюцца. А школьныя – барані Божа!.. Не вазьму грэх на сябе. Не, не вазьму.

–Дзіўная вы, Ігнатаўна! – Косцік развёў рукамі, пашкроб кудлатыя валасы на галаве і моўчкі выйшаў, а потым адразу ж вярнуўся, неяк вінавата апусціў галаву, нарэшце падняў цяжкі погляд на старую настаўніцу, ціха прамовіў: – Я… мы… мы прывязём вам дроў, Ігнатаўна. З лесу. Там багата паваленага… У грыбы калі хадзіў, то бачыў. Ногі паламаеш у тым лесе… З леснікам пагаворым, як зрабіць лепш. Ведаеце, Ігнатаўна, а я вас зразумеў: мы ж вас і любілі больш, чым каго-небудзь з настаўнікаў. Нібы ведалі яшчэ тады, малыя, што вы такая… А школу і мне шкада цяпер вось стала шкада, як да вас зайшоў, як на вас паглядзеў… Ага. Вы мне верыце? А раней неяк і не падумаў пра гэта. Сапраўды, як гэта – школу спаліць? Свой клас – як гэта?..

– Дзякуй табе, Косцік…

Ігнатаўне ці падалося, ці так было і на самой справе: Косцік, перш чым пайсці, хлюпнуў носам і крадком шаркнуў рукавом па вачах… Так хуценька, похапкам шаркнуў, каб Ігнатаўна не ўбачыла…

Трактар зароў маторам і неўзабаве схаваўся з вачэй Ігнатаўны. Яна ўзяла пісьмо да старшыні сельсавета, хацела парваць яго на дробныя шматкі, але перадумала: калі будуць дровы, то кожная паперка спатрэбіцца. На падпал.

**Г А Р А С К О П**

Раней ніколі неяк сур'ёзна не ставіўся да гараскопаў Сірацюк, лічыў друкаванне іх у газетах пустой забавай, нікчэмным заняткам для абываценляў, а тут раптам зачапілі надоечы яго наступныя радкі: " У паўсядзённай працы вызначаюцца новыя цікавыя перспектывы. Не выпусціце свой шанц. Задачай тыдня "нумар адзін" будзе апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы". Апынуцца ў патрэбны час…у патрэбным месцы… Гэта, значыць, яму, Вадалею, парада. А што, калі?.. І Сірацюк сур'ёзна задумаўся. Ён нават узняўся з канапы, выключыў тэлевізар, але газету з рук не выпускаў: яго моцна зацікавіла – і сапраўды, а што калі прыслухацца да ўсяго, што раіць гараскоп? Хоць раз у жыцці, а? А што, калі прымірыць гардыню і спакусіцца? Было не было! Сірацюк пазяхнуў, навастрыў слых: жонка корпалася на кухні, быў чуваць бразгат посуду, цурчанне вады з краніка. З кім яшчэ, як не з ёй, падзяліцца парадай гараскопа.

– Марыя, – зазірнуўшы на кухню, Сірацюк хітра-загадкава ўсміхнуўся жонцы, якая павярнулася да яго тварам. – Паслухай-ка: мне прапаноўваюць на гэтым тыдні апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы…

– Не разумею, пра што ты гаворыш, – жонка працягвала займацца сваімі справамі. – Хто прапаноўвае?

– Гараскоп, – Сірацюк паляпаў па газеце. – Вось, тут чорным па беламу напісана…

– А-а! – адмахнулася жонка. – Зразумела. Больш на канапе ляжы перад тэлевізарам, табе і не тое выдумаецца.

– Прычым тут адно да другога? – пакрыўдзіўся Сірацюк. – Вось, на, чытай… Мой знак – Вадалей…

– Адстань! Бачыш, рукі занятыя?

– Усё у нас так, усё… – Сірацюк у роспачы сеў на табурэт. – Рукі, бачце вы, занятыя. А калі ў нас яны былі не занятыя? Адкажы вось мне, адкажы!..

Марыя зноўку павярнулася тварам да мужа, пэўны час дзівілася на яго, затым лагодна ўсміхнулася і захітала галавой:

– Ты што, сёння не з той нагі ўстаў?

– З той, з той, – прамумкаў Сірацюк.

– Лепш дапамог бы мне па кухні, – міралюбіва прапанавала жонка. – Свята ж ідзе, Новы год… А ты да гараскопа прычапіўся. Давай памагай. І цыбулю чысціць трэба, і часнок. Твой любімы занятак, дарэчы.

Сірацюк, відаць было, і сам зразумеў, што ні з таго пачынае ён сёння дзень, аднак гараскоп па-ранейшаму не даваў яму спакою, моцна ўзяў за жывое, і крыху паразважаўшы пра жыццё-быццё, ён зноў энергічна паляпаў па газеце:

– Дык пішуць жа!

– Хай пішуць, а табе што да гэтага?

– Не, а чаму я не магу і сапраўды апынуцца ў тым самым месцы ў патрэбны час? Дзеля нас жа, а? Можа падвернецца выпадак, і мы станем самымі шчаслівымі людзьмі? Самымі багатымі? Латарэйны білет хіба пайсці купіць? Ці той жа спортпрагноз узяць?.. Дзе, дзе тое месца, дзе я павінен апынуцца? Хто пакажа? Хто-о?..

Марыя больш уважліва прыгледзелася да мужа, з невясёлай іроніяй прамовіла:

– Чаго ты прычапіўся да гэтага гараскопа? Ці ты, можа, ўжо Новы год пачаў сустракаць, мой любы? Дык рана ж яшчэ быццам… Глянь на гадзіннік. А гараскопам сваім толькі прыкрываешся, не інакш, а?

– Ды кінь ты дурное! Кінь!

– Лупі цыбулю!

– Луплю, луплю… – і Сірацюк адклаў нарэшце газету ў бок, узяў цыбуліну, нож. – А ты вось, Марыя, кажаш, рукі ў цябе занятыя…

– Ну, кажу…

– А калі яны ў нас былі не занятыя? У цябе і ў мяне? Увесь час то тое, то гэтае… То на працы, то дома… І ежу прыгатуй, і дзіцяпагушкай… Як без рук?

– То пульт ад тэлевізара не выпускаш з іх, – заўважыла Марыя, усміхнулася.

Сірацюк жа працягваў сваё, не зважаючы на дакор жонкі:

– А калі ў вёсцы жыў, і траву скуб для трусоў, і дровы заносіў у хату з хлева, і сена скідваў з вышак карове… А колькі вады трэба было нанасіць з калодзежа! Бліжэй к вечару дазвалялася браць у тыя ж рукі лыжныя палкі… Так, так: яны заўсёды, рукі гэтыя, былі занятыя. Як і помню сябе.

– Чалавеку рукі і дадзены для таго, каб быць занятымі. Не сядзець жа, склаўшы іх на каленях.

– Перад Новым годам самі цацкі на ёлку рабілі. Самі, помніш? З паперы, з кардонкі, з шышак… Сёння ў крамах на любы густ гэтых цацак. Выбірай толькі. А цяпер вось цыбулю лупі… Яна, дарэчы, кусаецца… Во, во: не паспеў яшчэ адну распрануць як след, а ўжо плачу… Горкая, мусіць.

– Ёсць і салодкая. Вось гэтая, што далей ад цябе – больш светлая яна. Бачыш?

– Бачу.

–Бяры гэтую, яна не такая злая.

Дзень заканчваўся, а Сірацюк так і не знайшоў тое шчаслівае месца, дзе б ён мог апынуцца ў патрэбны час. Усе варыянты перабраў – і нічога не атрымлівалася. Пасля цыбулі чысціў часнок, прапускаў цераз мясарубку ўсё, што прасіла жонка, збегаў у краму за майянезам і хлебам, прыхапіў там яшчэ тое-сёе, дапамагаў жонцы ляпіць пельмені і рабіць торт, а ўжо бліжэй к вечару патэлефанаваў сын: у нас планы раптоўна памяняліся, прыйдзем Новы год сустракаць да вас, вы не супраць, бацькі?

Калі ў кватэры з'явіліся сын, нявестка і ўнук, яны першай справай паглядзелі на святочны стол і былі прыемна ўражаны: ух ты, які багаты!

– Ой, мама, а чаму ж вы не сказалі, мы б прыйшлі раней, дапамаглі б вам, – сумелася нявестка.– Столькі ўсяго нагатавалі! Стаміліся, відаць? Ды і мы ж не з пустымі рукамі прыйшлі… Міша, чаму ты стаіш? Дзе сумка?

Сын, схамянуўшыся нібы пасля здранцвення, пачаў выстаўляць прынесеныя стравы.

– Гэта нашаму татку дзякуй скажыце, – засмяялася жонка Сірацюка. – Дзякуючы ягонаму гараскопу такі стол сёння ў нас багаты. Ён, бацька наш, апынуўся сёння ў патрэбны час у патрэбным месцы – на кухні. Адна б я не справілася. Нізашто!

Сірацюк заміргаў вейкамі, задаволена рагатнуў: ён і сапраўды вельмі здзівіўся, калі пачуў ад жонкі “пра патрэбны час і патрэбнае месца”, і толькі развёў рукамі: яна, дзеці мае, мусіць, праўду сказала. Гараскоп не падвёў.

І яму, надта шчасліваму сёння чалавеку, заставалася толькі запрасіць усіх да святочнага стала.

# Маленькія былі

## БАРДАЧОК

Матрунчык вазіў на «Волзе» вялікага начальніка – Васіля Паўлавіча. Начальнік быў чалавекам добрым, нават – для ягонай пасады – мяккаватым, што не надта падабалася вадзіцелю: іншы раз трэба было, на ягоны розум, і гэкнуць кулаком па стале, уладу паказаць – коратка і хутка расставіць усе кропкі над «і», а ён упрошвае падоўгу таго ці іншага небараку, вучыць жыццю, і складваецца ўражанне, што ва ўсім сам ён і вінаваты. Толькі не падначалены. Матрунчык ідзе тады ў машыну, слухае музыку, шкадуе Васіля Паўлавіча і корпаецца, ад няма чаго рабіць, у бардачку. Там шклянка, хапунок для адкаркавання бутэлек, складанчык, відка, лямпачка, пінцэт і розная іншая драбяза. Васіль Паўлавіч аднаго разу папракнуў:

– Калі ты ўжо, Коля, навядзеш у бардачку парадак?

Коля прыжмурыў вочы, здзівіўся:

– Дык гэта ж – бардачок!

Мо так і трэба, падумаў, пэўна, начальнік і адстаў. Бардачок дык бардачок.

А потым неяк яны ехалі па вясковай вуліцы, доўгай, крывой і ўшчэнт разбітай коламі трактараў і грузавікоў, а паабапал зеўрылі на іх паўразбураныя, ледзьве жывыя, а то і зусім памерлыя ўслед, пэўна ж, за гаспадарамі,хаты. То з аднаго боку, то з іншага на вочы трапляліся фрагменты сеялак, плугоў, культыватараў, трактараў, разабраныя напалову некалі моцныя і прыгожыя цагляныя кароўнікі, свінарнікі...

– Бардачок, – нахмурыўся і пазяхнуў Матрунчык.– У машыне – што?.. У машыне так сабе... Бар-да-чок!..

А начальнік, добры і мяккі Васіль Паўлавіч, нічога не адказаў – зрабіў выгляд, што думаў пра нешта важнае, значнае...

## НАВІНКА

У нашай вясковай краме з’явілася навінка: на відным месцы вытыркнулася бутэлька, на якой вялікімі літарамі было напісана: «Крот». Першым звярнуў увагу на навінку дзед Кузьма.

– К... к... рот... быццам, – з цяжкасцю, доўга трымаючы картузікам руку перад вачыма, прачытаў ён. – Крот, значыць? Што за халера такая, Маруся?

Прадаўшчыца, быццам не здагадваючыся, пра што размова, пацікавілася:

– Дзе?

Кузьма торкнуў пальцам на бутэльку.

– А-а... Ды гэта ж кратоў знішчаць, атрута такая,– растлумачыла прадаўшчыца і вокам ні міргнуўшы. – Напісана ж: крот. Навінка.

– То трэба купіць,-- вырашыў дзед Кузьма і палез у кішэню за грашыма. –Трэба падсыпаць перцу кратам. Парылі ўвесь агарод, нягоднікі. Падай, маладзіца, бутэлечку атруты, падай. Не паляніся. Я ім пакажу, кратам тым, дзе ракі зімуюць.

Неўзабаве пра атруту для кратоў прачула ўся вёска, і бутэлькі вокамгненна зніклі з крамы. Толькі на другі дзень разабраліся людзі, для чаго гэтая навінка з такім зразумелым надпісам на баку «Крот – чысціць трубы. Каналізацыйныя.

Пасмяяліся. Пабедавалі. Грошы ж патрачаны дарэмна. Якая ў вёсцы тут каналізацыя? У каго? Дзед Кузьма на ўсялякі выпадак папракнуў прадаўшчыцу:

– А ты куды глядзела? Ці табе, Маруся, абы збыць тавар, га?

Прадаўшчыца схамянулася, вырачыла вочы на старога:

– Ты... ты што гаворыш такое? Я ж, дзед, і на сваім агародзе бутэльку вадкасці той у нару заліла...

– З вашай навінкай!..– плюнуў дзед Кузьма, нацягнуў кепку на лоб і пачыкільгаў з крамы. – Хай я невук. А вы куды глядзелі, грамацеі?

## ХАЛОДНАЯ ПАДУШКА

Што не кажы, а Вера чалавек асцярожны, прадбачлівы: каб не насіць пад вачыма ліхтары, яна адразу, як толькі Пятру трапіла крапля ў рот – для пачатку, для разгону – кідае ўсё, як ёсць у хаце, хапае падушку, коўдру і хаваецца дзе-небудзь на агародзе. Падалей ад Пятра. Падалей ад бяды.

Во ўжо чалавек, гэты Пятро! Вып’е – навальніца, грукоча і бліскоча, а праспіцца, упадзе на калені, галаву схіліць:

– Даруй, Вера. Даруй. Ну дурань я, дурань!

– Ды я ведаю, хто ты, – спакойна адкажа старая. – Сёння толькі не пі, бо дзве ночы начаваць на агародзе няможна: падушка халодная, як лядзяк. Восень жа.

– Не буду,– ахвотна і з радасцю абяцае Пятро.– Слова танкіста!

– Ідзі снедай.

– Ага!

Моўчкі снедаюць. Пятро надзвычай паслухмяны, ціхі і порсткі ў рабоце. Вера не нарадуецца. Але падушку далёка не хавае. Ведае свайго мужа добра, не першы год жывуць разам. Бач, ужо прыдзіраецца пачынае. Добры настрой мінуў. То тое яму не так, то гэтае.

Жанчына адчувае: вось-вось спатрэбіцца падушка. Яна падбівае яе, кладзе на ранейшае месца, гладзіць, пяшчотна і далікатна, і заўважае, што халодная яна, падушка, і тут, у сваёй хаце...

## МАЛАДЫ ПЕНСІЯНЕР

Міхаіл Аўдзеевіч – пенсіянер малады: другі месяц не пераступае ён прахадную завода, на якім больш сарака гадоў займаў самыя розныя пасады. Ад вучня фрэзероўшчыка вырас да начальніка бюро тэхнічнага кантролю механазборачнага цэха. Хто быў у такім цэху хоць раз – хуценька вушы затуліць ад грукату-шуму, здзівіцца: і як тут можна знаходзіцца? Тым больш – працаваць? Звар'яцееш. А ён, Міхаіл Аўдзеевіч, знаходзіўся і працаваў тут вельмі багата часу... І нічога, вытрымаў. Адно кепска цяпер вось, на старасці – папрокі сыпяцца на яго з усіх бакоў, хай на дачы ці ў гарадской кватэры, ад сваякоў і суседзяў: «Цішэй, цішэй размаўляй, Аўдзеевіч! Тата, мы ж не глухія. Чуем».

Ён спахопіцца, на твар нагорнецца чырвань, але прамаўчыць, толькі падумае: «І калі я ўжо прывыкну, што не на заводзе знаходжуся, што –пенсіянер?»

Зноў, каторы ўжо раз, дасці слова сабе размаўляць так, як і ўсе людзі – ціха, памяркоўна, у залежнасці ад сітуацыі, але забудзе, бедалага, неўпрыкмет і падасці іншы раз такі моцны голас, бы некалі ў сваім механазборачным.

І тады толькі ўспомніць, што ён – пенсіянер.

І ўсміхнецца: «Пенсіянер я ўсё ж малады. Выпраўлюся».

**ВЭКСАЛЬ**

Не спалася. Не ляжалася. Заўтра прыедуць унукі з горада, Кацька з Санькам, а ў яе, любімай бабулі, і грошай няма, каб сустрэць дарагіх гасцей прыстойна – так, як і кожнага разу дагэтуль: гасцінцы – на стол! Пуста на стале. Сіратліва. Акрамя садавіны нічым унукаў не парадуеш. Яшчэ, чаго добрага, пакрыўдзяцца? Ды і Міколку грошай трэба было б даць на зваротную дарогу—чула па радыё, што затрымліваюць у іх на заводзе заработную плату. А што яна магла вымеркаваць яму са сваёй пенсіі, калі патрымала толькі грошы ў руках, паглядзела-падзівілася на іх, пералічыла колькі разоў, і развіталася, бы з нечым жывым—шчымліва і цяжка: заплаціла суседу Вітуку за два вазы бярозавых дроў, а запрасіў чатыры бутэлькі гарэлкі, Лявон акучваў бульбу... спатрабаваў таксама дзве. А тады ж гэтыя мужчыны-выпівохі – а які цвярэзнік вуручыць такіх старых, як вось яна, Хрысціна Пятроўна? – папырскалі на каларадскіх жукоў. Праўда, добра папырскалі, як у сябе: не стала на калівах ненажэрных паласацікаў. А за самую ж атруту заплаціла тры тысячы рублёў. Туды-сюды, і няма пенсіі. Толькі ўспомніць пра яе і засталося. Слізкія ж грошы калі пайшлі... не ўтрымаеш у руках. Купіла, праўда, цукру, алею, тры кансервы, кілаграм сала. З голаду памерці не памрэш, там ужо і на агародзе можна раскашавацца: першая бульбачка, першыя агурочкі, выбліснуліся і памідорчыкі. Суседка, Маруся, нальe слоік малака і з грашыма паспяшаць не будзе. Але ж, ведае бабуля, унукі наглядзяцца ў вясковай краме, што іншыя дзеці купляюць і ліманад, і цукеркі, і марожанае, нават кавуны прывозяць, то і ім закарціць, папросяць: бабуля, дай грошай. Дзеці ж. Старая ўявіла, як тыя вінавата апусцяць галовы...

Таму вось і не спалася ёй, Хрысціне Пятроўне, настаўніцы-пенсіянерцы, ад такіх думак. Грызлі. Тачылі. Можна было б пазычыць грошай, ёй не адмовілі б: аддае заўсёды акуратна. Але ў каго пазычыш?! Чуе ж, не глухая, як скардзяцца людзі, што і цукру няма за што купіць, а сады ломяцца ад яблыкаў і сліў, гінуць – шкада, няго ж – плады. Хлеб штодня даражэе. Што тая тысяча цяпер? Так, адна назва. Гэта каб іх, тых тысяч, было як раней рублёў...

Выйсце, праўда, ёсць: можна дамовіцца з прадаўшчыцай Нінкай, каб тая давала дзецям гасцінцы на вэксаль – запісвала ў свой талмуд, а тады, у дзень пенсіі, выставіла рахунак, колькі павінна яна за ўнукаў грошай. Так Нінка робіць. Правільна ці не, аднак робіць. Толькі не адважваецца Хрысціна Пятроўна звяртацца з такой

просьбай да сваёй было вучаніцы. «Сорамна чамусьці. Непрыгожа». І разважае: «Я ж заўсёды старалася падкрэсліць, калі вучыла дзетак у школе, што той, хто будзе добра вучыцца, як вось і сама-- інстытут жа закончыла—той і жыць будзе лепш». А Нінка вучылася так сабе... І вось цяпер яна, Хрысціна Пятроўна, павінна ісці да яе, гультаяватай, троешніцы, з паклонам? Яна – былая настаўніца? Хоць быццам бы і не да яе дадому, а ў краму. Не. Не. Не. Няёмка. Сорамна. І нават брыдка.Яна запіша на вэксаль. Не адмовіць. Усё ж вучыла некалі.

Унукі прыедуць толькі заўтра. Трэба паспрабаваць заснуць, бо няпросты дзень будзе – на нагах. І трэба не думаць пра той вэксаль, забыцца пра яго.

Сказаць яно, праўда, лягчэй, чым зрабіць.

## ГАРНІТУР

Сход быў не зусім звычайны – калі раней, як заўсёды, кіраваў парадам сам старшыня калгаса Яромчык, то на гэты раз ўсё выглядала інакш. Старшыню праводзілі на заслужаны, як кажуць, адпачынак, таму ён моўчкі сядзеў у цэнтры прэзідыума, раз-пораз прамакаючы лысіну насоўкай, а рэй вёў яго намеснік і першы кандыдат на вызваліўшаеся месца Патупчык. Апошні чарговы раз папрасіў увагі і расчулена прамовіў:

– Вы ўсе добра ведаеце, спадары і спадарыні, хто такі Яромчык Мітрафан Мітрафанавіч. Не мне вам казаць. Дзякуючы яму ў нас ёсць, так бы мовіць, і плод, і прыплод. Ці не так, а? Так, так, спадары і спадарыні. Гэты чалавек заслужыў, каб і на заслужаны адпачынак праводзілі мя яго як паважанага, шаноўнага чалавека і непаседлівага, удумлівага кіраўніка. Ці не так, а?

– Ды ўсё так! – выгукнуў з апошняга раду пастух Мацюшонак.

– Ведам Яромчыка! Наш чалавек! Свой! – падтрымаў пастуха трактарыст Сідаронак.

Патупчык павесялеў, яго маленькія вочкі мітусіліся яшчэ больш і ён скіраваў іх на віноўніка ўрачыстага сходу: ага, шаноўны, а я што табе абяцаў? Не верыў? А дарэмна! Усё будзе так, як мы і задумалі. А да калгаснікаў сказаў:

– Таму я ўношу прапанову ўзнагародзіць Яромчыка, нашага паважанага Мітрафана Мітрафанавіча, каштоўным падарункам. Што за падарунак, пытаецеся? То скажу: гарнітур. Рэч не дарагая, а яму, пенсіянеру, спатрэбіцца, самы раз будзе... Ну, хто за маю прапанову?

Прагаласавалі адзінагалосна. Гарнітур дык гарнітур.

Назаўтра падарунак прывезлі з райцэнтра на двух грузавіках. Пастух Мацюшонак і трактарыст Сідаронак бачылі, як завіхаліся дужыя хлопцы на разгрузцы. Першы зморшчыўся:

– А я, пень, думаў, калі галасаваў, што гарнітур той… гэта самае… трусікі… ага.

– З майкай,– шморгнуў носам другі.

І не адны яны так думалі – усе калгаснікі. Акрамя Патупчыка. Яму да пенсіі, дарэчы, таксама мала засталося…

**РАЗВЕДЧЫК**

Новы сусед калгаснага конюха Васіля Масеева – гараджанін. Тут, у вёсцы, ён купіў хатку і амаль кожны раз на выхадныя наведваецца сюды, а цяпер, у верасні, і зусім прыехаў надоўга – узяў водпуск, каб не прапусціць грыбы. Чалавек ён замкнёны, вяскоўцы не ведаюць нават, як яго завуць.Таму для іх ён – Дачнік. «Спытай у Дачніка », «Папрасі добранька, Дачнік з горада прывязе ».

Ранічкай, як толькі прапаў шэры змрок, Дачнік пакаціў на веласіпедзе ў бок лесу. Як і ўчора, на дарозе яму стрэўся Васіль Масееў. Павіталіся.

– А сёння куды? – рабром паставіў пытанне конюх.

– У разведку,– млява адказаў Дачнік.

– Дык ты ж учора ездзіў, быццам.

– Ездзіў і з парожнім кашалём вярнуўся. Няма пакуль грыбоў. Растуць.

– Дык а што ж тады ты ў сваім кашалі вёз? – здзівіўся Васіль, бо сам бачыў, як вяртаўся Дачнік не з пустымі рукамі – ажно на бок хіліла ад цяжару: нашпігаваў чагосьці ж паўнюткі кашэль.

– Ды ты памыліўся,– ціха сказаў Дачнік і пакіраваў далей па дарозе.

– Дык калі не было ўчора грыбоў, хіба яны будуць сёння?– паглядзеў услед яму Васіль і патупаў дахаты.

Ідучы, ён разважаў: «Цікавы гэты чалавек, Дачнік. Усё потайкам ды потайкам робіць. Усё нешта хітруе. Два гады жыве побач, а ўсё цемніць нешта. Ну-ну…»

Паснедаўшы, Васіль таксама ўзяў накірунак у лес. Грыбы трапляліся ледзь не на кожным кроку: паспявай зразаць толькі. Неўзабаве кошык быў паўнюткі, тады ён сцягнуў з сябе сарочку, завязаў вузел, хутка і гэты «посуд» быў набіты да краёў. Пара

вяртацца. Зноў успомніў Дачніка: « Хлус, аднак... Разведчык! Цьфу! Трэба ж быць такому чалаавеку!..»

Як і калі вярнуўся з грыбоў Дачнік – Васіль прагледзеў. Хутчэй за ўсё загуменнем – каб людзі не бачылі.

Назаўтра раніцай яны зноў сустрэліся на той жа дарозе. Васіль сядзеў на калёсах, а поруч з ім ляжала горка грыбоў. І ўсе прыгожыя – роўненькія, дзябёлыя, крамяныя. Амаль адны баравікі.

– А сёння куды?– нацягнуў лейцы Васіль, і конь спыніўся.

– У разведку, – не міргнуўшы вокам, мовіў Дачнік.– Учора не знайшоў. Павінны ж быць,-- і ён раптам заўважыў на возе грыбы, па твары адразу ж распаўзлася кудлатымі плямкамі чырвань. – А... бачу... ёсць грыбы...

– Так што вяртайся, сёння ў разведку можна не хадзіць,– буркліва сказаў Васіль і шлёгнуў каня па баку лейчынай.– Но-о!

– Дык, можа, разам сходзім калі?– заміргаў кругленькімі вочкамі Дачнік.

– Куды? У разведку? З табой – не, не пайду, – пачуў Дачнік словы Васіля, і хоць грымелі калёсы, ён добра разабраў іх.

## ЧУЖАЯ

Яна сядзела перад ардынатарскай, скрыжаваўшы рукі на грудзях, і кожны раз, калі праходзіў побач доктар, ускоквала, спрабавала нешта сказаць яму, аднак не паспявала: той хаваўся за дзвярыма, ніяк не рэагуючы на памкненні гэтай жанчыны. Яна паспявала вымавіць ўсяго адно слова: «Доктар...» І позірк застываў усё на тых жа дзвярах. Не дужа строгі, мабыць, загадчык аддзялення Мядзведскі на гэты раз выглядаў суровым, непадступным. На тое мелася прычына. Калі б не было – не было б і ўсёй гэтай катавасіі.

Яна, жонка хворага мужчыны, прыйшла ў сасудзістае аддзяленне па выкліку. Перадалі ёй праз людзей, каб наведалася. Мядзведскі прыняў ветла, пацікавіўся, як жыццё, што ўрадзіла сёлета на агародзе, ці вялікую гаспадарку трымаюць. Калі пра гаспадарку запытаў доктар, у жанчыны чамусьці ёкнула пад адзеннем. «Неспраста гэта, ой, неспраста».

– Мы павінны вам паведаміць... і кожны раз мне нялёгка, цяжка гаварыць пра гэта людзям... што давядзецца...вы не хвалюйцеся, калі ласка,– Мядзведскі і сам заўважыў, што жанчына расхвалявалася,і стараўся, як мог, супакоіць яе.–Тут іншага выйсця няма...

– Што... што здарылася?– па-ранейшаму з трывогай глядзела яна на доктара.

– Нічога, вы толькі не хвалюйцеся. Гэта ж жыццё... Іншага выйсця няма. Давядзецца вашаму мужу ампутаваць нагу. Іначай хвароба...

Яна не дала дагаварыць доктару, сказала надзіва спакойна і абыякава:

– Адразайце. Толькі потым пакіньце майго мужынёчка ў сябе. У вёсцы бязногі мужык не трэба... Які з яго толк? Лішняя каніцель.

Мядзведскі, пачуўшы такія словы, аслупянеў, нават крыху разгубіўся і чамусьці спытаў, хоць гэта нічога не мяняла:

– Ён што ў вас, п’яніца?

– Як усе...

– Б’е? Калоціць?

– Хай бы паспрабаваў крануць. Я б яму кранула.

– Тады не разумею я вас, жанчына,– развёў рукамі доктар.– Іншая справа, каб п’янтос быў. А то ж, кажаце, як усе... Мы не першы раз ампутуем ногі. І п’яніцам таксама. Але ж у іхніх жонак я бачыў на тварах спачуванне, на вачах слёзы...

– Дурныя таму што! – яна сказала даволі непахісна.

– Выйдзіце з ардынатарскай! – падвялі тады крыху нервы Мядзведскага.–Калі ласка!

Напаследак жонка хворага яшчэ раз сказала:

– Калека мне не трэба. Забірайце сабе.

І выйшла.

Яе мужу нагу ампутавалі. Месяц назад. Яна першы раз наведалася пасля аперацыі ў бальніцу. Былі дзеці, унукі, а яна – не... І вось цяпер усё парывалася нешта сказаць доктару. Ён рабіў выгляд, што яе не заўважае. Хоць быў па-чалавечы вельмі рады, убачыўшы перад ардынатарскай гэтую жанчыну.

Няхай трошкі пасядзіць. Ён чакаў яе больш.

## ВУЧОНЫ ЗЯЦЬ

У Марусі зяць, і гэтым яна асабліва ганарыцца, закончыў інстытут і працуе «вялікім начальнікам».

– Не-е, ён не абы хто, а ў гальштуку ходзіць на працу,-- любіць пры выпадку пахваліцца старая. – Сама бачыла.

Аднаго разу зяць прыехаў у госці да Марусі. Адзін.

– А што ж Сонька? – нясмела папытала старая. – Аблянілася… ці што? Як замужам не была, то прыязджала.

Зяць ахвотна растлумачыў, што дачка яе пакуль яшчэ не аблянілася, а не прыехала таму,што білеты на аўтобус надта дарагія, і калі б яны прыехалі ўдвух, то давялося б патраціцца, што сказалася б – і прыкметна! – на сямейным бюджэце.

– Ды бульбоўнік я і адзін выкашу, – весела гаманіў зяць. – Гэта ўжо калі капаць будзем, то і Сонька прыедзе.

– Так, так, – згодна заківала галавой Маруся і запрасіла госця за стол, на якім былі і чарка, і скварка.

А потым яна паказала зяцю касу.

– Ад мужа засталася, ад твайго цесця. Як ведала, што прыедзеш, таму папрасіла суседа, каб накляпаў.

Зяць узяў касу, пакруціў-павярцеў яе перад носам, надзьмуў шчокі, зморшчыўся:

– Не, мамаша, даруй мне, але гэта не каса: старая, крывая, гарбатая. Адна назва… Гэтай касой я не скашу. Пашукай, пашукай новую.

– Дык дзе ж я табе яе знайду? Косы ж у нашым лесе не растуць. Няма ў мяне больш. Адна… вось гэтая… ага.

– Тады, родная цешча, прабач. Пры ўсёй павазе да цябе… вымушаны адмовіць у дапамозе. Хоць і ехаў. Бульбоўнік няхай стаіць. Прашу мяне не вінаваціць. Я прывык сядзець за новым сталом, у новым крэсле, пісаць новай ручкай, насіць новы касцюм, новыя туфлі. Як знойдзеце касу, то разбудзіце: я трошкі пакімару. З дарогі як-ніяк. Будзіце, будзіце, не саромейцеся!

«Відаць, раз вучоны зяць, то і праўда, варта новую касу пашукаць. Трэба ж мне, дурніцы, старызну гэтую падсунуць было? Яе ж Мікіта мой яшчэ выкінуць хацеў. Цьфу-у!»

І яна пабегла шукаць касу, хоць не ведала, дзе і як расстараецца. Але… прынесла! Ззяе каса, ззяе твар у Марусі: што на гэты раз скажаш, блазнюк? Зяць працёр вочы, глытнуў з карца халоднай вадзіцы, паглядзеў на гадзіннік, а толькі тады ўзяў касу і адразу ж скрывіўся, бы праглынуў горкую пілюльку:

– Лепшая, але таксама не тое. Цяжкаватая. І доўгая нейкая. Што, карацейшай няма? Ці вы, вяскоўцы, прывыклі адным махам класці ўвесь бульбоўнік? Там па тэліку брыфінг будзе, то я пагляджу. Падыходзь, шаноўная цешча, праз паўгадзіны. З новай касой, вядома.

Маруся выпырхнула на ганак, патапталася крыху на пругкіх дошках, плюнула, калі адчаілася знайсці касу, якую хоча яе вучоны зяць. Хто дасць? Пятро? Міхал? Васіль? І яна нехаця пацягнулася з двара. Пятру каса самому трэба, у Міхала яшчэ цяжэйшая, чым ёсць, а ў Васіля старая, як і ён сам. Не знайшла.

Калі Маруся вярнулася ў хату, яе сустрэў зяць са здзіўленнем на твары:

– Дзе вы столькі ходзіце, шаноўная цешча? Цяпер жа, восенню, кожны дзень год корміць.

– Касу шукала.

– Бачу, не знайшлі?

– Не.

– Шкада, шкада, – зяць сеў, забарабаніў пальцамі па вечку стала. – Тут я, даруйце, выручыць вас не магу.

Маруся залыпала вачыма:

– Заўтра яшчэ, раніцай, паспрабую.. На Крывой Бярозе не была. Гэта вуліца такая. Яна далекавата.

– Заўтра? Раніцай? – насупіўся зяць.– Ну вы і даяце, ну ў вас і пратакол, шаноўная! Раніцай мне трэба быць у горадзе. Справы!

Маруся не ведала, што сказаць. Нарэшце ціха мовіла:

– Дык.. можа... хоць бы маёй... старой касой пазбіваў бульбоўнік... хоць трохі, га? Ехаў жа...

Зяць, не міргнуўшы, сказаў:

– Можна было б і паспрабаваць, але ж гляньце, гляньце на вокны: цёмна! Трэба быць больш разваротлівай, любая цешча! Час цяпер такі! Час! Не ты, дык цябе абскачуць! Больш энергіі, больш руху! А то бульбоўнік можа і на зіму застацца.

Раніцай, першым рэйсам, зяць паехаў. А бульбоўнік скасіў сусед Лёня, вясковы пастух. За бутэльку віна. Скасіў, дарэчы, Марусінай касой.

Маруся ж чакае цяпер зяця капаць бульбу...

## ХАТКІ

У Зарэччы з двух бакоў абступаюць вясковую вулку хаткі. Маленькія, несамавітыя з выгляду. Побач з новымі дамамі яны – што неба і зямля. Але хаткі стаяць. Хоць сёння ўжо, як некалі, не цягнецца з комінаў тонкай павуцінай дым, па вечарах не ўспыхваюць шыбкі святлом.

Згарэла ў час апошняй вайны Зарэчча. Калі раён быў вызвалены ад чужынцаў, вярнуліся на папялішча людзі. З чаго пачынаць жыццё? Як? Трэба, трэба адбудоўвацца, не справа ж гэта жыць пад голым небам, хоць і цёплае яно, мірнае, ціхае.

– Мне, суседзечкі, вяліка хатка не трэба, – крадком змахваючы слязінкі з твару, роспачна мовіла тады Маруся. – З адным акном мне хопіць. Няма каму ў тыя вокны глядзець... Толькі каб яно на дарогу выходзіла. Пахавальная была, што Пятро загінуў пад Варшавай, але не забароніш сабе глядзець на дарогу – а раптам пакажацца ён на ёй? Былі ж выпадкі... Вось... Ну, а дзетак, самі ведаеце, завесці не паспелі...

Дапамаглі адбудавацца Марусі вяскоўцы. Потым дапамаглі Варцы, Лёксе, Акуліне...

Стаяць і сёння гэтыя хаткі.

Сіратліва стаяць. Адны. А вокны ўсё глядзяць і глядзяць на дарогу...

Бы некалі Маруся, Варка, Лёкса, Акуліна...

## ПАН НАЧАЛЬНІК

Марыя Пятроўна чытае ўнуку казку. У казцы змагаюцца, апантана скубуцца за свае нябачныя чубы дабро і злосць. Як і ў жыцці. Жанчына яна абаяльная, прыветная: госці калі якія надарацца, не ведае, куды іх пасадзіць, бегае, мітусіцца, а сама ззяпалае ўся. Ад радасці. Але і прынцыповая Марыя Пятроўна, бывае, што і паказвае характар. Дакладней сказаць – паказвала, калі рабіла. Цяпер яна сама сабе гаспадыня, пан начальнік. У доме поўны парадак. Не крытыкнеш сябе: няма за што. Унук таксама хлапчанё паслухмянае. Толькі казкамі забаўляй. Любіць слухаць. Яно і добра: хоць сама гэтых казак начытаешся пад старасць, разважае Марыя Пятроўна, бо сваіх калі гадавала – не да іх, казак, было.

– Бабуля, а чаму цябе не пускаюць больш на завод?– унуку, відаць, іншы раз усё ж надакучваюць казкі, тады ён узнімае на старую зацікаўленыя вочы.

– Прагналі, – шчыра прызнаецца Марыя Пятроўна. – Яны могуць. Ім толькі дай... Ага. Слухай, слухай казку. «І тады воўк ашчэрыў зубы...»

– Страшна-а! – унук моршчыцца, заплюшчвае вочы, тупае нагамі.

Перапынак. Пара абедаць. Марыя Пятроўна моўчкі есці, крадком пазглядае на ўнука. «Бач ты, жэўжык: бабуля, а чаму цябе не

пускаюць на завод? Эх, унучак, на сходах каб менш твая баба языком мянціла... А то возьме і крытыкне каго трэба,не зважаючы на аўтарытэты і пасады». Скажа – і сядзе. На яе спярша ўвагі не звярталі. «Прыбіральшчыца, што з яе возьмеш! » Венік, швабра, ануча, вядро – увесь яе інструмент, увесь арсенал. Няхай пагаворыць. Няхай прагучыць «голас з мас». Ды нядоўга так думалі. І не ўсе. Кагосьці Марыя Пятроўна дужа балюча кранала сваімі слоўцамі. Таму і адбыўся стрэл з-за вугла: варта было старой пайсці ў чарговы водпуск, як адразу ж з'явіўся загад аб яе звальненні – пара на заслужаны адпачынак, хопіць нам тут пенсіянераў эксплуатаваць. Была б, як кажуць, прычына...

Вельмі пакрыўдзілася Марыя Пятроўна, калі даведалася, як з ёй несправядліва паступілі. Аднак выгляду не паказвала – старалася трымацца горда: на адпачынак дык на адпачынак. Няхай будзе павашаму. Жывіце спакойна. Працуйце. Будуйце катэджы і надалей за крадзеныя грошы. Разводзьце гарэмы.

І чытае цяпер Марыя Пятроўна аб'яўку ў мясцовай газетцы: патрабуецца прыбіральшчыца. На яе, значыць, месца. Нешта доўга шукаюць... У той аб'яўцы, дарэчы, не пішуць: пенсіянерам не звяртацца. А пакуль самі супрацоўнікі, даходзяць чуткі да старой, мыюць і падмятаюць. Прыдзірліва, асцярожна падбіраюць новую Марыю Пятроўну – такую, вядома, каб на трыбуну не лезла, а наводзіла парадак, дзе трэба. Ну,ну.

– Бабуля, а за што цябе прагналі з работы? – зноў глядзіць на Марыю Пятроўну унук.

– За язык! – вырываецца ў старой і яна гучна смяецца.

Падтрымлівае смех і ўнук. Ім хораша удвух.

## МАЛАДЫЯ

Ці мала з-за чаго маглі пасварыцца маладыя муж і жонка Аленчыкі. Надзьмуліся. Не размаўляюць. А назаўтра ж дамовіліся пайсці ў лес па грыбы. Прачнуліся яны амаль адначасова – спалі ж, вядома, на розных ложках. Пятро паставіў чайнік на пліту, пачаў галіцца. Валянціна таксама моўчкі зрабіла бутэрброды, унесла з кладоўкі боты – дзве пары.

– Чай піць будзеш?– асцярожна спытаў муж.

– Буду,– адказала ціха, асабліва не падкрэсліваючы прымірэння, жонка.

Пілі чай моўчкі. Моўчкі сабраліся ў лес. У дызелі больш глядзелі ў акно.

Неўзабаве лес праглынуў іх абаіх. Першы паклікаў муж:

– Валя-я!

Яна адказала:

– Я тут.

Потым паклікала яна:

– Пеця-я!

А потым толькі і было чуваць: «Валя-я!», «Пеця-я!» Ды так часта, што ўжо і рэдкія грыбнікі пачалі здзіўляцца: чаго гэта яны, як маленькія?

## НЯЎДАЛАЯ НАЗВА

Адзін даволі масціты ўкраінскі драматург ніколі раней не пагаджаўся мяняць назвы сваіх п'ес, хоць іншы раз і трэба было. Якую сам прыдумаў – і кропка, дарэмна пераконваць яго. А творы пісаў выдатныя. Іншаму б такому непаслухмянаму драматургу проста адмовілі ў тэатры, а з ім лічыліся: класік. Пакуль, нарэшцe, сам не ўцяміў, што незаўсёды трэба быць ганарліўцам, іншы раз усё ж трэба прыслухоўвацца да думкі іншых.

Напісаў ён новую п'есу, прынёс у славуты тэатр. П'есу ўхвалілі, паставілі. Спектакль атрымаўся выдатны, але гледачы наведвалі яго, як гэта ні дзіўна, слаба. Драматург захваляваўся: чаму ж так? Яму адказалі:

– Назва няўдалая – “Санітарны дзень”. Людзі думаюць, што ў тэатры і сапраўды санітарны дзень, таму і не ідуць.

## МАЦІ

Па тэлевізары паказвалі перадачу пра яе сына, і таму ў хату набіліся суседзі – хоць і ёсць тэлевізары ў кожнага, але разам куды больш цікава паглядзець пра знаёмага чалавека. Гэта ўсё адно як свята нейкае. А ў свята заўсёды хочацца быць разам.

Багата чаго расказвалі і паказвалі пра яе сына. Казалі, што ён і дэпутат добры, і міністр талковы, і нават сямейку паказалі – жонку, дзяцей.

– Як жывыя.

– Унук, Вольга, на цябе падобны, яй-бо. І крошкі падабраў.

– Кватэра дужа багатая. Ці была ты, маладзіца, у іхняй новай кватэры?

– Была, была.

– Цішэй, цішэй, бабы, давайце паслухаем… Мішка… Міхаіл Юр’евіч гаворыць… На нас, на нас глядзіць…

Калі скончылася перадача, людзі пэўны час сядзелі моўчкі. Не хацелі разыходзіцца. Усім ім здавалася, што яны яшчэ знаходзяцца ў гасцях у свайго вядомага на ўсю краіну земляка.

– Малайчына Мішка, – шчыра сказаў сусед Трафім. – Сам жа во выбіўся ў людзі. І машына ж, канешне, у яго ёсць. Службовая. Ёсць, Вольга?

– Цяжка дыхае Мішка, яшчэ горш, чым было. Астма мучыць, – уздыхнула маці і падбіла кашчавай рукой пасмачку сівенькіх валасоў пад белую хустку, якую некалі прывёз ёй у падарунак сын і якую апранае яна толькі з нагоды важнай падзеі, а па шчацэ скацілася вялікая, як гарошына, сляза…

## КАША

На Дзень Перамогі прывезлі вайскоўцы на цэнтральную плошчу горада, дзе поўным ходам ішло святкаванне, некалькі катлоў салдацкай кашы, каб байцы, як кажуць, успомнілі мінулыя дні, а людзі маладзейшыя паспыталі, якая яна ўсё ж на смак, гэтая хвалёная салдацкая каша. А каша была і сапраўды смачная. Кожны, каму даставалася парцуха, хваліў. Сяржант Міхасёнак, што лічыўся ледзь не самым галоўным начальнікам над катламі, быў задаволены не менш, чым і повар Шалабод, які толькі паспяваў чэрпаць варыва і пюхаць у міску.

Сяржант жа тым часам пазнаёміўся з дзяўчатамі, яны стаялі непадалёку, смяяліся, размаўлялі. Потым Міхасёнак падышоў да повара, падаў знак, каб той нахіліўся, і шапнуў на вуха:

– Кладзі меней. Меней кладзі, а то хутка каша кончыцца і давядзецца ў часць ехаць. А я тут і для цябе прыгажуню прыгледзеў, – і ён кіўнуў у бок дзяўчат.

– Зразумела! – засвяціўся твар у повара Шалабода.

Амаль адразу ж пасля сяржанта да повара заглянуў капітан Парахнюк, ён нервова паглядзеў на гадзіннік, зазірнуў у кацёл і сказаў гучна, каб усе чулі:

– Кладзі, радавы Шалабод, пабольш… чэрпай, чэрпай … каб не падумалі людзі, што мы для іх кашы пашкадавалі!

**КРАМНІК**

Ягора жонка прызначыла на адказны пост: быць крамнікам. Хоць адукацыя ў яго не гандлёвая, а калгасная, з новай пасадай Ягор спраўляўся адмыслова. Ён зранку сядаў на лаўцы перад кветнікам, даставаў кісет з тытунём і пакуль вярцеў самакрутку, падыходзілі пакупнікі – вядомыя на ўсю вёску і далей яе супервыпівохі: Капялюш, Якут і Смык. Хто-небудзь адзін з іх падаваў Ягору пакамечаныя грошы, той моўчкі шоргаў у хату, мяняў грошы на бутэльку самагону і, паказаўшыся на ганку, выпрамляў твары ў мужчын: дала! А чаму не даць, калі гандаль быў пастаўлены шырока.

Атрымаўшы жаданае, мужчыны адыходзілі, іншы раз, праўда, распівалі тут жа, на лаўцы з мурзатай Ягоравай шклянкі. Тады даставалася порцыя і крамніку. Прапусцяць, памаўчаць... і калі самагон падштурхне да размоў, то адвядуць душу. Успомняць, хто колькі выпіў учора і дзе, як служалі ў арміі і латашылі сады ў суседзяў, калі былі малымі.

Калі няма грошай, мужчыны ўсё роўна прыходзяць да крамніка.

Тут, каля яго, цэнтр жыцця. Штаб. Тут гарэлка бліжэй, чым у якім іншым месцы, і трэба трымацца крамніка і ягонай лаўкі. Ды і нехта можа з'явіцца за пляшкай, тады яны – багатырскай тройкай! – пусцяцца ў атаку на яго з усіх бакоў і флангаў. Калі Капялюш, Якут і Смык разам атакуюць, ды яшчэ на пахмелле, перад імі не ўстаіць ніхто.

У той дзень таксама ні ў каго грошай не было. Ягор доўга сядзеў на лаўцы, ажно шыя пачала, здавалася, парыпваць – выглядаў ўсё па баках, ці не ідзе хто. І тут нарадзілася ў яго ідэя... Каб ажыццявіць сваю задумку, заставалася дачакацца каго-небудзь, а пасля непрыкметна сцібрыць пад сянніком пучок грошай, якія запіхвае туды жонка за выручаны самагон.

Палова аперацыі была праведзена паспяхова – во яны, грошы! – а там і Капялюш звесіў хворую, відаць, галаву з акна – жыве насупраць. Ягор паманіў яго пальцам, усім сваім выглядам паказваючы, што ёсць важная справа. Капялюш і рад старацца: тут як тут, ажно апошнія гузікі на сарочцы зашпільваў ужо стоячы перад крамнікам.

– Скажаш, калі што, быццам ты мне грошы даў, – па-змоўніцку шапнуў Ягор, азірнуўся на вокны: на шыбцы, як нярэдка, не віднелася расплюшчанага носа жонкі.

– Ага. Даў. Зразумеў, – заківаў лахматай галавой Капялюш.

Вярнуўся Ягор з пляшкай. Жонка, бы адчуваючы няладнае, выглянула з акна, гыркнула:

– Ягор!

Ягор паказаў вачамі на Капялюша, той добра ўжыўся ў ролю пакупніка, пацвердзіў, што поіць ён, а заадно паабяцаў, паколькі крамнік на сваім працоўным месцы, то багата не атрымае, дулю яму, нальe ўсяго нічога...

Потым бегаў Ягор у хату яшчэ чатыры разы – «пасылалі» Якут, Смык і зноў Капялюш.

... Ягор прачнуўся ноччу. Гарэла лямпачка. Жонка сядзела за сталом і, як падалося яму, нешта штосьці і камусьці гаварыла і часта смаркалася ў фартух. Ягор навастрыў слых і так-сяк зразумеў, што яна агледзела прапажу грошай пад сяннікам і прасіла Бога, каб ён забраў да сябе на перавыхаванне п’яніцу, абібока і пустадомка Ягора. Найбольш выразна ўлавіў наступныя словы: «Больш на лаўцы яго, нягеглага, ніхто не ўбачыць. Хопіць, што два тыдні на бочцы з брагай сядзела. Зачыняю краму. З маім п’янтосам толькі дзёгцем гандляваць».

Ягор затаіўся пад коўдрай, быццам мыш пад венікам.

Яму шкада было губляць сваю «пасаду»...

## НЕВЯСКОВАЯ ХВАРОБА

Хвядос часта трапляе ў пульманалогію: астма. Навучаны ўжо: як толькі прыцісне хоць трохі, перастаюць рабіць сваю справу пілюлькі і інгалятары, стары збірае торбачку і шоргае на аўтобусны прыпынак. У аддзяленні дзядзьку ведаюць, ён тут свой чалавек, таму заплюшчваюць іншы раз вочы на тое, што не мае на руках накіравання з участковай бальніцы, толькі папярэдзяць: «Наступны раз, Хвядос Сяргеевіч, бярыце накіраванне. Абавязкова. Забаронена нам без яго прымаць хворых. Рызыкуем».

Хвядос абяцае, што такое больш не паўторыцца, здабудзе, а як жа, перш чым ехаць, тую паперку. Толькі, праўда, скажа:

– Хоць ты яго, накіраванне, загадзя бяры. Калі здаровы. Хай будзе заўсёды ў хаце. Як соль. Прыхапіла – за яго ды і на аўтобус. Калі ж, доктар, як прыцісне, то свет белы нялюбы... жыць не хочацца. Да бальніцы тры кіламетры. А які ж я хадок з астмай? Пшык, а не чалавек. Хоць бы да аўтобуса даклыпаць...

Пасля кропельніцы Хвядос ачуняе, будзе часта развязваць свой вузельчык з ежай, раскладзе на тумбачцы сала, яйкі, памідоры... і сам

сабе ўсміхнецца: а жыць, аказваецца, і добра! Суседзям па палаце іншы раз паскардзіцца:

– Бранхіяльная астма, ядры яе ў корань,– невясковая хвароба. І касіць трэба, і бульбу капаць, і парсюка карміць... а дыху няма. Хоць плач. Гарадскім, відаць, прасцей.

Каму прасцей, каму складаней—над гэтым пытаннем яшчэ колькі дзён думае на бальнічным ложку стары, і хоць да яго прывязалася гэтая невясковая хвароба, у горадзе ён жыць не пагадзіўся б. Хвядос у гэтым перакананы, і ўсё часцей успамінае сваю Марфу, агарод, на якім шмат клопату ягоным рукам, карову Лыску, сабаку Швагера... І лічыць дні, падганяе іх: шавяліцеся, нягеглыя, мне зноў пара ў баявы строй.

А тыя дні, ліха на іх матары, цягнуцца тады задужа марудна.

Пугай бы іх!

**ВЕРА**

Жыве Вера адна, хоць ёй даўно пара б абзавесціся сямейкай: засядзелася ў дзеўках, не заўважыла, як мінулі яе дні. Сяброўкі па інтэрнацкім пакойчыку неяк непрыкметна пакінулі яе адну, забягаюць, бывае, з дзеткамі, а то і Веру да сябе запросяць – ці ж мала ў маладых прычын сабрацца за сталом? Ходзіць яна на такія мерапрыемствы ахвотна: усё ж весялей час бавіцца.

У яе, па вялікім сакрэце, нават хлопца няма. Сказаць, што непрыгожая, не скажаш: не горшая з твару, чым іншыя. Звычайная. А характар дык і зусім залаты мае. Мужыку з ёй было б светла, лёгка жыць. А, бач, не звярнулі хлопцы на Веру ўвагі. Не зачапіліся. Вера спярша перажывала, саромелася нават у вёску ехаць, бо старыя часта пыталіся, чаму яна не выходзіць замуж. Яна тады пунсавела ўся, твар запальваўся, бы лямпачка, а сэрца тахкала, нібыта там было яно не адно, а некалькі. Пацепваючы плечуком, ціха – як не кожнага разу – гаварыла бабулькам: «Не бяруць хлопцы. Не буду ж я сама ім на шыю вешацца».

А цяпер, мабыць, пра замужжа тое яна і не думае. Працуе сабе, як і раней, на заводзе чарцёжніцай у канструктарскім бюро, ходзіць у тэатр. Першы раз з неахвотай, ад няма чаго рабіць, ішла на спектакль, а паглядзела тады камедыю пра вясковае жыццё, і ўжо не можа, каб не пайсці на чарговую прэм’еру: моцна палюбіла Вера гэтае жывое мастацтва. Хоць тут ёй пашанцавала...

Вярнуўшыся ж у свой цесны, але ўтульны, светленькі заўсёды прыбраны пакойчык, Вера адразу ж усміхаецца лялькам (іх шмат у яе, кожная мае сваё імя), а потым размаўляе з імі, бы з дзецьмі.

Потым пахваліцца лялькам, што і як у яе на рабоце. І пакладзе іх спаць. Адразу пасля «Калыханкі». Ціха, пяшчотна скажа:

– Спакойнай ночы, родненькія! Я таксама спаць буду. Заўтра мне ўставаць рана. Хто першы засне, таму чараўнік багата цукерак прынясе. Спіце, спіце... Баю-баю... Спіце... Вы малайцы ў мяне... Вы самыя лепшыя...

І асцярожна пакладзе каля кожнай лялькі па старой, цвёрдай, як каменчык, цукерцы.

**МУХА**

Калі раней я заходзіў у драмтэатр праз службовы ход, то ў катушку, якраз насупраць дзяжурнага, вастрыў на мяне вушы сабака бурай масці, насцярожана падкрадаўся да няпрошанага госця, шчэрыў зубы. Выручаў дзяжурны, падаваў голас:

– Муха, свае! Нельга!

Муха не адразу верыла, што ўваходзяць свае. Таму абнюхівала: не наш, хлусіш, тэатрам ад гэтага дзяцькі нават і не пахне. Але слухалася гаспадара, ішла ў куток і ўжо адтуль насцярожана сачыла за кожным маім рухам.

Пазней у мяне з тэатрам завязалася творчая праца, пачаліся рэпетыцыі маёй п’есы, і я усё часцей сустракаўся з Мухай. Нават, калі нарадзіліся ў яе шчанкі, яна не гырчэла ў мой бок, але да канца, адчуваў, усё роўна не прызнавала

Іншы раз мы забываем, што і сабакі жывуць не вечна. Зусім нядаўна я зноў завітаў у тэатр. Ледзьве пераступіўшы парог, глянуў у куток, дзе спадзяваўся ўбачыць Муху, аднак яе там не было. Не было і шчанюкоў.

– А дзе ж Муха?

– Памёрла, – ціха сказаў дзяжурны. – А шчанюкоў разабралі.

Можа, пра Муху і ўспамінаць няварта было б, але была ў яе адна асаблівасць, якая заслугоўвае ўвагі. Муха прапускала ў тэатр і выпускала назад толькі людзей тэатра – няхай яны прыехалі з Бранска альбо Житоміра. Для іх быў уваход заўсёды свабодны. Пропуск не патрабаваўся. Усе астатнія выклікалі ў яе звычайнае сабачае падазрэнне і недавер. Як і чаму яна дзяліла людзей на тэатральных і не – Муха ведала, і толькі яна адна.

Пасля таго, як мая п’еса была пастаўлена на сцэне, Муха і зусім, здавалася, не глядзела ў мой бок. Яна, відаць, па крохах вызначала: наш.

## СЯМЕЙНЫ ЭЦЮД

Таццяна паклікала Сяргея абедаць. Муж адклаў газету, якую чытаў у зале на канапе, і пашоргаў на кухню, дзе на стале дыміўся боршч.

– Пах які! – заплюшчыў ад задавальнення вочы Сяргей. – Смакоцце, відаць!

Ён узяў лыжку, паглядзеў на жонку, якая з дакорамківала яму:

– Ты чаго? Сядай, еш!

Нарэшце Таццяна, глыбока ўздыхнуўшы, сказала:

– Зноў ты без майкі, сарочкі! Ты мяне паважаеш?

– Ды кінь ты! Канешне, паважаю. Цёпла ж!

– Прабач, але ты не сочыш за сабой. Не здзіўлюся, калі і пры гасцях ты сядзеш за стол з голым торсам.

– Не звяртай увагі. А боршч, між, іншым, калее.

Таццяна нічога не сказала, моўчкі пайшла з кухні.

– Ты што, можа пакрыўдзілася? – падняў галаву Сяргей на дзверы, у якіх мільганула постаць жонкі, паціснуў плячыма. – Дзівачка! Было б з чаго.

Сяргей сёрбаў варыва, не адрываючыся ад талеркі. Калі падняў, нарэшце, вочы, убачыў жонку, якая сядзела насупраць... і таксама голая да пояса. Ён папярхнуўся.

– І ты... таксама?

– І я. Чаму табе можна, а мне не?

Больш Сяргей у такім выглядзе за стол не сядаў. І Таццяна., вядома ж.

## СКЛЕП

Мікола настрыг ў лесе кошык грыбоў і пачаў выбірацца на дарогу. Блукаў доўга, але выйсці на яе не мог – заблудзіўся. Нарэшце прытупаў у незнаёмую вёску, зазірнуў на падворак крайняй хаты. Павітаўся з гаспадаром – ён вастрыў сякеру на дрывотні, папрасіў папіць халоднай вады. Дзядзька кіўнуў і схаваўся на агародзе. Неўзабаве ён нёс у выстаўленай наперад руцэ коўшык.

– Пі на здароўе, – сказаў.

– Во, дзякуй, – адказаў на клопат пра сябе Мікола і пачаў піць, але адразу ж здзіўлена глянуў на гаспадара. – Што… гэта?

– Бярозавік.

– З градусам?

– Трохі капнуў.

– Нічога сабе, трохі!

– Дапівай, а калі мала, яшчэ дабаўлю.

Калі скончылася пітво, селі на лаўку перакурыць. Пыхкалі дымком, гаманілі. Гаспадар быў пенсіянерам, увесь час рабіў на трактары. Мікола расказаў, што ён журналіст і паэт, сам рускі, але жыве ў Гомелі.

– Пайшлі, пакажу, які ў мяне склеп, – прапанаваў гаспадар

– Ну, пайшлі…

На агародзе спыніліся каля невялічкай драўлянай накрыўкі з дошак, што ляжала прама на траве. Гаспадар яе акуратна адсунуў, і на госця чорным вокам глянуў склеп.

– Што, склеп такі? – здзівіўся Мікола.

– Ага. Залазь, паглядзі, што там у мяне.

– Я ж таўстун – не пралезу…

Гаспадар зарагатаў, а потым прызнаўся:

– І жонка ж у мяне габарытная. Вось я і зрабіў вузкі пралаз, каб яна не змагла ў мой склеп забрацца… А то залезе, хіба ж я сваю бабу не ведаю, і ўвесь мой бярозавік з градусам адным махам вып’е. Ды каб жа праўда выпіла – хіба ж шкада? На здароўе. А то прадукт перавядзе. Праходзіць, патупае, пазлуецца яна каля майго склепа ды і пойдзе прэч. А я, бывае, там і сплю, у склепе, улетку, калі спякотна. Там я тапчанчык змайстраваў. Ёсць што выпіць і чым закусіць у маім склепе. Але што там ёсць – пра гэта мая баба не ведае. Здагадваецца толькі. Калі хочаш, кажу, глянуць, што ў мяне там, то залазь…

Развіталіся цёпла. Мікола патупаў у цэнтр вёскі, дзе павінен быў спыніцца рэйсавы аўтобус, а гаспадар пастаяў яшчэ трохі на вуліцы, гледзячы ўслед госцю, і падаўся на свой падворак. Вастрыў жа сякеру, то, мабыць, будзе нешта рабіць…

## ТОРТ

З заработнай платы Хмукін купіў торт, добры па сённяшніх цэнах, даволі танны. Ён нёс дадому торт і злёгку хістаўся: перад тым, як зайсці ў гастраном, Хмукін заглянуў з сябрам ў кафэ-бар. Рашылі прапусціць па чарцы. Прапусцілі. Пасядзелі. Пагаманілі. Нехта

прапанаваў паўтарыць – усе пагадзіліся, на стол леглі «ваўкі», «мядзведзі», «ласі»... іх згроб шырокай рабочай далонню сам Хмукін, вярнуўся да стала з бутэлькай. Зноў выпілі, зноў пагаманілі. Потым усё паўтарылася. Скінуліся – купілі, выпілі...

Хмукін нёс торт і ўяўляў, як абрадуюцца ягонай пакупцы жонка і пяцігадовы сын Лёшка.

Перад пад'ездам на лаўцы (карціна знаёмая для гараджан) Сядзелі бабулькі, вялі дыялог пра жыццё-быццё, праводзілі дапытлівымі позіркамі кожнага, хто заходзіў-выходзіў, давалі яму кароткую, а то і даволі разгорнутую характарыстыку – гледзячы на каго які мелі кампрамат або станоўчыя звесткі. Патрапіў на іх вочы і Хмукін. Павітаўся. Нават выдаў не дужа каб трапны жарт бабулькам, трасянуў у паветры тортам: маўляў, і мы не адны сухары трушчым, бываюць і на нашай вуліцы святы. І патупаў далей, да сябе.

Бабулькі, як адна, пахіталі ўслед Хмукіну сівенькімі галовамі: ці абрадуюцца ж гэтаму торту дома?

## АДПОМСЦІЎ

Лявон даўно меў зуб на Пятра – з таго часу, калі апошні абяцаў вярнуць доўг, аднак і сёння аддае грошы. «Дык... гэта... жонка апярэдзіла... не паспеў замыліць... ета самае...» Калі ж пазычаў, то кляўся, што аддасць з першай палучкі. А ўжо, мусіць, пятая была. Шчыра прызнацца, дык Лявон зусім страціў надзею атрымаць свае законныя пятнаццаць тысяч рублёў. «Што з п'янтоса возьмеш? Каб жа хоць ён мне аднаму быў павінен».

Аднаго разу Лявону падвярнулася думка адпомсціць Пятру. Пазней ён ужо ведаў, як зрабіць гэта. «Пятро клюне».

Сустрэліся яны каля калодзежа.

– Ну, як пажываеш, сусед? – быццам бы незнарок, пацікавіўся Лявон.

– Якое тут жыццё-ё! – махнуў рукой Пятро. – Ні выпіць, ні... Так, адны мучэнні. А тут жонка скубе: зарплату затрымліваюць у калгасе, а ёй каб кожны дзень грошы прыносіў

– Сапраўды, дрэнь дзялы, – паспачуваў Лявон з прыхаванай іроніяй. – А людзі ж неяк во круцяцца. На легкавушках ездзяць. Катэджы пад аблокі фугуюць.

– То ж людзі... – яшчэ больш роспачна ўздыхнуў Пятро, выліваючы ваду з цэбра ў вядзерца. – Умеюць жа неяк.

– Умеюць. Гэта ты праўду кажаш. Учора быў у Гомелі, дык на вакзале ходзяць патлатыя хлопцы, ледзь не пад самы нос сунуць кардонкі, на якіх напісана: «Куплю чорныя грузды».

Пятро, пачуўшы такую навіну, ледзь не выпусціў з рук вядзерца, а перад вачмі замітусіліся чорныя грузды, якіх кожны год процьма ў лесе:

– Што – праўда?!

– Што вычытаў, пра тое і гутару, – спакойна трымаўся Лявон – Я яшчэ перапытаў, бо не кожны раз веру напісанаму. Мо, думаю, лісічкі. Не,кажа, і грузды. Лісічак няма – усе павыдралі. Капіталісты, бач ты іх, нешта і ў груздах знайшлі. А мы топчам. Бяром, кажа, прывозь, дзед, хоць пяць тон купім. Адразу разлік.

– І па колькі ж за кіло? – не цярпелася Пятру.

– Таксама пацікавіўся, а як жа. Па пяць тысяч.

– Ё маё! Дык гэта ж жывыя грошы! – разявіў рот Пятро, пашкроб кручкаватым пальцам за вухам.

– А я пра што? Жывыя. Ды і груздоў жа – хоць касу закладывай. Думаю вось пару кашоў адвезці. Для пачатку.

– Калі?

– Бульбу дакапаю – і махну.

– А я і заўтра магу, – Пятро ажно ўспацеў ад пачутай навіны. – Усю дакапаў. Заўтра і махну. Хоць даўгі аддам. А то, сусед, сорамна... не ты верыш, сорамна бывае, калі вось сустрэну чалавека, у якога пазычаў. А мая... ага... усю палучку замыліць, а на мае даўгі – дулю: калі пазычаў, чым думаў, ёлупень? Паглядзім, хто ёлупень, Маруся. Паглядзім. Я пабег. Во аднясу ваду – і ў лес. Няма калі балаболіць.

... З Гомеля Пятро вярнуўся злосны, але без груздоў – недзе, відаць, пазбавіўся ад іх у горадзе, а мо высыпаў з акна дызеля. Ён адразу ж стрэліў кароткім і абуральным позіркам на Лявонавы вокны, шпурнуў на падворак парожнюю брызентавую сумку, а сам, сатрасаючы паветра кулакамі, пакіраваў да Лявона. Лявон жа на ўсялякі выпадак загадзя падпёр вароты, таму спакойна назіраў за раз’юшаным суседам-даўжнікам і ўволю смяяўся. Настрой быў у яго такі, усё роўна як Пятро вярнуў яму доўг.

## САБРАНЫЯ ЯГАДЫ

У паштовай скрынцы Іван Валькоўскі, карэспандэнт абласной газеты, узяў, вяртаючыся пасля працы дахаты, пісьмо ад былога

настаўніка Цімошыка. Настаўнік-пенсіянер паведамляў, што дужа багата сёлета ў лесе чарніц, прасіў, калі ёсць час, каб прыехаў.

І Валькоўскі паехаў. Цімошык сустрэў яго прыветна, цёпла, доўга трос руку – было відаць, што ён па-чалавечы рады прыезду свайго былога вучня, якім вельмі ганарыўся, бо часта чытаў допісы ў газеце, хваліў Валькоўскага за светлыя думкі і лёгкае слова.

Перакусілі, пагаманілі крыху і адразу падаліся ў лес. Ягад сапраўды было багата – ажно ўсыпаны куцыя галінкі чорнымі гузікамі-гарошынамі. І толькі тут, у лесе, Валькоўскі заўважыў, што Цімошык прытупаў без посуду, ён хадзіў услед за ім, нешта расказваў і ніводнага разу нават не нахіліўся долу.

А пазней, ужо вяртаючыся з лесу, настаўнік-пенсіянер казаў:

– Я свае ягады ўжо сабраў, Іване. Не бачу іх – вочы зусім не слухаюцца. Старасць, хе-хе, – не радасць. А вось люблю, калі людзі ягады збіраюць. Дужа люблю. Дзякуй і табе, што прыехаў.

Валькоўскаму ж падумалася трошкі і пра іншае: хітруе Цімошак, светлая галава. Хітруе. Сумна аднаму на хутары, то вось і выклікаў яго, каб пагаварыць, каб душу адвесці...

І яму тады зрабілася надта шкада былога настаўніка.

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Васіль Юр’евіч Ткачоў нарадзіўся 1.1.1948 г. у вёсцы Гута Рагачоўскага раёна.

З першага па восьмы клас вучыўся ў Ісканскай васьмігадовай школе Быхаўскага раёна. Пасля заканчэння Ільічоўскай СШ Рагачоўскага раёна (1966) працаваў у раённых газетах (г.Івацэвічы, г.п. Карма). У 1967 г. прызваны ў Савецкую Армію. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1973). Служыў ваенным карэспандэнтам у Сярэдняй Азіі. З 1980 года жыве і працуе ў Гомелі: карэспандэнт шматтыражкі «Сельмашавец», стыліст і спецыяльны карэспандэнт абласной газеты «Гомельская праўда», у 1989-2005 г.г. старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза Беларускіх пісьменнікаў.

З 1989 г. член Саюза пісьменнікаў СССР і БССР. Цяпер член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Удзельнічаў у рабоце IX з’езда Саюза пісьменнікаў СССР (Масква, 1992).

Член Саюза тэатральных дзеячаў (2006).

Лаўрэат прэміі Саюза беларускіх журналістаў і міжнароднай прэміі «Дружба» за лепшы публіцыстычны твор ( нарыс «Сонцам хлеб на стале»). Пераможца літаратурнага конкурсу часопіса «Вясёлка» на лепшае апавяданне. П’еса «Стары і дарога» адзначана першай прэміяй на Рэспубліканскім конкурсе ў 1985 г. Прымаў удзел ва ўсесаюзных нарадах драматургаў у Піцундзе, Рузе і Дубултах.

Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў у галіне літаратуры за кнігу “Снукер” (2011), лаўрэат прэміі імя Васіля Віткі і расійскай імя Баяна. З’яўляецца таксама лаўрэатам абласных прэмій імя М.Доўнар-Запольскага і А.Капусціна.

Першае апавяданне надрукаваў у 1966 г. ( часопіс «Вясёлка»). Выдадзены кнігі для дзяцей «Хітры Данік» ( 1975), «Партрэт салдата» (1984), «Вятрак птушка вольная» (2003), «Незвычайны дыктант» (2004), для дарослых – «Дзень у горадзе» ( 1985), «Мой рай зямны» (1997), «Тратнік» ( 2002), “Снукер” (2009), кніга публіцыстыкі «Пахвалі пражыты дзень» ( 1988), кнігі гумару «Смех на прызбе» (1995), «Карасі на пяску» (1977), «Крутыя хлопцы» (2001) і кніга гумару на трох мовах “Булочка” (2011), а таксама зборнікі п’ес «Сівы бусел» ( 1996), «Непаразуменні» (1997), «Кто-то ходит за окном...» (2003), “Мая жонка хоча замуж”, “Жаночы вулей” і “Цветы и тайная любовь Макизара” (2009). Выдаў кнігу нарысаў «Вячыстыя лясы Гомельшчыны» (2005).

Аўтар п’ес «Сівы бусел» (пастаўлена ў 1985), «Вокны» (1985), «Прыгоды з Канапухіным» (1988), «Кветкі-ягадкі» («Курорт для зяця») (1990), «Усміхаўся месяц белай вішні» (1996), «Шкірдзюкі займаюць абарону» ( 1996), «Перапалох» ( 2004), «Нехта ходзіць за акном…» (2006), “Бліндаж” (2009); п’ес-казак «Два мяхі цукерак» (2005), «Вушасцік» (2006), «Дзе жыве Некукарэка» (2007), “Непаслухмяная запалка” (2008), “Новыя прыгоды непаслухмянай запалкі” (2009), “Аднойчы ў гарачым лесе” (2009), “Як воўк мамай быў” (2011) “Чарадзйны рукзачок” (2012), “Заяц-Гром” (2012), “Некалючык”(2012); тэлеп’ес «Добрае стаўленне да сабакі» ( 1996) і «Следчы экперымент ( 1999).

У народных тэатрах краіны пастаўлены спектаклі па п’есах «Лесвіца», “Жаночы вулей”, «Кветкі і тайнае каханне Макізара», «Дублёр», «Курорт для зяця», «Банкамат», “Гомельскія байкі”і многія іншыя.

Аўтар радыёпспектакляў «Стары і дарога» (1995) і «Ігнатаў рубеж» (2006).

Пераклаў на беларускую мову п’есы «Маскоўскі хор» Л. Петрушэўскай (1989 ), С.Злотнікава «Сцэны каля фантана» (1990) і казку Л.Усцінава «Старамодныя цуды» (2003). Усе гэтыя п’есы пастаўлены ў НАДТ імя Я.Коласа.

Укладальнік і рэдактар шматлікіх калектыўных літаратурна-мастацкіх зборнікаў, у тым ліку «Настрой», «Вуліца Настаўніцкая», «Магістраль», «Пад небам Палесся» і іншых.

Творы пісьменніка перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, туркменскую, удмурцкую і марыйскую мовы.

Асобныя апавяданні ўключаны ў чытанкі для вучняў малодшых класаў.

Член рэдкалегіі часопіса “Вожык”.

Узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь (2007).

Узнагароджаны медалём Саюза пісьменнікаў Беларусі “За вялікі ўклад у літаратуру” (2012).

2013 г.

# Змест

Месца выхаду: Мінск
Дата выхаду: 2013
Рэдактар А.Зэкаў
Выдавецтва “Мастацкая літаратура”
Памеры: 384 с.